№2 (81)
/сакавік-красавік/ 2016

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Фелікс Баторын



...я сёння свабодны –
і гэта нямала...

# Перакулены свет

* * *

Баліць пагляд, убіты ў вочы змрокам
Па корань самы ўражанай душы,
І волатам бяда, раскоша цмокам,
А розум – як у дыме анашы.

Смялеюць ліхадзеі, слепнуць сведкі,
Нябачны, вольна поўзае слімак.
Запалкамі шукаю кноту свечкі,
Ды іх штораз задзьмухвае скразняк.

* * *

Удыхну паўпрасторы за ўздых,
Разаб'ю згледзяненне наўзмах,
Да грудзей прыхіну несвятых,
Занядбаных у жоўтых дамах.

І зярняты святла прарашчу
Я ў раллі, недаступнай кратам,
І бяскрылых ляцець не пушчу,
І бяскрыўдных пакрыўдзіць не дам.

* * *

Жывем парой на два дамы.
Жывем парой на два народы.
Не можам раздваіцца мы,
Ў сабе злучыўшы дзве прыроды.

Нажыўшы ворагаў з сяброў,
Мы на сябе ж стаўляем пасткі.
Паўсюль таму ліецца кроў,
Што свет не дзеліцца на часткі.

* * *

Вы бачылі, як шчэрыць зубы злосць
І вочы наліваюцца крывёю,
І ўспыхвае ў іх ззянне нажавое,
І воўчая ўздымае шапку поўсць?

З якой бярэцца дзікае глушы,
З якой нары, з якога сутарэння
Той нелюдзь, што ў хвіліну азвярэння
Вылазіць з чалавечае душы?

Але куды страшней, калі спакой
Не торгне ні цягліцаю на твары,
А галава тым часам у ахвяры
Адцятая нядрогкаю рукой.

* * *

Неспрыяльнымі лёс наш мы мерым эпохамі,
І спагады мы шчырай нідзе не знайшлі.
Хоць адрэж ты свой край, як акраец ад бохана,
Ад агорклай ацеслівай, чэрствай зямлі.

Прачынаецца ў нас то Машэка, то Несцерка,
І люстэрка нам страшна, як дзеўцы рабой.
У сусвеце такога не знойдзецца месцейка,
Дзе б маглі мы нарэшце зрабіцца сабой.

* * *

Кроплі падаюць з карнізу
Ўніз
У тры тысячы вялізных
Міс.
Сны блукаюць па пакоі
Безгалосай талакою.
А ў люстэрку што такое?
Твар без рыс?

Хоча вырвацца з грудзей
Крык,
Каб той страшны твар з вачэй
Знік.
Ды з грудзей, як з камяніцы,
Ані гуку не прабіцца.
Рву гаплік.

Думак роспачных кіпіць
Вар:
Дзе і як я мог згубіць
Твар?
Дзе і як я праўдзе здрадзіў
І навек праз тое страціў
Божы дар?

Кроплі падаюць з карнізу
Ўніз
У тры тысячы вялізных міс.
Сон мінуў. Але застаўся,
Не расцёкся, не распаўся
Твар без рыс...

* * *

Дом наш знесены даўно.
Я пастукаю ў вакно.
Бразне клямка, рыпнуць дзверы.
Печка. Лямпачка. Шпалеры.

Я, павесіўшы на цвік,
Нібы шапку, маладзік,
На бабулін сяду куфар.
Зоркі ўсыплю ў чай, як цукар.

Сіні кубак пазнаю́.
Не спяшаючыся п’ю
Чай густы з духмянай мятай.
Мне дае пячэнне тата.

У пячэнні – зорны мак.
Непаўторны, дзіўны смак.
Падае мне мама слоік:
– З’еш вішнёвага, саколік...

Дом наш знесены стаіць.
Сэрца сцятае баліць.
І на боль шчымлівы гэткі
Не прыдумана таблеткі.

* * *

Нашто мне вечнасць? Мне не ахапіць
Яе бязмежжа вокам, што не нова.
Да дна не выпіць, але можна піць
Напой жыцця мядова-палыновы.

* * *

А найлягчэйшы снег не падаў,
Але ўзлятаў, адно ўзлятаў
Да Панны, Лебедзя, Пляядаў –
І небасхіл сумётам стаў.

А мы пратоптвалі сцяжынкі,
І зразумець ніхто не мог,
Дзе нараджаліся сняжынкі,
Што выляталі ў нас з-пад ног.

* * *

Жывымі не кладуцца ў сырадол,
Жывыя ў нос кашчавай сунуць дулі,
І нат сівы і кволенькі дзядуля
Не-не й зірне бабулі пад падол.

Жывым – жывое. Так заўжды было.
Прыўкраснае жыццё ва ўсіх праявах,
Чаго б там цынік не бубніў гугнявы,
Па-мудрацоўску моршчачы чало.

* * *

І блазен, і трагік у кожным з нас, грэшных, жыве.
Пры гэтым душа ў нас адна, ды і долі не дзве.
Хапаем, хапаем, а ўсё не хапае чагось.
А ў брычцы жыцця расхістанай знасілася вось.

* * *

Усё бялее ветразь адзінокі,
Спрачаюцца дзве сіні прад вачмі.
А шум прыбою заглушае крокі
Анёлаў, вырачоных быць людзьмі.

* * *

Бегма мокрыя штыкецiны
Незнарок палой сушу.
Безліч градзін зрыкашэціла
Мне ў мінулым у душу.

Так што гэтыя, падталыя,
Выклікаюць толькі смех.
Прабягаю паўз парталы я:
Ні брыля нідзе на грэх!

Слепаватыя ваконцы ўсе,
Як заўсёды – у жыцці.
Толькі град у хмары скончыўся,
Змог я сховішча знайсці...

## ***КВАС***

Халаднаваты хмельнапахкі квас.
Пластмасава ўгінаецца бутэлька,
І дзеўчанё з нячастым імем Фэлька
Павольнымі глыткамі цягне час.

“Шчаслівая!” – стрымаў я ледзьве ўздых:
Наперадзе ў яе амаль што вечнасць.
Ёй невядома тая недарэчнасць,
Што век мінае за кароткі міг.

* * *

Скача конь па поплаве,
Мокра гасне стук.
У туманным покрыве
Месяц – срэбны сук.

На яго павешу я
Пастуховы плашч
І падпаска ўцешу я:
– Хлопча мой, не плач!

Авалодаць пугаю
Зможаш ты ў свой час,
І цябе паслухае
Борзды конь Пегас.

## ЗАЙЗДРОСНІКІ

Пасёрбваем пракіслае віно
Бязмэтнага, як вецер, пустаслоўя,
Ані на што не здольныя даўно
Праз доўгае цяжкое малакроўе.

Перапаўзаем крушні ды лаўжы
Па слізі, што ўласцівая малюску,
І злую зайздрасць песцім у душы
Да тых усіх, хто ўмее жыць па-людску.

* * *

У змрочнасці духоўнае турмы
Ёсць рызыка памалу стаць вырадам.
Часамі мне здаецца, быццам мы
Забыліся, што значыць быць народам.

## ЖАРСНАЙ ПРЫГАЖУНІ
## Ў САМУЮ СПЯКОТУ

Пахне вецер гарачым каменнем
І прыкінуўся люстрам асфальт.
Хмыз прывялы як быццам паменеў
Паўзавялых пачуццяў накшталт.

У гарачкава-млоснай задусе,
З перапаленымі грудзьмі,
Я на палкі пагляд не вядуся:
Халадок я шукаю вачмі.

### *РАБІЦЕ, ЯК МЫ*

Мы знасіліся, сцерліся
Аб камяні і калоддзе жыцця,
Але аголеным карэннем душаў
Упарта ўпіраемся ў край яміны,
У якую штурхае нас пачварына
Непазбежнасці.
Гэй! Хто нас бачыць і чуе!
Рабіце, як мы.

* * *

Празрыстым ранкам гулкім
У холад скразняка
Скандыруе чыгунка
Паэму цягніка.

Цішэе і знікае
Апошняй рыфмы гук,
І цішу выплятае
Аранжавы павук.

### *КАРУСЕЛЬ*

Я помню парк дзяцінства. Карусель.
Я на кані. А конь бяжыць па крузе.
Як я сабою хвацкім ганаруся,
Як галаву мне кружыць дзіўны хмель!

Мінулі чарадою доўгай дні.
З галавакружным хмелем хоць і знаўся,
Я на кругі свае штораз вяртаўся
І не заўжды далёка – на кані.

Ізноў я тут. Кранае ветрык скронь.
Атракцыён мой любы захаваны.
Які маленькі і які драўляны
У гэтым карусельным крузе конь...

* * *

Пустая распрастаная шаша,
Кранутая сярэбраным дасвеццем.
Заснулы вецер сніць маўчанне веццяў,
І вымярае шлях зямны душа.

Акрыў нізіну перысты туман,
Нібы крыло пяшчотнае анёла,
А новы ранак сонечнае кола
Ужо ўскаціць гатовы на курган.

І будзе час імчацца і гусці,
І здабываць, і ўпісваць у скрыжалі,
І доўжыць лёс. І ты сябе без жалю
З абдымкаў соннай цішы адпусці.

### *СВАЕ ВЕРШЫ*

Сваіх вершаў даўнейшых чытаць не магу:
Там знаёмае ўсё – і такое чужое.
Калі ўсё ж па якімсьці радку прабягу,
Дык аб корань ці горб спатыкнуся душою.

Колькі спрахла ўва мне і ідэй, і надзей,
Колькі дзёгцю ў мядовую бочку ўлілося.
Думаў некалі я, быццам лёс – дабрадзей,
Але ж колькі іроніі жорсткай у лёсе!

Не прывыкну ніяк адгукацца, калі
Пры звароце мяне называюць дзядулем.
Пакі сілы стае мне ступаць па зямлі,
Не кішэнную лёсу я скручваю дулю.

Сваіх вершаў даўнейшых чытаць не магу,
Ды пажоўклыя кніжкі чамусь берагу.

### *У ПЕРАКУЛЕНЫМ СВЕЦЕ*

Я паблытаў “уверсе” і “ўнізе”, “раней” і “пасля”.
Я купіў сабе гальштук, а ў пушчы ляжала пятля.
Я памкнуўся ўхапіць, – праляцела ж усё міма рук,
Я гукнуў чалавека, а мне адгукнуўся пацук.
І прысеў я на столь ад такой блытаніны без сіл,
А з высокай падлогі на голаў пасыпаўся пыл.

* * *

Ты клічаш мяне да мядовай ракі.
Я ведаю, бераг там ліпкі які.
Я сёння свабодны – і гэта нямала.
Не трэба ні мёду твайго мне, ні джала!

* * *

Выйдзеш з дому ці ўзімку, ці ўлетку,
Ці вясной, ці на схіле гадоў,
І лядзяш ты сарвеш альбо кветку
Ці якісьці з даспелых пладоў.
І пад сонейкам ясным ці хмарай,
Ці апушаны лёгкім сняжком
Ты да Свіслачы прыйдзеш ці Шчары
Прагуляцца яе беражком.
Непаспешны, спакойна-шчаслівы,
Будзеш доўжыць хвіліну, як век.
Дык нашто ты – зацяты, зласлівы –
Ладзіш звады свае, чалавек?

## *ПАСАЖЫР*

На невялічкай станцыі
Заезджанай дыстанцыі
Палаюць традысканцыі
Ў дыспечарскім вакне.
Стамлёная нудотаю
Касірка яркаротая
З адкрытаю гідотаю
Білет шпурнула мне.

Ну, вось, білет і куплены.
На лавачцы аблупленай
Сяджу, як сыч, насуплены
Ў чаканні прыбыцця.
Сутонне расчыняецца
І вечар пачынаецца.
А мой цягнік спазняецца.
Ці мо спазніўся я?

* * *

Увайшоў у дождж і ноч.
Мкнуў закляклымі нагамі
Тратуараў берагамі
Я рыштковых рэк наўзбоч.

Мкнуў, нібы па дэфіцыт,
І рассоўваў змрок плячыма,
Штось шукаючы, вачыма
Перамацваў краявід.

Ды не ў жоўтых ліхтароў
Недасяжнай перспектыве,
Не ў залеўнай косі-крыві
Я шуканае знайшоў.

У сваіх знайшоў грудзях –
У скаромных, нецнатлівых –
Чалавечы сорам джглівы
За нялюдскасць у людзях.

* * *

З бяссэнсіцы выцягваць сэнс
Не мае сэнсу.
Да кухара прыходзіць СЭС –
Рыхтуй, брат, пенсы.

Прыходзіць крытык да мяне
Крыві напіцца.
Я б за кашэль, ды толькі – не,
Не адкупіцца!

Ён разбярэ, як селядзец,
Мой боль крывавы.
І будзе песеньцы канец
Без слёз, без славы.

Віктар Карамазаў



...каму зязюля прарочыць,
калі тут ніхто ўжо не жыве...

# Пад крыжам божым,
## або Развітанне з Ліменню

***Апавяданне***

Мяккая лясная дарога, пясчанка, вывела з хвойніка на прагал. Яна вяла і далей, у лес насупраць, але нечакана для самога сябе, як што знянацку падштурхнула, я спыніў машыну. Справа ад дарогі за прыгрэтымі вясновым сонцам маладымі бярозкамі пад абвіслай на зламаных кроквах страхою з грудам пабітага замшэла-зялёнага шыферу чарнела сцяна старой хаціны з дзвюма, ад былых вокан, цёмнымі дзіркамі. Антон, які сядзеў побач са мною, спытаў:

– І тут людзі жылі?

– А гэта і ёсць славутая Лімень, – адказаў я.

Ужо чуўшы раней, хоць і ад мяне, пра вёску і цяпер не пазнаючы яе, з жаданнем штосьці яшчэ пачуць, ён не міргаючы глядзеў мне ў вочы. Я намацаў збоку на дзверцах круглую, на рычажку, круцёлку і апусціў шкло.

У светлым бярэзніку нясмела, нібы толькі што прачнуўшыся, заспявалі салаўі. Мы сядзелі ў машыне ды слухалі, не кажучы ні слова, быццам усё тое, што хацелася сказаць ці пачуць, чулася ў птушыных галасах. Замаўкала адна пявуння, як пачынала вырабляць каленцы другая, замаўкала тая другая – заводзілася ранейшая або абедзьве разам, адна адной не саступаючы, нібы ў нас пытаючыся: ну і каторая спявае лепш? Калі замоўклі абедзве, быццам па знаку нябачнага ляснога капельмайстра, тады прачнулася зязюля: ку-ку, ку-ку, ку-ку...

– А каму яна прарочыць, калі тут ніхто ўжо не жыве? – спытаў Антон. – Нам, можа, з вамі?

І без настрою на размову газануў.

Далей пачаўся стары сасновы бор. Дарога праз яго ляжала нібы пад шнур, крокаў праз трыста заварочвала налева, і там, на паваротцы, затармазіўшы зноў, я выйшаў з машыны. Выйшаў і Антон. Ён апынуўся тут першы раз, а мне быў гэты лес даўно сваім і ў думках, і ў сэрцы, хоць я таксама аглядаўся, нібыта новы чалавек, не ўсё пазнаючы. Дзе агароджа і ў ёй варотцы? Дзе стогадовыя ды з ладным гакам да той сотні елкі, што ўсягды, калі я прыязджаў, вялі мяне на горку? Да рэвалюцыі стаяў на горцы дом пана Васілеўскага, усё ў блізкім наваколлі было тут Васілеўшчынай, лясы і вёскі, палеткі, паша, луг заліўны па левым беразе Сажа, паміж азерцаў старарэчышча, заўсёды багатых рыбаю. У тым, за панам, часе я тут не жыў, але жыў ці бываў тут мой дзед Анісім, дом якога стаяў на процілеглым беразе ракі, ён добра ведаў пана, яго сям'ю і чэлядзь, абшываючы, як першы ў гэтым краі рымар, панскіх коней, ведаў тут усе лясныя ды прырэчныя куточкі – як паляўнічы і рыбак. Дзяўчынкаю бывала тут і мама, шмат чаго бачыла ды чула, а яшчэ болей ведала ад бацькі. Ад іх і я шмат чуў ды ведаў. Калі пан усё кінуў-рынуў, збег за мяжу ад рэвалюцыі, у яго доме адкрылі школу-камуну. Праз чатыры гады і мама ў камуне навастрылася вучыцца, ды ў тое лета, у той нават дзень, калі старэйшы брат прывёў яе сюды, сарваўся з ланцуга бык школьны, на рогі ўскінуў дырэктара камуны. Яго ў Лімені пахавалі, а школу зачынілі. Дом да вайны, пусты, стаяў, але пасля вайны не засталося ад яго ані цагліны, ані бярвенца: што не змяла вайна, тое па вёсках размялі мужыкі. На панскай горцы пабудавалі школу леснікоў з пчалінай пасекаю, з лазняй. А як і тое знікла, які змёў вецер, ці мне пытацца? У восемдзесят шостым, у красавіку, калі тут пасадзілі чарнобыльскія хмары з радыяцыйным стронцыем ды цэзіем, прыехаў я сюды, а ўжо ні школы леснікоў, ні пчол, ні лазні, ні вальеры з аленямі, ні хаткі егерскай, ні канторы лясніцтва. Усюды чорны вугаль ды шэры прысак. Хто ўсё спаліў, навошта? Каб нейкі злыдзень ці маланка, дык нешта засталося б, а то – ушчэнт. Магільнік у бары застаўся, пры дарозе, якраз дзе мы цяпер спыніліся.

Малая была вёска, малы тут і магільнічак. Зайшлі ў варотцы. Я затрымаўся каля першае, без помнічка, магілкі, гадаючы, чыя яна магла быць, чалядніка якога панскага ці пазнейшага ліменца? Антон прайшоў далей – пачуў яго адтуль:

– Нейкі Анані? А побач з ім Хадора.

– Ды не, – кажу, – Анані Якаўлевіч быў не нейкі. Жыў у добрай хаце каля возера. У лясніцтве коней даглядаў, а ў сваім двары буслоў, жылі над хатаю, на дубе, гняздо бярог. Любіў усё жывое.

– Буслы яму дзяцей прыносілі?

– А як жа? За клопаты аддзячылі аж чатырма сынамі.

Мне пра Ананя, яго коней, кабылу Галку, Лысага, яе чырвонага, з белаю зоркай у ілбе, рахманага сынка было што ўспомніць, але Антон ужо стаяў ля іншага помніка:

– Тут нават кандыдат навук? Марыя...

– А што ў гэтым дзіўнага? І доктар у навуках тут ляжыць, прафесар, акадэмік. Сялянскім хлапчуком прыйшоў у камуну, пасля прасіў, каб, як памрэ, тут закапалі, побач з Лепяшынскім, дырэктарам камуны, сваім настаўнікам. А я быў ужо яго студэнтам.

– Гутараў Іван...

– Вясёлы быў чалавек. Кожную сваю лекцыю пачынаў і заканчваў анекдотам. Студэнты іх запісвалі ў сшыткі.

– Чытаў літаратуру?

– Уводзіны ў літаратуразнаўства. Што, пра што? Спытаеш – не адкажу, не памятаю. І не літаратура, і не літаратуразнаўства, адно ўваходзіны туды, курс лекцый, як там, у літаратуры, сябе паводзіць. Экзамен здаў – як пропуск атрымаў. Літаратура нашая пад кантролем ідэалогіі.

– Курс лекцый у анекдотах?

– І сам прафесар з гэтага смяяўся.

– Быў рэаліст?

– Мужыцкі сын, зямны.

– А Марыя? Яе таксама ведалі?

Тут я задумаўся. Магілка новая: хтосьці жывы мог блізка быць? А раптам?

Зноў селі ў машыну, вярнуліся ў вёску. Пацiху едучы, я углядаўся ў дарогу, у кожны след на ёй, вакол яе, каб хоць які заўважыць знак жыцця, і зноў затармазіў, калі праз лабавое шкло мне ў вочы кінуўся не свой, ад іншае машыны адбітак колаў на пяску. Адбітак той звярнуў з дарогі – звярнуў туды і я. Кволы мурог яго схаваў, але далей вышэйшая трава плакала двума блішчастымі на сонейку шнурамі, і тыя срэбныя шнуры нас вывелі да шчыльнага, з дошчын у нахлёст, высакаватага плота. За плотам блішчэлі верхнімі шыбкамі два вакны старой хаціны, чарнеў дах шыферны, горбіліся пашкуматаныя вятрамі толевыя стрэхі павеці, хлява. З машыны мы з Антонам выйшлі на выбіты, як гаспадарчы двор, задворак, а дзе якая ў глухім плоце брамка ці варотцы? І раптам – стары. Стаіць насупраць, і не відаць яго адразу, бо шэранню сваёю, усёй шэрай вопраткаю зліўся з шэрым плотам. Нібыта з неба скінуўшыся без стуку-груку, углядаецца ў нас з-пад рукі, ад сонца стрэчнага далонь прыставіўшы да ілба, як здагадацца хоча, хто мы такія. Ужо і мы з той самай думкаю ўглядаемся, што за лясун у зоне? І тут ён першы, як малады, бадзёра ўскінуў рукі над чарнявай галавой:

– Каго я бачу?..

Тады ўжо і я пазнаў яго па глухаватым, нібы ў мядзведзя, голасе:

– Няўжо ты гэта, Ціханавіч?..

Мы абняліся.

Там, каля свежае магілкі, думка нясмелая ў галаве маёй зачаплілася, што за Марыя, кандыдат навук, ці не другая жонка Івана Копеля, пра што у яго жыцці, як першая памерла, я ад сяброў нашых агульных чуў. Гэтакая думка смелаю не бывае хоць пра якога чалавека, у любых варунках, жывы ён ці памерлы, адразу яшчэ і так падумалася: калі яна ляжыць тут, дык

блізка можа быць і ён, жывы? Аднак што ў Лімені, адкуль Чарнобыль усіх павымятаў, падумаць я не мог і тое цяпер сказаў, што свежы курганок прывёў да плота. З абдымкаў адзін аднаго адпусціўшы, зноў абняліся. Як жа сустрэчы не зарадавацца, нават бяду ўспомніўшы? Колькі гадоў жылі тут маладымі, паасобна і разам тапталі цалік лясны, балотны, лугавы, ваўкоў ды кабаноў высочвалі на лёжках, падымалі, ён егерам бывалым, з маленства паляўнічым, усё і ўсіх у лесе звяроў і птушак, чытаючы нібы па кнізе, а я лясным навукам і ў яго, акром таго, што ў іншых лесуноў, вучыўся, у старонкі сваіх рукапісаў вылоўліваў слоўкі з ягоных вуснаў, з яго няпісанай чытанкі, ды і не толькі слоўкі, праз іх і ў іх красу і стогны, душу прыроды. Ён быў цікавы мне, а я, напэўна, нечым быў яму цікавы. Інакш быць і не магло, калі ўжо лес нас звёў. Якая кніга без прыроды? Хіба з ім мог я размінуцца? Як і сам ён са мною?

Цяпер ён углядаўся мне ў твар, са звычкай паляўнічага прыжмурваючы вока і цэлячыся другім, нібыта ловячы на мушку звера.

Я ў яго спытаў:

– Ну а твой воўк твае гады адчуў?

Ён годна, як малады, усміхнуўся.

– Яшчэ жыць ціха яму я не даю, ствалы мае не заржавелі. Хоць воўк і распладзіўся, нахабны стаў, гаспадаром у лесе хоча быць. Звяліся паляўнічыя, што ў нас былі раней. Яшчэ і рысь з’явілася, драпега. А кабаны зону пакінулі, пайшлі ад нас. Што радуе? Мядзведзіца прыбілася з малым мядзведзікам. Лес сёння – джунглі, няма гаспадара – здзічэў. Яна гэтакі любіць. Ужо два разы прыводзіла мне ў двор сваё малое.

Слухаў я Ціханавіча і дзівіўся: твар гладкі, ані маршчынкі, грыва на галаве чарнявая, як трыццаць год назад, з чаго б гэтакая ласка ад прыроды? Ці ён мала пажыў ды пералсыў? Я ведаў, на колькі год быў за мяне старэйшы, неяк ля вогнішча у зімовым лесе мераліся пройдзенымі вёрстамі, цяпер прыкінуў тую розніцу да свае мерачкі – без трох ужо дзевяноста. Колькі адных ваўкоў угаманіў – сам, каб палічыць узяўся, заблытауся б. Цяпер мяне, праўда, цікавіла яго жыццё не так лясное, як тое, у якое ён, пераэкыўшы жонку, у гады, можна сказаць, ужо старыя, з лясной глушэчы вырваўся ў Маскву, ды не ў адведкі да кагосьці блізкага, не камерсантам або турыстам, якіх, любога узросту, не злічыць, а на жыццё астатняе, якое яшчэ адшчодрыць нябесны ўладыка. Гэта ж падобна на тое, калі б дзік або воўк пакінуў лес, пусціўся жыць у тую сталіцу. Быў, помню, выпадак, калі ў нас у Мінску апынуўся лось, нібыта заблудзіў пасля якой звярынай у лесе п’янкі, ад зачмурэння згубіўшы нюхаўку ці нават галаву, але ж дабром тая вандроўка не закончылася – не вытрымаў рагач двубою з чырвоным трамваем. Іван жа Ціханавіч прыжыўся ў чырваназорнай, як чуткі сведчылі, не горш, чымся ў лесе, тут кінуўшы дамок драўляны, там апынуўся ў гарадской кватэры з балконам, ваннай, цёплым туалетам, з нямала маладзейшай за свае гады вучонаю кабетай, знайшоў і працу цёплую ў навуковым інстытуце. Якая ж сіла туды занесла, там прыгалубіла? Тут, у лесе, хадзілі чуткі, што увесь пераварот душы і цела яму дала жанчына. Дык, можа, гэтая Марыя? Але калі так, то чаму яна, маскоўская да надта вучоная, апынулася ў нашым радыяцыйным лесе, з якога нават і звер бяжыць, хоць бы той самы дзік? Пытанне? Ды не адно гэтае. Чаму і ён, у той цеплыні прыжыўшыся, сюды, у зону, вярнуўся?

Вострым вокам паляўнічага Копель як прачытаў усе мае пытанні ў мяне на твары, бо нібы ў адказ на іх паклаў мне на плячо руку, прапанаваў:

– Пайшлі у хату. Пра ўсё там пагаворым.

Я агледзеўся:

– А дзе ж Антон?

Ён супакоіў:

– Знойдзецца. Калі машына тут, то тут і мы. Помню, як ты з ім у вальеры жыў, баяўся падпускаць да аленяў. А яны да егера гэтак не ішлі, як да малога. Сваё дзіця ў ім чулі.

– Тады я з сынам быў, з Сяргеем.

– А гэта ўжо другі, малодшы?

– Сын у мяне адзін. Антон мне сябра. Мастак.

– Я бачыў, як ён з машыны ўзяў драўляны чамаданчык, калі мы гаманілі. Падумаў: што за чамаданчык?

– Эцюднік. Там фарбы, пэндзлі.

– Ну... цікава.

Мы, першым гаспадар і следам я, прайшлі ў варотцы, якія ў плоце ўсё ж былі, на дворышча, застаўленае-закіданае ўсялякім лясным ды прыхатнім ламаччам. Ціханавіч вёў і праз кожныя два-тры крокі спыняўся, звяртаў маю ўвагу то на трактарок, свой транспарт, то на ўкленчаны, на трох падбітых колах, вазок, у якім і на маёй памяці ляснічы ездзіў ды і мяне, бывала, туды-сюды падвозіў, то на лесапасадачную машыну, цяпер – іржаўку, у свой час удала прыдуманую, зробленую ім, каб не жаночымі рукамі пад цяжкі меч высаджваць на расцяробах хвойкі. Спыніліся каля веранды. На ёй у два бакі ад ганка віселі колы ад вазкоў, каса, хамут. Спытаў, навошта гэта ўсё цяпер, хоць і каса навошта, каму патрэбная, калі тут ні каровы, ні каня? Ціханавіч усміхнуўся на маю цвярозасць:

– Няма нават казы.

– Ну дык навошта каса і сена?

– А ёсць касец, стары казёл. Ха!..

Мне жарт яго не спадабаўся:

– Касцу, як не казёл, не конь, навошта сена?

Калі зайшлі ў хату і Копель паднёс мне табурэтку, сеў сам на лаўку ля акна і ўжо тады я сеў таксама, таго ўжо гумару, тых посмехаў я ад яго не чуў, пайшла размова іншая:

– Лімень вартую. Гэтакі крыж цяпер на мне. Ніхто не ставіў пад яго, я сам адчуў, што мой.

– А што тут засталося, каб вартаваць?

– Двары, падмуркі, печышчы. Магілы. Калі іх не абкашваць, Лімень, святое месца, за два гады чартапалох накрые, крапіва, палын, і вываліцца бацькаўшчына з памяці. Ты вось зайшоў на двор і што падумаў? Што захацеў адразу ў мяне спытаць? Хто тут раней жыў? Скажу: тут жыў Баяр. Яго каса, яго хамут. Каня трымаў, лес траляваў. Конь кожнаму патрэбны быў у лесе. Каму за хлеб, каму за чарку, каму за дзякуй. Свой крыж у кожнага. А дзе няма крыжа, там і Хрыста няма. У Баяра былі і крыж, і Бог.

Баяра памятаў і я.

– Але ён жыў у хаце пры дарозе.

– У той новай хаце і памёр. А да вайны жыў у гэтай хаце.

Строгімі чэпкімі вачыма Ціханавіч злавіў мой стрэчны позірк і з

выглядам, як штосьці не сказаўшы да канца, замоўк, але працягваў упарта глядзець мне ў вочы. Свой позірк адвярнуць кудысьці ўбок не мог і я, маўчаў. Абодва нібы чакалі, хто першы з нас міргне, як гэта рабілі ў маленстве, каб выявіць, хто праўду кажа, хто няпраўду. Быццам адчуўшы, што надта доўга, да міргаючы, будзем маўчаць адзін перад адным, ён правілы гульні парушыў:

– Кажаш, што быў на могілках?

– Свежая наспа і падказала цябе шукаць. Хоць не думаў, што ты тут, блізка.

Ціханавіч падняўся з лаўкі, выставіў з халадзільніка на стол спачатку пляшку белай з наклейкаю ад каньяка армянскага, затым слоікі з дарамі роднага лесу, грыбочкамі ды мочанымі брусніцамі, прынёс відэльцы і тры шклянкі, наліў ва ўсе тры, як упэўнены, што зараз з'явіцца Антон, але чакаць яго не захацеў:

– Дык памянем Марыю Канстанцінаўну. Зямелька ў нашым лесе баравая, пясочак мякенькі, жывыя кветкі, верасок.

За чаркай следам ён паднёс да рота на відэльцы грыб, але губа ад грыба нервова адвярнулася, і тады я спытаў пра тое, аб чым раптам падумалася:

– Яна ж маскоўская? А пахавалі тут. Ці ў нас пясок мякчэйшы, як там, у Расіі?

Ён усё яшчэ трымаў грыб на відэльцы і на яго глядзеў.

– Калі ўжо абое бачылі, што нас чакае, я ў яе спытаў, дзе пахаваць. Як у сталіцы чырваназорай, куплю, сказаў, зямлю не горшую, пастаўлю помнічак і буду даглядаць, а як у Лімені, дзе вузел завязалі, там і я дажыву свой век, лягу побач. Яна спакойна, што мяне здзівіла, без слязы, нават як з ціхай радасцю, што гэтак ёй кажу, разважыла: у Маскве адзін ты жыць не зможаш, табе патрэбны лес, вязі мяне ў Лімень.

Мяне кранула шчырасць, але не ўсё я зразумеў:

– Як жа яна тут у Лімені, апынулася, каб завязаць той вузел? Тут усё ж не Расія?

Ён вочы адарваў ад грыба на відэльцы, загледзеўся ў акно, як там штосьці сваё заўважыў.

– Яна была біёлагам. Кватэра, інстытут у сталіцы, але ўсё лета, вясну і восень са шклянкамі і мікраскопам, з усёю сваёй хіміяй на прыродзе, у лесе. А з ёю там і я. Навука гэтакая: гель-мін-та-ло-гі-я. Ёсць паразіт, гель-мінт, на мове навуковай. Калі па-нашаму, як у вёсцы, дык проста гліст. Жыве ён усюды. У кішках у звера, птушкі, чалавека. Сядзіць там, як буржуй, у цяпле ды сытасці, і точыць. Яго не знішчыш, дык ён знішчыць цябе. А дзе і як яго знайсці? У дзярме, ты мне прабач. – Тут Ціханавіч скрывіў губу, нібы нюхнуў тое дзярмо. – Калі сказаць культурна, дык гэта экс-кры-мент. А на лаціне экс-кры-мен-тум. Яшчэ можна сказаць, што гумус, прадукт арганікі. Тут аграхімія, яшчэ адна навука. Гумас дае глебе ўрадлівасць, а чалавеку хлеб. Во як закручана ўсё. Я паляўнічы. Хоць у звера, хоць у птушкі бяру той экс-кры-мен-тум жыўцом, мяккі і цёплы. У белых пальчатках. Мае рукі да іх доўга не маглі прывыкнуць, ды і пальчатак, скажу па-праўдзе, было шкода. Але Марыя прывучыла. Я быў у яе за лабаранта, закладваў пробы. Прабіркі, колбы, мензуркі – усё як у аптэцы.

Пра навуку, з якой меў справу, Ціханавіч казаў з павагай, нават з прыемнасцю і гонарам, як пра свой зорны час, слоўкі на лаціне прамаўляў як штосьці высокае, з асцярожнасцю, каб у нейкай літары не даць памылкі,

хоць і відаць было, як цяжка яна яму даецца, з якой палёгкаю ён саслізнуў з яе на роднае сабе дзярмо. Сваю ўсмешку ад яго пакутлівага вымаўлення тых словак па складах я ад яго хаваў, падносячы руку да твару, у далоні, але забыў пра асцярожнасць ды і ляпнуў:

– Што ж атрымалася? Калі б не той гельмінт, не тое, прабач, дзярмо, дык вы з Марыяй Канстанцінаўнай і вузел свой не завязалі б? Гельмінт вам як хросны бацька? Вас звёў?

Прымружыўшы адно вока, ён змрочна глянуў на мяне другім, задумаўся, што ж я такое сказануў, і адвярнуўся, а я адчуў, што тут размова наша можа і расклеіцца. Як склеіць зноў? Якімі словамі ўратаваць?

І раптам дзверы ў хату адчыніліся, парог пераступіў Антон. Адной рукой ён на плячы прытрымліваў рэмень эцюдніка, у другой руцэ трымаў кардонку. Стаяў і ўсміхаўся, адкрытай маладой усмешкай свяціў на ўсю хату, нібыта рады быў за нас, старых, што мы ўжо за сталом, знайшлі варты сустрэчы занятак, і за сябе таксама, што тут з намі, і ён, што не спазніўся. З пляча эцюднік зняў, паднёс кардонку Ціханавічу:

– Пазнаяце?

Той з лаўкі ўсхапіўся, адразу угадаўшы момант незвычайны, аберуч ухапіў кардонку, трымаў перад сабой і з твару не мяняўся. Яшчэ як не даходзіла, што ў руках, што на кардонцы. І раптам захваляваўся:

– Грушка?!. Ну бачыш?.. Ты паглядзі, што ён намаляваў, – звярнуўся нечакана да мяне.

Тут я таксама падхапіўся, вачыма сунуўся ў кардонку. Спачатку не тое кранула, што на кардонцы, яшчэ я там не ўсё разгледзеў, узварушыў сам Копель, яго высокі голас, радасць, якой я ад яго ўжо не чакаў. Вочы кідаліся то да мяне, то да Антона, то да кардонкі зноў, а палец, дзябёлы, што жалязяка, крывы, як крук, бо ў любы момант гатовы тузануць ражок пад ложам стрэльбы, садзіў то мне ў жывот, то ў кардонку, каб разам з ім і я ў яе талопіўся.

– Грушку Ананя ты пазнаеш?

– Ну помню яго грушку, смак на губе застаўся. Але з чаго ты ўзяў, што гэтая ад таго дрэва?

– Ад якога ж яшчэ? Адно было такое ў Лімені. Бэра. Ты бераг возера не пазнаеш? Крыніца там, пад берагам, Ананя з коньмі там не бачыў?

– Чаму ж не бачыў? Там сам стаяў з ім не аднойчы.

– Дык гэтак і кажы, што бачыў. І бачыў я. І бачу вось цяпер, нібы жывых, Ананя, Лысага, Галку. Коні на сонейку, у вадзе, галовы то да вады, то ад вады, з губ сонейка сцякае ў возера. Кабылка шустрая была, хоць і старая, усё галаву, бывала, на бок верне, страляе на Ананя круглым чорным вокам, а той вышэй на беразе, дзе цяпер дрэўца гэтае, на коней паглядае, а за шчакою грушка. Кабылка першая з вады на бераг выскачыць, мызай саўгень яму пад локаць: дай грушку. Дасць. А тая ўжо без зубоў, грушку памыліць пад губой і цалкам праглыне, яшчэ просіць. Э, не! Ён ёй па мызе: адвалі. Адвернецца, пайшла пакрыўджаная. Тут Лысы ужо на беразе, галавою перад старым уверх-уніз боўтае, як загадзя дзякуе, ніводнай грушкі яшчэ не з'еўшы. Гэтакі нораў старому па сэрцы: з другой кішэні каня частуе. А той маруда, кожную грушку смакуе доўга, шматкі з губы ляцяць пад капыты. Пасля глядзіш: на тым месцы новыя дрэўцы выраслі. Як вось і гэтае. Іншаму дрэўцу не пашанцуе, не чалавек зломіць, дык крыга ў паводку зрэжа, як нажом, ці той жа конь накрые капытом, ледзь

да святла ўзыдзе каліва, а гэтай грушцы, бачыш, пашанцавала, вырасла, абсыпалася кветачкамі, хоць пад вянец вядзі красуню.

Дрэўца на кардонцы сапраўды выглядала як жывое, і Копель, загледзеўшыся на яго, забыўся на Антона, што госця трэба пасадзіць за стол, але хоць маладога, ды ўжо бывалага мастака гэта не засмуціла, людскія настроі ведаў усялякія, меў і да іх, любых, павагу, і тут адразу заўважыў, што робіцца з душою чалавека перад эцюдам з грушкай, сам месца для сябе знайшоў і ў незнаёмай хаце за сталом нават загадкавага армянскага наліў, нібы сам гаспадар, ва ўсе тры шклянкі. Сказаў, доўга не думаючы:

– Дык за Ананя і яго Хадору, хоць я іх і не бачыў. А як за іх, дык і за грушку, каб на яе ні крыгі, ні капыта.

Антон зарагатаў ад свайго экспромту, але заўважыў і тое, што кардонка ў руках у Ціханавіча замінае ўзяць шклянку – выхапіў з яго рук эцюд і паставіў на высокую спінку канапы. Гэтакая ўвага ад Антона старому спадабалася:

– Хай будзе так. На возеры грушку адзін я бачу, а тут, цяпер, яе ўбачыць кожны, хто ў хату адчыніць дзверы. Тады і Ананя яшчэ хто ўспомніць. А што? І Хадору. Нармальная была баба. Што ён глядзеў, любіў, тое і яна. Чатырох хлопцаў свету дала. Жылі – аднаму крыжу маліліся, аднаму Богу. А што?..

Прыціх Антон. Я заўважыў, як ён, слухаючы Копеля, ужо на краі стала, за слоікам з грыбамі, прытрымліваў рукою, у якой была і шклянка, блакноцік, у ім рабіў малюначак алоўкам караценькім, што нават не вытыркаўся з далані, кідаючы хуткія позіркі то на Копеля, то пад алоўвак. Копель, выказаўшыся, замоўк, глядзеў на грушку і вуснамі ледзьве прыкметна варушыў, хоць у рот не ўзяў ні грыба, ні брусніц, як вёў з грушкай нячутную размову, Антону момант быў вельмі зручны, каб у блакноціку сваё рабіць, спяшаўся гэты момант скарыстаць, ды раптам рука з алоўкам як знямела. Я глянуў яму у твар: вока ў мастака пагасла, у блакнот ужо не глядзела, як прыкіпела да адной кропкі перад сабой – на твары ў Копеля. Ну так. Ужо Копель не глядзеў на грушку, ўставіўся вачыма ці то на слоік з грыбамі, ці то на блакнот Антона, заўважыўшы, што ён там робіць. Гэта збянтэжыла Антона: няўжо заўважыў?

А той падняўся з-за стала і выйшаў у другі, за шырмаю замест дзвярэй, пакой. Не зразумеўшы яго настрояў, думак, мы з Антонам пераглянуліся, але сказаць што-небудзь адзін аднаму не паспелі – гаспадар хаты зноў выйшаў да нас: у руках трымаў гармонік. Мяне гэта здзівіла. Навошта нам тут гармонік? Зусім не пад гэтакую музыку былі размовы. Ды і гарманіста як быццам не было між нас. Ніколі я не бачыў і не чуў, каб Копель быў з гармонікам. Сеў за стол з ім у руках, паставіў сабе на калені, маўчыць. Я на яго гляджу – і смешна, і неяк мутарна, не ведаю, што і сказаць. Што, думаю, ты нам зараз зайграеш? Якую "Кацюшу" ці "Лявоніху"? Ну сапраўды, што яшчэ думаць? Адвярнуўся, усміхнуўся, не ўтрымаўшыся, сам сабе, а ён, хітрун, той момант, маю тую ўсмешку як чакаў. Уважліва на мяне паглядзеў ды кажа:

– Табе лёгка смяяцца. А мне? Я таго чалавека з гэтаю штукай мог і застрэліць. Мог. Як ён зайшоў сюды, парог пераступіў, з меха дастаў гэты гармонік, мне падае, табе, кажа, прынёс, дык рукі за драбавік ледзь не схапіліся. Адно, што ўтрымала – галава.

– А што за чалавек? – спытаў я.

– Каб жа яго я ведаў. Тады не ведаў і цяпер не ведаю.

– Не разумею. Што за ён, адкуль? Дзіўна?

– Табе дзіўна. А мне? Я тут, дзе і цяпер, каля акна сядзеў. Мне падалося, што па душу маю з'явіўся д'ябал. Я пахаваў Марыю, мінуў усяго нейкі месяц, можа два, а тут і ён са сваім мехам у хату. Гармонік на стол паставіў, мех на плячо і за парог. Пакуль я туды-сюды па хаце, узяў драбавік, заклаў у рулю карцеч, у двор выскачыў, а ўжо яго няма. Я за варотцы ў лес, туды-сюды, няма і там нідзе. А гэта была восень, канец дня, сцямнела – дзе д'ябла знойдзеш? Вярнуўся ў хату, узяў карабок з запалкамі. У грубцы дровы сухія. Сеў ля агню і думаю: спалю. Але яшчэ і так падумалася: можа, чалавек не мне гэты гармонік нёс, можа з дарогі ў лесе збіўся, не ў тую зайшоў хату, якую шукаў, можа хворы, што-небудзь з галавою? Яшчэ раптам і вернецца па гармонік? Укінуў яго ў свой мех, вынес з хаты на веранду, засунуў пад тапчан, абы вочы не бачылі. А тут ужо і зіма. Ночы доўгія, думкі бясконцыя. Яшчэ і ваўкі. Пад вокны прыйдуць і выюць. На печы сагрэюся, ляжу, а як, іх чуючы, заснеш? І з печы на мароз вылазіць няма ахвоты. Але дастануць. З ружжом за дзверы выйдзеш, у цемень стрэліш – ціха. Толькі на печ залезеш – зноў дастаюць душу. Тады я пра гармонік успомніў. З ім ноччу за варотцы выйду і пачынаю цягаць туды-сюды мяхі на ўсе басы і галасы. Што думаеш? На печ залезу і засну. А як засну – не чую. Пачаў я гэтак ратавацца. А што далей? У хаце ён ды я – з'явілася ахвота з ім паразумецца.

Тут Копель заўсміхаўся, як весялейшае што ўспомніў. Я гэта заўважыў, пачаў выпытваць:

– Ну і як? Атрымалася?

– Бачыш?.. Тут – рукі. Справа новая – адна адну не разумеюць. Адной шукаеш галасы, другая, што ёй рабіць, не ведае, пачнеш той варушыць – гэтая губляецца. Гэтак спачатку. А потым...

– Потым?.. Што потым?

– Бачыш?.. Гармонік тады зайграе, як слова ёсць, ёсць верш, а верш тады прачнецца, калі сэрца баліць і думка доўгая. Зімою, як адзін у хаце, што рабіць? Сядзіш на печы, пляцеш у галаве думку, а думка, калі ные душа, ёсць сэрца, на верш, бывае, змахвае. Які там верш? Вершу патрэбная рыфма, а ў мяне яе няма.

– Ёсць белы верш, – падказаў Антон, які ўжо пад рукою зноў на краі стала трымаў блакноцік.

– Белы?.. Ну, не ведаю, – задумаўся Ціханавіч. – Можа і белы... Зімою гэтай... узяў я драбавік, дай, думаю прайдуся на Корцель, там ёсць нара ваўчыная, старая, у ёй, як я заўважыў па слядах, па экс... экскры-мен-туму, ліса жыве. Якая зіма? Ужо было прадвесне, а снегу – лесам не прайсці. Выбіўся на луг, там краем лесу дарога на Манастырок. Спыніўся, гляджу налева, гляджу направа, адкуль і куды след ад машын бяжыць па свежаку, па замеці. Бачу двух сабак. Адзін руды, як карэльская лайка, калматы, другі чорны, таксама калматы, але буйнейшы. Першы бяжыць па адной, ад колаў, каляіне, другі, чорны, па другой, усё забягае наперад рудому ды мызай у мызу, нібы жартуе ці хоча укусіць. Бягуць у мой бок, мяне не бачаць. І ўсё бліжэй. Я здагадаўся, што гэта не сабакі, адкуль тут быць добрым сабакам, лайкам, калі ўжо ні вёсак, ні паляўнічых, што чорны ліс і рыжая ліса. Ну, думаю, яе чапаць не буду, а кавалера ўнучцы на каўнер вазьму. І тут, якраз насупраць дуба, за якім я стаю, ліса, мяне пачуўшы,

спынілася, а кавалер вакол яе кругамі топча снег, абнюхвае. Я драбавік хачу ўзяць да пляча і не магу, у руках сілы няма. Што такое? Мабыць, ад злосці вылаяўся. Яна, нібы той заяц, дае скідку і пайшла, а ён за ёю. Ну хоць ты плач. Ісці? А ногі не ідуць. Да дуба прыхінуўся і не разумею, што са мною. Ужо сцямнела, калі да хаты прывалокся. На печ залез і, не распрануты, заснуў. І ўжо ружжа ад таго дня не браў у рукі.

Тут я спытаў у Ціханавіча: .

– А ты ж казаў, што ствалы яшчэ не заржавелі? Даўно іх не глядзеў? Мо заржавелі ўжо?

Ён чмыхнуў, як муху прагнаў з носа.

– Сказаць усё можна. Сказаць – не зрабіць. Гэтай вясной сядзеў каля акна на сонейку, слухаў, як са страхі вада цурком бяжыць, і захацелася мне ў лес прайсці, зірнуць, ці ёсць яшчэ які зімовы след, хоць нават і стары. Гляджу на драбавік, які перада мною на цвіку ў сцяне, а рукі ўжо знайшлі гармонік, які на лаўцы пад драбавіком. Сеў я на тую лаўку, гармонік – на каленях, а ў вачах тая рыжуха, лісанька. Ну і...

Іван Ціханавіч зноў паглядзеў на Антонаву грушку, задумаўся, а рукі, нібы пачуўшы яго думкі, ужо пачалі накратваць пальцамі гузічкі галасоў, пупырышкі басоў, гармонікам парыпаў, сціх, ужо без гармоніка адным голасам загаварыў, як заспяваў:

Лісанька мая светлавокая,
а лугі ў нас даўно ня кошаныя...

Замоўк, з усмешкаю паглядзеў на мяне, на Антона, ужо без той усмешкі, адразу нават схмурнеўшы, загледзеўся на эцюд з грушкаю і расцягнуў чырвоныя, у кветках, мяхі гармоніка, зайграў і заспяваў:

Лісанька мая светлавокая,
а лугі ў нас даўно ня кошаныя...
быллём-хмызам ваўчыным зарослыя,
лісанька светлавокая.

Тут Ціханавіч вусны сцяў, але не перацяў голас гармоніку, прайграў яшчэ раз тое, што адыграў, тую як бы страфу, ужо без сваіх слоў, разам на галасах ды басах, як запраўскі музыка, адбіваючы такт нервовым торганнем галавы і заплюшчыўшы вочы, а потым зноў заспявау пад гармонік:

Лісанька мая, хвост пушысценькі,
а бары нашы ўсе пасечаныя,
ні аленя ў лесе, ні козачкі,
лісанька, хвост пушысценькі.

Прайграў страфу, як раней, на гармоніку і заспяваў далей:

Лісанька мая, маё золатка,
А палі ў нас не араныя і ня сеяныя,
на іх жыта даўно не калосіцца,
лісанька... золатца...

Усё ці не ўсё, што хацеў, праспяваў Ціханавіч, можа і не ўсё, не даспяваў, бо голас знянацку сарваўся і за ім адразу замоўк гармонік. Стары неяк спалохана паглядзеў на Антона чырвонымі, нібы ў хворага труса, вачыма, потым на мяне. Пад вокам у яго бліснула і пакацілася па шчацэ

ружовая буйная кропля. Ён накрыў яе шырокай далонню, з ёю разам накрыў і вока, глуха прамовіў:

– Ну... прабачайце.

Падняўся з лаўкі і з гармонікам, аберуч абхапіўшы яго на грудзях, выйшаў у суседні пакой.

Антон сунуў блакнот у кішэню лёгкай куртачкі, якая была на ім і неяк пакутліва ўрозвалкі ўстаў з-за стала. Глядзеў на мяне, пытауся моўчкі, што рабіць. А я і сам не ведаў. Ён за мяне хутчэй прыдумаў:

– Пайшлі на перакур.

Які нам быў патрэбны перакур? Ні ён не смаліў, ні я. Выйшлі на двор, прайшлі да варотцаў, за імі падышлі да машыны, а там зноў тыя ці не тыя, якіх ужо чулі, салаўі. Бярозкі іншыя, а спевы тыя самыя. Ды ўсё ж не тыя самыя. Тыя, калі мы слухалі, у машыне садзячы, вясну ў душах распальвалі, а гэтыя нас не кранылі. Антон кружыў вакол машыны то ў адзін бок, як тая стрэлка ў гадзінніку, па сонцы, то развярнуўшыся, у другі бок. Задумаўся? А ці не захварэў ізноў? Ён тут, у зоне, шукаў чарнобыльскі матыў пад пэндзаль і дарогаю, як ехалі сюды, у Лімень, я падказаў яму матыў, які сам бачыў у Манастырку: дамок драўляны, выбітыя вокны, дзверы на замку, шыльда старая, аблезлая, што тут "Бібліятэка" пад вокнамі са шклом бітым уперамешку кнігі – Купала, Колас, Пушкін, Гогаль, – а пад дзвярыма на ганачку сядзіць стары калматы, рап'ём абраслы воўк, адзіны ў вёсцы чытач і Пушкіна, і Купалы. Антон адразу прамаўчаў, а ўжо як да Лімені па'язджалі, за руль ухапіўся: вярні туды! Ты што, кажу, гэтак адразу? Падумаць трэба. Не трэба, кажа, доўга думаць – едзем, я захварэў ужо на воўчы вірус. Цяпер маўчаў. Хадзіў вакол машыны і маўчаў. А я ўжо бачыў, што тут, у Коцеля, ён вірус падхапіў мацнейшы, бо тут усё сам убачыў і пачуў.

Я сеў у машыну, паклаў рукі на руль. Ён падышоў, спытаў, куды сабраўся ехаць. А я нікуды ехаць не збіраўся. Дзень толькі пачынаўся і мне хацелася пабыць у Лімені. Антон як штосьці падказаў сваім пытаннем, Гляджу я на яго і бачу, што ён ехаць адсюль не хоча. Тут і прыйшла ў галаў думка – кажу:

– За гэтым борам быў вальер, жылі алені, і я там жыў, пісаў раман пра гэты лес і леснікоў. Паеду, гляну, што там цяпер. Ні тых аленяў, ні таго лесу, ні егерскай хаціны. Гэта я ведаю. Але... ты разумееш?..

Мяне ён зразумеў – спытаў:

– Надоўга?

– На твой адзін сеанс з натурай. Эцюднік, шарбы ў цябе з сабою?..

Я ўсміхнуўся, як павесялеў:

– Усё, што трэба, у хаце.

Ён адкінуў фрамугу багажніка: пад ёю ў багажніку былі яго падрамнікі, кардонкі. З іх выбраў кардонку і падрамнік з палатном. Па тым падрамніку, яго памерах, я здагадаўся, што бачыў ён ужо на палатне. Пры ўсёй сваёй любові да пейзажа любіў пісаць партрэт псіхалагічны, характарны. Мне гэта падказвалі і замалёўкі, якія ён рабіў у блакноце за сталом, хаваючы блакнот ад Копеля, каб не збянтэжыць сваім алоўкам, не збіць старога з песні.

Я выехаў на тую пясчанку, якая прывяла нас у Лімень. Налева яна ляжала ў бок вальера, куды надумаў ехаць, але я павярнуў направа і праз крокаў дзвесце спыніўся, з машыны вылез. Тут пры дарозе ўсцяж раней

стаяў плот, за плотам стаялі хаты, у хатах жылі людзі. Цяпер ніводнай хаты не было, дзе-нідзе па лініі былога плота тырчэў з зямлі, быццам гнілы зуб у бяззубым роце, слуп, валяліся ў бураломе зломкі ад жэрдак. Пахілы слупок з іржавым, на адным цвіку, завесам тырчэў збоку ад фары машыны, пад ім ляжала бетонная пліта. Я на яе ступіў і ўспомніў, што тут, ля маіх ног, яна раней упіралася тарцом у два слупочкі, другім тарцом – у ганак. На тых слупках вісела фортка, на фортцы была драўляная засаўка. Аднойчы я засаўку адсунуў, фортку адчыніў і падышоў да ганачка. На ім сядзеў хлапчук гадкоў васьмі, а можа дзесяці, не болей, трымаў у руках кухонны нож і нейкую рагульку нажом часаў. Я ў яго спытаў пра дзеда, пра Баяра, ці ў хаце ён. Хлапчук у рагульку ўнурыўся і галавы не падымаў, нібы мяне не чуў, не бачыў. Я спытаў яшчэ раз. Тада ён чубком бялявым страсянуў, адкінуў валасы з вачэй, мне паглядзеў у твар і кажа, што дзед у хаце, але мяне да дзеда ў хату ён не пусціць, А хто акром яго і дзеда ёсць? Нікога, кажа, няма, ён тут адзін ля дзеда. Што мне было рабіць? Бачу, што дзіця хоць малое, але ўпартасцю, зацятасцю дакажа і дарасламу, тым больш з нажом. Кажу, што дзеду я не чужы, ён мяне добра ведае, што ён заўсёды адчыняў мне свае дзверы. Хлапчук мацней насупіўся, сказаў, аж неяк грозна, схіліўшы галаў над рагулькай: “Дзед памірае, не трэба да яго ісці, хай памірае ціха”. Я стаяў, не мог кроку зрабіць ні ўперад, ні назад. А хлапчук нервова страсянуў бялявай грыўкай, узняў яшчэ раз вочы на мяне і вымавіў праз сціснутыя зубы: “Ідзі, дзядзька, адсюль”. Я пахіснуўся. Вочы ў яго былі налітыя рашучаю, жахлівай чырванню.

За асфальтавай дарогай, не даехаўшы да таго месца, дзе трыццаць год назад жылі алені, я зноў спыніў сваю старую “Ніву”. Адкінуўшыся на падгалоўнік крэсла, за шклом убачыў высокае зялёнае, праз голле хвойніка, неба і падумаў: “Божа, няўжо ўсе мы, беларусы, ад нараджэння нясем, павінны несці, свой на сваю галгофу, пакутны крыж? Нават і нашыя малыя дзеці?..”

Пякла агнём у вачах малога тая чырвань, што і ў вачах старога Копеля.



Зянон



...Чалавек не адзінокі,
Бо ёсць Бог...

# Святло Айчыны

### *ЗА МЯЖОЙ*

Куды ні глянь –
Усюды свет чужы.
Але жыве мая Айчына.

*22. 07. 2013*

### *РОД*

Найвялікшы твор
Кожнай жанчыны –
Гэта калі яна падорыць
для нацыі
Новага чалавека.
Найвялікшая праца мужчыны –
Гэта калі ён
Выхавае гэтага чалавека,

Які будзе разам з бацькамі
Шанаваць мову, Айчыну
І свой народ.

*24. 05. 2013*

* * *

Калісьці ў Бацькаўшчыне
Пад шэпт дажджу
Заснуў я глыбокім сном.

*10. 01. 2013*

## *РАЦЫЁ*

За Радзіму
не страшна памерці.
Страшна толькі,
Калі з гэтага
Нічога не стане,
Акрамя тваёй смерці
Ворагам на пацеху.

*16. 01. 2013*

## *БОСКАСЦЬ*

Хараство Зямлі,
З чым цябе параўнаць?
А ні з чым,
Бо нават самае багатае ўяўленне
Не сягае вышэй
за зямную красу.

*4. 02. 2007*

## *МАЛАНКА*

Над летняй Гаўёй
Заспеў мяне дождж у начы.
Калі бліснула маланка,
На імгненне ўбачыў,
Што ад кропляў вада бурліць.

*III. 2013*

### *ВЕЧАРЭЭ*

Сканчаецца дзень,
І лета сканчаецца.
І жоўтыя воблакі над вадой.
Як шкода,
Але што зробіш.

*11. 04. 2012*

### *СВЕЖЫ ДЗЕНЬ*

За паўдня
з поля збег
Снег вясенні.
Ходзіць грак
Па адталай раллі.
І ты ў памяці маёй, вандроўнік.

*5. 09. 2007*

### *НАСТАЕ САКАВІК*

Ручаінкі цякуць,
Растае снег,
І між белі
Чарнеецца ў полі ралля.
І дуб разгалісты, шырокі,
Як рыцар збройны
Без папроку,
Стаіць над веснавою зямлёй
Далёка там, у Беларусі.

*10. 03. 2009*

### *САКАВІК НА ЧУЖЫНЕ*

*(жонцы)*

Ізноў вясна і сакавік,
Ізноў у Беларусі
Сцякаюць кроплі з ледзяшоў,
Спаўзае з даху снег
Пад спеў шпачыны.
І грак на бярозе сядзіць,
Чакае сваіх гракоў.

Толькі нас там яшчэ няма,
Бо надта цяжкі
Наш шлях.

*10. 03. 2011*

## СВЕТ ДАЛЁКІ

У ранні ветразь адзінокі
Усплывае рыбкаю са дна.
І што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма!
Усплывае ветразь адзінокі.
Мне далячынь – мая труна.
Мінаюць дні, гады, імгненні,
Не вып'ю мора я да дна.
І што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма.
Вось над вадою чарадою
Ляцелі гусі – свіст крыла.
Можа хоць гусі з Беларусі,
Мо' не прывід, мо' не мана?
Ах, што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма!

Ужо зоркі ў небе заблішчэлі.
Над акіянам зноў зіма.
Вакол Зямлі плыве Тытанік:
Наліце моцнага віна!
Ім лёс, як песня пра капусту,
Як келіх, выпіты да дна.
Дык што мне гэты свет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма.
Дык што мне гэты свет далёкі!..

*22. 10. 2011*

## СВЯТЫ ВЕЧАР

Над заснежанай хатай
Кружацца сняжынкі,
І цішыня, і ні душы. Каляды.

*2012 г.*

## *ХОЧАЦЦА ІСЦІ*

Калі глядзіш удалячынь,
Заўсёды бачыцца надзея,
І хочацца тудыісці.

*20. 04. 2013*

## *ДАРОГА ПРАЗ РОДНЫ ДОМ*

Ідучы па дарозе
Праз лес,
У халодную цёмную ноч,
Я прыйшоў у свой дом, якога няма.
На руінах стаялі
Маркотныя людзі.
– Вы тут хто?
– Свае.
– Дык пайшлі,
Бо ёсць шлях,
Бо йшчэ мусім ісці
Да свабоды.

*06. 02. 2012*

## *САКУРА*

Сакура ў Нью-Ёрку цвіце.
Паглядзеў – і пайшоў.
Чужое ўсё.

*11. 04. 2012*

## *АПОШНЯЕ БЫЦЦЁ ЎДОМА*

Мой дом – мая Айчына.
Калі я прыехаў сюды зімой,
Холадна пад ветрам
Шамацела сухая трава
Перад зачыненымі дзвярыма
І нежывымі вокнамі.
У цішыні – адзінокі мой дом.
Не брахаў мой сабака,
Якога няма.
Не чутно галасоў.

І над гэтай карцінай
Задумаўся я
Аб сваім існаванні.
Шэрыя хмары
Наперад плывуць
Далёка за небаспад.
Трэба брацца.
Трэба брацца за клямку –
Увайсці ў былое жыццё,
Дзе выйсця з яго не бывае,
Як толькі наперад ісці.

*24. 05. 2013*

***З нізкі «Птушкі»***

## ***КРЫЛЫ***

– Будзьце, як птушкі нябесныя, –
Сказаў Гасподзь.
І падумаў я:
Вольны той, хто лятае.
І Анёл – вольны.

*IX. 2012*

## ***ЧАЙКА НАД ЗАЛІВАМ***

Калі я расплюшчыў вочы,
У небе ляцеў анёл...
Аж гэта чайка
Асветлена ранішнім сонцам.

*28. 01. 2012*

## ***ІКАР***

Хлопчык пайшоў да сонца.
Ішоў-ішоў,
А яно ўсё далёка.
І тады думае:
Эх, быў бы я птушкай!

*III. 2013*

***З нізкі «Бог»***

## ***БОГ СПАМІЖ НАС***

Пабуджэнне да творчасці – гэта ўсведамленне таго,
Што ёсць людзі, якія адчуваюць жыццё тваёй душы.
Адзінства душ – гэта прысутнасць Бога.

*30. X. 2008*

* * *

Чалавек не адзінокі,
Бо ёсць Бог.

*15. 03. 2011*

* * *

Сям’я – гэта
Маленькая царква.

## ***ЛЕТА НАД ЗАЛІВАМ***

Калі я летам убачыў
Гэты сонечны бляск над залівам,
Я адчуў тут прысутнасць Бога
І зразумеў:
Бог там, дзе цёплае хараство.

*6. 04. 2013*

## ***ШКОЛА***

Зямное жыццё –
Гэта Боская школа чалавека
Дзеля яго душы,
Дзе трэба быць вельмі ўважлівым вучнем,
Каб навучыцца і пражыць не дарма.

проза

Леанід Дранько-Майсюк



*...выхад з-за кратаў –*
*часцей за ўсё такім бывала*
*беларускае шчасце!..*

# У Вільні і больш нідзе

## "...Натуральны, як лінія небасхілу"

*Архіўная аповесць пра Максіма Танка*

*Працяг. Пачатак у №4 (41) за 2009 год, №4 (47) за 2010 год, №3 (52) за 2011 год і №1 (62) за 2013.*

Я ўжо згадваў дзень 15 верасня 1934 года, у які Пятроўскі далучыў да справы Яўгена Скурко грыпсы (турэмныя запіскі) "Мы пажару сусветнага полымя...", "Слязамі заліты свет бязмежны...", "Як бог гуляў на вечарыне", "З газеты. Дварчанін...", спіс турэмнай ежы.

Тады ж, 15 верасня, Пятроўскі пастанавіў далучыць да гэтай справы і тэкст "Дзень 1-га Мая", бо ён, на думку абвінаваўцы, меў доказнае значэнне.

І зноў жа 15 верасня (!) Пятроўскі загадаў спыніць следства ў адносінах Б. Лагуна, Я. Гарэлічонка, І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга з прычыны адсутнасці іхняй віны (доказана ж – улёткі пісалі не яны); віноўнік (аўтар грыпсаў!) выяўлены – Яўген Скурко...

15 верасня (які ўсё ж такі багаты дзень!) нястомны віцэ-пракурор працаваў і над іншымі дакументамі, пра якія абавязкова яшчэ згадаю...

Аднак жа і нястомным трэба адпачываць, таму (відаць, на месяц) Пятроўскага падмянілі, на сцэну выйшаў эпізадычны персанаж – падпракурор А. Рашкоўскі.

27 ліпеня 1934 года Рашкоўскі даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела ў залежнасці ад вынікаў вобыску даставіць Яўгена Скурко, западозранага ў аўтарстве недазволеных рукапісаў, у бліжэйшы суд, дапытаць і ўжыць меру стрымання – часовы арышт ці нагляд паліцыі.



*Яўген СКУРКО.*

У гэты ж дзень Рашкоўскі накіраваў паперу і ў 3-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда – прасіў даслаць копію выраку ў справе Яўгена Скурко ад 6-7 лістапада 1933 года, а таксама ж копію выраку па той жа справе апеляцыйнага суда.

31 ліпеня на свой надрукаваны на машынцы зварот Рашкоўскі атрымаў рукапісны адказ: копію выраку акруговага суда даслаць немагчыма, бо акты той справы з прычыны апеляцый засуджаных накіраваны былі 12 снежня 1933 года ў апеляцыйны суд і да гэтага часу не вернуты (пра копію выраку апеляцыйнага суда нічога не сказана).

Ніякіх іншых зваротаў за подпісам Рашкоўскага ў мяне няма, але логіка падказвае: пасля гэтага ён павінен быў звярнуцца ў апеляцыйны суд...

Аднак жа да сваіх абавязкаў зноў прыступіў Пятроўскі; ва ўсякім разе 18 верасня 1934 года дакументы, якія прасіў Рашкоўскі, леглі ўжо на стол Пятроўскага з прыпіскай: “У адказ на Ваша пісьмо ад 15.09.(!) 1934 г. ...”

Бачыце, яшчэ адзін прыклад актыўнай дзейнасці Пятроўскага менавіта 15 верасня!

Пісьма Пятроўскага, на якое тут спасылаліся, я не знайшоў, але якраз яно прымусіла віцэ-старшыню Віленскага акруговага суда ў сваёй прыпісцы засведчыць, што ён “...дасылае ў дадатку копію выраку акруговага суда і копію выраку апеляцыйнага суда ў справе Яўгена Скурко...”

Аднак з верасня вярнуся ў жнівень.

8 жніўня 1934 года кіраўнік Віленскага следчага аддзела падкамісар Пухальскі, выконваючы даручэнне Рашкоўскага ад 27 ліпеня, аддаў загад у павятовы камісарыят дзяржаўнай паліцыі ў Паставах – зрабіць вобыск і ўзяць пад варту Яўгена Скурко.

Заўважу: у даручэнні Рашкоўскага гаварылася не толькі пра арышт, але і пра больш мяккую меру – нагляд паліцыі, бо форма пакарання залежала, падкрэсліваў падпракурор, ад вынікаў вобыску.

Аднак за гэты час, як бачна, з’явілася больш акрэсленае, мусіць, вуснае распараджэнне (ці не Пятроўскага?!) – арыштаваць! – і яно за подпісам Пухальскага і прыйшло ў Паставы 9 жніўня.

Праўда, павятовы камендант паліцыі падкамісар Людвік Манькевіч

адразу не кінуўся выконваць тое распараджэнне: пэўна ж, чакаў яшчэ нейкага адмысловага загаду.

Манькевіч дачакаўся таго, што 13 жніўня ў Паставы, а тады ўжо і ў Мядзель прыбыў сам Пятроўскі, і – што цікава – на адваротным баку распараджэння Пухальскага алоўкам накрэсліў дзевяць хуткіх радкоў: Яўгена Скурко затрымаць, даставіць у Паставы да акруговага судовага следчага, а пасля допыту замкнуць у арыштанцкай...

Магчыма, тады, 13 жніўня, Манькевіч і паслаў машынапісную тэлефанаграму № S 3 b/433 у Сваткі, у тутэйшы пастарунак.

Праўда, мінуў яшчэ тыдзень, пакуль рэпрэсіўнае кола закруцілася як след.


13.

15.Protokuł oględzin gazety "Czasopis dla usich" - 645 p.VI.

16. " " listu z podpisem "Siwers" - 678-678 odw.

17. " pobrania próbki /charakteru pisma Skurki - 1111-1111odw.

18. " ekspertyzy kaligraficznej - k.1114-1115.

19.Akta w sprawie jednodniówki "Białoruskie Życie" - 221,777,642-643 731.

20.Protokuł oględzin organu K.P.B./b/ "Orka" Nr.60/591 - 624-624odw.

21. " rewizji w pokoju Skurki i Sićki - 241-242 odw.

22. " oględzin przedmiotów, ujawnionych w czasie tej rewizji 553-562.

23.Postanowienia Sądu o środkach zapobiegawczych względem Skurki - 238,166,293,793,788,1097.

24.Pismo Posterunku P.P. w Swatkach - k.816.

25.Protokuł rewizji osobistej u Skurki - k.1092.

26.Protokuł oględzin przedmiotów, ujawnionych w czasie tej rewizji 1100.

27.Dowody rzeczowe - na przechowaniu w Biurze Podawczo-Wykonawczem kwity w aktach sprawy w zalakowanej kopercie.

28.Pismo gimnazjum im.Puszkina - k.140.-

D. Piotro

WICEPROKURATOR

/D.Piotrowski/

*Аўтограф віцэ-пракурора Даменіка Пятроўскага на абвінавайчым акце ў крымінальнай справе Яўгена Скурко.*

У ваяводстве (а значыць, і ў павеце) відавочна не спяшаліся – пэўна ж, да апошняга сачылі за хатай Скуркоў у Пількаўшчыне, спадзяваліся на большую здабычу: “А раптам да паэта з’явіцца які-небудзь падазроны фацэт? Пажадана з БССР! А то і не адзін! Тады і плён будзе большы!”

Ды ніхто, дзякаваць Богу, не з’явіўся, і толькі позняй раніцай 19 жніўня Манькевіч загадаў прыступіць да выканання вышэйзгаданай тэлефанаграмы:

“На падставе даручэння Пана Пракурора XIII раёна Віленскага акруговага суда ад 27 ліпеня 1934 года №XIII.DS.279/34 – загадваю неадкладна зрабіць хатні і асабісты вобыск у жыхара вёскі Пількаўшчына, Мядзельскай гміны Яўгена Скурко, сына Яна і Дамінікі, народжанага ў 1912 годзе, западозранага ў злачынстве, прадугледжаным 97 артыкулам крымінальнага кодэкса. Незалежна ад выніку вобыску – Яўгена Скурко затрымаць...”

У Сватках тэлефанаграму прыняў пастарунковы Ян Жалезны – той самы, пра якога ў “Лістках календара” сказана: “...Сваткаўскі паліцыянт Жалезны двойчы нечага праязджаў на веласіпедзе міма нас. Нешта вынюхвае...”[1]; дарэчы, праз пяць гадоў, у верасні 1939-га, Жалезны ў ліку іншых сваткаўскіх паліцыянтаў быў арыштаваны нарачанскімі хлопцамі і здадзены чырвонаармейцам...

Ранейшае число на бланку (13 жніўня ці 14-га – ужо немагчыма расчытаць!) атрамантам выпраўлена на “19”, побач накрэслены лічбы “10. 35” (час перадачы загаду ў Сваткі), а пасля апошняга друкаванага слова “затрымаць” разгоніста дапісана: “...і даставіць яго (Яўгена Скурко. – *Л. Д.-М.*) пад канвоем у камісарыят...”

[1] Запіс ад 3 верасня 1939 г.

Аднак жа сваткаўскія паліцыянты ўзяліся за сваю работу не 19-га, а 20 жніўня; акрамя тэлефоннага наказу Манькевіча яны мелі яшчэ і пастанову акруговага судовага следчага на Пастаўскі павет, сядзіба якога знаходзілася ў Глыбокім; у тыя дні абавязкі гэтага следчага выконваў чыноўнік Сэвінскі.

Цікава: Сэвінскі пісьмова ўдакладняў – так, Яўген Скурко падлягае і хатняму, і асабістаму вобыску, а вось ягоны бацька Ян і дзед Хведар (гаспадары сядзібы ў Пількаўшчыне) асабістаму вобыску не падлягаюць, а толькі хатняму!

Якая-ніякая, але праява павагі – польскія службоўцы пільнаваліся этыкету, і адносна гэтага згадаю два выпадкі, пра якія можна было прачытаць у газетах...

У лютым 1927-га арыштаваных грамадоўцаў чыгункай везлі ў турму “Ўронкі”, і начальнік канвою раптам убачыў, што адзін з арыштантаў (святар Аляксандр Коўш) адзеты ў расу, паверх якой блішчыць крыж!

Духоўная асоба!

А паліцыянты ў форме не мелі права канваіраць духоўных асоб!

Хоць начальнік і не ведаў пра сан арыштаванага, аднак жа папрасіў прабачэння і нават паўшчуваў святара: чаму бацюшка не патрабаваў, каб яго эскартавалі паліцыянты ў цывільным?

Каб за гэты промах на афіцэра не налажылі спагнанне, святар А. Коўш паабяцаў не скардзіцца...

Мінуў год, і пачаўся працэс над “Грамадой”.

*Крымінальныя справы, заведзеныя на Яўгена Скурко ў 1933-34 гг.*

Падсудных пад аховай пешай і коннай паліцыі перавозілі (па 16 душ у кожнай турэмнай карэце!) з Лукішак у Віленскі акруговы суд.

І тут ужо святар А. Коўш выказаў пратэст:

"Я – духоўная асоба! Я не магу ехаць пад канвоем людзей у мундзірах!"

Камандаваў эскортам аспірант М. Антановіч; ён не накінуўся на падсуднага з крыкам, а проста пачаў угаворваць (!) яго не пратэставаць – словам, польская паліцыя ўмела быць і шляхетнай...

На чале са старшым пастарунковым Хенрыкам Малюсам сваткаўскія паліцыянты больш за тры гадзіны (з 6-ці раніцы і да 09 г. 10 хв.) шукалі па ўсёй сядзібе Скуркоў забароненую літаратуру; дарэчы, у пратаколе вобыску асобным радком так і адзначана: Яўген Скурко падазраецца ў тым, што мае такую літаратуру.

Сваткаўскія паліцыянты ведалі моц слова; зналі, як яно ўплывае на людзей, – пэўна ж, такі вопыт здабылі, развозячы па вёсках дакументальную аповесць Францішка Аляхновіча "У капцюрох ГПУ".

Дык ці выпаралі што?

Здабыча была – напрыклад, узялі сшыткі з нататкамі, змест якіх тут жа вызначылі як *выўратовы* (падрыўны, шкодніцкі!).

Надзіва хутка вызначылі!

Ці дасканала ведалі беларускую мову?

Ці проста ўсё напісанае па-беларуску лічылі шкодніцкім?

Пытанні, якія не патрабуюць адказу...

Пастарунковы Жалезны склаў пратакол:

"...У пакоі Яўгена Скурко сярод кніжак знойдзена 8 (восем) сшыткаў з рознымі нататкамі, змест якіх выўратовы, а таксама ж выяўлены адзін кішэнны блакнот зноў жа з рознымі запісамі. Сшыткі і блакнот арыштаваны і ў прысутнасці ўладальніка апячатаны сургучнай пячаткай з літарамі "Н. М." (Пэўна, ініцыялы старшага пастарунковага Хенрыка Малюса? – *Л. Д.-М.*)..."

Дакумент завяршаецца сказам: "...гаспадары сядзібы ніякіх прэтэнзій у пратакол не ўняслі..." і пяццю подпісамі – Х. Малюса, Я. Жалезнага, Яўгена Скурко і двойчы Яна Скурко (Ян падпісаўся і за свайго непісьменнага бацьку Хведара).

Дарэчы, і Яўген, і Ян свае подпісы паставілі па-польску, а што да іншых асаблівасцей дакумента, то яны такія: найбольш выразны подпіс Малюса, ён распісаўся не асадкай Жалезнага, а ўласным вечным пяром, і дакумент быў згорнуты ў чатыры столкі – засталіся лініі згінаў...

Аднак жа не ўсе крамольныя паперы назваў пастарунковы Жалезны; іх пашыранае апісанне ёсць у пратаколе агляду ад 15 верасня 1934 года, які склала ў Вільні супрацоўніца пракуратуры пратакалістка-машыністка Тэкля Янкоўская.

Пятроўскі вывучыў гэтыя паперы, далучыў іх да справы ў якасці рэчавых доказаў і матэрыялаў для графолагаў, і тады ж, 15 верасня (па-сапраўднаму творчы дзень!) падпісаў згаданы пратакол (восем пунктаў на дзвюх поўных старонках):

"1. Сшытак, абгорнуты ў газету "Вядомосьці", з надпісам ад рукі "жнівень 1934 г., Яўген Скурко. Апавяданні і вершы". На адной са старонак гэтага сшытка накрэслена: "Максім Танк". Ёсць у сшытку і апавяданне на беларускай мове, змест якога для справы не мае значэння.

2. Дваццаць дзевяць старонак розных нататок, змест якіх для справы не мае значэння.


Akt Nr I 580/33
Więzień Śledczy
Nazwisko Skurko
Imię Eugenjusz
Pawilon 7
Cela Nr 189

Do Sądu Okręgowego w Wilnie

Podanie

Niniejszem proszę Sąd Okręgowy w Wilnie, o zezwolenie na rozpatrzenie aktów sprawy.

Wilno 18.IX.1933 r.
E. Skurko

Więzienie Karno-Śledcze OTRZYMANO 18 WRZE 1933 w Wilnie na Łukiszkach

Akt Nr I.H. 1065/33
Więzień Śledczy
Nazwisko Gorelczonok
Imię Jan
Pawilon I
Cela Nr 188

Do P. Prokuratora XIII r. przy Sądzie Okręgowym w Wilnie.

Podanie.

Niniejszem proszę p. Prokuratora o zezwolenie mi na prenumeratę gazety: Słowo albo Gazeta Warszawska.

Wilno dnia 13 maja 1934 r.
J. Gorelczonok

Więzienie Karno-Śledcze OTRZYMANO 13 MAJ 1934 w Wilnie na Łukiszkach

*Заява вязня Яўгена Скурко ад 18.09.1933 г. і заява вязня Яна Гарэлічонка ад 13.05.1934 г.*

3. Пяць чарнавікоў (ці пяць агульных сшыткаў? – *Л. Д.-М.*[1]), а таксама адзін блакнот з усялякімі рукапіснымі творамі па-беларуску.

4. Адзін чарнавы сшытак, на першай старонцы якога – малюнак: два кавалі пры кавадле, і верш з прысвячэннем: “Вільня, 13.12.1931 г., Я. Гарох[2]”. А яшчэ ў сшытку змешчаны запісы, сярод іншых ёсць і такі: “21. 1 (студзеня. – *Л. Д.-М.*). Бацька Лавора даслаў ліст, а я яго аддаў Серафіму. Напісаў “трактар”[3], не ведаю, ці несці яго ў рэдакцыю”... На наступных старонках занатаваны вершы.

5. Пяць газетных выразак, адна з якіх пад загалоўкам “Арыгінальны ліст з Саветаў...”[4], а другая – “Баронячы карову, трыста сялян напалі на секвестратара”.

6. Сшытак у чырвонай вокладцы з рознымі нататкамі.

7. Канверт ад пісьма, дасланага поштай СССР.

8. Паштоўка з Лукішак, адрасаваная Яўгену Скурко, які жыў у Вільні на вуліцы Букавая, 14, кв. 1; напісаў паштоўку 1 красавіка 1934 года вязень Серафім Лавор...”

Апошні, восьмы пункт, прымушае задумацца, нават здзівіцца.

З Лукішак С. Лавор шле Яўгену Скурко на волю (!) паштоўку.

І калі шле?!

У красавіку 1934-га – то-бок, тады, калі Яўген Скурко павінен быў сам знаходзіцца на Лукішках!

Няўжо С. Лавор не ведаў пра гэта?

Не мог не ведаць – турэмная “сувязь” працавала выдатна!

А можа якраз і ведаў, што сябар на волі, таму і накіроўваў сваю паштоўку на вядомую вуліцу?!

Дык дзе ў той час быў паэт?

---

[1] У пратаколе надрукавана “3. Pięć brulionów...” Па-польску “brulion” – гэта адначасова і чарнавік, і агульны сшытак. Так што не зусім зразумела – ці тут ідзе гаворка пра пяць асобных чарнавых лісткоў, ці пра пяць агульных сшыткаў. Калі гаворка менавіта пра сшыткі, то вельмі верагодна, што ў іх знаходзіўся пачатак “Лісткоў календара”. Пра гэты дзённікавы пачатак сам паэт пісаў так: “... Першыя запісы адносяцца да 1932 – 1934 гадоў... Гэтыя сшыткі (!)... загубіліся ў розных судовых актах...”

[2] Пра Янку Гароха ў нарысе “Аўтабіяграфія” (1963 г.) Максім Танк пісаў як пра паэта і здольнага мастака з-пад Стоўбцаў.

[3] Назва твора, у пратаколе дадзена яна з малой літары.

[4] Поўная назва па-польску гучыць так: “Oryginalny list z Sowietów na kładce drzewa”.

Пра адну “невялікую недакладнасць” у жыццяпісе аўтара “Нарачы” гаворыць Мікола Арочка ў кнізе “Максім Танк. Жыццё ў паэзіі”:

“...В. Таўлая і Я. Міско затрымала маладзечанская паліцыя падчас іх спробы перайсці мяжу. У пачатку (!) 1934 г. іх, скатаваных, прывезлі на Лукішкі. Але ні Таўлай, ні Міско нідзе не пішуць, што ў той жа час тут, за кратамі, знаходзіўся і Максім Танк, а, паводле яго ж біяграфіі, ён сядзеў на Лукішках ад мая 1933 г. па май 1934 г. ...”

Паэт, бясспрэчна, чытаў кнігу М. Арочкі, але, здаецца, на “невялікую недакладнасць” у сваёй біяграфіі ўвагі не звярнуў.

А можа, і звярнуў і ў прыватнай гутарцы з аўтарам кнігі нейкім чынам абгаварыў прыкрую “недакладнасць”?

Ці вядома каму пра гэта?

Але цытую М. Арочку далей:

“У дакументальный аповесці[1] Я. Міско піша, што на Лукішкі яго прывезлі ў сярэдзіне лютага (1934 г. – *Л. Д.-М.*), а Таўлая трохі раней. Таўлай адразу ж з другога паверха, дзе сядзеў, пераслаў сябру... “грыпс з кучай навін”: “...нядаўна толькі выпусцілі Максіма Танка. Ці надоўга?..”

М. Арочка робіць выснову:

“...Слова “нядаўна”, сказанае ў дачыненні да выхаду Танка з Лукішак, хоць і няпэўнае па часе, але сведчыць яно, што яго ўжо не было за кратамі (у пачатку 1934-га. – *Л. Д.-М.*)...”

Аднак жа начальнік Лукішак Чакала сцвярджае: быў; 24 верасня 1934 года ён рапартуе Пятроўскаму: “...Яўген Скурко знаходзіўся ў даверанай мне турме з траўня 1933 г. і да траўня 1934 г. ...”

Тут не магу не заўважыць – у гэтым рапарце Чакала падкрэслівае: Яўген Скурко паводзіў сябе ў турме здавальняюча.

А 20 ліпеня 1933 года на заяве, у якой паэт прасіў дазволу выпісаць газету “Глос Вільна”, Чакала напісаў (аб чым ужо гаварылася): Яўген Скурко паводзіць сябе нездавальняюча!

Гаворка пра адзін і той жа турэмны час – ацэнка ж паводзін розная.

Чаму?

Адказ можа быць такі: ці начальнік забыўся, што пісаў год назад, ці вязень на працягу месяцаў паспакайнеў...

Да рапарту Чакалы яшчэ вярнуся, а пакуль што падыму тыя архіўныя сведчанні, якія ўмацоўваюць далікатную здагадку М. Арочкі.

Вышэй гаварылася аб гончых лістах, якія рассылаліся ў пошуках паэта ў 1932, 1933 і 27 студзеня 1934 года.

Запомнім апошнюю дату, пасля яе мінула поўныя дзевяць месяцаў.

І вось 10 лістапада следчы 2-й Віленскай акругі пастанавіў: з улікам таго, што 20 жніўня Яўген Скурко арыштаваны і пасаджаны ў Лукішкі, гончыя лісты, выпісаныя 27 студзеня, скасаваць!

Дык што выходзіць?

А выходзіць наступнае: раз 27 студзеня 1934 года на Яўгена Скурко выпісалі гончыя лісты (пачалі шукаць!) – значыць, у студзені згаданага года, прынамсі, пасля 27-га чысла яго ўжо за кратамі не было.

Ёсць прычына думаць: да разгляду справы (у апеляцыйным судзе 1 траўня) паэта адпусцілі, а пасля спахапіліся.

---

[1] “Было яно калісьці...”

Праўда, ніякіх дакументаў адносна “звальнення з турмы” ў вышэйадзначаны час я не знайшоў; знайшоў толькі адваротнае сведчанне Чакалы.

Але няўжо пан Чакала (паводле Я. Міско: рашучы санацыйны служка) меў такую ж дрэнную памяць, як і дазорац Трухан?!

Ды якой бы ні была ягоная памяць, С. Лавор не ў пустату пасылаў паштоўку, змест якой, на жаль, у пратаколе не раскрыты...

Аднак вярнуся да сваткаўскіх паліцыянтаў: а 10-й гадзіне 20 жніўня 1934 года яны затрымалі Яўгена Скурко.

У кнізе У. Калесніка “Зорны спеў” чытаю:

“... Яфрэйтар Малюс арыштаваў маладога паэта, закаваў у кайданы і пагнаў у Паставы. Там 21 жніўня арыштаванага дапытаў следчы суддзя пан Салавей...”

Згаданы “суддзя” – кіраўнік следчага аддзела пшадоўнік Сяргей Салавей.

Па выніках допыту ён склаў дзве запіскі.

Адрасат першай не пазначаны, але трэба думаць – дакумент (20 радкоў на машынцы) складзены для Сэвінскага, які (памятаем) выконваў абавязкі акруговага судовага следчага ў Пастаўскім павеце.

Салавей адзначаў: допыт праведзены на падставе даручэння, падпісанага Пятроўскім 14 траўня 1934 года; затрыманы не ведае, у які дзень нарадзіўся[1], таму назваў толькі месяц і год свайго нараджэння (верасень, 1912-га); быў асуджаны Віленскім акруговым (!) судом паводле 97 артыкула на два гады турмы з адтэрміноўкай выканання прысуду на пяць гадоў...

Тут пшадоўнік Салавей памыліўся: такі вырак паэт займеў ад апеляцыйнага суда – акруговы ж засудзіў на шэсць гадоў!

Як і начальнік турмы Чакала (Чакала, праўда, зрабіў гэта крыху пазней – 24 верасня), Салавей паведамляе ў сваёй запісцы, што да 1 траўня 1934 года паэт знаходзіўся на Лукішках!

Адзначана ў запісцы і самае галоўнае: Яўген Скурко заявіў, што не пісаў грыпс “Дзень 1-га Мая!”

Другая запіска (29 машынапісных радкоў) мае нумар –

Sygnatura akt Kps 89/34

**Protokół przesłuchania ~~oskarżonego~~-podejrzanego**[1)]

sporządzony przez

sędziego śledczego Sądu Okręgowego — ~~Sąd~~ w Wilnie na pow. Postawski

~~wice-pod-prokuratora Sądu Okręgowego w~~

z siedzibą w Głębokiem

dnia 21 sierpnia 1934 ~~o godz.~~

w miejscowości Postawy

~~na podstawie art. 20 przep. wprow. k.p.k.~~[2)]

**Obecni:**

Sędzia: J. Sewiński

~~Wice-pod-prokurator S. O.:~~

~~Protokulant:~~

W sprawie karnej przeciwko ... o ...

~~stawił — się — na wezwanie~~ — sprowadzon. ~~— oskarżon~~ — podejrzanego którem wyjaśniono, jakie przestępstwo mu (jej) zarzucono i jakie dowody przeciw niemu (niej) zebrano. ~~Oznajmiono postanowienie z dnia ... 19... r. o wszczęciu śledztwa.~~

~~Oskarżon~~ — podejrzany podaje:

Imię i nazwisko (rodowe nazwisko mężatek i wdów): Eugeniusz Skurko

Przezwisko: —

Imię i nazwisko ojca i matki: Jan, Dominika z Chwalków

Wiek (dzień, miesiąc i rok urodzenia): wrzesień 1912 r.

Miejsce i powiat urodzenia: w. Pilkowszczyzna pow. Postawy

Przynależność państwowa: polska

Narodowość: białoruska

Stan (żonaty, zamężna, rozwiedzion..., separowan..., woln...): kawaler

Stosunki rodzinne (wiek, liczba dzieci i t. d.) —

Miejsce zamieszkania: Pilkowszczyzna, gm. Kniaziół, pow. Postawy

Wykształcenie: 7 klas gimnazjum

Wyznanie: prawosławne

Zawód (zawód rodziców u małoletnich, zawód męża u mężatek): robotnik

Stan majątkowy: —

Służba wojskowa: poborowy, kat. „A”

Ordery i odznaki: —

Sprawowanie opieki lub kurateli: —

Zaopatrzenie ze Skarbu Państwa (emerytura, renta i t. d.): —

Poprzednie kary: karany wyrokiem S. Apel. w Wilnie z 1.V.1934 z art. 97 K.K. na 2 lata więzienia z zawieszeniem na 5 lat

1) Zbędne wyrazy druku należy skreślić.
2) Skreślić jeżeli protokół sporządza sędzia.

*Пратакол допыту западозранага Яўгена Скурко ад 21 жніўня 1934 г.*

[1] Незразумела чаму Яўген Скурко ўтаіў гэта, бо, калі меркаваць па “Аўтабіяграфіі” (1963 г.), ужо ў 1922 годзе ён ведаў, у які дзень з’явіўся на свет: “Восенню 1922 года, калі наша сям’я вярнулася з бежанства ў сваю родную вёску Пількаўшчыну, на вокладцы нейкай старой кнігі /.../ я сустрэў /.../ запіс, пакінуты рукою майго бацькі: “17 верасня па новаму стылю 1912 года радзіўся Жэня”...”

S 3b/434, які на адну лічбу не супадае з нумарам тэлефанаграмы Манькевіча – S 3b/433.

Запіска накіравана акруговаму судоваму следчаму на Пастаўскі павет – у ёй між іншага згадваецца, што паэт караны апеляцыйным (!) судом на два гады турмы (гэтым разам Салавей не памыліўся!).

Пшадоўнік высноўваў: Яўгена Скурко неабходна часова ўзяць пад варту, бо ён актыўны дзеяч КПЗБ, зацяты аўтар турэмных грыпсаў і таму, каб не пазбег законнага пакарання і не ўцёк у саветы, яго нельга пакідаць на волі.

У апошнім радку Салавей прасіў зацвердзіць пратакол вобыску.

У той жа дзень, 21 жніўня, Сэвінскі зацвердзіў згаданы пратакол, дапытаў затрыманага і склаў пратакол допыту, а таксама ж падпісаў пастанову аб часовым (на два месяцы – да 20 кастрычніка 1934 года) арышце.

У. Калеснік аднак пісаў: “... арыштаванага выпусцілі. Але ненадоўга. 19 верасня ў Паставы выехаў віленскі следчы, дапытаў паўторна і распарадзіўся арыштаваць паэта і пераслаць па этапу ў Вільню...”

Максім Танк у лісце (тым самым – за студзень 1978 года!) аспрэчвае гэта: “Паўторнага арышту ў верасні 1934 года не магло быць, бо я ўжо са жніўня месяца сядзеў на Лукішках...”

Гэта праўда – яго ўжо 22 жніўня даставілі ў вязніцу.

У пастанове аб часовым арышце Сэвінскі натаваў: у сувязі з новымі доказамі ёсць небяспека, што западозраны Яўген Скурко можа схавацца...

На адвароце пратакола допыту чыноўнік зафіксаваў: паводле слоў Яўгена Скурко, ён сёлета з 30 красавіка і па 20 жніўня ў Вільні і ў Паставах не браў удзел у змове “Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі” і не ведае, што ў гэтую партыю ўваходзяць людзі, мэта якіх пазбавіць польскую дзяржаву незалежнасці і адарваць частку яе тэрыторыі; грыпс “Дзень 1-га Мая” не пісаў, зместу яго не ведае; да кампартыі не належаў і не належыць, як і да іншых арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Мядзельскай гміны; асуджаны ж толькі за змест артыкулаў і рэпартажаў...

Дзмітры Бугаёў у кнізе “Паэзія Максіма Танка” адзначаў: згаданыя артыкулы і рэпартажы малады пясняр друкаваў у легальным камуністычным друку – напрыклад, у “Часопісе для ўсіх”.

Вядома ж, камуністы не абвяшчалі, што яны стаяць за тым ці іншым выданнем, а што да заявы: “...не належаў і не належу да кампартыі...” – то Анатоль Сідарэвіч даў такую ацэнку:

– У міжваеннай Польшчы прыналежнасць да камуністычнай партыі лічылася злачынствам!

Словам, на допыце юнак паводзіў сябе разумна...

З пастаўскага пратакола допыту можна даведацца, што Яўген Скурко – беларус, нежанаты і праваслаўны; што ён – работнік (!), мае 7-класную гімназічную адукацыю і польскае грамадзянства і з’яўляецца прызыўніком катэгорыі “А” – то-бок, прыгодны да вайсковай службы.

Адзначана таксама, што маці паэта Дамініка паходзіць з дому Хвалькоў.

Цікавыя і такія драбніцы – у адпаведных рубрыках Сэвінскі прочыркам паказаў, што Яўген Скурко не мае мянушкі, уласнай сям’і, маёмасці, узнагарод, апякунскіх абавязкаў і ніякіх выплат з дзяржаўнага бюджэту.

У іншых пратаколах чыноўнікі пісалі: Яўген Скурко не работнік, а

вучань, а што да праваслаўнай веры, то на судзе, які адбыўся 5 снежня 1934 года, паэт заявіў, што ён – “бэзвызнанёвец”[1]!

І на схіле жыцця, у 1990 годзе, вяртаўся да гэтай тэмы:

Калі, праклінаючы лёс
Недарэмна,
Яго мы стараліся
Пераадолець,
Я, згодна рашэнню
Камуны турэмнай,
Суду заяўляў цвёрда:
Бэзвызнанёвец...

Апошні запіс у пастаўскім пратаколе – можна сказаць, сакральная згадка пра “знакаміты” артыкул 97, пад якім хадзілі ці не ўсе вязні Лукішак!

І не толькі Лукішак.

Невыпадкова ж паэт рыфмаваў:

Без “свядэцтва маральнасці”
Ён пакінуў гэты свет.
На магіле напісалі:
“Беларус... паэт...”
Толькі змоўкнуў звон хаўтурны,
Як паліцыя прыйшла
І нябожчыку паэту
Жмут павестак прынясла,
На якім чорным па белым
Піша пракурор, каб Эм
Неадкладна ў суд з’явіўся,
Артыкул – 97.

Дык што ж гэта за артыкул такі?

Разабрацца дапамагла спадарыня А. Глагоўская, даслаўшы крымінальны кодэкс Польшчы за 1932 год.

Чытаю 17 раздзел “Дзяржаўныя злачынствы”:

“Арт.(ыкул) 97, параграф 1. Хто з мэтай учыніць злачынства, якое прадугледжана ў арт.(ыкулах) 93, 94 ці 95, уваходзіць у змову з іншымі асобамі, – падлягае турэмнаму зняволенню...

...Арт.(ыкул) 93, параграф 1. Хто спрабуе пазбавіць Польскую Дзяржаву незалежнасці або адарваць частку яе тэрыторыі, – падлягае турэмнаму зняволенню на тэрмін не менш як 10 гадоў, або пажыццёва, або смяротнай кары.

Параграф 2. Хто спрабуе гвалтоўна змяніць дзяржаўны лад Польшчы, – падлягае турэмнаму зняволенню на тэрмін не менш як 10 гадоў або пажыццёва.

Арт.(ыкул) 94, параграф 1. Хто зробіць замах на жыццё або здароўе Прэзідэнта Польскай Рэспублікі, – падлягае турэмнаму зняволенню на тэрмін не менш як 10 гадоў або пажыццёва, або смяротнай кары.

Параграф 2. Хто спрабуе адхіліць Прэзідэнта Польскай Рэспублікі ад яго пасады або захапіць яго ўладу, або незаконна ўплываць на яго дзейнасць сілай ці пагрозай, – падлягае турэмнаму зняволенню на тэрмін не менш як 10 гадоў або пажыццёва.

---

[1] Бэзвызнанёвец (*польск.* bezwyznaniowiec) – чалавек, які не верыць; не належыць ні да якога веравызнання.

Арт.(ыкул) 95. Хто спрабуе гвалтоўна ліквідаваць Сейм, Сенат, Нацыянальны Сход, Урад, Міністра ці Суды або захапіць іх уладу, – падлягае турэмнаму зняволенню на тэрмін не менш як 10 гадоў...”

Як бачым, скрозь то доўгі тэрмін, то пажыццёвыя нары, то смерць – словам, над паэтам навісла вялікая пагроза, іншага выбару не было.

Зрэшты, не – выбар (нялюдскі) усё ж такі быў, 97 артыкул меў і другі параграф:

“Не падлягае кары той, хто, узяўшы ўдзел у змове, выкрые яе ўладзе... перш чым змова была ўчынена...”

Адкрытае запрашэнне ў даказчыкі-даносчыкі!

Дзякуючы такой д’ябальскай паблажцы, слабыя духам тапілі сваіх і “ратавалі” сябе.

Праўда, другі параграф меў істотную заўвагу: калі змову раскрые заснавальнік змовы – ён усё адно будзе пакараны...

Дзень 21 жніўня 1934 года скончыўся тым, што паэту ўручылі копію судовай пастановы аб часовым арышце, аб чым сведчыць роспіс лацінкаю арыштаванага ў левым ніжнім кутку дакумента.

Тады ж, 21 жніўня, пад распіску Яўген Скурко быў здадзены канвойным.

Паводле У. Калесніка: “...Закаванага ў кайданы Танка пешкі (!) пагналі ў Вільню...”

Няўжо пешкі?

Ад Паставаў жа да Вільні больш за 100 кіламетраў!

Колькі ж гэта трэ было цягнуцца-клыпаць?

Нешта не верыцца ў такі паход, асабліва з улікам таго, што ўжо назаўтра, 22 жніўня, начальнік Лукішак Чакала пісьмова паведаміў Пятроўскаму: а 6-й гадзіне (!) ў турму дастаўлены Яўген Скурко і ўнесены ў кнігу вязняў: 1.А. № 647/34.

6-я гадзіна не 18-я – то-бок, з самага ранку, адно мінула ноч, 22 жніўня паэт ужо быў за мурамі Лукішак; яго везлі, а не гналі пехатой – за адну ноч пехатой 100 кіламетраў не пройдзеш!

А можа, Чакала зноў памыліўся, і паэт апынуўся ў вязніцы значна пазней?!

Вышэй згадвалася недакладная рэляцыя Чакалы ад 24 верасня, дык, магчыма, такім жа недакладным было і паведамленне ад 22 жніўня?!

Ды не, тут лукішскі галава не схібіў...

Аднаго разу ўбачыўшы ў цягніку двух паліцыянтаў і арыштаванага, Максім Танк натаваў у “Лістках календара”:

“...успомніў сваё падобнае “падарожжа пад эскортам” з Глыбокага ў Вільню вясной 1933 года. Толькі ехаў я тады ў перапоўненым пасажырскім вагоне...”[1]

І вясной 1933-га, і летам 1934-га закаванага ў наручнікі паэта везлі (паўтаруся!), а не гналі, і везлі не ў цялятніку якім, а ў пасажырскім вагоне, няхай сабе й перапоўненым...

Праўда, у кнізе вершаў “За маім сталом” ёсць радок: “...Віленскім гасцінцам гналі пад канвоем...” – але ж гэта не дакументальнае, а паэтычнае сведчанне...

Такія сведчанні-перабольшанні адпавядалі бальшавіцкай ідэалогіі – і

[1] Запіс ад 7 красавіка 1936 г.

ў вялікім, і ў малым патрэбен быў кідкі вобраз, яркая падзея; у гісторыі, скажам, ніякай падзеі не было, дык яе выдумлялі і ўводзілі ў гісторыю – як той штурм Зімняга, прыдуманы С. Эйзенштэйнам.

У. Калеснік, можна сказаць, дапусціў перабольшанне ў стылі вялікага рэжысёра...

22 жніўня ў Глыбокім бухгалтар следчага аддзела распісаў разліковую ведамасць, згодна з якой кошт камандзіроўкі Сэвінскага ў Паставы склаў 3 злотых і 25 грошаў.

Зусім сціплыя грошы, візіт лекара і то каштаваў 5 злотых...

У бухгалтарскім падліку прыгожай фігурнай лініяй выкраслены выдаткі на сутачныя, чыгуначныя квіткі (аўтобусныя білеты не ўпамінаюцца) і фурманкі.

Сутачных магло і не быць – камандзіроўка Сэвінскага хутчэй за ўсё доўжылася нейкія дзве-тры гадзіны, але от жа цікава: на чым з Глыбокага ў Паставы чыноўнік прыехаў?

Калі цягнік і фурманкі адпадаюць (на падводзе за пяцьдзясят кіламетраў такі важны пан не паедзе! На ровары таксама!), то застаецца хіба што аўто.

Пэўна ж, так і было – Сэвінскі прыбыў у службовай машыне, а гэтыя 3 злотыя і 25 грошаў – ці не кошт спаленага бензіну...

Разліковую ведамасць даслалі ў павятовы камісарыят дзяржаўнай паліцыі ў Паставах, адтуль яна трапіла ў Вільню старшыні акруговага суда, і той зацвердзіў яе 4 верасня ўсё таго ж 1934 года.

Праз тыдзень, 10 верасня, у Вільні старшы пастарункова следчай службы Пладоўскі пры ўдзеле двух надзейных, як адзначана ў пратаколе, сведкаў (работнікаў з Лукішак!) дапытаў аспіранта турэмнай аховы Тадэвуша Бараноўскага.

Нагадаю: 30 красавіка 1934 года аспірант Бараноўскі выявіў у вязня Браніслава Лагуна, які знаходзіўся ў 162-й камеры, забаронены рукапіс на польскай мове "Дзень 1-га Мая".

Паводле анкетнага трафарэту, паляк Бараноўскі меў 25 гадоў, нарадзіўся ў Любліне, жыў на Лукішках, у войску не служыў, пад судом не знаходзіўся, хадзіў у касцёл і з вязнем Б. Лагуном раней не быў знаёмы...

Бараноўскі ўдакладніў, што знайшоў ён крамольны рукапіс, абшукваючы Б. Лагуна – у кішэні яго нагавіцаў!

– Гэты рукапіс?

Са справы Браніслава Лагуна і Яўгена Скурко Пладоўскі дастаў грыпс "Дзень 1-га Мая".

– Гэты! – пацвердзіў Бараноўскі і працягваў далей:

– На маё пытанне: "Ад каго ты атрымаў грыпс?" Лагун адказаў: "Ад калегі з турмы, але хто ён, не скажу, бо я не правакатар!"

У той жа дзень, 10 верасня, Пладоўскі дапытаў і Б. Лагуна.

Вязень адмёў ад сябе віну: ні Бараноўскі і ніхто іншы 30 красавіка ў яго нічога не знаходзіў, і ён, Браніслаў Лагун, ніколі не бачыў той грыпс, які нібыта выцяглі ў яго з кішэні; вязень прызнаў толькі, што меў у тым часе адміністрацыйную кару, але не за хаванне лістоўкі, а за чырвоны бант, які прыкалоў сабе на кашулю 1 мая.

Словам, выкруціўся...

Магчыма, у гэтай сітуацыі прамахнуўся Бараноўскі – дапускаю, ён не зафіксаваў пісьмова і пры сведках сваю знаходку, а далажыў па камандзе пра яе толькі на словах і, пэўна, са спазненнем.

Вопыту яшчэ не меў; аспірант, адным словам – то-бок, кандыдат на стражніка, і, мусіць жа, пасля такога промаху яго неўзабаве й накіравалі ў Варшаву крыху падвучыцца турэмнай рабоце ў адпаведнай школцы.

Пра тую школку гаворка наперадзе, а пакуль што ўзнікае пытанне: чаму 14 траўня 1934 года Пятроўскі скіраваў увагу следства не на ім, вязню Б. Лагуну (у якога знайшлі не папяровую кветачку – палітычную ўлётку!), а найперш пракурорская маланка паляцела ў Яўгена Скурко.

У травеньскім распараджэнні Пятроўскі згадвае Б. Лагуна толькі адзін раз і то нібыта ўскосна, а Яўгена Скурко ўпамінае ажно шэсць разоў!

Пэўна ж, тут сваю ролю адыграла вядомая ўладзе падпольная дзейнасць паэта...

Дзіўна таксама й тое, што Трухана, І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга дапыталі 12 красавіка, а Бараноўскага і Б. Лагуна толькі 10 верасня!

Чамусьці чакалі пяць месяцаў...

13 верасня 1934 года Пятроўскі пастанавіў: справу № XIII.DS.105/34 І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга далучыць да справы № XIII.DS.279/34 Яўгена Скурко, таму што сумесны іх разгляд дапаможа ўбачыць у поўным аб'ёме злачынную дзейнасць апошняга.

17 верасня Пятроўскі паслаў Чакалу запыт адносна паводзін Яўгена Скурко ў турме, і ў той жа дзень прапанаваў судоваму следчаму 2-й Віленскай акругі дапытаць Яўгена Скурко паводле пунктаў:

1. У Вільні да 14 лютага 1934 г. даваў чытаць свой твор "Як бог гуляў на вечарыне", у якім адкрыта зневажаў Бога /.../

2. У Вільні да 30 красавіка 1934 г. напісаў і пашырыў адозву ("Дзень 1-га Мая". – *Л. Д.-М.*): "Супраць тэрору і пацыфікацыі! У абарону СССР і Савецкага Кітая[1]! Супраць фашыстоўскай дыктатуры! За Польскую Савецкую Рэспубліку! За права на самавызначэнне аж да аддзялення! Пад такімі лозунгамі 1 Мая пралетарыят усёй краіны будзе змагацца пад сцягам Кам. Партыі..."

Пятроўскі падкрэсліў: Яўген Скурко адкрыта заклікаў да гвалтоўнай змены палітычнага ладу ў Польшчы і адарвання часткі яе тэрыторыі.

19 верасня пачаўся допыт; у рукапісным пратаколе ў ліку вядомых фактаў (грамадзянства, нацыянальнасць, вера...) адзначаны й такі: Яўген Скурко вучыўся ў сёмым класе Віленскай рускай гімназіі імя Пушкіна...

Вядома, паэт не прызнаўся, што з'яўляецца аўтарам блюзнерскага верша "Як бог гуляў на вечарыне" і адозвы "Дзень 1-га Мая"; следчаму даў такое тлумачэнне: да 14 лютага і пасля, да 1 траўня 1934 года, знаходзіўся на Лукішках, ніякіх твораў не пісаў і ніякай літаратуры сярод вязняў не распаўсюджваў.

Як 12 красавіка Іцак Фейгельман, так 19 верасня ён, Яўген Скурко, мусіў быў упратаколіць, што на Лукішкі трапіў за "прыпісаную" яму камуністычную дзейнасць і што сядзеў разам з Язэпам Гарэлічонкам, Барташэвічам, імя якога не запомніў[2], і Мікалаем Асіповічам, і ў іхняй камеры (настойваў на гэтым!) не было ні грыпсаў, ні адозваў; на шпацыры сустракаўся з іншымі вязнямі, але не размаўляў з імі, бо размовы забараняліся; на волю выйшаў 1 траўня 1934 года, палітыкай не займаўся, да кампартыі не належаў, але 20 жніўня 1934 года зноў узяты пад варту невядома за што!

[1] Частка Кітая, якая кантралявалася камуністамі Мао.
[2] Імя Барташэвіча: Язэп.

Асобна паведаміў: паліцыя забрала сшыткі з вершамі па-беларуску, але ніякіх падрыўных рукапісаў не знайшла!

І падкрэсліў: грыпс "Дзень 1-га Мая" ўбачыў толькі на допыце 21 жніўня ў Паставах...

24 верасня 1934 года Пятроўскі атрымаў Чакалаў адказ на свой запыт ад 17 верасня...

Пра гэты адказ-рапарт (22 радкі на машынцы) вышэй гаварылася; у дакуменце сярод іншага сказана: Яўген Скурко сядзеў у камеры № 164 разам з Б. Лагуном і Я. Гарэлічонкам[1].

Цікава, у рукапісным пратаколе за 19 верасня, пра які толькі што йшла гаворка, адзначана: так, Яўген Скурко сядзеў з Я. Гарэлічонкам, але Б. Лагун не ўпамінаецца; як аднакамернікі паэта ўпамінаюцца Я. Барташэвіч і М. Асіповіч.

А вось яшчэ адна разбежка: Чакала, як бачым, даводзіць, што Б. Лагун у траўні 1934-га – вязень камеры № 164, а ў тым жа траўні месяцы (5-га чысла) таго ж 1934 года, дакладваючы таму ж Пятроўскаму пра знойдзены ў Б. Лагуна грыпс, Чакала пісаў: вязень Б. Лагун знаходзіцца ў камеры № 162!

Хто тут памыліўся з нумарамі камер – начальнік турмы ці машыністка, перадрукоўваючы яго пісьмо?

Здаецца, памылка да суда не дайшла, а наогул жа такія апіскі выдатны матэрыял для адвакатаў.

Трэба сказаць, нешта містычнае ёсць у лукішскім побыце Б. Лагуна; у "Лістках календара" чытаю: "...крамольныя матэрыялы былі знойдзены ў турме, і не ў маёй (Яўгена Скурко. – *Л. Д.-М.*) камеры, а ў суседняй, дзе тады сядзелі т. Б. Лагун, Д. Файгенберг і І. Фейгельман..."[2]

Выходзіць, Б. Лагун знаходзіўся і ў 175-й камеры!

Што гэта – памылкі, недакладнасці ці паэзія памяці?!

А можа, усё значна прасцей – мабыць, людзей часта616 пераtasоўвалі па кутузках, таму цяжка было запомніць (нават начальніку турмы!): хто з кім і ў якой цэлі мучыўся!

І ў выніку радыкальныя вязні часам не паспявалі забраць з сабой "крамольныя матэрыялы", а памяркоўныя зняволеныя, апынуўшыся на новых нарах, нават і не здагадваліся, што, напрыклад, у тым жа вентылятары схаваны грыпсы.

Робячы свой запыт Чакалу, Пятроўскі, пэўна ж (кажу "пэўна ж", бо не маю пад рукой гэтага запыту), ставіў пытанне: ці меў Яўген Скурко доступ да І. Фейгельмана і Ф. Фейгенберга – у іхнюю камеру № 175?

Чакала адказаў: не меў!

Адказ на карысць паэту...

28 верасня 1934 года Пятроўскі падпісаў абвінаваўчы акт, у якім падкрэсліў: Яўген Скурко – аўтар рукапісных твораў "Як бог гуляў на вечарыне", "З газет. Дварчанін..." і "Дзень 1-га Мая".

Быў зроблены і такі акцэнт: у пількаўскай хаце паэта знойдзены сшыткі, у якія занатаваны па-беларуску (!) апавяданні і вершы, падпісаныя псеўданімам Максім Танк – з чаго (мусіць жа і таму, што творы па-

[1] Надрукавана: Гарлічонкам (Gorliczonkiem). Пасля ("р" )("r") прапушчана літара "э" ("e"). Памылка Чакалы ці ягонай машыністкі.

[2] Запіс ад 20 лютага 1935 г.

беларуску) Пятроўскі вывеў: свае літаратурныя здольнасці Яўген Скурко скарыстоўваў на стварэнне злачынных тэкстаў.

А ў апошнім абзацы віцэ-пракурор сцвярджаў: грыпсы былі прачытаны турэмнымі служкамі, якія канфіскоўвалі іх, таму неабходна прызнаць, што Яўген Скурко пісаў свае камуністычныя творы і дзеля таго, каб схіліць імі да злачыннай дзейнасці нават далёкіх ад палітыкі людзей...

Клапаціўся Пятроўскі пра душы малодшага турэмнага персаналу – напэўна ж, меркаваў, што нетрывалыя гэтыя душы, начытаўшыся пісаніны вязняў, могуць падпасці пад шкодны ўплыў – грыпсы ж ого які сродак падбухторвання да бунту!

Як на цяперашні дзень, то дзіва дзіўнае: як усё-ткі польская дзяржава баялася гэтых папяровых шматкоў, густа засеяных макавымі літаркамі!

Як узнімалася праз іх і тут жо ў адным кірунку пачынала ўмомант рухацца ўсё – ахоўнікі, начальнікі турмаў, рапарты, карцары, адмена падаянак, пракуроры, ператрусы ў камерах і бацькоўскіх хатах, новыя арышты, допыты, суды...

І вязні, зусім жа маладыя хлопцы, пішучы свае дробныя грыпсы, рызыкавалі не толькі здароўем – жыццём!

Апошняя, шостая старонка, абвінаваўчага акта змяшчала спіс асоб (падсудны Яўген Скурко, а таксама сведкі – Трухан і Бараноўскі), якіх неабходна было выклікаць на разбор.

15 лістапада 1934 года канцылярыя Віленскага акруговага суда (трэці крымінальны аддзел) выпісала тры "вэзвані" (позвы); Яўгену Скурко позву (на белай паперы!) даставілі ў Лукішкі ўжо назаўтра, 16 лістапада; Трухан атрымаў сваю павестку, надрукаваную на ружовай паперы, таксама 16 лістапада і таксама на Лукішках – так сказаць, па адрасе працы.

З уручэннем ружовага "вэзваня" аспіранту Бараноўскаму выйшла замінка.

У судовай канцылярыі меркавалі: Бараноўскі, як і Трухан, па-ранейшаму служыць на Лукішках, таму адрасаваліся ў турму.

Але тое было марна.

17 лістапада намеснік начальніка турмы даў адказ – 11 радкоў на машынцы: Бараноўскага ў Вільні няма, ён знаходзіцца ў варшаўскай школе на курсах для супрацоўнікаў турэмнай аховы.

У ніжнім левым кутку дакумента ад рукі прыпісана: 21 лістапада 1934 года позва паслана ў Варшаву на вуліцу Длугу, 52 (адрас курсаў).

Словам, позву пераадрасавалі, і графічная асаблівасць пераадрасоўкі выявілася па-шкалярску проста: паверх слова "Вільня" тлуста напісалі "Варшава", а пад закрэсленым словазлучэннем "вязніца на Лукішках" з'явіўся выразны радок "вуліца Длуга, 52".

Бараноўскі атрымаў позву 27 лістапада – пра гэта ў той жа дзень паведаміў камендант школы, яго паведамленне прыйшло ў суд 29 лістапада 1934 года.

Займеўшы сваё "вэзване", Бараноўскі засеў за пісьмо, але што ён напісаў, скажу пазней...

А завяршалася шостая старонка абвінаваўчага акта пералікам дакументаў, якія Пятроўскі падрыхтаваў для працэсу:

1. Паведамленне начальніка лукішскай турмы.
2. Ліст начальніка лукішскай турмы.
3. Пратаколы агляду рукапісаў.
4. Рукапісы, апісаныя ў згаданых пратаколах /.../

5. Узор почырку Яўгена Скурко.
6. Пратаколы графалагічнай экспертызы.
7. Пратакол вобыску ў Яўгена Скурко.
8. Пратакол агляду прадметаў, канфіскаваных падчас вобыску.
9. Прадметы, апісаныя ў гэтым пратаколе /.../
10. Копіі судовых прыгавораў ў справе Яўгена Скурко...

Шчодрым на канцылярскую пісаніну выдаўся і кастрычнік 1934-га.

Старанна сабраная папка 1 кастрычніка была накіравана ў 3-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда, і ўжо 5-га чысла кіраўнік аддзела, прачытаўшы абвінаваўчы акт, надаў справе ход.

6-га чысла кіраўнік сакратарыята гэтага аддзела даў даручэнне турэмнаму кіраўніцтву ўручыць пад распіску вязню Яўгену Скурко копію абвінаваўчага акта і тлумачэнне аб парадку падачы скаргаў.

8 кастрычніка 1934 года падкамісар турэмнай аховы выканаў даручэнне, аб чым ужо назаўтра намеснік начальніка турмы паведаміў сакратарыяту, і 10-га чысла яго паведамленне атрымалі ў судзе.

У тыя дні Яўген Скурко знаходзіўся ў першым корпусе, у камеры № 124; недзе з тыдзень ён вывучаў копію абвінаваўчага акта, абдумваў тактыку сваёй абароны, маральна рыхтаваўся.

Магчыма, яму далі прачытаць і пратаколы графалагічнай экспертызы.

14 кастрычніка на зжоўклай паперы ў клетку ён склаў заяву з просьбай выклікаць у суд у якасці сведкаў вязняў Я. Гарэлічонка, М. Асіповіча, Б. Лагуна і Я. Барташэвіча – такім чынам спрабаваў абараніцца ад паказанняў Трухана і Бараноўскага, прасіў дадатковых сведкаў – сваіх людзей!

15 кастрычніка адміністрацыя зарэгістравала заяву, 16-га адправіла для разгляду і 18-га яе атрымалі ў судзе.

20 кастрычніка на заяве саноўная рука чырвоным атрамантам накрэсліла: “На закрытым пасяджэнні!” – што відавочна значыла: просьбу паэта збіраліся разгледзець без лішніх вачэй.

Скажу наперад: 3 лістапада 1934 года адбылося агульнае закрытае пасяджэнне суда ў складзе: старшыня – Бжазоўскі, суддзі – Сянкевіч і Жанеўскі, віцэ-пракурор – Ястжэмбскі, пратакаліст – Вільканец.

Заслухаўшы зварот пракурора, суддзі пастанавілі:

Sądu Okręgowego
w Wilnie.
Wydział III Karny.

Dotyczy sprawy:
K. 293/34.

Tadeusza Baranowskiego
aspiranta Straży Więz. zamieszk.
w Warszawie ul. Długa 52.

Prośba.

W związku z doręczeniem mi wezwania Sądu Okręgowego w Wilnie z dn. 15.XI.1934 Sygn. akt. K.293/34, w sprawie stawienia się w charakterze świadka na rozprawę sądową, mającą się odbyć w tamt. Sądzie, w dniu 5 grudnia r.b., uprzejmie proszę Sąd o łaskawe powiadomienie mnie, czy stawiennictwo moje jest obowiązkowe, wobec zachodzącej trudności, ze względu na znaczną odległość.

Jednocześnie nadmieniam, że przebywam obecnie na 6-cio miesięcznym kursie wyszkolenia w Szkole dla niższych i wyższych funkcjonarjuszów Straży Więziennej w Warszawie i przerywanie zajęć służbowych utrudnia mi naukę.

Wobec tego, że termin rozprawy jest b. bliski, uprzejmie proszę Sąd o możliwie szybkie powiadomienie mnie o Swojej decyzji, względnie o zwolnienie mnie od obowiązku osobistego stawiennictwa.

Warszawa dn. 27.XI.1934 r.

aspirant St.W.

*Просьба аспіранта турэмнай аховы Тадэвуша Бараноўскага аб звальненні яго ад удзелу ў судовым працэсе.*

заяву адхіліць на той падставе, што ў ёй не сказана, аб чым збіраліся на будучым разборы гаварыць згаданыя сведкі.

Даволі казуістычны адгавор!

Названыя суддзі ўжо згадваліся ў гэтай аповесці, а старшыня Бжазоўскі – той самы, які на выязной сесіі ў Глыбокім засудзіў І. Фейгельмана і Б. Лагуна і на вачах у якога (яшчэ раз нагадаю!) Сяргей Прытыцкі спрабаваў забіць Я. Стральчука; варта дадаць хіба – у чэрвені 1936-га Бжазоўскі выступаў сведкам на працэсе, на якім судзілі С. Прытыцкага за ўчынены замах і (што цікава!) паказанні Бжазоўскага былі даволі памяркоўныя...

І зноў, нібыта кругі па вадзе, пайшлі канцылярскія паўторы – 6 лістапада 1934 года кіраўнік судовага сакратарыята даручыў турэмнай управе ўручыць пад распіску Яўгену Скурко копію пастановы аб адхіленні ягонай заявы.

7 лістапада падкамісар аховы выканаў даручэнне; назаўтра, 8-га чысла, начальнік турмы пісьмова паведаміў аб тым сакратарыяту і 9 лістапада яго паведамленне атрымалі ў судзе...

Аднак вярнуся ў апошнія дні кастрычніка 1934 года.

28-га чысла паэт зноў звяртаецца ў акруговы суд – просіць даць магчымасць азнаёміцца з актамі сваёй справы.

У той жа дзень адміністрацыя адпраўляе заяву, аднак чамусьці рэгіструе яе заўтрашнім днём – у авальным штампе стаіць 29-е чысло.

31 кастрычніка паперу даставілі ў суд, і 3 лістапада на ёй з’явіўся дазвол, накрэслены чырвоным атрамантам: “Выклікаць!”

Пазней іншая ўладная рука чорным чарнілам прыпісала ўнізе ўдакладненне: “Выклікаць 16 лістапада 1934 г.”

Тым часам з камеры № 124 паэта пераводзяць у камеру № 168, якая знаходзілася ўсё ў тым жа першым турэмным корпусе.

За два тыдні, не дачакаўшыся адказу і не ведаючы, што чытаць справу паклічуць 16-га чысла, 11 лістапада з новай камеры ён зноў падае аналагічнага зместу прашэнне.

Так, напісаў тое ж, але ў іншай інтанацыі.

Першая заява пачыналася з ветлівага паклону: “Uprzejmie proszę Sąd Okręgowy...” (Ласкава прашу акруговы суд...); пачатак жа другога хадайніцтва сухі, па-канцылярску звыклы: “Niniejszym proszę Sąd Okręgowy...” (Гэтым прашу акруговы суд...)

На апошнім хадайніцтве няма ніякіх рэзалюцый; прачытаць прачыталі, але, відаць, з улікам рашэння: “Выклікаць 16-га...” – дубліраваць прынятае рашэнне не сталі.

І гэтая заява, само па сабе, прайшла адпаведныя стадыі ніжэйшай бюракратыі – 12 лістапада яе занатавалі ў турэмнай кнізе, 13-га адправілі, а 14-га зарэгістравалі ў судзе...

16 лістапада – дзень, можна сказаць, адметны: і справу дазволілі прачытаць, і (памятаем!) прынеслі позву – выклікалі 5 снежня (!) 1934 года а 9-й гадзіне ў суд па адрасе: Вільня, вуліца Міцкевіча, 36...

Падкрэслю: менавіта 5 снежня, бо У. Калеснік (у кнізе «Паэзія змагання», 1959 г.) і ўслед за ім Дзм. Бугаёў (у кнізе «Паэзія Максма Танка», 1964 г.) памылкова пісалі, што суд адбыўся 9 кастрычніка.

Праўда, У. Калеснік у кнізе “Зорны спеў” ужо аперыруе датай, з якой і пачынаецца “протокул розправы глуўнэй”, і дата гэтая якраз 5 снежня 1934 года.

У згаданым пратаколе, дарэчы, побач з прозвішчам “Яўген Скурко” не ўпісана прозвішча адваката – падсудны Яўген Скурко, як некалі ў Парыжы Дантон, абараняў сябе сам...

Аднак жа, пакуль гаварыць пра суд, варта вярнуцца да аспіранта Тадэвуша Бараноўскага, які (памятаем) 27 лістапада 1934 года атрымаў у Варшаве позву і ў той жа дзень засеў за грунтоўнае пісьмо...

Ехаць у Вільню Бараноўскаму не хацелася; нейкая распешчанасць, відаць жа, не вельмі ўласцівая турэмным наглядчыкам, чулася ў ягоным пісьме.

Неверагодна прыгожым почыркам (сапраўдны ўзор каліграфіі!) аспірант склаў у суд просьбу, сэнс якой такі: прашу паведаміць, ці прысутнасць на разборы мае абавязковы характар, бо з прычыны значнай адлегласці ўзнікае праблема прыехаць...

Ад Варшавы да Вільні нейкія чатыры сотні кіламетраў, ну няхай крыху больш, а малады хлопец, якому толькі дваццаць пяць, заяўляе: для яго гэта цяжкая дарога!

Ці не дзіўна?

І, мусіць жа, адчуўшы несур’ёзнасць такога тлумачэння, Бараноўскі тут жа паясніў: знаходжуся на шасцімесячных курсах у школе для малодшых і старшых супрацоўнікаў турэмнай аховы, і перапынак у занятках перашкодзіць вучобе!

Клапаціўся, выходзіць, пра павышэнне сваёй кваліфікацыі, адстойваў бесперапыннасць вучэбнага працэсу, а ў апошнім абзацы прасіў, як найхутчэй яму паведаміць (да разбору заставаўся ж нейкі тыдзень!), што ён, можа быць, усё-ткі *будзе* звольнены ад яўкі ў суд!

Просьбу аспіранта Бараноўскага, зарэгістраваную 28 лістапада пад нумарам 428, камендант школы накіраваў у Вільню з друкаванаю прыпіскаю: прашу прыняць хуткае рашэнне!

Марка на канверце сведчыць – гэта службовае адпраўленне, а паводле паштовых штэмпеляў – з Варшавы пісьмо адпраўлена 30 лістапада, а ў Вільню прыйшло 1 снежня, што даволі хутка; для параўнання можна ўспомніць: тая ж позва Бараноўскаму з Вільні ў Варшаву паўзла ажно тыдзень...

Але не гэта галоўнае, галоўнае тое, што 3 снежня становішча сведкі Бараноўскага ўлічылі...

І вось праз два дні, 5 снежня 1934 года, пачаўся працэс; спачатку, як зазвычай, справілі фармальнасці – то-бок, спраўдзілі хто ён, Яўген Скурко, чый сын, колькі мае гадоў, дзе нарадзіўся і дзе жыве, і г. д.

Цікава, на другой старонцы пратакола чырвоным алоўкам падкрэслены звесткі аб тым, што ён з’яўляецца вучнем сёмага класа гімназіі і не належыць ніякай веры.

А тады ўжо пачалося абгаварэнне абставін непрыезду Бараноўскага.

Пратакаліст далажыў: позву сведку Бараноўскаму ўручылі ў Варшаве, і Бараноўскі даслаў тлумачэнне, што заняты вучобай, таму і не здолеў прыехаць.

Тады пракурор заключыў: няяўка сведкі мае ўважлівую прычыну, трэба зачытаць яго паказанні, дадзеныя ў ходзе следства, і гэтага дастаткова.

Асабліва здзіўляцца пракурорскай мяккасці, мусіць, не варта – такая, відаць, склалася практыка.

Так 28 лютага 1929 года, калі ў апеляцыйным судзе пераглядалася справа “Грамады”, на разбор у Вільню не прыехала ажно сем сведкаў; разбор

адбываўся без іх прысутнасці, – можна было падумаць, што паказанні гэтых сведкаў вялікага значэння для справы не мелі.

Людзей паклікалі, людзі не з'явіліся – і нічога!

Віцэ-пракурор Парчэўскі палічыў такую з'яву прымальнай, бо, на яго думку, сведкі жылі ў іншых судовых акругах, дастаткова далёка ад Вільні, і гэта істотная перашкода для іхняга прыбыцця.

А большасць, дарэчы, пражывала ў Слонімскім павеце, кіламетраў за 200 ад Вільні, і польскім судом такая адлегласць лічылася вялікай дарогай!

Наогул жа сведкі, якія не хацелі прыязджаць, спасылаліся не толькі, скажам, на вучобу ці далёкую дарогу – розныя выстаўлялі прычыны.

На тым жа грамадоўскім пераглядзе назаўтра, 1 сакавіка, сакратар зачытаў ліст Сымона Сяляўкі – гэты сведка жыў у вёсцы Цецяроўка, якая знаходзілася ў гміне Вялікая Бераставіца Гродзенскага павета; ён паведамляў, што не можа прыехаць, бо не мае грошай і цёплага адзення, а стаялі якраз моцныя маразы.

Адвакат Ігнацы Эцінгер настойваў, каб Сымона Сяляўку выклікалі тэлеграмай, бо ўзнікла пільная патрэба ўдакладніць яго паказанні.

Парчэўскі заняў нейтральную пазіцыю – не падтрымаў адваката і не выказаўся супраць.

Суд жа разважыў: у такія страшныя маразы беднага чалавека, які не мае ні грошай, ні добрага кажуха, не варта выцягваць з вёскі Цецяроўка...

Дык вось, на разборы 5 снежня 1934 года пракурор прапанаваў не выклікаць Бараноўскага, а проста зачытаць яго паказанні.

Падсудны Яўген Скурко не запярэчыў і вядома чаму – адсутнасць Бараноўскага была яму на руку; у такой сітуацыі ад прысутнага непрыяцеля заўсёды бывае больш небяспекі, чым ад яго слоў, суха выкладзеных на паперы.

І тады суд пастанавіў: улічваючы, што сведка знаходзіцца ад судовай сядзібы на вялікай адлегласці, яго няяўку прызнаць апраўданай і апавясціць ягоныя паказанні, знятыя 10 верасня 1934 года...

А суд між тым засядаў у такім складзе: старшыня – Кадушкевіч, суддзі – Тамашэўскі і Кавецкі, пратакаліст – стажор-юрыст Цэдэрбаум; дзяржаўным абвінаваўцам быў падпракурор Ячыноўскі.

У кнізе М. Арочкі "Максім Танк. Жыццё ў паэзіі" чытаю: не Ячыноўскі, а Ячынскі.

Гэта памылка, М. Арочка запазычыў яе з "Лісткоў календара", відавочна, адсюль: "...Толькі што вярнуўся з апеляцыйнага суда, дзе па міласці пракурора І. Ячынскага пераглядалася мая справа..."[1]

Гаворка пра перагляд справы, пра якую зараз пішу, і адбыўся ён 20 лютага 1935 года – аб чым яшчэ згадаю ў сваёй аповесці...

У. Калеснік жа ў "Зорным спеве" дае свой варыянт пракурорскага прозвішча – Яцэноўскі, але і гэты варыянт разыходзіцца з архіўнай праўдай...

Зрэшты, і архіўная праўда, як і ўсё на свеце, іншы раз мае дамешкі свядомай ці несвядомай няпраўды, хаця ў гэтым выпадку ў пратаколе чорным атрамантам чытэльна выведзена: Jaczynowski.

Са сведкаў у зале знаходзіўся толькі Трухан.

Перад тым як загадаць яму выйсці ў асобны пакой, старшыня Кадушкевіч нагадаў аб непарушнай сутнасці прысягі і адказнасці за хлуслівыя паказанні.

[1] Запіс ад 20 лютага 1935 г.

Спружына судовай дзеі няўхільна пачала сціскацца.

Цэдэрбаум уголас прачытаў абвінаваўчы акт, пасля чаго Кадушкевіч звярнуўся да Яўгена Скурко: ці прызнае сябе вінаватым і наогул, што мае адкрыць суду?

Адказ быў такі: я ні ў чым не вінаваты; да ніякіх партый (у тым ліку і камуністычнай!) ніколі не належаў і не належу; засуджаны за артыкулы і нарысы, але не за іх змест, а толькі за тое, што надрукаваў іх у камуністычных выданнях; рукапісаў, якія прад'яўлены мне судом, не пісаў...

Варта прызнаць – выдатная логіка!

Цікава, ці сам выверыў план такога адказу, ці нехта дапамог з турэмнага камітэта?

Зрэшты, як бы там не было, але адказ прынялі без ніякіх заўваг.

А што да "некамуністычных" артыкулаў і нарысаў у камуністычных выданнях, то гэта выразная фармулёўка, адметная затоеным гумарам, прымушае зноў згадаць часопіс доктара У. Ширана пад неверагодна дэмакратычнай назвай "Часопіс для ўсіх"...

З асобнага пакоя паклікалі сведку Трухана, і падсуднаму Яўгену Скурко дазволілі рабіць заўвагі і даваць тлумачэнні.

Са згоды спаборных бакоў Трухана звольнілі ад прысягі – здаецца, і без яе лукішскі наглядчык добра ведаў, якая бывае кара за хлусню.

І тут выйшаў казус.

Забыўлівы дазорац прызнаўся, што справы добра не памятае і папрасіў, каб зачыталі яго ранейшыя паказанні.

Мяркую, такая просьба выклікала здзіўленне.

І было чаму здзівіцца!

З таго дня, калі Трухан знайшоў грыпсы, мінула не дзесяць гадоў, а ўсяго толькі няпоўных дзесяць месяцаў!

Але што рабіць, калі малады сведка (яму ўсяго трыццаць адзін год!) забыў падрабязнасці справы, таму й быў агалошаны пратакол ад 12 красавіка 1934 года...

Па адчытанні Трухан пацвердзіў свае паказанні, "успомніў", што сапраўды ў камеры І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга знайшоў грыпсы, і дадаў яшчэ: "У той камеры сядзеў і Яўген Скурко!"

Памяць у пана Трухана была відавочна ж курыная!

Зразумела, Яўген Скурко тут жа катэгарычным тонам аспрэчыў, што ніколі не знаходзіўся ў адной камеры з названымі вязнямі.

Лёгка ўявіць, як у гэты момант старшыня Кадушкевіч моўчкі перачытаў, а магчыма нават і падсунуў суддзям Тамашэўскаму і Кавецкаму, каб таксама перачыталі, усё той жа рапарт начальніка Лукішак Чакалы віцэ-пракурору Пятроўскаму ад 24 верасня 1934 года, у якім сярод іншага паведамлялася ці не самае галоўнае: Яўген Скурко не меў ніякага доступу ў камеру І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга!

І ці не Кадушкевіч у абвінаваўчым акце Пятроўскага на 5-й старонцы падкрэсліў чырвоным алоўкам тры радкі, якія якраз і гаварылі: Яўген Скурко не сядзеў у адной камеры з Фейгельманам і Фейгенбергам, як і не знаходзіўся ў камеры Лагуна ў той момант, калі Лагуна абшукваў Бараноўскі...

Судовая дзея тым часам рухалася далей – няпэўнага сведку Трухана "змяніў" адсутны сведка Бараноўскі, гэта значыла, што з пратакола ад 10 верасня 1934 года прачыталі паказанні турэмнага аспіранта.

Са згоды бакоў суд прызнаў: доказы, пералічаныя ў абвінаваўчым акце, існыя, і бакам дазволена на іх спасылацца.

Было абвешчана і аб згодзе бакоў не дапаўняць разбор іншымі матэрыяламі.

І тады старшыня пастанавіў: разбіральніцтва завершана, то-бок – новыя пункты абвінавачання не прымаюцца, узятае да разгляду не касуецца, і новыя сведкі не могуць быць выкліканы.

Пракурор Ячыноўскі падтрымаў дзве высновы акта Пятроўскага, а менавіта: а) Яўген Скурко пашыраў твор "Як бог гуляў на вечарыне" і б) стварыў адозву "Дзень 1-га Мая".

Пракурор заключыў: падсудны падлягае кары...

Дачакаўся сваёй чаргі на выступленне і "адвакат" (нагадаю – паэт абараняў сябе сам!), і суд зноў пачуў, што ён, Яўген Скурко, грыпсаў не ствараў і не распаўсюджваў, і ўвогуле пісаць іх не мог, бо ў камеры не меў атраманту.

У нарысе "Аўтабіяграфія" паэт паведамляў: "...у кожнай камеры мы мелі чарніла і алоўкі. Горш было з паперай. Але і яе ўдалося раздабыць ад крымінальных вязняў..."

Вось так, усе канцылярскія прычындалы меліся, аднак жа ў судзе трэ было ратавацца.

Спаслацца на брак чарніла – простая і цудоўная лінія абароны і, пэўна ж, сваёй прастадушнасцю яна зрабіла ўражанне на суддзяў...

Па вяртанні з дарадчага пакоя старшыня абвясціў... апраўдальны прыгавор і паведаміў, як і калі яго можна абскардзіць.

Разбор доўжыўся больш за тры з паловай гадзіны і завяршыўся ў 12 г. 40 хв. рашэннем: скасаваць часовы арышт, які быў ужыты 21 жніўня 1934 года паводле пастановы Сэвінскага.

Можна ўспомніць: пастанова Сэвінскага дзейнічала да 20 кастрычніка 1934 года, бо выпісвалася толькі на два месяцы, і яе, трэба думаць, падоўжылі, бо да 5 снежня, да самага суда (яшчэ паўтара месяца!) паэт знаходзіўся пад вартай.

Праўда, ніякіх дакументаў адносна падаўжэння тэрміну ягонага перабывання за кратамі я не знайшоў...

Усё-ткі паэт нарадзіўся пад шчаслівай зоркай – яго віну палічылі недаказанай; судовыя выдаткі аднеслі на кошт дзяржаўнага бюджэту; рукапісы, знойдзеныя ў турме, пакінулі ў справе, а рукапісы, канфіскаваныя ў пількаўскай хаце, вярнулі.

А шкада!

Лепей пакінулі б таксама ў справе, і тады яны захаваліся б!

Вернутае ж паэт ці знішчыў, ці згубіў.

А было б цікава пагартаць ягоныя сшыткі – і той, абгорнуты ў газету "Вядомосьці", з апавяданнямі і вершамі, і той, у чырвонай вокладцы, з рознымі нататкамі.

Было б цікава таксама прачытаць і 29 асобных рукапісных старонак!

А быў жа яшчэ блакнот і пяць чарнавых сшыткаў з накідамі ўсялякіх твораў па-беларуску...

Але што зробіш – згубленаму (ці знішчанаму) заставацца там, дзе яно згубілася (ці знішчылася)...

Апраўданы цешыўся сваёй удачай, а гэта ўдача – і яшчэ якая!

Заключэнні каліграфа Другаля, як і сведчанні Трухана і Бараноўскага

былі, як вядома, не на карысць паэта, але паміж графікай грыпсаў і ўласна ягоным почыркам суддзі ўбачылі... істотную розніцу.

У выснове прысуду (у 5-м пункце) можна прачытаць: “...нягледзячы на тое, што факт распаўсюджвання рукапісаў, як гэта вынікае з паказанняў сведкаў Трухана і Бараноўскага, даказаны, аднак жа пасля азнаямлення з гэтымі рукапісамі і параўнання іх з почыркам падсуднага Скурко, суд вызначыў: паміж прадстаўленымі тэкстамі і аўтэнтычным почыркам Скурко існуюць значныя адрозненні...”

Другая палова гэтага сказу ў дакуменце (ад слоў “пасля азнаямлення...”) падкрэслена чырвоным!

Дык вось, разбор скончыўся ў 12 г. 40 хв., і ўжо а 14-й (праз гадзіну дваццаць – хуткасць неверагодная!) службовец, які часова выконваў абавязкі начальніка турмы, падпісаў “завядомене” – паведамленне аб вызваленні Яўгена Скурко з Лукішак.

Выхад з-за кратаў – часцей за ўсё такім бывала беларускае шчасце!

Паэту зноў пашанцавала, бо дастаткова адно супаставіць тэкст антырэлігійнай баладкі “Як бог гуляў на вечарыне” з любым іншым ягоным рукапісам, і можна цвёрда сказаць: адна рука!

Другаль сумленна зарабіў свае 18 злотых, у яго прафесійнасці сумнявацца не варта, але Кадушкевіч, Тамашэўскі і Кавецкі не зусім яму паверылі, а можна сказаць і так – не палічыліся з відавочным!

Чаму?

Думаю, проста пашкадавалі хлопца: маладога, прыгожага, элегантнага, з добрай польскай мовай!

Перад імі стаяў бландзін з блакітнымі вачыма!

Кінагерой!

Паэт – няхай сабе й беларускі...

А галоўнае – адчайны і смелы, і гэта, як мне здаецца, спадабалася паблажлівым суддзям.

Так, юны Яўген Скурко не ўмеў баяцца, а часам з законам гуляў як з агнём...

7 красавіка 1932 года ў Львове з’явілася аднадзёнка “Беларускае жыццё”, у якой пад псеўданімам “Максім Танк” ён, Яўген Скурко, надрукаваў рэвалюцыйны верш “Заштрайкавалі гіганты коміны” і, калі апынуўся ў паліцыі, не пабаяўся прызнацца, што гэта яго твор.

Зрэшты, мне здаецца, тут была свая хітрасць – паэт “нешта” павінен быў прызнаць, спадзеючыся, што следства ўхопіцца за гэтае “нешта” і не далезе да ягонай асноўнай крамолы; словам, калі ты ў небяспецы, то пачынаеш выкручвацца вужом, знарок прызнаешся ў нейкай малой віне, каб ёю закрыць сваю большую правіннасць.

Вось таму паэт ужыў такую тактыку і тады, калі прызнаўся, што ў лютым 1930-га (па іншых дадзеных: у лютым 1931-га) напісаў пагрозлівы ліст дырэктару Віленскай беларускай гімназіі Астроўскаму.

У гімназіі, калі верыць паліцэйскім рапартам, існаваў камітэт вучнёўскай лявіцы (КВЛ), старшынёй якога з’яўляўся Даніла Сіверс – то-бок, ён, Яўген Скурко.

Магчыма, ніякага камітэта і не было; магчыма, Яўген Скурко выдумаў яго дзеля гэтых важных слоў – старшыня камітэта вучнёўскай лявіцы Даніла Сіверс.

Пад такім подпісам ліст і дайшоў да адрасата; Даніла Сіверс папярэджваў Астроўскага:

“...Тэрор, якім вы запалохваеце гімназію, не патушыць тое полымя, якое агарнула значную частку вучняў...”

А яшчэ і гэтак прыціскаў хвост Астроўскаму: маўляў, як не пакінеш, пане, сваёй санацыйнай дзейнасці – высадзім шыбы!

Пабіць крыўдзіцелю вокны – чыста беларуская пагроза...

Добры знаўца гэтага народнага звычаю Максім Танк, успамінаючы сваё рэдактарства ў часопісе “Полымя”, расказваў мне пра паэта Анатоля Астрэйку:

– Калі скарачалі яго вершы, ён з крыкам: “Я вам вокны паб’ю!” вылётваў з рэдакцыі! А раптам паб’е, думаў я! І тады прасіў тут жа перадаць гарачаму Анатолю, што вершы ягоныя пойдуць у поўным аб’ёме, без ніякіх скарачэнняў...

Эпістала Данілы Сіверса завяршалася выпадам:

“...Глядзіце, каб адна з наймацнейшых арганізацый (КВЛ. – *Л. Д.-М.*) не адказала тэрорам на ваш тэрор!..”

Астроўскі – цяжкі цень нашай гісторыі; ён як той слуп на ростані дарог – служыў і захаду, і ўсходу, і Беларусі, а найбольш сабе.

Не думаю, што юнак сваім пасланнем дасягнуў мэты, бо Астроўскі не звяртаў увагі на пагрозы (асабліва на такую драбязу, як біццё вокнаў!), нервы меў драцяныя – відаць, па гэтай прычыне і пражыў да дзевяноста.

Выказаць пісьмова пагрозу – імпульсіўны, дзіцячы ўзровень смеласці, а вось завалодаць чужымі дакументамі і падчысціць іх для пэўнай мэты – гэта ўжо разлічаная (дарослая!) рызыкоўнасць.

У “Аўтабіяграфіі” паэт напісаў і аб тым, як Ю. Левін (член ЦК камсамола) забіў правакатара Мікалая Адамовіча і, трэба думаць (дадаю ад сябе), забраў ягоныя паперы.

Пэўна ж, ад Ю. Левіна Яўген Скурко ў траўні 1933-га і атрымаў пасведчанне Адамовіча № 556, выпісанае Віленскай рамесніцка-прамысловай дзяржаўнай школай; у гэтым пасведчанні прозвішча “Адамовіч” ён перарабіў на прозвішча “Агаймовіч”, а № 556 на 567.

22 траўня 1933 года Яўген Скурко пусціў “абноўлены” дакумент у ход – у Віленскім бюро падарожжаў “Орбіс” набыў за паўцаны чыгуначны білет.

Рызыкаваў?

Рызыкаваў і нават вельмі!

За такі фортэль маглі пасадзіць на пяць гадоў, але, як бачым, не цураўся падлогу – жывучы ў безграшоўі, і *гэтак* ашчаджаў грошы на хлеб з селядцом, чаравікі, сшыткі і любімае кіно.

Такім жа спосабам, дарэчы, падправіў і яшчэ адну “легітымацыю” – нейкі час, як вядома, ён вучыўся ў Віленскай расійскай гімназіі імя А. Пушкіна і ў яго застаўся вучнёўскі білет № 16 на 1931/32 школьны год – дакумент захоўваў сілу да 1 верасня 1932 года.

І вось у яго Яўген Скурко унёс лёгкія, але істотныя каліграфічныя змены, у выніку якіх навучальны год стаў “1932/33”, а дата сапраўднасці падоўжылася да 1 верасня 1933 года!

І зноў жа ўсё гэта рабілася дзеля таго, каб у тую ці іншую касу аддаваць менш грошай.

Заўважу – за маніпуляцыю з вучнёўскім білетам наш герой мог дастаць тры гады турмы!

І яшчэ “...замецім стараною...” (Якуб Колас) – праз два дні пасля таго, як у “Орбісе” Яўген Скурко набыў за паўцаны чыгуначны квіток, 24 траўня 1933 года ў Глыбокім ён не паспеў (калі яго накрыла паліцыя) знішчыць свае падчышчаныя паперы.

Следства пачало збіраць дадатковую справу пад сігнатурай KJ. 73/34; справа складалася з двух пунктаў паводле абвінавачанняў “Злачынствы супраць дакументаў”:

а) падробка пасведчання Адамовіча.

б) падробка ўласнага вучнёўскага білета.

Але неба зноў дапамагло – справу, толькі пачаўшы, тут жа і закінулі.

– І добра, што закінулі! – узрадаваўся Анатоль Сідарэвіч. – Ён што, падрабіў пракурорскую легітымацыю?! Нейкае там школьнае пасведчанне, нейкі там вучнёўскі білет... Драбяза, адным словам...

Справу спынілі, бо, канечне, быў на тое начальніцкі загад – праўда, невядома чый.

У архіве ад справы KJ. 73/34 засталася адна старонка – 14 машынапісных радкоў – і ўсё!

Мусіць, велікадушна палічылі: абвінавачанне ў “злачынстве супраць дакументаў” разам з абвінавачаннем у злачынстве супраць дзяржавы – гэта ўжо занадта; хопіць і таго, калі напішам: нарачанскі хлопец вінаваты ў антыдзяржаўных выступленнях, а суд няхай разбірае...

І 5 снежня 1934 года ўсё склалася як мае быць – галоўнае, сведкі трапіліся вялыя.

Забыўлівы Трухан не мог успомніць дэталі справы, пераблытаў, хто ў якой камеры сядзеў, і хто дзе знаходзіўся падчас ператрусу 14 лютага, а нявопытны Бараноўскі на разбор наогул не з’явіўся, і ў выніку можна сказаць: суду не хапіла доказаў!

Гэта сталінскім судам ніякія доказы былі не патрэбны, а суды міжваеннай Польшчы няхай сабе й няпоўнай, аднак жа пільнаваліся законнасці.

Суддзі здагадваліся: Яўген Скурко – чырвоны, ён трымаў цесную сувязь з камуністамі, ствараў камсамольскія гурткі, рэдагаваў нелегальны часопіс “Пралом”, ведаў, дзе знаходзіцца склад недазволенай літаратуры і неаднойчы бываў там, праводзіў падрыўную дзейнасць у гімназіі імя А. Пушкіна, выступаў пад псеўданімамі Арсень Граніт, Максім Танк, Даніла Сіверс.

А камендант сваткаўскай паліцыі Генрык Малюс добра знаў, што восенню 1932 года паэт перайшоў польска-беларускую мяжу.

Віленскі следчы аддзел меў агентурныя звесткі, паводле якіх – паэт як платны работнік ЦК камсамола кіраваў палітычнымі акцыямі; у розных паветах (напрыклад, у Браслаўскім) інструктаваў камсамольскія арганізацыі...

Словам, здагадваліся, ведалі, падазравалі, сачылі, нюхам угадвалі, збіралі агентурныя звесткі!

Аднак жа, хутчэй за ўсё, звесткі гэтыя не мелі рашаючага дакументальнага пацвярджэння – былі, так сказаць, ускосныя.

От каб злавілі з партбілетам у кішэні!

Але ж камуністы Заходняй Беларусі не хадзілі з партбілетамі, таму й цяжка было даказаць, што арыштаваны – камуніст.

Ускосныя дадзеныя на поўны мах у судзе не раскруціш, паліцэйскі нюх да абвінаваўчага акта не прыкладзеш – патрэбны былі факты.

Знакаміты адвакат Дурач на грамадоўскім працэсе ў траўні 1928 года заклікаў суддзяў: “Панове суддзі, судзіце за ўчынкі, а не за настроі!”

А мог бы і не заклікаць, бо яны, польскія суддзі, пераважна так і рабілі – прынамсі да года 1936-га (пачатак фашызацыі краіны) – судзілі не за настроі, не за перакананні, а менавіта за ўчынкі.

І дэфензіва за гэта суддзям, вядома ж, асанну не спявала.

Не хаваючы раздражнення, камендант паліцыі Пастаўскага павета падкамісар Манькевіч 14 снежня 1934 года пісаў у Вільню:

“...пастановай акруговага суда выпушчаны з турмы вядомы камуністычны дзеяч Яўген Скурко...”

От так – не проста камуністычны дзеяч, а вядомы дзеяч!

Калі вы, суддзі, не ведаеце пра гэта, то ведаю я, падкамісар Манькевіч!

Раздражненне каменданта зразумелае: мы ловім дзяржаўных злачынцаў, а вы іх апраўдваеце і выпускаеце!

Але што тут зробіш?

Нічога.

Хіба што папросіш прыслаць копію прысуду, каб падшыць яе для ўліку ў сваёй павятовай канцылярыі, што камендант і зрабіў, і праз восем дзён, 22 снежня, копію яму выслалі.

А пракуратура тым часам дзейнічала больш настойліва.

5 снежня (у той жа дзень, як скончыўся разбор) Ячыноўскі ў кароткай запісцы (шэсць радкоў ад рукі) папярэдзіў акруговы суд, што будзе падаваць скаргу ў вышэйшую інстанцыю.

Праз тыдзень, 13 снежня, ён атрымаў копію выраку.

Свой пратэст у апеляцыйны суд (2,5 старонкі машынапісу) Ячыноўскі склаў 19 снежня 1934 года, засведчыўшы рашучую нязгоду з гэтым вырокам.

Падпракурор унёс на разгляд два пункты:

а) Цалкам скасаваць згаданы вырак.

б) Засудзіць Яўгена Скурко паводле абвінавачанняў Пятроўскага ад 28 верасня 1934 года.

Ячыноўскі даводзіў: рашэнне акруговага суда заснавана толькі на зрокавым параўнанні грыпсаў з почыркам Яўгена Скурко і супярэчыць высновам графолага Другаля.

Нават калі суд, пісаў Ячыноўскі, і ўбачыў нейкія адрозненні паміж графікай грыпсаў і манерай пісьма Яўгена Скурко і ўсумніўся ў меркаванні Другаля, то для больш дакладнага высвятлення справы патрэбна было выклікаць яшчэ аднаго эксперта.

Вядома, самому Ячыноўскаму на працэсе 5 снежня лішні графолаг ой як спатрэбіўся б, аднак жа, дапускаю здагадку, – для Кадушкевіча, Тамашэўскага і Кавецкага гэта была б лішняя фігура ў іхніх нястрогіх шахматах.

А яшчэ Ячыноўскі з намерам падкрэсліваў: доказам віны Яўгена Скурко можа служыць і яго ранейшая судзімасць, а таксама рукапісы, забраныя паліцыяй у пількаўскай хаце.

Ячыноўскі выявіў тут жандарскі спрыт!

Ставіць у віну судзімасць, якую чалавек ужо адбыў, – учынак несамавіты.

А што да рукапісаў, то іхні антыдзяржаўны змест прывідны; сшыткі, асобныя старонкі і проста чарнавікі, спісаныя па-беларуску – здаецца, уся крамола гэтых дакументаў паводле ўпартага падпракурора якраз і палягала ў беларускай мове; гэта відавочна, сумнявацца асабліва і не варта.

Нават прыдзірлівы Пятроўскі памяркоўна ацэньваў тыя паперы – яны мелі значэнне толькі ў якасці ўзору почырку...

Праўда, яшчэ меліся газетныя выразкі, у якіх згадвалася нейкае пісьмо з Саветаў і бойка сялян з секвестратарам, а таксама канверт са штэмпелем пошты СССР і Лаворава паштоўка з Лукішак – вось і ўсё крымінальнае багацце!

Аднак жа з пустога канверта (няхай сабе й савецкага) і паштоўкі (змест якой, упэўнены, быў нейтральны) у польскім судзе справу не злепіш, а з польскіх газет, якія пісалі амаль што пра ўсё, бо мелі такую магчымасць, можна было навыцінаць самых розных бунтоўных нататок.

Ці разумеў гэта Ячыноўскі?

Разумеў, але трэ было дзьмуць у сваю дудку, от і дзьмуў, скіроўваў увагу вышэйшай інстанцыі на адно: Яўген Скурко – вінаваты, ён аўтар шкодніцкіх рукапісаў “Дзень 1-га Мая”, “З газеты. Дварчанін...”, “Як Бог гуляў на вечарыне” (слова “Бог” Ячыноўскі, вядома, пісаў з вялікай літары)...

20 снежня 1934 года пракурор Шаняўскі (пэўна, начальнік Ячыноўскага) пераслаў ягоную апеляцыйную скаргу ў 3-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда; праз два дні скаргу прызналі складзенай па ўсіх юрыдычных правілах і накіравалі ў апеляцыйны суд.

У той жа дзень, 22 снежня, папера дайшла да патрэбнай інстанцыі, і ўжо 24 числа яе прынялі да разгляду, але, прыняўшы, тут жа адклалі, бо трэ было адсвяткаваць Каляды.

2 студзеня 1935 года на апеляцыі Ячыноўскага з’явілася важная віза: залучыць да справы эксперта Мечыслава Бжэскага.

Чалавек сярэдняга веку (49 гадоў), Бжэскі жыў у Вільні (Завальная, 11, кв. 6), служыў канцылярыстам у апеляцыйным судзе, хадзіў у рэфармацкую царкву (мусіць жа, у тую, якая і знаходзілася на Завальнай) і, вядома ж, не меў судзімасці.

Трэба сказаць: яму даводзілася вывучаць почырк не толькі Максіма Танка, аднак жа і Б. Тарашкевіча.

Як і Пятроўскі, каліграф Бжэскі таксама выступаў на “Працэсе 56-ці” і ў чацвер 26 красавіка 1928 года заявіў, што Б. Тарашкевіч з’яўляецца аўтарам некалькіх ананімных рукапісаў.

Само па сабе, Б. Тарашкевіч адмовіўся ад аўтарства, і тады абарона папрасіла выклікаць дадатковага эксперта.

*Пратакол перагляду справы Яўгена Скурко ў Віленскім апеляцыйным судзе 20 лютага 1935 г.*

Суд просьбу абароны адхіліў, хаця пракурор (што цікава!) і не пярэчыў абароне, толькі зазначыў, каб новы эксперт прааналізаваў тыя рукапісы, якія даследаваў Бжэскі.

Праз некалькі дзён (у панядзелак 30 красавіка 1928 года) Бжэскі зноў прысутнічаў на грамадоўскім працэсе, адказваў на пытанні суддзяў, даводзіў слушнасць свайго заключэння, і Б. Тарашкевіч і гэтым разам аспрэчыў яго экспертызу – па-іншаму ж і быць не магло.

Наогул жа, Бжэскага можна назваць знаўцам почырку лідара "Грамады"!

12 снежня 1931 года каліграф атрымаў 12 злотых за свой аналіз пяці рукапісаў, якія з'яўляліся рэчавымі доказамі ў новай крымінальнай справе Б. Тарашкевіча.

А за даследаванне грыпсаў у справе Яўгена Скурко каліграф займеў 10 злотых.

Апісання яго работы я не знайшоў, але, трэба думаць, Бжэскі правёў яе старанна і да судовага пасяджэння падрыхтаваўся як след.

22 студзеня 1935 года Мечыславу Бжэскаму прынеслі ружовую позву, выпісаную чатыры дні таму, 18 студзеня, у якой паведамлялася: разбор прызначаны на 20 лютага 1935 года.

3 лютага ўручылі позву, таксама ж выпісаную 18 студзеня, і Яўгену Скурко, але ён мог і не прысутнічаць на працэсе (ягоная яўка не была абавязковай).

Мяркуючы па круглым паштовым штэмпелі, з Вільні павестку адправілі 22 студзеня, – праз тры дні, 25-га яе атрымалі ў мядзельскай гміне, а даставілі, як бачна, толькі 3 лютага.

Не спяшаліся, нечага чакалі.

А той жа памочнік гміннага пісара, напрыклад, або, скажам, солтыс маглі б з Мядзела ў Пількаўшчыну прынесці гэтую белую паперынку ўжо 26-га або 27-га чысла – дарогі ж усяго нейкія кіламетраў дваццаць...

20 лютага 1935 года а 9-й гадзіне 1-шы крымінальны аддзел Віленскага апеляцыйнага суда ў адкрытым пасяджэнні пачаў слуханне справы.

Крэсла старшыні заняў Уладзіслаў Дмахоўскі.

У 1928 годзе ён быў узнагароджаны камандорскім крыжам ордэна "Адраджэння Польшчы"; газеты пісалі пра заслугі пана Дмахоўскага, якія ён здабыў на ніве правасуддзя, і ніхто іншы, а менавіта ён з 28 лютага па 16 сакавіка 1929 года вёў перагляд справы "Грамады" ў тым жа Віленскім апеляцыйным судзе.

20-га ж лютага 1935 года У. Дмахоўскаму дапамагалі таксама вядомыя асобы – суддзя Ядзевіч і суддзя-дакладчык з акруговага суда Скіндар.

Ядзевіч старшынстваваў на апеляцыйным разборы 1 траўня 1934 года, на якім, памятаем, Яўгена Скурко апраўдалі – значыць, Ядзевіч спрыяў паэту; ёсць усе падставы думаць, што Ядзевіч спрыяў паэту і на гэтым працэсе!

А што да Скіндара – то гэта той самы службовец, разам з якім Пятроўскі дапытваў у шпіталі параненага С. Прытыцкага.

Слуханне йшло ў прысутнасці віцэ-пракурора Гвірыні – яшчэ адзін вядомы нам пан; Гвірыні прадстаўляў пракуратуру ўсё на тым жа пасяджэнні 1 траўня 1934 года.

Пратакол вёў стажор-юрыст Радзюк...

Так, паэт мог не з'яўляцца на суд, але з'явіўся і ў "Лістках календара"

занатаваў: "...абвінавачваўся я ў тым, што ў Вільні 14.02.1934 г. напісаў і распаўсюджваў антырэлігійны твор..."[1]

Гаворка ўсё пра той жа верш (іншае жанравае вызначэнне – Паэма Апостала) "Як бог гуляў на вечарыне" – на разлінеенай паперы грыпса назва твора падкрэслена аўтарам хвалістай тлустай рысай.

У. Калеснік называў гэты верш "Як бог гуляў на **ігрышчы**", а Дзм. Бугаёў і М. Арочка – "Як бог гуляў на **забаве**", аднак жа арыгінал сведчыць: апошняе слова ў назве – **вечарына**.

Але чаму ў гэтым загалоўку ўзнік такі разнабой?

Пэўна ж, таму, што згаданыя даследчыкі не бачылі арыгінала рукапісу – хутчэй за ўсё карысталіся паліцэйскім перакладам рукапісу на польскую мову; назва ж верша па-польску гучыць так – "Jak Bóg hulał na zabawie (Poemat Apostoła)".

І вось, робячы адваротны пераклад, У. Калеснік скарыстаў заместа "zabawy" слова "ігрышча", а Дзм. Бугаёў і М. Арочка "zabawu" пакінулі як "забаву" – тым болей (хутчэй за ўсё, меркавалі даследчыкі) ёсць жа такая лексема ў беларускай мове.

У вершы, дарэчы, ужываюцца моцныя словы, таму паліцэйскія "перакладчыкі" (магчыма, старшы пастарунковы Т. Пладоўскі, а, магчыма, і пратакалістка Я. Падгайская), упісваючы па-польску верш у пратакол агляду[2], мусілі рабіць пэўныя пропускі – так, скажам, у дзясятай страфе апусцілі (не пераклалі – якія далікатныя людзі!) мілае кожнай беларускай душы слова – сра...а!

А ў дзявятай страфе ў радку "...тармосе Мацею чупрыну Янук..." – мусіць, па недаглядзе прапусцілі імя Мацей, пакінулі аднаго Янука; увогуле



Як бог гуляў на вечарыне.
(Паэма Апостала)

„Была гэта, братцы, не ў нашай краіне,
а там дзесь далёка, за горамі, морам
ў гарачай, пяшчанай, сухой Палестыне" –
так Біблія кніга святая гавора.

Ішоў раз дарогай, з кіям над пахай,
сам бог, ён тады яшчэ быў малады,
высокія боты, на плечах сярмягай
і паць валаскоў мест сівой барады.

Ідзе ён дарогай і песню заводзе:
пра тое як ў раю Адам саграшыў,
як з Евай чорт, а паміж град, ў агародзе,
паноў і ксяндзоў і рабінаў рабіў.

Ідзе ён і бача, ў карчме, ля дарогі
сабраліся з округу ўсе мужыкі,
а там і дзяўчаты, відаць, зь парогам,
і ёмкі „лявоніху" тнуць дзяцюкі

„А што ў вас за свята?" – пытае бог дзеда
„Ты з печы зваліўся?" – старык адказаў –
ня ведаеш, што, тлум, учора суседа
памешчыка з скуры ўсяго абадраў.

А там і паліцыі морду набілі;
прагналі усіх скурапулятаў-купцоў;
а двух сэквэстратараў мы напаілі,
на вераду з барозян ганяць вараб'ёў



*Грыпс "Як бог гуляў на вечарыне".*

[1] Запіс ад 20 лютага 1935 г.
[2] Дата гэтага пратакола 27 красавіка 1934 года.

ж работу сваю выканалі даволі дакладна – пераклалі нават апошняе ў грыпсе слова “Канец”!

Шостая страфа ў пратаколе падкрэслена – пэўна, самім Пятроўскім, бо ў ёй гаворка пра тое, як “...паліцыі морду набілі...”, як “...прагналі ўсіх скуралупаў-купцоў...”, а “...двух сэквэстратараў... начапілі на вярбу з бярозай...”

Вось усе дзевятнаццаць строф гэтага турэмнага практыкавання:

**Як бог гуляў на вечарыне**

*(Паэма Апостала)*

Было гэта, братцы, не ў нашай краіне,
а там дзесь далёка, за горамі, морам
ў гарачай, пяшчанай, сухой Палістыне[1] –
так Біблія кніга сьвятая гавора.

Ішоў раз дарогай, з кіям пад пахай,
сам бог, ён тады яшчэ быў малады,
высокія боты, на плечах з сярмягай
і пяць валаскоў мест[2] сівой барады.

Ідзе ён дарогай і песьню заводзе:
пра тое, як ў раю Адам саграшыў,
як з Еваю чорт паміж град, ў агародзе,
папоў і ксяндзоў, і равінаў[3] рабіў.

Ідзе ён і бача, ў карчме, ля дарогі
сабраліся з округу ўсе мужыкі,
а там і дзяўчаты, відаць, за парогам,
і ёмка “Лявоніху” тнуць дзяцюкі.

“А што ў вас за сьвята?” – пытае бог дзеда.
“Ты з печы зваліўся? – старык адказаў –
ня ведаеш, што тлум[4] учора саседа[5]
памешчыка з скуры ўсяго абадраў.

А там і паліцыі морду набілі,
прагналі усіх скуралупаў-купцоў:
а двух сэквэстратараў мы начапілі
на вербу з бярозай ганяць вараб’ёў[6].

За то сяньня йграюць цымбалы і струны –
прагналі ўсіх крывапіўцаў паноў,
на вузкіх загонах збудуем Камуну
без добрадзеяў паноў і багоў”.

“Вось сукіны дзеці! – падумаў бог ціха –
ня хочаць[7] ужо прызнаваць і мяне;
паднялі камуну: чартоўскае – ліха;
даберуцца хутка з дубінай ка мне!..”

---

[1] Так у арыгінале.
[2] Так у арыгінале.
[3] Так у арыгінале. Па-беларуску трэ было б напісаць – “рабінаў”.
[4] Тлум – натоўп.
[5] Так у арыгінале.
[6] Так у арыгінале.
[7] Так у арыгінале.

Аж лыдкі[1] у бога пачалі трасьціся –
хоць быў не трусьлівы, не слабы дзяцюк.
А тут яшчэ хлопцы ўзялі напіліся,
тармосе Мацею чупрыну Янук.

Ад дыму, ад пылу ў карчме ажно горка.
Крычыць Сьпірыдон, Харытон і Ігнат,
а бог, падцягнуўшы на срацэ апоркі[2],
памалу, хоць бокам, прылез да дзяўчат.

Ў Ганулі за цыцку рукой учапіўся,
другой пад спадніцу кудысь заблудзіў;
а з трэцяй, з Марыляй, ужо і злюбіўся,
нагнуўшыс[3], на вуха штось ёй гаварыў.

А тут, як на грэх і цымбалы, і скрыпка
"Камарынскага" пачалі выцінаць,
а там на гармоніку Рыжы Піліпка –
аж бог закруціўся з Марыляй скакаць.

Зкінуў[4] сярмягу, падковамі звонка
то бокам, то ракам ўпрысядку ідзе,
відаць для адвагі хлябнуў самагонкі,
ліецца аж пот па вусах, барадзе.

Марылі таксама дзяцюк падабаўся,
відаць бог умеў рабіць ў людзях эфэкт,
ды сяньня ён ў новую збрую прыбраўся –
высокія боты, штаны галіфэ.

А бог відаць часу дарма не марнуе:
Марылю завёў ў агарод, ў канаплі,
і там – як пра гэта апостал цытуе –
іх дзеці карчмара Іуды знайшлі.

Казалі, што бог абяцаў даць Марылі
за гэта і хустку, і нат шнур караль,
але не ўдалося, бацькі падлавілі
і ім ў канаплях там уст(р)оілі[5] баль.

З колам прыпёрся Гарыд Аднабокі
і п'яніца Грышка, і Лэйзэр, і Клім,
фанар ужо сьвеціць у бога пад вокам,
а з рыжай чупрыны аж курыцца дым.

Аднэй рукой галіфэ бог трымае,
другой адбівацца заядла пачаў,
а сам ўсё да плоту хутчэй адступае,
хутчэй на дарогу і драла ўжо даў.

А сьледам "А-гу-гу!" – крычалі сяляне,
але бог ня чуў, дзесь далёка кульгаў.
На пятай вярсце ён прысеў на кургане
і доўга ў рацэ галіфэ паласкаў.

---

[1] Польскае напісанне – па-беларуску ж "лыткі".

[2] Логіка падказвае, што тут заместа "апорак" (абутак) павінны быць "порткі" (штаны). Дарэчы, гэтыя недакладна ўжытыя "апоркі" Т. Пладоўскі і Я. Падгайская пераклалі менавіта, як "порткі" (portki).

[3] Так у арыгінале.

[4] Так у арыгінале.

[5] У гэтым слове прапушчана літара "р".

Вось такі юнацкі твор, і ён змешчаны на трох невялікіх старонках, а на апошняй, чацвёртай, можна ўбачыць саматужную ілюстрацыю да заключнага катрэна: мужчына, адставіўшы ўбок левую нагу, сядзіць на беразе рачулкі і нешта пярэ; унізе малюнка выразны подпіс красамоўна ўдакладняе: "Бог палошча галіфэ".

Сваім з'едлівым сачыненнем аўтар не толькі зневажаў Бога (само па сабе, пісаў гэта слова з маленькай літары!), аднак жа, як бачым, праводзіў і палітычную прапаганду, услаўляў **Камуну** (тут ужо, вядома, ішла вялікая літара – зрэшты, з вялікай літары пісаў і назоўнік –Біблія!).

Мэту ж перад сабой ставіў не паэтычна-эстэтычную, а тую, якая блізкая да салёнага анекдота, і вязні камуністы (і, магчыма, некамуністы) ад свайго паэта відавочна чакалі якраз гэткі тэкст.

З кнігі М. Мікуліча "Максім Танк: на скразняках стагоддзя" можна даведацца: згаданы астрожны опус паэт ацэньваў, як слабы раешнік, радаслоўную якога выводзіў ад "Гаўрыліяды" А. Пушкіна і "Бібліі" Кандрата Крапівы, а на судзе, у чарговы раз адмовіўшыся ад аўтарства, увогуле прыпісаў яго Кандрату Крапіву.

Так ратаваў сябе, бо згодна артыкула 172, з якога пачынаўся 26 раздзел крымінальнага кодэкса "Злачынствы супраць рэлігійных пачуццяў": "...хто публічна блюзнерыць, той падлягае турэмнаму зняволенню на 5 гадоў..."

Нагадаю: паэт абвінавачваўся яшчэ і ў стварэнні адозвы "Дзень 1-га Мая".

"...І пракурор, і сведкі (у мяне не было адваката) сарамліва абыходзілі той факт, – пісаў паэт у "Лістках календара", – што гэтыя крамольныя матэрыялы былі знойдзены ў турме, і не ў маёй камеры... Усё абвінавачванне трымалася на паказаннях стражнікаў А. Трухана і Т. Бараноўскага, якія сцвярджалі, што я даўно быў ім вядомы як аўтар падобных грыпсаў. Іх падтрымліваў і "графолаг", хутчэй усяго – нейкі шпік, І. Бругаль..."[1]

У пратаколе пасяджэння не абазначана фізічная прысутнасць Трухана, Бараноўскага і "... "графолага" ...шпіка Бругаля..."

Значыць, іх і не было.

Узяўшы слова графолаг у двукоссе, паэт выказаў сваю відавочную непрыхільнасць да службоўца, экспертызы якога яму асабіста маглі вельмі нашкодзіць.

Аднак жа прозвішча графолага не Бругаль (няхай сабе ён і шпік!), а ўсё ж такі Другаль.

Як ужо гаварылася вышэй, на слуханне быў пакліканы іншы эксперт – каліграф Бжэскі.

Цікава: паэт не згадаў яго ў сваіх запісах, а мог бы і згадаць, і нават сказаць добрае слова, бо заключэнне Мечыслава Бжэскага дало ратунак яму!

У. Калеснік у сваёй працы "Паэзія змагання" памылкова сцвярджаў, што апеляцыйны суд адбыўся 20 снежня, але калі даводзіў: "...даныя экспертызы былі ў карысць абвінавачанага..." – то, бясспрэчна, меў на ўвазе экспертызу Бжэскага.

А слуханне 20 лютага 1935 года йшло тым часам хуткім накатам.

Суддзя-дакладчык Скіндар акрэсліў сутнасць 97-га артыкула, змест якога, як ужо адзначалася, падрабязна раскрываўся артыкуламі 93, 94, 95

[1] Запіс ад 20.02.1935 г.

(злачынствы супраць дзяржавы), і бакі нічога не дадалі да акрэсленага Скіндарам – як сказана ў пратаколе: "...не патрабавалі дапаўнення".

І тут кніга апеляцыйнага разгляду разгарнулася на даволі цікавай старонцы – старшыня Дмахоўскі паясніў падсуднаму Яўгену Скурко змест 81-га артыкула:

"...час знаходжання ва ўстановах, якія названы ў артыкулах 79 і 80, не вызначаецца загадзя..."

Што ж гэта за такія таямнічыя ўстановы?

Артыкулы 79 і 80 падказваюць – гаворка йдзе пра закрытыя лячэбныя арганізацыі для псіхічна хворых!

Калі злачынцу прызнаюць хворым на псіхіку, калі яго палічаць разумова адсталым, пазбаўленым здольнасці кантраляваць сябе, калі ўбачаць, што знаходжанне такога чалавека на волі пагражае правапарадку, то па суду яго могуць здаць у згаданую ўстанову.

У 80-м артыкуле ёсць адсылка на першы параграф артыкула 18-га, які крыху гуманізуе сітуацыю: калі падчас злачынства здольнасць да самакантролю была абмежавана, суд можа ўжыць змякчэнне пакарання...

Мусіць жа, усё-ткі гэта была звычайная працэдура нагадваць абвінавачаным пра існаванне 81-га артыкула, аднак жа, мне здаецца, у дачыненні да паэта Максіма Танка такі ход меў і свой асаблівы падтэкст.

Перад судом стаяў фізічна і душэўна здаровы юнак (прызыўнік катэгорыі "А"!), аднак жа яму нагадалі пра закрытыя бальніцы для псіхічна хворых!

Пагражалі?

Мне ўяўляецца такая карціна: Дмахоўскі прыйшоў на разбор з гатовым выракам, і вырак гэты быў на карысць падсуднага, але старшыні захацелася крыху (ці не крыху!) папалохаць юнака, выхаваўча папярэдзіць: маўляў, мы зараз адпускаем цябе, але глядзі, хлопча, калі не кінеш старое, можаш апынуцца, і надоўга, не проста ў турме, а ў псіхушцы, з якой і Андрэй Струг[1] не выцягне!

Не гуляй з агнём, паэт, не займайся палітыкай!

Малады, прыгожы, яркі, таленавіты – пільнуйся асалоды!

Хадзі ў кіно (ты ж яго так любіш!), купляй паненкам цукеркі, шпацыруй па салодкай вуліцы Міцкевіча, адпачывай у рэстаране "Зацішша" ці ў кавярні Рудніцкага – урэшце, пі сваё любімае малако ў малачарні Гайбэра!

Ці мог старшыня Дмахоўскі гэтак думаць?

Напэўна ж, мог – прынамсі, такое маё ўяўленне...

Па адчытанні-тлумачэнні 81-га артыкула Дмахоўскі спытаў, ці прызнае падсудны сябе вінаватым і якое паясненне па справе хоча даць.

І ў які ўжо раз Яўген Скурко не прызнаў сваю віну, паведаміўшы: рукапісаў, якія былі знойдзены ў камерах іншых вязняў, не пісаў...

Кульмінацыяй разбору з'явілася выступленне графолага Бжэскага.

Паводле судовай працэдуры яго, як і кожнага, папярэдзілі пра адказнасць за няпраўдзівыя паказанні і звольнілі ад прысягі.

Успомнім: на працэсе 5 снежня 1934 года турэмнага наглядчыка Трухана таксама звольнілі ад прысягі, толькі Трухан тады чакаў выкліку ў асобным пакоі, а вось графолагу Бжэскаму дазволілі ўвесь час знаходзіцца ў зале.

---

[1] Андрэй Струг (1878 – 1937) – польскі пісьменнік, кіраўнік Лігі абароны правоў чалавека.

Пан Бжэскі заявіў, што Яўген Скурко піша прыгожым почыркам, і ён мог напісаць грыпсы, аднак тэксты, далучаныя да справы, накрэслены на вельмі маленькіх аркушыках і вельмі дробнымі літарамі, таму асаблівасці пісьма страцілі пэўныя рысы, уласцівыя почырку падсуднага; у выніку немагчыма неаспрэчна сцвердзіць, чыёй рукой накрэслены грыпсы – Яўгена Скурко ці нейкай іншай асобы; тым болей, што почырк Яўгена Скурко характэрных прыкмет не мае, а ўяўляе сабой звычайны тып хуткага канцылярскага пісьма, якім валодаюць многія...

Сваё выступленне Бжэскі завяршыў дыпламатычнай пахвалой Другалю – маўляў, ягоная экспертыза трапная і слушная, аднак слушная яна толькі... у фрагментах; яе дастаткова для прызнання вялікай верагоднасці паходжання почырку ад рукі падсуднага, але недастаткова для катэгарычнага пра тое сцвярджэння...

Словам, усё вельмі падобна, але няпэўна!

А раз так (Мечыслаў Бжэскі нібыта падказваў суддзям) – то давер павінен перамагчы падазронасць!

– Які гжэчны чалавек! – так ацаніў пазіцыю графолага паэт Фелікс Баторын.

Пэўна ж, падпракурор Ячыноўскі меў на гэты конт іншую думку...

“Не буду ўнутр залазіць” (Янка Купала) у неабходныя, але дробныя пытанні далейшай судовай плыні, скажу адразу: віцэ-пракурор Гвірыні прапанаваў зацвердзіць апраўдальны прысуд першай інстанцыі.

Вядома, прапанову пана Гвірыні Яўген Скурко прыняў, як узнагароду, і тут жа сам папрасіў, каб яго апраўдалі.

І яго зноў апраўдалі – зацвердзілі вырак акруговага суда, а выдаткі разбору залічылі на рахунак дзяржавы.

Шмат што паспрыяла нарачанскаму хлопцу, і, вядома ж, тое, што ў блакнотных нататках Б. Тарашкевіча (тых самых, канфіскаваных 5 лютага 1931 года ў Тчэве) ён згадваецца проста як “Скурко”, а не “Яўген Скурко”; толькі прозвішча – імя няма, і гэта дало добрую магчымасць аднеквацца – маўляў, Скуркоў шмат, гэта не я быў кур’ерам у Б. Тарашкевіча, а нехта іншы...

Пачаўшыся а 9-й, слуханне завяршылася ў... 9 г. 25 хв. – доўжылася, выходзіць, няпоўныя паўгадзіны?!

І за гэты кароткі час стажор Радзюк спісаў чатыры старонкі пратакола (праўда, няпоўныя), Скіндар зрабіў даклад, Дмахоўскі растлумачыў змест некалькіх артыкулаў, выступілі Яўген Скурко і Мечыслаў Бжэскі, слова браў Гвірыні...

У пратаколе адзначана, што Гвірыні гаварыў толькі адзін раз – падаў рэпліку пра апраўданне падсуднага і ўсё; у стэнаграме (якую, на жаль, не маю), напэўна ж, ягонае выступленне аднатавана паўней.

А суд яшчэ хадзіў радзіцца, па вяртанні старшыня зачытваў амаль паўтары старонкі прыгавору, – і ўсё гэта за 25 хвілін?

Анатоль Сідарэвіч не здзівіўся такому тэмпу:

– Хутка ўправіліся, бо не хацелі размазваць!

І Фелікс Баторын таксама не здзівіўся:

– Суд адштампаваў даўно прынятае рашэнне! На гэта багата часу не трэба...

Сапраўды, адштампаваў!

Прынамсі, да пачатку разбіральніцтва (магчыма, за некалькі дзён да

яго!) суд ужо меў гатовы ўзор выраку, да такой думкі можна прыйсці, адно зірнуўшы на машынапісную "сентэнцыю" – прысуд.

Вось копія прысуду з загадзя (!) надрукаванай апраўдальнай пастановай; у гэтую копію толькі ўдрукавалі на першай старонцы число "20 лютага" – дакумент завяршаецца подпісам сакратара і круглай пячаткай апеляцыйнага суда.

А вось машынапіс арыгіналу, змест якога, вядома ж, слова ў слова такі, як у вышэй згаданай копіі.

Розніца адно ў тым, што ў арыгінал не ўдрукавалі, а ўпісалі (на тую ж першую старонку) число – "20 лютага", а на другой старонцы зноў жа не ўдрукаваны, а ўпісаны ўсё той жа апраўдальны прыгавор, змацаваны трыма подпісамі – Дмахоўскага, Ядзевіча і Скіндара; праўда, пячаткі тут няма...

Не выпускаючы з-пад увагі занадта кароткі час разгляду (яшчэ раз паўтаруся – няпоўныя паўгадзіны!), думаю, што разбор завяршыўся ўсё ж такі не ў 9 г. 25 хв., а ў 10 г. 25 хв.; пратакаліст Радзюк памыліўся (стажор, адным словам!) – па нявопытнасці зменшыў рэальны час пасяджэння на цэлую гадзіну.

Праўда, здараліся й хуткасныя працэсы – скажам, 24 студзеня 1930 года 3-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда разгледзеў справу Б. Тарашкевіча за 40 хвілін – таксама невялікі час, але для разбору дастатковы, гэта ж не 25 хвілін...

У 1949 годзе Максім Танк пісаў пра "жудасную панскую няволю"; 20 лютага 1935 года, як і раней, "панскія" суддзі зрабілі ўсё, каб малады паэт выйшаў з судовай залы і лёгка ўздыхнуў.

Нагадаю: пракуратура яму ставіла ў віну не толькі 172 артыкул (5 гадоў за кратамі), а яшчэ й 154-ты ў звязку з 93-м – а гэта ўжо, як за дзяржаўнае злачынства, цягнула на поўныя 10 гадоў!

Словам, юнак унік доўгай турмы, так што, дзякуючы Дмахоўскаму, Ядзевічу і Скіндару, "панская няволя" была і лагоднай!

А калі б сталася ўсё па-іншаму і паэт надоўга сеў бы ў астрог, то мы не мелі б такой з'явы, як ягоная даверaснёўская творчасць; не, штосьці б мелі – скажам, асобныя вершы (у цямніцы іх багата не наскладаеш!), тыя ж рыфмаваныя грыпсы, напрыклад; нешта яшчэ надрапанае ўпотай, але не было б кніг – "На этапах", "Журавінавы цвет", "Пад мачтай"!

Не было б і паэм – "Нарач", "Сказ пра Вяля", "Каліноўскі"; урэшце – не было б "Лісткоў календара", а калі б гэты дзённік і з'явіўся б, то, бясспрэчна, не з такім шчодрым зместам...

"Пясьняр вастрогу".

Словазлучэнне ўзята ў двукоссе не мной – такую атэстацыю паэт займеў ад свайго непрыяцеля, які выступаў пад псеўданімам "Не-стары"[1].

Праўда, не толькі зласліва, але і з ноткаю спачування, "Не-стары" пісаў: "...шкада, што з вастрогу пачалося маладое жыццё Танка і яго вастрожнай псіхіцы нельга ніяк пазайздросціць. Але чаго гэтым ізноў так рысавацца..."[2]

"Не-стары" зрабіў закід паэту – маўляў, аўтару не варта ў сваіх вершах выхваляцца тым, што ён, аўтар, некалькі разоў трапляў за краты!

---

[1] Пад такім псеўданімам выступаў Макар Краўцоў.

[2] "Родны край" № 4 (92), 11 красавіка 1936 г. – С. 2, 3.

Я такіх закідаў рабіць не буду, аднак скажу: у маладосці Максім Танк выдумляў блюзнерскія балады, здзекаваўся з Бога, на судах задзірліва адмаўляўся ад веры, заяўляў суддзям, што ён – “бэзвызнанёвец”, але (якая іронія лёсу!) у старасці быў пахаваны пад крыжом – знакам хрысціянскай рэлігіі; праўдзівей – разам з жонкай ляжыць у нарачанскай зямлі пад двума высокімі крыжамі...

Паэт называў паэзію той краінай, якая непадкантрольная польскай паліцыі, аднак жа ці задумваўся: “А сталінскай паліцыі паэзія таксама непадкантрольная?!”...

20 лютага 1935 года з апеляцыйнага суда Максім Танк выйшаў на вуліцу і да верасня 1939-га быў на свабодзе...

...Калі так хочацца смяяцца,
Што бачыш ты і чуеш ты,
Як ціха сыплюцца праз пальцы
Каштанаў звонкія лісты.

У астрозе такія радкі не пішуцца!

Так, польскі грамадзянін Яўген Скурко выйшаў з суда, пазбаўлены грамадзянскіх правоў, – і няхай сабе, затое застаўся на волі і па-новаму сагрэўся разуменнем: якое гэта шчасце быць беларускім паэтам!

І якая гэта асалода, калі (ідучы па Вільні!), ты можаш пра сябе сказаць: “...натуральны, як лінія небасхілу...”!

*21 чэрвеня 2014 г., субота, 13 г. 21 хв.; Менск –*
*14 лютага 2016 г., нядзеля, 15 г. 59 хв.; Менск.*



Аксана Данільчык



...твая памяць – срэбная сетка
якая ўжо нічога не можа злавіць...

# Дзеці туману

## *СЭРЦА*

прачытаныя кнігі
раскіданыя па покрыве зямлі,
перамешаныя з вадой, небам і глінай
нагадваюць з вышыні птушынага палёту
рэшткі разбітага сэрца

яго накрываюць аблокі сваімі далонямі
яго абдымае туман сваім подыхам
каб затрымаць у жыцці яшчэ на некалькі
імгненняў

і пакуль глеба робіцца цёмна-барвовай
думка ператвараецца ў маленькую кропку
якая то затухае то слаба міргае

на гэты маячок злятаюцца шэрыя ястрабы
робяць некалькі павольных кругоў
і адкрываецца раптам чыстае поле
на якім не засталося нават словаў
бо словы пайшлі за сэрцам

*rem verba seqdentur*[1]

* * *

у той час як мае пальцы стукаюць па клавіятуры
быццам кроплі дажджу па вадасцёку
выбіваючы мелодыю думкі

неба ўсмоктвае горад
у барвовую расколіну
што падзяляе яго на дзве паласы

па залатой паласе скачуць залатыя вершнікі
пераскокваюць праз вогненную раку
і знікаюць за тонкай чырвонай лініяй

на чорнай паласе вянуць чорныя ружы
засыпаюць сваімі пялёсткімі далягляд
за якім нічога не бачна

ні еўропы ні беларусі
ні заняпаду ні адраджэння

толькі пыл што калаўроціцца на месцы горада
які праваліўся ў неба

вось ён канец цывілізацыі

а нехта спрабаваў дакрычацца

* * *

твая памяць – срэбная сетка
ў якую заплываюць чырвоныя рыбкі ўспамінаў
з цягам часу яна робіцца рэдкай

чырвоныя рыбкі
вольна заплываюць вольна выплываюць
а віхуры залацістых плыняў іх у паветра ўздымаюць

твая памяць – срэбная сетка
якая ўжо нічога не можа злавіць
павесь яе на сцяну ля пірса
хай сушыцца пад сонечнымі промнямі
аздабляючы шлях да мора

рыбінымі вачыма пазірае прастора

* * *

калі я пішу я быццам выходжу на паверхню
быццам застаюся без вопраткі не глядзіце на
мяне я сама ў сабе мой голас робіцца бязгучным
а жэсты незразумелымі так пішацца музыка ў
паветры працятым срэламі хмарачосаў але ці
засталося ў ім месца для музыкі можа быць ў ім
ёсць месца толькі для аднаго маўчання

напішы напішы боль ты ведаеш якое яго гучанне

боль гэта не крык боль гэта камень гэта
скамянелая кроў якая нікуды не рухаецца
прынамсі здаецца што яна болей не рухаецца
гэта скажоныя выявы якія набываюць
гратэскныя формы і боль павялічваецца да
неверагодных памераў выходзіць за межы
агульнапрынятых нормаў ён палохае ён
не імкнецца схавацца але цела працягвае з
болем змагацца здрабняючы яго на часцінкі
рассыпаючы на палавінкі да стадыі поўнага
ігнаравання

дзеля таго каб працягваць жыць без неабходнасці
даказваць права на ўласнае існаванне

* * *

пчолы мядовыя стварэнні
кружаць вакол мяне
вязнуць у мядовых рэках
цёмна-залатых жоўта-васковых
павольна-густых
нараджаюцца ў іх і паміраюць

мураш з-пад лісціка мяты
ўглядаецца ў соты
на якія падзелены свет
дзе свядомасць балансуе
паміж неўсвядомленым быццём
і яго рэальнымі праявамі

што ёсць мая вінаватасць
што ёсць вінаватасць іншага
кветкавы пылок
сабраны ў каморках сотаў

жоўты вохрысты залаты
васковы бурштынавы
чорны

сублімацыя
несмяротных/смяротных джалаў
прыхаваных у цёмным кутку

* * *

бэзавыя птушкі на жоўтых кветках
узніклі ў той момант
калі мае павекі здрыгануліся
і я вярнулася з нечаканага палёту

разбураная псіхадэлічнасць уяўленняў
яшчэ доўга нагадвала пра сябе
кожны раз калі я закрывала вочы

я памятала як узмахвалі крыллем
бэзавыя птушкі на жоўтых кветках
пакуль з мяне выскрабалі душу

о святло і таямніца боль і асалода
двухаблічная памяць
з падступнай усмешкай прыгажосці

### *ВАДА ЗА ВАКНОМ*

праз туман
праз усе адценні шэрага
праз усе адценні срэбнага

падсвечанага слабым сонцам
ззяюць іх шчыты
паблісклваюць іх дзіды
чуюцца іх крокі
чуюцца іх спевы
ўрачыстыя як літургія

праз туман
праз усе адценні шэрага
праз усе адценні чорнага
прасвечанага начнымі паходнямі
святло дрыжыць на вадзе
святло прабіваецца праз ваду
уздымаецца з дна ракі
дзе сваё пахавалі золата
і пайшлі шукаць сабе славы
дзеці туману нібелунгі

ці ўсе тыя рэкі
пераліваюцца адна ў адну
ці ўсе тыя туманы
пераходзяць адзін у адзін
ці ўсе тыя песні
распавядаюць пра адну гісторыю
пра адзін пярсцёнак
пра адну здраду
пра адно забойства

так гэта мы
самазнішчальныя
дзеці туману
бясконцага
як гэтая зіма

* * *

гладкае як камень аблашчаны морам
неверагодна моцнае ў абмежаванай прасторы
несувымерна далёкае
неадпаведна прыцягальнае
незнаёмае і разам з тым пазнавальнае

цела антычнага бога на старажытным малюнку
на сучасным фотаздымку

мастацтва і стылізацыя
арыгінал і яго імітацыя

і ў гэтых культавых стварэннях
стварэннях культу
цела і не толькі
ты можаш не бачыць вобразаў
а дыхаць няўлоўным водарам
глыток паветра
і ўсё знікае

і застаецца праекцыя
цела і ягонага ценю
на матрыцы тваёй свядомасці
рэальнае і жаданае
застылае ў нерухомасці
але ўнутрана неспакойныя
нібы твой уласны адбітак у люстры

а ўсё астатняе пытанне інтэрпрэтацыі

так казаў Заратустра

* * *

завяжы на памяць вузел
толькі не зацягвай

каб нечакана не сціснула горла
пятля

* * *

быццам
ламаная лінія
на маніторы
іронія
выгінаецца
сваімі іголкамі
за кожнае слова
чапляецца
хто ты
гаргона гарпія
або леда

з якой невядомай
кнігі жыцця
твае імгненныя веды
сама да сябе
да ўласных
глыбінь скіраваная
лашчыць і паступова
збівае
пяшчотна
замаскаваная
іронія

* * *

пераменная хмарнасць не пакідае дрэвам
ніякіх магчымасцяў аднаўлення
зеляніна каштанаў робіцца цёмнай
каб потым наблізіцца да стадыі поўнага вынішчэння

сонца быццам загнаная мыш
шукае шчыліну праз якую магчыма выйсці
але зрок ужо болей не той
як на пачатку лета ў нейкім забытым калісьці

першакрокі ў нязнаную бытнасць магчыма спыніць
пакуль нічога яшчэ не разбіта
чужыя сусветы спачатку захопліваюць мяне
пасля выштурхваюць са сваіх арбітаў

я гляджу на самую сябе як праз шкло
як праз покрыва мройнага ранку
мне на плечы злятаюцца ў чорнай смузе
птушаняты-падранкі

я не бачу святла не таму
што заплюшчыла вочы
а таму што злуюся бы тысяча восаў ці проста
як адзін скарпіён перад тым як на ворага скочыць

* * *

мара аб паэтычным слове будзіць мяне сярод ночы
я прадзіраю вочы і разглядаю начны краявід за вакном
выгляд зімовага гораду нейкі жабрацка-сірочы
і гэтаксама жабрацка-сірочы кожны асобны дом

цені ад поўні кладуцца галінамі дрэваў
рух пачынаюць па шэрай бетоннай сцяне
фары машынаў то злева направа то справа налева
іх калышуць у нейкім злавесным паўсне

мара аб паэтычным слове курчыцца ў дальнім завулку
драпае сцены і болей не можа маўчаць
я выпускаю паўсонныя думкі з зацішных прытулкаў
і пачынаю за імі нібыта здалёк назіраць

можа валькірый палёт ці палёт маргарыты
ветрам узняўся і дзверы ў суседні сусвет адчыніў
перада мною світанак паўстаў як разгорнуты світак
дзе засталіся сляды маіх словаў таму хто мяне не прысніў

### АДЧУЖАНАСЦЬ

на панцыры вогненнага дракона нечаканая прахалода
ляжу ухапіўшыся за выступы гарбаносыя
парослыя мохам і не адчуваю як вогненная прырода
выплёўвае з нетраў ягоных полымя безгалосае

калі напаўзаюць яшчары неба грамадай паніклаю
калі накіроўваюць тонкія стрэлы вятры-паляўнічыя
ён млява ашчэрвае пашчу з чырвонымі ікламі
і радасна забаўляецца з новай раптоўнай здабычаю

я на яго спіне трапляю то ў пекла то ў выраі срэбныя
малюнкам на лускавінах любуюся быццам мапаю
мне не відаць як абсалютна больш непатрэбныя
падаюць мёртвыя ксеніі[2] побач з вялізнай лапаю

мне не відаць як на скуры платанаў чарнеюць абпаліны
як пад цяжарам ягонай хады камяні разбураюцца
і як дыханне ягонага вынік аддалены
вогненным веерам па-над азернай вадой уздымаецца

---

[1] Словы рушаць за прадметам (*лац.*).
[2] “Ксеніі” – “дарункі гасцям”, таксама цыкл вершаў Э. Мантале.

Валеры Гапееў



...іншае жыццё,
жыццё незвычайнае, невядомае,
існуе...

# Ноч Цмока

***Раман***

*Заканчэнне. Пачатак у №1 (80).*

**11.**

Тое, што ў нас іншым разам асабліва шануецца і завецца прастатой, можа быць усяго толькі прэсным прымітывам.

Зіначка ўжо збіралася дахаты: выключала камп'ютар, складвала паперы на стале. Усміхнулася мне і паведаміла проста, бы жонка мужу:

– На вячэру сёння амлет з курынай каўбасой! Не пазніся!

Я мусіў вяла ўсміхнуцца ў адказ. Зіначка заўважыла маю млявасць, насцярожана-клапатліва запыталася:

– Стаміўся?

– Больш эмацыйна, – як мог шчыра прамовіў я. – Амлет з курынай каўбасой – цікава. Маці, запечаная ў сваіх дзецях...

– Што? – спуджана акругліла вочы Зіначка.

– Ды я смяюся, не палохайся, – супакоіў я і пашкадаваў пра сказанае. Не да месца такія дурныя жартачкі.

– Ну добра... Глядзі, Тамара нешта не ў гуморы.

– Нічога... Дзякуй, – я ўзяўся за ручку дзвярэй пракурорскага кабінета і прымусіў сябе яшчэ раз усміхнуцца і паабяцаць: – Амлет з’ем.

Пачуццё маёй залежнасці ад гэтай жанчыны выклікала супраціў. Бач, як хутка яна... Заўтра прынясе каву ў кабінет, дэманструючы свае правы на мяне. Трэба мякка прыпыніць гэты разгон уладарнай прагі.

Мая запланаваная сустрэча з ляўдоцкімі дачнікамі выклікала ў Тамары раздражненне:

– Што ты хочаш ад іх даведацца?

Ніяк не быў гатовы да такога пытання, да настрою пракурора. Здаецца ж, усё ідзе нармальна: месца забойства практычна вызначана, тое, чым была забіта Насця Грыцук, амаль вядома. Выклікаем на допыт Падлужнага як падазронага ў забойстве, націснем добра – усё раскажа. Не мог жа ён, калі і выціраў тыя зубы грабляў не спецыяльна, не заўважыць рудых плямаў крыві? І я павінен дакапацца да ісціны: з якога перапуду жанчына-лесбіянка вырашыла зацяжарыць і ўпотай ад усіх, акрамя гэтых дачнікаў, нарадзіць дзіця? І дзе яна яго нарадзіла? Дзе было дзіця гэты час? Што за Яшчур такі? Якая роля таго небаракі – паэта Дылько?

– Бо ён і быў бацькам, – безапеляцыйна адрэзала Тамара на мае разгубленыя пярэчанні. – І не прымай трызненне чалавека, якому заўтра пад бярозкі, за тэму для роздуму. Што табе яшчэ невядома? Уключы фантазію!

– Ну, няхай ён бацька... Але чаму ведаюць усе ў Ляўдку, усе чужыя, а не ведаюць калегі, таварышы па рабоце? Насця ж не магла не ведаць, у якія грошы, правільней, у якую згубу грошай абернецца для яе таемная цяжарнасць: на ўлік у час не стала.

– Значыць, так яна захацела. Можа, і не збіралася яна з ім жыць. Ды няважна...

– А адзенне яе? Хто сабраў яго ў пакет, калі нават дапусціць, што Насця і Андрэй Дылько займаліся на паляне пад дубам каханнем?

– Сама склала, – адмахнулася Тамара, быццам я спытаўся пра відавочнае. – Чаго ты на мяне дзівішся? Я ў маладосці любіла мужа сустрэць пасля работы голай. І Насця магла сустрэць так свайго Андрэя. Ноч, ніхто не бачыць, такое месца... Тым больш пра яе кажуць як пра ведзьму. Можа, і адна яна была, качалася па расе, падкацілася пад тыя граблі... Няшчасны выпадак.

– А сляды? Мы ж не пабачылі...

– Бо шукалі проста сляды, а не тыя, якія зацерлі.

– Хто зацёр? Ды мы так глядзелі!

Я пытаўся, як школьнік у настаўніка пра новую цалкам тэму. Я не разумеў, не мог ісці логікай пракурора.

– Той, хто нёс Насцю... А глядзелі дрэнна, – стомлена ўздыхнула Тамара і дастала цыгарэту.

Я замаўчаў, пераварваючы пачутае, пастараўся шчыра стаць на пазіцыю пракурора. Калі і сапраўды так?

– Тады... Тады Насцю мог несці ці Андрэй Дылько, ці Міхась Падлужны. Скажам, грымнулі граблі, забрахаў сабака – Падлужны выйшаў, пабачыў... А неслі да Зміцера, бо ці яна сама, яшчэ жывая, папрасіла, ці падумалі,

ён, як вядзьмак, адно і дапаможа. Але памерла дарогай, не данеслі, то і кінулі на полі?

– Не іначай, – Тамара энергічна пастукала цыгарэтай аб край попельніцы. – Выклікай Падлужнага павесткай, але не запалохвай. Сам ён не мог забіць яе тымі граблямі. Не будзе ж яна голай ляжаць і чакаць, пакуль той нейкі рычаг адпусціць. Ды і прычыны няма. – Тамара яшчэ раз паглядзела на раздрукаваныя здымкі – агульны выгляд паляны, конныя граблі, зубы. – Так, эксперт толькі пацвердзіць, што гэтыя зубы і маглі пакінуць такія сляды. Сам бачыш, якая тут трава густая... Некалі мая бабуля казала, як па першай расе надта добра качацца, для здароўя карысна. Каб скура была свежай, не друзлай. І нейкія хваробы так лячылі. А на Купалле, каб ты знаў, яшчэ ў час маёй маладосці жанкі ў гадах качаліся, цішком ад моладзі і мужыкоў. Сама бачыла. Праўда, усяго з сябе не скідалі – ільняныя доўгія кашулі апраналі. Як у каго не было, дык па чарзе.

– Дык мне не ехаць заўтра на сустрэчу з гэтымі... аматарамі абрадаў?

– З'ездзі сабе, чаго ж не? – дазволіла раўнадушна Тамара. – Але машыны не дам – адпусціла, бо прасіўся Віктар, яму справы рабіць трэба свае. Дабярэшся неяк. Надта толькі не накручвай сябе. Бабы найчасцей робяць так, што мужчына ніколі са сваёй логікай не патлумачыць. Зрабіла – і зрабіла. Бо так у той момант хацела. І шкадаваць не будзе ніколі, і тлумачыць не будзе, бо тлумачэння не бывае. Імпульс кароткі, настрой, ляйчына пад хвост... Так вось.

– Зразумела...

Я развітаўся і накіраваўся да дзвярэй. Зіначка ўжо сышла. Я зноў з прыкрасцю падумаў пра тое, што давядзецца ісці да яе. Так, ад ранішняй «сексуальнай заклапочанасці» не засталося і следу. Магчымыя любошчы ніяк не ўпісваліся ў мой настрой, гэта па-першае. Па-другое... Я вяртаўся нетаропкай хадой і думаў пра тое, што мяне зараз не чакае прыгатаваная вячэра, да якой я прывык за апошні тыдзень. І Надзея не чакае. Чакае Зіначка, але чакае, як сучка злучку, ёй трэба, яна возьме ад мяне тое, патрэбнае, і на гэтым усё... Ці яна думае мяне так прывабіць, каб застаўся з ёй жыць? Ну, не такая ўжо яна бязглуздая, каб спадзявацца, што я згаджуся стаць бацькам дваіх чужых дзяцей. Ды чорт іх ведае! Як там Тамара казала? Няма логікі. Ды Зіначка – лухта. І Надзея... Не, не лухта, але ж і на ёй жанчыны ў гэтым райцэнтры не закончыліся. Сама вінаватая: трэба было пачакаць. Ці хоць пакінуць слоўца якое, магла і элементарную эсэмэску адправіць. Хоць выбачыцца, бо ж не дачакалася, падманула. Бач, тэст я не прайшоў! Хіба я жывёла паддоследная?

Накручваў, стараўся раззлавацца, а падсвядома марыў: вось зараз Надзея будзе чакаць мяне ля сваіх веснічак. Мы ўсміхнёмся адно аднаму, павітаемся, яна спытаецца-ўпікне нязлосна, але з такім прыемным клопатам: «Зноў не абедаў?» – і я прамаўчу пра тое, што перакусілі з Тумарам яго тармазком. І быццам не было ўчарашняй ночы, яе нечаканага пытання, маёй ашалеласці. Мы разам павячэраем, яна будзе сядзець, як заўжды – нага за нагу, у сваіх звыклых шортах, а я буду есці і паглядаць на яе высока аголенае сцягно і не стрымаюся, як і раней, у нейкі момант спыню сваё жаванне, выцеру вусны, нахілюся і пацалую халаднаватую скуру, якая не мае для мяне ні паху, ні смаку, як вада, але ж і такая жаданая...

Надзея не стаяла ля веснічак – яна была ля ганку свайго дома, пра нешта размаўляла з мужчынам. А той павольна, паспяваючы адказваць,

капаў яму якраз пад ганкам. Дзве палавінкі варот былі расчынены насцеж. Раптам выявілася, што й трымаліся яны добра толькі зачыненымі, калі былі разам, а цяпер, кожная паасобку, стаялі нахіленыя, ледзь не падалі, трымаючыся за слупы ржавымі скрыўленымі завесамі. У двары стаяў вялікі чорны аўтамабіль. Як кажуць тут, круты.

Я і так ішоў няспешна, а тут прыпыніўся, пацягнуўся ў кішэню па цыгарэты, хоць хвіліну таму выкінуў недакурак. Мяне апякло, твар запалаў, я не зразумеў пакуль, што адбылося, што я такое пабачыў. Быццам знянацку вось цяпер на вуліцы мне далі аплявуху. Пстрыкаў запальнічкай, напаўадвярнуўся, але бачыў, як Надзея знікла за дзвярыма і амаль адразу ж выйшла. З кубкам кавы. Мужчына спыніў сваю працу, узяў кубак, і яны прыселі разам на ганку, блізка-блізка адзін ля аднаго, кранаючыся плячыма. Больш за тое – Надзея прыпала да мужчыны даверліва, нават галаву схіліла, амаль паклала яе на мужчынскае плячо.

Я не мог прайсці міма, адвярнуўшы галаву: да іх было ўсяго нейкіх дзесяць крокаў. І я проста кіўнуў, як ківаюць знаёмым, не сябрам, а ўсяго толькі знаёмым, без усмешкі на твары, паказваючы гэтым маўклівым кіўком, што не маю ніякага жадання прыпыніцца і загаварыць, парушыць спакой чалавека. Простая выхаванасць, элементарная суседская ветлівасць. Яны кіўнулі мне ў адказ таксама моўчкі. Мужчына быў старэйшы за мяне. Гэта было заўважна.

Ну і добра, ну і добра... Стаяў пад струменямі душа, намыльваўся і змываў пахкую пену, зноў намыльваўся. Якая ж яна хуткая... Няўжо можна вось так: учора клала галаву на плячо мне, а сёння – іншаму? Як яны могуць так элементарна забывацца на ўсё? Ну і няхай...

Па пояс голы, у адных трусах, адкаркаваў бутэльку, наліў каньяку і выпіў, плюхнуўся ў крэсла. Ну і няхай! Яшчэ пабачым, ці так з табой было добра, як будзе сёння з Зіначкай...

І было прыкра. Да болю прыкра. Найбольш пякло за сябе, ранішняга, які ўяўляў сябе ў ложку, мнучы вялікія Зіначкіны грудзі і цалуючы іх смочкі. Маладушна спісваў той настрой на сваё пахмелле, на злосць. Дык жа і Надзея магла раззлавацца. Але каб вось так мне дэманстраваць... дэманстраваць мне сваю абыякавасць, нават сваю пагарду да мяне... Навошта яна так? Навошта яна зараз штурхае мяне да Зіначкі? Чаму яна не пачакала гэты дзень, усяго нейкіх дзесяць гадзін? Навошта яна так... адразу?

Выпіў яшчэ. Апрануўся ва ўсё свежае. Крадком выглянуў у акно – Надзея і мужчына сядзелі, як быццам прайшло не паўгадзіны, а хвіліна. Толькі пусты кубак стаяў на прыступцы ля мужчынскіх ног.

Я выйшаў, прымкнуў дзверы, не азіраючыся, не гледзячы ў іх бок, пайшоў, але патыліцай адчуваў: глядзяць яны, глядзяць! І перагаворваюцца. Вось жа не падалося, я чую нягучны мяккі смех Надзеі...

У кожнага ёсць выбар. Надзея выбрала. Я – таксама. Ніякіх прэтэнзій ні да кога. Як там паэт казаў: «Кожны выбірае па сабе...»

Лухта! Нічога я не выбіраў. Я качуся, бы той шарык у некалішняй дзіцячай настольнай гульні: тут варотцы, тут слупок, тут канаўка. Адтуль адштурхнулі, там уцiснуўся, адгэтуль – па дарожцы гатовай... Пра які я свой выбар? Вось Надзея выбрала. Мо думала пакутліва тыя гадзіны і вырашыла: хоць за зайца, абы яйцы. А я ці выбіраў? Надзея пайшла – ну і хай ідзе. Ці паспрабаваў спыніць-вярнуць? Зіначка задам павяла – пацёгся следам. Я ж і цяпер во іду не таму, што выбраў, а таму, што так склалася мая дарога.

І колькі ўжо я так іду? Колькі гадоў не сам вырашаю, а бязвольна качуся? Дзе і калі я выбіраў? З той першай? Дык жа не сам выплюнуў цягучую гумку адносінаў, а яна перастала жаваць і дала мне зразумець: хопіць. А Надзея? Дамагаўся я яе? Калі б не яе ініцыятыва, не яе жаданне, як бы было? Карыстаюся. Я карыстаюся тым, што мне падае ў рукі. Я – сляпы крот, якому яшчэ і ноздры забіла. Але шчаслівы, бо патрапіў у чужую, даўно закінутую нару. Поўзаю па ёй, падбіраю, што трапляецца. Ці маё гэта жыццё? Ці спрабаваў хоць раз я прарыць СВОЙ ход?

Ці шукаў месца работы перад заканчэннем вучобы? Ат, хай будзе, як будзе, махнуў тады рукой. А яшчэ раней, на першым курсе, калі на дыскатэцы пазнаёміўся з дзяўчынай, і так хораша было з ёй, і ўжо збіраўся ехаць з ёй на другі канец горада, правесці, ды спужаўся тых двух хлапцоў, якія падышлі ў прыбіральні. Папярэдзілі, маўляў, занятая прыгажуня, не лезь... І сёння агідна за той страх, за трымценне пад каленямі і ліслівае-зухаватае: «Занятая, дык занятая. Хапае дабра такога!» І пайшоў, подленька радуючыся, што ўнікнуў бойкі, ненавідзячы сябе за маладушнасць, няздольнасць адстаяць сваё... Тады хутка, толькі адышоўся, знайшоў апраўданне: ды ну яе да д'ябла – ездзіць праз увесь горад да яе, дзе той час браць? Але грызла, не адпускала, і стаяў перад вачыма яе мілы вобраз. І вочы тых двух нахабнікаў... Ды якіх нахабнікаў! Адзін з іх дамагаўся свайго, гроб зямлю сваёй нары як умеў і як мог, а я спужаўся. Так лёгка і спакойна жылося, усё неабходнае само падала ў рукі, і знаходзіў добрае і смачнае ў гэтых паданцах... Дык чаго было лезці на стромкае дрэва, абдзіраць да крыві скуру на руках і твары ды яшчэ рызыкаваць без вачэй застацца?..

Я думаў пра тое дарогай, думаў у магазіне, пакуль выбіраў віно (якое браць: сухое ці напаўсалодкае?), цукеркі.

Вось і Зіначкін дом. Адзіная лаўка перад пад'ездам зламаная, ніхто не сядзіць. То і добра...

Прыпыніўся, прыпаліў цыгарэту, выдыхнуў дым. Згадалася: сусед па пакоі меў жорсткае правіла – за дзве гадзіны да планавай сустрэчы са сваёй дзяўчынай ці хоць з нейкай жанчынай кідаў курыць і запіхваў у рот гумку.

Лухта ўсё... Усе коцяцца, і ўсё коціцца. Гэта называецца лёсам. Як выпадае – так выпадае. Выбар, не выбар... Філасофія для аматараў унутранага капання. А мне капацца ў сабе няма калі. Мне трэба перакопваць чужыя лёсы і жыцці. Следчы я, а не гуманітарый са схільнасцямі да суіцыдальнага вершаскладання....

– Адкрыта! – выгукнула Зіначка з-за дзвярэй і тут жа расчыніла іх перада мной.

«Я любіла іншы раз мужа сустрэць голай» – здаецца, так гадзіну таму казала Тамара. Гэтыя словы ўсплылі ў свядомасці міжволі. Канешне, я чакаў, што Зіначка апранецца ў нешта такое, каб максімальна падкрэсліць свае вабноты. Можа, нейкі празрысты халацік без станіка... Ну не вісяць жа яе грудзі скуранымі мяшкамі, хай сабе і вялікія! Ці нейкую асаблівую сукенку з глыбокімі разрэзамі (каб можна было сесці і высока быццам незнарок загаліць сцягно), дэкальтаваную (тады лагчынка між грудзей, сціснутых адмысловым станікам, падасца самым спакуслівым месцам для вуснаў).

Але Зіначка была ў кароткіх цесных шортах белага колеру і жоўтай майцы. Як звычайна апранаецца Надзея. Мяне быццам нямоцна нешта штурхнула ў грудзі. Працягнуў пакет, сказаў найграна-абыякава:

– Выбачай, браў наўгад, не спадабаецца – выльеш мне на галаву. Можа, не аблысею...

– Ой, навошта ты траціўся? Цукеркі ж дарагія! А я не пераборлівая на віно, – нечакана для мяне без аніякага падтэксту, заклапочана, без усмешкі адказала Зіначка. – Праходзь.

– Давай фронт работы паказвай, – прапанаваў я, непрыемна крануты сустрэчай на парозе, у якой не было ніколькі выразнага праяўлення радасці, не было нават намёку на гарачую ноч у ложку. Зіначка была апранута па-хатняму, зусім па-хатняму, нават шорты і майка не былі свежымі, яна іх колькі дзён насіла, гэта ж так відаць! І я ўставіў пра «фронт работ» наўмысна, даючы ёй магчымасць адказаць гуллівай двухсэнсоўнасцю, якая б магла стаць прыемным і ўзбуджальным пачаткам.

– Які там фронт! – Зіначка вярнулася з кухні, куды аднесла віно і цукеркі. – Скідай абутак... Зараз пакажу... – і павяла мяне ў залу.

Тут не было накрытага на дваіх століка з чыстымі талеркамі, салатай і чысцюткімі зззяючымі фужэрамі. Канапа не была нават добра засцеленай, пярэстая пакрыўка ляжала прымятая.

– Во, глядзі! – Зіначка ўзяла з канапы пульт, павяла ў бок тэлевізара. – Бачыш?

Экран засвяціўся, але тэкст на блакітным фоне паведамляў аб адсутнасці сігналу.

– Зразумела, – са штучнай бадзёрасцю адказаў я. – Зараз пашукаем...

– Ну, глядзі, я пайду гатаваць амлет, які абяцала, бо больш няма чаго.

Я застаўся адзін у пакоі, літаральна аглушаны сваёй думкай: а Зіначка ж мяне запрасіла менавіта і толькі для таго, каб я паправіў гэты праклятты тэлевізар! І больш нічога! То майму затуманенаму пахмеллем мозгу ўявілася, што мяне запрашалі на секс! Цьфу, ідыёт! Яна ж замужняя жанчына, хай сабе і на мяжы разводу, як сама кажа, хай без мужчынскай ласкі даўно, хай цела яе прагне любошчаў, ды не падстава гэта для маёй упэўненасці, быццам мяне тут чакае неўтаймаваная, выпушчаная на волю жарсць без усялякіх межаў! Самаўпэўнены дурань!

Праверыў злучэнні прыстаўкі і кабелю, прайшоўся па ўсёй яго даўжыні. Кабель ляжаў у жолабе пластыкавага плінтуса, не мог яго ніхто перагрызці... Дайшоў да вітальні. Пабачыў калодку злучэння. Так і ёсць: тут стаяла невялікая тумба для абутку, ці то шмарганулі незнарок, ці то ад часу загнуты назад кабель вылез з гнязда. Дастаў, пакратаў зусім слаба накручанае мацаванне. Заціснуў, усунуў на месца, закруціў бліскучую гайку-стопар. Праверыў – на экране з'явілася карцінка.

Зіначка выйшла на гук перадачы, задаволена цмокнула языком:

– Вой, не памылілася, рукі ў цябе растуць адкуль трэба! Ідзі іх мый і садзіся за стол...

Мы вячэралі... Мы проста вячэралі, як добрыя знаёмыя, як суседзі, як брат з сястрой – ніякага намёку нават не пабачыў, не пачуў ад Зіначкі, што ў гэтай вячэры будзе нейкі іншы працяг, чым той, які зазвычай бывае ў такіх сітуацыях: я зараз падзякую і пайду. Проста пайду, падмануты і зняважаны гэтым падманам.

Зіначка выпіла многа, але не захмялела. Не мянташыла языком, хіба толькі паружавела ды прымружыла вочы. Мы размаўлялі пра рознае, цікавае нам абаім: вунь Тамары Сяргееўне хутка на пенсію, а на яе месца нікога з нашых прызначаць не будуць; мяне паставілі на чаргу, у райцэн-

тры заклалі два новыя дамы, то ў трэці я патраплю абавязкова, у новы мікрараён, казалі, там кватэры прасторныя.

– Табе жаніцца трэба, абавязкова, лепш фіктыўна, – раіла Зіначка. – Толькі знайдзі жанчыну, каб пасля без праблем развёўся. Магу пазнаёміць, у мяне сяброўка ёсць. За які добры падарунак згодзіцца, а табе два пакоі будзе, а не адзін, – паказвала яна мне сваю жыццёвую дасведчанасць у пытаннях жылля. – Аднапакаёвых вельмі мала будуюць, будзеш чакаць гады чатыры...

Я згодліва ківаў галавой. Злосці на Зіначку ў мяне не было, я быў агідны самому сабе: ну няхай яна не запрашала мяне на ноч у ложак, але чаму я сам, вось цяпер, не магу паспрабаваць атрымаць ад яе большага, чым курыны амлет? Што мне замінае нагадаць смехам: я не толькі ўмею ладзіць тэлевізійны кабель? Баюся пачуць, напрыклад, такое: «Не сумняваюся, але будзеш дэманстраваць сваё ўменне ў іншым месцы з іншай жанчынай»? Баюся! Бо будзе канчаткова і беспаваротна, пасля чаго мне трэба будзе выйсці з-за стала, падзякаваць і перціся да парога. Ці насамрэч плюнуць ды пайсці, не кончуся ж я без сексу за гэтую ноч?

Гэта ж – расплата! Раптоўная думка і апаліла, і супакоіла. Ну так, расплата за здраду. Я ж ішоў здраджваць, мэтанакіравана ішоў!

На талерцы нічога не засталося.

– Дзякуй!

Я адкінуўся на спінку канапы, зірнуў на Зіначку. Мне цяпер адзінае было цікава: як яна будзе мяне выстаўляць за дзверы. Паўпарціцца? Маўляў, які ж то разлік – амлетам? Я тут увесь такі малады, здаровы, наглядзеўся на яе голыя ногі, баюся, як выйду, пачну кідацца на дзевак. Цікава, што яна адкажа...

– Каву зварыць? – падхапілася Зіначка. – У мяне ёсць «Лавацца», сяброўка прывезла з Польшчы, казала, смачная, я не адкрывала яшчэ, – гаварыла яна, адначасова прыбіраючы са стала ў ракавіну талеркі і відэльцы.

– Не, дзякуй, адразу, як паеў, не люблю піць, – адмовіўся я, пачынаючы сваю дурную гульню: вось, не збіраюся пакуль нікуды ісці. Цяпер жа ёй якраз і самы момант намякнуць... Не ўгадаў я.

– Ну, як сабе хочаш, – не засмуцілася Зіначка. – Тады хадзем, дапаможаш.

Я, больш заінтрыгаваны, чым разгублены новай просьбай, падняўся. Нават не стаў пытацца, чым дапамагаць. Зіначка прайшла ў залу, стала каля канапы.

– Гэтую бандуру трэба удваіх раскладаць. Бярыся! – і ўзялася за спінку і сядзенне.

Я аўтаматычна хапіўся гэтак жа, як і Зіначка, пацягнулі разам, выпрасталі. Яна прысела на край разложанай канапы, гледзячы на мяне знізу ўверх з вінаватай усмешкай, прагаварыла:

– Я ж не разведзеная... То ў спальню, выбачай, не магу цябе весці. Зараз я нам пасцялю, тут яшчэ вальней будзе, вунь колькі месца: будзеш круціць мяне, куды і як захочаш, хоць куляйся! Ты ідзі пакуль мыйся, ручнік бяры любы, я посуд спаласну, бялізну нам дастану...

Вось так! Ніякіх гульняў і двухсэнсоўнасцей. Дарослыя людзі – калі запрасіла вечарам прыйсці, значыць, мела на ўвазе ноч.

Падумаць пра тое, ці ёсць у вось такіх прастадушных, простых, як вясковая лапата пры печы, паводзінах Зіначкі нешта зневажальнае ці крыўднае

для мяне, я не паспеў. У кішэні варухнуўся і прайграў кароткую мелодыю тэлефон. Я не мог не заўважыць, як напружылася, падабралася пры гэтых гуках Зіначка, які пакутлівы выраз хвалявання засвяціўся ў яе вачах. Я таропка дастаў тэлефон, зірнуў на тэкст эсэмэскі і вінавата развёў рукамі:

– Выбачай, Зіначка, нейк іншым разам...

– Сяргееўна? Нешта здарылася? – з сапраўдным адчаем запыталася Зіначка.

– Выклікаюць, – адказаў я, ступіўшы ў вітальню. Абуў туфлі, азірнуўся і як мог цёпла дадаў: – Дзякуй за вячэру.

– Ат! – Зіначка рэзка села на канапу. – Во ж адчувала! Ну чаму я такая няўдачлівая?! Такая ж ноч магла быць! Ты, як вызвалішся, прыходзь. Звані і прыходзь! Я буду чакаць да раніцы.

– Не абяцаю, – шчыра, з жалем да жанчыны адказаў я.

На вуліцы я дастаў тэлефон, яшчэ раз перачытаў тэкст эсэмэскі: «Застанешся на ноч у Зіначкі – задушу, так і ведай». Гэта пісала Надзея. Я набраў у адказ: «Не застаўся». Закурыў. І адчуў неверагоднае ўзрушэнне, блізкае да шчасця. Было так лёгка на душы, быццам я вырашыў найскладанейшае пытанне. Выбар! Першы раз за сваё жыццё я зрабіў выбар. І так імгненна. Нібыта чакаў штуршка...

Надзея патэлефанавала адразу:

– Можаш гаварыць?

– Так. Я на вуліцы. Іду дадому... Ці, можа, завярну папіць кавы.

– Пацерпіш, пакуль прыйдзеш. Пап'ём разам. Выбачай, ты так хутка пайшоў... Да мяне прыехаў мой стрыечны брат. Ён хоча папрасіць цябе, каб ты заўтра дапамог яму зварыць мне новыя вароты. А то гэтыя сёння ледзь утрымаліся, пакуль іх расчынілі: спарахнелі зусім. Ён варыць умее, кажа, будзе хутка. Там толькі патрымаць трэба. А ў мяне заўтра, сам ведаеш, базарны дзень.

– Пагаворым, – радасна адказаў я.

– Заходзь адразу.

Яны чакалі мяне ўдваіх, усё так жа седзячы на ганку, быццам і не сыходзілі.

– То пайшлі да мяне каву піць. Там больш утульна ў садку, – як старым знаёмым прапанаваў я. – Васіль, – працягнуў руку мужчыну.

– Сяргей, – адказаў той, прыўзняўся і пацiснуў руку. – А мне нешта так добра на гэтым ганку. Сядзеў бы і сядзеў, – вінавата прызнаўся мужчына. – Але калі спадарства жадае, мушу падпарадкавацца.

– Ды не, навошта, – паспяшаўся я. – Дзе вам больш зручна...

– Дык я нясу, – вырашыла Надзея, адным кароткім позіркам стрэліла ў мой бок – і я пабачыў там тое, чаго менш за ўсё чакаў, – дзявочую, не, нават дзіцячую гарэзлівасць: «Ага! Будзеш ведаць!»

– Сказала Надзея, што я брат яе? – спытаў Сяргей. Пабачыў мой маўклівы ківок, працягнуў: – Во так лёс склаўся – адны мы з ёй радня на свеце. Яе паўміралі, мае яшчэ жывуць, ды слабыя зусім. Прыехаў на тры дні. Праведаць, ну і дапамагчы дзе. Вось, вароты зварыць трэба. Метал сёння набылі, апарат зварачны ў мяне з сабой. Работа няцяжкая, адно патрымаць вам. Самі пабачыце, як хутка. Профіль я і адзін нашыю, калі ў вас справы.

– Ды я да вечара вольны як быццам, – згадзіўся дапамагаць я і тут жа папрасіў: – А вы мяне вечарам не закінеце ў адно месца? Недалёка, кіламетраў дваццаць.

– Добра, дамовіліся. Гэта хутчэй будзе, чым вароты зварыць.

– А вы зваршчык? – спытаўся я, каб працягнуць размову.

– Ды ну... Журналіст я, былы, праўда, – усміхнуўся без смутку Сяргей. – Апазіцыянер пракляты. Газету закрылі, а тут і жонку скарацілі на фабрыцы. Вось і падаўся ў заробкі. Два гады чорнарабочым быў, пасля навучыўся варыць. Усё лягчэй, чым цягаць на дзясяты паверх бетон вёдрамі. З таго часу і зарабляю вось так...

Надзея прынесла каву, яшчэ на падносе пірог.

– Ешце, мужыкі... Як справы, таварыш следчы, злавіў злачынцу?

– Ага, дваіх ужо, – адказаў я ў тон. – Першы быў Цмок, а цяпер во і другі знайшоўся – Яшчур.

– Ого! – шчыра здзівілася Надзея. – Хутка ты, Васіль, усіх нашых міфалагічных істот пасадзіш у турму.

– Дык і Яшчур – стварэнне інфернальнае, д'ябальскае?

– Табе праўда нешта падобнае гаварылі? – сур'ёзна запытала Надзея.

– Праўда.

– Ну і справы сёння ў следчага пракуратуры, – паблажліва, як мне падалося, усміхнуўся Сяргей.

– Вам смешачкі, а ў мяне галава дурэе ад гэтай чартаўшчыны...

– Выбачайце, але ж так нечакана, – павініўся Сяргей. – Якім чынам у крымінальнай справе могуць быць задзейнічаны Цмок ды Яшчур? Дзіўна вельмі... Хто сёння такія мянушкі бярэ?

– Не ведаю я, мянушкі гэта ці нешта іншае. А вы і пра Цмока штосьці сваё ведаеце, і пра Яшчура?

– Ды мяне во Надзея сваімі казкамі заразіла, – ласкава ўпікнуў Сяргей сястру. – Я ёй у рэдакцыі крадком цэлую кнігу набіраў.

– Вой, там ужо і кніга была.

– Ага, ледзь не папаўся сваёй гестапаўцы-рэдактаршы!

– То ж я табе заплаціла!

– Ага, пляшкай самагонкі.

– А больш і не каштавала!

– Чакайце, чакайце, калі ласка, – я ўмольна ўзняў далоні. – Што за Яшчур? Пра Цмока я ведаю: з яйка ад чорнага пеўня. А Яшчур?

Надзея пільна зірнула мне ў вочы, можа, каб упэўніцца яшчэ раз, ці не жартую я, і з уздыхам пачала тлумачыць:

– Вой, Васіль, калі Цмок яшчэ больш-менш вядомы, дык Яшчур у міфалогіі ўвогуле самая цёмная істота. Нідзе ніякага намёку на тое, як ён выглядаў і што рабіў. Да нас дайшло толькі адно – дзіцячая гульня. Дзеці абіралі сярод сваіх Яшчура, хлопца, садзілі яго зазвычай пад арэхавы куст. Дзяўчаты ў вянках вадзілі карагод, Яшчур выбіраў сабе дзяўчыну, забіраў яе вянок... І так – ва ўсіх. Пасля дзяўчынка павінна была выкупіць вянок: танцам, спевамі, пацалункам, нейкім іншым дзеяннем. Вось і ўсё, вядомае.

– І? Ад чаго пайшло? – збянтэжана запытаўся я. – Ну якім бокам гэта дзіцячая гульня звязана з маёй справай?

– Ды ніхто толкам не ведае, – вінавата ўсміхнулася Надзея. – Зазвычай дзіцячыя гульні заснаваны на сапраўдных абрадах, але сэнс гэтага не можа патлумачыць ніхто. Бо гульня не толькі спрашчае абрад, развіваючыся з яго, яна пазбаўляецца шмат якіх элементаў, губляе першапачатковую сутнасць... Адно дакладна: Яшчур звязаны з ахвярапрынашэннем – тыя ж дзявочыя вянкі. Ну і тут жа сексуальны кампанент.

– Во як?!

– Канешне: пацалункі, выкуп за жаданне, арэхавы куст. Арэх заўсёды атаясамліваўся ў нашых продкаў з палавым пачаткам. Загадка такая была: рос-рос, са штаноў вырас, галоўкай загаліўся – дзеўкам згадзіўся. Гэта ж арэх, ляшчына. Чытала адно меркаванне: Яшчур – нейкае вельмі ж страшнае бажаство, якому трэба было прыносіць у ахвяру маладую жанчыну, адначасова то быў і працэс ініцыяцыі, то бок, дзяўчат, якія дасягнулі палаваспеласці, пасвячалі такім чынам у жанчыны. Толькі навошта ахвяра – невядома. Можа, каб іншыя нараджалі... Сустракала і іншае тлумачэнне, няхай і вельмі прымітыўнае, частковае, але не пазбаўленае логікі. Яшчур насамрэч старэйшына племені ці вярхоўны жрэц, які праводзіў агледзіны дарослых дзяўчат. І карагод вадзілі яны голымі, а ён выбіраў сабе ці то памочніцу, ці то наложніцу. Адначасова з гэтым дазваляючы найбольш спелым выходзіць замуж у бягучым годзе.

– От жа добра таму жрацу жылося, – пацмокаў жартаўліва Сяргей. – Сядзі сабе ў кусце і выбірай. О, я б доўга выбіраў з таго карагода....

– Маўчы ўжо, толькі языком ты выбіраеш. Як ажаніўся, дык адной падавіўся, – адгукнулася Надзея.

– Нічога не зробіш, так лёс з мяне злосна пажартаваў – зрабіў аднаьлюбам!

– Ну і добра... І мушу дадаць, я б табе не пазайздросціла як жрацу. Вось каб не выпала ў якім месяцы патрэбнага дажджу – цябе б хуценька, як няўмеку, на дно ракі ці возера адправілі, каб ты там дажджу прасіў...

– Надзея... слухай, – пачаў я сур'ёзна, і стала ціха. – Хай сабе і так: Яшчур выбіраў сабе маладую ды гожую. А ці нараджала яна? І вось кім станавілася дзіця Яшчура?

– Ой, не ведаю, – уздыхнула са шкадаваннем Надзея. – Я сёння параспытваю, у мяне засталіся сувязі ў Інтэрнэце.

– Тады спытай наўпрост: ці мог Цмок быць дзіцём Яшчура?

– Як? – Надзея акругліла вочы. – Вось дык паварот міфа...

– Ды вось так.

Павісла маўчанне. Потым Сяргей лёгка ўзняўся:

– Прайдуся. Пешкі. Як кароль...

Ён узняўся – і нечакана твар яго быццам успыхнуў чырванню.

– Ого! Сонца! – выгукнуў ён і азірнуўся, нечакана радасны, як хлапчук. – Сонца бачу!

І я, і Надзея ўзняліся таксама, зірнулі ў той бок, адкуль на твар Сяргея лілося чырвонае святло. На захадзе неба было нечакана чыстым і светлым, быццам нехта ўладна пацягнуў завесу хмар наверх, прыўзняў яе і даў сонцу паказаць сваё чырвонае кола людзям.

– Дасць Бог пагоду, – задумліва прамовіла Надзея. – Будзе вам добра працавацца.

– Можа, урэшце і лета стане падобным да лета, – дадаў я.

Сяргей паволі пайшоў у агарод. Я застыў у чаканні: Надзея павінна была патлумачыць хоць нешта. І яна не стала чакаць:

– Здзівіўся?

Я ўдыхнуў паветра, і тут зайграў тэлефон. Ад неспадзеўкі я ўздрыгнуў – так недарэчна было пачуць вось цяпер, у гэты момант выклік. «Зіначка! Вось жа смала! Не буду браць!» А Надзея глядзела на мяне. Я адчуваў: яна думае пра тое ж, што і я.

Асуджана выцягнуў з кішэні тэлефон. І быццам камень з душы спаў – тэлефанавала не Зіначка, а Антон Джэйгала, эксперт.

– Васіль, вечар добры. Я тут закончыў. І не змог утрымацца, каб табе не паведаміць...

– Што закончыў? Што паведаміць? – насцярожыўся я.

– Ну, па смерці таго немаўляці-гідрацэфала.

– Яго забілі?

– Калі цалкам, дык нічога асаблівага, смерць натуральная. Ён пражыў колькі дзён, памёр ад ацёку лёгкіх, задыхнуўся. Але вось які момант...

– Ну, не цягні ж ты, не дзяўчынка!

– Дык вось. У яго чацвёртая група крыві.

– І? У Насці... Чакай, а ў Насці?

– У Насці першая група. Я пераправерыў – так, дакладна першая.

– Ніякай памылкі? – я нервова адной рукой спрабаваў выцягнуць цыгарэту з пачка, Надзея заўважыла мае намаганні, узяла пачак і дастала мне сама.

– Ніякай памылкі, – сцвярджальным рэхам адказаў Антон. – У немаўляці чацвёртая група крыві. У верагоднай маці, забітай Насці Грыцук – першая група. І гэта значыць: знойдзенае мёртвае дзіця-гідрацэфал не яе.

## 12.

Самаўпэўненасць грунтуецца не на ведах, а на няведанні.

Вось жа дакладна ўяўляў сабе: як робяцца вароты з дзвюх створак. Металічная труба разразаецца на часткі, тыя зварваюцца між сабой, да кожнай часткі наварваюцца завесы. Пасля – слупкі, прыварваем да іх завесы, прытрымліваючы гатовыя створкі. Уся работа! Таму быў не проста здзіўлены, а больш разгублена таптаўся вакол Сяргея, калі той пачаў працаваць, і я пабачыў, што мы робім не вароты, а агароджу нібыта.

– Дык а чаму так? – не ўцярпеў я. – Хіба не прасцей разрэзаць-зварыць паасобку?

– Прасцей, – з усмешкай адказаў Сяргей. – Ды калі варыць з асобных частак, то роўныя не атрымаюцца – ад зваркі пойдзе касіна. Розныя кропкі па рознаму награваюцца, па рознаму астываюць. І створкі прымаюць кожная сваю форму.

– Як людзі – характар, – нечакана прыйшло на розум параўнанне.

– То дакладна, – згадзіўся Сяргей. – Таму так рэдка і сустрэнеш пару, быццам дзве палавінкі аднаго цэлага... Зварваем адну суцэльную, пасля разразаем акуратна. Вось тады будуць дзве аднолькавыя.

Работа была не цяжкая, але ж правошкаліся мы гадзін да трох дня. Якраз вярнулася з рынку Надзея, гукнула мыць рукі і садзіцца за стол. А палове восьмай гадзіны Сяргей падвёз мяне да першых хат Ляўдка.

Я павінен быў падумаць, прадбачыць той факт, што сярод мноства дачнікаў, дзе былі людзі самых розных прафесій, знойдзецца той, хто дастаткова поўна ўяўляе сабе магчымасці сучаснай тэхнікі, ведае пра абавязкі сацсетак і іншых рэсурсаў Інтэрнэта перад следчымі органамі. І той чалавек лёгка і пераканаўча давядзе астатнім, што я валодаю куды больш разгорнутай інфармацыяй, чым паказваю. Значыць, мяне чакаў не разгублены і запалоханы страшным словам «пракуратура» гурток аматараў старажытных беларускіх абрадаў, а дружны калектыў дарослых людзей, якія старанна абдумалі

наперад, як будуць адказваць на пытанні. Варта было толькі перагледзець спіс гэтых дачнікаў – вось, калі ласка, журналістка. Ды яшчэ апазіцыйнага выдання. Такія пракурораў не баяцца, не тое што маладых следчых...

Сваю паразу я адчуў, як толькі сустрэўся позіркам з гісторыкам, «капітанам» Алесем Федаруком. Ён не хваляваўся. Быў такім жа ветлівым, далікатным нават, але – упэўненым. Я не мог нават заўважыць, каб мой візіт сюды і мая просьба хоць крышачку назалялі яму. Ён увесь быў сама тактоўнасць і гасціннасць.

– Рады бачыць вас! – сустрэў ён мяне ля веснічак, і яго словы прагучалі так, быццам ён пабачыў перад сабой даўняга сябра. – Нашы ўсе сабраліся, калі ласка, будзем вельмі рады быць вам карыснымі. Пойдзем адразу ці, можа, пап'еце чаго з дарогі? Кавы ці гарбаты? Бярозавік ёсць, праўда не свой, нас гэтым цудоўным пітвом забяспечвае цётка Соф'я, цудоўная жанчына. Выбачайце, у хату не запрашаю, там у мяне... непрыбрана вельмі. Ведаеце, я чалавек неахайны, адно слова – навуковец, – павініўся ён напрыканцы.

– Дзякуй, пакуль не хочацца нічога, – адмовіўся я, міжволі крануты такім клопатам і той акалічнасцю, што мае пажаданні цалкам спраўджаныя: людзі папярэджаныя і сабраныя ў адным месцы.

– Як пажадаеце. Там, дзе мы збіраемся, усё, канешне, таксама ёсць. Звычайная дача, а гаспадар там – адзінокая наша сяброўка. Дом ёй дастаўся вялікі, то яна займае адно пакойчык пярэдні, а другая палова – наша імправізаваная канферэнц-зала. Дарэчы, гаспадыня – выключная знаўца міфалогіі, наш самы аўтарытэтны эксперт. Яна этнограф, збіральніца. І яе работы вядомыя далёка за нашымі межамі. На жаль, толькі сярод спецыялістаў ды адзінак вось такіх... апантаных, – самакрытычна закончыў ён свой хуткі маналог.

– А трэба, каб ведалі ўсе? – скептычна заўважыў я.

– Вось! Вось гэтае пытанне я чую так часта! Скажыце, малады чалавек... выбачайце, таварыш следчы пракуратуры, чаму нашы малодшыя школьнікі ведаюць пра Зеўса, але Пярун для іх – усяго толькі моцны ўдар грому? Чаму знаюць, хто такая Афрадыта, а Ляля – лялька, дый годзе? Чаму Апалон, а не Вялес? Вы лічыце правільным – вучыць дзяцей захапляцца чужой культурай, вывучаць яе і ў той жа час літаральна замоўчваць сваю? Не-не, я за тое, каб дзеці і ўсе вакол ведалі як мага больш з гісторыі і культуры іншых народаў, але як можна быць культурнай нацыяй, не ведаючы сваіх падмуркаў?

– Магчыма, вы маеце рацыю, – згадзіўся я. – Мне вось таксама б не зашкодзіла што-небудзь даведацца... з вашай міфалогіі.

– З нашай, з нашай міфалогіі, – мякка паправіў мяне Федарук. – Пытайцеся, калі ласка, здолеем – патлумачым.

– Дзякуй, абавязкова скарыстаюся вашай гасціннасцю і дасведчанасцю, – паабяцаў я, і атрымалася ў мяне з дрэнна схаванай амаль пагрозай. Маўляў, пабачым мы, што вы там ведаеце.

Для мяне быў падрыхтаваны стол, на якім стаялі сапраўдны гліняны збанок і дзве шклянкі. У самім пакоі сабралася – я хутка палічыў – сямнаццаць чалавек. Зацікаўленыя, ветлівыя, насцярожаныя, добразычлівыя позіркі. Амаль усе – з відавочным лёгкім сумам. Так збіраюцца на пахаванні далёкія сябры: быццам і радасна ад сустрэчы, ды вось жа якая нагода. Але я не пабачыў ніводнага позірку з ценем страху ці разгубленасці, нервовасці

нейкай. І цяпер ужо дакладна зразумеў: пра ўсё тут дамоўлена-прагаворана. Мабыць, пагуляем у гульню...

Бліжэй да мяне сядзела маладая жанчына гадоў дваццаці пяці, рудая, з носам бульбінай і пульхнымі вуснамі (але пры гэтым сімпатычная), з ёй побач жанчына гадоў шасцідзесяці, а то і больш, таксама рудая. Дачка і маці? Вельмі нават падобна. Толькі ў гэтай дзяўчыны на крыху рабацінністым твары я заўважыў прыкметы страху. Чаго яна баіцца?

– Вы не проста здагадваецеся, а ведаеце, чаму я папрасіў вас сабрацца сёння, – пасля прывітання і афіцыйнага прадстаўлення пачаў я. – Загінула маладая жанчына, жыхарка вашай вёскі, загінула пры загадкавых абставінах. Узнікла нямала пытанняў пры расследаванні справы. Я вас хачу папярэдзіць: дванаццаць чалавек з вас будуць выкліканы павесткай і афіцыйна дапытаны ў якасці сведкаў па справе. (Так-так, трэба іх трошкі прыпужнуць – вось, ужо крышачку пасумнелі позіркі. Ніхто не любіць слоў «допыт», «сведка», «справа»...) І вы, я так думаю, разумееце, хто і чаму. Сёння ж у нас папярэдняя гутарка, яна больш для таго, каб вы не марнавалі ў маім кабінеце кожны па тры гадзіны (вось, яшчэ прыстрашым). Гэта неафіцыйная размова, мне важна як мага больш даведацца пра загінулую (я спецыяльна не зрабіў акцэнту на забойстве. Можа, у іх гатова свая версія?) Я нават нічога запісваць не буду, акрамя чыста рабочых паметак для сябе. Пачнём... Следства сёння мае звесткі пра тое, што прысутныя тут... Па спісе: Алесь Федарук, Ганна Латышонак... – я стаў зачытваць прозвішчы, і гэта выклікала ўражанне. У хаце стаяла выключная цішыня. Ніхто літаральна не варушыўся.

– Дык вось, яшчэ сярод названых павінен быць Андрэй Дылько, ён жа таксама ваш сябар?

– Сяброўства яго з намі не было вельмі моцным, – ціха адказаў за ўсіх Алесь Федарук. – Ён толькі нядаўна тут...

– Дзякую, зразумела. Дык вось, усе гэтыя людзі за чатыры дні да дня смерці Насці Грыцук адпраўлялі ёй эсэмэскі. Прыкладна ў адзін час, усе паведамленні прыйшлі ад 16:00 да 20:00. Упэўнены, вы помніце, пра напісанае. Думаю, не ўсе і сцерлі тыя паведамленні з папкі адасланых. Што было ў тэксце эсэмэсак? Ну... вось, калі ласка, Ганна Латышонак, скажыце калі ласка?

Жанчына з гэтым імем была самая маладая ў спісе. Так і ёсць, паднялася тая рудавалося дзяўчына і адказала без хвалявання:

– Калі ласка, вось я адкрыла зараз... Я пісала: «Віншую! Ты малайчына! Здароўя вам».

– З чым віншавалі?

– Вы ж ведаеце... Насця нарадзіла. Вось і віншавалі.

– Прабачце, а хто вам паведаміў?

– Мне?

– Так, вось вам хто сказаў гэтую навіну? Адкуль вы даведаліся?

Ганна Латышонак разгубілася. І я зразумеў: вось тое пытанне, якое яны не прадбачылі! Нічога дзіўнага... Калі мы да нечага рыхтуемся, мы можам прадумаць сотню дэталяў, а не ўлічыць таго, што ляжыць на паверхні. Так і тут: Насця нарадзіла. То як чуткі гарадскія, але ж было ўсяго дванаццаць, а цяпер – адзінаццаць чалавек, якія віншавалі. Тут праверыць лёгка, ад каго пайшло, тут не спрацуе «ўсе кажуць». Зараз проста па чарзе буду падымаць кожнага...

– Я не помню… – разгубілася дзяўчына. – Я праўда не помню.

– Тады ўспамінайце, калі ласка. Тут жа зусім нямнога людзей, праўда? – падахвоціў я дзяўчыну, зазірнуў у спіс – каго б узняць, хто гатовы пагуляць са мной у гульню і не папасціся? Зараз прыпужнём яшчэ трошкі… – Перад тым, як спытаць яшчэ некага з вас пра гісторыю з эсэмэскамі, я павінен нагадаць вам, што за лжывую інфармацыю прадугледжана адказнасць перад законам, і вельмі нават строгая…

– Ну, не трэба нас так запужваць, – азваўся Алесь Федарук. – Ніхто не збіраецца нешта ад вас утойваць. Так, мы ўсе віншавалі Насцю з нараджэннем дзіцяці. Адкуль ведалі? Ды вось… Антаніна Пятроўна, калі ласка, скажыце.

Зразумела, Федарук кіраваў. І яго зварот да жанчыны азначаў тое, што яны абгаворвалі, прадбачылі падобнае развіццё гутаркі. Цікава, што я пачую…

Узнялася з месца жанчына гадоў трыццаці пяці, падцягнутая, з вельмі сімпатычным, круглявым загарэлым тварам, які не псавала нават мноства тонкіх белых валаскоў па краях верхняй губы. Я паспеў зірнуць у спіс: сярод тых, хто віншаваў Насцю, ніякай Антаніны не было.

– Дазвольце патлумачыць, – падкрэслена ветліва звярнулася яна да мяне, назвала сябе: – Русецкая Антаніна Пятроўна, акушэрка. Усе ведалі пра роды ў Насці, бо іх прымала я, я паведаміла першаму, помніцца, Алесю Тарасавічу.

– Дзе вы прымалі роды ў Насці Грыцук?

– Яна нараджала ў маім доме. Там былі створаны ўмовы.

– Вы ўрач, вы не маглі яе пераканаць у неабходнасці ехаць у бальніцу?

– Я не ўрач, я акушэрка, – паправіла яна мяне досыць рэзка. – Жанчына мае права сама вырашаць у гэтым выпадку, тут нічога крымінальнага няма. Нехта едзе і на мора раджаць…

– Чым Насця тлумачыла сваё нежаданне класціся ў бальніцу?

– Яна не хацела агалоскі.

– Дзякуй вялікі вам, мне ўсё зразумела. Сядайце, калі ласка. Выбачайце, паважаныя… Не ведаюць калегі, не ведаюць родныя, нават бацька не ведаў пра цяжарнасць жанчыны, а вось вы ўсе ведалі. Можа, мне хто з вас патлумачыць: чаму так атрымалася?

– Я магу патлумачыць, – зноў стала ўздымацца Русецкая, але я спыніў яе:

– Не трэба ўставаць, мы ж проста размаўляем.

– Дзякуй, – прысела яна на месца, упэўненым голасам стала расказваць: – Недзе за месяц да родаў Насці мы ладзілі народнае свята тут, у Ляўдку. Было многа гасцей, спявалі песні, вадзілі карагоды. Усе прытаміліся. Але позна вечарам, калі госці раз'ехаліся, вырашылі паспяваць для сябе. І вось у карагодзе Насця (яна была з намі) згубіла прытомнасць. Перапалох, канешне, узнік, але для мяне такія справы не надта рэдкія, я была побач. Яшчэ калі Насцю па маім загадзе паклалі на спіну, на цвёрдае, я пабачыла яе выразны жывот. Яна была ў вышыванай доўгай сарочцы, таму раней не заўважалі. Жывот быў сціснуты карсетам. Я аслабаніла яго… Насця амаль адразу ж апрытомнела і схапілася абеуруч. Вельмі характэрна схапілася, гэтага не падробіш, ды і навошта. Так, яна спужалася, вельмі захвалявалася. Мы зразумелі: яна хавае сваю цяжарнасць, і паабяцалі ўсе маўчаць. Яна паверыла нам, бо ведае нас нямала часу…

– Што ж, вельмі ўсё проста атрымліваецца… – я задумаўся на імгненне, працягнуў: – Я зразумеў так: вы ўсе, ваш гурток (так жа можна, думаю,

назваць) прымалі Насцю як сваю, і віншавалі вы яе шчыра і аддана, як добрага сябра. Ясна... А вы ведалі пра бацьку гэтага дзіцяці?

Канешне, адказваць будзе гэты ўрач-гінеколаг, няма сумнення. А яна ж кажа няпраўду. Калі мне яе яшчэ раз перапытаць пра пачутае, яна паўторыць слова ў слова, бо казала па завучанаму! І зараз яна скажа, што Насця прызналася... што бацька – той самы небарака, паэт Андрэй Дылько...

– Не, Насця не захацела казаць, ад каго нарадзіла.

Я на момант разгубіўся. Не ўкладалася ў сістэму... Я памыляюся? Ім жа так добра настойваць на бацькоўстве Андрэя, загінулага мужчыны... Давай паслухаем далей...

– Вось як... Добра. А далей пасля нараджэння?

– Дзіця заставалася ў маім доме разам з Насцяй. Вы ж самі ўжо ведаеце... Тая страшная аварыя... Дзіця нарадзілася хворым, прычым смяротна хворым. Вадзянка галаўнога мозгу... Калі б Насця стала на ўлік, дык захворванне б выявілі на самай ранняй стадыі...

– І гэты час, да смерці, дзіця знаходзілася ў вас? І вы як урач, прабачце, як вопытны медык не павезлі яго ў бальніцу?

– Малады чалавек, не трэба мяне ўпікаць непрафесійнасцю ці бесчалавечнасцю, – падціснула свае сухаватыя вусны Русецкая. – У дзіцяці адсутнічала большасць рэфлексаў, нават глытальны. Ён жыў на глюкозе, пакуль не перасталі працаваць лёгкія. Дзіця было асуджана. Мозг яго быў пад страшэнным ціскам, ён не мог функцыянаваць нармальна.

– Добра, дзякуй, Антаніна Пятроўна. Значыць, менавіта ад вас Андрэй Дылько забраў мёртвае дзіця?

– Так, я яго папрасіла зрабіць невялікую труну і пахаваць дзіця... Няшчасны Андрэй...

– Насця ўвесь час была з вамі?

– Не, яна хадзіла дадому, варыла бацьку ежу, займалася па гаспадарцы.

– Вы бачылі Настассю ў апошні яе вечар жывой?

– Канечне, яна прабыла ў мяне да шасці гадзін вечара.

– Антаніна Пятроўна, буду чакаць вас у панядзелак, у любы час, прыходзьце, калі ласка, павестку я вам выпішу на месцы. Самі разумееце, трэба прытрымлівацца закону, вашыя ж сведчанні вельмі важныя для следства. І павінен заўважыць, вашыя дзеянні выклікаюць мноства пытанняў.

– Канечне, я ўсё разумею. Калі трэба, то адкажу па законе. Я прыйду...

Прыходзь, прыходзь, думаў я, робячы пазметкі ў нататніку, больш дзеля таго, каб прадумаць далейшыя пытанні. Ах, як хочацца вось цяпер адкрыць табе праўду: дзіцяці-гідрацэфала не Насця Грыцук нарадзіла. Што ж ты тады адкажаш? Ты не паспела здаць кроў дзіцяці на аналіз, ты не прадбачыла, што ў яго можа быць такая рэдкая – чацвёртая – група крыві... Ці яны проста не здагадваюцца, якія аналізы судовы медэксперт праводзіць абавязкова?

А той факт, што Русецкая, якая ведае больш за ўсіх, хавае ад мяне праўду, спецыяльна маніць, сведчыць: справа тут вельмі ж непрыгожая. І гэтая мілая акушэрка можа быць якраз тым сувязным звяном між заказчыкам і сурагатнай маці. Каму ж, як не ёй? Нічога, ты раскажаш, дзе сапраўднае дзіця Насці і адкуль тут узяўся гэты няшчасны гідрацэфал...

Праверым мы цябе, Антаніна Русецкая, уважліва праверым. Твае сувязі, званкі, кантакты ў сацсетках. Заўтра ты будзеш як прышпілены ў калекцыі матылёк – усё пра цябе будзе вядома.

– Я спадзяюся, за гэты час, пакуль вы ведаеце... ведалі Настассю Грыцук, нехта з вас мог быць з ёй узаемна шчырым. Я вельмі прашу таго чалавека цяпер быць гэткім жа шчырым са мной. Мяне, канешне, цікавіць самае галоўнае пытанне: як загінула Насця? Хто-небудзь у тую ноч чуў нешта незвычайнае? Крык, шум? Да вас прыязджаў нехта чужы?

З хвіліну стаяла цішыня, потым загаварыў Алесь Федарук:

– Я павінен прызнацца, для ўсіх нас навіна пра смерць Насці была літаральна шокам. Мы самі... мы самі не адзін раз па хвілінах успаміналі тыя вечар і ноч. Не, нічога незвычайнага ніхто з нас не заўважыў. Паверце, мы былі шчырыя ў сваіх памкненнях. І павінен прызнаць, хоць мы любілі Насцю за ўзаемнасць адносінаў, яна... яна не была з намі адкрытая настолькі, каб мы маглі нешта распавесці сёння пра яе асабістае жыццё.

– Значыць, вы не ведаеце, хто мог нават тэарэтычна быць бацькам дзіцяці?

– Так. Дакладна можна канстатаваць адно: ніхто з нашых... сяброў.

– А хто такі Яшчур? – хутка спытаў я, гледзячы ў вочы Федаруку.

І ён разгублена маргнуў, потым адвёў позірк – у стол, зірнуў на дальні кут.

– Прабачце... а гэта мае нейкае дачыненне да... да нашай гаворкі?

– Калі я пытаюся, значыць, мае, – жорстка падкрэсліў я. – Дык каго вы тут завяце Яшчурам?

Нечакана для мяне Алесь Федарук усміхнуўся.

– Успомніў, вы ж хацелі папытацца нешта пра нашы міфы. Так жа? – з палёгкай, якую я не мог не заўважыць, спытаў ён. – Канешне ж, раскажам...

– Чакайце, мне не трэба казаць, што Яшчур – інфернальная, міфічная, загадкавая істота і ад яе засталася адно дзіцячая гульня. Вы мне скажыце, каго вы клічаце тут Яшчурам?

– Нікога, – з бачным расчараваннем развёў рукамі Федарук. – У нашым асяроддзі браць сабе падобныя мянушкі не прынята. З іншага боку, наўрад ці хто і насіць такое, бо для большасці людзей з гэтым словам атаясамліваецца хвароба жывёлы... У кожным разе...

– Ясна, – спыніў я Федарука. – выбачайце, перапыняю вас. Калі мы ўжо закранулі тэму міфалогіі.... Мяне заінтрыгаваў такі момант: у міфе пра Цмока ёсць вельмі складаны для разумення момант: ён нараджаецца з яйка, якое можа знесці толькі чорны певень. Вы можаце патлумачыць такую недарэчнасць? Гэта ж першапачаткова такая ўмова, якая не можа быць выканана...

– О, у вас такія веды ў нашай гісторыі, а вы казалі, што не маеце паняцця пра міфы, – разгублена, але і з лёгкім захапленнем глядзеў на мяне Алесь Федарук. – Першы раз бачу, каб следчы пракуратуры цікавіўся нараджэннем Цмока... Усё вельмі, вельмі няпроста...

– Тут не няпроста, тут немагчыма, – настойваў я, і нечакана аднекуль з кута раздаўся нецярплівы голас:

– Каб певень змог знесці яйка, ён павінен ад нараджэння быць курыцай!

Гаварыў малады чалавек, я не ведаў яго: у спісе тых, хто віншаваў Насцю-парадзіху, маладога мужчыны не было.

– Вось як? – хмыкнуў я. – Гэта нешта змяняе? Толькі яшчэ больш ускладняе...

Хутка загаварыў Федарук. Мне незразумела было, чаму ён так заспяшаўся, захваляваўся:

– Канешне, вельмі няпроста зразумець, трэба разгадваць... Не, тут не немагчымасць нараджэння Цмока, тут нейкія іншыя ўмовы, мы не ведаем пакуль, ніхто ж спецыяльна не аналізаваў. Міфы... Міфы такія – яны прымаюцца навукоўцамі як ёсць, параўноўваюцца з іншымі, аналізуюцца, але ніколі на прадмет, скажам так, рэальнага здарэння.

– Пакуль не знаходзяцца дзівакі, якія бяруцца за той міф як за сапраўдную гісторыю і адкопваюць Трою? – пакпіў я, дзякуючы ў думках Надзеі за прыклад, які яна прыводзіла мне нядаўна.

– Ну, здараецца і так, здараецца...– Алесь Федарук быў сканфужаны. І нават больш: ён быццам нечага спужаўся.

Я змяніў тэму:

– Як бы ні хавала Насця Грыцук сваё асабістае жыццё ад усіх, я не павеpу, што вы не ведаеце, як ставіліся да яе мясцовыя жыхары, як яна адносілася да іншых. Хіба ні пра кога Насця не казала з нелюбоўю ці непрыязна? Хіба вы не заўважылі яе асаблівага стаўлення да некага з яе суседзяў?

– Яна не любіла фермера, – упэўнена загаварыла з месца акушэрка. – І мне аднойчы стала зразумелая ўзаемнасць яе пачуцця.

– Вы пра Міхася Падлужнага?

– Пра яго.

– Насця не выказвала нейкіх... скажам так, пагроз у бок Падлужнага?

– Не скажу, каб там была пагроза... – на гэты раз Русецкая шчыра задумалася. – Але быў выпадак, калі мы размаўлялі з ёй ля яе дома, я хадзіла па сушаныя зёлкі на гарбату, мне Насця іх збірала. Дык вось, праходзіў міма Падлужны, са мной асобна павітаўся, а з Насцяй – не. Ну і я чыста па-жаночы, спытала яе пра гэта. Тады Насця адказала, што яны – ворагі і такімі будуць, пакуль адзін з іх не памрэ. Такі вось дзіўны прысуд.

– Як часта вы сустракаліся асабіста з Насцяй, пра што гаварылі, што незвычайнае ў ёй заўважалі?

– Не вельмі часта, але пастаянна, бо, казала ўжо, Насця па маёй просьбе рабіла мне травяныя гарбаты. Яны мне вельмі падабаюцца.

Сустрэча зацягнулася – я паднімаў літаральна ўсіх, па коле, прасіў успамінаць: дзе, пры якіх абставінах пазнаёміліся, якія мужчынскія імёны Насця згадвала ў размовах. І пакрысе стала відавочным: цётка Сонька не нафантазіравала: Падлужны вельмі не любіў Насцю, а Насця літаральна лічыла фермера сваім ворагам. Ды нават калі прыняць пад увагу прычыны гэтай варожасці, матыў для забойства быў вельмі слабы. Хіба здаровы на галаву мужчына стане забіваць жанчыну, якая нібыта сапсавала сваім вядзьмарствам ягоныя інтымныя стасункі з жанчынамі? Ці адбірае малако ў кароў?

У любым выпадку сустрэча была для мяне вельмі карыснай: я ведаў цяпер, якія пытанні задаваць Падлужнаму на допыце. Шкада, Тамара не дазволіць арыштаваць яго, каб быў больш ахвотным да гаворкі, не зашкодзіла б. Падстаў для падазрэння ў забойстве хапае...

На развітанне мне шчыра прапанавалі паесці, але я, наколькі мог, ветліва адмовіўся, адно папіў травяного настою. Алесь Федарук упэўніваў у яго выключнай карыснасці. Не хацелася крыўдзіць адмовай, бо выгляд яго быў вартым жалю – ён здаваўся стомленым і знерваваным, і я злаваў на сябе, бо не разумеў прычыны яго стану.

## 13.

Іншы сон уплывае на свядомасць больш за рэальную падзею.

Мяне як штурхнуў нехта, і я прахапіўся ў роспачы: на момант мне падалося, што я спазніўся некуды, што мне нібыта трэба тэрмінова на станцыю, на цягнік, везці нейкія надзвычай важныя паперы, ад якіх залежыць так многа, лёсавызначальныя паперы, – і вось я спазніўся, я не паспею, бо цягнік пойдзе праз тры, праз колькі хвілін. Дрыжачымі рукамі дастаў мабільнік, зірнуў на час. Палова на дзясятую вечара. Пачало змяркацца. Мяне з усіх бакоў акружаў густы туман. Нейкі дзікі луг... Я сядзеў пад вялікай старой ігрушай. Чаму я тут? На якую станцыю мне трэба? Устаў і адразу аказаўся над туманам: яго шчыльнае месіва на ўзроўні маіх вачэй значна радзела. Агледзеўся. Далёка ў тумане з усіх бакоў віднеліся дрэвы. За крок ад мяне ў густой траве была прыкметная вузкая сцяжынка.

І свядомасць быццам чакала гэтай сцяжынкі – позірк пацягнуўся ў адзін бок, і там успыхнулі, як на вялізным палатне-экране, нядаўнія падзеі: я сярод дачнікаў, размова ў вялікім доме, мяне праводзяць за вёску, паказваюць сцяжынку, кароткую і зручную, якая павінна была вывесці мяне на трасу найкарацейшым шляхам. Тут, ля грушы, я адчуў сябе да немагчымасці знясіленым, вырашыў прысесці і пакурыць, даць спачын нагам, якія нечакана загулі цяжкай стомай. Тады сонца толькі зачапіла сваім яшчэ зыркім чырвоным колам вяршыні дрэў. Значыць... Значыць, я заснуў. І праспаў сама меней гадзіну.

У які бок ісці? Справа ці злева ад мяне, калі ішоў, была груша? Вось жа не ўспомніць. Сорамна будзе, як вярнуся ў Ляўдок. Але можна будзе павярнуць назад, як толькі пабачу першыя хаты вёскі. Калі траса недалёка, а цяпер вечар, дык гул машын, што праходзяць, павінен быць добра чутным. Паслухаем...

І толькі цяпер я адчуў вакол сябе нішто. Так, не цішыню, а адсутнасць усяго. Адсутнасць хоць нечага жывога. Вакол мяне не было нічога. Туман быццам увабраў у сябе не толькі гукі, а самі жыцці, вобразы і сутнасці. Тое, што было перад вачыма, было не сапраўдным, існым, а ўсяго толькі кволай карцінкай, сатканай з туману ж. Я зрабіў крок і другі да сцяжынкі, прайшоў па ёй і стаў, аглушаны не гукамі сваіх крокаў, а іх адсутнасцю. Трава не адгукалася на дотык! Сам здзівіўся са свайго выбуху злосці, але ж з сілай шархнуў па ёй нагой, быццам ударыў. Адчуў праз падэшву, як супраціўлялася трава, як шаргацела па тканіне. Але бязгучна, мёртва.

Прыгнуўся, пацягнуўся рукой, хапіў жмут, пацягнуў. Ірваліся зялёныя травяныя жылы, ламаліся сцяблінкі, выдзіраліся з зямлі карэнні – і бязгучна. Я прысеў, адчуваючы сябе на мяжы таго, каб не закрычаць. І разумеў, калі зараз так зраблю – крыкну ці хоць уголас скажу слова – і не пачую сябе, гэта будзе непапраўна страшным. З кволай надзеяй я паляпаў пальцамі адной рукі па далоні другой. І прымусіў сябе не ўскочыць ад жаху. Я не быў аглушаны, я чуў. Чуў цішыню вакол, я быў упэўнены: калі б зараз недзе далёка нешта грымнула, піснула, войкнула, зашумела ў траве, мой мозг улавіў бы гэтыя гукі. Але вакол мяне ўсё было бязгучным...

Спакойна, спакойна, загадваў я самому сабе. Сядзь. Успомні. Цябе правялі да сцяжынкі. Ты пайшоў... Перад гэтым? Што было перад гэтым? Гарбата? Так, я піў. Федарук... Алесь Федарук наліваў напой – сабе і мне, піў ён, піў я, дзівячыся з густога паху, гаркавага смаку.

Так, пітво. Неспадзяваная мая млявасць і стома, раптоўны сон і вось цяперашняя глухата – мяне адурманілі. Ён сам піў? Дробязь, мабыць жа, ёсць нейкая супрацьяддзе, яны ведаюць, як гатаваць. Сектанты...

Але які сэнс? Чаго яны хацелі дамагчыся? Ці яны насамрэч разлічвалі на большае, чым просты сон? У мяне нешта скралі? Я паляпаў па кішэнях: нататнік на месцы, мабільнік, партманет. Хацелі атруціць увогуле? Не, фантастыка. Што такога я мог даведацца там, каб мяне забіваць? Не, такія жарсці не для нашых краёў.

Прыйшло супакаенне. Я зноў азіраўся па баках. Блізка да зямлі туману не было, ён пачынаўся шчыльнай пульхнай коўдрай недзе на вышыні паўметра над травой, потым радзеў наверсе.

Трэба ісці. Устаў, не разважаючы асабліва, ці правільна іду, пакрочыў. У любым выпадку некуды выйду. Сцяжынку добра відаць. Галоўнае зараз – выйсці. Потым, усё потым. Разбяромся. Праз гадзіну не будзе туману, будзе мой утульны і звычны пакой, у якім ёсць зручны часопісны стол з патрэсканай лакіроўкай. Я згатую сабе кавы, прысяду, на асобных аркушах паперы выкладу ўсё, пачутае сёння, пра што даведаўся за гэтыя дні, пра што падумаў, што ўжо запланаваў. Я буду маляваць квадраты – гэта будуць падзеі, трохкутнікі – так абазначу людзей, у кружках пазначу матывы і прычыны. Буду праводзіць лініі са стрэлкамі на канцах і без стрэлак. Я буду складаць кавалкі карцінкі, і то будзе асаблівы акт, бо невядомы вынік. Нястрашна, калі не хапае аднаго ці нават некалькіх кавалкаў, я даведаюся іх малюнак, варта толькі старанна, без памылак сабраць аснову....

Я ішоў змярцвелым лугам, бы ў нейкім фантасмагарычным сне. Навакольная застыласць падавалася не варожай, а толькі чужой мне, дакладней, я адчуваў сябе варожым ёй, чуў, як прагне гэтая сцяжынка пазбавіцца маіх крокаў, як цярпіць шматпакутна. Як рассоўваецца грэбліва перада мной пласт туману, абы менш дакранацца мяне, як паспешліва, шчыльна збіраецца за спінай. І там, у глыбіні яго, зусім не халоднага, нешта вялікае стаілася ў чаканні: ці хутка я знікну?

Я міжволі паскорыў крок. Патыліцай я адчуваў не позірк, не, а амаль дыханне нечага ці некага вялікага, каму я перашкаджаў, для каго быў нежаданым. Мяне цярпелі, чакалі, калі я сыду.

Цёмныя плямы наперадзе я прыняў спачатку за канец затуманенага лугу. І яшчэ паскорыў крок з палёгкай: нарэшце. Але цёмныя плямы варушыліся, рухаліся. Не прама на мяне, але насустрач, забіраючы ў правы бок. Я застыў, адчуваючы прыкры холад у жываце. Плямы сталі ценямі, якія наблізіліся настолькі, што я змог пазнаць у іх постаці людзей. Дзіўныя, незразумелыя, яны набліжаліся, хутка, хутчэй, чым ідзе чалавек.

Страх прымусіў мяне імкліва прысесці. Я зірнуў наперад, у чысты прагал між зямлёй і коўдрай туману, і адчуў, як скура на галаве пачала прыкра сціскацца.

Там былі ногі, ногі некалькіх людзей. Яны набліжаліся. Аголеныя... Голыя людзі. Жанчыны. З апушчанымі да зямлі рукамі, распушчанымі валасамі. Яны ішлі, прыгнуўшыся наперад, хутка перабіраючы нагамі, шчыльнай купай, ішлі, у адным агульным парыве ўтаропленыя наперад.

І тады я пачуў гук. Гэта быў гук разрываемай сталлю жывой здзірванелай зямлі. У той жа момант зрок адшукаў крыніцу гуку, і я пабачыў плуг, а за ім – жанчыну, такую ж голую, як і тыя, што ішлі паперадзе яе.

Урэшце ўся карціна цалкам адкрылася перада мной: сем жанчын,

аблытаных вяроўкамі, цягнулі плуг. Подбегам, у зацятым маўчанні, нават цяжкага дыхання іх не было чуваць. Толькі рваўся дзёран, стралялі карані, з лёгкім шалясценнем кладліся, прымінаючы свежую зелень, скібы перавернутай чорнай зямлі.

Яны былі перада мною некалькі імгненняў, потым аддаліліся, зніклі ў тумане. Мяркую, менавіта беззабаронная аголенасць жанчын вярнула мне разважлівасць. Яны былі жывыя, сапраўдныя. Я паспеў заўважыць сярод твараў два ці тры знаёмыя: іх я бачыў сёння на сходзе. Аратага я разгледзеў лепей за ўсіх. Без сумненняў – акушэрка Русецкая.

Усміхнуўся міжволі. Ну вось, пабачыў нейкі дзікунскі абрад. Дакладна, сектанты. І калі робяць такое... Калі ўсур'ёз аруць на сабе зямлю з нейкімі сваімі мэтамі, значыць... Значыць, могуць у сваёй апантанасці пайсці на нешта больш страшнае. І гэта трэба ўлічыць. Не, тут не проста гурток аматараў...

Я ўзняўся, азірнуўся — жанчын не было відаць. Рашуча пайшоў сцяжынкай. Наперадзе зачарнела нешта, і я зразумеў: баразна. Я набліжаўся да яе, а яна на маіх вачах быццам рабілася больш глыбокай і шырокай. Спачатку незразумелы неспакой, пасля невытлумачальная трывога запоўніла свядомасць. Недарэчная думка віхлялася ў галаве: я не змагу пераступіць цераз баразну, такая яна шырокая.

За тры крокі ад яе мяне апанаваў сапраўдны жах. Раптам зразумеў, адчуў: мне нельга, проста нельга пераступаць баразну! Пераступлю — страчу. Назаўсёды згублю нешта надзвычай важнае. Я адчуў, як захлынаюся ў хвалі панікі, і рэшткамі свядомасці зразумеў, што трэба адысці, хутчэй адысці ад баразны. Адступіў, з палёгкай адчуваючы, як мяне адпускае, як вяртаецца здольнасць думаць спакойна.

Што рабіць? Трэба ісці ўздоўж баразны. Калі немагчыма пераступіць цераз яе.

Ішоў хуткім крокам, потым пабег, трымаючы ў полі зроку чорны след на лузе. Хутчэй, хутчэй, падганяў я самога сябе, ужо прадчуваючы, але яшчэ баючыся думаць пра тое, што знаходжуся ў коле. Дагнаць жанчын...

Не дагнаў. Яны зніклі. Бег, няўклюдна блытаючыся ў высокай роснай траве, і прыбег на тое месца, з якога пачаў. Яшчэ раз у азарце бегу памкнуўся да баразны наперад, спадзеючыся: жах не спыніць мяне, калі з ходу пераскочу чорны шнур зямлі. Аднак мяне літаральна штурхнала ў грудзі жудасцю асэнсавання таго, што магло б здарыцца, скокні я. Спыніла, напружыла.

Адышоўся назад падалей, да той самай ігрушы, прысеў, абхапіўшы калені. Ужо зусім не смешна.

Мне тут заначаваць? Канешне, з дзённым святлом уся гэтая жуда знікне без следу. Вельмі нават верагодна, што ўсё яшчэ дзейнічае пітво. Так, я цяпер чую гукі, вось жа і крокі свае ў густой траве чуў, і цяпер чую сваё цяжкае дыханне. Але хіба дзеянне напітку на тым скончылася? Чым жа яны мяне так напаілі? Нейкі наркотык раслінны? Можа быць. Сапраўдныя траўнікі ведаюць мноства сакрэтных зелляў.

Трэба абаперціся спінай аб ігрушу. Быццам збоку, я назіраў за сваімі адчуваннямі і адзначаў, як мяне цяпер амаль што не хвалюе маё здарэнне. Здарылася, дык няхай. Падумаеш, усяго ноч перацярпець. Не змерзну... Лета ж...

Пацягнуўся па цыгарэты, але спыніў сябе: не хацелася курыць. Водар нечага прэснага з лёгкім балоцістым адценнем усё больш мацнеў, але ён не быў мярзотным ці нават непрыемным. Я заплюшчыў вочы.

І нечакана апынуўся нібыта ў сярэдзіне чорнага шара. Я павіс у бязважкасці, а аднекуль знізу падымаўся, павялічваўся ў памерах бліскучы рознакаляровы шар, бы мыльны пузыр, які граў вясёлкавымі адценнямі. Шар параўняўся са мною – і я пабачыў там пакой, драўляныя ложкі...

Дзіцячы садок... У некага з хлопчыкаў сёння дзень народзінаў, ягоная маці прынесла каробку цукерак. Нам раздалі па адной, загарнуўшы ў папяровыя сурвэткі, але есці забаранілі – да полудня. Зараз – пасляабедзенны сон, усе сцішыліся, большасць паснула, выхавальніца выйшла.

– Ты ж не з'еў сваю цукерку?

Ля майго ложка стаіць дзяўчынка, яе завуць Ларыска. Яна з пульхнымі шчочкамі, паўнаватымі рукамі. Яе светлыя кудзеркі, на якія мне так падабаецца глядзець, калі яны асветленыя сонцам і робяцца амаль празрыстымі, растрапаныя... Мне заўсёды хочацца дакрануцца да гэтых кудзерак, але я баюся. І яшчэ я злуюся на выхавальніцу – яна ніколі на прагулках не ставіць у пару мяне і Ларыску.

– Ты ж не з'еў? Цябе пытаю! – нецярплівa сіпіць шэптам Ларыска.

– Не, не з'еў, – усхвалявана невядома ад чаго шапчу я.

– Я табе зараз пакажу, што ў мяне ў трусіках, а ты мне аддасі цукерку!

Мы ўсе ведаем – Ларыска вельмі любіць салодкае. Выпрошвае, вымяньвае ў тых, хто не паспявае з'ядаць.

– Ну? Хочаш пакажу? Ты ж хочаш, хочаш паглядзець, я знаю! – настойвае Ларыска.

Гэта ганьба – прызнацца ўголас, і я, ахоплены пачуццём сораму і жадання пабачыць забароненае, моўчкі ківаю галавой.

– Глядзі!

Ларыска падыходзіць да мяне блізка-блізка, і яе белыя трусікі з малюнкам зайчыка з моркаўкай апынаюцца перад самым маім тварам. Я бачу яе пульхныя пальчыкі, якія цягнуць тканіну ўніз, намаляваны зайчык зморшчваецца, складваецца. На адзін кароткі момант перад самым маім тварам паказваецца акуратная, быццам гумавая, лялечная похвачка, і я не паспяваю закрыць вочы ад пякучай сарамяжлівасці, а зайчык на трусіках ужо трымае сваю моркаўку.

Я заплюшчваю вочы, але не магу заснуць, я ўзрушаны і быццам шчаслівы: мне Ларыска даверылася, я бачыў, бачыў!

І вось ужо полудзень, я нясу загорнутую ў папяровую сурвэтку цукерку да століка, за якім сядзіць адна Ларыска. Я хачу ёй паабяцаць, што буду цяпер аддаваць ёй усе цукеркі, проста так аддаваць... Яна сустракае мяне сур'ёзным позіркам і загадвае:

– Кладзі!

Я працягваю руку да стала і бачу на ім мо з пяць такіх жа, як мая, цукерак. Кідаю сваю і выбягаю з пакоя. Адкуль яна ўзялася, гэтая крыўда, якая душыць мяне, выціскае роспачныя слязінкі з вачэй?

Мыльная бурбалка з маім першым болем узнімаецца ўверх, расце, расце і нягучна лопаецца, знікае, а знізу ўжо ўсплывае другі рознакаляровы шар.

...Я, першакурснік, вяртаюся з пошты – толькі атрымаў грашовы перавод ад маці. Ён вельмі дарэчы, ён доўгачаканы: у мяне ўжо некалькі пазык. За сотню метраў ад студэнцкага інтэрната мяне даганяе хлопец, гады на тры за мяне старэйшы, і просіць:

– Сябра, ратуй! З дзяўчынай пасварыўся! Вунь таксафон, я скажу табе нумар, а ты набяры, бо мой голас яна пазна*е* і кідае адразу трубку. Ты

спытай Анжэлу, як адкажа, то перадай, маўляў я, Антон, буду яе чакаць у пераходзе ля ГУМа, на нашым месцы, а восьмай. Дапамажы, дружа!

Канешне, я згаджаюся.

Таксафон стары, яшчэ ў металічна-шкляной будцы. Мы ўціскаемся туды ўдвух, ён дыктуе нумар, я пачынаю набіраць і раптам чую яго злы хуткі шэпт:

– Грошы давай хутка, чмо!

Я слупянею ад нечаканасці, гляджу на яго, на дзверы, якія ён загарадзіў сабой, бачу за шклом яшчэ дваіх хлопцаў і разумею: яго хаўруснікі, бо яны падышлі вельмі блізка, быццам чакаюць чаргі. Адзін з іх прачыніў дзверы і загадаў жорстка:

– Дастаў пашпарт і выцягнуў грошы! А то застанешся без анічога!

А вакол – дзень, міма будкі праходзяць людзі, яны не разумеюць, што за паўметра ад іх адбываецца рабаванне. І тут я пазнаю трэцяга хлопца: ён стаяў у чарзе разам са мной на пошце. Яны цікавалі за мной. Яны ведаюць нават, колькі ў мяне грошай...

Антон (але ж хіба яго насамрэч завуць Антонам?) не вытрымлівае, хутка соўгае рукой ва ўнутраную кішэню маёй курткі, а другой моцна налягае мне на жывот, прыціскае да сценкі:

– Ціха, не трапячыся!

Ён нават пашпарт не дастае, імкліва выхоплівае грашовыя купюры – і ўсе трое знікаюць...

Пузыр лопаецца, абдае мяне пырскамі, здавалася, забытага назаўжды сораму...

Чарговы ўсамін паглынае мяне, ахутвае смуродам перагару і гарэлага мяса. Полымя вогнішча выхоплівае бляск вачэй дзяўчыны... Не помню яе імя, яно звычайнае, самае звычайнае, яна толькі нядаўна назвала яго. Дзявочы твар перакрыўлены п’янай усмешкай, яна блытана імкнецца мне нешта патлумачыць, ікае, я не разумею, бо самога мяне хістае над ёй, над яе аголеным целам. Хачу злавіць смочак яе невялікай цыцкі сваімі вуснамі, пляскаюся тварам у ліпкую скуру грудзей і адчуваю, як торгаецца пада мной дзяўчына. Яна гучна ванітуе, а пасля і мяне рве, я нават не паспяваю цалкам адвесці сваю неверагодна цяжкую галаву ўбок...

І зноў шар бязгучна ўзрываецца аскепкамі ганьбы, а мне... мне робіцца лягчэй, я пазбаўляюся нечага важкага, непрыстойнага, ад мяне адчэпліваецца гідкі бясформенны кавалак... Пузыры ўзнімаюцца, несучы мае ўспаміны, выбухаюць іншым разам і светлымі ўспышкамі непасрэднага шчасця, радасці, цнатлівага хвалявання. І мяне загойдвае пачуццё лёгкасці і неабавязковасці: нічога не патрэбна, усё добра, я не мушу нікуды спяшацца, нешта рабіць. Сядзець, пагойдваць бязважкую прыемнасць унутры... Толькі адно... Адно трэба зрабіць, нешта важнае... Ці не вельмі важнае, але трэба, я ж не давёў справу да канца, я не адказаў... Так, так: адказаць на пытанне, я павінен адказаць на пытанне... Каму? Дзяўчыне... Не, жанчыне. У яе... такі смешны, тонкі, з шырокімі трапяткімі крыламі нос, быццам акуратная дзюба невядомай птушкі... І позірк... Яна глядзіць, трошкі схіліўшы галаву, вочы мружацца, у іх скачуць такія светлыя іскрынкі...

Надзея! Пазваніць!

Цвярозасць вярнулася, амаль вярнулася. Бы згвалтаваная да паўсмерці дзеўка, яна стаяла за маёй спінай на дрыготкіх нагах, гатовая не проста ўпасці, а скласціся ўтрая ў любое імгненне.

Я гартаў тэлефонны даведнік, і было так незвычайна бачыць у ім запісы, якія мне не казалі нічога, абсалютна, быццам я трымаў у руках не свой мабільнік.

Гудок выкліку быў першым гукам не гэтай прыроды. У дзеўкі-цвярозасці за спінай перасталі трэсціся паджылкі. Я памахаў галавой, становячыся яшчэ больш цвярозым.

– Васіль?

Голас Надзеі прагучаў так усхвалявана і гучна, што я ўздрыгнуў. Чужы, варожы тут голас – і туман вакол, здаецца, хіснуўся драпежна.

– Ага, я, – выціснуў я з сябе гукі і ўзрадаваўся: магу, магу гаварыць. Толькі цяпер, пасля слоў, мне стала страшна ад думкі, што было б, калі я не змог бы вымавіць ні слова.

– Ты дзе? Што здарылася?

– Не ведаю... Нічога не здарылася... Тут дзеўкі голыя...

– Ты п’яны? – з жалем спытала Надзея, і я адчуў, як ёй балюча пра гэта думаць.

– Мабыць, п’яны, – павольна адказаў я. – Толькі я не піў гарэлкі. Нейкую... нейкі адвар. А дзеўкі голыя аралі поле. Мяне зааралі. Кругам. І я сяджу ля грушы. А, не, я не пра тое... Мне трэба табе сказаць...

– Стой! – Надзея закрычала роспачна, я ажно ўздрыгнуў. – Стой! Ты дзе? Дзе ты цяпер?

– Не ведаю... Я ішоў... мне паказалі сцяжынку. Ад Ляўдка праз лес прама да трасы. Заснуў ля грушы... А дзеўкі... Тут баразна. Мне трэба пераступіць яе. Ты мне кажы што-небудзь, мне зусім не страшна цяпер... Я вось іду...

Я сапраўды ўстаў і пайшоў да баразны, якая ледзь угадвалася ў прыкметна пагусцелай шэрані.

– Не хадзі! – зноў закрычала Надзея. – Будзь там. Там ігруша? Будзь там, ля яе. Нікуды не хадзі, нічога не рабі. Зараз я буду. Не спі! Не засынай. Гавары са мной... Гавары...

Праз тэлефон даносіліся гукі – Надзея некуды ішла, нешта казала, але ўжо не мне.

– Я хацеў табе сказаць... Я не помню... А табе трэба ведаць... Я дурань. Не, я не дурань. Я прыстасаванец. Не, не так... Я проста жыву... жыву, жыву...

– Усё будзе добра, Васіль, – праз уздыхі казала Надзея. – Зараз, пачакай мяне... Стой ля грушы. Закуры...

– Але я не хачу курыць... Тут так пахне... Так пахне, што не хачу курыць. О, я адкрыю фірму, якая будзе вазіць сюды тых, хто жадае кінуць курыць, – захіхікаў я. – Ты знаеш, тут такія грошы...

– Закуры! Зараз жа! – уладна загадала Надзея.

Тэлефон пікнуў коратка і адключыўся. Батарэя? Ну так, можа быць... Закурыць? Надзея загадвала, значыць, трэба... Які паскудны смак у цыгарэтнага дыму! Чаму я ніколі раней не адчуваў такой агіды?

Мяне ледзь не званітавала, але я зацягнуўся яшчэ раз. Галава неміласэрна закружылася, я ўчапіўся за шурпаты ствол ігрушы, устаяў. Зямля вагалася. Што ж я за дрэнь такую выпіў? Вось жа...

Я не помніў, колькі часу прайшло. Дзесяць, дваццаць хвілін? Яшчэ больш пацямнела, але адкрылася далеч: туман амаль знік, стаў бачным чорны лес. Я сузіраў усю паляну вакол сябе, раз-пораз натыкаючыся позіркам на чорную баразну, якая стала быццам яшчэ больш блізкай і глыбокай.

– Васіль! Васіль!– Надзея гукала недзе зусім блізка, я пайшоў у на-

прамку голасу. Яна бегла да мяне з лесу, светлая постаць на шэрым лузе. – Ідзі да мяне, колькі зможаш.

Надзея стаяла па той бок баразны. І мне раптам падалося, што нам ніколі не зрабіць крок насустрач адзін аднаму: не дасць забітая, разрэзаная плугам зямля, якая сцякае тут чорнай кроўю...

Я паслухаўся, крокаў за пяць ад баразны спыніўся.

– Не магу далей... Жуда нападае.

– Не ідзі. Чакай...

Надзея аддыхалася. Яна стаяла так блізка ад мяне, – у светлай майцы, джынсах, такая ўзбуджаная, жаданая... За яе галавой раптам пасвятлела: гэта месяц высунуўся з-за зубцоў лесу. Так чароўна ўсё было, так незвычайна...

– Надзея... Там месячык свеціць...

– Добра, Васілька, добра, – ласкава адказала яна, расшпіліла і скінула з сябе джынсы, пасля такім вабным рухам – майку, на чорную траву паляцелі белымі скамечанымі птушкамі яе станік і майткі.

А мне стала так сорамна, так няёмка, быццам я, зусім яшчэ малы, выпадкова пабачыў перад сабой сваю аголеную маці. Але не змог адвесці вачэй, глядзеў, як Надзея прысела, пасля лягла ўздоўж баразны і пакацілася – з жывата на спіну, у баразну, з баразны наверх – і вось яна ўжо ля маіх ног. Схапіла мяне за ногі, прыўзнялася.

– Скідай адзенне, распранайся... Увесь...

А я баяўся даткнуцца да яе голага цела, здавалася – мяне апячэ, бы токам ударыць. Немагчыма было перавесці позірк уніз, адно ратаванне – глядзець у яе вочы.

– Надзея, Надзюшка мая... – папрасіўся я.

– Маўчы цяпер, маўчы і цярпі, міленькі, – Надзея расшпільвала гузікі на маёй кашулі, сцягвала яе з плячэй. Тузала рэмень на джынсах, цягнула іх долу, прымусіла пераступіць нагамі... Хапіла мае транты, скамячыла ў адзін вузел і кінула цераз баразну. І раптоўна прыпала сваім прахалодным, такім жывым целам да мяне, цалкам голага, кожнай клетачкай прыціснулася, абхапіла за плечы.

– Абдымі мяне моцна, кладзіся на траву!

Апякло, аж закалаціла ўсяго, здаецца, і зубы заляскалі, а рэшткі свядомасці галасілі: «Сорам! Сорам які!» Але слухаўся, ужо цалкам прыняўшы Надзею за маці, а сябе за маленькага паслухмянага хлопчыка...

Раптам кульнулася зямля, раз і другі, мне падалося, мы ляцім у прорву, б'ёмся аб камяні. А Надзея ціснулася што моцы да мяне, і цяпер ужо адна думка калола недзе ў паўзабыцці: як жа балюча ёй можа быць...

Зямля ніяк не магла супакоіцца, гойдалася. Я адчуваў, як Надзея апранае мяне, потым чуў яе загад ісці, і яе дужыя рукі не давалі зямлі абрынуцца на нас, хілілі ў іншы бок...

У лесе мне стала крыху лепш, у кожным разе, я сам мог стаяць на нагах. Пабачыў аўтамабіль, ля яго мужчыну, пазнаў: Сяргей.

– А я – вось, – дурнавата пасміхнуўся яму.

– Сядай!

Мы ехалі нядоўга, спыніліся. Надзея адчыніла дзверцы, дапамагла мне выйсці. Павяла.

– А тут жыве вядзьмак Зміцер, – прамармытаў я.

– Пазнаў, Васілёк, так, Зміцер... – прыгаворвала Надзея, адчыняючы веснічкі, тузанула дзверы ў хату.

– Хто там? – пачуўся з цемры тонкі жаночы голас. Запалілася святло кволай лямпачкі.

– Мы да дзеда, – рашуча ступіла наперад Надзея, трымаючы мяне пад локаць, і баба Марылька зрабіла крок убок, даючы нам прайсці.

Стары Зміцер глядзеў на нас. Я бачыў яго вочы, на гэты раз у яго позірку было жыццё – там была і пагарда – да мяне, і цікавасць – да Надзеі.

– Прысядзь, – Надзея пабачыла табурэтку, падвяла мяне да яе, пасадзіла, павярнулася да старога і жорстка гукнула: – Дзед! Ты мяне ведаеш! Яму трэба зелле ад круга забыцця.

Стары маўчаў.

– Я не стану цябе прасіць, дзед Зміцер! – паўтарыла Надзея тым жа тонам. – Мне трэба, і я не сыду з хаты, пакуль не вазьму. У цябе ёсць. Змог прыгатаваць адно, гатуй і другое. Мне няцяжка будзе ператрэсці тут усё дашчэнту. Я выкіну цябе пад плот шалёным лісам, па цагліне разбяру печ, бервяна на бервяне не пакіну ад тваёй халупы, але знайду! Хочаш гэтага?

– Не знойдзеш, – прахрыпеў са шкадаваннем стары.

– Знайду!

– Ад круга не зелле трэба...

– А што? – Надзея падалася наперад, голас яе задрыжэў: яна адчувала, што прайграла. – Кажы!

Зміцер глядзеў на яе, скасіўшы вочы. Не, ён не ўсміхаўся пераможна, але не казаў ні слова.

– Добра, дзед Зміцер, – выгаворваючы кожнае слова паасобку, пачала сцішана Надзея. – Я прапаную табе людскую смерць. Я вазьму тваё.

– Вой, дзетачка, нашто табе, родная? – войкнула баба Марылька, перажагналася. – Табе ж жыць...

– Мне жыць, я адмалю, – адмахнулася Надзея, не паварочваючы галавы да старой. – Дзед! Ты згодзен? Я дам табе па-людску сканаць, – паўтарыла яна. – Ты не будзеш у пакутах маліць смерць прыйсці за табой. Ты ведаеш, які канец цябе чакае. Кажы мне!

– Вазьмі мяне за руку, – нарэшце папрасіў стары.

– Не бярыся, дзетачка, адумайся! З гэтай навукі адныя мукі, – зноў паспрабавала спыніць Надзею баба Марылька. Але тая бы не чула папярэджання, зрабіла крок да старога, узяла схуднелую руку, сціснула ў сваёй.

– Бяры, – выдыхнуў Зміцер, і Надзея ўздрыгнула ў наступны момант, па целе яе прайшлася кароткая хваля дрыжыкаў. Яна выпусціла старэчую руку, з хвіліну стаяла, заплюшчыўшы вочы, быццам прыслухоўвалася да сябе.

– Цяпер кажы, – нечакана знясіленым голасам папрасіла яна.

– На ваду пашапчы. Ты цяпер ведаеш, як шаптаць. З сабой пакладзі яго. Ваду з цыцкі дай, хопіць, каб толькі вусны памачыў. Няхай засне...

– Бывай, дзед Зміцер, – цяпер ужо спакойна, нават лагодна, развіталася Надзея, азірнулася да старой: – Добра начаваць, баба Марылька.

Мне здавалася, я бачу, адчуваю і разумею ўсё. І ўсё ўспрымаю з неверагодным спакоем, абыякавасцю нават, быццам нішто вакол не датычылася мяне. Дакладней, датычылася, але ж я ні пры чым, я – маленькі хлопчык, хіба можна мяне ў нечым абвінаваціць і потым пакараць? Не, гэта вашы дарослыя справы, дзікунскія справы...

Мы ехалі ў горад, я сядзеў на заднім сядзенні, мне было ўтульна і хораша. Так хораша... Нічога не турбавала, не было ні холадна, ні спякотна,

не хацелася ні піць, ні есці. Адзінага жадалася: каб вось так ехаць праз ноч доўга-доўга, бясконца ехаць...

І зноў Надзея распранала мяне, мне зноў было пакутліва-сорамна стаяць пад струменьчыкамі вады ў душы, а потым яшчэ вытрываць выціранне сухім мяккім ручніком. І толькі пах ручніка – тонкі, валошкавы, прыцярушваў, размываў вострыя абрысы сораму ў свядомасці.

Нарэшце я быў у ложку, і зямля зноў загайдалася, але цяпер лагодна, павольна, мяне закалыхвала. Я адчуў голае цела Надзеі побач са сваім, памкнуўся адсунуцца, але яна прыціснулася настойліва, паклала сваю руку мне пад галаву. Чуў яе шэпт, хуткі, гарачы, а потым ля майго рота апынуліся яе грудзі, да вуснаў дакрануўся халодны мокры смочак. Я яшчэ паспрабаваў абурыцца: як мне, такому дарасламу ўжо, які разумее, што аголенага цела трэба саромецца, даюць смактаць цыцку? Ды нейкі непадуладны розуму інстынкт прымусіў схапіць вуснамі смочак – і на гэтым свет знік.

## 14.

У навальнічнай ночы ёсць глыбокая спрадвечная інтымнасць.

У памяць мне надоўга запала першая ў маім жыцці навальнічная ноч. Я быў тады ў бабулі Леаніды, Лёні, як клікалі яе вяскоўцы. Быў жывы і дзед Юзік. Адной ноччу мяне разбудзіў гром. Жыгалі маланкі, якія ўспыхвалі ў вачах нават праз прыплюшчаныя павекі. Было страшна расплюшчваць вочы, але яшчэ страшней было заставацца аднаму ў цемры, якая, гэта адчувалася, яшчэ больш гусцела пасля сполахаў маланак.

Я пабачыў маленькі кволы агеньчык свечкі, якая стаяла ў шклянцы з зернем на стале. На ўслоне сядзеў дзед Юзік у пінжаку, але ў сподніх нагавіцах, побач з ім у доўгай начной сарочцы – баба Лёня. Яны маўчалі. Дзед пазіраў за вакно, і я дзівіўся: нават ніводная жылка не ўздрыгвала на яго твары, калі бухаў пярун. А баба... Баба даверліва нахілілася да яго пляча, і вусны яе варушыліся: яна нешта хутка, але бязгучна прамаўляла.

Я першы раз пабачыў, як дзед і баба, ды яшчэ ў такой во адзежы, сядзяць побач. Так, я бачыў, як мама часам сядзела ля бацькі, схіліўшы яму галаву на плячо, але тут... У постацях бабы і дзеда было нешта большае за даверлівасць, непадуладнае майму дзіцячаму разуменню, але тым не менш яскравае сваёй дарослацю, асаблівай пяшчотай, такой, якая мне і ў той час падалася асаблівай, якую трэба хаваць ад чужых вачэй, няхай сабе і вачэй унука.

Мабыць, баба адчула тады мой позірк, бо страпянулася, вызваліла сябе са свайго засяроджвання і падышла да мне.

– Спі, унучак, навальніца ўжо сціхае...

– А чаму вы не спіцё? – спытаў я шэптам.

– То дарослым нельга спаць у навальніцу, унучак, такое правіла... А ты спі, дзіцятка, ужо сціхае...

Гэтая навальнічная ноч увайшла ў маё жыццё адкрыццём: між мужам і жонкай нешта ёсць такое, пра што сорамна казаць і нельга бачыць каму-небудзь, акрамя іх дваіх.

...Мяне разбудзіў гром. Яшчэ ў паўсне я зразумеў: я ляжу дома на сваёй канапе, побач са мной – Надзея, зараз ноч і за акном навальніца. І галоўнае: усё добра. Дакладней, амаль добра.

Праз тонкую скуру павек маланка асляпіла, я пачаў лічыць, як прывык з дзяцінства, каб пасля памножыць на трыста і даведацца: ці блізка ўжарыла. Далічыў адно да двух, і ўвесь дом скалануўся ад магутнага гуку, нейкага дзіўнага, сухога, быццам пад ударам сякеры расчапілася з узмоцненым у мільёны разоў трэскам яловае палена. Расплюшчыў вочы і зразумеў: Надзея не спіць.

Было незвычайна ціха. Шуму дажджу не было чуваць. Не было чуваць і Надзеінага дыхання.

Пад яе галавой была мая рука, ужо не першы раз яна так спала, але ніколі не адлежвала. Я ледзь пакратаў рукой, набліжаючы твар жанчыны да сябе, другой абняў. Надзея прыўзняла галаву, сама абхапіла мяне і моцна прыціснулася.

– Ты помніш? Ты ўсё-ўсё помніш? – клапатлівым шэптам, быццам у хворага, спытала яна.

– Помню. Усё помню, і мне сорамна, – адказаў я.

Я насамрэч помніў усё да самых малых дробязяў: туманную паляну, голых дзевак, запрэжаных у плуг, чорную баразну на дзікім лузе, свае страх, бяссілле і ачмурэнне, хату ведзьмака Зміцера, Надзеіна патрабаванне, яе мокры халодны смочак на сваіх вуснах... Прыпаў тварам да яе грудзей, удыхаў такі цёплы, такі жывы і родны мне пах.

– Дурненькі, чаму табе сорамна?

– Бо я быў слабым, – адказаў я, не адрываючы твару ад яе цела. – Ведаю: жанчыны прабачаюць дзівацтва і дурасць, але слабасць – ніколі.

– І яшчэ два разы дурненькі, – Надзея ўскудлаціла мне валасы, пачала гладзіць маю галаву сваёй мяккай далонню, супакойваючы. – Першы раз дурны, што ўсякаму чытанню верыш. Другі раз за тое, што палічыў сябе слабым. Ты не быў слабым, ты быў пераможаным. А перамагчы могуць і самага моцнага. Бо не заўсёды моц супрацьстаіць моцы, розум – розуму. Куды табе супраць такога ведзьмака, як Зміцер, і ягонага круга забыцця?

Мой пакой раптоўна нібыта ўспыхнуў неверагодна зыркім блакітам знутры. Мы замерлі, я лічыў уголас:

– Адзін, два, тры...

Ударыў гром, Надзея прыціснулася да мяне яшчэ мацней.

– Гэта... насамрэч нейкі круг? – я не мог не спытаць, бо мне трэба было зразумець: ці праўда Надзея пайшла на нешта страшнае дзеля мяне.

– Не думай пра яго, – яна лёгка дакранулася да маіх вуснаў сваімі, пацалавала стрымана. – Потым, усё – потым. Цяпер галоўнае – мы тут, – Надзея перайшла на хуткі ўзбуджаны шэпт.

– Галоўнае, так, – таксама шэптам адказаў я.

Зноў успыхнуў блакітам пакой, правуркатала-пpагрымела, і раптоўна абрынуўся іншы шум – шум моцнага ліўня. Я быў упэўнены, што і Надзея ў гэтыя хвіліны сузірання непадуладнай стыхіі, як і я, адчувала асаблівую ўтульнасць цёплай канапы і абароненасць у абдымках. Там – грыміць і ліе, там шал стыхіі, а тут – ціхае шчасце асэнсавання сябе ў доме, пад дахам з любым чалавекам.

– Галоўнае – усё добра, усё добра, – Надзея зноў прыпала вуснамі да маіх і пацалавала з прыкметнай п’янлівай жарсцю, ды адхілілася, калі пабачыла, як я таксама пачаў распальвацца. Быццам дражніла... І я памкнуўся за ёй, раптоўна ўзбуджаны вільготнай мяккасцю яе вуснаў, яе перарывістым дыханнем.

Надзея напачатку быццам супраціўлялася. Не, не свайму жаданню, а таму пачуццю, якое пачало авалодваць намі абаімі. То была не простая жарсць. З кожнай бліскавіцай і ўдарам грому ў нас уваходзіла нешта адвечнае, абуджалася застылае, надзейна замураванае тысячагоддзямі цывілізаванасці. Той лівень за акном быццам прабіў дах, і цяпер струмені блакітнай у святле маланак вады змывалі з нас усе забароны, вызвалялі ад усіх норм і правіл. І мы ачысціліся, пазбавіліся апошніх путаў чалавечых умоўнасцей.

Стыхія віравала звонку, стыхія віравала ў нас. Не, мы самі былі стыхіяй – пяшчотнай і адначасова звярынай, непадуладнай розуму. Развагам тут не было месца, мы былі еднасцю, якая насычала сябе ўсёдазволенасцю і шалела ад бязмежжа сваёй фантазіі. І нельга было адрозніць у гэтым шаленстве гартанныя крыкі Надзеі ад майго рыку, вылучыць у перарывістым, цяпер амаль безупынным святле белых маланак нешта асобнае з распаленага клубка двух цел.

То быў не секс. Нельга назваць пачуццё поўнага зліцця, ажно да фізічнага адчування еднасці з іншым чалавекам, сексам. Людзі за доўгія гады свайго існавання так і не далі зразумелага тлумачэння каханню. Хіба ж можна падабраць слова, каб назваць ім каханне ў навальнічную ноч?

І гэта не мы спыніліся ўслед за сціханнем навальніцы ў сваёй празе насычэння адно адным, у імкненні даць адно аднаму максімум, на які здольны цалкам свабодны ў сваіх жаданнях чалавек, вызвалены ад сарамяжлівасці і штучнай прыстойнасці, гэта само неба, чуйнае і глыбокае, раптоўна апала ў сваім шаленстве ўслед за намі, і апошнія хвалі дрыжыкаў аргазму на целе Надзеі адгукаліся лагодным вуркатаннем грому, што не быў далёка, а проста над намі – невядомая істота, якая жыла, сілкавалася нашым шаленствам і піла з нашай жарсці.

Мы ляжалі колькі хвілін моўчкі, астываючы і супакойваючыся, не кажучы ні слова, бо яны ў гэты момант былі не проста непатрэбнымі – любое з іх было б фальшывым, бо язык чалавечы раптам апынуўся бясконца бедным, каб выказаць хоць малую кроплю ўдзячнасці і пяшчоты адно аднаму за гэтае бязмежжа шчырай жарсці.

Урэшце Надзея, мякка пацiснуўшы мае пальцы сваёй рукой, слізганула з канапы, шчоўкнула святільняй. Узняла рукі ўгару, сплёўшы пальцы, пацягнулася і закружылася.

Першы раз яна так адкрыта, без аніякай сарамлівасці, дэманстравала перада мной сваё насычанае ласкай аголенае цела, менавіта дэманстравала, паварочваючыся павольна, гледзячы на мяне сваім мілым гарэзлівым позіркам.

– Я шчаслівая... Я самая шчаслівая... – Я самая-самая шчаслівая... – напявала яна.

Адчыніла шафу, дастала першую, якая патрапілася на вочы, маю кашулю, надзела, падкасала рукавы, зашпіліла гузік. Толькі адзін. Чацвёрты зверху. Стала, адставіўшы крыху адну нагу, уперла левую руку ў бок, правую закінула за шыю і схіліла галаву, прымружыла вочы:

– Я табе падабаюся? Кажы, я буду гатаваць табе каву!

– У кашулі маёй, адно на чацвёрты гузік зашпіленай, ты гатуеш мне каву, – прадэкламаваў я з нечаканым хваляваннем. – Людзі забываюць многае... Я не змагу цябе ніколі забыць у маёй кашулі.

– Паверу! Але праверу! – Надзея прайшла на «кухню».

Мы пілі каву на верандзе, адчыніўшы дзверы ў ноч, дзе шапатаў па лісці сцішаны дождж.

– Надзюш...

– Чую...

– Я пра круг хачу спытаць.

– Пытайся.

– Дык праўда?

– А чым гэта можа быць? – Надзея адставіла кубак, хітра прымружылася, нахілілася да мяне і загаварыла таямнічым шэптам: – Усё было не так! Я згаварылася, каб цябе спаілі наркатычным настоем на мухаморах, украла ў Падлужнага плуг, дзеўкі за літр каньяку наладзілі інсцэніроўку старажытнага абраду. Урэшце, мэта была дасягнутая: я завалакла цябе ў свой ложак і сёння зацяжарала! Сёння была ноч Цмока! Цяпер ты будзеш ведаць, як зараджаюцца Цмокі! І я нараджу яго – ён прынясе мне шчасце, а цябе з'есць!

– Надзюш... Не прыдурвайся. Дык праўда?

– Праўда тое, у што верыш.

– А ты верыш? Скажы!

– Я ведаю...

– Што ты ведаеш? – не адставаў я.

Надзея маўчала, быццам раздумвала, казаць ці не, і пачала апавядаць такой інтанацыяй, бы маломy дзіцяці казку:

– Ведзьмакі ведаюць шмат якіх страшных спраў. Але многія рэчы робяцца агулам, вядзьмак тут толькі дапамагае. Круг забыцця – страшны. Калі з яго выскачыш, страх пераадолеўшы, то страціш усю памяць, забудзеш, хто ты ёсць. А калі ранка дачакаешся, то дакладна не будзеш помніць апошніх дзён... Жанчыны аруць баразну, а вядзьмак у гэты час нагаворвае закляцце: на колькі дзён чалавека пазбавіць памяці...

– Навошта? Які сэнс у гэтым? Няўжо яны хацелі, каб я на нешта забыўся?

– Значыць, хацелі.

– Не дражніся, – я прыцягнуў яе да сябе, захапіў яе прыпухлыя і знясіленыя ад нядаўніх пацалункаў вусны сваімі, але адпусціў, абмяк: – Што ты ўзяла... ад Зміцера?

– Глупства, – яна адказала быццам са смехам, але ж я не змог не адчуць падману.

– Зміцеру была наканавана страшная смерць? Чаму?

– Бо вядзьмак, – не ўтрымала ўздыху Надзея. – Нямала зла нарабіў, хоць і дабра таксама. Каго лячыў, а каго калечыў. Яны, ведзьмакі, пакуль у сіле, не хочуць думаць пра нейкія маральныя нормы. Ім усё адно: ці даць маладзіцы адвару, каб мужыка чужога прысушыла навек, ці зелле прыгатаваць, каб дзіця ачуняла, ці мужчынскую сілу вярнуць або забраць... Ім няважна... пакуль маладыя. Бо яны над людзьмі...

– І ты... узяла грахі Зміцера на сябе?

– Не. Грахі яго я не брала: яму за іх самому адказваць. Сілу яго ўзяла. І памрэ ён простым чалавекам, не будзе пакутаваць месяцы. Іначай яны не паміраюць – толькі праз страшэнныя мучэнні. То ім тут, на зямлі, ці то адплата за зло, што людзям нарабілі, ці то пакаранне за тое, што сілу сваю не перадалі.

– Стой, стой, – я прыўзняўся, нават сеў. – Ты цяпер вядзьмарка?

– Канешне! Я ёй і была, я ж табе казала! Таму і змог Зміцер мне сілу перадаць, абы каму не перадасі.

– Мне тамашняя цётка Сонька казала, нібыта Зміцер перадаў сілу дачцэ, Насці...

– Не, ён яе проста навучыў таму, чаму паспеў. Але цалкам сілу перадаць можна толькі перад смерцю.

– Слухаю цябе, і быццам я – не я. У мяне – законы, а я тут распытваю пра вядзьмарства, быццам пра апошнія змяненні ў крымінальным кодэксе... І ты зараз усё можаш, як ведзьма? І што можаш?

– Дзівак ты, Васілька, дзівак дурненькі, – Надзея пацягнулася і ўскудлаціла мне валасы. – Вядзьмарская сіла – той жа талент ад прыроды. Вось нарадзіўся таленавіты мастак. Але ж можа так і памерці, працуючы бухгалтарам. Разумееш? Талент – усяго толькі здольнасць. Але не ўменне. Трэба вучыцца, працаваць нястомна...

– А ты... ты будзеш вучыцца?

– Не! – жорстка адказала Надзея. – Не хачу. Ведаю, што ў экстрэмальных сітуацыях уменне падсвядома прыйдзе. Як тое веданне прыйшло, каб цябе адшаптаць ад круга забыцця. Вось зараз я і паўтарыць не змагу... І не трэба. Калі лёсу будзе патрэбна – ён пакліча маю сілу. І я яе скарыстаю. Але ведаю дакладна: на зло не буду...

– Зло – не браць чужога, не браць лішняга... – успомніў я словы бабулькі Марылі.

– А ты – мой! Мой! – Надзея глядзела на мяне без усмешкі, адкрыта і неяк безабаронна. – Нікому не аддам. І мне цябе ніколі не будзе многа. Але... трымаць цябе сілай не буду. Захочаш пайсці – ідзі.

– Дык... няма куды, – няўклюдна аджартаваўся я.

– А да Зіначкі?

Рэўнасць, самая звычайная, жаночая, разанула ў Надзеіных словах, і я вінавацячыся, выдыхнуў:

– Даруй мне, калі ласка... Не за тое, што было ці магло быць. За тое, што пайшоў...

– І ты мне даруй... за тое пытанне. Так нельга было.

– Я праваліў тэст? – успомніў я словы Тамары.

– Ты нічога не правальваў. Так нельга было, я дурніца, – паўтарыла Надзея. – Пойдзем спаць? Нядзеля. Нікуды не трэба, мы будзем спаць доўга-доўга.

– А я... не засну.

– Я цябе прысплю, – паабяцала Надзея. – Буду спяваць табе калыханку.

Я памыліўся – заснуў адразу, бы праваліўся ў мяккую цёплую цемру, толькі дакрануўся да падушкі і пачакаў, пакуль Надзея пакладзе галаву на маю руку.

Мы і прачнуліся гэтак жа, не зварухнуўшыся за кароткі час сну. Здавалася, прайшло не больш за пяць-дзесяць хвілін, але ў пакоі было светла, а мая «кухня», акно якой выходзіла на ўсход, нязвычна ззяла ад сонечнага святла. На падлозе ля канапы вібрыраваў тэлефон Надзеі.

– Не буду браць, – не расплюшчваючы вачэй, прагаварыла Надзея.

– Не бяры, – падтрымаў яе я, абхапіў другой рукой, пацягнуў да сябе – цёплую, мяккую.

Тэлефон змоўк і адразу ж зноў пачаў гудзець.

– Выкінь яго!

– А гэта... гэта Сяргей, – усміхнулася Надзея, расплюшчыла вочы. – Мы збіраліся на досвітку на рыбу.

– Я сваю злавіў, хай едзе і ловіць сабе, – я прыціснуў Надзею да сябе.

– Задушыш! – яна вызвалілася з абдымкаў, села на канапе, падняла тэлефон.

– Усё, гатуй сняданак! – без лішніх слоў загадала яна, паслухала і дадала: – Табе няхай і абед, а нам – снеданне... Устаём, сорам які! – павярнулася да мяне, усміхнулася разгублена: – Ужо дзевяць! Пагавораць суседачкі...

Мы і сапраўды ўчора, пакуль майстравалі новыя вароты ў Надзеін двор, дамовіліся пра ранішнюю рыбалку сёння. Сяргей юнаком часта прыязджаў да сваёй цёткі, Надзеінай маці, і любіў тут хадзіць на рыбу. У яго на радзіме не было ні ракі, ні больш-менш добрай азярыны – адно копанкі, у якія дзятва запускала карасёў. Тыя пладзіліся і праз гадоў пяць выводзіліся – не раслі вялікімі, хіба на паўдалоні. А з заходняга боку нашага райцэнтра пачыналіся асушаныя балоты, цэлая сістэма каналаў і канаў. Рыбе хапала месца і ежы, то вяліся тут і паўсюдныя карасі, і ліні, і плоткі з акунямі. І шчупакі, канешне. Пра ўсё гэта мне расказваў Сяргей, смакуючы будучую рыбалку.

Аказваецца, у юнацтве Надзея была яго спадарожніцай па канавах, любіла не менш за свайго стрыечнага брата вудзіць рыбу, пры гэтым шанцавала ёй не меней за яго, хіба што бракавала спрыту і вытрымкі. Я напачатку здзівіўся, калі Надзея прызналася, што адну нядзелю ахвярue рыбалцы з задавальненнем. А потым самому стала непрыемна ад свайго здзіўлення. Было прыкра з-за сваёй немагчымасці канчаткова вызваліцца ад свайго стэрэатыпу ўспрымання Надзеі як звычайнай гандляркі, для якой галоўнае ў жыцці – рынак і грошы. Добра хоць, устрымаўся, не паддаўся хвіліннаму здзіўленню, не выказаў яго ўголас, не лыпнуў вачамі...

Дарога, падалося, была вельмі доўгай. Пакінулі машыну і яшчэ ішлі ўздоўж адной канавы, зарослай па берагах густой ракітай, пераходзілі па даўно пакладзеным, але сёння патрэбным бадай адно вось такім рыбакам, як мы, мастку.

Тут былі сапраўды дзікія мясціны. Я быў не тое каб уражаны – перада мной быццам адкрыўся іншы свет, усё адно як перакінулі ў іншую краіну.

Балота. Сапраўднае беларускае балота пачыналася ад больш-менш цвёрдага берага канавы і слалася далёка-далёка роўнай паверхняй з рудой травой, невысокімі кустамі. Туман плямамі вісеў над асобнымі мясцінамі, у метраў за пяцьсот ён ужо здаваўся шчыльным покрывам, закрываў гарызонт. І хоць сонца ўзнялося высока, пачало адчувальна прыграваць, туман не знікаў, наадварот, як быццам гусцеў, пачаў варушыцца, узнімацца ўверх... Балота быццам выдыхала з сябе ледзь прыкметна сівую ўзвесь.

Сюды даўно не прыходзіў ніхто з рыбакоў, прынамсі ў гэтым годзе дык дакладна ніхто, хоць без цяжкасці ўгадваліся на беразе шырокай канавы наседжаныя некалі рыбацкія месцы.

Рыба быццам чакала нас. Сяргей сам насадзіў белых тлустых чарвякоў на кручок Надзеінай вуды, даў ёй, і, пакуль настройваў дзве свае, Надзея з ціхім войканнем захаплення выцягнула з застылай чорнай вады бліскучую рыбіну.

– Ого! Які лінёк! – Сяргеевы вочы заззялі ад азарту, ён хутка зняў рыбіну з кручка, паправіў прынаду: – Сама цяпер, успомніла ўсё? Я таксама хачу!

– І табе хопіць! – адказала Надзея з усмешкай, дадала весела: – А я ізноў першая рыбіну злавіла, ага! – і па-дзіцячы паказала язык.

Дзве гадзіны, пакуль сонца не ўзнялося высока, мы вудзілі рыбу, і мне не хапала часу думаць пра нешта іншае, акрамя паплаўка: ён і на дзесяць хвілін не застываў у нерухомасці. І хоць рыбак з мяне атрымаўся ўрэшце самы няўдалы – мае падсечкі у асноўным былі халастымі, дзясяткі з два карасёў, краснапёрак і плотак я выцягнуў. І даволі ладных, іх прыемна было адчуваць у руцэ. Потым паклёўкі сталі больш рэдкімі і вялымі, нарэшце паплаўкі ўсіх нашых вуд замерлі.

Я ўжо каторы раз паглядаў уздоўж канавы, якая бегла ў бясконцасць балота, гублялася ў кустоўі. Нарэшце папрасіў Сяргея, каб паназіраў за маёй вудай, пайшоў берагам. Чым далей я заходзіў у балота, тым вусцішней рабілася вакол. І хоць быў зыркі сонечны дзень, незразумелая трывога панавала ў наваколлі. Дзікая глуш – упершыню я зразумеў глыбінны сэнс гэтых слоў. Ісці ўздоўж канавы было ўсё цяжэй: кусты густа разрасліся на берагах, іх трэба было абыходзіць, а на два крокі ў бок пад нагамі было ўжо тваніста. Не ведаю, што мяне цягнула сюды.

Канава паступова меншала: балота, некалі ўстрывожанае чалавечым умяшаннем у сваю спрадвечную ціш, зарубцоўвала нанесеныя раны – канава зарастала, зацягвалася. Яшчэ паўсотня метраў – і яе не стала ўвогуле, наперадзе была плоская змрочная раўніна.

Тут ніколі не касіліся травы, тут не хадзілі людзі. Ногі ў гумавых ботах, якія мне даў Сяргей, былі па шчыкалатку ў чорнай вадзе, я рабіў крок – і зямля спружыніла пад нагамі, калыхалася, хвалямі разыходзіліся ваганні. Я адчуваў: стаю, нібыта на тоўстай травяной коўдры, не надта трывалай, а пад нагамі ў мяне – чорныя халодныя нетры.

Працяжна крыкнула нейкая птушка, я ўздрыгнуў ад неспадзеўкі. Крык быў незнаёмы мне, я не ведаў, хто так крычыць. Ці птушка ўвогуле? Глуш не проста заварожвала, яна быццам высмоктвала з мяне думкі і жаданні, насычала незразумелай трывогай. Я думаў над тым, як жа страшна тут можа быць чалавеку, аднаму, калі ён заблукае, згубіць сцежку. Тут жа згінуць – і ніхто ніколі нічога не даведаецца...

Мне раптам падалося, што я пачаў гразнуць. Павярнуўся, выцягнуў адну нагу і цяпер ужо сапраўды пабачыў – другая нага амаль па калена ў вадзе. Даследчык! Я вылаяў сябе, ступіў крок і другі да колішняга берага канавы, а цяпер усяго больш-менш цвёрдага грудка, і там закурыў.

Чаму я сюды ішоў? Чаго не бачыў? Што хацеў зразумець? Проста цікава было?

Не... Іншае цягнула. Той кантраст між жывым горадам і гэтым пустэльным балотам. Гэтая неакрэсленая дакладна лінія падзелу на жывое і мёртвае. Дакладней, на жывое і па-іншаму жывое, бо балота ж не было мёртвым – вось, зноў крыкнула птушка... Здавалася неверагодным: за нейкія дзесяць кіламетраў ёсць горад і асфальтаваныя вуліцы, па якіх бестурботна ходзяць людзі, дзе няма ціхага аднастайнага звону камароў, ад якіх перастаў ужо ратаваць рэпелент і якія нахабна лезуць у вочы. Іншае, невядомае, небяспечнае і варожае жыццё існавала тут, а адкуль яно пачыналася? Я вось цяпер стаяў на цвёрдым нібыта грудку, але дзе гарантыя, што пада мной – не тая ж прорва, што тут не проста больш тоўсты слой той расліннай коўдры? І што мяне трымае тут, на паверхні? Адмерлае жыццё. Мінулае балота.

І як далёка прорва распаўзаецца адсюль? Хіба не стаіць горад на гэтым мінулым, хіба не жывём мы ўсе над прорвай? Там яна не адчуваецца, а вось тут засведчыла сябе пад хісткай плёнкай амаль прывіднай цвёрдасці...

Я бачыў перад сабой нечаканы працяг штодзённага звыклага свету, быццам нехта ўзняў мяне над зямлёй, і я змог упершыню пабачыць усю ваколіцу свайго, нібыта цвёрдага месца. Іншае жыццё, жыццё незвычайнае, невядомае, існуе.

Я павярнуўся і пайшоў да сваіх.

Надзея і Сяргей чакалі мяне: на траве бялела разасланая хусцінка, на ёй ляжалі прыхопленыя з сабой бутэрброды, стаяў тэрмас.

– Ідзі, есці будзем, – гукнула Надзея.

Сяргей за гэты час змяняў некалькі месцаў, мяняў прынаду, сыпаў звараныя крупы ў канаву. І дамогся свайго: пакуль я блукаў ўздоўж канавы, выцягнуў тры краснапёркі, цяпер чакаў, пакуль на падкормленае месца збярэцца рыба.

Мне не хацелася зараз засяроджвацца на рыбалцы. Было спакойна на душы ад майго невялікага адкрыцця: жыццё рознае і насамрэч зусім не такое простае, як здаецца. Думка ўвайшла ў маю свядомасць аксіёмай, цяпер заставалася спакойна перабіраць факты-карцінкі, дапускаючы самую неверагодную ў выніку.

Я адышоў крокаў на колькі ад вады.

– Вудзь за мяне, – кіўнуў я Сяргею. – Паляжу крышку.

– Ну падрамі сабе, – з разуменнем згадзіўся ён.

Я не стаў тлумачыць Сяргею, што мне хацелася зусім не драмаць.

Чаму мяне захацелі пазбавіць памяці? Пра што такое я даведаўся, што пачуў ад дачнікаў у Ляўдку, што можа быць небяспечным для іх? Акушэрка прызналася ў прыёме родаў? І яны зразумелі, што іх хлусня – быццам дзіця-гідрацэфал Насціна – лёгка можа быць раскрыта? Не, наўрад, яны ж загадзя прадумалі менавіта такое тлумачэнне. Тое непажаданае для іх было прамоўлена выпадкова... Яно не абмяркоўвалася перад сустрэчай. Яны чакалі ад мяне пытанняў пра жыццё і смерць Насці, пра іх адносіны з ёй, і рыхтавалі адказы. Якіх пытанняў яны не чакалі ад мяне? Успомнім...

Пэўная разгубленасць Федарука выявілася, калі я спытаў пра Яшчура. Занерваваўся? Так, крыху... Пра Цмока? Не, ён толькі здзівіўся, але адказваў, правільней, – збіраўся адказваць мне грунтоўна... Пераказваць міф. Стой! Тая рэпліка з месца перад гэтым! Федарук тады па праўдзе разгубіўся, заспяшаўся хутчэй нешта казаць. Так, я спытаў наконт дзіўнага месца ў іхнім міфе, калі там першапачаткова апісваецца абсурдная сітуацыя: певень не можа знесці яйка. І тады прагучалі словы... Як там было? «Тады пеўню трэба нарадзіцца курыцай». А калі гэта падказка, ключ?

Я рыўком устаў, на мяне азірнулася Надзея, усміхнулася запытальна.

– Усё добра, – кінуў я ёй. – Слухай, Сяргей, – гукнуў я, – кажуць, журналісты – самыя дасведчаныя людзі і ведаюць пра ўсё на свеце. Праўда?

– Няпраўда, – уздыхнуў ён, паклаў вуду, якую трымаў у руцэ, напружана сочачы за паплаўком, які ледзь-ледзь ляніва варушыўся. – Малькі гуляюць... Хопіць нам сёння рыбы, душа свята атрымала, згодныя?

– Не забывайцеся на ўмову: чысціце рыбу вы! – папярэдзіла Надзея, падышла да мяне, апусцілася побач на траву. – Таварыш следчы, якое пытанне замучыла?

Сяргей таксама падышоў і прысеў:

– Прафесія журналіста вымагае ведаць... вяршкі. Так во, нахапаешся ўсяго патроху. Пытайся, можа, некалі і ведаў ды забыў, паспрабую ўспомніць.

– А курыца можа стаць пеўнем? – сур'ёзна задаў я пытанне.

Сяргей нават не ўсміхнуўся, толькі глянуў на мяне пільна.

– Можа, – і пацвердзіў кіўком галавы. – Толькі не зусім.

– Гэта як? – насцярожыўся я ўнутры.

– Ну, значыць, будзе не зусім самцом, пісюн не вырасце, – усміхнуўся Сяргей. – Прырода – штука дзіўная. Вось сярод земнаводных змена полу – з'ява распаўсюджаная. Вядома, калі ўсіх самцоў трытонаў вынішчыць, дык некаторыя самкіператворацца ў самцоў. Ёсць нейкія прыхаваныя механізмы і магчымасці...

– Дык а курыца? – нецярпліва вярнуў я Сяргея да сваёй тэмы.

– А курыца... Помніцца, было ў маёй практыцы такое. І пісалі мы нават пра такі выпадак. У адной бабулькі курыца стала пеўнем. Біёлагі тлумачаць лёгка, помніцца, шукаў абгрунтаванне. Калі ў вялікім гурце курэй няма пеўня, дык нейкая курыца можа пачаць сябе паводзіць як певень, робіцца лідарам. Пасля ў яе адрастае вялікі грэбень, хвост... Карацей, мяняецца знешнасць, яна набывае ўсе прыкметы пеўня. Адзінае – унутрана пеўнем не робіцца, апладняць іншых курэй не можа.

– Лесбіянка, – сам сабе радасна ўсміхнуўся я. – Але ж яна можа знесці яйка!

– Ну, мабыць, зможа, – паціснуў плячыма Сяргей. – А гэта важна?

– Важна, – замест мяне нечакана адказала Надзея. – Менавіта такая курыца і зможа знесці яйка, з якога народзіцца Цмок...

– І вельмі важна, што яна чорная, – пляснуў я ў далоні, падскочыў: – Я згодзен адзін пачысціць усю рыбу! Замест пляшкі, якую я вінен табе за такую інфармацыю, Сяргей.

– Ды калі ласка! Ведаеш, як добра думаецца пра забойствы, калі рыбу чысціш? Паехалі?

Дарогай я складаваў свае карцінкі-пазлы. Пакуль Сяргей разгружаўся, а Надзея рыхтавала посуд, адышоў да сябе, пераапрануўся і пазваніў той самай маладой дачніцы, Ганне Латышонак. Я быў упэўнены, што пасля нашай размовы, калі я злавіў яе на дробнай ілжы, яна будзе са мной максімальна шчырай. І яшчэ я званіў ёй таму, бо сярод тых сямі жанчын, якія цягнулі плуг, яе дакладна не было. Яна, відаць, замаладая для такога абраду.

Дзяўчыну, відавочна, спужаў мой сённяшні званок, але я знарок не стаў яе супакойваць, пакуль не распытаў пра ўсё, што яна магла ведаць. Многага, канешне, яна не магла мне распавесці, але галоўнае, яшчэ адзін пазл лёг на месца...

Чысцілі рыбу, смажылі на мангале, які Сяргей прывёз для Надзеі, але паставілі яго ў маім садку: усё ж тут было больш утульна. Піць было яшчэ зарана, пакінулі бутэльку каньяку на вечар. Праўда, Надзея хмыкнула ад такога нечаканага рашэння, але я папрасіў:

– А давайце яшчэ ў адно месца з'ездзім... Дык у знак салідарнасці з кіроўцам устрымаемся ўсе.

– Куды? – насцярожылася Надзея. Яна, відаць, разумела, якія думкі ў маёй галаве.

– Восенню мінулага года Насцю Грыцук святочна прыбіралі і вялі вуліцай вёскі ў карагодным коле пад абрадавыя песні ў гушчар лесу. Там,

у старым кусце ляшчыны сядзеў Яшчур. Гэта мне толькі што паведаміла дзяўчына, адна з удзельніц абраду. І падказала прыблізна, у якім баку...

...Патрэбны стары куст ляшчыны мы пабачылі здалёк: на мностве тоўстых сцёблаў і маладых высокіх і гнуткіх парасткаў, з якіх некалі вясковыя хлапчукі рабілі хвацкія вудзільны, вісела мноства выцвілых ужо markdown рознакаляровых стужак. Сам куст унізе меў дыяметр больш за метр, сярэдзіна яго была пустой. Ці то спецыяльна высеклі, ці то ад старасці спарахнелі, выгнілі ранейшыя сцёблы. Іх месца зараз займаў адмыслова высечаны з цэльнага бервяна, бадай, трон.

– Сяргей... А ну прысядзь, калі ласка, – папрасіў я. Ён паслухаўся без смешак, сам нямала ўражаны дзіўным відовішчам.

Кусты ляшчыны стаялі не блізка адзін ля другога, але ўся яны былі старымі, вялікімі, шырока раскідвалі свае галіны так, што ўверсе ўтваралася зялёная шапаткая столь. Сонца ўжо хілілася на захад, і тут быў амаль паўзмрок. Усё разам: нябачнасць неба над галавой, шэрая, амаль без расліннасці зямля пад нагамі, велічэзныя купы гнуткіх тоўстых і тонкіх сцёблаў нагадвала залу закінутага дзікунскага храма. Мы стаялі з Надзеяй побач, і нечакана я адчуў, як яна ўзяла мяне за руку, сціснула пальцы.

– Уражвае? – ціха спытаў я.

– Больш за тое, – ціха адказала Надзея. – Вось зараз я чую покліч скінуць з сябе адзенне і танцаваць перад ім... перад Яшчурам.

– Так і было. Мне расказала тая дзяўчына, сведка. Насця Грыцук у вялікім вянку, відаць, напоеная асаблівым адварам, кружылася тут у дзіўным танцы, аголеная. А ў кусце сядзеў Яшчур.

– І... хто ён? Ведаеш?

– Так. Яшчурам у той дзень быў Андрэй Дылько. Той самы паэт, які разбіўся, калі вёз труп немаўляці-гідрацэфала на могілкі. Тут быў абрад... Яшчуру перадавалі ва ўладу маладую цнатлівую жанчыну. Ён прыняў дар людзей. Тое было амаль роўна дзевяць месяцаў таму...

## 15.

Здольнасць да падману – найпершая здольнасць разумнай істоты, выпрацаваная інстынктам самазахавання.

Я прадчуваў, што акушэрка Антаніна Русецкая сёння не з'явіцца ў пракуратуру, і першы ж тэлефонны званок быў ад яе. Яна роблена павінілася і паведаміла: прыхварэла і зараз на бальнічным. Дзіўныя людзі: як яны спадзяюцца на гэты бальнічны літаральна ва ўсіх жыццёвых сітуацыях! Быццам паляжыш на бальнічным ложку, а невядомы дабрадзей у гэты час разгоніць хмары над тваёй галавой.

Тамара слухала мяне, гледзячы застылым позіркам за акно, не перабівала, нават не закурыла. Мяркуючы па ўсім, яна страціла ўсякую цікавасць да справы, і мне гэта было незразумела і прыкра. Нават факт пра групу крыві знойдзенага немаўляці яна ўспрыняла як чарговую непрыемнасць – ледзь варухнуліся куточкі яе вуснаў. Я нерваваўся, расказваў трохі блытана. Прамаўчаў пра здарэнне на лузе. Не хапала яшчэ пракурору ведаць пра тое, як мяне распранутага голая жанчына качала ў абдымках па зямлі...

– І што ты думаеш? – Тамара першы раз глянула на мяне. У вачах яе былі стома і абыякавасць.

– Зрабіць вобшук на дачы Федарука. Зараз жа.

– Няма сур'ёзных падстаў, – Тамара пакачала галавой. – Пасля паскардзіцца, а мне навошта вымовы перад пенсіяй? Ты фантазіруй менш, да зямлі бліжэй будзь, – ці то папрасіла, ці то папярэдзіла. – Паразмаўляй з ім яшчэ, ці дапытвай адразу. Вось калі знойдзецца нешта істотнае, тады і будзем абшукваць. Падлужнага выклікаў на допыт?

– На дванаццаць гадзін...

– Бяры машыну, едзь да Федарука... Прывязеш Падлужнага адразу. Усё чалавеку лацвей будзе, часу менш змарнуе...

Я выйшаў з кабінета разззлаваны. Я не разумеў, чаму так паводзіць сябе Тамара, але адчуваў, што яна ўжо прыняла нейкае невядомае для мяне рашэнне, каб хутчэй закрыць справу. Канешне, ёй не трэба «вісяк», а тут лёгка складваецца: маці загінула, бацька і дзіця – мёртвыя. Усё спішацца пры жаданні і ўменні. Пабачым!

Алесь Федарук чакаў мяне, сумненняў не было. Канешне, учора Ганна Латышонак паведаміла яму пра нашу з ёй размову. Я не збіраўся з'яўляцца перад Федаруком так, быццам вярнуўся з таго свету. У мяне хапала фактаў, каб без эфектнага з'яўлення прымусіць яго прызнаць паразу і больш не гуляць са мной. З тым я і ехаў у Ляўдок, настроены на жорсткую размову пераможцы з пераможаным. Шчыра кажучы, гэта цешыла маё самалюбства: я не мог не адчуваць раней перавагі Федарука ў розуме, інтэлігентнасці і не ўсведамляць, што мы з ім стаім на розных прыступках.

Я не паспеў вылезці з машыны, а Федарук ужо выйшаў з хаты і ішоў да веснічак – пачуў гук аўтамабіля. Мабыць, ён быў перакананы, што я не змагу патрапіць у дом. Дзівак...

– Прашу мне прабачыць, але ў нашым доме... – пачаў ён, але я спыніў яго, бо не збіраўся быць з ім ветлівым і далікатным:

– Вы збіраецеся чыніць перашкоды службовай асобе – следчаму пракуратуры? Вы за тое, каб я выклікаў нарад міліцыі?

Ён панурыўся, апусціў галаву, але не саступіў убок, загараджваючы сабою веснічкі. Узняў на мяне вочы – і я здзівіўся з яго позірку: у якім чыталіся пакутны боль і просьба.

– Я вельмі прашу вас выслухаць мяне, – выдыхнуў ён.

– Я пабачу ў вашым доме таго, каго там хаваеце. Паедзем у пракуратуру, і там вы будзеце гаварыць колькі захочаце, – жорстка паставіў я ўмову.

– Я вас вельмі прашу, вельмі. Прашу вас паслухаць мяне, і тады... тады прымайце рашэнне. Мой абавязак, апошняе, што я магу зрабіць, застаючыся ў рамках сваёй выхаванасці. А інакш... інакш вам давядзецца выклікаць нарад міліцыі. Я не змагу добраахвотна нікога пусціць у хату.

Алесь Федарук, інтэлігентны вучоны з акуратнай сівой бародкай і светлымі вачыма, гаварыў ціха і вельмі спакойна, і менавіта гэты спакой мяне пераконваў: так і будзе, ён не пусціць мяне. Абурэнне і злосць выбухнулі ў галаве – я выхапіў мабільнік, каб сапраўды зрабіць выклік. Зірнуў на Федарука і ў яго вачах цяпер прачытаў ужо не проста просьбу. Там была пакута: чалавек быццам падрыхтаваўся да смерці. І забойца – я. Гэтае імгненне зменшыла маю гнявлівасць, мільганула думка: «Я ж нічога не губляю, ніхто не ўцячэ. Можна пагуляць у велікадушнасць».

– Добра, давайце, я гатовы вас выслухаць.

– Тады, калі ласка, хадзем за дом. Там невялічкая альтанка, цянёк і зацішна, – з палёгкай, якую атрымаў асуджаны, прапанаваў-запрасіў

Федарук, развярнуўся і пакрочыў. Я пайшоў следам. Праходзячы міма расчыненых дзвярэй, ён гукнуў у хату:

– Волечка, зрабі, калі ласка, каву, Два кубкі. Ці вам гарбаты лепш? – заклапочана павярнуўся да мяне.

– Каву, – машынальна адказаў я, дзівячыся з паводзін навукоўца. Не, зараз ён не гуляе. Яго прапанова – чыстая ветлівасць, прывітая тактоўнасць. Ён ведае: я зараз зруйную, вынішчу дашчэнту нешта невымерна важнае для яго, а глядзі – каву прапаноўвае...

У далёкім куце ўчастка, пад старой яблыняй з густой, шырока раскінутай кронай, стаяла новая альтанка, абгабляваныя сасновыя брускі яшчэ не згубілі сваёй смаляной жаўцізны. Невялічкая, але ўтульная, на нізкім століку стаяў адкрыты ноўтбук. Не для адпачынку бяздумнага, значыць, рабілася. Федарук жэстам прапанаваў мне месца – спінай да дома.

Некалі тут быў сад. За некалькі крокаў ад альтанкі заставаліся яшчэ дзве яблыні, вялікія і старыя. Цяпер такія ў садах не растуць, садзяць усё больш невысокія, кажуць, польскія. Трава расла вольна, густа аздобленая адцвілымі, рудымі кропкамі дзьмухаўцоў, якія праз дзень-другі спраўдзяць сваю назву лёгкімі пухнатымі галоўкамі. І праўда, тут было зацішна і ўтульна.

Пачуліся нягучныя крокі. Я азірнуўся і пабачыў амаль дзяўчынку з тварам сталай жанчыны – такая яна была маленькая і безабаронная. Падфарбаваныя валасы былі туга сцягнутыя на патыліцы ў вузел. Шыя тонкая, і ў глыбокім разрэзе светла-зялёнай сукенкі бледная скура была непрыгожа звялая, у сетцы тонкіх густых маршчын. Жанчына несла невялікі паднос з кубкамі, талеркай з печывам, збаночкам з малаком. І тое, як яна несла гэты паднос сваімі невялікімі рукамі з тонкімі пальцамі, выдавала ў ёй незвычайную для мяне шляхетнасць. Раптам успомнілася не да месца: вось такім жанчынам цалуюць рукі. Па праўдзе кажучы, у мяне ўзнікла імпульсіўнае жаданне дапамагчы ёй, але Федарук апярэдзіў мяне – ён устаў і прыняў паднос з рук жанчыны, паставіў яго на столік.

– Дзякуй, Волечка, мы тут самі далей. Мая жонка, Вольга Рыгораўна, – павярнуўся ён да мяне.

Я не чакаў ад сябе падобнай галантнасці, але раптам прыўзняўся і з лёгкім нахілам галавы прадставіўся жанчыне:

– Васіль Шайбак, следчы пракуратуры.

Вольга Рыгораўна адказала мне ветлай усмешкай куточкамі вуснаў. І хоць позірк яе цёмных вачэй быў хваравітым, там была спагада. Яна пайшла, дробна пераступаючы нагамі з маленькімі ступнямі. І толькі цяпер я звярнуў увагу: на ёй былі не пляжныя шлёпанцы, не стаптаныя пантофлі ці які іншы «дачны» абутак, а туфлікі. Яна толькі прыехала аднекуль?

– Адчувайце сябе смела, калі ласка, – запрасіў Федарук. – Цукар, малако...

– І што вы хацелі мне паведаміць? – я насамрэч расслабіўся, адчуваючы атмасферу шчырай добразычлівасці ў дадатак да сваёй упэўненасці.

– Патлумачыць усё, што вам неабходна, – цяпер ужо спакойна адказаў Федарук. – Я разумею, многае вам ужо вядома, але ж засталіся пытанні...

– Так, некаторыя пытанні ў мяне засталіся, – згадзіўся я. – І я хацеў бы пачуць на іх адказы. Але з адной умовай.

– З якой? – зацікаўлена глянуў на мяне Федарук.

– Адказвайце без усякай... містыкі.

– Цікава-цікава...

Федарук пабоўтаў лыжачкай у кубку, дастаў яе, паклаў асцярожна на край сподачка. Выпрастаўся, абапёрся на спінку лаўкі, склаў рукі на грудзях і хутка запытаўся:

– А што вы разумееце пад містыкай, малады чалавек?

Я ўсміхнуўся, даруючы яму гэтае імгненнае вяртанне ў свой звычны стан навукоўца. Трэба аддаць яму належнае – ён зразумеў маю ўсмешку, сеў, як і сядзеў, вінавата працягнуў:

– Прашу дараваць мне маю такую рэакцыю. Ведаеце, многа гадоў перад студэнтамі... Прабачце, як мне да вас звяртацца? Таварыш следчы?

Я пацiснуў плячыма. Чаму б мне не пабыць вялікадушным далей?

– Калі я ў вас частуюся кавай, называйце Васілём... проста Васілём – розніца ў гадах дазваляе.

– Дзякуй, дзякуй... Дык вось, Васіль, вы мне прабачце, але ж я хачу даведацца, каб пасля не звяртацца да містыкі, як вы кажаце. Што для вас містыка?

– Ды рознае вядзьмарства, у якое, бачу, ёсць многа ахвотных верыць, – патлумачыў я.

– Выбачайце, я падумаў, вы адносіцеся да так званага вядзьмарства трошкі з большай павагай... пасля некаторых падзей. Безумоўна, мне трэба прызнаць сваю віну за ўчарашні выпадак. Але пра яго можна пагаварыць пазней, калі пажадаеце, я вам усё патлумачу.

– Кіньце, Алесь Тарасавіч, – сам таго не заўважаючы, звярнуўся я да Федарука паважліва. – Я ачмурэў ад элементарнага наркатычнага настою. А голыя цёткі, плуг, баразна – антураж фокусніка.

Я не маніў сабе ў той момант: вось цяпер, у дзённым святле, мне і сапраўды так падавалася. Ноччу псіхіка не справілася з наркатычнай атрутай. Мне трэба было ўсяго толькі выспацца.

– Не буду, не буду вас пераконваць у іншым. Але скажу: містыка, як вы кажаце, – вакол! І зараз, тут, перад вамі.

– Напрыклад?

– Піце каву, астывае, – Федарук пацягнуўся сам да кубка, зрабіў глыток. – Прыкладаў процьма, паважаны Васіль... Містыка – гэта тыя з'явы ў жывым свеце, якія мы не можам вытлумачыць. Вось і завём іх такім словам. Містыка – катэгорыя пакуль неразгаданых сувязей прычын і наступстваў. Усё!

– Няхай так. Што наконт прыкладу тут і цяпер?

– Ага, прыклад... – Федарук сеў прама, пачаў хутка і дробна круціць галавой вакол. – Вось! Яблыня!

– Містычная? – усміхнуўся я, крыху заінтрыгаваны. Што ж такога містычнага ён мне тут пакажа?

– Яблыня, так, менавіта яблыня, – упарта пачаў Федарук. – Калі мы тры гады таму прыехалі сюды, усе яблыні амаль здзічэлі. Вы ж ведаеце гэты цікавы працэс: як толькі сядзіба пусцее, яблыні хутка дзічэюць. Менш цвітуць, плады робяцца дробнымі, страчваюць свой культурны смак. А вяртаецца чалавек – і праз колькі гадоў яблыня зноў робіцца, скажам так, хатняй. Вам жа тое вядома, так?

– Ну, так, – мусіў згадзіцца я.

– Дык хіба не містыка? Адкуль яблыня ведае пра тое, ці ёсць у яе гаспадар? Ні вачэй, ні вушэй. Расліна ўсяго. А яна вось так чуйна, няхай

і марудна, але адгукаецца беспамылкова на прысутнасць гаспадара. Вы можаце патлумачыць?

– Не магу. А гэта важна?

– Як прыклад – важна! – упэўнена выгукнуў Федарук. – Дык вось, калі я скажу вам, што ў яблыневых семечках знаходзіцца рэчыва, якое літаральна атручвае глебу, атрута трапляе праз карані ў сістэму дрэва, што застанецца ад містыкі? Ніхто не прыбірае паданак – вось і ўся містыка.

– Не разумею пакуль ход вашых думак, – прызнаўся я. – Які з гэтага вынік?

– Тое вынікае, паважаны Васіль, што няма ні вядзьмарства, ні містыкі – а ёсць з'явы ў жывой прыродзе, у сістэме чалавечых адносін, якія маюць месца, але пакуль (звяртаю ўвагу – пакуль) не могуць быць намі патлумачанымі. Як і тыя ж забабоны і прымхі, над якімі мы сёння смяемся. Да прыкладу, вы ж ведаеце, напэўна: нельга нежанатым садзіцца на рог стала?

– Чуў, – усміхнуўся я. – Праўда нельга?

– Канешне! І патлумачылі тое, калі адкрылі статычную электрычнасць. Натуральная шэрсць і футры жывёл у адзенні – усё гэта вельмі моцна электрызавалася. А статыка мае ўласцівасць сцякаць да краю, вастрыя. Чалавек сядаў на кут і мог атрымаць электрычны разрад. Куды? Жанчына – у чэрава, мужчына – у вобласць прастаты. Ток невялікі, але ўдар мог быць вельмі моцным. Стрэс... бяздзетнасць. І калі вось так пільна глянуць на гэтыя нібыта забабоны, то высветліцца, што ўсе яны маюць сэнс, няхай пакуль і схаваны ад нас у большасці выпадкаў.

Шчыра кажучы, мяне ўразілі тлумачэнні сваёй нечаканасцю і прастатой з адначаснай дасканаласцю. Але рэаліст ува мне супраціўляўся:

– Вам засталося патлумачыць прарочыя сны...

– Прыйдзе час! І амаль прыйшоў, – быццам толькі і чакаў такі скепсіс Федарук. – Сённяшняя квантавая фізіка, вы ж ведаеце пра такую, літаральна з ног на галаву ставіць наша ўяўленне пра сусвет. Элементарная часцінка можа быць адначасова ў двух месцах, і значыць, існаванне паралельнага свету – не фантастыка. Нядаўнія эксперыменты выявілі: у мікрасвеце працэсы, якія мусяць адбыцца, уплываюць на існуючы стан рэчываў! Будучае ўплывае на сучаснасць! Навуковы факт. То чаму здзіўляцца, калі нашы продкі перадалі нам у карыстанне такую вядомую прыкмету: вернешся назад – чакай непрыемнасцей. Гадоў праз колькі механізм гэтай прыкметы будзе такі ж просты, як і прадказанне дажджу па ластаўках. Але многага пакуль нельга патлумачыць. Таму, калі я буду вам казаць, што чагосьці не ведаю, я прызнаюся ў гэтым шчыра. Я навуковец, мне нельга саромецца нечага не ведаць.

– Дзякуй за шчырасць...

– Няма за што дзякаваць, праўда. Ці магу я вас папрасіць? – Федарук пільна паглядзеў мне ў вочы, з павагай: – Вы ж зрабілі для сябе нейкія вывады з усёй... гісторыі. І не памыліліся пакуль, – тут ён уздыхнуў. – Мне цікава ведаць ход вашых думак, разважанняў. Прашу мне прабачыць, я не пытаюся пра нейкія сакрэты следства. Мне здаецца, вы не да канца прайшлі...

– Так, пакуль не да канца, – не стаў хаваць я праўды. – Але дайду.

– Не сумняваюся. Дык важнай падказкай стала рэпліка аднаго нашага сябра?

– Калі вы пра пеўня, які зможа знесці яйка, калі народзіцца курыцай, то так.

Федарук уздыхнуў, хоць асаблівага шкадавання я не заўважыў.

– Сталася, дык сталася. Рана ці позна... Вы маеце ўчэпісты розум. Калі вы ўспомнілі пра Трою, пра тое, што кожны міф можна разглядаць як завуаляваны факт, я зразумеў, што вы дойдзеце да ісціны.

– Так, тая рэпліка паскорыла следства, надала правільны кірунак, – згадзіўся я, адчуваючы прыемнае казытанне самалюбства. – Хоць, скажу вам шчыра, спачатку я быў перакананы, што вы ўсе звязаныя з нейкай сям'ёй ці, горш за тое, групай з іншай краіны, якая замаўляе тут дзяцей. А іх выношваюць сурагатныя маці. Усё падыходзіла: цяжарнасць у вялікай тайне, той факт, што Насця – лесбіянка, але выношвала дзіця.

Сумненні пачаліся пасля таго, як я даведаўся пра Цмока. Насця ў перапісцы са сваёй сяброўкай прызналася: ёй трэба нарадзіць гэтую істоту. Мне патлумачылі пра міф. Стары Зміцер, бацька Насці, нечакана сказаў, што калі дачка выйшла замуж за Яшчура, дык і мусіць нарадзіць Цмока. І тут вось гэтая падказка: каб певень знёс яйка, ён павінен нарадзіцца курыцай. У прыродзе, кажуць, здараецца, калі курыца можа прыняць выгляд пеўня, але не страчвае пры гэтым магчымасці несці яйкі. Атрымалася, у міфе нічога нерэальнага не было. Насця нарадзілася хлопчыкам у целе дзяўчынкі, ведаю, прырода іншы раз так жорстка жартуе з людзей.

– Значыць, вы, скарыстаўшы прыродны факт, паклалі міф на рэальную глебу...

– Калі хочаце, хай будзе глеба... Так, калі ў прыродзе чорная курыца можа ператварыцца знешне ў пеўня, значыць, у міфе пад ёй можа хавацца жанчына-лесбіянка. Чорная – у дадзеным выпадку не колер, а вядзьмарства, бо ведзьмакі – чорная сіла ў вачах хрысціянства. Такім чынам, Насця і была тым самым чорным пеўнем, які павінен быў знесці яйка. Вяскоўцы бачылі, як неяк восенню менавіта Насця стала цэнтральнай фігурай аднаго з абрадаў, якія вы тут ладзілі сваім гуртом. Аддалі яе Яшчуру. Ад восені да сёння – тыя самыя месяцы для выношвання дзіцяці. А пасля я атрымаў і пацвярджэнне сваіх разваг ад Ганны Латышонак, пабачыў і само месца. Прызнаюся: уразіла... Ведаю сёння, хто быў бацькам. Той паэт, Андрэй Дылько.

У мяне засталося некалькі пытанняў, і адказ на іх я хачу пачуць ад вас. Як я зразумеў, вы тут галоўны, «Капітан», значыць, вы прыдумалі гэтую казку з Яшчурам, абрадам, нараджэннем Цмока. Я хачу ведаць, з якой мэтай вы ўгаварылі няшчасную дзяўчыну ці купілі яе згоду вынасіць дзіця. У вас, вучоных, я ведаю, хай дзіўныя, але вельмі канкрэтныя мэты. Тое немаўля, труп якога вёз на магілкі паэт, не Насця нарадзіла. Жанчына з першай групай крыві не можа мець дзіця з чацвёртай. Паколькі за ўсім стаіце вы, то дзіця Насці павінна быць у вас. Чыё дзіця вёз Дылько?

Я замаўчаў, даючы зразумець Федаруку, што чакаю ад яго адказу. Ён памарудзіў з хвіліну, некалькі разоў змочваў вусны кавай з кубка.

– Не казка гэта, шаноўны Васіль, – нарэшце выдыхнуў ён, адставіў кубак. – Вось вы вельмі правільна паклалі частку міфа на рэальную глебу. Вы ўжо прабачце мне. Давайце разам паспрабуем гэтак жа разабрацца з астатнім у міфе. Вам жа расказвалі: Цмок – істота загадкавая. Як яго прыручыць, дык будзе ахоўваць, прыносіць скарбы, бараніць ад ворагаў. Давайце глянем з практычнага боку, уявім, Цмок – не нейкая міфічная істота, а рэальная. Хто ёй можа быць? Хто бароніць, ахоўвае чалавека і прыносіць яму дабрабыт? Пры гэтым улічым вось які факт. Вам як чалавеку адукаванаму, вядомыя ж ліштвы на вокнах вяскоўцаў у мінулым. Ды

і сёння дзе-нідзе засталіся яшчэ старыя разьбяныя. Вось той выкручасты ўзор наверсе на многіх ліштвах – гэта, шаноўны Васіль, выявы Цмокаў. Так-так, дзе надта моцна стылізаваныя, а дзе без праблем пазнаюцца крылатыя змеі – Цмокі.

Я вам крышку патлумачу яшчэ... Акно для нашых прашчураў – асаблівая рэч, выйсце ў іншасвет. З чыста практычнага боку – самае небяспечнае месца, бо праз яго ворагу так лёгка патрапіць у дом. Міф кажа нам, што выява Цмока над вокнамі – шанаванне магутнай сілы і адначасова разлік на яе спагаду. А з практычнага боку? Калі і ты, і я, і ён маем адзін знак, значыць, мы належым да нейкай супольнасці, так? Значыць, мы разлічваем на адну нейкую істоту. Атрымліваецца, той самы Цмок – наша агульная абарона і надзея на шчасце. А сёння на каго мы разлічваем, з кім звязваем спадзяванні? Ёсць у нас нешта, што было б знакам нашай супольнасці, што можна павесіць, напрыклад, у хаце?

– Абразы, – паціснуў я плячыма. – Разлічваем на Бога.

– Так, канешне, але ж рэлігія тут не трэба. Мы цвяроза думаем, мы стаім на рэальнай глебе.

– Тады дзяржаўны сцяг, – усміхнуўся я.

– Менавіта! – нечакана радасна ўсклікнуў Федарук. – Менавіта так і ёсць – і Цмок над вокнамі быў тым самым сцягам, агульным знакам!

– Дык Цмок – кіраўнік дзяржавы? – з сарказмам запытаўся я. – От вы далі...

– Тады не было дзяржавы ў нашым разуменні, – мякка запярэчыў Федарук. – Не кіраўнік, але галоўны. На каго разлічвалі, хто карыстаўся агульным аўтарытэтам. Быў самым моцным, але не проста фізічна моцным, а духам, розумам...

– Лідар?

– Так, лідар. Бачыце, вы самі дайшлі да разумнага тлумачэння Цмока... За сотні гадоў вынішчэння паганства той самы лідар, на якога спадзяваліся, які сапраўды даваў людзям лепшае за ранейшае жыццё, ператварыўся ў чароўную істоту, дабрабыт звёўся да скарбаў, воля – да абароны...

Я асэнсоўваў пачутае і не верыў: няўжо ён кажа сур'ёзна? Няўжо навуковец, інтэлігент, разумны і адэкватны чалавек насамрэч вырашыў...

– Вы вырашылі з дапамогай Насці нарадзіць нашай краіне лідара? Будучага прэзідэнта?

Я быў настолькі ашаломлены агучанай высновай, што нават не ўсміхнуўся.

– Але ж Шліман паверыў у Трою, – без усмешкі адказаў Федарук. – Але ж чорны певень змог знесці яйка...

– Чакайце, чакайце. Вы сур'ёзна кажаце? Вы – навуковец...

– Менавіта таму, што я навуковец, я ўсё кажу і раблю сур'ёзна.

– Добра, няхай так. Значыць, план ваш цяпер ясны і зразумелы: Насця нарадзіла Цмока. Хто яе забіў?

Федарук уздрыгнуў ад майго жорсткага пытання.

– Не ведаю. Кажу праўду: мы самі вельмі... напужаныя. Мы не разумеем, хто і чаму яе забіў.

– Ну як жа? Забі маці Цмока – хто яго будзе гадаваць? Развальваецца ваш... эксперымент па гадаванні прэзідэнтаў.

– Вы ж помніце міф, паважаны Васіль, яйка, якое знёс чорны певень, трэба тры гады насіць мужчыну пад пахай... Тады вылупіцца Цмок.

– І гэта значыць нешта? Мне расхацелася разгадваць загадкі.

– Выбачайце, калі ласка, я вас перамучыў. Гэта значыць: дзіця да трох гадоў павінна расці пад наглядам мужчыны, сям'і. І ніхто з чужых не павінен ведаць і бачыць дзіця. Ніхто. Міф не кажа непасрэдна пра неабходнасць выхавання яго маці.

– Чаму да трох? – толькі і знайшоў што спытаць я.

– Бо да такога ўзросту фарміруецца асоба чалавека. Нашы продкі тое ведалі і нам пераказалі. Вучы дзіця, пакуль папярок лавы ляжыць. Тады былі шырокія лавы...

Я памаўчаў, запытальным рухам дастаў пачак цыгарэт, пабачыў згодлівы ківок Федарука і закурыў.

– А вас... не задавальняе сённяшні кіраўнік краіны?

– Не, – проста адказаў Федарук. – Каб вы не пыталіся чаму, патлумачу адразу. Я, як і большасць тых, хто разумее сутнасць з'яў апошніх дзесяцігоддзяў у нашай дзяржаве, бачу працэс знішчэння беларусаў як нацыі. Не буду вам нічога тлумачыць больш, і спрачацца не будзем, гэта маё не меркаванне, а перакананне. Цяпер над краінай ноч. Сапраўдная ноч...

– Вам дрэнна жывецца? – спытаў я і сам адчуў літаральна пошласць свайго пытання.

Федарук не стаў стрымлівацца – ён паморшчыўся, як ад кіслага:

– Паважаны Васіль, вы зараз спыталіся з узроўню бамжа ці зацюканай бабулькі. Не рабіце больш так. Калі людзі кажуць, што іх хвалюе страта нацыянальнага складніка грамадствам, недаравальна разумнаму чалавеку пытацца пра іх матэрыяльнае становішча ці іншыя выгоды.

Я пачаў злавацца, каб прыглушыць сваю прыкрасць.

– Я быў па-за палітыкай і па-за ёй буду заставацца. Ведаю дакладна адно: ніякае дасягненне шчасця для ўсяго чалавецтва не можа быць апраўдана, калі яно будзе прычынай хаця б адной слязы дзіцяці. Бо калі дазволім адну слязу сёння, заўтра дазволім слёзы тысяч дзяцей. А тут – забойства!

– Прабачце, Васіль, нават я са сваёй навуковай дзейнасцю, якая тычыцца мінулага, не магу быць па-за палітыкай. А вы – вы маеце самую непасрэдную справу з яе вынікамі. Бо палітыка – штодзённае наша жыццё, а не толькі маніфестацыі і плошчы. Я не паверу, быццам вы не бачыце, з якой хуткасцю дэградуе грамадства па ўсіх кірунках, не заўважаеце росту бесчалавечных, невытлумачальных з'яў, якія сустракаюцца непасрэдна ў вашай прафесійнай дзейнасці. Вас не бянтэжаць дзікунства ўчынкаў, паўсюдная бездухоўнасць? Ці вы думаеце, што вас тое не тычыцца? Сёння – так, пакуль вы і ваша жыццё належаць толькі вам аднаму. А прыйдзе ж час – у вас будзе сям'я, дзеці... Так, тады вы паглядзіце на прычыны і наступствы інакш... Прабачце за чытанне вам маралі... Не будзем больш пра гэта, бо я дакладна зразумеў: нельга нікога давесці да асэнсавання рэчаіснасці словамі. Толькі сам чалавек даходзіць, праз свой вопыт...

Мне трэба было пытацца далей пра тое дзіця-гідрацэфала... А я не мог прагнаць ад сябе крыўднае пачуццё сваёй непаўнавартаснасці – менавіта яго я адчуў пасля слоў Федарука пра палітыку. Ён меў рацыю, як бы я ні пераконваў сябе ў іншым: я як следчы пракуратуры,меў самае непасрэднае дачыненне да палітыкі, бо менавіта яна давала мне работу. Мімаволі ўсплылі ў памяці «недакуркі» і сярод іх бамжыха, якая згарэла ў закінутай хаціне, тая жанчына, якая зарэзала свайго былога мужа пасля гвалту з сябе, старшакласнік, які здзейсніў суіцыд, бо не мог больш трываць п'яныя

скандалы дома... І падобнага не становіцца меней. Кожны студэнт юрфака ведае: у Ісландыі ў асобныя гады няма ніводнага злачынцы ў адзінай на краіну турме – няма работы следчым! А мяне наша палітыка корміць, поіць і апранае. Я здолеў праглынуць прыкрасць – няхай сабе думае як хоча, у мяне свая праўда. Ды ўсё ж перайсці непасрэдна да справы, не задаўшы пытання, якое вярэдзіла душу, не змог.

– Паслухайце... Не будзем, сапраўды, абмяркоўваць стан рэчаў. Пра іншае хачу спытаць. Як вы, разумныя людзі, паверылі ў такі вось казачны спосаб нараджэння і выхавання нацыянальнага лідара? Гэта ж... далібог, для дзяцей!

Федарук моўчкі глядзеў на мяне, быццам вывучаў асаблівасці твару, потым пацягнуў да сябе ноўтбук і, пстрыкаючы мышкай, загаварыў:

– Паважаны Васіль, вось вы – следчы пракуратуры. Вы за сваё жыццё адказвалі за дзясяткі лёсаў людзей. Каб стаць следчым, вы вучыліся, атрымалі адпаведнае выхаванне. Але не кожны можа стаць следчым, нават калі і вучыцца надта добра, праўда? А вось прэзідэнт краіны. Ён у адказе за лёс нацыі, народа. Амаль дзясятак мільёнаў жыццяў. Адчуваеце розніцу, так? А цяпер скажыце: добра было б, калі б на пасаду следчага выбіралі галасаваннем?

– Ну вы параўналі, – хмыкнуў я.

– А вы не спяшайцеся. Зазірніце ў гісторыю ўсіх часоў і народаў: хіба фараон мог нарадзіцца і вырасці ў простай сям'і? А рымскі імператар дзе выхоўваўся і кім нараджаўся? Каралі і цары?

– Выбачайце, шаноўны, але вы, здаецца, не бераце ў разлік звычайнае сённяшняе дэмакратычнае грамадства, – з сарказмам заўважыў я.

– Канешне, не бяру, – згадзіўся Федарук. – Бо ў сапраўды дэмакратычных краін – стогадовая эвалюцыя грамадскай супольнасці, якой наш народ у новым часе не ведаў зусім.

– І вы адзін вырашылі ратаваць нацыю...

– Не адзін, – нечакана горача загаварыў Федарук. – Вы думаеце, ідэя нацыянальнага лідара не жыве ў галовах і сэрцах людзей? Памыляецеся! Зірніце наўкола, на нашы палітычныя кампаніі – менавіта ад асэнсавання немагчымасці выбраць сапраўднага кіраўніка са свайго атачэння ў нас знікла вера ў змены! Мы ведаем, якія мы, – і разумеем: нікому з нас не стаць тым лідарам, які павядзе народ, якому павераць. Бо мы выраслі, скажам так, на аднолькавых дражджах. Мы слабыя, бо мы не верым самім сабе. Мы ніколі не рабілі нечага дзеля аддаленай будучыні, дзеля сваіх нашчадкаў, хіба што грошы адкладвалі на рахункі. У нас ніколі не было вялікай агульнай справы, такой, якая б захапіла хоць частку нацыі, хоць тую праслойку інтэлігенцыі. Справы, дзеля б якой ахвяравалі, у якую верылі так, каб ведаючы, што не пабачаць пладоў сваіх высілкаў, ды высільваліся дарэшты. І таму мы павінны ўспомніць вопыт нашых продкаў. Не смейцеся, калі ласка. Я не магу сёння патлумачыць, чаму менавіта так трэба рабіць, але перакананы: толькі так і трэба. Бо ў міфах – навука і вопыт... Вы пісалі калі-небудзь вершы? – нечакана спытаў ён. – Любіце паэзію?

– Не, не пісаў, – прызнаўся я. – А паэзію люблю. Некалі вельмі ўразіў верш Куляшова... пра каханне. Запомніў.

– Я да чаго... Паэты – амаль усе пракокі. А грамадзянская паэзія – выразнік не сфарміраванага канчаткова, не выказанага яшчэ словамі грамадскага памкнення, канцэнтрацыя думак... Я вам тое з усёй адказнасцю

кажу. Дык вось, мне не так даўно трапіўся дзіўны верш... Паслухайце, калі ласка.

Ён нахіліўся блізка да экрана ноўтбука, мабыць, з-за блізарукасці, пачаў чытаць, сцішаным голасам, хоць кожны радок прамаўляў выразна, з прыхаванай экспрэсіяй:

Ты кажаш, голкай цэнзуры зашыты твой рот,
і ванітоўней, чым сёньня, ужо ня будзе.
А па мне, ўсё ў тваіх руках, пакладзеных на жывот:
нарадзі прэзыдэнта, якога хочаш, – сабе і людзям.

Ты кажаш, Народ і Мова заняпалі дашчэнту.
Дык за чым затрымка? Нарадзі прэзыдэнта.

Скажы сабе: «Як спадарыні Лінкальн і Кенэдзі», –
і нарадзі.

І ён вырасьце й зможа ўсё зло на сьвеце змагчы:
Папа Рымскі будзе сядзець ля яго зьлева,
Голуб Міру будзе сядзець у яго на плячы,
а ля ног яго – Брытанская каралева, –

бо вы малайцом, мамаша, усё зрабілі, як трэба,
і цяпер усё будзе іменем Айца і Сына,
І арол дэмакратыі будзе лунаць над тваёй краінай,
хоць, магчыма, там будзе банальнае мірнае неба.

І ты – прычына таго, што здохла нешта вялікае ў лесе –
прымаючы ў пасьляродавым журналістаў маленькімі групкамі,
адмовішся ад вілы ў Ніцы й на радасьць кансэрватыўнай прэсе
аддасі перавагу хутару недзе пад Крупкамі.

Ты пасадзіш ля хаты півоні, флоксы і мак.
Ён штурхаецца ножкай – гэта харошы знак.

Адчуваеш – ва ўлоньні віруе плацэнта?
Нарадзі прэзідэнта.*

Федарук замаўчаў, павярнуўся да мяне:

– Вы зразумелі?

– Што я павінен зразумець? – здзіўлена запытаў я. Па праўдзе кажучы, мне ўжо пачала надакучваць наша размова.

– Гэты верш... Яго напісала жанчына, маладая. І ў ім – тое падсвядомае імкненне ўсяго грамадства, гэткае калектыўнае падсвядомае: будучага кіраўніка трэба нарадзіць і вырасціць. Нам, мы ў адказе за яго нараджэнне і выхаванне. І жанчына выказала падсвядомае ў канкрэтных словах. Значыць, не толькі мы тут задумаліся над гэтым. Бяда ў тым, што мы баімся рабіць нават такі, не гвалтоўны, не рэвалюцыйны крок.

Я не мог не спытаць і спытаў, хоць пытанне было сугучнае з тым маім ранейшым пра тое, ці дрэнна яму жывецца:

– Прабачце, вы можаце пакрыўдзіцца, але шчыра не разумею, таму пытаюся: чаму вы? Незадаволеных – тысячы і больш. І ўсе чакаюць, спадзяюцца на нешта... ну, на нейкія дэмакратычныя, эвалюцыйныя працэсы. А вам навошта? Тут жа і рызыка пэўная...

– І рызыка, – лёгка, са скрухай згадзіўся Алесь Федарук, памаўчаў

* Верш Марыі Мартысевіч «Нарадзі прэзідэнта».

колькі, паціраючы сваю бараду, прадоўжыў: – Вось у вас, Васіль, ёсць такое разуменне: няведанне законаў не вызваляе ад адказнасці, так?

– Так, канешне, гэта – адно з асноваў усіх заканадаўстваў свету.

– І лухта ўсіх заканадаўстваў, бо такая норма супярэчыць агульначалавечаму! – выгукнуў пераканаўча Федарук. – Яшчэ дзве тысячы гадоў таму Хрыстос данёс галоўныя для ўсіх законнікаў словы: “Прабачце ім, бо яны не ведаюць, што робяць”. Разумееце, Васіль? Адказнасць ляжыць не на тым, хто робіць, але не разумее, што робіць, але на тым, хто разумее, ведае, усведамляе, але не робіць! Вось галоўны стрыжань жыцця чалавека, які думае. Ты больш ведаеш і глыбей разумееш – на табе большая адказнасць. Звярніце ўвагу: Хрыстос не казаў пра магчымасці, але толькі пра веданне. Значыць, няма апраўданняў таму, хто сваё бяздзеянне хавае за сцяной штучных межаў для дзеяння... – Федарук нечакана панурыўся, абхапіў рукамі галаву. – Нам Васіль, не вам, а нам – інтэлігенцыі, творчай найперш, за ўсё і адказваць. Прыйдзе час... Ці можа на тым нейкім свеце, няважна, як яно там выглядаць будзе, можа, Пятро спытае, можа – на чашу паставяць, на патэльню, у бочку апусцяць, але ж... Не спытаюць рабочага ад станка і селяніна з касой: чаму яны між “Пагоняй” і больш-менш стабільным жабрацкім існаваннем выбралі апошняе. З нас спытаюць – з тых, хто ведаў, да чаго вядзе такі выбар. І з мяне самы галоўны суддзя спытае – мой нашчадак: чаму я, такі разумны, які ведаў усю значнасць нацыянальнага, не патлумачыў, не давёў тым рабочым і сялянам, што выбіраць трэба найперш сваё існае, а каўбаса танная – тое другаснае. Вось чаму, Васіль...

– Зразумела, – з сухой жорсткасцю выціснуў я, даючы Алесю Федаруку зразумець: наша інтэлігентная размова на тэму лідараў і лёсаў нацый завершана. Неспадзявана мяне кранулі яго словы. Я ўрэшце дакладна пабачыў тую прорву, якая ляжала між мной і Алесем Федаруком. Не спадчынная інтэлігентнасць, не веды і адукацыя, не шляхецтва ў паводзінах, а менавіта здольнасць адчуваць у сабе адказнасць за іншых, за краіну. Гэта было незвычайна, але ў нейкі момант і мне захацелася прычыніцца да такой звышзадачы: лёс нацыі. І тут хавалася ўся дылема: адказнасць адначасова і ўзвышала ў асабістых вачах, але ж і абавязвала, рабіла залежным ад нечага, цалкам пакуль незразумелага. Я пачуваў сябе вельмі некамфортна, таму зазалаваў. – Я выслухаў вас. Вы сказалі ўсё?

– Так, здаецца, так... Калі ў вас няма пытанняў...

– У мяне ёсць пытанні, але, баюся, яны куды больш дробныя, чым ваша жаданне выратаваць нацыю, – я не стаў хаваць свайго скепсісу да ўсяго пачутага. – Вы вырашайце свае задачы, а я буду свае. І калі вы – у межах закону, дык вам няма чаго баяцца адказваць шчыра.

– Я насамрэч зрабіў усё, што мог, – са скрухай адказаў Федарук. – Мне вельмі шкада. Хоць я і прадбачыў такі вынік нашай размовы. Я гатовы адказваць шчыра.

– Добра... Вы для ажыццяўлення сваёй ідэі нараджэння будучага нацыянальнага лідара ўгаварылі Насцю Грыцук зацяжарыць і нарадзіць дзіця?

– Так. Насця згадзілася.

– Вы абяцалі ёй грошы?

– Не, яна, у адрозненне ад вас, паверыла ў сваю місію.

– Бацькам дзіцяці быў Андрэй Дылько?

– Так.

– Дзе дзіця Насці Грыцук?
– Вам тлумачыла акушэрка: яно памерла.
Я ўспыхнуў:
– Мы ж дамаўляліся! Вы ведаеце, па крыві памерлае немаўля не магло быць народжана Насцяй Грыцук! Зноў гульня?
– Не гульня, – ціха, але ўпарта прагаварыў Федарук. – Па дакументах, якія былі складзены акушэркай Антанінай Русецкай, дзіця нарадзілася... нежыццяздольным.
– Вось як? Баюся, вам давядзецца адказваць за ілжывасць сваіх слоў, калі будзеце ўпарціцца, – прыгразіў я. – У вас у хаце дзіця? Чыё яно?
– Наша. Маё і Волечкіна.
– Ваша? – я гатовы быў закрычаць на яго. – Вы... Вы нарадзілі дзіця ў такім узросце?
– Так, – без эмоцый, гледзячы за маю спіну, адказаў Федарук. – Волечка зацяжарыла. І нарадзіла вось тут, але афіцыйна была на ўліку, вы можаце праверыць.
– І не зрабіла аборт? Вы ж ведаеце, што нараджаць у такім узросце смяротна небяспечна для жанчыны, дый зношанасць арганізмаў мужа і жонкі, дзейнасць шкодных звычак за столькі гадоў жыцця, паломка генаў... Верагоднасць нараджэння здаровага дзіцяці менш за дзесяць працэнтаў... – заспяшаўся я, выказваючы сваё шчырае здзіўленне, і раптам змоўк – усё стала на месца. – Гэта ваша жонка нарадзіла гідрацэфала... А вы забралі сабе дзіця Насці...
Федарук маўчаў.
– Хадзем, – узняўся я.
– Куды? – з жывой цікавасцю зірнуў на мяне знізу Федарук.
– Да вашай жонкі...
– Яе няма... Яна хвілін колькі назад з сынам паехала адпачываць да нашых сяброў. Там лепшыя за нашы ўмовы, вада ў хаце гарачая.
– Як... паехала?
– На аўтамабілі. Сябра прыехаў і забраў, пакуль мы з вамі гаварылі.
Федарук зірнуў мне ў вочы. Не, там не было пераможнай радасці, толькі сум.
Я хутка выйшаў на вуліцу. Віктар паставіў машыну воддаль, у цянёк разлапістай ліпы. Ён драмаў, як звычайна.
– Да дома пад'язджаў аўтамабіль? – нервова спытаў я яго.
– Быў, – спакойна адказаў Віктар. – Сіні «мерс», стары. З дому выйшла жанчына з вялікай кашолкай, села ў яго і паехала. Хвілін пяць таму.
Я вярнуўся да альтанкі. Федарук нікуды не сыходзіў, заставаўся сядзець на месцы. Ссівелы, невялікага росту, самотны ў старым садзе, ён выклікаў у мяне цяпер адначасовае пачуццё жалю і гідлівасці. Інтэлігент, вучоны чалавек, а так сябе паводзіць...
– Вам не сорамна? – спытаў я прама.
– Не, – адказаў ён, узняўшы на мяне позірк. – Я ні ў чым вас не падмануў, быў шчырым.
Я прысеў і закурыў.
– Зрабіць яшчэ кавы? – прапанаваў Федарук.
– Не, дзякуй, – адмовіўся я. – А цяжарнасць вашай жонкі была зусім не выпадковай, так?
– Так.

– Дарослыя людзі... Сур'ёзныя. Навукоўцы. Будзеце хлусіць далей? Хавацца?

– Людзі, якія кахаюць адзін аднаго, зробяць усё, каб другі не лгаў.

Я памаўчаў. Разумеў словы Федарука: каб абараніць мужа, яго жонка можа з'ехаць у такое месца, пра якое ён сам ведаць не будзе... А далей?

Паўтарыў гэтыя думкі ў голас.

– Агульная бяда нашага народа, – са скрухай адгукнуўся Федарук, – не рабіць справу, а вышукваць складанасці, якія будуць потым. Не рабіць крок, а разважаць: ці будзе цвёрда пад нагамі... Ды што ўжо будзе, паважаны Васіль. Галоўнае – ёсць мэта. То і ісці да яе трэба. Кожны дзень, пакрысе. Пераадольваць цяжкасці тут і зараз, а не ламаць галаву над тым, чаго, магчыма, не будзе і праз месяц. У нас кожны – стратэг і тактык, таму не ідзём самі, а нас вядуць...

– Вам давядзецца вярнуць дзіця...

– Каму? – хутка спытаў Федарук.

– Дзяржаве. Там разбяруцца, – няўхільна адказаў я.

– Цмок не належыць дзяржаве. Дзяржава будзе належыць Цмоку, – Федарук прамовіў гэта з такой пранікнёнай пераканаўчасцю, як словы клятвы, і я ў той момант зразумеў: гэта галоўная справа яго жыцця.

– І што мне зараз рабіць з вамі? – з горкай усмешкай спытаў я. – Калі б вы сталі на маё месца?

– Кожны павінен быць на сваім месцы, – ухіліўся ад адказу Федарук. – Адзінае я вам скажу яшчэ: мы з вамі гаварылі як... мужчыны, амаль па-сяброўску. У афіцыйных абставінах, мушу папярэдзіць, казаць магу іншае. Гледзячы што будзеце пытацца ў сваім кабінеце.

– Зразумела... Вы нікуды не збіраецеся знікаць сёння-заўтра?

– Не, абяцаю.

– Дзякуй... І апошняе тады: вы дакладна нічога не можаце патлумачыць адносна смерці Насці Грыцук?

– На жаль, не, – Федарук узняў на мяне вочы, нібыта для таго, каб я змог пераканацца ў шчырасці яго слоў. – Для мяне яе смерць сталася смерцю амаль дачкі...

– Няўжо для некага яна стала ворагам?

Федарук сеў прама, узняў галаву ўверх і сачыў за лістотай яблынь. Я чакаў. Нарэшце, не апускаючы галавы, ён прагаварыў:

– Пра цяжарнасць Насці ведалі толькі мы... Магчыма, нехта прагаварыўся. І даведаліся тыя, хто не хацеў нараджэння Цмока...

– Хто – тыя? Дык яна ж ужо нарадзіла! Які сэнс?

– Якое дзіця нарадзіла Насця, ведалі толькі чацвёра: яна сама, акушэрка, я і Волечка. Для астатніх яно памерла. Магчыма, Насцю, забілі, каб не паўтарылася спроба... Тыя забілі, хто, як і мы, ведаюць, што ў аснове міфа пра Цмока ляжыць ісціна.

## 16.

Жанчынам марна нешта даводзіць, нават калі ты следчы.

Тамара не стала слухаць мой аповед пра сустрэчу ў Ляўдку з Федаруком, не дала і слова сказаць:

– Потым. Падлужнага прывёз? Давай да мяне з ім...

Міхась Падлужны пачуваў сябе ў кабінеце пракурора вельмі няўтульна.

Зрэшты, гэта можна было патлумачыць. Вясковец, які прызвычаіўся да прасторы і сваіх простых і надзейных рэчаў, раптам апынуўся ў месцы, дзе адусюль дыхала строгай канцылярыяй: герб і сцяг, партрэт прэзідэнта, чорнае крэсла пракурора і сама Тамара Сяргееўна ў ім у сіняй форме – фрэнчы з пагонамі, безліч папер на стале, асобным стосікам – кодэксы. Яму, вялікаму і грузнаму, было цесна на стуле, ён не ведаў, куды падзець свае рукі, трымаў адна ў другой далоні і моцна паціраў. Мне падалося: яшчэ хвіліна – і мы пачуем рып скуры.

– Падлужны Міхась Сямёнавіч, вы дапытваецеся ў сувязі са смерцю Грыцук Настассі Дзмітрыеўны, – Тамара сама вяла допыт, яна пачала суха, без усякіх эмоцый і адценняў у голасе.

– А я што? Я не вінаваты ні ў чым.

– Якія ў вас былі адносіны з забітай?

– Ніякіх, хто яна мне? Жылі побач, ды ўсё.

– Нам вядома, што вы неаднаразова выказвалі пагрозы на адрас Насці Грыцук. Патлумачце, што было прычынай пагроз.

– Дык ці мала чаго скажаш? Так, са злосці...

– І што вы казалі? Казалі, што заколеце? За што?

– А што ж... – Падлужны нечакана замаўчаў, апусціў галаву долу і выдыхнуў шумна: – Ы-ых! А каб некаму іншаму яна тое зрабіла? Ён бы не пагражаў?

– Што зрабіла? Расказвайце! – Тамара загадала нечакана мякка, і я паморшчыўся. Чаму яна яго шкадуе?

– Кароў мне псавала...

– Якім чынам?

– Дык ведзьма ж! Ведзьма! – адчай і палёгка зліліся ў адным крыку. Падлужны насцярожана паглядзеў на Тамару: як яна зрэагуе на гэты вокліч?

– Добра, няхай яна была ведзьмай і псавала вам кароў. З якой прычыны яна магла шкодзіць вам?

Падлужны маўчаў больш за хвіліну, глядзеў сабе пад ногі, пасля павярнуў галаву да вакна.

– Я не вінаваты, от. Гэта і скажу. Больш... Больш нічога. Не вінаваты... А раней было – тое сплыло.

Пад правым вокам у яго пачала трапятаць скура, ён зараз сядзеў увесь чырвоны і напружаны, сціснуты, быццам спружына, хоць ногі торгаліся, а рукі ён цяпер не проста цёр – моцна сціскаў пальцы па чарзе.

– Падлужны, калі вы не вінаваты ні ў чым, чаму ж так нервуецеся? – насмешліва спытаў я. – Калі вы не помніце, што за нагода была ў ведзьмы псаваць вашых кароў, ці не хочаце казаць, дык мы вам можам дапамагчы. Нагадаць вам пра далёкія гады, пра дзяўчыну Ганначку, якая прыязджала да вашай сястры і лячылася ў Зміцера. Помніце?

Нечакана для мяне Падлужны супакоіўся, унурыўся і замёр, быццам яго выключылі, з цела выйшла ўся сіла. Зірнуў мне ў вочы. Дзіўны быў у яго позірк, я не паспеў разгледзець, што было ў ім: нянавісць да мяне ці адчай, як ён зноў утаропіўся ў падлогу.

Тамара маўчала, і я зразумеў, што магу працягваць: эфект жа ад маіх слоў быў відавочным.

– Тады пачнём з Ганначкі, з тых часоў, – жорстка прадоўжыў я. – Жанчына сімпатызавала вам, але вы тады яе ігнаравалі. І ад безвыходнасці, ад адзіноты – яна ж была сіратой, у яе з блізкай радні нікога не засталося ў

краіне – дзяўчына згадзілася выйсці замуж за чалавека, удвая за яе старэйшага, але спагадлівага – за свайго лекара, вясковага ведзьмака Зміцера. Прайшло колькі гадоў, яна нарадзіла, стала прывабнай жанчынай. І вы раптам вырашылі, што яна вам падабаецца. Вы пачалі яе пераследаваць, шукаць з ёй сустрэч сам-насам, прапаноўвалі кінуць старога Зміцера і выйсці за вас... У вас было што-небудзь з Ганначкай, Міхась Сямёнавіч?

Фермер маўчаў.

– Падлужны, гэта не гульня ва ўспаміны! – прыгразіў я, зірнуў на Тамару і на нейкі момант разгубіўся: яна безуважна глядзела за вакно, на лісце старой таполі, што трымцела ля шкла. – Падлужны, чуеце? – мусіў працягнуць я. Ну, не спыняцца ж мне з-за незразумелых капрызаў Тамары!

– Не было, – скрозь зубы літаральна працадзіў Падлужны.

– Не было нічога, акрамя таго выпадку ля рэчкі?

Падлужны не выпростваўся – ён неяк незвычайна быццам вырастаў са стула, раздаваўся ў плячах, выцягваў шыю. Нават праз адзенне адчувалася, як напяліся ўсе ягоныя мышцы. Кроў адхлынула ад яго твару.

– Хто?! Адкуль? – ён крыкнуў, як звер, які трапіў у пастку, але мяне ў гэты момант здзівіла незвычайная рэакцыя Тамары: яна рэзка адкінулася на спінку крэсла, паморшчылася, як прафесійны тэатральны глядач ад самадзейнай гульні на вялікай сцэне.

– Цішэй, цішэй, Падлужны... Бач, пачуцці ў яго загаварылі! – Тамара ўзвысіла голас. – А дзе раней яны былі? Шаленства розум засціла? Жанчыну на той свет адправіў!

– Я? – Падлужны вылупіў вочы.

– Ты! – грэбліва адказала Тамара, вытрасла цыгарэту з пачка, прыпаліла, зацягваючы паўзу. – Ты адправіў. Нам вядома. Яна вешацца стала, яе Зміцер з пятлі выхапіў, ды ўпала так, што... Вось так было.

– То ж Зміцер! Зміцер, усе казалі, пабіў быў... Вядзьмак ён. І я спужаўся тады...

Падлужны апаў, бы спушчаны шар. Ён выклікаў гідлівасць. Здаравенны мужык мармытаў апраўданні, да ўсяго – гучна зашморгаў носам.

– Сволачы вы, а не мужыкі! – вынесла прысуд Тамара. – Ты маці на вачах дачкі, лічы, згвалтаваў.

– Няпраўда! – закрычаў Падлужны роспачна і бездапаможна. – Няпраўда, – ціха паўтарыў. – У нас... яна... Ганулька не вырывалася. Так, я настойваў, схапіў... Не сілай. Не змог бы...

– А я і не кажу пра згвалтаванне, – Тамара казала словы, як забівала цвікі. – А лепш было б, каб сапраўды згвалтаваў. Каб жанчына мужу хоць адкрылася, каб дзіця даравала маці, каб з табой па-свойму, па-вядзьмарску Зміцер разлічыўся!

– Са мной разлічыліся... Насця...

– І ты яе забіў?

– Калі б яна была чалавекам, не забіў бы, – стомлена, як з апошніх сіл, ціха прагаварыў Падлужны.

– А кім яна, па-твойму, была? – здзекліва перапытала Тамара. – Ведзьма не чалавек?

– Ласкай.

– Кім? – не вытрымаў, умяшаўся я.

– Ласачкай, – паўтарыў гэтак жа ціха Падлужны, стаў гаварыць, як кажуць пра сваю хваробу хранічна хворыя – без надзеі, але і без шкада-

вання: – Ласка ў хлеў забяжыць, па карове пачне бегаць. Той козытна, бегае ў агароджы, аж упадзе на ногі. Малако перагарае ўраз, мастыт потым. Уранні зойдзеш – у яе вочы чырвоныя, сама мокрая ажно, ледзь не кідаецца на цябе. Зміцер мог бы вылечыць, але ж не пойдзеш да яго... То адна дарога такой – на мясакамбінат. За апошнія гады чатырнаццаць кароў здаў. Купляў самых малочных у людзей спачатку, у тым годзе пародзістых набыў за валюту...

Начаваў у хляве. Тройчы ўпільноўваў, дык ці ты яе зловіш, ці чым патрапіш? Апошнія месяцы спакойна стала, я і падумаў: усё, перастала Насця мне помсціць... А тут бліжэй да поўначы неяк пайшаў да ветру, чую, як нервуецца карова. Заскочыў у хлеў. А яна так загулялася, што й мяне не пачула. І не збегла ў час. Вілы стаялі, як заўсёды, у куце, схапіў... Яна, ласачка, у той момант на сцяну кінулася, каб пад страху выскачыць, я і шпурнуў. І патрапіў таго разу... наскрозь зуб прайшоў. Спужаўся адразу. Яна... жывая яшчэ была. Панёс да Зміцера. Не хацеў я, каб яна памерла! Са злосці, з гарачкі шпурнуў вілы. Які ж гаспадар не шпурне? Да агарода Сцёпчыхі данёс, варушыцца пачала ў руцэ. Крыві амаль не было. Апусціў на мяжы ў траву, папаўзла. Я і пайшоў... пабег назад. Так было... – выдыхнуў стомлена Падлужны і замоўк.

Тамара таўкла недакуркам у попельніцы, маўчала. З хвіліну ў кабінеце было ціха, быццам тут нікога ўвогуле не было, нават нічыйго дыхання не было чуваць.

– Ідзі пасядзі ў прыёмнай, – загадала Падлужнаму Тамара. – Чакай там, нікуды не сыходзь.

Падлужны моўчкі выйшаў.

– Што ў цябе? – узняла на мяне вочы Тамара.

Я разгубіўся.

– Вы пра Федарука?

– А дзе ты яшчэ быў? – хмыкнула Тамара. – Коратка давай, я пасля паперы гляну.

– Я не апытваў яго. Размова была. Ён даў зразумець, што адмовіцца ад сваіх слоў. Амаль ад усяго.

– І многа ён нагаварыў?

– Калі коратка: група апантаных ідэяй займець для краіны нацыянальнага лідара ўзяла на ўзбраенне нейкі стары міф пра Цмока. Насця Грыцук як лесбіянка павінна была нарадзіць дзіця. Мінулай восенню наладзілі абрад, на якім урачыста ажанілі Яшчура – таго самага Андрэя Дылько – з Насцяй. Яна зацяжарыла. Адначасова зацяжарвае, прычым спецыяльна, як мне прызнаўся Федарук, яго жонка. Яна, як і Насця, нарадзіла там, у Ляўдку, роды прыняла акушэрка, член іхняй групы. Дзіця Федарукоў з'явілася на свет з гідрацэфаліяй і памерла. Вам жа перадаў эксперт паперы: група крыві дзіцяці сведчыць пра тое, што яго не магла нарадзіць Грыцук. Сапраўднае дзіця Насці забралі сабе Федарукі. Яны вырашылі выхоўваць яго ўпотай ад усіх, таму жонка Федарука, пакуль я з разяўленым ротам слухаў яго байкі, уцякла ў невядомым кірунку разам з дзіцем. Вось такія... казачкі.

– Зразумела... Слухай, мне на пенсію дакладна пара, – нечакана ўздыхнула шчыра Тамара і дадала з жалем: – Першы раз за столькі гадоў забыла кашалёк. Выручы па-сяброўску – схадзі купі шакаладку якую прыкусіць, ну, і бутэльку. Без ста грам нам не разабрацца.

Я, збіты з панталыку, выйшаў у прыёмную. Зіначка не глядзела ў мой бок, зацята цііснула на кнопкі клавіятуры. Мне стала сорамна. Падлужны сагнуўся у куце на стуле, безуважны да ўсяго.

– Налівай сам, – загадала-папрасіла Тамара, калі я вярнуўся з бутэлькай, шакаладкай і прычыніў дзверы.

Мы выпілі моўчкі, Тамара не стала браць кавалак шакаладкі, якую я паламаў, адразу закурыла.

– Нарэшце распагодзілася, – гледзячы за вакно, загаварыла яна. – Паеду на дачу сёння. Стамілася... Слухай, час абедзенны, ідзі сабе, адпачні. Я тут падрамлю ў крэсле. Апошнія ночы не сплю амаль.

Я паслухаўся адразу ж, устаў і выйшаў. І праўда, адчуў голад. Пайшоў на кватэру.

Не хацелася разважаць, думаць пра нешта. Я стаў адчуваць, як справа з гэтым дзіўным нараджэннем дзіцяці, смерцю Насці пачынае адыгрываць у маім жыцці нейкую асаблівую ролю. Амаль фізічна яна навісала нада мной незразумелым цяжарам, небяспечным для мяне асабіста. Не ў фізічным сэнсе. То была небяспека для маіх прафесійных правіл, звычак і норм, майго стаўлення да навакольнага свету. Нехта быццам падказваў мне: сёння ці заўтра трывалы падмурак маіх уяўленняў ператворыцца ў тую самую травяную посцілку пад нагамі, гатовую праравацца ў багністую бездань у любы момант, калі я зраблю крок не туды, куды трэба. Я стаміўся, далібог, фізічна і маральна стаміўся ад гэтай гісторыі. Хацелася хутчэй закончыць усё. Але як? Як можна браць у справу такія вось паказанні Падлужнага? Каб цябе палічылі вар'ятам? Каб зрабіцца пасмешышчам на ўсю краіну, а тваё прозвішча разам са справай стала байкай для будучых студэнтаў юрфака?

Трэба арыштоўваць Падлужнага... Пасядзіць у камеры дзень-другі без сваіх кароў – згадае да хвіліны тую ноч і што было насамрэч, якая там ласка бегала.

Вуліца нечакана падалася мне няўтульнай. Залітая сонцам, нагрэты асфальт... Ці то я так прызвычаіўся да шэрасці? Цягне хутчэй у халадок веранды.

Пакуль дайшоў, есці расхацелася. А вось кавы... Зрабіў, прысеў у крэсла. Глынуў два разы, закурыў і млява выцягнуўся наколькі мог – стала так утульна і хораша. Ды гары яно ўсё гарам! У Тамары – вопыт і права рашэння. Хай думае. Яна там дрэмле, і я падрамлю, хоць нейкія паўгадзіны.

Гэтых трыццаць хвілін хапіла, каб узняцца з крэсла лёгка і з настроем. Здаецца, ні пра што не думаў, а тут вырашыў катэгарычна, быццам гэты час прысвяціў гарачай спрэчцы з самім сабой і прыйшоў да высновы: я следчы, мне трэба шукаць рэальныя факты, запісваць паказанні сапраўдных сведкаў без усякай чартаўшчыны. І даводзіць справу да канца.

Магчыма, рашучасць лёгка чыталася на маім твары, бо Тамара без усмешкі заўважыла:

– Бачу – адпачыў, бадзёры... Ну слухай, – яна ўзяла аркуш з тэкстам, прабегла яго вачыма, адшукала патрэбны радок і зачытала: – Група крыві – трэцяя, рэзус – адмоўны. Гэта паўторнае заключэнне эксперта па тым дзіцяці... Бывае, памыліўся чалавек першы раз, пераправерыў. Тым больш падставы для сумненняў былі... Цяпер вось, чытай сам. – Тамара пасунула на край стала ў мой бок некалькі аркушаў. Я падышоў, узяў. Пратакол допыта Міхася Падлужнага.

«Я, Падлужны Міхаіл Сямёнавіч, наконт зададзеных мне пытанняў хачу паведаміць наступнае. У ноч з 5 на 6 чэрвеня мяне разбудзіў брэх майго сабакі. Я сплю чуйна, адразу прачнуўся і выйшаў з хаты на падворак. Было месячна. Паглядзеў, у які бок брэша сабака, загадаў яму замаўчаць, выйшаў на гарод. У святле месяца пабачыў дзве постаці каля сваіх стажкоў пад дубамі, яны былі без адзення. Былі чутны асобныя галасы, я разлічыў – мужчынскі і жаночы, слоў не разабраў. Але па голасе пазнаў жанчыну – Насцю Грыцук. Пасля мужчына быццам нешта голасна спяваў ці чытаў вершы нараспеў. Па голасе мне здалося нібыта дачнік, прозвішча не ведаю, клічуць Андрэем, ён жыў адзін. Там жа, між стажкоў, стаяла мая конная грабалка. Гэтыя мужчына і жанчына былі каля яе, качаліся ў траве. Я не стаў далей глядзець і пайшоў у хату. Калі заходзіў у дзверы, пачуў жалезны ляскат, зразумеў, што яны там ці то спецыяльна, ці то незнарок апусцілі рычаг. Хачу патлумачыць таксама, што рычаг апускання зубоў грабалкі быў ненадзейны, шмат зубоў было паламана, я збіраўся на днях заняцца рамонтам. Праз дзень я вырашыў заняцца грабалкай. Яе зубы, як я і думаў, былі апушчаны. Я іх падняў, зняў пагнутыя і паламаныя, астатнія зачысціў ад іржы. Адзін зуб быў нязначна запэцканы ў нешта рудое. Я выцер яго травой, не прыдаў значэння...»

Ці не ўпершыню я адчуў такую глыбокую пустэчу ўнутры. Ні думак, ні адчуванняў. Першы раз у маёй небагатай практыцы закрывалі справу, якая не была расследавана. Маю справу. І закрывалі не таму, што я не мог далей прасунуцца ні на крок, не таму, што наперадзе быў тупік, а...

– Чаму? – не ўздыхнуў, а хапнуў паветра, як пасля зацяжнога нырца, і ўзрадаваўся, адчуўшы, як пустэча ўнутры імкліва запаўняецца раздражненнем, злосцю, прагай супраціўлення – кактэйлем майго абражанага самалюбства.

– Таму, – неахвотна адказала Тамара. – Не маленькі...

– Ну няхай і памыліўся эксперт, а цяпер паправіўся. Дык трэба заказваць генетычную экспертызу...

Мне хацелася казаць упэўнена і горача, настойліва, важка і грунтоўна, а атрымалася бездапаможнае лепятанне, і я нічога, нічога не мог зрабіць са сваім голасам – ён не слухаўся мяне. Я змоўк на імгненне, удыхнуў-выдыхнуў паветра і прымусіў сябе вымаўляць літаральна па адным слове:

– Я ўпэўнены. Федарукі нарадзілі тое дзіця, якое памерла. Дзіця Насці Грыцук забрала Вольга Федарук. Знікла ў невядомым кірунку. Трэба. Правесці. Дзве генетычныя экспертызы.

Я не ведаў Тамару. Далібог, я прадбачыў, якую рэакцыю можа выклікаць маё супраціўленне, але ніяк не чакаў, каб Тамара, гэты прафармалінены канцыляршчынай сухар, раптам ператварылася ў самую звычайную жанчыну, якая невядома чаму нацягнула на плечы службовы фрэнчык з пагонамі. Ці то цень ад акна так упаў, ці то падалося, як высахлыя Тамарыны шчокі ўраз бездапаможна абвіслі, куточкі рота папаўзлі ўніз, вочы напоўніліся бабскім вільготным сумам.

– Сядзь бліжэй, – папрасіла Тамара, пацягнулася ў стол і дастала бутэльку, потым чаркі. Наліла сама ў дзве, тут жа выпіла адну. Нейкі ўнутраны супраціў стрымаў мяне, я не ўзяў сваёй. Тамара быццам не заўважыла майго жэста.

– Ведаеш, што б я змяніла, каб была Богам? – спытала яна і, не чакаючы адказу, працягнула: – Я б так зрабіла, каб вы, мужыкі, таксама нараджалі.

Я маўчаў.

– Тады б вы ведалі значэнне дзіця для маці. Чаго мне каштавала выбіць грошы ў мінулым годзе на генетычную экспертызу па згвалтаванні! А цяпер ты прапануеш патраціць шалёныя грошы, каб адабраць здаровае дзіця ў здаровай маці? І куды яго пасля? У дзіцячы дом? Так?

Тамара не абвінавачвала, не злавалася, яна дакарала, бы маці неразумнага сына. Наліла яшчэ раз сабе на донца, даліла ў маю некранутую чарку. Зноў, не прапаноўваючы мне, выпіла. На гэты раз я ўзяў чарку, пакруціў у руках і пасля зрабіў глыток.

– Ну, чаго ты маўчыш, Васіль?

– Бо няма чаго казаць, – я зноў адпіў і загаварыў больш смела: – Я павінен падпарадкоўвацца закону.

– А я – д'яблу? – хмыкнула Тамара. – Ёсць рэчы, якія вышэй за закон. Дзіцячыя жыцці, напрыклад. Бяры паперы, афармляй. Сам ведаеш...

Яна пачакала, пакуль я забяру аркушы, і наліла яшчэ:

– Як там: трэці за каханне? Дык во, слухай, я табе скажу пра каханне, Васіль... – нейк нязвыкла працяжна стала гаварыць Тамара, і я прысвіснуў у думках: а яна ж ап'янела!

– Слухаю вас, Тамара Сяргееўна, – як мог пачціва адгукнуўся.

– Вось, пра каханне... – Тамара трымала чарку перад сваімі вачыма, пагойдвала яе, сачыла пільна за калыханнем налітага каньяку. – Я табе так скажу. Ты, магчыма... Не, ты, канешне, зразумееш. Але не цяпер. Пасля. Як ажэнішся і прычакаеце дзіця. І ты тады зразумееш жанчыну настолькі, каб уцяміць: зараз я ўсё зрабіла правільна. Ідзі... Ага, стой яшчэ. Мне на пенсію хутка. Не пакрыўджуся, калі паскардзішся на мяне. Але... па-жаночы прашу: падумай і не рабі. Пасля дзякаваць будзеш.

Да канца рабочага дня я корпаўся з паперамі. Сказаць каму з боку, дык і не паверыць, што ў справе следчага больш за тры чвэрці ад усёй работы – паперы. І як ні стараўся адагнаць ад сябе прыкрасць, яна не праходзіла. Раз-пораз абурэнне ўспыхвала ўнутры, замінала пісанню, не давала як след сканцэнтравацца. Даводзілася па некалькі разоў перачытваць напісанае, каб вымучыць з сябе наступную фразу. Але ўрэшце рабочы настрой перасіліў крыўду. Хіба адно не адпускала, вярэдзіла: было нешта значнае ў словах Тамары пра будучыя мае веды, ці то – звычайнае п'янае бурчанне начальніцы, якая лічыць мяне нявопытным дзіцяцем? Што там такога больш складанага ў жанчыне, чым у мужчыне? Усе мы людзі...

Доўгая папяровая работа ўсё ж вярнула мне супакаенне і разважлівасць. Я быццам зноў апынуўся ў сваёй роднай і звыклай плыні спакойнай вады, і тут было бяспечна, не было віроў, я ведаў пра чыстае недалёкае дно і блізкі надзейны бераг. Просіць Тамара па-жаночы не звяртацца вышэй? Ну а я па-мужчынску і паслухаўся б. Але я следчы. Мая адзіная задача – адшукаць сапраўдныя прычыны ўчынкаў і іх вынікі. Мараль – у бок. Няхай, хто хоча, той і бярэ на сябе адказнасць вырашаць лёс хоць таго ж дзіцяці. Суддзя, урэшце, на тое ёсць. Вось яму, суддзю, я і выкладу факты – дзе чыё дзіця. І аднаўлю карціну смерці Насці Грыцук без вясковай казкі пра вядзьмарскія ператварэнні і ліпавых паказаннях пра любошчы пад месячыкам.

Была чвэрць на шостую, я заварыў сабе кавы, маючы намер пасядзець яшчэ з гадзіну і закончыць. Нечакана загуў вібрасігналам і варухнуўся на патрэсканай паліроўцы стала мабільнік. Зірнуў і са здзіўленнем націснуў кнопку адказу: тэлефанавала Ганна Латышонак.

– Вельмі прашу прабачыць мне, – павінілася дзяўчына. – Але вы казалі, як нехта нешта ўспомніць... Вось, я хачу з вамі падзяліцца, хоць, магчыма, і дробязь, але яна непакоіць мяне.

– Дзякуй за званок, Ганна, – падбадзёрыў я дзяўчыну. – У дробязях хаваецца д'ябал, таму нічога лішняга не будзе, калі яно звязана са смерцю Насці Грыцук. Што вы хочаце расказаць?

– Расказаць... І перадаць.

– Перадаць? – не змог я стрымаць усхваляванасці.

– Мой сябра настойвае, каб я... не размаўляла з вамі на гэту тэму па тэлефоне.

– Во як? Вы канспіратары, – пажартаваў я, хоць разумеў бязглуздасць сваіх слоў і рацыю невядомага сябра: мой тэлефон (што не было сакрэтам) у любы момант мог праслухоўвацца. – Добра, дзе мы сустрэнемся? – прадоўжыў я.

– Мы на вакзале, тут кавярня ёсць.

– Тады пятнаццаць хвілін пачакайце, калі ласка.

– Канешне.

Яны сядзелі ў напаўпустой кавярні (яшчэ не быў час для мясцовых) удваіх за столікам – Ганна і незнаёмы мне хлопец гадоў дваццаці пяці. Я павітаўся, прысеў.

– Давайце, я вазьму вам каву, а вы пакуль пагутарыце, – тут жа ўстаў хлопец.

– Дзякуй, але не каву, толькі папіў... Што-небудзь халоднае.

Ганна выцягнула з сумачкі руку, паклала яе на стол і раскрыла сціснуты кулак. На яе далоні ляжаў пластмасавы дракон. Зразумела, бірулька на ключы. На канцы хваста была дзірачка – для колца.

– Вось... Я знайшла.

– Ну, расказвайце.

Я пакруціў у пальцах бірульку. Адмысловая рэч: вельмі дэталёва зроблена, пластмаса дзіўная, не надта цвёрдая, снежна-белая, тлуставатая навобмацак. Фігурка не адліўка, выразалася ўручную, відаць адразу. Паклаў белага дракона на зялёную паверхню стала. Бірулька быццам павялічылася ў памерах – белая на зялёным.

– Я... З самага пачатку, – хвалюючыся, пачала Ганна. – Мінулагодняй вясной я сустрэлася з адным хлопцам. Яго імя Валянцін. Тады мы з сяброўкай былі ў парку ў Мінску, гулялі, і вось... Ён падышоў са сваім сябрам. Разгаварыліся. Аказалася, ён таксама захапляецца этнаграфіяй. Усё жартаваў: «Я паляўнічы на цмокаў!» Бірулька была на ягоных ключах, ён паказваў мне яе. Казаў, вось гэты белы цмок – беларускі. Мы сустракаліся. Ён быў вельмі ўважлівы, далікатны. Цікавіўся маім жыццём. Я расказвала пра нашу з мамай дачу тут, пра суседзяў, пра тое, як мы ладзім старадаўнія святы. Ён усё выбіраў час, каб прыехаць сюды, але ў яго не атрымлівалася...

– А дзе ён працуе, вучыцца?

Ганна ніякавата шморгнула носам.

– Выбачайце... Мяне Аляксей, гэта мой сябра, вунь, – яна азірнулася назад, да барнай стойкі, – таксама пытаў пра Валянціна, і я не змагла нічога ўспомніць. Так атрымалася, я нічога не ведаю пра яго. Ён паведаміў толькі, што вучыцца завочна і працуе. Але дзе, не прызнаўся, быццам яму сорамна было. Адмахнуўся, маўляў, нярварты ўвагі занятак. Я нічога пра яго не ведаю. Апрача імя.

– Зразумела, так бывае, – супакоіў я Ганну. – Што было далей?

– Я так хацела, каб ён прыехаў да нас, пабачыў на свае вочы наша месца. А тут мы ладзілі абрад, рэканструкцыю рытуалу: збіраліся ахвяраваць дзяўчыну Яшчуру. Я запрасіла Валянціна. Ён загарэўся, стаў пытацца: каго, якую менавіта дзяўчыну. Я расказала яму пра Насцю, бо мы ведалі ўжо ролі. Мы з ёй амаль пасябравалі, я спадабалася ёй, ну, разумееце, я адразу заўважыла яе... незвычайнасць. Але я гэтага не спужалася, у мяне была сяброўка лесбіянка. Я спакойна аднеслася да ўвагі Насці, патлумачыла ёй, чаму не змагу быць... яе блізкай знаёмай. Яна мне давярала. І Валянціну я адкрыла гэты Насцін сакрэт. Мне хацелася яго зацікавіць, бо ж... не зусім звычайна.

– І ён прыехаў?

– Не. Ён абяцаў: будзе абавязкова, але не прыехаў. Пазваніў толькі праз тыдзень, быў нейкі... халодны і грубы. Быццам я яму надакучыла і ён знайшоў мне замену. Я зразумела ўсё, паплакала трошкі, – Ганна злёгку пачырванела ад сваёй шчырасці. – Больш мы не сустракаліся, і ён мне не званіў. Я тады выдаліла яго кантакты...

– І не помніце нумар, канешне? Хоць колькі лічбаў? Аператар?

– Так, сёння нічога не запамінаеш, – без ценю віны прызналася дзяўчына. – Дакладна помню, што той жа аператар, што і мой. А яшчэ ў нумары былі дзве чацвёркі побач. Вось, усё ад тых сустрэч...

Падышоў Аляксей, паставіў на стол дзве шклянкі, бутэльку колы, паверхня шкла якой паспела пакрыцца халодным туманам. Я падзякаваў, ён адышоў зноў.

– А бірулька? На памяць засталася? – кіўнуў я на пластмасавага дракона, наліў напой у шклянкі і з задавальненнем адпіў са сваёй ці не палову.

– Не... – Ганна марудзіла з адказам. Таксама адпіла колы, кранулася асцярожна, быццам жывога, дракончыка на стале. – Калі Насцю прывезлі мёртвую ў яе дом, мы прыходзілі. Мне стала дрэнна, пачало ванітаваць, я выскачыла за хату. І там знайшла.

– Знайшла? – не зразумеў я.

– Гэтага дракончыка знайшла. У траве ля самай хаты...

## 17.

У кожным канцы хаваецца новы пачатак.

Салон мабільнай сувязі яшчэ быў адчыненым. Цяжарная маладзіца помніла мяне, ветліва ўсміхнулася:

– Яшчэ нешта шукаць трэба?

– Так, праца такая ў мяне – шукаць. – Я пастараўся адказаць бестурботна, здаецца, атрымалася няблага, бо жанчына ўсміхнулася мне зноў, ужо спачувальна.

– Буду рада дапамагчы!

– Вельмі ўдзячны вам. Калі ласка, усё па гэтым тэлефоне ў перыяд з вясны мінулага года па восень... – Я дастаў мабільнік і прадыктаваў нумар Ганны Латышонак. – Мне можна пачакаць?

– Пачакайце, канешне, – жанчына засяродзілася на экране ноўтбука. – У мяне рабочы дзень скончыўся, але я вам дапамагу. Хвілін дзесяць, добра?

– Канешне! Якраз пакуру, – я выйшаў з салона, заспяшаўся да блізкага адсюль універсама. Неабходнасць аддзячыць жанчыну цукеркамі

была відавочнай: і дзень працоўны скончыўся, дык і паперу з пячаткай не стала патрабаваць...

Чаму яна так засаромелася, калі я працягнуў ёй цукеркі, зразумеў не адразу. На хаду зазіраючы ў паперы, шукаючы там нумары з дзвюма лічбамі «4», раптам успомніў, як яна выразна пасунула па стале да мяне гэтыя аркушы – правай рукой. І пальцы яе былі без пярсцёнкаў. Жанчыны, жанчыны...

Вяртаўся на кватэру знаёмай мне ўжо да кожнай калдобіны на асфальце вуліцай, і гэтая дарога зноў выклікала ў мяне згадкі пра плынь. Сам не ведаю чаму, але бірулька-дракон заставалася ў маёй руцэ, я не стаў класці яе ў кішэню. Дзіўная пластмаса – не мокне ад утрымання ў далоні, хоць і тлуставатая. Быццам і цвёрдая, але пазногаць пакідае след, як добра націснуць. Значыць, рэжацца нажом. Кшталту замерзлага кавалка сала. Нічога падобнага я нідзе не бачыў, значыць, нешта рэдкае, спецыфічнае.

Чаму і як ён там апынуўся? Пачнём з самага бяскрыўднага. Найбольш верагодна: той хлопец займеў нейкія стасункі з Насцяй. Прыязджаў да яе. Тым больш, як казала Ганна, яна паказвала яму старонку Насці ў сацсетках. Можа, запаў. А тут яшчэ мужчынскае самалюбства закалола шылам у адным месцы: падумаеш, лесбіянка – не бачыла сапраўдных мужыкоў! Ёсць жа ў нас такое перакананне: жанчыны таму кахаюць жанчын, што мужыкоў, вартых кахання, не сустракаюць. Іншы варыянт: той Валянцін мог падарыць-перадаць свайго дракончыка іншай жанчыне. Яшчэ: падобная бірулька не адна была зроблена. Карацей, цалкам усё можа быць бяскрыўдным. Ці зусім не бяскрыўдным. Калі гэты дракончык – яго, і ён насамрэч яго згубіў тут...

Думкі млява чапляліся адна за другую, выцягваліся са свядомасці на паверхню той самай плыні. Я чакаў, пакуль яны распаўзуцца сярод многіх іншых, паверхня стане вольнай, бяспечнай і бесперашкоднай для мяне.

Ды атрымалася наадварот. Падумаў пра магчымыя стасункі Насці і іншых хлопцаў, думка пераскочыла на тое, што мне вельмі многае яшчэ невядома з жыцця гэтай жанчыны і адначасова – наколькі неспадзявана шырока адкрылася мне жыццё ўвогуле. Трэба прызнаць: за нейкі тыдзень мая такая спакойная плынь пачала прырастаць асобнымі дарожкамі-струменямі, пра якія я калі і ведаў, дык ніколі пільна да іх не прыглядаўся. А цяпер яны адчувальна кранаюць мяне, трывожаць, прымушаюць нервова азірацца па баках і мімаволі параўноўваць.

Вунь бліжэй да абрывістага берага нясецца хутка, ажно віруе, халодная і цёмная вада. Але ж і вабіць тым, што яна чысцейшая за маю, больш жывая. Гэта Федарук і ягоны гурток этнаграфічны. Так, я нешта чуў пра апазіцыю ды іншыя палітычныя партыі, нездарма ж чыталі нам лекцыі сівагаловыя колішнія бальшавікі. Адзін нават сваім партыйным білетам хваліўся, які, аказваецца, збярог і гатовы быў нам прадэманстраваць. Але ж Федарук... Нельга не прызнацца самому сабе – паверыў я ў ягоную шчырасць, адчуў, што яму насамрэч баліць. Атрымліваецца, яны ёсць сапраўды – людзі, якіх турбуе жыццё іншых, жыццё краіны цалкам і непакоіць у такой ступені, баліць так моцна, што яны ахвяруюць сваім часам (ды і ці мала яшчэ чым!), нешта імкнуцца рабіць, няхай сабе і сваімі дзівацкімі спосабамі.

Вось са мной побач вада павольная, але ўпартая, у ёй адчуваецца прыхаваныя моц і пяшчота, і я зайздрошчу яе глыбіннай сіле. То Надзея,

яе жыццё з яе забароненай любоўю. Навошта ёй, гандлярцы на рынку, ды няхай і настаўніцы ў мінулым, быў патрэбны той Касцюшка, герой забытай даўніны? Хіба нельга было ёй вырачыся сваіх прынцыпаў, жыць звычайным школьным жыццём правінцыйнай настаўніцы? Навошта ёй клопаты пра светапогляд падлеткаў? Ды ўсё роўна тры чвэрці з іх засмокча прага вялікіх грошай і славутага дабрабыту, мізэрная доля загрузіць свае мазгі кар’ерай і навукай, каб зноў жа, урэшце, атрымаць той дабрабыт і грошы, а астатнія пройдуць праз кабінет следчага і працягнуць «свае ўніверсітэты» за высачэзнай турэмнай агароджай.

У чым сэнс гэтых незразумелых змаганняў з сістэмай? Няўжо нельга проста жыць? Проста выконваць добрасумленна сваю справу, атрымліваць зробленыя грошы, уладкоўваць свой куток, засынаць з чыстым сумленнем, не баяцца начных тэлефонных званкоў і, галоўнае, не мучыць сябе пустымі і дарэмнымі пытаннямі, не ствараць сабе праблем? Няўжо не бачна, што сістэма мае свае законы развіцця, дзяржава ўрэшце рухаецца некуды...

Я задаваў апошнія пытанні Надзеі, калі яна, трохі знерваваная чаканнем, варыла мне пельмені, якія сама ляпіла. Выйшла насустрач мне (мабыць, сачыла праз акно), загадала ісці да яе вячэраць.

Дзяліўся з ёй сваімі думкамі пра гэтыя плыні, якія цяклі ў маім уяўленні, і мне хацелася, далібог, пачуць ад яе: я думаю правільна, трэба проста жыць, а не займацца выратаваннем нацыі і народа. І адначасова з тым я адчуваў, як уся мая перакананасць трымаецца адно на маім жаданні не жыць, а менавіта плыць – куды вынясе, у спакоі і без асаблівых турбот, а калі тыя надарацца, дык каб толькі прафесійныя, каб ільга было пакідаць іх у сваім кабінеце, зачыняць у пяць гадзін вечара на ключ – і да самага ранку. Так, я ніколькі не адмаўляўся ад сваёй перакананасці ў абавязковым знаходжанні кожнага на сваім месцы, але ж вось у чым была праблема: і Надзея быццам на сваім месцы, і Федарук, і акушэрка Русецкая, і Насця была пры справе, і кожны робіць сваё як можа і ўмее, але іх, у адрозненне ад мяне, яшчэ цікавяць рэчы па-за межамі іх прафесійных заняткаў, хатніх і асабістых турбот. Хвалюе тое, што быццам хваляваць не павінна. Яны могуць аддаваць гэтаму частку свайго жыцця. Таму я ўсім ім прайграю. Быццам у мяне нечага не хапае, у нечым значным я бяднейшы за іх. І мне крышку сорамна. А раптам я сапраўды не маю рацыі, то і мая справа – заўтра маёй краінай, яе людзей, гістарычнага мінулага?

– Еш...

Надзея прысела насупраць, падперла рукой шчаку, глядзела з сумам і замілаваннем.

– Цяжка мне табе патлумачыць, – уздыхнула яна. – То і не буду гэтага рабіць. Калі сам пачаў задаваць сабе пытанні – знойдзеш адказы. Адно скажу, і не будзем больш на гэтую тэму, добра? Дык вось... Ты пра дзяржаву кажаш так, быццам тое нейкая адмысловая сістэма, якая не падлягае крытыцы. А ведаеш, я табе параю: разбяры па элементах дзяржаву, гэтую сістэму. І пабачыш: уся яна складаецца з людзей. Самых звычайных людзей. Больш за тое, нехта туды трапляе зусім выпадкова. Памятаеш, старажытныя грэкі казалі пра ідэальнае грамадства, у якім кіраваць павінны вучоныя? Ведаеш чаму? Таму адказваць, напрыклад, за культуру краіны можа толькі той чалавек, які ведае не толькі сваю культуру, але і суседнія, і чужыя, далёкія. Вучоны разумее выключную значнасць культуры для развіцця грамадства. А калі прыйшоў той, для каго помнік драўлянага дойлідства

– усяго толькі старая царква, якая не мае ніякай карысці, далягляд псуе, вока мазоліць? Такі кіраўнік закамандуе тую царкву знесці ды пабудаваць новую з сучасных матэрыялаў па сучасным праекце, каб прыгожа (у яго разуменні)! Катастрофа для культуры краіны. І так ва ўсім. У сімволіцы, мове, літаратуры... У адукацыю прыходзіць выпадковы чалавек – і вось панесліся эксперыменты: то дзесяць, то дванаццаць, то адзінаццаць гадоў навучання ў школе, то экзамены, то тэсты. Вось падручнікі перапісваюцца найперш па гісторыі, пасля – па літаратуры, вось ужо родная мова літаральна знікае са школ, вось вывучаюць яе па гадзінах столькі ж, колькі замежную... Дык як і каму іх спыніць? Знаеш, як баліць таму ж вучонаму, калі ён бачыць бездань, у якую коціцца краіна, а нічога зрабіць не можа?

– Што ты да культуры прычапілася? – паспрабаваў аджартавацца я, бо словы Надзеі сталі нечаканым і не самым прыемным адкрыццём для мяне. Неяк не думаў я раней вось так пра дзяржаўнае кіраванне, што ўсё – ад людзей, а людзі – розныя.

– Культура вызначае нацыю, народ... – мякка працягвала тлумачыць Надзея.

– Не будзе гэтай культуры, будзе іншая.

– Не будзе ніякай, калі сваю вынішчыць. Культура па загадах не з'яўляецца. І тады знікне народ.

– А якая ў прынцыпе розніца, кім мне тут звацца? Беларусам, бамбаросам, бульбарусым? – Я разгарачыўся, гаварыў гучна і не спыніўся, калі на кухню зайшоў Сяргей.

– Слушнае пытанне, – ён прысеў побач, узяў мой відэлец, начапіў пельменіну і акуратна зняў яе зубамі. Пракаўтнуў, пражаваўшы, працягнуў: – На яго няма чаго адказаць таму чалавеку, які такое пытанне задае. Тады ты сабе і стой убаку. Адно хоць не перашкаджай... Ты вось яшчэ зразумей і прымі: Надзея такая, якая ёсць, у яе гэты боль не адняць, ён з ёй будзе. Як і нос птушынай дзюбай. Калі яна табе мілая з такім носам, то прымі і з такім болем.

– Сяргей... Не трэба. Усе людзі розныя, – ціха прамовіла Надзея.

Мне захацелася пакрыўдзіцца: чым я магу перашкаджаць і каму? Але стрываў, пастараўся не прыдаваць значэння пачутаму: надта ж засмучанай выглядала Надзея, калі казала апошнія словы.

– Надзюш... Не крыўдуй на мяне, калі ласка, – павініўся я сам. – Зразумей: мяне вучылі сцерагчы законы, а не распавядалі пра значнасць культуры... Вельмі смачныя пельмені.

– Смачныя, пацвярджаю, – кіўнуў Сяргей, адправіў у рот яшчэ адну пельменіну, устаў і пайшоў да парога. – Не крыўдзі мне сястру, – ці то жартам, ці то ўсур'ёз прыгразіў.

– Ды я не крыўдую, – Надзея працягнула руку цераз стол, кранула далонню маю галаву, злёгку ўзвіхурыла валасы. – Помніш гісторыю? Варвары захапілі Рым. Але іх культура была настолькі слабой і неразвітай, а культура рымлян такой моцнай, што праз некаторы час варвары зніклі – а з'явіліся новыя рымляне. Можна заваяваць краіну, але нельга заваяваць народ. Ён проста можа знікнуць, калі яго культура растане ў іншай. Прабач, я табе так кажу, бы вучню... А пельмені звычайныя, то я ў іх мяса паклала сапраўднае.

– Вунь як! Я і ёсць вучань...

– Ну, тады яшчэ адзін факт майму вучню, – усміхнулася Надзея. – У

краінах, дзе нацыянальная палітыка – адна з галоўных у дзяржаве, і жыць добра. Скандынаўскія краіны, напрыклад.

– А Ісландыя? – я ўспомніў сваю размову з Федаруком.

– Вось, Ісландыя. Там ці не самая жорсткая міграцыйная палітыка ў свеце, нацыянальнае ставіцца вышэй за ўсё...

– І ў Ісландыі іншы раз пустуе іх адзіная турма, – дадаў я.

– Вось бачыш... Даядай!

– Многа мне! – прызнаўся я, бо і сапраўды ўжо наеўся, а ў талерцы заставалася яшчэ трэць.

– Не еў жа ні халеры ўвесь дзень! – прыкрыкнула Надзея, і ў яе атрымалася так па-хатняму, так непасрэдна і цёпла, што я залыпаў вачыма.

– Крычыш так... Як на свайго.

– Крычу, пакуль магу. Пакуль тут і мой, – сказала Надзея і сарамліва апусціла вочы.

– Добра, даем... А паслухаеш мяне?

– Куды ад цябе падзенешся, паляўнічы на цмока...

Я ўздрыгнуў. Паляўнічы на цмока... Я ж сапраўды палюю зараз на цмока, я хачу знайсці яго і... пасадзіць у клетку – здаць у дзіцячы дом. Дастаў з кішэні бірульку, працягнуў Надзеі.

– Глядзі...

– Што гэта? – Надзея ўзяла дракончыка з відавочнай насцярогай у вачах.

Я прыўзняў палец угару з маўклівай просьбай пачакаць, бо якраз жаваў, хутка даеў пельмені, пасунуў ад сябе талерку. Надзея забрала яе і аднесла, пасля прысела побач са мной.

– Ну?

Я стаў расказваць ёй пра ўсё: пра размову з Федаруком, пра допыт Падлужнага, пра загад Тамары закрываць справу, пра сустрэчу з Ганнай Латышонак і яе знаходку.

– Бачыш – я маю ўсе шансы трапіць у падручнікі па следстве: нідзе яшчэ не апісаны выпадак забойства, калі забілі маленькага драпежнага звярка, а ў выніку на полі апынуўся труп жанчыны!

– Не верыш? – прыжмурылася Надзея. – А ты ж казаў, там слядоў аніякіх не было. Бачыш, і тлумачэнне адразу: слядоў ласкі нельга было заўважыць. Памерла – і стала чалавекам зноў, – уздыхнула яна.

– Ты здзекуешся? Вось так мне і запісаць: жанчына абярнулася ласкай... Ты зможаш у ласку ператварыцца? Ты ж таксама ведзьма!

– Эх ты, недаверак! – Надзея ўскудлаціла мае валасы, пасля захапіла іх, пацягнула назад, прымусіла мяне адкінуць галаву. Наблізіла свой твар да майго, зазірнула ў вочы. Яе зрэнкі былі так блізка, што абрысы расплыліся, яе вочы ператварыліся ў нябачанае раней бяздоннае і жывое мроіва. Надзея зашаптала горача і адначасова ўсмешліва, з абяцаннем і перакананай верай: – Недаверак мой любы... Калі жанчына кахае – яна ўсё можа. Дзіва хіба – стаць жанчыне ласачкай? Ды калі засумую без цябе, калі доўга пабачыць не змагу – лелькай-матыльком да цябе прылячу, самы капрызны вецер спадарожным зраблю, каб нёс мае тонкія крылы імкліва. Тым матыльком, паўлінавым вокам, ведаеш? Прылячу і тымі вачамі на аксамітных крылах у душу табе зазірну, да самага донца. Пабачу там каханне тваё, пабачу сябе ў тваіх зрэнках і вярнуся самай шчаслівай дадому...

Надзеіна дыханне ветрыкам казытала мой твар. Я памкнуўся наперад, сустрэўся сваімі вуснамі з яе, прыпаў, прытуліўшы мякка яе галаву да сябе.

– Пусці... Пра справу думай, таварыш следчы! – вызвалілася Надзея. – Жанчына ўсё можа, ведай!

– Пачынаю верыць! – уздыхнуў я. – Яшчэ кавы кубачак з тваіх рук – і запішуся ў апалагеты вядзьмарства! А зараз пакуру і зраблю адзін званочак, ага?

– Ага... Куры і звані. Кава хутка.

Прысеў на лавачку ля хаты, дастаў з кішэні аркушы з раздрукоўкай тэлефонных званкоў Ганны Латышонак. Акуратна выкрэсліваў тыя, які не падыходзілі ніяк. Патрэбны нумар – з дзвюма лічбамі «4» – быў толькі адзін. Па часе супадала – вясна-лета мінулага года.

Я захваляваўся. Не разумеў, чаму так адбылося, таму зазлаваў на сябе. Гэты званок мог нешта прынцыпова змяніць? Няўжо трэба ўсур'ёз думаць аб дачыненні невядомага «паляўнічага на Цмока» да смерці Насці?

Закурыў, набраўшы нумар, зрабіў некалькі зацяжак і толькі тады націснуў выклік.

Насуперак маім думкам пра тое, што пачую механічны голас пра абанента, які знаходзіцца па-за межам дзеяння сеткі, пайшоў выклік, другі і малады мужчынскі адказаў:

– Алё, слухаю!

– Добры вечар, – я павітаўся як мог бестурботна. – Валянцін?

– Хто пытае?

– Ды знаёмы...

– Які знаёмы? Такіх многа!

– Дык гэта Валянцін?

– Ну, Валянцін, Валянцін... Кажы, хто ты такі?

І тут я зразумеў: зрабіў глупства. Мне трэба было дачакацца заўтрашняга дня, «прабіць» патрэбны мне тэлефон, пасля сабраць усю адпаведную інфармацыю пра абанента... Але ж я не ўпэўнены, што невядомы мне Валянцін згубіў свайго дракончыка падчас злачынства! Яшчэ была магчымасць выйсці з сітуацыі без турбот: назваць сябе якім чужым імем, урэшце спісаць усё на памылкова набраны нумар. А заўтра рабіць усё як след. Але я, насуперак гэтым кволым думкам, пайшоў, што называецца, ва-банк:

– З вамі размаўляе следчы пракуратуры Васіль Шайбак. Мне неабходна задаць вам некалькі пытанняў у сувязі з адной крымінальнай справай, якую я расследую, – афіцыйна паведаміў я.

– ...Тваю! – нечакана прасіпеў мацюком мой суразмоўца, пасля я пачуў прыглушанае (мабыць, мікрафон прыкрылі рукой) пытанне: – Прабілі? Васіль Шайбак? – і пасля доўгай паўзы голасна, з прыкрым расчараваннем мужчына павітаўся са мной: – Здароў быў, калега!

– Не разумею... – збянтэжыўся ад нечаканасці я.

– Следчы райаддзела Горбач. Вяду праверку па заяве адной грамадзянкі па факце знікнення ў невядомым кірунку яе кватаранта, далёкага адзінага родзіча нібыта Валянціна Манько.

– Нібыта?

– Так. Гэты Валянцін жыў паўгода ў сваёй стрыечнай цёткі, як яна патлумачыла. «Пляменнік» прыехаў, папрасіўся пажыць, абяцаў добра плаціць. Яе сястра жыла ў вёсцы на Віцебшчыне, памерла больш за дзе-

сяць гадоў таму. Цётка ад таго часу не бачыла пляменніка. У яе свой дом, некалькі пакояў, пусціла пажыць. «Пляменнік» тым вечарам пайшоў, па яго словах, да банкамата па грошы і не вярнуўся. Рэчы, тэлефон засталіся на кватэры. Дакументаў ніякіх. Сапраўдны Валянцін Манько ў бацькоўскім доме. Правяраем...

Надзея прынесла каву, паставіла кубак побач са мной, пайшла.

– Сітуацыя, – уздыхнуў я ў тэлефон. – Мне б таксама з ім хацелася пагаварыць, з гэтым «пляменнікам».

– Сур'ёзнае нешта? – больш для ветлівасці пацікавіўся Горбач.

– Пакуль і не ведаю, – самому сабе прызнаўся я. – А па «пальчыках» не спрабавалі выйсці?

– Ды ніводнага ў доме цёткі, вось дзе дзіва. Нават на яго тэлефоне. Ну, поспехаў!

Сонца зайшло. Аднекуль пацягнула холадам, я пацепнуў плячыма, узяў у абедзве рукі гарачы кубак з кавай. Выйшла Надзея, прысела побач, прытулілася. Мы маўчалі.

Я дапіў каву, паставіў кубак, пацягнуўся па цыгарэты.

– Курыш многа, – заўважыла з абвінавачваннем Надзея. – Нельга так – адну за другой, здароўе не купленае.

Я не зазлаваў. Яна мела рацыю, а да ўсяго, мне быў прыемны яшчэ і вось такі клопат. Таму не прыкурыў.

– Што задумаўся? – зазірнула мне ў вочы Надзея. – Гэткі ў цябе выгляд...

– Які?

– Разгублены нейкі. Стаміўся вельмі? Ідзі, апаласніся ды паляжы. Пачытай...

– Ведаеш, Надзюшка... – я ўзяў Надзеіну руку ў сваю, пагладжваў пальцы. – Яшчэ два месяцы таму я і ўявіць не мог, як буду казаць некалі такое іншаму чалавеку. Усё было такім звычайным, спакойным, зразумелым. А цяпер я нібыта стаю на вялікім раздарожжы. І мне трэба выбіраць. Мне сапраўды трэба выбіраць, і я разумею, наколькі важны для мяне гэты выбар.

– Тады выбірай, – ціха параіла Надзея. – Любы асэнсаваны выбар – лепш, чым плыць па цячэнні.

– Так, плыць ужо не атрымаецца...

Я сапраўды думаў над нечакана асэнсаваным раздарожжам. Мне можна было цяпер забыцца на справу, закрыўшы яе, як настойвае Тамара. Можна насуперак ёй адшукаць жонку Федарука і дзіця Насці Грыцук, дабіцца генетычнай экспертызы і адабраць дзіця. І вось цяпер гэты Валянцін і бірулька. А калі яны – нейкая нітачка? Сапраўдная, самая сур'ёзная з усіх?

Ажыў мой тэлефон, я зірнуў – нумар быў не знаёмы. Мільганула думка не адказваць, быццам я прадчуваў нешта нядобрае, але націснуў на кнопку.

– Слухаю.

– Добры вечар! Васіль Шайбак, следчы пракуратуры раёна?

– Так. Хто мяне турбуе?

– З генеральнай пракуратуры. Мяне завуць Раман. Ці можна з вамі сустрэцца і пагаварыць? Размова не зойме многа часу.

– Канешне, можна, – заспяшаўся я, адчуваючы непрыемнае сціскание ў жываце. Што трэба ад мяне генеральнай пракуратуры?

– Калі вы не супраць, то можна сустрэцца зараз. Мы тут праездам, а паразмаўляць хацелася б асабіста. Мы можам пад'ехаць. Дзе вы жывяце?

– А дзе вы зараз? – змог спытаць я.

– Каля вашай пракуратуры.

– То я падыду праз дзесяць хвілін.

– Выдатна, мы чакаем.

Я застыў у разгубленасці.

– Нешта здарылася? – устрывожылася Надзея, углядаючыся ў мой твар.

– Ды як быццам нічога, – супакоіў я яе і самога сябе. – Мне трэба прайсціся да пракуратуры. Там мяне чакаюць... Думаю, размова хвілін на дзесяць. З генпракуратуры... – дадаў я, пабачыўшы, як не на жарт устрывожылася Надзея.

– Я буду чакаць...

– Я нідзе не затрымаюся.

Калі я наблізіўся да пракуратуры, з аўтамабіля, які стаяў ля будынка, выйшаў мужчына, на выгляд – амаль майго ўзросту ці крыху старэйшы за мяне. Апрануты ў джынсы і кашулю з кароткімі рукавамі, ён ніяк не ўдаваў чыноўнікам высокага рангу. Ні вусоў, ні барады на твары, падстрыжаны амаль пад нуль, трохі вышэй сярэдняга росту і спартыўнага целаскладу. Гэткі мацак.

– Васіль? – сустрэў ён мяне пытаннем. Пабачыў мой згодны нівок, дастаў з кішэні кашулі пасведчанне, разгарнуў і паказаў мне: – Гэта я вам званіў. У мяне крыху далікатная справа. Можа пройдземся?

– Калі ласка, – адказаў я. – Можна вось вуліцай – да царквы і назад. Тут ціха зусім.

Пакуль я ішоў сюды, паспеў супакоіцца. Быў зараз больш заінтрыгаваны, чым узрушаны.

– Выдатна... Прабачце за турботы ў непрацоўны час, але справа амаль прыватная, – пачаў Раман.

– Няма праблем, – адказаў я.

– Смерць жанчыны па справе, якую вы расследуеце, як вы разумееце, выклікала немалы рэзананс у СМІ, самі ж разумееце – кідаюцца ўсе на смажанае. А тут яшчэ чуткі пра нетрадыцыйную сексуальную арыентацыю. Чыталі ж?

Мы ішлі па тратуары, які быў выкладзены невялікімі бетоннымі квадратамі, якія ад часу і маразоў месцамі пакрышыліся. Надыходзіла шарая гадзіна, даводзілася ступаць асцярожна, каб не спатыкнуцца на якую калдобіну.

– Чытаў, канешне, – адказаў я Раману. – Мусіў. Мы самі рыхтавалі кароткае паведамленне для мясцовых СМІ, але ж у журналістаў і свае каналы, і свае думкі. Іншы раз і яны нешта такое адкапаюць...

– Добра... – Раман зірнуў на мяне, быццам хацеў праверыць, ці можна было мне давяраць нейкія асаблівыя тайны. – Вы закончылі расследаванне? Ёсць пэўныя акалічнасці, па якіх справах зацікавіліся на ўзроўні, значна вышэйшым за ваш раённы.

Мы дайшлі да царквы, цяпер тут было пуста і нават вусцішна: чорныя купалы яе быццам нараджалі шэрань, якая скочвалася ўніз, распаўзалася і гусцела.

– Амаль закончыў, – кіўнуў я. – Курыце?

– Закурым, – пагадзіўся Раман.

Я прыпальваў і адчуваў, як ад хвалявання трапечуцца жылкі ў мяне на скронях. Вось ён, мой шанец! Цяпер выкласці ўсе вядомыя мне факты і сумненні. І заўтра будзе дастаткова адзінага званка адтуль – і Тамара

нікуды не дзенецца, будзе генетычная экспертыза! І будзе мне дазвол і час на пошукі сведкаў смерці Насці, бо не бывае так, не можа так быць, каб ніхто нічога не бачыў, не чуў. Яшчэ раз усіх апытаць! Яшчэ раз прааналізаваць званкі і месцы знаходжання кожнага з жыхароў Ляўдка. Абсалютна не распрацаваны той мёртвы паэт Дылько: хто яго сябры, чым займаўся, дзе знаёмыя? Няпраўда, адшукаецца яшчэ нітачка... І Тамары крыўдаваць не будзе чаго: я ж не скаргу напісаў, не данос – я падзяліўся сваімі сумненнямі з чалавекам, якога цікавіць следства. З такім, з якім можна і трэба дзяліцца, бо намеснік генпракурора вышэй усё ж за пракурора раённага... Толькі што за акалічнасці? Спытаць? Але ж не скажа, калі адразу не сказаў, тут сумнявацца не варта, хай сабе пра раённы ўзровень прагучала ў яго словах пагарда ледзь улоўная, ды то было сігналам для мяне: не пытайся больш, чым табе сказалі.

– І якія высновы? – Раман зацягнуўся, выпусціў дым і стаў пільна глядзець на мяне.

Гэты позірк мяне непрыемна насцярожыў. Ён не проста глядзеў, ён быццам вывучаў мой твар. Раптам узнікла перакананне, што ён і слухаць уважліва не будзе, а будзе адсочваць мае пачуцці, якія павінны адлюстравацца на твары, аналізаваць іх, рабіць нейкія высновы.

– Выпадак насамрэч незвычайны. Ціхая вёсачка, забітая – маладая жанчына, вядомая яшчэ і нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй. Мёртвай яе знайшлі на суседнім з яе домам агародзе, цалкам аголенай, – пачаў я, адцягваючы для сябе момант, з якога мне трэба было зрабіць выбар.

– Сапраўдная завязка для трылера, – згадзіўся Раман. Ён глядзеў мне ў вочы. Пільна. Прафесійным позіркам. Ён казаў, усміхаўся куточкамі вуснаў, а вочы яго заставаліся засяроджанымі, яны нібыта падпарадкоўваліся іншай задачы, жылі асобна.

– Вывучэнне асабістай перапіскі Насці ў сацыяльных сетках нічога істотнага не дало, каб патлумачыць хаця б яе цяжарнасць, – працягнуў я. – У мяне ўзнікла версія выканання Насцяй ролі сурагатнай маці і канфлікту з заказчыкамі ў канцы, але тут у аварыю трапіў і разбіўся насмерць адзін дачнік (вёсачка стала дачным пасёлкам). Пры ім у машыне знайшлі труп дзіцяці ў маленькай, адмыслова зробленай труне...

– Насця нарадзіла за некалькі дзён да смерці? І пра дзіця ніхто не ведаў?

– Ляўдок – вёска з некалькіх хат, сваіх жыхароў там засталіся адзінкі. Насця з бацькам, які лічыўся раней знахарам-ведзьмаком, жылі адасоблена ад іншых, – патлумачыў я.

І тут віхурай узняліся думкі, якіх я ніяк не чакаў. Смерць праз некалькі дзён пасля родаў... Ці не гэта мела на ўвазе Тамара, калі даводзіла мне, што я даведаюся больш пра жанчын, каліаднойчы народзіць мая некалішняя жонка? Правільна, то ці не адзінае, з чым я не сутыкаўся яшчэ ў жыцці! Замільгацелі бачаныя дзесьці раней кадры нараджэння, успомніліся словы загадчыцы радзільнага аддзялення: «Невялікія разрывы яшчэ не зажылі». Вось жа! Роды для жанчын – траўма, наймацнейшы боль. Пра які секс, якія любошчы можа ісці гаворка праз лічаныя дні пасля родаў? Значыць... Сведчанне Падлужнага пра нейкія дзве аголеныя постаці пад дубам – брахня! Але і першая яго версія пра тое, быццам Насця абярнулася ў ласачку – таксама брахня, бо не да такіх жартачак парадзісе, нават калі і дапусціць, што яна магла такое рабіць. І значыць, Насця загінула неяк па-іншаму! Дык Тамара дакладна гэта зразумела? Але чаму вырашыла

закрываць справу? Чаго яна спужалася? Пра нешта здагадвалася, ці ёй падказвала яе жаночая інтуіцыя: справа – далёка не просты крымінал? Федарук казаў: калі ёсць тыя, хто верыць у Цмока і жадае яго нараджэння, ёсць і тыя, якія таксама вераць, але супрацьстаяць гэтаму. Бірулька... "Паляўнічы на Цмока", які знік, бы пад ваду сышоў... Усё гэта пранеслася ў галаве адной кароткай асляпляльнай маланкай.

– І да чаго вы прыйшлі? – нагадаў пра сябе Раман.

Чаму мне так не падабаецца яго пранізлівы позірк? Ён хоча злавіць мяне на хлусні?

– Справу будзем закрываць, – нечакана для сябе цвёрда вымавіў я і адчуў абсалютную ўпэўненасць у тым, што гаварыў. – Відавочна, Насця зацяжарыла ад Дылько. Хутчэй за ўсё, яна паспрабавала стаць нармальнай жанчынай, цераз сілу згадзіўшыся на секс з мужчынам і нараджэнне дзіцяці. На жаль, не праверым, але ўскосна ўсё пацвярджаецца мёртвым дзіцем, якое вёз на могілкі гэты самы паэт.

– Дзіця дакладна тое, якое нарадзіла Насця Грыцук?

Пытанне было хуткім. Яно – галоўнае з таго, што хоча ведаць гэты Раман, зразумеў я. Бо я таксама следчы. Мяне таксама нечаму вучылі. Я не люблю, калі са мной гуляюць. Калі мяне скарыстоўваюць. Калі ад мяне нешта хаваюць.

– Больш няма якому быць, – паціснуў я плячыма, даючы зразумець субяседніку, што ў мяне няма ніякіх сумненняў на гэты конт. – Восенню мінулага года ў Ляўдку ладзіўся нейкі стары абрад... Там Насцю Грыцук ажанілі з гэтым паэтам.

– Цікава, які абрад такі? Хто ладзіў? Нешта сур'ёзнае? Хто там галоўны?

На гэты раз я канчаткова зразумеў мэту сустрэчы са мной гэтага Рамана – чаму яму трэба было абавязкова пабачыцца са мной, а не зрабіць кароткі афіцыйны запыт: ён хоча ведаць не столькі пра ход расследавання і яго вынік, колькі пра маё разуменне сітуацыі, адносіны да справы. І другая мэта, канешне, – дзіця Насці.

– Дачнікам іншы раз няма чаго рабіць, вось яны і ладзяць то Купалле, то Дзяды, то нейкага Куста...

Я стараўся гаварыць максімальна пераканаўча, абыякава. Дакладна я не мог бы цяпер адказаць нават самому сабе, навошта мне было хавацца ад прадстаўніка генпракуратуры, чаму сваё першае памкненне распавесці яму пра ўсе мае сумненні я замяніў на цалкам адваротнае? Можа, таму, што я сам пакуль не мог вызначыцца: як я стаўлюся да таго Цмока? Таму, што не зразумеў яшчэ да канца імкненняў пэўнай часткі людзей нешта змяніць у жыцці? Так, я яшчэ не вызначыўся сам. Я сам не зразумеў. А яму, гэтаму Раману, трэба дзіця. І таму пакуль... пакуль мае сумненні павінны застацца са мной. Толькі са мной. Каб пасля не шкадаваць.

– Дык якім чынам загінула Насця?

Раман пытаўся, як і перад гэтым, хутка, прафесійна, і не пераставаў сачыць за выразам майго твару. Не, хлопча, я хоць і правінцыяльны следчы, але ж таксама навучаны...

– Смерць, хутчэй за ўсё, вынік няшчаснага выпадку. Адзін фермер прызнаўся, што ў тую ноч ля старой коннай грабалкі ён бачыў дзве агаленыя постаці – мужчыну і жанчыну. Відавочна, любошчы пад месячыкам. У грабалкі быў ненадзейны рычаг фіксацыі зубоў. Форма, даўжыня зуба суадносяцца з той ранай, якая была зафіксавана на целе трупа.

– Значыць, няшчасны выпадак? – на гэты раз задумліва спытаў Раман.

– Мы прыйшлі да такой высновы, – згодна кіўнуў я галавой. – Можна, канешне, фантазіраваць наконт наўмысных дзеянняў таго ж Дылько, але не мае сэнсу, тым больш ён мёртвы. Ды і той факт, што ён сам рабіў труну для памерлага дзіцяці, вёз патаемна яго на могілкі, кажуць на карысць менавіта няшчаснага выпадку...

Дзіўна, але мне і самому ў той момант такая версія падалася вельмі рэальнай. А чаму б такому і не быць? Можа, у Насці з такой выбуховай нечаканасцю абудзілася звычайная жанчына, што яна стала прагнуць пяшчоты і ласкі ад мужчыны кожную хвіліну, не зважаючы на нядаўнія роды?

– Зразумела, дзякуй, – Раман хутка падаў мне руку, коратка пацiснуў, азірнуўся і махнуў рукой.

Я пабачыў той самы аўтамабіль, які стаяў ля пракуратуры, метраў за пяцьдзясят ад нас. Ён газануў і з лёгкім шумам колаў наблізіўся.

– Выбачайце за пературбацыю. Калі трэба будзе – звaніце без аніякіх там, – казаў Раман, а сам усё вывучаў мае вочы. – Нам вядома, вашаму пракурору хутка на пенсію, іншы раз у такіх выпадках здараецца гэтакі мяккі, добразычлівы ціск на следства...

– Ды не, пакуль непаразуменняў не было, – пастараўся запэўніць я Рамана.

– Дзякуй за размову! Будзем чакаць ад вас паведамленняў, як знойдзеце нешта незвычайнае ці ўзнікнуць пытанні і складанасці.

Я не мог не адзначыць для сябе яшчэ адзін прафесійны штрых: аўтамабіль спыніўся на некалькі крокаў наперадзе, і, такім чынам, калі гэты Раман сядаў у машыну, я не пабачыў нічога ў салоне. Той факт, што мужчына сеў на задняе сядзенне, таксама нешта казаў.

Я вяртаўся прыцемкамі. Квола ўздрыгнуў тэлефон у кішэні. Дастаў, паглядзеў: Надзея тэлефанавала і тут жа выключылася. Не стаў пераразвоньваць – вунь ужо бачны дом.

Яна сустрэла мяне ў веснічках, зазірнула ў вочы.

– Усё добра, – бадзёра ўсміхнуўся я. – Ідзём да мяне!

Мы зайшлі ў дом, і я паўтарыў усхвалявана-радасна:

– Усё добра! – прыгнуўся, абхапіў Надзею пад каленямі ў нечаканай хвалі пяшчоты, падняў на рукі.

– Дурны! Я ж табе не дзяўчынка, надарвешся! – запляскала яна далонямі па маіх плячах. Потым заціхла, я паволі апусціў яе, рукі слізгалі па пяшчотнай скуры яе ног.

– Сяргей твой яшчэ не спіць?

– Не, чытае. Але хутка будзе класціся, заўтра зноў збіраецца на рыбу: у яго яшчэ два дні вольныя, хоча паспець.

– Пакліч яго... І дай мне потым, калі ласка, свой тэлефон. Зраблю адзін званок.

Надзея ні пра што не пыталася. Пазваніла і прамовіла:

– Брацік, падыдзі да Васіля... ты патрэбны.

Адключылася, працягнула мабільнік мне. Я пагартаў свой даведнік, набраў нумар на Надзеіным тэлефоне.

Федарук доўга не адказваў, я зрабіў выклік яшчэ раз. Не дзіўна – незнаёмы для яго нумар. Нарэшце пачулася яго насцярожанае:

– Алё, слухаю. Хто мяне турбуе?

– Гэта следчы пракуратуры Васіль Шайбак, – прадставіўся я. – Вы-

бачайце, не са свайго тэлефона. Я хацеў вам паведаміць: справа будзе закрыта.

– Дзякуй, – адказаў ён, і я міжволі ўсміхнуўся, уявіўшы яго ў гэты момант – настолькі разгублена прагучаў адказ.

– Жывіце спакойна, Алесь Тарасавіч, – працягнуў я. – Адно папрашу вас: калі вы заўважыце нешта істотнае для сябе ў плане, скажам так, бяспекі вашай сям'і, то патэлефануйце мне. Абавязкова патэлефануйце. І менавіта на гэты нумар. Дамовіліся? І яшчэ: я вас буду турбаваць час ад часу пытаннямі, ці ўсё добра. Абяцаеце мне адказваць шчыра і падрабязна?

– Так-так, канешне, – спешна згадзіўся Федарук, і я адключыўся.

– Кавы згатую? – ціха спыталася Надзея.

– Ага. На траіх. І каньяк будзем, ага?

– Ага, – пераадольваючы напружанне, усміхнулася яна, пайшла ставіць чайнік.

Сяргей пакруціў пластмасавага дракончыка ў руках колькі секунд, паклаў на стол.

– Што цікавіць следапыта?

– Што можаш путное прыдумаць, тое і цікавіць, – адказаў я і адкаркаваў бутэльку. – Мне трэба знайсці майстра. Абавязкова.

– З якога перапуду гуляем у такі час? Мне заўтра ўставаць на досвітку, – Сяргей кіўнуў незадаволена на бутэльку.

– Значыць, не ўставаць, – адказаў я. – Ты ж самы блізкі з радні Надзеі, вось і хачу ў цябе папрасіць дазволу на шлюб з ёй, – роблена ўрачыста, дураслівa назваў я прычыну.

– Ды ну? – хмыкнуў Сяргей, потым азірнуўся на Надзею: – Калі ён праўда табе нешта прапаноўваў, дык гані яго!

– Гэта чаму? – пагрозліва наблізіўся я да Сяргея, прыўзняўшы вышэй бутэльку.

– Бо наліваеш патроху ў такім выпадку!

– Затое часта! Тактыка ў мяне такая...

– Маўчы, тактык, – Сяргей спыніў нашу гульню, пасур'ёзнеў, узяў кілішак з каньяком. – Ваша здароўе! – Выпіў, закінуў у рот кавалак шакаладкі, пражаваў і стаў тлумачыць: – Давай па справе, мне ўставаць рана. Запамінай. Матэрыял – фтарапласт. Вельмі каштоўны тым, што хімічна ўстойлівы – раз. Два – не электрызуецца. Не зношваецца, хоць на выгляд і мяккі. У механізмах невялікіх і дакладных, у робататэхніцы, скажам, прымяняецца вельмі шырока: падшыпнікі, калёсікі, іншае. Дэталі з яго не дэфармуюцца. Першы раз я з ім пазнаёміўся на вытворчасці мікрасхем. Там яго вельмі шмат дзе. Што да бірулькі, дык яна вялікаватая, каб быць зробленай з нейкай дэталі. Хутчэй за ўсё, рабілі непасрэдна з кавалка. Значыць, на заводзе па вытворчасці фтарапласту. У нас у краіне такіх няма, наколькі я ведаю. Але ёсць участкі па вытворчасці дэталяў з яго для патрэб той жа электроннай прамысловасці. Якасць работы... – Сяргей зноў узяў у рукі бірульку, стаў тлумачыць, кранаючы мезенцам асобныя месцы дракончыка: – Вялікія рэзы зроблены ўпэўнена, за раз ці два. Дробныя дэталі выкананы касым разаком, глыбока, упэўнена... Карацей, рабіў майстар-рэзчык па дрэве, тут няма пытанняў.

– Значыць, трэба шукаць майстра, які працуе на заводзе па вытворчасці дэталей з фтарапласту?

– Самы лёгкі варыянт, – уздыхнуў Сяргей. – А мог такі майстар быць суседам таго, хто працуе.

– Як думаеш, адзіная зробленая рэч?

– Наўрад, – Сяргей яшчэ раз уважліва агледзеў бірульку. – Ведаеш, глыбокія рэзы, дакладныя і ўпэўненыя... Не, яна не першая ў рэзчыка.

– Дзякуй.

Мы пасядзелі з паўгадзіны, Сяргей заспяшаўся спаць.

На вуліцы была ноч, праз адчыненае на верандзе вакно неслася стракатанне цвыркуноў. Надзея сядзела задуменная ў крэсле, не спяшалася прыбіраць са століка.

– Навошта ты так? – з крыўдай у голасе спытала яна.

– Што – навошта? – быццам не зразумеў, перапытаў я, але ў той жа момант вырашыў, што прыкідвацца нельга, гэта можа пакрыўдзіць да глыбіні душы жанчыну, і прызнаўся: – Ну, я і праўда хацеў спытаць... Сёння я зрабіў адзін крок... супраць сябе ранейшага, супраць свайго цячэння. Зрабіў вось гадзіну таму другі. Хачу зрабіць і трэці.

– Хочаш паспрабаваць пажыць разам? – напружана спытала Надзея.

– Не, – рэзка адказаў я, выпрастаўся, а пасля і падняўся з крэсла, стаў насупраць Надзеі: – Хачу, каб ты была маёй жонкай. Хачу, каб нарадзіла мне дзіця. Хачу, каб ты была гаспадыняй у нашым доме. Але ў мяне ёсць адна ўмова.

– Якая? – здзіўлена насцярожылася яна, пэўна, яшчэ не ўсведамляючы ўсё пачутае.

– Я не хачу быць прымаком...

– Дурны ты... У мяне стары дом, зусім стары. У ім холадна зімой. Ён маленькі. Давай пабудуем новы...

– Ты згодна?

Я апусціўся перад Надзеяй, схаваў твар у яе голыя калені, чакаў дотыку яе рукі на сваёй галаве. Яна і праўда паклала свае далоні мне на патыліцу, пачала перабіраць пальцамі валасы. З хвіліну мы маўчалі.

– У тую навальнічную ноч... Я не думала, што ў нас нешта атрымаецца. І не брала таблетак. А быў той самы час...

– Значыць, ты зацяжарыла? – я ўзняў позірк і спалохаўся на нейкае імгненне: з вачэй Надзеі цяклі слёзы, мокрыя бліскучыя дарожкі на яе шчоках у святле настольнай лямпы рухаліся, быццам жывыя.

– Калі якія дзеці і атрымліваюцца ў такой навальнічнай жарсці, дык хіба цмокі, – усміхнулася яна скрозь слёзы, шмыгнула носам. – Даруй, – выцерла твар адной далонню. – Ніколі не думала, што буду калі-небудзь плакаць ад шчасця...



Сяргей Балахонаў



...Час у коме.
Снег раскажа.
Горад Гомель.
Секс на пляжы...

# Элеватары кахання і журбы

## *УЛАДНА І САЛОДКА*

Ты і я, і дождж з пустых нябёсаў
Гомель дрэмле на сямі вятрах.
Нехта плача, затупіўшы лёзы.
Хтось смяецца, ўшчэнт згубіўшы страх.

Ты і я, і блюз мікрараёнаў.
Сто маршрутак марыць пра спакой.
Нехта звык да шкляначкі гранёнай.
Хтось па парку бегае ў трыко.

Ты і я, і цень млынкамбіната.
Даўкім рэхам шоргат дыскатэк.
Хтось фліртуе дзень з цукровай ватай.
Нехта прэ *хай так* замест *хай-тэк*.

Ты і я, і зоркі з камарамі.
Тэлевежа мроіць пра Парыж.
Нехта канцэнтруецца на драме.
Хтось свядома абірае ціш.

Хтось і нехта, і якаясь цётка.
Портавых жырафаў мілы скрып.
Ты ўсміхнешся ўладна і салодка.
Я ўдыхну апошні водар ліп.

*2012 г.*

## *ПАКУЛЬ*

У чыстым полі жаўрукі
ваююць голасна з дабстэпам.
Я дастаткова гаваркі,
каб не даваць адказ планетам,
якіх мы згледзелі з табою
на крохкім беразе дажджу,
кахання мёд п’ючы запоем.
Я там ігрушу пасаджу,
дзе сціплы чорны парасон
уратаваў нас ад патопу,
калі на тысячы персон
каўчэг фактычна з першай спробы
нас абмінуў пад бляск маланак,
узяўшы курс на Сталінград.
Я ж – баламут твой і каханак –
замест рамансаў ды балад
складаў фацэцыі, і ты
са мной дзяліла смех з ахвотай.
Салюты білі з-пад вады.
Нас пільнавалі жабы ўпотай.
Лісічкі ж бегалі праз дамбы
натхняць планеты на пад’ём.
Міжволі думалася: «Нам бы
не ведаць пэўных аксіём».
І пакрысе сыходзіў дзень.
І пакрысе прыходзіў новы.
І разлягалася сухмень.
І я тваёй пяшчоты словы
лавіў, схаваўшы ў шафу швэдар
да першых восеньскіх вятроў.
Пяю цягуча «Love me tender»,
забыўшы ў гомельскім метро
сваёй абачлівасці шлейф,
каб быць тваім да самай рэшты,

каб лету доўжыцца далей,
каб не чытала гэты верш ты...
Упарта дужацца з дабстэпам
у чыстым полі жаўрукі.
Вальсуем мы пад зорным небам
на ўскрайку прывіднай ракі.
Цыкад усхліпы. Гук сірэн.
Сляды аблудных самалётаў.
Няўлоўны метрапалітэн.
Луска сталічнай пазалоты.
Яшчэ не разгуляўся верас
у парку высненых Сапег,
і я пакуль не кіслы Элвіс,
якім я стану без цябе.

*Лета 2012 г.*

## І ПУСТАТА

За шклом вітрынным кава й карамель.
За спінай плынь людзей і вецер-хіпстар.
Ніхто не крыкне: “Го! Го! Го! Го! Мель!”,
наўмысна правакуючы таксістаў.
Іду адзін між восенню й зімой.
Павязку здаў, але не ўзяў свой віскі,
Не залагодзіў мулкае ярмо.
Не адаслаў паштоўку ў свет няблізкі.
Тралейбусы танцуюць менуэт.
Сланы блукаюць па пасуднай краме.
За цыркам неба слепне ад ракет,
забытых пад ракітай калісь намі.
«Прыступкі», «Дрэвы», «Цемень», «Вусны», «Жар» –
параграфы архіўнай картатэкі.
З шуфлядных сотаў капае нектар.
Бушуюць успамінаў грэшных рэкі.
Знікае лісце ў кроплях ледзяных.
Згасаюць думкі ў карнавале тлену.
На сівым коніку зухвалы кот-камбрыг
вядзе клін танкаў з Вільні на Мікены.
А я па «зебры» рушу ў пустату.
Мой кожны крок вітаюць святлафоры.
Магчыма, я ўжо сёння прападу
ў сцюдзёным безаблічным моры,
куды ішлі надзеяў караблі,
каб патануць без айсбергаў і пылу.
За спінай нехта гучна скажа: «Плі!»
і адкаркуе пляшачку тэкілы...

*Восень 2012 г.*

## *ЗГУШЧАНКА, ПОЎНЯ, ГАБРЭЙКА*

Вечар да знямогі саладжава-клейкі.
Згушчанкаю вязкай цягнецца ўспамін.
Ва ўспаміне вейкі
любай мне габрэйкі,
а па-за ўспамінам бледнай поўні блін.

Зелянее бераг іншае планеты.
У рацэ дэльфіны. У рацэ кіты.
Поўняй абагрэты,
падаю з карэты
ў бездань успамінаў, дзе чакаеш ты.

У блакітных джынсах і кашулі ў клетку
крочыш міма танка ў губ маіх палон.
Сеем мы ранетку,
згадваючы зрэдку,
што над намі ўецца цуг ліхіх варон.

Ліўні і вагоны. Лаўкі і фантаны.
На дагератыпах паасобку мы.
Я табою, панна,
дужа апантаны.
Казімір Сапега – сведка наш нямы.

35 дарожак і 15 сцежак.
Не чытаць інструкцый. Не шукаць навін.
Я адзін на ўзмежжы,
і мне вока рэжа
ў вечаровым небе некашэрны блін.

*21-23 жніўня 2013 г.*

## *БЕЛЫХ ЯБЛЫНЬ СНЕЖНЫ САВАН*

Белых яблынь
снежны саван.
Я азяблы.
Сумны самы.

Над планетай
дым завеі.
Недапеты
пошчак змеяў.

Свет, аслепшы
ў дзіўнай белі,

нішчыць вершы
і кактэйлі.

Час у коме.
Снег раскажа.
Горад Гомель.
Секс на пляжы.

Пустатою
пахне ўсюды.
Стань святою
без маруды.

Стань цнатлівай,
стань бязгрэшнай
ў ценю сліваў
і чарэшняў.

Сярод саду
на узгорку
стаіць хата
і царкоўка.

Як даехаць?
Як дабрацца?
Чэзлым рэхам
смех паяцаў.

Навігатар
хлусіць стала.
Хто дасць рады
заблукалым?

Нам з сяброўкай
адзінотай
сцелюць шоўкам
шлях грымоты.

Па балотах
і хайвэях.
Між заводаў
і завеяў.

Да таго мы
крочым саду
у абдоймах
Тваёй здрады.

## *А БЫЛО ТОЕ Ў ГОМЕЛІ*

А было тое ў Гомелі
ў год вялікіх дажджоў.
Летапісцы запомнілі.
Люд забыўся ж ужо.

І адзін выбіваюся
з людскіх шэрагаў я –
ў пыльных шафах трымаю ўсё
і не знішчыў ніяк

асабістыя сведчанні
тых шматзначных падзей,
чым дагэтуль знявечаны
я маркотай штодзень,

з чым даўно мая мілая
пасквіталася ў снах,
развітаўшыся з крыламі,
каб урэшце ачах

жар кахання няслушнага,
што гарэла агнём
пад дажджом, дзе мёд руж снаваў
наш няспешны псалом

пад басяцкія выкрыкі
ашалелых святош.
Метафізіка лірыкі.
Скаламучаны Сож.

І не зводзяцца вопісы
мной укладзеных спраў.
Колькі ў памяці корпаўся,
адпачынку не браў,

брыў праз снег, брыў па верасе,
ды адказ не знайшоў,
куды шчасце падзелася
ў год вялікіх дажджоў.

*Ліпень 2015 г.*

## *КРЭВЕТКІ*

Між пралталінаў бляклыя кветкі.
Крывадушнасць вісіць над зямлёй.

Ты хаваешся ў панцыр крэветкі,
разбудзіўшы сусветнае зло.

Мора стала радовішчам солі.
Ты варожыш без пэўных патрэб
На іржы недабітых магнолій,
Размяняўшы на іх чорны хлеб.

Ты знайшла ў рытуале тым цукар
І нагоду для п’янкіх любошч.
З асалодай, а не пад прынукай,
Ты патрапіла ў д’ябальскі боршч.

Ты хаваешся ў панцыр крэветкі –
Штаб-кватэру брыды і плюгі.
Твой выпадак, вядома, нярэдкі.
Затапіла баршчом берагі,

Па якіх спрытна бегаў нядаўна,
Пад сабою не чуючы ног,
Шчасця нашага – велічны, слаўны,
Але хворы на рак – аднарог.

### *ПАТРУЛЬ НАЯД*

За гэтымі скаламі,
за гэтымі штольнямі,
за днямі ласкавымі,
за тыднямі школьнымі
маўклівая лесвіца
ў смугу вестыбюльную,
дзе ўсмешкаю свеціцца
ў люстэрку патруль наяд,
дзе ты ціха кружышся
у лічбавым вальсе,
зацьміўшы ўшчэнт ружы ўсе,
што я намагаўся
сарваць для гербарыяў
літоўскае метрыкі –
нічый Супер-Марыё,
нічыйныя кветнікі...
Ты кружышся з прывідам
бухгалтарскай клінікі –
гвардзейцамі выбітым,
бяспечным на выніку.
Я моўкны, я ў роспачы
смугу рассякаю,

практычна не помнячы,
адкуль ты такая,
наперад не знаючы,
чым марш мой закончыцца.
Зноў скрыпак ігра ўначы.
Чужая бяссонніца
ў дварах разліваецца
па шклянках і конаўках.
Прыгодаў шукальніца
ідзе на іконаў пах.
І межы руйнуюцца,
і нішчацца грані.
Цэнтральная вуліца.
Ні сушы, ні дранік.
Жалезныя шэрагі.
Індастрыял сіверны.
Халодны ашчэр смугі,
дзе ўчора пан шкіпер ныў
за гэтымі скаламі,
за гэтымі штольнямі,
за днямі ласкавымі,
за тыднямі школьнымі...
Пустое нішчымнае
ў гульні на кантрасце
з патрульнай машынаю
цябе бачыць шчасце.

## *НУЛЯВАЯ АДЗНАКА*

Нулявая адзнака.
Холад кратае плечы.
І даўно ўжо не плакаў
жоўты восеньскі вечар.

І даўно адгрымелі
злых каханняў гарматы.
На старой каруселі
подых лета распяты.

Подых помнага лета
невымоўнай пяшчоты.
На крывавых каметах
час той знік назаўсёды.

І адтуль толькі восень –
без канца і без краю.
Паштары не прыносяць.
Ваяры не скараюць.

І да неба калоны
шугавейнага дыму.
У паветры шалёны
смак журбы немагчымай.

Будзе снег. Будзе вецер.
Будзе наступ свінцовы.
У азяблым букеце
распачнуць перазовы

кветкі помнага лета
невымоўнай пяшчоты.
У сумежных сусветах
час той знік назаўсёды.

І адтуль праз бясчассе
кот твой шэры блукае
па здарожанай трасе
паміж пеклам і раем.

А ў лагуне блакітнай –
дзесь за чорным квадратам –
ты смяешся яхіднай,
уваскрэснуўшы раптам.

### *АДПУСЦІ ЯЕ*

Калі кахаеш – адпусці.
Няхай самотна ці з эскортам
яна праз снег, які не сціх,
ідзе-брыдзе адгэтуль к чорту.

Пазыч ёй свой фантамабіль
ці падары. Ты ж не збяднееш.
А ёй дарога ў сотні міль
лягчэйшай выдасца, напэўна ж.

Няхай ляціць паўз сок чарніц
і катакомбы скамарохаў!
Каб вецер дзьмуў у кожны шліц!
Каб гул анёлаў напалохаў!

І будзе ўсцешна ёй тады
прыгадваць мёд старой памылкі.
І ў неба рынуць з-пад вады
спрэс белагрывыя кабылкі.

І белай гвардыі барон –
даўно сатлелы, а не чорны –
ўкладзе ў майткі ёй сотку крон,
каб пакруціла трохі жорны

ў стрып-клубе дрогкіх настальгій,
дзе пахне шнапсам і карыцай,
дзе «вось такія пірагі»,
дзе лёсу хочацца скарыцца.

Яна не скорыцца, яна
даробіць працу, возьме грошы
і пойдзе ў край, дзе сатана
аўсяным печывам варожыць.

Там будзе ўдосталь палкасці,
агню ўзаемнасці нямала.
Калі кахаеш – адпусці,
ты адпусці яе з падвалу.

Альжбета Кеда



...Наталля была такая няшчасная:
ніколі больш яна не ўбачыць яго...

# У Яраслаўлі

***Апавяданне***

Сёння яна абавязкова падыдзе да яго і спытае. Пра што? Няважна. Галоўнае падысці. Асмеліцца. Столькі мае спытаць! Ці ён з Вільні? Чаму зараз у Яраслаўлі? Што гэта за кніга – "Вянок"? За апошні месяц ледзьве не штодня назірала за ім у гэтай бібліятэцы. Ягоны стол ля вакна. Яна аблюбавала сабе месца праз адзін шэраг, крыху далей да сцяны, таксама насупраць вакна, адкуль магла бачыць кожны ягоны рух. Не, Наталля прыходзіла ў бібліятэку Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэю не з-за яго. Зусім не. Яна заўсёды любіла бібліятэкі. Проста раней працавала, рыхтавала хатнія заданні ў бібліятэцы гімназіі. Ды там не заўсёды можна было знайсці патрэбную літаратуру. Так тлумачыла родным, чаму праседжвае тут да вечара.

Упершыню ў Дзямідаўскі ліцэй іх прывялі на канцэрт хору мінулай вясною. Гэта было незвычайна! Спевы студэнцкага хору вельмі любілі ў горадзе. Пані кіраўнічка іхняга класа прапанавала дзяўчынкам наведаць вечарыну.

Асабліва спадабаліся Наталлі спевы колішняга студэнта Васіля Чулімкова, класічныя рамансы. Арыю з оперы "Дэман" у ягоным выкананні ўсе слухалі бы зачараваныя.

Выходзячы з залы пасля таго канцэрта, Наталля ізноў угледзела яго...

Сёння такі прыгожы дзень. Яна любіла верасень. Хай сабе восень. Але і яна бывае маладой і прыгожай. Залатой. Хоць тыдзень таму выпаў снег-аднадзёнка. Не зашкодзіў ані лістоце на дрэвах, ані позьнім кветкам на кветніках. Усё і сёння яшчэ красуе.

Гэтаю восенню Наталля пачала пісаць вершы. Не, зусім не таму, што ён пісаў вершы. Проста яе вялікае жаданне ляпіць знікла гэтак жа раптоўна, як і з'явілася. А ёй заўсёды хацелася тварыць. Для яе тая прага ляпіць была як насланнё, як хвароба. *Плакала і прасіла маці дастаць гліны. Уначы сніла яе пад рукамі, мяккую, паслухмяную. Сніла, што ляпіла – і ўсё галовы: нейкага старога, нейкай дзяўчынкі з прыгожай шыяй...* І яго таксама. Старанна выштукоўвала ягоныя густыя хвалістыя валасы. Яны былі зусім не з гліны, а жывыя, гладкія, бліскучыя і пахлі восеньскім лісцем. Сніўся чамусьці профіль. Калі хацела павярнуць да сябе свой "твор", якраз у гэтым часе прачыналася...

*Таемная сіла, што жыла ў ёй, упарта шукала выйсця. І яно ўрэшце знайшлося.* Да яе прыйшлі вершы. Не, не проста настала чарга паэзіі. Наталля зразумела, што гэта назаўсёды.

Што ён піша вершы, ведала, бо неаднойчы назірала, як ён піша на чыстай паперы, часам падымаючы вочы, задумліва гледзячы ў вакно. Так можна пісаць толькі вершы. Добра памятае, як напісала свой першы верш. Хутка месяц як. Тут, у бібліятэцы. Яна ўжо была падрыхтаваная да гэтага прыйсця слова. Некалькі дзён хадзіла як сама не свая. *У галаве з'яўляліся нейкія радкі, урыўкі, вобразы. Была вельмі неспакойнай.* Хацелася хутчэй прыйсці сюды, дзе яна была адна, бо кожны тут быў адзін. Але і не адна: ён сядзеў за сваім сталом. Назірала за ім і гадала: "Што ён згледзеў за вакном? Што прывабіла яго зараз? Мо хмары на небе?" Яна глядзела ў сваё вакно і бачыла, як няспешна плывуць яны па ўсё яшчэ сінім небе...

Той верш, назвала яго "Хмары", надрукавалі ў гімназійным літаратурна-мастацкім часопісе, які і цяпер з ёю. І верш "Восень" таксама, што напісала ў дзень першага снегу, калі ўгледзела яго ў скверы з маленькай дзяўчынкай:

Апала пажоўклае лісце,
Падшэрхла, прывяла трава.
І ранкам у шэрані кволай
Бялела і мерзла зямля.
На змену дажджу і туману
Зіма ў белых строях ішла
І тонкім лядком зацягнула
Празрыстую ваду стаўка.

Ставок яна прыдумала. Не было яго ў скверы. Але была вялізная лужына, зацягнутая лёдам... Мо паказаць яму часопіс? Не сёння, калі-небудзь...

Вось жа, пісаць вершы яна пачала ўсё ж не з-за яго, а дзякуючы настаўніцы. *Гэта была цікавая постаць. Жанчына паўдзённага тыпу, з вялікім тэмпераментам*, яна вельмі любіла літаратуру і імкнулася, не без поспеху, перадаць сваю любоў вучаніцам. Наталлі, якую настаўніца асабліва вылучала між іншых, падавалася, што знешне яны падобныя: такія ж чорныя валасы, цёмна-карыя вочы. Ведала, аднак, што вельмі непадобныя

характарам. Дзяўчына была надта сціплаю, сарамлівай, не ўмела падаць сябе, не магла выказаць тое, што яе хвалявала найбольш. Ды і не збіралася гэтага рабіць. Ажывала толькі, калі чытала вершы. Праўда, на сцэну, як ні прасіла настаўніца, на літаратурных вечарынах выйсці не асмелілася...

Дзіўна: яго яшчэ няма. А ўжо на палову чацвёртай. У гэтым часе ён звычайна тут. Пэўна, прыйдзе пазней. Ён і раней неаднойчы прыходзіў пазней.

А пакуль Наталля згадвала. Ужо даўняе, віленскае. Была дзяўчынкай уважлівай, уражлівай. Калі ішла па вуліцы, любіла непрыкметна ўглядацца ў твары людзей, выбіраць між іх найбольш цікавыя. Ужо тады, у няпоўныя восем гадоў, была вельмі сур’ёзнай. Мела шмат таямніцаў. Радавалася, што ніхто не ведае яе думак. І пра тую падгледжаную сустрэчу нікому ніколі не расказала. Гэта было летам. На той дзень яна разам з бацькамі прыехала з лецішча ў Вільню. Пакуль бацькі займаліся справамі, папрасіла дазволу прайсціся па горадзе. Ідучы па вуліцы Роса, між нешматлікіх мінакоў вылучыла яна маладую кабету, надзвычай прыгожую, у шыкоўным каляровым капелюшы. Яна быццам сышла з карціны Анры Маціса, ілюстрацыю якой ім паказвалі ў гімназіі на ўроку малявання. Іх выкладчык захапляўся французскімі мадэрністамі, мог гадзінамі расказваць пра імпрэсіянізм, фавізм, не зважаючы, вучаніцы якога класа перад ім. Неяк летам ён здзейсніў сваю мару – пабываў у Парыжы, адкуль прывёз часопісы, ілюстрацыі вядомых карцінаў. Усё гэта прыносіў і паказваў у класе. Гаварыў з такім захапленнем, з такою любоўю, што не слухаць яго было немагчыма. Асабліва любіў Маціса. Далёка не ўсё было зразумела занадта юным гімназісткам, але многія карціны запалі ў памяць...

Жанчына ў капелюшы некуды спяшалася, ішла подбегам, а ў яе вачох бліШчэлі слёзы. Што іх выклікала? Які боль жыў у сэрцы тае далікатнае пані?.. Тады Наталля не магла зразумець, чаму дарослыя, якія могуць рабіць усё, што толькі захочуць, часта бываюць няшчаснымі. Яны ж вольныя ад усялякіх нецікавых абавязкаў. Ніхто не змушае іх апранаць нелюбімыя строі, абавязкова заплятаць косы, як тое мусіць рабіць яна. Што ім яшчэ трэба? Яны вольныя! Як яна з братам і сёстрамі летам, калі бацькі з раніцы з’язджалі ў горад, а яны цэлымі днямі гойсалі ў старым вялікім парку, дзікім, нібы пушча.

Якімі шчаслівымі яны былі тады!

Цяпер ужо Наталля разумее, што яе ўяўленні пра свет жыцця дарослых былі наіўнымі, ведае, што яны зусім не вольныя, што ў іх багата прычынаў і для слёз, і для пакутаў.

Усё тое яна прыгадвала зараз, бо якраз у той дзень упершыню сустрэла яго. Гэта быў малады чалавек, вельмі высокі, прыгожы нейкай незвычайнаю, самотнаю прыгажосцю. Бледны твар, хвалістыя валасы. Яго згледзела адразу, як прамінула тую Мацісавую жанчыну. Не магла не згледзець: у руках меў букет бледна-жоўтых ружаў. Яна таксама любіла ружы. І таксама гэтага колеру. Ён ішоў па другім боку вуліцы. Ёй стала вельмі цікава, хто ён, куды ідзе, каму гэтыя кветкі. Прыпыніўшыся на хвіліну ля вітрыны крамы, павярнулася і пайшла ў адваротны бок, назіркам сочачы за незнаёмцам. Доўга ісці не давялося. Вось ён прысеў на лаўку. І амаль у тым часе, калі Наталля параўнялася, хуценька ўсхапіўся і падбег да жанчыны, што набліжалася павольнаю хадою. Не ішла, плыла. Жанчына была вагітная. Ён ветліва схіліў галаву, пацалаваў яе руку і працягнуў

кветкі. Наталля пачула ягоны ўсхваляваны голас: “Добры дзень. Дзякую, што Вы прыйшлі”. Што адказала жанчына, дзяўчынка ўжо не пачула. Бо прыпыняцца і слухаць, хай сабе і праз дарогу, было непрыгожа...

Тое было летам 1911-га года.

Колькі пазней праходзіла па той вулцы, столькі мроілася ёй постаць высокага незнаёмца, які пяшчотна цалуе руку вагітнай кабеце. Ніколі больш не сустрэла яго ў Вільні. Але пра тую сустрэчу не забылася.

І таму, калі ўгледзела яго тут, у Яраслаўлі, праз пяць гадоў, пазнала адразу. Яго нельга было не пазнаць. Ён быў такі прыгожы! Ізноў ішоў ёй насустрач. Гэтым разам па тым жа баку вуліцы. Па тым жа ходніку. Быццам не было той вялікай адлегласці ў часе і прасторы з першае сустрэчы. Тыя ж густыя хвалістыя валасы, глыбокія вочы. Менавіта глыбокія. Наталля не разгледзела іх колеру. Глядзець было няёмка. Яе сэрца... Што адбылося з яе сэрцам! Спачатку яно замерла, а пасля пачало шалёна біцца ў грудзях. А ён ішоў, нікога не заўважаючы вакол сябе. У руках трымаў нейкую кнігу. Тоненькую, у жаўтавата-цёмнай вокладцы. Наталля не магла згледзець, што гэта за кніга, бо відаць быў толькі тыльны бок вокладкі. Дзіўна ёй было бачыць, як незнаёмец раптам прыпыніўся, адгарнуў старонку і, уважліва глянуўшы, спахмурнеў. У той момант, калі ён закрываў кнігу, дзяўчына на імгненне ўбачыла вокладку. Яна толькі мільганула перад вачыма, прачытаць назву не паспела, але заўважыла малюнак: нешта накшталт вянка. Праўда, кветкі нейкія дзіўныя, бы засушаныя на паперы. А ў цэнтры штосьці падобнае на васілёк. Альбо валошку. Кветку гэтую і так называлі. Яна любіла валошкі. Шмат іх расло там, каля Вільні, пры палёх. Любіла за незвычайна глыбокую сінечу, за някідкую красу. Колер не проста сіні – васільковы ці валошковы. Яна наогул любіла кветкі. Як і дрэвы. Не, дрэвы хіба больш...

Ён быў такі высокі, што, падалося, крыху нават сутуліўся з-за свайго росту. У свае амаль чатырнаццаць Наталля была даволі высокай дзяўчынай, самай высокай у класе. Але поруч з ім (тут яна падкарэктавала свае думкі: хай сабе не поруч, а ўсяго толькі параўнялася на імгненне зусім выпадкова на вуліцы) адчула сябе малою, спалоханаю птахаю. Бо і праўда, вельмі спалохалася. Чаго? Навошта каму тлумачыць? Ды хіба можна растлумачыць? Якое шчасце, што ніхто пра гэта не даведаецца. Ніколі.

З таго дня яна яшчэ больш палюбіла Яраслаўль. Хоць моцна сумавала па Вільні. *Гэты горад быў вельмі прыгожа паложаны на высокім беразе, меў шмат цікавых старых цэркваў*. Гэта быў і ягоны горад. Мо таксама часова, як для іхняе сям'і.

Разгарнула свой часопіс. Перачытала верш “Восень”. У ім яна зашыфравала тую сустрэчу. Не, верш зусім не пра тое, сведкай чаму была. Толькі яна магла звязаць у адно радкі верша і ўбачанае тады.

Зусім нядаўна, у першы вераснёвы зазімак, адбылася тая сустрэча (хай сабе не сустрэча, хай сабе яна ізноў выпадкова ўгледзела яго), якая была незвычайнай. Наталля з болем згадвала тое. Яна ўбачыла яго ў скверы, куды часам заходзіла, калі мела вольную хвіліну. Гэта быў дзень першага снегу, ненадзейнага, далікатнага, пяшчотна кволага, які і пратрымаўся толькі да вечара. Таму і прыбегла дзяўчына ў сквер, каб *адзначыць на белым сняжку як мага болей слядоў*. Яна любіла маляваць на снезе рамонкі. Абцасік заставаўся на адным месцы, утвараў выразную сярэдзіну. Пакручваючы падэшваю, рабіла адбіткі-пялёсткі. Рамонкі атрымліваліся прыгожыя, правільнай формы. Наадбівала цэлы букет, дамаляваўшы га-

лінкай сцябліны, лісточкі. Якраз тады, калі ўжо адыходзіла, заўважыла яго. Малады чалавек быў не адзін. Маленькая дзяўчынка, мілая, жвавая, у палітончыку, белай пухнатай шапачцы і гэткіх жа рукавічках, бегла ля яго, нешта весела шчабечучы. Глядзеў на яе пяшчотна, як на любую сястрычку. А мо то і была ягоная сястра? Ці пляменніца. Яны таксама сыходзілі са сцяжыны на прысыпаную снегам траву і пакідалі на ім свае сляды. А пасля вярталіся. Наталля перайшла на суседнюю сцяжынку, прысела на лаўку. Бачыла, як яны параўняліся з нейкаю маладою асобай. Павітаўшыся, тая заглянула да незнаёмца *ў вочы і сказала з вясёлым смехам:*

*– Вы чулі, Ганна Рафаілаўна выходзіць замуж за Яна? Шлюб прызначаны на заўтра.*

Відаць, тое ёй падавалася навіной вясёлай. Але не яму. І не Наталлі. Весялосць незнаёмкі была ўдаванай, нейкай напружана-нярвовай, зласлівай. Маладая панна тут жа павярнулася і пайшла прэч. Быццам і з’явілася толькі дзеля таго, каб паведаміць яму пра той шлюб. Яна не бачыла, што здарылася з маладым чалавекам. Затое ўсё гэта добра бачыла Наталля. *Сталася нешта зусім нечаканае. Ён нязграбна ўзмахнуў рукамі, нямаведама чаму пачаў папраўляць сабе белы каўнерык ды, скончыўшы, апусціўся на лаўку і закрыў далонямі твар, схіліўшы галаву амаль не да кален. Напружыліся жылы на яго шыі, і як затрасліся, так і не пераставалі трэсціся вузкія плечы...*

Дзяўчыне так хацелася хоць неяк дапамагчы, падыйсці, суцешыць. Мо яна і асмелілілася б гэта зрабіць (не, не, ніколі, ніколі не асмелілася б), але раптоўна загаварыла тая мілая малеча, што жалобна сказала быццам самой сабе:

*– Плача... і невядома з чаго.*

*Пасля падышла да яго і пачала прыгаварваць, як дзіцёнку, тыя самыя словы, каторыя, пэўна, не раз казалі ёй самой:*

*– Не плач... ну, не плач... Як табе не сорамна: такі вялікі, а плачаш... Не плач... Глядзі ж, не плач, а то і я заплачу.*

Гэта гаварылася так шчыра, пераканаўча, пяшчотна, што лепшых словаў і знайсці нельга было. Наталля таксама нячутна паўтарала, быццам замаўляла: “Не плач, не плач, а то і я заплачу”.

Стаўшы выпадковаю сведкаю гэтае сцэны, Наталля даглядзела яе да канца. Разумела, што падглядаць не вельмі прыгожа, нетактоўна, але проста не магла прымусіць сябе ўстаць са свае лаўкі і сысці. Яе трымала і тое, што заставалася незаўважанай. Не да яе было гэтым двум, што перажывалі вялікае ўзрушэнне.

А ён усё сядзеў, не адбіраючы рук ад твару.

*Малая трохі супынілася, але тут жа нешта згадала і пачала шпарка шукаць у кішэні. Праз паўхвіліны ў яе кулачку ляжала стракатая цукерка, каторую яна прабавала пакласці ў ягоную далонь, прыгаварваючы разам з гэтым:*

*– Вазьмі цукерку, толькі не плач. Ах, які ты дурань... Чаго ж ты плачаш? Я ж табе цукерку даю.*

Гарачая хваля глыбокае пяшчоты і шкадавання да яго і да гэтае малое заліла яе сэрца, каб ураз жа і схлынуць. Толькі зараз Наталля адчула, як стала холадна. Не ад холаду, ад сырасці, што прабірала да самых касцей. Светлы зранку, зараз дзень стаў пахмурным, азыраватым, нудным.

Праз нейкую хвіліну ён устаў, моўчкі ўзяў малую за руку, і яны моўчкі пайшлі са сквера...

Наталля і цяпер наноў перажывала пачутае і пабачанае тады. Калі ён прыйдзе і яна да яго загаворыць, і яны пазнаёмяцца, яна ніколі не прызнаецца, што тады была побач. Хто тая Ганна Рафаілаўна? Чаму яму так забалела ад пачутае навіны?..

Пятая гадзіна...

На мінулым тыдні да ўрока геаграфіі яе класу прапанавалі падрыхтаваць матэрыялы да тэмы: "Расія як шматнацыянальная краіна". Наталля ўжо ўсё зрабіла, падрыхтавала рэферат пра беларусаў. У бібліятэцы ёй прынеслі падшыўку часопіса "Национальные проблемы" за 1915 год. Была здзіўленая: як шмат чаго яна не ведала. Не ведала нават, што ёсць такі часопіс. А калі адгарнула змест другога нумара і ўбачыла артыкул "Беларусы", здзіўленню яе не было межаў. Ізноў беларусы?..

Чытала вельмі ўважліва. Гэта ўжо не тая згадка ў падручніку па геаграфіі з Віленскай гімназіі. Ураженню яе не было межаў: беларусаў каля васьмі мільёнаў. Ажно столькі! І засяляюць яны многія губерніі, між якіх Віленская, апроч заходняе яе часткі. Яе Вільню?! Дык чаму ж амаль нічога яна пра беларусаў не ведала? Прачытала пра тое, што беларусы як народнасць сфармаваліся яшчэ ў XII стагоддзі, пра Вялікае княства Літоўскае, пра культурны пад'ём у часы Адраджэння. І шмат чаго пра сённяшняе. Артыкул зрабіў праўдзівы пераварот у яе ведах, у яе душы. Баялася, як успрымуць у класе яе рэферат...

Зараз перад ёю ляжалі газеты. Між тых, што былі ў вольным доступе, самым цікавым падаваўся "Голас". Наталля любіла праглядваць падшыўкі за мінулыя гады. Многія тэмы хвалявалі яе. Бачыла неаднойчы, як ён браў газеты, чытаў, праглядваў, часам лёгка вадзіў алоўкам, нешта пазначаючы. Гэтыя, ужо сшытыя, нумары за сёлетні ліпень ён чытаў пазаўчора. Тады яна заўважыла падшыўку на ягоным стале. Вось артыкул "Мытарства беженцев". Пра яўрэйскую грамаду, якая пакутуе ў чужым горадзе, не маючы ніякіх умоваў для існаваня. Відаць, аўтар – чалавек міласэрны. Іхняй сям'і таксама няпроста тут, у гэтым усё ж чужым горадзе. Артыкул змешчаны ў нумары за гэты год ад 31 ліпеня. Подпіс – Ив. Февралевъ. Гэтае прозвішча яна неаднойчы сустракала. Але хіба гэта не прозвішча. Пэўна, псеўданім. Тут таксама – след ягонае рукі.

Часам ён пакідаў сваю працу і выходзіў на вуліцу. Наталля глядзела праз сваё вакно, як ён ішоў каля кветніка, сядаў на лаўку. Тады яна праходзіла паўз ягоны стол, заўважала кнігі, якія ён чытаў. Часцей гэта былі паэтычныя зборнікі, вялізныя энцыклапедыі. І амаль заўсёды бачыла яна тую кнігу, якая была ў ягоных руках у самую першую сустрэчу ў Яраслаўлі. Кніга называлася "Вянок". Так хацелася ўзяць яе, вельмі хацелася даведацца, што гэта за "Вянок"...

Сённяшнюю працу закончыла. Глядзела ў вакно, дзе панавала восень, і пісала вершы. Шаптала радкі, запісвала іх на паперы:

Ліпы змянілі строй свой зялёны,
Лісце агніста зіхціць.
Золата, золата, лісце чырвонае
Ціха ў паветры ляціць.
Неба празрыстасць...
Скрозь лісце чырвонае
Светла сінеецца даль.
Плавае, кружыцца воблакам лісце.
Восень раптоўна прыйшла.

Наталля разумела, што верш недасканалы, рыфма няўдалая. Бачыла, што занадта шмат паўтораў, што тое лісце ледзьве не ў кожным радку, яно муляе вока. Але яна нічога не хацела змяняць. Бо за вакном – лісце, лісце. І ападае яно так самотна, так няўцешна. Такі настрой запанаваў зараз і ў яе душы. Перапісала верш начыста ў прадаўгавты альбомчык з палатнянымі вокладкамі. Падпісала – Наташа...

Але ўжо шостая гадзіна! Яна зразумела: сёння ён не прыйдзе. Чаму менавіта сёння, калі яна вырашыла, калі яна асмелілася?..

Чакаць больш не мела сэнсу. Наталля падышла да бібліятэкаркі, каб здаць часопісы, і сарамліва прыпынілася. Кабета была вельмі добрая, ветлівая. Вось і зараз яна глянула на дзяўчыну і міла спытала:

– Вы яшчэ штосьці хацелі?

Наталля асмелілася:

– Скажыце, калі ласка, ці ведаеце, што гэта за кніга – “Вянок”? Мо яна ёсць у вашай бібліятэцы?

– Ёсць. Гэта вершы. На беларускай мове. – Бібліятэкарка ласкава ўсміхнулася, як рабіла тое заўсёды, і дадала: Аўтар – Максім Багдановіч. Ён якраз учора падараваў гэтую кнігу бібліятэцы. Сказаў, што ад'язджае ў Беларусь. Відаць, сёння і з'ехаў...

Наталля была такая няшчасная: ніколі больш яна не ўбачыць яго. Баялася гэтага слова – **ніколі**. А яно быццам ажыло, несціхана гучала ў ёй, здзекавалася, стукала ў скроні, у сэрца, апанаванае тугою.

Толькі адно ратавала ад роспачы, крыўды, болю. Адно саграваў яе зараз: нарэшце яна трымае ў руках кнігу, пра якую марыла столькі часу. Ягоную кнігу. Нарэшце яна ведае, хто ён. Перагарнула вокладку, угледзела экслібрыс: выява лебедзя, што плыве па возеры, а ўдалечыні чарнее лес.

Адгарнула старонку, прачытала:

Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых
Кнігі, ўжо даўно забытай
Блёклы, высахшы лісток...

Усё ёй было зразумела. Хоць ніколі раней не чытала вершаў па-беларуску. Падавалася, што гэта да яе звяртаецца паэт са сваім пасланнем. Бо гэта ж яна так любіць старыя кнігі. Бо гэта ж яна так любіць паэзію. І так любіць Вільню. А кніга выйшла ў яе горадзе. “Вільня. Друкарня Марціна Кухты. 1913”, – прачытала дзяўчына...

Андрэй Сцепанюк



...калі прыйдзеш да мяне а мяне не будзе
не чакай а павер што я тут быў...

# Абыякавасць цемры

* * *

З таго што было застанецца толькі тое што будзе
Дзень будзе
Ноч будзе
Час будзе

Маладая дзяўчынка сваёй усмешкай зачаравала
Старога чалавека
мільганула белымі зубкамі
і ўцякла

Смерць будзе
сказаў Стары чалавек
Вецер будзе
адказаў яму Бог

## ПРЫЗНАЧЭННЕ АБО НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ

Маці ніколі не бачыла мора
Не памачыла ног у яго салёнай вадзе
і не сыпанула пяском у яго горла

Не ляцела маці ніколі на самалёце
і не ела марожанага ў цэнтры Варшавы
Яе аблокі засталіся на зямлі ў рэчаіснасці бельскіх краявідаў

Бацька верыў што калі пабудуе свой дом будзе жыць вечна
Забудзе жахі дзяцінства і рукамі свайго поту вырве з жыцця
ядро шчасця якое затопіць у маім сэрцы

Маё сэрца разарвалася калі спаўнялася трынаццаць
Нечакана прыйшоў званок і хата стала пустой
а на Раство ёлка пачала плакаць

Разам з бацькам я выйшаў са свайго жыцця
і пачынаючы змаганне за сваю душу
ніколі не вярнуўся

## Я ЗАБЫЎ ЦЯБЕ

Я забыў цябе
Не памятаю яркасці тваіх вачэй
не адчуваю звонкасці твайго голасу
Я забыў цябе

У паслядоўнасці дзён
здарылася немагчымае
Словы якія ляцелі з мяне да цябе
у адну хвіліну нечакана ўпалі на асфальт
і ператварыліся ў брудныя сцяжынкі дажджу
Я забыў цябе

Толькі ноччу прыходзіць сон у якім не пазнаю твараў герояў
Яны трываюць у глыбокім маўчанні
а на адну хвіліну паўстае пытанне

Ранкам пасля абуджэння
Я забыў цябе

* * *

Пачакай мяне не спяшай
не бяжы
Я ў ледзяную пару
падару табе кавалачак сонца
Апошнім яго промнем пагладжу твае вочы
і не застануся

Адпушчу цябе ў вечную дарогу
па якой будзеш бясконца кружыць

Гэта рай скажаш
Ты падарыў мне дарогу ў рай
Гэта пекла адкажу
Я падарыў табе дарогу ў пекла

* * *

Калі прыйдзеш да мяне а мяне не будзе
Застанься
Запалі святло
нагрэй вады і памый рукі

Гледзячы тэлевізар задумайся
над непазбежнасцю здарэнняў лёсу

У папярэднім жыцці магчыма мы ніколі не спаткаліся
не паглядзелі сабе глыбока ў вочы
і не пацiснулі рукі

А цяпер усё выглядае інакш
Нашыя думкі спатыкаюцца і ідуць рука за руку на кірмаш
Я адчуваю шум тваіх валасоў
ноздрамі хапаю пах твае парфумы
Сэрцам закалыхваю цябе да сну

Паглядзі як усё змянілася побач з намі
Таму калі прыйдзеш да мяне а мяне не будзе
не чакай а павер што я тут быў

### *НЕДАСКАНАЛАСЦЬ*

Баліць мне недасканаласць маіх рук
Пальцаў пяць плюс пяць
дзесяць толькі

А працы так многа
што да яе завяршэння можна было б выкарыстаць пальцаў
сто
    тысячу
        мільён

Пяць тысяч пальцаў як пяць тысяч апошніх тыграў
што змагаюцца за вызваленне ад нахабных паляўнічых
Дзесяць тысяч пальцаў як чарговы народ без Айчыны
які стаіць на мяжы выжывання і заняпаду
Мільён пальцаў як памяць пра загінулых без патрэбы
якія ніколі не знайшлі сваёй душэўнай краіны

І яшчэ толькі пальцы ног гавораць што яны таксама пальцы
а баліць іх зямная недасканаласць

## БЛАКІТ НЕБА

*Сцяпану, адышоўшаму сябру аднакласніку*

Зарасце дарога з Малочак у Бельск
Рассыплецца асфальт на дарозе з Бельска ў Беласток
Застынуць як скамянелыя сімвалы словы з Зямлі ў Неба

Калі пабудуеш сабе нябесны дом
прышлі пісьмо што табе ўжо добра
Паштовую марку з выявай сонца пакладу ў альбом
побач з гэтай восемдзесят першага
Яна набірае штораз выразнейшыя колеры
і свеціць у кожную гадзіну ўспамінаў

Напішы што з надыходам вясны
ляжам на зялёнай траве
будзем глядзець у неакрэсленую далячынь
і захапляцца блакітам неба

З радасці не заўважым што ўсё гэта ўжо было

* * *

З тугі вялікай ствараю бляск вачэй тваіх
і не ўмею адарвацца ад сэнсу твайго жыцця
У ім адбіваецца мая недаспеласць і недарослаcць

Пяцьдзясят пражытых гадоў
і адзін дзень да поўдня
трэба было дзеля зразумення трывожнасці слоў

Няхай будзе маладосць кажу
і з думкі апошняй няхай народзіцца
мэта дасягненняў маіх і недахоп мараў тваіх

Няхай здзейсніцца маладосць

* * *

Усё сканчаецца сіверным ветрам
 і недасяжнасцю загарэлых рук
Першая гадзіна чакання
і апошнія суткі перад адыходам

На карце здарэнняў
геаметрычныя рысы лёсу

Ты ў белай сукенцы
а я ў рваным халаце
Ты з празрыстай усмешкай
я ў пустой бутэльцы

Старыя мы і маладыя
вясёлыя і сумныя
чорныя і белыя

Ты жыццё а я смерць

* * *

Адным рухам рукі патушы сонца
У абыякавасці цемры будзем лепш бачыць
сваю неабходнасць

На канцы зямлі дзе сцяна лесу
зліваецца з чарнатой неба
разгорнем кніжку свайго маўчання

Учора гэта ўчора
заўтра гэта заўтра
Сёння прашу цябе застанься
і адным рухам рукі патушы сонца



Павел Гаспадыніч



...не кожны чалавек успрымае
часовую адсутнасць другога
як адпаведнік небыцця...

# Сяйво маладзіка

***Аповеды з нізкі “Цені і каханне”***

## Ветрык

...Так, на далонях застаўся вецер. Твой вецер, Т., твой асірацела-сцюдзёны сёння і гарэзліва-ўсмешны ўчора...

Так, тым часам, а можа і па-за асіметрыяй часу. Калі ўсе гадзіннікі, якія існуюць ці існавалі альбо яшчэ толькі нараджаюцца для наступнага існавання, усе яны чакана, але знянацку, усе разам парушылі рытм часабою, наладжанага ссівелымі тысячагоддзямі, ссівелымі, як самыя высокія вяршыні гор, наладжанага руху акрабатычнага ўзаемадзеяння між сабой. Вось тады і выпаў снег. Белы, як абрус смерці, і чысты, як цнатлівасць, нібыта здзек з недалёкага заўтра, у якім яму наканавана, як Снягурцы па-над вогнішчам, пераўтварыцца ў шэры, брудны, таму і больш заўважны, пракруставы ложак Часу. Ложак, прыбраны неахайнай і нядбайнай гаспадыняй Няволяй у вільготныя, спацелыя, запэцканыя смярдзючым подыхам

таго свету коўдры і тую ж самую пярыну... А той свет, ты кажаш, невялічкі цень ад ветрыку на маіх далонях.... І з крыху сарамлівай, няйнакш як быццам сама вымавіла аб смярдзючым подыху, з крыху разгубленай і, магчыма, змушана ветліва-бадзёрай усмешкай дакараеш пяшчотным поглядам прысутнасць маю каля цябе. А ці ж не ветрык у тым вінен? І на гэты раз ты цалкам слушна маўчыш, тым самым выносячы прысуд паза словамі: чарговая спроба зафіксаваць самаапраўданне як выпрабаванне лёсу сваёй непатрэбнай упартасцю. Дзеля чаго?

– Дзякуй за шчырасць...

Голас твой... твае гукі, намаляваныя пэндзлем – студзенем у ядрах стомленых вачэй... Словы, якія гукамі "ш ч ы р а с ц ь" намацваюць, быццам сляпы кіёчкам, сцяжынку да брамы, складзенай мной з маіх міфаў, складзенай толькі дзеля таго, каб хтосьці калісьці проста пагрукаў... Так... нават не просячы аб прытулку ці шклянку студзёнай вады... Яе звалі Т. – першая самарыцянка, хто ўбачыў на ўласныя вочы недасканаласць вяршыняў брамы, але хто пагрукаў: нясмела, ледзь чутна, амаль паўразы... І гэтага было дастаткова, каб я пачуў, а праз невялічкую дзірачку нарадзіўся ветрык...

...Шчырасць... паступовы падыход да незваротнага, да той акрэсленай трывогай і сумненнямі выспы адчаю, дзе між высачэзных і голых, пакручастых скалістых берагоў пачуццяў не ўваскрасае памерлае рэха, няхай сабе і дасюль гучнае і хвалюючае, як пах вераснёўскіх пожняў, паплавоў ці развітальнае курлыканне буслоў. Там, дзе ёсць шчырасць – там вякуе спрадвечны холад сцюдзёнага сполаху развітання. А ці не гэта здавён стрымлівала самых грахоўных ад ачышчальнай споведзі? Злодзеяў і забойцаў ад выратавальнай саломінкі раскаяння? Юрлівых і здраднікаў ад цвярозага одуму? Ці не сама шчырасць, дзіця горкай і супярэчлівай, апетай сотнямі філосафаў і паэтамі свабоды, штучна стварае свае законы, якія ледзь толькі паспелі выспець, як вокамгненна абмежавалі правы на ўласныя таямніцы, абвінавачваючы тых, нават святых, хто зберагае светлую памяць аб родных, ці некранутасць глыбіннай і свежай крынічнай думкі пра каханую, ці ахоўвае рэлігійныя запаветы свайго Бога як уласны свой сакрэт? Ці не таму інквізіцыя, шчырая і нехлуслівая, прыдуманая ў ліхаманкавым стане незабыўным Ігнаціем, прызнаючы сябе справядлівым пакараннем, помстай нябёсаў, найбольш мае заганаў, грахоў, пастулатаў, якія і вывелі яе на шлях да крывавага знішчэння і тэрору? Ці не таму...

..."Дзякуй за шчырасць..." Гэтыя словы прымушаюць сумнявацца і адстойваць маё права на адсутнасць, тую адсутнасць, дзе можна схавацца цалкам, нават "эга" незнарок згубіць, загадзя ведаючы, што ты яго ўсё роўна вернеш. Можа, незнарок, але вернеш. Як неабходнасць да твайго кола знаёмцаў, як дробязную дэтальку жыцця, складзенага з абставін, прычын і вынікаў. Таму і вернеш. Каб падацца сабе ж значнай, апрануць цёплае і ўтульнае футра змагаркі і выратавальніцы, а ўлетку накінуць лёгкую сукеначку сціплага Чырвонага Капялюшыка, сарамлівага казачнага героя, якому, па вялікім рахунку, ніякія Ваўкі не ўчыняць шкоду. Ты ідзеш далей і азіраешся. А потым папракаеш, што я адседжваюся, як той карась на дне, у сваёй адсутнасці. Яшчэ дадаеш, што мая схованка даволі празрыстая і разгледзець наяўнасць жывой істоты ў ёй – няма ніякіх праблемаў. Толькі вось хто табе сказаў – што я жывы? Відаць, не кожны чалавек успрымае часовую адсутнасць другога як адпаведнік небыцця. Як незваротны пошук

другім чалавекам першага ў іншым вымярэнні. Урэшце, як спробу вызваліцца, пакідаючы сляды ўяўнага эгаізму пасля сябе: “я шчаслівы там... мяне нічога не турбуе... нават тое, што мяне нідзе даўно няма...” Ты чуеш голас, ты па правілах грамадскай завядзёнкі намагаешся адпрэчыць мой прывід такой патрэбнай у гэтакіх выпадках слязой і... разумееш, што гэта не шчыра. Вось тады і робіцца мая схованка празрыстая і з’яўляюся я. Па праўдзе, ты мела рацыю: я знік толькі часова. Смерць была на адлегласці сямі нябёсаў. Я не падышоў нават да першага. І, ведаеш, не бачыў аніякіх анёлаў і херувімаў ці серафімаў. Нічога. Толькі покліч твой, намаляваны зімовым марозам на астылых без пальчатак далонях, дзе заснулы ветрык мірна ўсміхаецца...

Згадалася, як той самы ветрык колькі дзён таму, вырабляючы гарэзлівыя фінты – ну малое і ёсць малое! – абавязкова пасля кожнага кульбіту дзьмухаў на далоні. Тады я, прымаючы правілы гульні, асцярожна, вельмі далікатна ўжо, каб не дай Бог не параніць гарэзу-гуляку, сашчэпліваю далоні... Ветрык як быццам крыўдзіцца, злоўлены ў пастку, і ціхутка, танюсенька ды звонка, нібыта ў бязмоўную сцюдзёную зімовую ночку раз-пораз нешта сваё шэпча ўва сне задрамалая дуброва, плача. Слёзы яго – такія натуральна дзіцячыя, чыстыя і крыштальныя, звонкія і халаднавата-асвяжальныя, што вусны міжволі цягнуцца да рук... І вось, калі адна далонь пакрысе, як мага больш павольней, стараючыся не пашкодзіць дзівосны скарб, размешчаны ўсярэдзіне амаль вакуумнай прасторы, плаўна падымаецца ўгору, тым самым разганяючы паветра звонку – утвараецца крыніца новага ветрыку... А той, твой вецер, адчуўшы блізкае сабе стварэнне, што напоўніцу бавіцца воляй і асалодай гармоніі адзіноты, рэзка і нахабна, не зважаючы на рызыку спапяліцца і растаць назаўсёды, імчыць да невядомага пакуль сябрука, які і не падазрае пра існаванне сабе падобнага... “Не кожны... успрымае часовую адсутнасць... як адпаведнік небыцця”... А ветрыкі? Як у іх? Не маючы думак і словаў, тым не менш яны куды больш дасведчаны наконт сапраўднасці і ілюзорнасці адсутнасці, а тым больш пра найвялікшую магчымасць страціць сябе, сустрэўшы аднойчы іншага. Таму і “каханне” ў дачыненні да ветрыкаў амаль роўнае смерці. Аднак сяброўства, відаць, магчыма як “вечны пошук страчанага сябе ў іншым, а дакладней, у іншым вымярэнні”. Хаця ёсць і варыянты, і таямніцы, і нябачныя чалавечаму воку прыкметы існавання тых жа ветрыкаў, на якія не ўздзейнічаюць законы чалавечага ўспрыняцця прыроды ці... ветрык сам і ёсць нейкі закон, даўні і непарушны, які ўплывае на чалавека? А кім прыдуманы? І не дакапаешся вось так адразу, калі не адкажаш пэўна і без усялякіх пытанняў, хто прыдумаў цені кахання? Хто напісаў найвядомейшы раман Сусвету: Ён + Яна і іх адсутнасць? Многія нават не задумваюцца: Бог. А хто ён? Абсалют Шчырасці? Першы і Апошні Закон? Уладар Сусветаў? Невядома... Бо супярэчнасць тваіх паводзінаў, *лю*бая, на першую прыступку ўзводзіць Лайолу. А што за прыступкай? Часам і сапраўды верыцца, што той, каго называюць Богам, зноў такі, паводле тваіх пачуццяў, зменлівых і прыцягальных... Як каменьчык знікае ў глыбіннай да бясконцасці зеўры прадоння, так і ты: я ніколі не зведаю, не дазнаюся, не даведаюся: калі і куды ўпаў каменьчык? Ці наогул упаў? І верыцца, і не верыцца ў гэты бясконцы палёт, бо на мой зямны розум цяжка ўявіць нават касмічны прастор, бясконцы і разнастайны, а не тое што нейкае там бяздонне. Але ж яно ёсць!!! А хто яго стварыў? Тваё каханне? А яго

тады хто стварыў? Ветрык? Ну а яго? Подых, кажаш... Аднаго, а потым, і другога сэрца. Вядома, я магу спытаць...

"Не трэба" – ты ўсміхнулася, і мая згадка паблякла, ажно пакуль памяць пра той выпадак не выкрасліла сама сябе. А выпадак усё роўна застаўся ў мінулым. Хочаш таго ці не: нам далі прасторы, пэўную волю, і рэдкія ўсмешкі вясёлкі, – карыстайся, стварай і атрымлівай асалоду. А, вось яшчэ што: год ад году побач з намі назапашвалася адсутнасць. Цяпер я ведаю, што ад пачатку стварэння ўсяго існага адсутнасць і была якраз першакрыніцай прастораў, волі і вясёлкі. Пакуль Вялікі Будаўнік не прыдумаў выбудоўваць свет з цаглінаў, на якіх таемным знакам свяцілася, зіхацела першае слова: "Каханне". І толькі пасля гэтага ўзнікла сонца і птушкі, дрэва і вада, звяры і чалавек, што ўсё разам адсунула адсутнасць на "запасныя рэйкі" ІСНАВАННЯ. Дарэчы, лёгкі ветрык "ка" і "ва" спалучыў адно, і цяпер я на самой справе разгубіўся, дзе каханне? дзе існаванне? І што ёсць сэнсам? Хоць, не выключана, і тое і другое ёсць зусім аднолькавае і непазбежнае для ўсяго і кожнага: лёс.

Мы падыходзім да непрыкметнага і шэрага сярэднестатыстычнага, паводле ўсіх магчымых і немагчымых паняткаў грамадскай думкі, будынка. Праз хвіліну ты ўжо схаваешся ў ягоным абыякавым, але цёплым улонні. Праз хвіліну я пакірую да метро. А пакуль яшчэ жыве тое імгненне, завіслае нерухомым камячком, вельмі падобным на адзінокую птушку ў вышыні недасяжных нябёсаў, імгненне паміж тваёй і маёй хвілінай, якое кампенсуе недалёкую адсутнасць абодвух амаль адчувальным напаўненнем, нечым горкім, прыкрым, клейкім. Гэта і ёсць маўчанне. Дакладней – смак маўчання. Рэцэптары маіх адчуванняў таксама моўчкі праглынаюць усялякую непатрэбную салодкасць і мягкасць перадразвітальнай непаўнавартасці вечара, бо вядома, што салодкае – шкодна. Ды пані Маўчанне чамусьці спалохалася ўласнай нематы і як быццам імкнучыся даказаць найперш самой сабе, што яна не пасіўная ўдзельніца меланхалічна-сцюдзёнага фэсту, абмаляванага настроямі вечаровых ценяў і аздобленым так і не вымаўленымі словамі пра каханне, яна дорыць нам ветрык, які належыць (ён заўсёды належаў) мінуламу...

– Дзякуй...

Сняжынка, пакаштаваная ветрыкам, была падобна да мініяцюрнай балерынкі, якая ў вогненным запале снежнага натхнення вырабляла шыкоўныя піруэты, рызыкуючы спаліцца дашчэнту. Аднак ветлівы і паслужлівы ветрык прапануе выбраць яго ў якасці партнёра па танцах, і сняжынка, радасна пасміхнуўшыся, згаджаецца. Ветрык закахаўся ў яе. Ветрык шалее ад яе. Ветрык раўнуе яе да зор і ліхтароў, дахаў будынкаў і машын, шапак і вопратак людзей, нават да волкай і слізкай зямлі. Ветрык моцна кахае яе, таму і страціў пачуццё рытму і адчуванне неабходнай для сапраўднага мастацтва адлегласці... Сняжынка, здавалася б, толькі прысеўшы табе на асветлены незвычайным, дзівосным святлом марозных прыцемак, што апранулі цябе ў тайну чараўніцтва і варажбы, на твой асветлены твар, каб крыху адпачыць, і.. не выратавалася ад захмялелай жарсці згубіўшага самога сябе ветрыка...

...І надышлі хмары. І ўсчалася завея. І мароз ашчэрыўся лютым воўкам ды распачаў сваё паляванне. І толькі тады, калі цябе з абыякавасцю пустаты паглынула сярэднестатыстычная шэрая непрыкметная будыніна, вецер уцяміў наступствы сваёй фатальнай гульні з кволай істотай. І не было ў

яго моцы пераўтварыцца ў ахоплены шалёным полымем зніч, і таму ён заплакаў, не ўваскрэсіўшы тую, хто і не нараджаўся. А неўзабаве ён ізноў стаўся бяскрыўднай, хоць і свавольнай істотай, спазнаўшы адваротны бок кахання, а не глыбінную сутнасць узаемнасці ў ім...

Пераможна надыходзілі цені. Раз-пораз той-сёй птах пералятаў з даху на дах чарговай сярэднестатыстычнай будыніны. А вецер, паблукаўшы па кішэнях маёй дублёнкі, схаваўся ў далонях, смяротна напалоханы марозам, які ўжо ўшчыльную падабраўся да яго.

...Трэба ісці... І я пайшоў.

...Так, на далонях застаўся вецер. На гэты раз ён сустрэў сябра. На гэты раз ён адчуў мастацтва адлегласці. На гэты раз ён не баяўся. Хіба што... маіх далоняў?

– Дзякуй і табе, – варухнуліся замерзлыя губы, – за празрыстае маўчанне...

Поўня ўважліва ўглядаецца ў раскрыжаваныя бледным святлом ліхтароў і падхопленыя марозам словы, прызначаныя зусім не для вымаўлення.

## Сяйво маладзіка – душа твая...

Пакутаваў, нібыта ў ліхаманцы. Расшпіляе адзін гузік, другі. Рукі дрыжаць. З жахам паспявае адзначыць, што далоні цяпер інакшага колеру – заўсёдная бледнаватасць, смяротная бялюткасць нават на “лініях жыцця” ператварылася ў пунсовасць, а дзе-нідзе ганарлівымі баравічкамі павыскоквалі пухіры. І булькаюць, нібы ціхенька перамаўляюцца паміж сабой вясковыя бабулькі. Сыкаюць, патрэскваюць, нібы на патэльні падгарэлыя лустачкі хлеба. І растуць, растуць, растуць... “Ці аслепнуў? Ці так яно і ёсць: ужо не бачна пальцаў, а хутка я сам знікну, як качар пад куляй забойцы-паляўнічага, у кожным з гэтых пухіроў-бурбалак”. Думка працяла яго перуновай маланкай, пасяліўшы ў душы вогненна-чырвоны грабеньчык сумненняў і роспачы.

Пакутаваў і адчуваў празмерны для яго боль, выціснуты з пазачасся раскрыжаванай, цяпер непадуладнай яму ўласнай душы. Крык, стогн, рык. Раней ягоная метафізічная субстанцыя амаль ніколі не нагадвала пра сябе, і здавалася яму няйнакш як прытоенай у глыбіні цёплай (чаму цёплай, сам не ведаў) бездані жывой істотай з паралельнага свету, ці сарамлівай паненачкай-маладзёнкай, якая ад кожнага погляду мужчыны чырванее, чырванее, чырванее. Затое ўжо такая паненачка ўволю дае разгон сваім самым вычварэнскім фантазіям з сяброўкамі. Гэта было раней. А цяпер, напалоханая да вар’яцтва тая самая паненка нагадвала хутчэй раз’ятраную хамаватую вясковую самадайку з азызлым тварам нішчымнай алкагалічкі, якая праз сваю працавітую, брудную, смярдзючую, нямытую гадамі, спацелую адтуліну ірвецца ў знешні свет. А далей што? Мэта адна ў яе – выжыць. Інакш і не можна. Хіба што трываць яшчэ цяжар уласных грахоў у замкнёнай прасторы чалавечага цела... Таксама і ён – імкнецца з зямнога канкрэтывізму ў абстрактную бясконцасць, прарываючыся праз безліч тэлефонных “ту – ту – ту” ці “ту-ту-ту” па ўсіх каналах сувязі; скрозь шоргат, візгат, грукатанне колаў; скрозь зіхоткія агні на рэкламных плакатах з выявамі прастытутак разнастайнага гатунку і вырабу, што рэкламуюць нібыта парфуму і панчохі, майткі ці швэдры; скрозь здзіўленне, абурэнне, нянавісць, захапленне, прызнанне, слёзы, пакаянне, забойства, пакаран-

не; скрозь выбухі і аварыі, скрозь вайну і пахаванні, скрозь цяжарнасць і растанне, скрозь атручванне і зоны, скрозь малітвы і падаткі, скрозь плагіяты і ахвяраванні, скрозь непагадзь і тапельцаў, скрозь сонца і брэх сабак, скрозь паляванні і вечнае нязменнае: “Ты мяне паважаеш?” Самае з усяго сакральнае, значнае, глыбіннае пытанне, шчыльнае як паверхня смятаны ў жбанку і празрыстае як кропля слязы дзіцяці... У ім усё, што было і што будзе. Толькі цяперашняга няма. Таму і павага, што здолеў уцячы з цяперашняга, таму і Пан ты, і Гаспадар, і Бог. Вядома, адказу не патрабуецца ў тым выпадку, калі можа прысутнічаць у ім нават намёк на адмову: “Ты мяне паважаеш?” Вось і душа цягнецца да гэтай глыбіні, вось і ён, неўсвядомлена амаль ушчыльную набліжаецца да прывабнай мяжы... А між тым зямля з самадайкамі і зброяй, гвалтаўнікамі і рамантыкамі, машынамі і дрэнным настроем у непагадзь насамрэч плоская. Датуль, роўненька і бясспрэчна, пакуль не ўсвядоміцца розумам, адарваным ад праблем планетарнага маштабу, не ўсвядоміцца глыбіннае і спракавечнае, самае істотнае, што толькі можа быць: “Ты мяне паважаеш?”

...Што ж ён з’еў на вячэру? А калі нават і атруціўся, хаця чым? Перакана    ны, што не адгэтуль стан “занадта лёгкі для глыбіні, (занадта цяжкі для вышыні), занадта цэласны, каб падавацца ў які-небудзь бок”, як сказаў паэт. Такі стан бывае. Канечне, бывае. Незалежна ад колькасці раскрывання    ў ротавай адтуліны і памераў уціснутай туды прадукцыі падтрымання жыццядзейнасці. Менавіта так, бо жыццё, а ніхто іншы, дзейнічае, прымушае да дзеяння. Праўда, тое скіравана часам агрэсіяй дзеяння на яго самаго, ну і што? “Назад кінеш – наперадзе знойдзеш”. Правераны ўласным досведам прынцып садамаза. Амаль. Дык вось: пахарчаваўся ён, як звычайна, салатай з гуркоў і памідораў і вельмі тлустай катлецінай. Падсалоджанай “белай смерцю” гарбаткай “замачыў” увесь нескладаны рацыён. А што было потым? Няйнакш прывалокся нахабнік, беспрынцыпны нягоднік Марфей, і заваліў яго на абедзве лапаткі. Ніякай рады не даў. І былі яму відзежы: на руках, ягоных уласных руках, з кожнай секундай усё выразней выяўляліся пасланні з апраметнай – булькатлівыя велізарныя пякучыя і агідныя пухіры. Ён павінен знікнуць у іх, у кожным з іх...

Пакутуючы, ён прыгадаў яе. Першае знаёмства. Кампліменты і першы пераможны воклiч задаволенага самца на развітанне: “ДА ЗАЎТРА!” Дарма. Бо заўтра апынулася ў яго жыцці, быццам краля з інтымнымі паслугамі, вельмі хутка. Насуперак яго жаданням яно сказала: “Вазьмі мяне!” Прасцей простага. Ён адмовіўся, праўда, пагадзіўся трываць ягонае існаванне побач. І тады ўспомніліся словы яшчэ аднаго вядомага пісьменніка: “Вечнасць – гэта хвіліна, якая толькі што мінула”. Так, Іван Данілавіч, ён цалкам падзяляе Вашыя думкі. Другое спатканне скончылася неабавязковым дажджом, які ўзнагародзіў яго прастудай. Саплівячы таемна ад яе, ён усё ж такі на вялікі свой сорам атрымаў заслужаны ганарар – пацалунак. І толькі калі яны развіталіся, дакумекаўся да простай ісціны: пацалунак, і праўда, ганарар (прынамсі так казалі яе вочы, ці толькі падалося?) за добра напісаны артыкул на актуальную тэму...

– Сяйво маладзіка – душа твая...

Яна пацікавілася: а ці не ведае пан аўтара гэтых цудоўных радкоў? Ён адказвае – менавіта ТАДЫ адказвае, бо цяпер ён ужо адказаў – аўтара, на жаль, не ведае. І адразу думка: а чаму на жаль? Калі ты не ведаеш паэта, ты не ведаеш і цяжару праклятага тысячагоддзямі натхнення, а значыць,

не думаеш, якім коштам даліся яму гэтыя радкі, няхай і напісаныя, “быць можа”, на адным подыху. І тады цябе не адварочвае ад унутрана гразкага і слізкага твора паэта, які толькі здаецца празрыстым і чыстым, прыгожым і цудоўным. Падумаць толькі: за гэтымі радкамі схаваны боль, сум, адчай, роспач, шчырае пажаданне згінуць праклятай каханцы ці сентыментальнае лялёканне з нагоды ейнай усмешкі. Увесь непамысны душэўны клопат ператварае красу мастацтва ў бяздонне чалавечай псіхалагічна няўстойлівай рэфлексіі. Увесь “сакрэт” генія – майстра па стварэнні звышчараўнічай красы – ніколі не трэба шукаць у скандальным жыцці стваральніка. Усё поруч з табой: у гэтых самых радках, настоеных на травах пакут і мазахісцкіх раненняў асколкамі разбітага ў юрлівым шале люстэрка. “Скандал” на паверхні. Ты адчуваеш? Тады спалі ўсе біяграфіі і сенсацыйныя новыя артыкулы пра аўтара, бо яны ўсе спрэс хлуслівыя і павярхоўныя, як прадмова графамана да сваіх твораў, якія ён так і ніколі не напіша, ды і не напісаў, па праўдзе. Яна смяецца, і дасюль яшчэ смяецца, не падазраючы, што на самой справе ён гатовы быў забіць невядомага паэта з-за бруду, які цяпер павінен адчуваць на сябе ён, працытаваўшы адзіны толькі радок. А яшчэ забіў бы таму, што вочы яе, як бы папракаючы, казалі адваротнае ўсяму перажытаму ім: а ты не маніш? Можа – ты аўтар радкоў? Апякло дыханнем ганебнага сораму за невымаўленае ёй. Абдало сцюдзёнай вадой, якая працадзілася нават праз шчыліны душы...

“...Я шпацырую па вячэрнім (пасля вячэры) горадзе. Насуперак трамваям – узыходжу на правады і, незаўважаны нават сабакам-бадзягам, апынаюся на праспекце Скарыны, пазбаўлены вольнай прагулкай ад даўнейшых зданяў спатканняў і пакут. Я цяпер проста там. Проста так. Бо ўсё простае і ёсць самым натуральным. Мінакі ветліва ўсміхаюцца, бо недзе сярод іх, а можа ў кожным з іх, вякуе вера: ты адна на ўсіх. На кожнага. Праўда, розная для кожнага паасобку. Розная па ўзросце і, так бы мовіць, сацыяльна-сваяцкай набліжанасці: маці, жонка, палюбоўніца ці цешча. Але нічога. Кожны на цябе прымервае сам сябе, не клапоцячыся пра твой уласны густ. Вечар у горадзе заканчваецца разам з сігналам эсэмэс. Націскаю. Чытаю: “на далонях тваіх гуляе вецер...”

Душа, маленечкая жабрачка, месціцца ў куды больш драбнейшым за яе чалавечку. І там пераўтвараецца ў пухір. Душа – гэта бурбалка, а не птушка, як некаторыя кажуць. Хіба сцярвятнік ці дзяцел – душа ягоная? Ці яе? Душа мае форму зямнога шара, які, як той пухір, хутка трэсне. Вось пабачыце. І ператворыцца ў плоскасць, без пачатку і канца, без нічога і без усяго...

На дысплэі мабільнага стварэння застыў неадказаны званок. За вакном зіма. Ліхаманка доўжыцца...

*Менск, 2006, 2015*



Таццяна Снітко



...Бачыш?..
Я не камень!..

# Сезонна-кішэннае

* * *

Калі-небудзь цябе не здзівіць
Ні тое, што сонца прыйшло з-за Заслаўя,
Ні чырвоныя ружы з-пад снегу,
Ні Каляды дваццатага траўня,
Ні прыбой акіяну ў зацішшы
І ні крохкасць Сусвету ў далоні...
Ні тое, што ты таксама імчышся
Побач з вершнікамі Пагоні...

* * *

Упрыгожышся летняй сукенкай напрыканцы траўня –
а там ракаўкі з Чорнага мора
Уратуешся курткай зімовай ад першых марозаў –
тут цукерка з мінулых Калядаў

Пакладзеш іх сабе на далоні, усміхнешся міжволі
пацалунку з мінулага году
І паслухаеш мора ці адчуеш каньячную слодыч,
на прыдатнасці тэрмін забіўшы

* * *

Самалёты, самалёты
цёмначы над намі...
Ды з паўночнага ўсходу –
на паўднёвы захад.
Ды зялёнымі агнямі –
сярод зорных мапаў,
ад Мядзведзіцы Вялікай
на двубой з вятрамі.

Што вам бачна?
Можа, з брызам
сонца на спатканні,
альбо месяца абрысы
растануць ад рання,
можа, птушкі не заціхлі
ды квітнеюць выспы?
Што ж, ляціце.
Ім вітанне
ад начы празрыстай.

І ад пушчы, і ад поля...
І ад турмаў, і ад волі...
Ад фрыланса, ад прыгону,
войнаў, міру і палону,
палітзэкаў, тунеядцаў,
прэзідэнтаў і дарадцаў,
ад уладаў, ад народаў,
прапагандаў, несвабодаў...
Карацей, ім вестка
ад паўночнага ўсходу.
Ад ваколіц Менска.

* * *

Заблукаўшы на двух берагах
У тумане, хмызе ды палетках,
Мы не бачылі, услед

Усміхаецца як
Незабыўная Папараць-кветка.

Хвалі часу і штормы жыцця –
Берагі набрынялі слязамі...
Мы не чулі купальскае рэха ў снах,
А яно ўсё блукала за намі.

Скрозь муры, гарады, акіян.
Скрозь рэжымы, заслоны і візы...
Падарунак ад Папараць-кветкі табе –
Пацалунак салёнага брызу!

Паглядзі, як над безданню міль
Ад Гудзону да свіслацкай хвалі
Срэбракрылыя птушкі
Ідуць на пасадку
Па бялюткіх нябесных скрыжалях...

* * *

Я ніколі не знікну.
Я проста згублюся
Паміж морам і небам,
Паміж лісцем і верасам
Там, дзе ты нікуды не сыходзіш у скрусе,
Там, дзе я не плыву да наступнага берага.

Я заўжды буду побач –
Між сонцам і месяцам,
Між мінулым і марамі,
Між радкамі апокрыфаў.
Раскажу, што чакае
Вось за гэтымі хмарамі
Па сакрэце,
па кроплі,
па косках апострафаў.

Перакрэслю пункцірам.
Перашлю эсэмэскаю,
Абраз*а*мі-аблокамі,
Акварэллю паветранай...
Толькі той, хто пачуе,
Ізноўку падумае:

"Проста сны на фэйсбуку.
Легкадумна і ветрана!"

## ТЭМПЕРАТУРА МАРСА

Кропка. Замярзання.
Лоб-вуголле-прысак.
Камень бы растрэскаўся
На многа, многа, многа
Рысак.

Тэрмометры менскія хлусяць.
То не плюс 38 па Цэльсію.
Полюс. Мерзлата.
Вечны. Паўраспад.
Цэзія....

Тэмпература Марса.
Тэмпература Венеры.
Няўжо мы – пасярэдзіне?
А слупок – уверх, уверх, уверх...
Па рысках.

Тэмпература Меркурыя.
Сонца... гэта блізка...
Яно б'ецца сэрцам
Гарачынёй пад павекамі...

Бачыш?..
Я не камень!

Я лаўлю радыёхвалі.
Магнітнае поле Месяца.
Срэбны адліў іртуці....
Нават тваё дыханне
Недзе ў жывым эфіры...

Бо такія тэрмометры, Сонца...
У нас.
У Менску.

Аліса Бізяева



...У гэтым горадзе нікога няма.

Часам і сам горад знікае...

# Здані свядомасці

***Два апавяданні***

## Трамвайны сон

Як сустрэцца з чалавекам у Горадзе? Горад не самы вялікі на свеце, але тут так лёгка згубіцца, расцекчыся, як туман над ракой. І калі, здаралася, вы на імгненне лавілі на сабе ўчэпісты, як у коткі, стомлены погляд, то хутчэй за ўсё вы хударлявы мужчына, апрануты ў кашулю і пацёртыя джынсы, і на выгляд вам можна даць сорак год ці крыху меней, а насамрэч вам крыху болей.

Здаецца, людзі на вуліцах Горада ўмомант могуць стаць нябачнымі ці неадрозна падобнымі адзін да аднаго. Гэтая мяшанка з плячэй, ног і ботаў, патухлых незасяроджаных поглядаў, капялюшаў і акуляраў, раскудлачаных грывак – размытая, нібы краявід у бакавым акне бязглуздага ў сваёй хуткасці аўто, на фоне якога раптам засвеціцца, заляскоча надзея. Знаёмы жэст, яскравы агеньчык вачэй

– тое самае трымценне. Але кожны раз што-небудзь шкодзіць замацавацца гэтаму малюнку – погляд аказваецца не тым, а жэст змывае чорная хваля расчаравання.

Яна піша яму лісты, спадзеючыся калі-небудзь адаслаць іх. Вывучае на памяць асобныя фразы, каб, у выпадку шчаслівай сустрэчы, быць гатовай вымавіць адну з іх: «Мне вельмі хочацца адшукаць цябе. Няхай для гэтага давядзецца раскрыжаваць гэты горад на нямыя квадраты і зазірнуць у кожны ўтульны куточак – так нават лепш – вывучыць горад на памяць і пасяліць яго ў сваёй душы разам з табой, разам з людзьмі, якія кінулі мяне сам-насам з пагардай да самой сябе. Паспрабаваць зразумець цябе ці пераліць у цябе крышачку светлага нямога цяпла, якое струменіцца зараз па маіх каленях, абпальвае, не знаходзячы выхаду, – няшчаснае золата».

Часам паштовая скрыня, як вакзал правінцыйнага мястэчка а шостай раніцы... Колькі ні клікай па гузіку «абнавіць» – на неонавай шыльдачцы ўсё тая ж фраза: «Выйгравайце эксклюзіўныя падарункі ў конкурсе!» Што можа быць больш сумным, чым чарга словаў, якія натоўпам напіраюць, патрабуючы выхаду, якія ты ніколі не здолееш вымавіць таму, каму яны прызначаныя!

Яна прашывае горад наскрозь, яскрава-сінімі ніткамі свайго адчаю, употай пранізвае поглядам трохдзённую няголенасць мужчынаў сярэдняга ўзросту, цярпліва сканіруе, адсейвае і фільтруе цёмны вір гарадскога смогу. Яна чакае яго падчас нядзельнае службы ля касцёла святой Алены, кожны раз каля рознага ўваходу. Але памыляецца, тым больш цалкам магчыма, што ён не прыходзіць у гэты храм ніколі.

На лесвіцы метро ляжыць пяро, простае лёгкае галубінае пёрка. Яна хавае яго ў торбачку і спускаецца ў пераход. Ідзе насустрач плыні, прапускаючы натоўп праз матрыцу сваёй памяці. Але марна – кожны незнаёмы, кожны спяшаецца па сваіх справах.

Яна вучыцца прыглядацца да людзей і здзіўляецца, як абыякава ставілася да іх раней. Вось два мужчыны, гадоў 60-ці, сядзяць на лаўцы метро. У аднаго ў кішэні «Магнат», у іншага – «Форт». Калі прыглядзецца да іх загарэлых, высечаных сякерай твараў, па кожным з якіх, нібыта бульба па старой драўлянай скрыні, коўзаецца чырвоны нос, разумееш, што там унутры свядомасць сямігадовага дзіцяці. Размаўляюць пра нешта захоплена грувасткімі прытушанымі басамі – два неразлучныя прыяцелі і субутэльнікі, даверaныя ў справах адзін аднаго.

Ёй даводзіцца прымушаць сябе глядзець, прыглядацца, каб нешта ўбачыць, апошні час яна бачыць толькі ўнутры сябе: «Але калі ёсць я, то й ён ёсць, інакш немагчыма. А можа, мяне таксама няма?» – думае яна, трапляючы абцасам у шчыліну паміж пліткамі й раптам заўважаючы, што нехта падтрымлівае яе за локаць і заглядае наўпрост у твар, яна на імгненне асвятляе яго яскравым промнем цікаўнасці, але, не знайшоўшы таго, што шукае, апускае вочы долу.

Ля дзіцячай пляцоўкі сядзіць дзяўчынка і плача, не хаваючы слёзы, якія буйнымі кроплямі крапаюць ёй на калені. Яна праплакала вялікую празрыстую пляму на спадніцы, нібыта нажніцамі выразала літары сваёй журбы. «Няўжо так і будзе сядзець, пакуль не выплача ўсё. І ніхто нават не падыдзе, не пацікавіцца: Што здарылася». У гэтым горадзе нікога няма. Часам і сам горад знікае.

Побач на лаўцы ляжыць пяро, яна ўспрымае гэта як след і сядае побач, загадаўшы: «Пер'е, якое мне трапляецца – гэта тычкі на маім шляху. Калі я збяру ўсё – знайду цябе ці прынамсі навучуся лятаць». Не гледзячы на дзяўчыну, яна працягвае ёй хусцінку.

У маленькай вітальні Галерэі паставілі фартэпіяна, і добры барадаты мужчына ў шэрым пінжаку грае перакатныя, як перлінкі на падлозе, мелодыі вытанчанага Шапэна. Яна спыняецца і ідзе на гэтыя гукі, заходзіць у Кнігарню, бярэ па чарзе і гартае кнігі на мове, якую больш нідзе не разумеюць. Сёння ў сініх пераплётах. Трапляе на цудоўнае, нібыта ёй самой напісанае: «Белыя фіранкі нясмела цягнуліся з вокнаў да кветніка, быццам хочучы нарваць сабе трохі цюльпанаў на малюнак». Закрывае кнігу і азіраецца, нібыта адчуваючы, што нехта сочыць за ёй. Але няма нікога, апроч піяніста і самотнага прадаўца кніг, які занурыўся ў тоўсты чорна-белы часопіс без малюнкаў.

Калі-нікалі яна заплюшчвае вочы ды ідзе наўздагад, адчуваючы целам прыступкі й перашкоды, імкнецца зразумець прастору навобмацак і здалёк пазнаць скрыжаванні, па паху прыдумвае назвы вуліц. Вось спякотны Ліпавы гасцінец казыча нос кветкавым пылком, тут Трамвайны праезд пстрыкае і гудзе электрычным амбрэ, а за ім Хмельны перавулак дурманіць, перакатваючы ў паветры алкагольную пару.

Яна набліжаецца да адкрытай прахалоднай прасторы, якая патыхае свежай травой і мёртвымі матылькамі, адкрывае вочы і бачыць перад сабой нешырокую раку з берагамі, апраўленымі ў халодны камень. Сядае на край, мілуецца зеленню, якая прабіваецца з-пад бетоннага кракле, дастае з заплечніка пляшку вады і пусты нататнік.

Праз некалькі гадзінаў, калі на Горад паўпразрыстай прахалодай апускаецца вечар, яна кідае пісаць, змахвае са спадніцы пялёсткі і пушынкі, устае, хістаючыся, і павольна, нібыта вынырвае з глыбокага сну, ідзе. Насустрач ёй імчацца бадзёрыя мэтанакіраваныя роварысты, адзін няспрытна чапляе за рукаў і робіць дзірку ў тоненькім шоўку яе сукенкі.

Начны Горад адкрывае дзверы свайго зацішша. Спадзяванне то распаляецца, то згасае. Горад пераўтвараецца ў роднага, утульнага і гаварлівага колішняга каханка, які сядзіць насупраць за столікам кавярні над другім келіхам віна. Над горадам узнікае дах, вакол утвараюцца мягкія паўпразрыстыя, але даволі заўважныя сцэны.

Асветленыя мільгаючым жоўтым кароны дрэваў, пахі кавярняў і дарагіх рэстарацыяў, стомленыя, ярка нафарбаваныя жанчыны за столікамі, асуджаныя на доўгае чаканне. Каля ювелірных крамаў прыпаркаваныя дарагія аўто – ведаць бы, якое з іх належыць яму. Ён калісьці казаў, што больш не паважае нямецкія. Горад апускае заслону, апускае заслону Зямля.

Наступным днём усё паўтараецца. Раніцай яна набывае самы вялікі батон і ідзе гадаваць качак, стоячы на гарбатым мастку ў гарадскім парку. Качкі кідаюцца на хлеб, бараnуючы крыламі ваду, па паверхні якой маляўніча, як у японскім кіно, марудна плыве рознакаляровае лісце і некалькі шэрых з чорным пёраў.

Самотны мінак звяртаецца да яе з пытаннем, як прайсці да Тэатру. Але выгляд у яго такі, нібыта Тэатр у дадзены момант – зусім не тое, што яго хвалюе. Ёй патрабуецца час, каб зрабіць крок у гэтую рэальнасць, яна прарастае ў яе з цяжкасцю, як кветка скрозь расколіну ў асфальце. Яна расплюшчвае вочы і прамаўляе асцярожна: «Даруйце, што вы пытаеце?»

Чалавек нічога не адказвае, ён таксама прарастае зачаравана, прасочваецца. У яе рэальнасць, куды магнітным вірам зацягвае яго невытлумачальная моц-туга яе вачэй.

Твар дзяўчыны нечакана расплываецца ва ўсмешцы, і, слабеючы, яна ледзь не падае ў абдымкі немаладога мужчыны ў цёмна-сіняй кашулі.

– Прывітанне, – выдыхае яна, як у апошні раз, набліжаючыся, амаль кранаючыся яго няголенай шчакі. І сыходзіць, валочачы ногі, пакідаючы па сабе разгубленасць, туман непаразумення, водар мятных ледзянцоў і воблака вербены.

*10 жніўня 2015*

## Дзяўчына на прыпынку

На прыпынку стаяла дзяўчына. Яна хавала ў рукавы кароткага паліто азяблыя пальцы. На вушы, якія чырванелі па-над насунутым каўняром, на светлыя валасы падалі сняжынкі. Яе худыя, схаваныя танклявай карункавай бавоўнай калені дрыжэлі ад холаду. Я паглядаў на яе ўпотай, і ўяўляў, нібыта нябачныя малекулы белай пары, што вылятали з яе вуснаў, дасягаюць і мяне, і я магу адчуць ейны подых. Чамусьці гэтая гульня саграВала, і цяжкія думкі пра ранішняе непаразуменне з кліентам, пра кошт золата і паліва, пра курс даляру адпускалі. Я адчуваў спакой, задаволенасць і крыху шкадавання ад таго, што хутка прыйдзе яе трамвай і маё трызненне парушыцца. Такія дзіўныя здані заўсёды знікаюць, нібыта сны на світанку, ледзь паспееш мільгануць. І я з усёй моцы намагаўся не мільгаць, тым часам, калі бязлітасны марозны вецер дзьмуў наўпрост у мае вочы.

Яшчэ некалькі хвілінаў, і я ўжо дазволіў сабе думку, што паеду за ёй у любым выпадку, куды б яна ні накіравалася. Але падыходзілі трамваі, а дзяўчо не рухалася з месца. Не ведаю, колькі прайшло часу. З аднаго боку, мне падавалася, што хвілінаў дзесяць, але гэтыя хвіліны паўсталі такімі каштоўнымі і насычанымі, я фізічна адчуваў, як цягнецца час, як на маім падбароддзі адрастае шчэць, як з кожнай хвілінай я змяняюся і раблюся іншым чалавекам. З-за маіх ашклянелых вачэй глядзеў нейкі зачараваны вандроўнік у часе, здзіўлены падарожнік, звар’яцелы замежнік, іншапланетнік, які ўпершыню пабачыў гэты свет.

Раптам у новай рэальнасці мяне дасягнула думка, што трамваю мы не дачакаемся – ужо надта позна – што побач з намі на прыпынку больш няма ніводнага чалавека, што нават машынаў на вуліцы заўважна паменела і што, калі я зараз не зраблю нічога, дзяўчына змерзне на маіх вачах.

Я ледзь не ўдарыў сябе па ілбе і на хвіліну вярнуўся ў свой прагматычны, цалкам лагічны, нават крыху перфектыўны свет. Набраў нумар і выклікаў таксоўку. Назваў адрас і, хапаючыся за рэшткі маёй знікаючай свядомасці, наважыўся падысці да дзяўчыны. Яна стаяла з заплюшчанымі вачыма, на яе шчоках ляжалі дзве празрыстыя ільдзінкі. Я стаў побач, у галаве круціліся радкі Шэкспіра, і я неяк машынальна працытаваў іх уголас.

Дзяўчо схамянулася і павярнулася да мяне. У шырока расплюшчаных вачах я пабачыў не спалох (больш за ўсё я баяўся яе напужаць), а глыбокую тугу і смяротную стому, з невымоўным адценнем ці то падзякі, ці то цікавасці.

Таксоўка спынілася, распырскваючы брудны снег. Я адкрыў заднія

дзверцы і пастаяў, каб даць дзяўчыне магчымасць зразумець гэтае маўклівае запрашэнне. Яна зразумела, і спачатку нерашуча (але, мне падалося, толькі ў якасці жэста прыстойнасці), а потым спрытна з грацыяй коткі слізганула на задняе сядзенне. Я сеў побач з кіроўцам і спытаў, гледзячы на дзяўчыну праз люстэрка задняга віду: «Вам куды?» Адлюстраванне бездапаможна паглядзела на мяне, і я заспяшаўся прамовіць: «Варанянскага, 15».

Машына сарвалася з месца – інерцыя прыціснула да сядзенняў – зайграла радыё, і нас праглынуў “Рамштайн” начнога эфіру. Калі мы пад'ехалі да майго дому і я адкрыў дзверы аўто, дзяўчына з цяжкасцю расплюшчыла вочы і абапёрлася на маю руку так, нібыта развучылася хадзіць. Наверсе я крыху пакорпаўся з ключамі, пакуль дзяўчына ўжо без усялякага сораму тулілася да мяне – яна ледзь стаяла на нагах. Яна літаральна ўпала на банкетку ў вітальні, і мне давялося расшпіліць і сцягнуць з яе чаравікі. Я расшпіліў таксама паліто і аднёс бязвольнае паніклае цела да канапы ў гасцёўні – яна, мне падалося, важыла не больш за пяцігадовае дзіця – і выключыў святло.

Прачынацца не хацелася. У вокны драўлянай летняй хаты заглядала ранішняе сонейка, на кухні мітусілася і бразгала посудам мама. У паветры лунаў мядовы водар кветак і кавы з кардамонам. Я сніў сябе маленькім хлопчыкам, і мяне ажно падкінула з месца, калі пацёршы шчокі, каб абудзіць сябе, я адчуў на іх іголкі ўчорашняй няголенасці. Я прыгадаў падзеі мінулага вечара, накінуў халат і пашоргаў на кухню.

Яна была тут. Апранутая ў адну з маіх кашуляў, з валасамі колеру падсмажанага хлеба, забранымі ў вузел на патыліцы, яна цалкам натуральна глядзелася на маёй кухні, звычайны хаос якой цудоўным чынам пераўтварыўся ва ўтульную ўпарадкаванасць. Яна ўсміхнулася так кранальна, што маё сэрца падскочыла нібыта ё-ё на матузку і з helter scelter-казытаннем стала падаць долу.

Яна моўчкі паставіла перада мной кубак гарачай духмянай кавы і адзін для сябе. У гэтым была нейкая правільнасць, нават архетыпічнасць. Я адчуў, нібыта мы адзіныя людзі ў свеце. Яна вельмі будзённа села побач, падклаўшы адну нагу пад сябе, а другую прыціснуўшы да ножкі крэсла і паставіўшы на насок, і проста піла каву. Я прыглядзеўся да яе завушніцаў, гэта быў не лазурыт, як я падумаў спачатку, а тапаз, які вельмі пасаваў да колеру яе вачэй.

Дзяўчына заўважыла, што я ўтаропіўся ў яе шыю, і правяла рукой па скроні, заправіўшы пасмачку валасоў за вухам. Яе пальцы былі вельмі доўгія і прыгожыя, з каротка падстрыжанымі пазногцямі. Я заглядзеўся на гэты малюнак і пашкадаваў, што пад рукой няма камеры.

«Дзякуй», – прамовіла дзяўчына хрыплым ці то ад доўгага маўчання, ці то ад учарашняга надвор'я голасам, і пакуль я лавіў у сваёй галаве адгалоскі гэтага металічная гучання – як вясло па вадзе, як дождж па даху, як флейта ветру на чайным дамку – устала з крэсла. Я аўтаматычна дапіваў каву, заўважаючы, што яна менавіта такой моцнасці і салодкасці, як я люблю, і сам ніколі не трапляю ў гэтыя ідэальныя прапорцыі, штодня, як маньяк, шукаючы па розных кавярнях, але там перасмажваюць, там не дасыпаюць, там не даліваюць вады, ці я сам сапсую каву, дадаўшы крыху больш цукру, чым трэба, і ніколі-ніколі яшчэ ў мяне не атрымалася такога бездакорнага напою.

Я насалодзіўся апошняй кропляй ідэальнай кавы і пайшоў шукаць

дзяўчыну. Яна ляжала на канапе, павярнуўшыся тварам да сцяны, а мая бездакорна адпрасаваная кашуля вісела на спінцы крэсла. Я працягнуў руку, але не наважыўся дакрануцца да яе пляча. Я асцярожна сеў побач на край канапы і пацягнуўся галавой, каб зазірнуць дзяўчыне ў твар. Я ціха-ціха адхіліў белую пасмачку з яе шчакі... Дзяўчына салодка, як дзіцё, спала.

Я выйшаў на балкон, адкуль мне добра было бачна, як ювелірная лінія яе цела доўжылася пад прасцінай, запаліў і доўга-доўга глядзеў на гэты вытанчаны сілуэт, наталяючы сваю смагу прыўкраснага.

Дзесяць дзён дзяўчына была маёй маўклівай госцяй. Апроч «прывітанне» і «дзякуй» я не чуў ад яе ніводнага слова. Я прыходзіў з працы, і мы вячэралі на кухні, якую я больш не пазнаваў, бо яна завалодала ёй, напаўняючы прастору сваім уяўленнем пра прыгажосць. На вакне з'явіліся кветкі, на стале белы абрус. Штовечар яна гатавала свежы хлеб і дзіўныя стравы: смажаныя гагашары ў салодка-вострым соўсе, рознакаляровае сатэ з гародніны, рысавы пудынг ці кус-кус у скрутачках з вінаграднага лісця. Мы вячэралі седзячы побач і глядзелі які-небудзь фільм. Потым дзяўчына казала сваё званочкавае «дзякуй» і маляўніча шпацыравала ў бок гасцёўні, дзе адразу ж, на шэрай старой канапе засынала, пакідаючы мяне ў разгубленасці і адзіноце.

Раніцай мы пілі бездакорную каву, і я сыходзіў у майстэрню. Кіруючыся інтуітыўнай падказкай, я пакідаў перад люстэркам грошы і запасныя ключы.

Аднойчы я затрымаўся ў майстэрні, педантычная парачка надта доўга выбірала аправу для сваіх дыяментаў. Бегам я панёсся дахаты, прадчуваючы бяду, пазваніў у дзверы, і мая госця не адчыніла, як звычайна. Заміраючы, я адкрыў сваім ключом і ўвайшоўшы ў вітальню, убачыў, што стол на кухні сервіраваны па-іншаму: свечкі, келіх чырвонага віна, і толькі адна талерка на святочнай сурвэтцы колеру індыга. Сэрца мае забілася моцна і хутка. Маё жыццё, якое нібыта старое нямое кіно, у хуткай перамотцы перагортвалася перад вачыма, цяпер падавалася мне бязглуздай і тупой гульнёй. На ватных нагах, абліваючыся халодным потам, я пацягнуўся ў гасцёўню. Я нібыта толькі зараз заўважыў, што так прызвычаіўся да сілуэту Маёй Дзяўчыны, што не мог раней ацаніць яго каштоўнасць, яго безвыходную абавязковасць, яго жыццёвую неабходнасць. Я йшоў нібыта на эшафот, добра ведаючы і свой прысуд, і яго немінучасць. З кожным крокам адчуваў, што кайданы становяцца ўсё цяжэйшымі, а дарога да пакою падавалася мне даўжынёю ў тысячу міль. Я сціраўся аб падлогу, як пастэльны аловак, пакідаючы за сабой тлусты крывавы след. Нейкая таямнічая моц нібыта цягнула мяне назад і стрымлівала маю і без таго надта павольную хаду. Я ірваўся са сваёй клеткі, інстынктыўна, як сабака на ланцугу, не маючы ані веры, ані надзеі на ратаванне. Я ледзь не ўскрыкнуў ад новага болю на парозе пакоя, мне падалося, што лопнулі мае вочы. Але Мая Дзяўчына, загорнутая ў месяцовае ззянне, як у белую прасціну, ляжала тут, на канапе, як заўсёды павярнуўшыся тварам да сцяны... І валасы яе былі распушчаныя, яны мігцелі ў паўцемры, заліваючы святлом усё вакол. Замест кашулі на спінцы крэсла вісела сіняя вячэрняя сукенка. Цела маёй госці было ювелірна бездакорным, як каштоўны камень у аправе залатых валасоў. Ледзь стрымліваючы слёзы шчасця, я прылёг на край канапы і затаіўся, каб спыніць шалёны тупат капытоў па брукаванцы свайго спалоханага сэрца, каб не разбудзіць Маю Жарсць, Маю Смагу, Маю Прыгажосць і Маю Пяшчоту. Дзяўчо, якое раптам набыло столькі імёнаў,

працягнула за галаву руку з тонкімі пачуццёвымі пальцамі і прыбрала валасы са сваёй шыі. Я абняў і шчыльна прыціснуўся да яе, схаваўшыся носам у іскрысты пушок на яе патыліцы, па маім целе прабеглі дрыжыкі. Яна была гарачая і разняволеная, і яна спала. Не памятаю, што было далей. Далей было ўсё. І я абрынуўся ў нішто, напоўніўшы яе пустэчу маім уяўленнем аб прыўкрасным.

Раніцай я знайшоў на стале толькі дзве згарэлыя свечкі і адкрыты белы сшытак, на першай старонцы якога мітуслівым і крывым почыркам, вельмі падобным да майго, было напісана: «Мае жыццё – гэта дзяўчына, якая стаіць на прыпынку і чакае мужчыну, які не будзе ні пра што пытацца. Але ён не прыйдзе, бо я і ёсць гэты мужчына». Новы боль разумення пранізаў мяне, але ён быў настолькі моцны, што я амаль не адчуваў яго. І праз свае апошнія ў жыцці слёзы, праз тупат вестуноў непазбежнага, праз унутраны крык ваўкалакаў маёй тугі, праз мітуслівую агонію думак я намацаў тупы аловак і накрэмзаў працяг і канец: «Маё жыццё – гэта мужчына, які чакае дзяўчыну, якая не будзе нічога казаць зранку, але ён не дачакаецца, бо ён сам і ёсць гэтая жанчына».

*2 верасня 2015 г.*



Анхела Эспіноса Руіс



...Асцярожна!
Дзверы зачыняюцца назаўжды...

# Грэх мой першародны

* * *

Дождж, дождж першабытны
Ад самага пачатку часу, прасторы,
Мыслення.
Зламалася ноч, як забытая лялька,
І дождж ідзе.
Абяцаю табе небыццё
Назаўжды. На пяць хвілінаў,
На дзве гадзіны, на дваццатае стагоддзе.
Мімалётная вечнасць. Дождж.
Не абяцай мне сонца,
Якога тут няма,
І святла.
Раніца. Канец часу, прасторы,
Кахання.

Яшчэ адну хвіліну...
Дождж, дождж апошні.
Быццё.

## НАВАЛЬНІЦА

Дзяцінства, восень, вечар, навальніца.
Я без цябе, але я не адна;
Сакрэты раскрываюць мне жыццця,
Фон Гётэ, гром, залева й бліскавіца.

Чытае Лота ўслых мне твой адказ,
Няўзнак і час наіўнасці міне,
Я ціха плачу, гнеўны вецер дзьме,
Баліць мне сэрца сёння першы раз,

І юны Вертэр мне распавядае,
Што восень міласэрная даволі;
Нашмат цяжэй вясною паміраць.

Яго, я бачу, Лота не кахае,
Як не кахацьмеш ты мяне ніколі.
Зіма настане – мушу я трываць.

## ДЗВЕРЫ ЗАЧЫНЯЮЦЦА

Паветра цяжэйшае на пустым месцы,
Дзе калісь ляжалі ружы
У памяць аб тых, хто сышоў
На пустым месцы.
Кветкі ніколі не павінны ляжаць
Пад зямлёю,
Без святла, без будучыні,
Паміраючы заўчасна,
Нашмат раней, чым настане
Апошні ўздых.
Асцярожна! Дзверы зачыняюцца назаўжды.
Тыя, хто застаўся...
Тых разам з сухімі пялёсткамі падхопіць вецер,
Якога няма пад зямлёю,
Бо паветра цяжкім зрабілася.

### ЧАРНАТА

Мяне ніхто не навучыў, што робіцца,
Калі гнеўныя хмары плямяць неба,
І не відаць ні зоркі, ні планеты,
А на двары прахалодна й самотна;
Калі дрымота ахоплівае галаву,
Імгла напаўняе сэрца,
І адказы змешваюцца з пытаннямі;
Калі губляецца ціхі, кволы ранак,
І паміж намі нешта адначасова
Здараецца і не здараецца.
Засталося ўстаць з падлогі,
Сціраць з сябе старажытны пыл,
І прайсці свой шлях да канца,
Хоць павольна, хоць у цемры.

### MOURIR POUR DES IDÉES

Казаў мой дзядзька па мячы
(Хай яму зямля будзе пухам),
Што паміраць за ідэю можна й павольна.
Выглядае гэта так, нібы жывеш спакойна,
І нікуды не спяшаешся,
Як нармальная, адэкватная авечка,
А ідэя ўнутры цябе расце
І забівае цябе патроху,
Пяшчотна, салодка, але настойліва,
Як дасведчаны каханак.
Так не станеш волатам, відавочна,
Для шмат каго будзеш толькі крывадушнікам,
Але яны памруць раней за цябе,
А ідэя будзе жыць у тваёй галаве.

### ЛІСТАПАД

Зіма, як белы павук,
Апаноўвае вокны старажытнымі ўзорамі,
Вусны крывёю ды болем,
І сэрцы абыякавым холадам.
Які люты час лістападаўскі
Для закаханых!
Жарсць ідзе спаць, і прачынаецца
Свядомая, разумная муза.
Лістападзе, ты – жнівень паэтаў!

### ВОСЕНЬСКІ ПАРК

Каханы: гібель ты мая, маё паветра
Я дыхаю табой, удыхваю цябе
Я лісце, што віхор твой восеньскі нясе
Каханы: гібель ты мая, маё паветра
Марозны твой уздых атрутаю заб'е
І буду крозай я, і буду шэптам ветру
Каханы: гібель ты мая, маё паветра
Я дыхаю табой, я дыхаю цябе.

### СНЕЖАНЬ

Прачнуўся снежань, снег не прыпазніўся.
Мяне віхор халодны падхапіў,
Душа ўздымаецца без успамінаў,
Я вольная – асанна на зямлі!
Снег падхапіў і грэх мой першародны,
Дзіўлюся ў захапленні, як дзіця,
Я чыстая – асанна на вышынях!
Бо снег жыве, а ты – ужо вада.



дэбют

Марыя Маляўка



...у грамадстве лічыцца нормай,
каб інвалід сядзеў дома...

# Жывая рыба

***Апавяданне***

Раз на месяц мы з Наташай ездзім у супермаркет. Каля нашага інтэрната ёсць толькі адна крамка саўдэпаўскага тыпу, што ў народзе абазначаюцца як "быдлашоп". З півам і пельменямі ў выглядзе асноўнага асартыменту. Наташа кажа, што да майго з'яўлення ў інтэрнаце траціла там процьму грошай на няякасныя прадукты. Цяпер з маёй дапамогай яна купляе ў "Кароне" запас на месяц: мяса, крупы, сыр, яйкі, цукар, гарбату....

Наташа не бачыць. А яшчэ ў яе ДЦП і адна нага карацейшая за другую – хадзіць хутка не можа. Аднак вучыцца на юрфаку і жыве тут, у Мінску, адна, без родных.

Мы паволі рухаемся з прадуктовым вазком паміж стэлажамі. Наташа трымае спіс пакупак у галаве. Плануем, куды ісці.

– Ну ты расказвай пра ўсё, што бачыш.

– Наташа! – стагну я. Як растлумачыць невідушчаму

чалавеку, што ў звычайным гіпермаркеце така-а-я колькасць тавараў... – Злева гарошак, ананасы, справа сувеніры. Зараз кіруем да гарэлкі.

– Ой не, нам туды не трэба! – смяецца Наташа. У яе на твары камічны хітры выраз, як заўсёды, калі яна жартуе.

– Давай у кулінарыю па мяса, потым у гародніну.

– Давай.

Падыходзім да вітрыны з мясам і фаршамі, я чытаю назвы і кошты. Наташа звяртаецца да раздатчыцы:

– Дайце, калі ласка, “Дамашні” паўкіло.

Звяртаецца трохі ў пустату. Яна толькі прыкладна вызначае, дзе стаіць чалавек за прылаўкам. Я не размаўляю з людзьмі замест яе і наогул не раблю за яе ўсё, каб не грузіць сваёй апекай. Нам абедзвюм з самага пачатку было зразумела, што гэта нікому не трэба.

Наташа – змагар за раўнапраўе інвалідаў у грамадстве. “Трэба не пасадзіць інвалідаў на дапамогі, а даць ім магчымасць самім сябе забяспечваць”. Хоча мець тыя ж правы і абавязкі, што і ў звычайнага чалавека. Ставіць у прыклад Еўропу. Без усялякага палітычнага кантэксту, проста ведае людзей адтуль і канстатуе, што інваліды там – зусім іншыя людзі. Жывуць актыўна, нечым цікавяцца, і гэта лічыцца нармальным. “А ў нас часам самі бацькі праз свой клопат замыкаюць дзяцей у чатыры сцяны. Хочуць аберагчы ад варожага свету. Абслугоўваюць ва ўсім, баяцца адпусціць на крок. У выніку дзеці не ўмеюць жыць самайстойна, усталёўваць кантакты з людзьмі. У нас увогуле ў грамадстве лічыцца нормай, каб інвалід сядзеў дома. Задаволіць фізічныя патрэбы – і ўсё, што яшчэ трэба? З-за гэтага і самі інваліды не імкнуцца неяк развівацца. Навошта, калі ўсё зробяць за цябе? Мне, як правіла, цікавей паразмаўляць са здаровым чалавекам, чым з інвалідам”.

Некаторыя, расказвае Наташа, бунтуюць і нават уцякаюць з дому. Спрабуюць адваяваць права на самастойнае жыццё. “Гэта рэальна вялікая праблема”.

Нагрузілі да паловы вазок. Ідзем уздоўж прылаўкаў кулінарыі ў адваротным накірунку.

– Справа салаты, злева кансервы, яйкі, маянэз, жывая рыба...

– О! Жывая рыба? Я вазьму пару карпаў.

Адчуваю нейкае брыдкае смактанне пад страўнікам. Мне заўсёды нядобра пры выглядзе жывой рыбы. Шкада яе, бачыце... Але гэта глупства нейкае, вядома. Няхай Наташа бярэ.

Дзяўчына ў фірмовым аранжавым фартуху падыходзіць з сачком, каб вылавіць для Наташы карпаў.

– Сярэдненькіх.

Карп выслізгвае. У дзяўчыны вясёлы настрой, як быццам гэта нейкая гульня.

– Ай-ай! Зараз вось гэтага.

Гляджу трохі збоку. Камок у горле падскоквае ўгору.

Карпаў, завязаных у пакет, кідаюць у вазок. У момант падымаецца ванітная хваля, арганізм выходзіць з-пад кантролю: дрыжаць рукі, зводзіць твар. Хочацца кінуцца ў куток, дзе ніхто не бачыць, і сціснуцца як мацней, каб сутаргі не маглі курчыць рукі і ногі.

Чапляюся за край вазка і паціху штурхаю яго наперад. Трымаюся як мага далей ад пакета, што злёгку ўздрыгвае. Наташа ідзе побач. Стрымліва-

юся з усёй моцы, але на твары, мабыць, усё відаць. Добра, што Наташа не бачыць. Яшчэ шмат чаго трэба купіць.

Нарэшце падбіраемся да выхаду.

– Калі ты не вельмі стамілася, можа, сходзім яшчэ за булкамі.

Вагаюся:

– Ты ведаеш... Прабач, проста не дужа добра сябе адчуваю.

– А, тады ўсё. Пайшлі на касу.

Сорамна і крыўдна за недарэчную слабасць. Хацелася выканаць шопінг да канца.

На касе ў гэтую пару чарга змейкай. Марудна цягнецца час. Выкладваем на стужку. Падчас аплаты тавару пакет падскоквае і б'ецца па ленце. Камок у горле рвецца на паверхню. Сціскаю горла рукой. Якое ідыёцтва!

Калі выходзім, ужо цёмна. Холадна, б'юць дрыжыкі. Наташа выклікае таксі.

Хутчэй дадому, легчы, схавацца пад коўдру.

Чакаем яшчэ хвілінаў дваццаць. Холадна.

У машыне трохі адпускае. Гучыць не самы дрэнны расейскі шансон.

Таксіст дапамагае данесці сумкі да ліфта. Згружаем усё на кухні. Пытаюся ў дзвярах:

– Ты разбярэш сама? Мне трэба трохі паляжаць. Ведаеш, проста... Гэта тупа, але са мной бываюць такія рэчы. З дзяцінствам нешта звязанае, мабыць. Мне бывае дрэнна ад выгляду жывой рыбы.

Наташа адразу сур'ёзнее, як заўсёды, калі сутыкаецца з чужым болем.

– Дык чаму ж ты не сказала? Я б не купляла...

– Не, нічога. Гэта проста мая неадэкватная рэакцыя... – заўсёды не ведаю, як растлумачыць далей.

– Канечне, ідзі паляжы. Я разбяруся.

***

Выпадак, што ўсплываў у памяці пры выглядзе жывой рыбы ў прамысловых басейнах, быў зусім абсурдным. І ад гэтага яшчэ больш брыдкім. Расказваць яго не хацелася.

Канец 90-х. Невялікі гарадок на поўдні Беларусі здаваўся змрочным, як быццам там заўсёды быў перадвячэрні час – гадзінаў чатыры-пяць вечара ў асеннюю пару. Хоць, вядома, было і лета, і шмат сонца. Але запомніўся гэты самы няпэўны час сутак, калі здаецца, што ўсё святло свету выпілі, а дабратворная цемра яшчэ не прыхавала голае няўтульнае наваколле.

У Паўднёвай Беларусі асаблівы клімат: вільготны, з дажджамі, вятрамі і буйнай расліннасцю. Каля нашага дома быў сквер, каля старога касцёла – вялікі сад. Акацыі, гнуткія, як змеі, страшэнна разгойдваліся ў вецер. Забудова нашага квартала вялася на месцы былых габрэйскіх могілак. Перакопваючы агарод, тата пару разоў знаходзіў чалавечыя косткі. Не казаў пра гэта маме.

Пераехаўшы сюды, мы сутыкнуліся з дзіўнай планіроўкай дома. Яго можна было абысці па коле з пакоя ў пакой. На гарышча вяла лесвіца з кухні праз квадратны люк. Пад домам быў вялікі падвал – цэлы цокальны паверх. Мы бегалі туды па вузкіх цагляных прыступках і гулялі ў хованкі. Мабыць, бывала і весела. Аднак пасля праз шмат гадоў сніліся нейкія сутарэнні, прыкрытыя дошкамі, куды трэба трапіць праз цесную

д'ябальскую шчыліну. Пачуццё здушанасці прымушала прачынацца і зрываць коўдру.

У той вечар мы з мамай і братам вярнуліся з горада. Мама па дарозе купіла жывых карпаў – іх заўсёды прадавалі з машыны. Цяпер яны ляжалі ў тазіку на кухні. Брат быў у дрэнным настроі. Гэта добрага не абяцала. Тата быў дзесьці далёка. На працы за мяжой, відаць.

Брата я баялася. З маленства ў яго была загадкавая нервовая хвароба – прыступы некантраляванай лютасці, сутаргі, парушэнні маторыкі. Мясцовыя дактары разводзілі рукамі і прапісвалі валяр'янку.

А ў мамы была пухліна. Дактары таксама недаўменна падымалі бровы, а бабуля бедавала, што "зусім загубяць дачушку". Менавіта тады ў кутку за грубкай завёўся Страх. Ён вылазіў звычайна па начах, а часам пад вечар, а яшчэ накідваўся праз скажоны ад злосці братаў твар. Аднойчы, калі на маміным ложку з'явілася пляма крыві, Страх выскачыў і пачаў малаціць ледзяной дубінай па галаве.

Мама адужала, але Страх чамусьці не спяшаўся знікаць. Аднойчы брат растоптваў на падлозе камяк снегу, а я ўчапілася за мамін халат: маўляў, як нам наладзіць нейкі парадак у доме? Але мама прыклала палец да вуснаў:

– Т-с-с! Не чапай. Няхай робіць, што яму хочацца. Я прыбяру. Ён жа хворы. Нельга яго прымушаць.

Аказалася, што нельга нічога рабіць таксама і тады, калі ён здзекваецца з нас, круціць маме рукі, кідае камяні ў сабаку. Біць мяне яму не давалі (калі раптам здаралася няшчасце яго раззлаваць) – мама прымала ўдар на сябе, падоўгу супакойвала, улагоджвала. Аднак усе іншыя яго жаданні былі законам. Мы абслугоўвалі яго, імкнуліся нічым не раздражняць. Але ўсё роўна я была ўпэўненая, што аднойчы ён раззлуецца і кагосьці з нас заб'е.

Але тады ўвечары ён пашкадаваў рыбу. Я шкадавала таксама, хто з дзяцей не шкадуе? Але ад яго шкадавання зрабілася брыдка. Бывала, ён пачынаў шкадаваць мяне пасля таго, як пакрыўдзіў, і гэта было страшэннае прыніжэнне. Тым больш што яго шкадаванне належала прымаць з ліслівай усмешкай. Тады ён круціўся каля мамы і ныў, разрываючыся паміж двума пачуццямі: жалем да рыбак у тазіку і сорамам за свой жаль.

– Ну што, у акварыум іх пасадзіць? – жартам спыталася мама.

– Не-е-е... Не хачу... Не ведаю...

Мне было моташна, рабіць урокі зусім не атрымлівалася. Употайкі я пабегла на кухню і падліла карпам вадзічкі. І там раптам паліліся слёзы – брыдкія, недарэчныя, пякучыя ад сораму. Рыбкі глядзелі круглымі вачыма, цяжка дыхалі і маўчалі. Яны былі цалкам у руках капрызнага тырана, які вызначыць, жыць ім ці не. Я стрымгалоў кінулася ў каморку, зачынілася і затрэслася ад плачу.

Бліжэй да ночы ўсё ж была аддадзеная каманда адправіць карпаў на патэльню. Ад паху смажанай рыбы мяне страшэнна ванітавала, кружылася галава. Брата я не магла бачыць.

***

Я выйшла на кухню. Наташа корпалася з ужо амаль разабранымі пакупкамі. Дапамагла ёй распіхаць прадукты па паліцах халадзільніка і згарнула пакеты.

Наташа пагладзіла мяне па плячы. У невідушчых людзей асаблівая сіла дотыку.

– Я не буду больш купляць рыбу, калі табе дрэнна.

– Не, нічога. Проста я не павінна так рэагаваць.

– Ну, усё роўна. Будзеш гарбату?

– Ага.

Наташа ўключае электрачайнік. Мы сядаем за металічны стол. Кухня агромністая і трохі нагадвае цэх, аднак у астатнім даволі ўтульная. “Толькі памер якраз для інвалідаў”, – жартуе Наташа. Яна дастае кубкі і пальцамі насыпае заварку. Я заліваю кіпнем. Залівацьяна ўмее і сама – спачатку мацае кубак, потым трапляе туды струменем.

– У мяне рулет ёсць.

– Даставай.

***

– У твайго брата інваліднасць?

– Так.

Ён быў нашым тыранам, а мы – закладнікамі. “Сапраўды?” – пытаецца Наташа. Вось і я пра тое ж. Ці не быў ён закладнікам сваёй хваробы таксама? Ён быў безабаронны перад ёй, не ўмеў з ёй змагацца. Яму патрэбна была дысцыпліна, матывацыя да працы над сабой, самастойнасць, нарэшце. Улада над іншымі і ўседазволенасць разбураюць асобу. Тым больш дзіцячую. Каб справіцца з наступствамі, патрэбны доўгія гады.

***

У Наташы скончылася гарбата. Яна цягнецца па чайнік.

– Трэба падліць.

Я ўскокваю, каб перахапіць у яе чайнік, і тут жа б’ю сябе па руках. “Стоп! Сядзець! Хопіць лічыць яе бездапаможнай. Яна – самастойная незалежная асоба. Паважай гэта”.



## Лі Хэ



…У злосці тыгр, вядома ўсім здавён,
Хвост, нібы сцяг, ускідвае ў прасторы…

# Уначы сяджу і спяваю

### *ПРА ПУСТЭЛЬНІКА ДЖАО ШЭНА*

Складаная вельмі кухарства навука,
Аднак жа навукай валодае гэтай
Старэйшая жонка – карэнне бамбука
На блясе высмажвае добра нагрэтай.

І жонка сярэдняя з працаю цяжкай
Таксама спраўляецца, не наракае –
Таўчэ яна рыс таўкачом, і, як яшма,
У ступе той рыс калярова іграе.

*Пераклад*
*Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА.*

***Ад перакладчыка:*** Лі Хэ (790 – 816) – кітайскі паэт; з трагічнасцю ягонага кароткага жыцця і з празрыстай шчырасцю ягонай творчасці, магчыма, сугучнае беларускае ўяўленне пра лёс. Падрадкоўнікі вершаў і неабходныя для перакладу тлумачэнні падрыхтавала Алена Раманоўская. Я шчыра ўдзячны спадарыні Алене за дапамогу.

Зіма на парозе, і Джао Шэн рана
Яловае голле збірае, а сонца
І мох, і кару сагравае платана,
І меле праменне ў крынічных жаронцах.
У працы такой ці ў такой прагулянцы
Стаміцца не дзіва (пустэльнік калі вы!) –
Ён спіць, спачывае ва Ўсходняй альтанцы
Прыгожы, здаровы і вельмі шчаслівы.

## СЯНЬЖЭНЬ

Ператварыўшы мур у сяміструнны цынь,
Сяньжэнь – жыхар нябёс і вечны, і высокі –
Пільнуе фенікса і ў ранішнюю стынь
З Паўднёвых гор здзімае ўніз аблокі.

Алень з крыніцы п'е – ідзі і паглядзі...
І паглядзі, як рыба ў моры грае скрыта...
Не вер паэтам – тым, што ў час цара Удзі
Цвіценне персікаў уславілі нібыта.

## УНАЧЫ СЯДЖУ І СПЯВАЮ

Куды каня начны віхор панёс?
Заходні вецер кінецца ў фіранку...
Дзе Млечны Шлях – там і Вялікі Воз,
І я адна маркочуся да ранку,

І "Думы доўгія"[1] пяю, і лёс
Адзіны знае, што пяю для мужа...
Венера свеціцца на ўсходзе дужа;
Світанак набліжаецца, як сцюжа –
Конь шэры майго мілага панёс.

## НА ДРУГІ ГОД ДЖАНХЭ

Аблокі, вецер і пшаніца...
У Гуаньджуне світак шмат,
Якім ніколі не знасіцца,
А ў Гуаньдуне – акурат

---

[1] "Доўгія думы" – старажытны твор юэфу, прысвечаны пачуццям блізкіх людзей пры доўгім расстанні.

Няма чыноўнікаў, якія
Здзіраюць плату за наймо.
І бык пастаўлены ў ярмо
Араць камлыжыны цяжкія...

Сяляне тут сям'ёй вялікай...
Я сто манет прашу ў казны,
Каб шчыра заплаціць музыкам
За кветкі белыя вясны.

Ці з лесу дзікага, ці з неба
Дух Божы з'явіцца за стол
Паснедаць – вынікла патрэба...
І апушчуся я на дол,

Вымольваючы даўгалецця...
І ў гэты час, як бык арэ,
Сем зорак  перакруціць вецер,
Чан Э  прыгожая памрэ.

### ПЕСНЯ ПРА ЛЮТАГА ТЫГРА

Убачыўшы тыгрыны ладны след –
Суціш хаду сваю і хваляванне,
На дзіду плюнь і выкінь арбалет,
І болей не хадзі на паляванне.

Бо ён – скала, бо камяніца ён,
Умацаваны спрытам год каторы...
У злосці тыгр, вядома ўсім здавён,
Хвост, нібы сцяг, ускідвае ў прасторы.

І з мора Ӯсходняга славуты Хуангун,
Што мог звяроў уціхамірваць сэрцам,
Нясе ў душы спалох, нібы валун –
Баіцца ноччу з тыграм тым сустрэцца!

А нейкі просты чалавек Ню Ай,
За тыдзень не адолеўшы хваробу,
Стаў тыграм і хапіў тут цераз край –
З'еў брата роднага, нібыта антылопу.

---

[1] Сем зорак – сузор'е Вялікага Воза.
[2] Чан Э – у кітайскай міфалогіі багіня Месяца.

І тыгру Беламу, які з травы
Жыве адной, Ню Ай прамовіў крыва:
“Ты меч драўляны, а не баявы...
Ты гром фальшывы, бо грыміш маўкліва...”

Пачуў Канфуцый ля Тайшань-гары
Жаночы плач аб горы-адзіноце:
“Сям’я мая прапала без пары
У пашчы лютай, уікластым роце!”

Чыноўнікі (о, палахлівы люд!)
Загад улады: “Знішчыць людажэра!” –
Не выканаюць, хоць забіся тут...
Баяцца ж тыгра лютага, халера!

пераклады

Галіна Пасвятоўская



…вершаў болей не будзе
гэта апошні
для цябе…

# Промні сусвету

*Пераклад з польскай мовы Алеся ЕМЯЛЬЯНАВА-ШЫЛОВІЧА*



## *НАВОШТА Я ГРУДЗІ ПАМЫЛА…*

навошта я грудзі памыла
і расчэсвала кожны волас асобна
перад вузкім люстэркам
пустыя мае далоні
і ложак

тонкае лязо ночы
рассекла шлюбны пярсцёнак
ён вісіць быццам ветах
пад цяжарнай суквеццямі яблыняй

вецер трэпле і рве маё цела
як накрухмаленую кашулю

жывот мой гладкі як ставок
грудзі мае быццам хвалі
лашчыць іх – лашчыць – лашчыць

дня святло ад знямогі п’яное
знойдзе вусны мае сухія
адстаронена з неахвотай
патаемна іх пацалуе – і сыдзе

## БУДЗЬ ПОБАЧ СА МНОЮ...

будзь побач са мною
бо толькі тады
мне не знобка

прастора дыхае холадам

калі я ўяўляю
якая яна невымерная
і якая я

тады мне патрэбна
сонца рук тваіх
два промні сусвету

я наноў прагну цёмнай любові

я наноў прагну цёмнай любові
любові якая знішчае
так
асуджаны
просіць смерці

о прыйдзі добрая смерць
будзь шчодрай як ноч у жніўні
будзь цёплаю
злёгку краніся мяне

колькі чую яе сапраўднае імя
столькі рыхтую сэрца сваё
да апошняга спыненага
ўдару

## З АКНА ЛЯКАРНІ

адсюль відаць пейзажы
выразаныя нажом
у студні сэрца холад
нерухомай вады
столь недасяжная
шкло

рукі – дзесяць бязвольных пальцаў
апушчаных абсалютна
непатрэбных нікому
сляпых

галубы злятаюць з аблокаў
і чэпкімі дзюбамі
адцінаюць пальцы мае
і ўзносяцца з імі бледнымі
мёртва-з'інелымі ў неба

## УБАЧЫЦЬ ЦЯБЕ ХОЦЬ РАЗОЧАК

я б хацела
убачыць цябе хоць разочак
разочак яшчэ
надвячоркам

я б хацела
пражыць хоць адно
а можа й два жыцці
каб пабачыць цябе

і той боль
які вынес мяне
на гарачы пясок

і той дождж
красавіцкай непагадзі

і яе што задыханая
ступае акурат
у мае сляды

азіраюся на раздарожжы
і крычу ёй
каб не смела прыйсці без цябе

## АПОШНІ ВЕРШ

вершаў болей не будзе
гэта апошні
для цябе
так я сказала
потым
маркай заклеіла ліст
і ўкінула
пляскатае прастакутнае сэрца
у падоўжную шчыліну скрынкі

цяпер усе асцярожна праходзяць
паўз скрынку з лістамі
і пытаюць
што гэта –
можа ў ёй
пасяліўся птах
бо лупіць скрыдламі ў скрыню
і ледзь не спявае

## З ГЭТКІХ НІТАК СПЛЕЦЕНА ЦЕЛА

цела маё звязанае з нітак
захаплення і болю захаплення і болю

я бачыла яго вычасаным з дрэва
бачыла ў хмарах
бачыла ў промні

ён біўся паўсюль маім пульсам
і дыхаў празрыстаю тканкаю лёгкіх

я касцёл
ах я несумненна гатычны касцёл
з тым высозным кровазваротам
дажджу

узнесеная над сабою
прагнымі вуснамі
п’ю прастору

### ЛЮСТРА

я п’яная ад прыгажосці ўласнага цела
глядзела сёння на сябе тваімі вачыма. і вынайшла
мягкія загіны плячэй зняможаную акругласць грудзей
яны хочуць спаць і паволі пярэчачы сабе скочваюцца долу.
ногі мае расхінутыя для цябе бясконца
па сканчэнні каторых няма таго
што з’яўляецца мной і па-за
мной пульсуе ў кожным лісточку і кроплі дажджу
я ўбачыла сябе быццам праз шкельцы тваіх вачэй
што глядзяць на мяне. я адчувала твае рукі на
цёплай нацягнутай скуры сцёгнаў
па загадзе тваім я стаяла аголеная
насупраць вялікага люстра а потым заплюшчыла
вочы твае каб не бачыць і не адчуваць
самоту майго расквітнелага табой цела.

### ПАД ДАЖДЖОМ ТВАІХ ПОЗІРКАЎ

Пад дажджом тваіх позіркаў
пагарда мая сунімаецца
у яе нутры жаданне дрыготкае
узыходзіць пяшчотай

твае вочы
навылёт прабіваюць панцыр усмешкі
цёплым дажджом
выплёскваючы мяне з мяне

### АПОШНІ ДЗЕНЬ ЖНІЎНЯ

подых майго каханага
як скура ў паўднёвага ветра
– тры гады таму –
рот засмяглы ад пацалункаў
рот цёмны як сэрца Нігерыі
мой каханы быў сэрцам Нігерыі

мы кахаліся жарсна тры месяцы
як чалавек і ягоны цень
мае пальцы ўраслі ў мяса ягонай далоні
мае грудзі спяваюць ягоным дыханнем
я ўзбівала белай рукою валасы на ягоным ілбе

а ўночы яго галава субтрапічнаю кветкай
зацвітала каля маёй
ён казаў пра лагодныя ночы Нігерыі
акіян які ліжа залатыя пяскі ўзбярэжжаў
і пра зоры што падаюць наўпрост у рукі
і пра пальмы з разгорнутымі як далоні лістамі
я слухаю не адрываючы вусны ад ягонай рукі

акіян адышоў ад мяне
пацямнелі ўзбярэжжы
і зоры патухлі – задушныя ночы нью-ёркскія
маё цела скалела
толькі раз-пораз вецер
на небе белым ад холаду
запальвае бязлітасныя чорныя сонцы

## ІДАЛАПАКЛОННІЦКІ ГІМН

на славу тваіх вузкіх сцёгнаў
і гнуткіх ног
я выводжу словы
са змрочных глыбіняў цела
стану ўхваляць цябе енкам болем
гукамі што не стануць мовай
будуць толькі пошумам голля
і шолахам дрэваў свавольных
ты той каго я прыйшла разуці
праз свяцілы памерлыя
неастылая і бурлівая
як зямля ўрадлівая

Барыс Сачанка



...вялікага дуба

без моцных каранёў

не бывае...

# Архетып роду

## *Да 80-годдзя з дня нараджэння Барыса Сачанкі*

*Падрыхтоўка публікацыі і каментары Галіны БАГДАНАВАЙ (САЧАНКА).*

### Радавод

*У кожнага народа, кожнай нацыі ёсць свой радавод. Ягоны пачатак карэніцца ў захінутай туманамі часу тканцы старадаўніх паданняў і легенд, але чым бліжэй да нашага часу, тым больш акрэсленымі бачацца падзеі, героі, асобы... Сёння асабліва востра адчуваеш, што наРОД мацуе РОД. РОД – гэта твае продкі і твае нашчадкі, і ты, той, хто сёння мае магчымасць успрыняць ад дзядоў, бацькоў і перадаць дзецям і ўнукам таемны код, архетып свайго РОДу. А значыць, свайго наРОДу. Бо наколькі моцны РОД кожнага з нас, настолькі моцны і наш наРОД.*

*Хтосьці, як Уладзімір Арлоў, Уладзімір Адамчык ды і некаторыя іншыя ўжо напісалі пра свой род. Хтосьці, як унук народнага мастака Беларусі Анатоля Бараноўскага Глеб Герасімаў складае генеалагічнае дрэва і штокрок робіць незвычайныя інтрыгуючыя адкрыцці. І каб зразумець і адчуць, што ж сёння ёсць наш наРОД, давайце пачнем з таго, што*

*кожны паспрабуе адкрыць для сябе і для тых, хто жыве побач, што ж ёсць твой уласны РОД... Я пачала з таго, што перачытала творы свайго стрыечнага брата Барыса Пятровіча і яго сына, маладога журналіста Алеся Сачанкі. А потым папрасіла напісаць успаміны сваіх дзядзькоў – Івана і Алеся.*

*"Пачуў, што на тым ранейшым, радавым месцы, якое аблюбаваў некалі наш дзед Мікалай, расце пасаджаная ім ліпа. Абгарэлую і здзічэлую яе новыя гаспадары спілавалі. Але дрэва было настолькі магутнае, таўшчэзнае, моцнае каранямі, што дае парасткі нават цяпер, ужо ў XXI стагоддзі" – напісаў Алесь, малодшы брат Барыса Сачанкі. Прызнаюся, я была ўпэўнена, што сімвал, дрэва жыцця нашага роду – дуб, той самы, на які падвешвалі арэлі, на якіх я, малая, гушкалася, узлятала да сонца... Але цяпер я думаю, што нашае дрэва – гэта ліпа, якую спілавалі, а яна адрадзілася, вырасла... У бацькі, Барыса Сачанкі, адна з самых упадабаных і крытыкамі, і чытачамі кніг называлася "Ваўчыца з Чортавай ямы". І вось унучка яго малодшага брата Алеся, юны скульптар Аляксандра Сачанка, вылепіла Ваўка, што глытае сонца... Дык можа, Воўк быў нашым таемным татэмам-ахоўнікам?..*

*Пасля смерці бацькі мой муж, Пётра Багданаў, напісаў ягоны партрэт – у звыклым для яго цёмным касцюме, з нейкаю надзвычайнаю тугою ў вачах... Той партрэт стаяў у нас у зале, а ля яго – пара бялюткіх самаробных буслоў... Потым малодшы наш сын Януш, Янка, у гадоў пятнаццаць напісаў дзедаў партрэт – у бялюткім адзенні, сярод гонкіх хвояў, з кніжкаю ў руках... І я падумала: кнігі – гэта як напамін пра лес, дзе вырас бацька, пра дрэвы, з якіх робяць паперу... А дрэвы – гэта тыя самы будучыя кнігі... І вось старэйшы наш сын Алесь напісаў карціну "Кола часу". Ён убачыў дзеда ўсмешлівым, у вышыванцы і ля выхаду ў той самы неспазнаны Белы свет, ля таго дрыготкага, пульсуючага касмічнага святла, з якога мы, магчыма, прыходзім у гэты свет і ў якое, хто ведае... можа, ператвараемся пасля смерці.*

*Мы, нашчадкі Сачанкаў, яшчэ не склалі свайго генеалагічнага дрэва, але, можа, збоку больш відаць, хто мы, адкуль, куды ідзем ці можа ляцім?*

***Галіна БАГДАНАВА, дачка***

## Барыс САЧАНКА

### Пад сузор'ем сярпа і молата

***Урыўкі з кнігі***

*Светлай памяці маці – Веры Міхайлаўны Сачанка*

**I**

Засталіся толькі ўспаміны...

Неаднойчы, асабліва ў апошнія гады жыцця свайго, яна, калі прыязджаў я дадому, у родную маю вёску Вялікі Бор, не-не дый загаворвала пра смерць. То, нібы між іншым, пакажа, у што хацела б, каб яе апранулі, як здарыцца тое, непапраўнае, то, бываючы на могілках, куды мы хадзілі з ёю адведваць бацьку і братоў, паглядзіць на мяне нейк задумліва, з сумнаю, горкаю ўсмешкаю на вуснах, і скажа:

– Во тут, дзе стаю, мяне і пахавайце...

І адвернецца, пачне выціраць ражком хусткі вочы...

А то, седзячы ў хаце і пераказваючы навіны, апавядаючы пра адзіноту, невясёлае жыццё ў вёсцы, раптам змоўкне і быццам ні з таго, ні з сяго ўздыхне:

– Папаляжыш тут, у етай хаце, вачыма ў столь, пакуль хто-небудзь з вас прые-

дзе з Мінска хаваць мяне... Ета ж ці блізкі свет... Трэба будзе тэлеграму даць, а вам машыну нейкую знайсці, сабрацца ўсім разам ды прыехаць. І нічым жа тады нікому не памагу... Самім давядзецца ўсё рабіць. Суседзяў і суседак хіба папросіце...

Але памерла яна не дома, у Вялікім Боры, а ў Мінску. Зусім нечакана. Ёй стала дрэнна, і жонка меншага майго брата, Алеся, сама медычка, паехала паглядзець, што з ёю. А даведаўшыся, што наша мама захварэла, прычым сур'ёзна, прывезла яе ў горад, каб пакласці ў бальніцу, абследаваць. І маці, пабачыўшы сваіх сыноў, нявестак, унукаў, узяла ды і памерла ў брата на кватэры. Уночы, з нядзелі на панядзелак, нікога не разбудзіўшы, ні пра што нікога не папярэдзіўшы, нікому нічога не сказаўшы...

Здарылася гэта якраз тады, калі мяне не было ў Мінску – быў за мяжою, у Парыжы: паехаў у складзе дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на Генеральную сесію ЮНЕСКА. Помню, прачнуўся я нібыта ад нейкага штуршка пад бок і пачуў нейкае слова. Не сваё, а чужое, з той мовы, якой не ведаю – ці то французскае, ці то іспанскае, ці то англійскае. Што яно значыла – я не зразумеў. І гэта мяне ўстрывожыла. Да самай раніцы я праваляўся ў пасцелі, але заснуць ужо не мог. Увесь наступны дзень – хмарны, дажджлівы – быў быццам сам не свой. Сядзеў ва ўтульнай, трохі дрымотнай зале на пасяджэнні Камісіі па культуры, слухаў, што гаварылі дэлегаты з розных краін, і да мяне ніяк не даходзіла тое, што яны гавораць. Гэтак жа было і калі я блукаў у час абеду, ды і потым па Парыжы – ніштo мяне не цікавіла, ні ў чым я не знаходзіў уцехі, ні на чым не мог засяродзіць ні свайго пагляду, ні думак. Неўсвядомлены, няўцямны непакой ахапляў мяне ўсё болей і болей...

Як толькі выпала магчымасць, я пазваніў дахаты, у Мінск. Трубку падняла мая меншая дачка Святлана. Першае маё пытанне было: што з маці? Я ж ведаў, што яна захварэла. Перад самым маім ад'ездам, здаецца, за дзень паведамілі, што ёй дрэнна. Святлана на маё пытанне нічога не адказала, хуценька перадала тэлефонную трубку жонцы. І я здагадаўся пра ўсё: маці маёй няма, памерла... І не памыліўся – з размовы з жонкай даведаўся падрабязнасці таго, што здарылася. Даведаўся я і пра тое, што маці, нічога мне не паведаміўшы, пахавалі, завезлі ў вёску, у Вялікі Бор, як таго яна і жадала...

Назаўтра я паехаў у Нотр-Дам, зайшоў у гэты адзін з самых вялікіх старадаўніх сабораў Еўропы, дзе, здавалася, пасялілася сама вечнасць, і паставіў там свечку...

Да звароту на Радзіму заставаўся ўсяго які тыдзень, і пражыў я яго ў одуме, небывалым дасюль утрапенні. Шкада было маці, а больш за ўсё таго, што не змог пабачыцца з ёю перад смерцю, пагаварыць. Хоць быццам і перагаворана было за жыццё амаль усё – а сёе-тое і не раз! – і ўсё ж, усё ж... Маці ні на хвіліну не выходзіла ў мяне з галавы, не пакідала ні ўдзень, ні ўночы, была са мною, дзе быў я, там была і яна. Іншы раз я нават чуў яе голас. Ды так жыва, наяўна, што аж ускідваў галаву, азіраўся: «Няўжо і праўда яна?..»

Мая маці нарадзілася не ў Вялікім Боры, дзе пражыла большую частку свайго жыцця, а ў Бабчыне.

– Сяло етае даўняе, – апавядала яна нам, сваім дзецям. – І багатае. Е там поле, е і лес. І школа – вялікая, ёй болей мо за сто гадоў...

(Ах, Бабчын, Бабчын... Падросшы, я неаднаразова бываў у ім – і тады, калі вучыўся ў Хойніках у школе, і потым... Быў я ў Бабчыне і тады, калі абрынулася чарнобыльская бяда і яшчэ жылі там, нічога не ведаючы пра высяленне, якое мелася вось-вось адбыцца, людзі, быў і пасля, калі Бабчын абязлюдзеў – бегалі хіба па вёсцы здзічэлыя, аблезлыя ад радыяцыі сабакі і каты, ды блукалі з вывадкамі куранят куры... Гэта была сапраўды вялікая, прыгожая вёска, якая акружана амаль гэтак жа, як і наш Вялікі Бор, старымі, пракаветнымі лясамі.)

Пражыла ў Бабчыне маці нядоўга. Яе маці, мая баба Надзя, аўдавеўшы, выйшла другі раз замуж. У Рудзеньку, што была кіламетраў за трыццаць ад Бабчына і кіламетраў за пяць ад нашага Вялікага Бору. Тут матчына маці нарадзіла яшчэ двойню – Паўла і Пятра. І памерла. Мая ж маці ў Рудзеньцы сустрэлася з маім будучым бацькам Камаровым Іванам (так нас завуць «па-вулічнаму»).



*Маці, Вера Міхайлаўна САЧАНКА.*

– Не ведаю, ці пайшла б за яго замуж, каб не адзін чалавек, – успамінала маці. – Ён мне проста нідзе праходу не даваў, так мяне хацеў. Нават у лесе, калі я ў ягадах была, напаў. Але я дужая была, вёрткая... Вырвалася, уцякла... Ён сватацца да мяне прыходзіў, але я адмовіла яму, выгнала з хаты. Айчым раззлаваўся: чаго я хачу? За пераборы дастануцца пасталы і аборы. Ну, я і не вытрымала, сказала: «Бо каб Іван Камароў пасватаўся, я пайшла б за яго замуж. А за етага бугая не пайду...» Іван, ваш бацька, заслаў сватоў... Згулялі вяселле, і я пераехала ў Вялікі Бор жыць...

Было тое ў калектывізацыю. Бацька майго бацькі, мой дзед Мікалай, быў багаты. Меў ён некалькі кароў і коней, больш за паўсотню авечак, поўны хлеў свіней. Ды і гусі, качкі, куры ў яго былі. Што ж да зямлі... Маючы трох дарослых сыноў і дзве дачкі, ён раскарчаваў даволі шмат дзялянак і расцяробаў, далучыўшы іх да таго поля і сенажаці, якія дасталіся яму ў спадчыну ад бацькі, таксама не апошняга чалавека ў Вялікім Боры. І, вядома ж, быў упісаны ў кулакі. Каб неяк выратаваць гаспадарку, ён пачаў тэрмінова аддаваць дачок замуж, жаніць сыноў. І адпісваць, дзяліць каму што. Але выратавацца ад наступу галоты не ўдалося. Спярша яго паспрабавалі ціснуць падаткамі, потым унеслі ў спісы на раскулачванне. У той дзень, калі забіралі кулакоў і нехацімцаў калгасаў, ён быў у лесе. Вярнуўся дахаты позна, і, даведаўшыся, што адбывалася ў вёсцы без яго, наладаваў торбу харчамі і ціхачом падаўся ў лес. Колькі ён там бадзяўся – дакладна ніхто не помніць. Але ад высылкі ў Сібір ён уратаваўся...

Бацькавы браты Васіль і Алёша, сёстры Анюта і Наталля запісаліся ў калгас. Запісаўся, трохі спагадзя, у калгас і дзед. Адзін мой бацька не паддаўся ні на якія ўгаворы. Як сказаў калісьці: «Гуртавое – чартавое, мне там няма чаго рабіць», так і трымаўся сваіх слоў. Непадалёку ад Вялікага Бору, на чыгуначнай станцыі Аўрамаўская, працаваў невялікі заводзік па апрацоўцы драўніны, пілавалі там дошкі, гнулі абады, рабілі калёсы. Мой бацька, спадзеючыся, што знойдзецца і яму там за што зачапіць рукі – была б шыя, а хамут знойдзецца, – падаўся туды. Потым, спагадзя год-другі, перайшоў ў леспрамгас. І паколькі меў хоць невялікую, але грамату, то яго прызначылі прыёмшчыкам. Людзі валілі лес, церабілі бярвенні, рэзалі дровы, складалі іх у шуркі, а мой бацька прымаў, запісваў, колькі хто і чаго зрабіў. Паводле яго звестак, у канторы налічвалі людзям грошы. Дома ён амаль не стыкаўся. Да світання пакідаў хату, на змярканні вяртаўся. Нават у нядзельныя дні і то яго рэдка можна было бачыць дома – то ён хадзіў у кантору, каб зверыць выпіскі, то на розныя нядзельнікі, маёўкі. Так што ўсю хатнюю гаспадарку вяла маці. Яна ж і ў гародзе ўсё рабіла, грады, бульбу палола і акопвала, і карову, свіней, курэй карміла, і, само сабой, калі нарадзіліся мы, дзеці, нас глядзела – абмывала, есці варыла.

Жылі мы на адным селішчы з дзедам. Да той хаты, што ў яго была, прыставілі чатырохсценку, злучылі яе сенцамі з дзедавай хатай. Зляпілі, вядома, і сваю печ. У 1931 годзе маці нарадзіла першага сына, якога назвалі ў гонар дзеда Мікалаем, потым праз два гады нарадзіўся Пятро, а яшчэ праз тры гады і я... (...)

Наша маці малою была ў Кіеве, ездзіла да цёткі, матчынай роднай сястры, якая жыла там. І не-не, дый успаміналa, што бачыла – чыстыя, выбрукаваныя дзікім каменем вуліцы, вялізазныя, у некалькі паверхаў, дамы, цэрквы з пазалочанымі макаўкамі і крыжамі, абразы, свечкі і цэлыя натоўпы людзей, што ў нядзельныя дні запаўнялі горад. Ехала ў Кіеў і з Кіева маці на падводзе, плыла на параходзе і вось засталося ў яе ў памяці, як ёй было дрэнна, кружылася галава, аж ванітавала.

Любіла маці і спяваць. Прычым, не нашыя, велікаборскія песні, а свае, бабчынскія, якім навучыла яе маці, наша баба Надзя. Бывала, як толькі сядзе прасці кудзелю, дык заспявае. Тоненька, няголасна, але вельмі ж душэўна, шчыра. Песні ў маці былі невясёлыя, хутчэй сумныя, нават панылыя. Мусіць жа, яны адпавядалі яе настрою, гаварылі, што на душы...

У хаце ажывала, калі вяртаўся бацька. Ён заўсёды што-небудзь прыносіў з лесу – то шапку суніц, то чарніц, а то і арэхаў. Іншы ж раз, улетку, і нешта жывое прывалачэ – вожыка, птушку ці зайчаня, лісяня... А то, здаралася, і торбу ўюноў – слізкіх, вёрткіх, аж у руку нельга ўзяць, ці кіслых, як шчавель, журавін, дзікіх яблык... Таму мы, дзеці, прыходу дадому бацькі чакалі, не клаліся спаць, пакуль ён не адчыніць дзверы, не зойдзе ў хату...

(...) Усе навіны ў хату звычайна прыносіў бацька. Ён бываў на людзях, з многімі сустракаўся. Прынёс ён і гэтую. І што яна незвычайная, мы здагадаліся адразу ж, як толькі ўбачылі ў хаце бацьку. Пайшоў ён, як заўсёды, раненька ў лес і раптам – і паўдня яшчэ не было – вярнуўся дадому. Задумлівы, аж нейкі чорны – бы зямля.

Маці – яна завіхалася ля печы, канчала парацца, – убачыўшы ў хаце бацьку, здзівілася не менш за нас, дзяцей.

– Што? – запытальна паглядзела яна бацьку ў вочы.

– Вайна, – ціха сказаў бацька.

– Такі пачалася, – хутчэй машынальна, чым усвядомлена прашаптала маці і заплакала, загаласіла. Ды так, як не плакала, не галасіла ні разу.

Мы, дзеці, нават старэйшы Коля, не ведалі, што такое вайна. А таму непаразумела глядзелі то на бацьку, то на маці. Па тым, як паводзілі сябе бацька і маці, здагадваліся – здарылася нешта страшнае, нават жудаснае.

Тады ж, трохі спагадзя, мы даведаліся і яшчэ пра адно не менш важнае: бацьку трэба разам з іншымі мужчынамі ісці на фронт, на вайну.

– А ці ж вернешся ты адтуль? – плакала, галасіла маці.

І ўвесь той дзень, вечар збірала ў дарогу бацьку – шыла торбу, складала ў яе бялізну, кружку, міску, лыжку, розную ежу. Час ад часу, задумаўшыся, адсоўвала ўбок торбу, уздыхала.

– Што я рабіць буду з вамі адна? – глядзела яна на нас, сваіх дзяцей, і слёзы ліліся, ліліся з яе вачэй.

Маці недарэмна турбавалася: дзяцей жа ў яе прыбавілася, нарадзіліся яшчэ двое – Іван і Грышка. Так што было ўжо нас у хаце пяцёра.

На вайну бацьку праводзілі ўсёю сям'ёй. Спярша да сельсавета, потым і за вёску, да крыжа, што стаяў, абчапляны ручнікамі, пасярод дарогі, непадалёку ад канцавых хат. Бацька ішоў не адзін, разам з ім ішлі на вайну і іншыя мужчыны, тыя, хто быў здаровы і прызнаны годным да службы ў войску. Іх, гэтых мужчын, таксама праводзілі жонкі, дзеці, маці, бацькі. Усе плакалі. Сёй-той нават галасіў, падвываў сам сабе, быццам расставаўся навечна, назаўсёды. Галасіла, падвывала і нашая маці... Аж з твару змянілася, збляжэла, непрыгожаю стала.

За вёскаю, калі параўняліся з крыжам, бацька раптам спыніўся, агледзеў усіх нас, дзяцей, нашую маці, і пачаў развітвацца: ababег усіх, кожнага пагладзіў па галоўцы, пацалаваў. Больш, як каля каго, затрымаўся ля маці.



*Маці й бацька – Вера ды Іван САЧАНКІ.*

– Глядзі тут... А я... Я як-небудзь пражыву, калі не заб'юць... А заб'юць, дык... Эх! – сказаў ён, махнуў рукою, у якой была заціснута ў кулаку сцягнутая з галавы шапка, і пайшоў, пабег даганяць мужчын, што ўжо, развітаўшыся, рушылі далей па дарозе, што вяла ў Хойнікі...

Маці ўпала ў пясок, доўга-доўга галасіла, аж валасы рвала на галаве...

(...) І пачалося ў нашай вёсцы новае жыццё, пад немцамі ўжо...

У тыя дні і зачасцілі госці. Найчасцей незнаёмыя, начныя. Як змеркнецца, дык і ідуць. Па адным, па два, а то і цэлымі кампаніямі. З вінтоўкамі і без вінтовак, у шынялях і ватоўках, і ў цывільным. Мужчыны. І ўсе, як адзін, ежы, адзежы просяць:

– Мамаша, нам бы покушать чего. Да и переодеться...

І маці, хоць самім нам асабліва няма чаго есці, дае ім што маем. Хлеб, вараную бульбу, яйкі. А то і сала сяму-таму адрэжа, і адзежу цёплую бацькаву раздала.

– Можа, і наш бацька дзе так у людзей просіць... Я каму-небудзь што дам, то і яму дадуць, – як бы апраўдваецца яна перад намі, калі начныя госці выходзяць з хаты, ідуць сваёй дарогай далей.

(...) У нашай вёсцы пачала арганізоўвацца паліцыя. Начальнікам над ёю стаў Іван Рачанка. Жыў ён ад нас праз тры хаты, а яго маці з бацькам і меншымі дзецьмі і зусім жылі побач, па-суседску. Быў ён маладзейшы за майго бацьку, меў дарослага брата. З выгляду чорны, што цыган, з пакляваным воспай тварам. І заікаўся, асабліва калі быў злосны. У паліцыю ўступілі яго бацька Яўхім і брат, здаецца, звалі яго Антон, і нейкі Сапаненка, што прыстаў у прымы да ўдавы, якая жыла ўбаку ад нашай хаты праз вуліцу. Вядома, паступілі ў паліцыю і некаторыя іншыя мужчыны, якіх я не ведаў. Што ж да Рачанкаў і Сапаненкі, дык я іх штодзень бачыў, нават калі сустракаўся на вуліцы, вітаўся.

Усім паліцаям далі вінтоўкі і патроны. Паставіўшы на гародах мішэні, паліцаі цяпер вучыліся страляць – якраз была восень, і людзей у полі было мала. Мы, дзеці, звычайна, калі пачыналася стральба, беглі за хлеў і, схаваўшыся за рогам, цікавалі за паліцаямі. Найлепш за ўсіх страляў Сапаненка. Яно і не дзіва – ён жа быў салдат, нават адзенне чырвонаармейскае насіў. У прымы ж ён прыстаў нядаўна – зайшоў у хату хлеба папрасіць, а ўбачыўшы прыгожую маладую ўдаву, ноч пераначаваў – і застаўся ў хаце жыць. Ён і вучыў астатніх паліцаяў, як трапляць у цэль.

(...) За туманнаю гнілой, вельмі гразкаю восенню непрыкметна зіма падваліла. Спярша скавала зямлю моцным марозам, як бы ў кузні яе на горне загартавала, потым неўзабаве лёг і снег. Шыбы ў нашых вокнах замураваў мароз. На падлозе было холадна, дзьмула адусюль сіверам. Мы ў такія дні найчасцей сядзелі на печы.

А маці сядзець дома не было як. Карміць жа нас неяк трэба было. Ды і адзя-

ваць, абмываць. Абула яна бацькавы боты, пранік, начоўкі з бялізнаю ўзяла, на сажалку пайшла. Мы, дзеці, адны дома засталіся.

Раптам адчыняюцца ў хату дзверы. Мы думалі – маці нешта забылася і вярнулася з сажалкі. Ажно... Мужчына невысокі, у салдацкім галіфэ, ватоўцы. На нагах – абмёрзлыя ледзяшамі чаравікі.

– Дома хто е? – пытае ён.

Старэйшыя, Коля і Пятро, як бач саскочылі з печы. Ды і я на прыпечак спусціўся: цікава ж было, хто гэта да нас у хату завітаў.

І Коля, і Пятро не пазналі бацькі. Ды і я таксама не пазнаў. Немагчыма было пазнаць у аброслым шчаціннем мужчыне, да таго ж апранутым нязвыкла, бацьку.

– Божа мой, родныя дзеці, і тыя не пазнаюць? – сказаў урэшце, як бы ўздыхнуў бацька.

Коля і Пятро кінуліся да яго, пачалі абдымацца, прыціскацца, цалавацца. Злез з прыпечка і я.

– А маці, маці дзе? – пытаў з трывогаю ў голасе бацька.

– На сажалку пайшла бялізну праць...

Здаецца, гэта сказаў Коля і мігам выскачыў з хаты – пабег клікаць маці.

І некалькі хвілін не прайшло, як маці была дома. Адчыніла дзверы, убачыла пасярод хаты бацьку – і не ўстаяла на нагах, асунулася там жа, на парозе. Аж начоўкі з бялізнаю, пранік з рук упалі.

Бацька кінуўся да маці, падняў яе на ногі. Але маці як непрытомная была. Глядзела на бацьку і шаптала толькі:

– Іван?

І відаць па ёй было – не верыла, што гэта ён, яе муж Іван. І дзе? Дома!..

Мінула трохі часу, і бацька, пераапрануты ва ўсё хатняе, звыклае, што падаставала са скрыні маці, памыўшыся і пагаліўшыся, сядзеў за сталом. Сёрбаў са смакам упрэлую ў печы капусту, заядаў яе крышанямі-тушонікамі і расказваў пра сябе, дзе быў, што з ім здарылася. А мы ўсе, баючыся не пачуць, прапусціць хоць слова, слухалі яго, верачы і не верачы, што разам з намі за сталом сядзіць зноў наш бацька:

– Ета ж не так далёка і адагналі нас ад дому тады, як мабілізавалі. Нашы адступалі, а немцы наступалі. Дык нам адзежу выдалі, дні два страляць павучылі – і ў бой. Першы раз я трапіў на ўзлобак лесу. Акоп сабе выкапаў, ляжу, чакаю. Аж бачу – веласіпедысты едуць. Ну, мы падпусцілі да сябе як бліжэй, а потым і секанулі па іх. Мусіць, чалавек з дваццаць забілі. А астатнія веласіпеды пакідалі ды ўцякаць... Другі раз гэтак на калону мы напалі. Калона ўрассыпную... Ну, а потым на нас некалькі разоў немцы нападалі. І з кулямётаў, аўтаматаў абстрэльвалі, і з гармат, самалётаў... Словам, нялёгка давялося... І гэтак з баямі мы адступілі аж пад Шчыгры... Людзі там жывуць бедна, не так, як у нас. Бульбу вараць нялупленую, як свінням. І гавораць так, што і разабраць цяжка. Літару «р» так і не навучыўся я, як яны, вымаўляць: «рябой», «ряжка»... Не, не магу я так... Ага, дык пад Шчыграмі тымі немцы як пачалі нас ціснуць – дзецца няма дзе. І артылерыя, і самалёты, і танкі... Некалькі сутак месца сабе нідзе ніхто знайсці не мог. Поле так снарадамі ды асколкамі перакапалі, што куды ні ступіш – ямка. Залёг я ў адну, мабыць, ад бомбы, бо глыбокая была. Ну і, зняможаны, праваліўся, як у прорву, у сон. Сутак жа чацвёра і на волас вачэй не замгнуў... Ну, а калі вочы расплюшчыў – салдата нямецкага над сабою ўбачыў. Стаіць ён з аўтаматам і етак пальчыкам паказвае, быццам сабаку маніць, кеб я, значыцца, уставаў, да яго ішоў. Што было рабіць? Устаў я, пайшоў да немца таго. А ён мяне, калі я наблізіўся, руляю аўтамата ў спіну, ды яшчэ і нагцаком пад зад. І пагнаў перад сабою па полі... Мо кіламетраў з пяць гнаў. І прыгнаў да нейкай пуні. Гляджу, а там такіх, як я, некалькі сотняў. Палонныя, значыцца... У той пуні мы пераначавалі, а потым пагналі нас некуды назад ад фронту. Да Старадуба – горад такі е – дагналі.

А там у лагер, за калючы дрот. Ледзь богу душу не аддаў. Але, слава богу, уцёк я адтуль. Два месяцы, хаваючыся ад людзей, дадому дабіраўся. Па начах, кеб немцы не злавілі, зноў у лагер не запраторылі, хаваючыся ў лясах, кустах... Начаваў у стагах сена. Можа, і раней дадому дабраўся, ды праз Дняпро ніяк пераправіцца не мог. Лодкі патапілі, ну а па вадзе ж холадна. Чакаў, калі Дняпро замерзне... А тады і перайшоў...

Бацька глядзеў на маці, на нас, сваіх дзяцей, і быццам сам сабе не верыў, што ён дома, у сваёй хаце...

(...) Ні ў паліцыю, ні ў лес, у партызаны, бацька не пайшоў. Акрыяўшы, апратаўшыся, уладкаваўся на станцыю грузіць на платформы лес, які нарыхтавалі на нейкія новыя патрэбы немцы. Потым, калі аднавілі, зноў запусцілі ў работу лесапілку, перайшоў на працу туды.

Вядома, Іван Рачанка не пакінуў у спакоі бацьку. Перастракаў, калі ён ішоў з працы ці на працу, а то і дадому, у хату прыходзіў, зноў і зноў вёў размовы пра паліцыю.

– Думаеш такі вумны, усіх перахітрыш? – казаў ён бацьку з несхаваным падкусам. – Ні тым, ні етым... Убаку ад усіх і ўсяго быць хочаш... Не ўдасца!

– Я ж не без працы, – аднекваўся бацька. – А што з тымі ці з етымі... Мяне ета не цікавіць. Мне дзяцей, сям'ю карміць трэба.

– Быццам у паліцыі табе было б горш!

– Я ніколі не шукаў, дзе лепш, а дзе горш, – вёў, даказваў сваё бацька. – Жыву, як умею.

– Пашкадуеш ты, ох, як яшчэ пашкадуеш, – гразіў бацьку Іван Рачанка. – А можа, у лес, у партызаны, сабраўся?

– У які лес, у якія партызаны?

І тады Іван Рачанка падымаў кулак, трос, махаў ім перад бацькавым носам:

– Запомні: ты ў лес – мы жонку, дзяцей тваіх усіх да аднаго жыцця рашым. Не пашкадуем!

І ішоў з хаты.

А ўночы, пабуджаныя стукам у акно ці ў дзверы, лежачы ў пасцелях, чулі зусім іншыя размовы:

– Што ля жончынай спадніцы аціраешся, у лес бараніць савецкую ўладу не ідзеш? – крычалі на бацьку.

– Сям'я ў мяне, пяцёра дзяцей, карміць іх трэба, – апраўдваўся бацька.

– Быццам у аднаго цябе сям'я!

– Але ж калі я ў лес пайду, іх знішчаць. Надоечы Іван Рачанка прыходзіў, казаў.

– Хопіць баланду травіць, зубы загаворваць! Адзявайся, пайшлі!

І бацька адзяваўся, ішоў. Куды, чаго – мы не ведалі...

Вяртаўся ён пад раніцу, а то і праз суткі-двое. Потым расказваў маці:

– У лагер, да камандзіра іхняга вадзілі. Ну, кеб расказаў, што на лесапілцы ды ў вёсцы робіцца... І чаму дома я, у лес, у партызаны не іду...

А неяк, вярнуўшыся, прастагнаў, зуб на зуб не пападаючы:

– Страляць мяне хацелі... Як здрадніка...

– І што? – загаласіла маці.

– Ляскалі-ляскалі затворамі, а так і не застрэлілі. Ці выдаваць стрэламі сябе пабаяліся, ці то патронаў не было. Адпусцілі, бачыш, жывога...

– Ці надоўга? – праз слёзы пытала маці.

– Хто ведае, усе мы пад богам ходзім, – сцінаў плечы, калаціўся бацька.

(...) Восень, зіма, вясна, лета... Зноў восень, зіма, вясна... Здаецца, не так і багата мінула часу, а колькі ўсяго пеажыта! Ды і ўбачана!

У Вялікім Бары з'явіліся пустыя хаты, бязлюдныя двары: каго забілі немцы, каго – партызаны, хто сам сышоў у лес ці з'ехаў у іншую вёску. Трупы пастраляных знаходзяць цяпер у алешніку, балотах і звозяць на могілкі. Не разбіраюць, хто з іх партызан, хто паліцай...

У дварах амаль няма жыўнасці – кароў, свіней, авечак, курэй. Палавілі і паелі. Калі не самі велікаборцы, дык тыя, хто сюды прыязджаў і прыходзіў. Усюды ў хатах нішчымніца – бульба, ды і той не ў кожнага хапае.

Пачалася сяўба, але сеюць не ўсе – няма чым, ды і невядома, ці дажывеш да новага ўраджаю.

Начныя госці кожную ноч калашмацяць людзей. А ўдзень прыязджаюць немцы. І ніхто не верыць, што ў людзей няма чаго даць. Настаўляюць рулі вінтовак, карабінаў, аўтаматаў, пісталетаў да грудзей і патрабуюць: «Дай!» Каму ежу, каму адзежу, каму невядома што...

Гвалцяць дзяўчат, жанчын. Прычым часта на людзях, дзе каторую зловяць, спасцігнуць...

Словам, бясправўе. І скардзіцца, шукаць управы... дзе? у каго?..

Людзі сталі худыя, знерваваныя. Як толькі што – сварацца, крычаць... І ўжо не берагуць адзін аднаго, не абараняюць, як было раней. Кожны перш за ўсё пра сябе дбае – яму б не загінуць, выжыць...

Так, вайна ёсць вайна...

Не было ўжо Сапаненкі – яго захапілі ўночы ў пасцелі партызаны, вывелі разам з новаю жонкаю на гароды і расстралялі. Знайшлі іх толькі, калі растаў снег...

Не жыў у вёсцы і Іван Рачанка – пераехаў у Хойнікі, захапіўшы з сабою бацьку і братоў. Дома, у вёсцы, засталася толькі яго маці. Але і яна доўга без сыноў не пражыла. Аднойчы, зноў наведаўшыся ў вёску, немцы пачалі выганяць усіх з хат, загадвалі ісці да валасці. Мархута ўзялася тлумачыць немцам, хто ў яе сыны, маўляў, яны носяць зброю, начальнікі. Немец не зразумеў, відаць падумаў, што сыны яе партызаны. І застрэліў Мархуту проста ў хаце.

(...) У чэрвені сорак трэцяга года – якраз на Ушэсце – фашысты спалілі Вялікі Бор. Увесь, да апошняй хаты, да апошняга хлява...

Я добра помню той дзень. Прачнуліся мы рана, вельмі нават рана, яшчэ толькі ўзыходзіла, паказвалася з-за лесу сонца. Прачнуліся ад страляніны. Некалькі чалавек, якія начавалі ў вёсцы, на світанні памкнуліся назад у лес, як гэта і зазвычай было. Выбеглі за хлеў на гароды, а там – немцы. Калі яны прыехалі, калі акружылі вёску, ніхто не заўважыў. Сёй-той, не разабраўшыся, што вёска акружана, паспрабаваў уцякаць. Па іх адкрылі немцы стральбу...

Яшчэ праз нейкі час паліцаі і нейкія ў чорным адзенні – пасля мы даведаліся, мадзьяры – пачалі аббягаць хаты, выганяць усіх, хто там быў, на вуліцу, гнаць да валасці. Там, калі сабраліся людзі, ягамосць у цывільным – худы, бледны, і доўгі, што гліст, аб'явіў на рускай мове:

– Здесь будут вестись боевые действия. Немецкое командование, во избежание жертв среди мирного населения, решило на время выселить вашу деревню. Когда боевые действия прекратятся, вы сможете беспрепятственно вернуться. Даётся час на сборы. Взять с собой самое необходимое – воду, еду, одежду. Остальное всё оставить...

– А з каровамі, свіннямі, авечкамі што рабіць? – пачалі людзі задаваць пытанні.

– Всё оставить, ничего не брать! Здесь останутся солдаты, они досмотрят за всем...

Але, параіўшыся па-нямецку з афіцэрамі, што купкаю стаялі на ганку валасці, праз хвіліну адмяніў свой апошні загад:

– Нет, – закруціў ён галавою, – я ошибся... Всю живность нужно выгнать из сараев в общее стадо. Его погонят отдельно те, кому это будет поручено. Итак, – закрычаў раптам худы і доўгі, – вам даётся час на сборы. Всего час! Запомнили? – і, не чакаючы, што яму адкажуць, загадаў: – Прошу не нарушать приказ. Кто не подчинится, не явится сюда через час – того ждёт наказание...

Бацька наш якраз у тую ноч быў дома. Дакладней, не паспеў уцячы з сяла. І таму камандаваў маці, што браць з сабою, а што – не.

– Навошта ж цягнуць ета, хай астаецца, – падказваў, дыктаваў ён маці.

– Ты верыш, што вернешся сюды? – здзіўлялася маці.

– Не, я фашыстам ніколі не верыў і не веру. Але ж і цягнуць усё на сабе...

Узялі самае неабходнае – ежу, ваду і некалькі клункаў з пасцелямі, адзежай. Астатняе пакінулі ў хаце.

– Што будзе, тое будзе, – махнуў рукою бацька.

Нейкі час думалі, што зрабіць з курыцай, якая толькі што вывела куранят. Урэшце, Коля вынес яе пад навес сцёбкі, насыпаў пшана і наліў у патэльню вады.

– Калі праз некалькі дзён не вернемся, – сказаў ён, – то тут, на волі, яны не прападуць.

Роўна праз гадзіну мы былі ля валасці. Там ужо сартавалі людзей. Старых, сляпых, кульгавых і хворых адводзілі ўбок, маўляў, іх на машыну забяруць, падвязуць. І вузлы вялікія таксама адбіралі, супакойваючы людзей: і ім месца на машынах знойдзецца. Выводзілі, забіралі з натоўпу і мужчын – ім даручалася гнаць статкі, весці наладаваныя рознай салдацкай амуніцыяй веласіпеды. І калі сарціроўка была закончана, загадалі рушыць па дарозе на Аўрамаўскую.

– Там поезд вас ожидает. Погрузитесь – и мы отвезём вас в безопасное место, – аб'явіў зноў той доўгі і худы.

Ішлі марудна, паволі, расцягнуўшыся больш як на кіламетр па дарозе. Ззаду і па баках нас акружалі немцы, мадзьяры, паліцаі. І мужчыны, якія кацілі наладаваныя рознай вайсковай амуніцыяй веласіпеды. Кароў, авечак, свіней гналі таксама па дарозе за намі ўслед. Яны рыкалі, вішчалі, блеялі...

Калі выкіраваліся на грэблю, нехта азірнуўся назад і крыкнуў у адчаі:

– Сяло наша гарыць!

Людзі як па камандзе пачалі азірацца – сапраўды над Вялікім Борам уздымаўся дым. І не ў адным месцы, а адразу ў некалькіх. Чорны, з жаўцізною, густы – на ўсё неба.

Натоўп спыніўся, замёр. І тады як бы спахапіліся немцы, мадзьяры – закрычалі, загалёкалі і пайшлі з аўтаматамі на натоўп, узяліся штурхаць рулямі аўтаматаў, піхаць людзей...

Натоўп зноў паволі рушыў...

Ноч мы правялі на Аўрамаўскай у лесе, чакаючы цягніка. Але яго не было, відаць, як гэта здаралася ўжо, партызаны падарвалі палатно чыгункі на нашым перагоне. І таму раніцаю, калі ўзышло, заіскрылася сонца, нам загадалі дабірацца пешкі да Васілевіч. Гэта каля сарака кіламетраў.

Зноў, расцягнуўшыся па дарозе, рушылі. Той дзень, помню, быў сухі, спякотны. І, прайшоўшы кіламетраў з дзесяць, без перадыху, па гарачыні, людзі пачалі падаць, валіцца з ног, асабліва дзеці. Згаладаліся ж за вайну, аслаблі.

Зрабілі прывал. І зноў, зноў ішлі...

Да Васілевіч дабраліся на заходзе сонца. Там, на станцыі, нас чакалі ўжо вагоны. Таварныя, з кратамі на вокнах. Пазаганялі нас усіх туды. Ад стомы мы проста валіліся з ног, падаў кожны, дзе стаяў. Таму, можа, не адразу зразумелі, што вагоны з намі прычапілі да цягніка, што мы ўжо не стаім, а едзем... Куды, чаго?

(...) Чым далей мы ад'язджалі ад дамоўкі, тым змрачней рабілася на душы. Маці аж знябылася за дарогу, пахудзела. Ды і бацькі было не пазнаць. Падцягнуўшыся на руках да акна і паглядзеўшы ў яго, ён паведамляў час ад часу:

– Па Польшчы едзем... Мусіць, у Нямеччыну нас вязуць...

І апускаўся на падлогу, сядзеў моўчкі, падкурчыўшы пад сябе ногі.

Маці не маўчала.

– Трэба было ў лес, у партызаны ўцякаць, – казала яна.

– Я-то мог. Але ж што з вамі немцы зрабілі б? – задумваўся бацька.
– І нас бы ў лес забраў...
– Кеб жа можна было так. А то ж... Не бралі з жонкамі, дзецьмі ў лес.
– Але ж і так...
Так мы ехалі. Куды? Чаго?..
Нейк, падлезшы да акна і паглядзеўшы ў яго, бацька быццам выдыхнуў:
– Нямеччына ўжо, Германія...
Большыя нашы – Коля і Пятро – таксама захацелі паглядзець, што там убачыў бацька, якая яна, тая Германія. І я папрасіўся, каб падсадзіў мяне бацька да акна.
– Нагледзішся. Ачарцянее яшчэ...
Але ўзяў мяне на рукі, падсадзіў да акна. Нічога асаблівага я не ўбачыў. Абсаджаная дрэвамі дарога, поле, засеянае буракамі, некалькі цагляных, крытых чырвонай чарапіцай, домікаў удалечыні. Вось і ўсё...
Калі бацька адарваў мяне ад акна, ссадзіў зноў на падлогу, я спытаў у яго:
– А па чым ты пазнаў, што ета Германія... Нямеччына?
– Па надпісах на станцыях, – адказаў бацька.

Цягнік раптоўна спыніўся, заляскалі буферы, адчыніліся дзверы, і нам загадалі выгружацца. (...)

## Сустрэча з земляком

***З аўтабіяграфічных апавяданняў***

Ён пазваніў мне ў гасцініцу.
– Вы Барыс Сачанка, пісьменнік? – спытаў глуха. – З Вялікага Бору?
– Так, – адказаў я, вядома, нямала здзівіўшыся: хто ведае мяне тут, у Парыжы, ды яшчэ што родам з Палесся – з Вялікага Бору? Прыехаў сюды я ўсяго якіх тыдні два таму назад у складзе дэлегацыі, нідзе, здаецца, пра гэта не пісалася ў друку, жыў ціха, непрыкметна, і раптам...
– Выбачайце, а вы хто будзеце? – урэшце вырвалася ў мяне.
– Я ваш зямляк. Нарадзіўся таксама ў Вялікім Бары...
Гэта было ўжо цікава. Каб у адзін і той жа час апынулася два чалавекі з адной вёскі, ды дзе – у Парыжы?!.
– Як вас завуць, якое прозвішча?
– Не спяшайцеся, я ўсё скажу. Вы маеце сёння час?
Час у мяне быў. Толькі што закончылася пасяджэнне ў штаб-кватэры ЮНЕСКА, я вярнуўся ў гасцініцу і прыкідваў, куды б пайсці, дзе б правесці вечар.
– Ды быццам я вольны. А што?
– Давайце сустрэнемся. Я пад'еду да вас на машыне, ну а дзе пасядзець, пагаманіць, месца знойдзем...
– Гм, – нібыта засумняваўся я. – Але ж... Я вас зусім не ведаю. Хто вы?
– Я ж сказаў – ваш зямляк. А каб вы пазналі мяне, вось прыкметы: буду ў скураной куртачцы, без шапкі, стаяцьму з ключамі ў руцэ ля машыны маркі «Вольва»...
– Вы мяне бачылі, мы сустракаліся?
– А як жа! Калісьці я бываў у вашай хаце. Той, яшчэ дзедаўскай, што стаяла пад ліпамі... Добра ведаў вашых братоў Колю, Пятра, ну і, вядома ж, цябе, Барыс. Так што не хвалюйся, апранайся ды выходзь з гасцініцы, – перайшоў на «ты» зямляк. – Я буду хвілін праз восем-дзесяць...
Штосьці загадкавае, таямнічае было ў гэтай тэлефоннай размове. Каб нешта падобнае прапанавалі мне раней, некалькі гадоў назад, калі бываў у замежных

камандзіроўках, я, вядома ж, разгубіўся б, пайшоў бы да кіраўніка дэлегацыі раіцца, як мне быць, што рабіць.

Але цяпер, калі сітуацыя ў нашай краіне змянілася ў лепшы бок, змяніліся ў лепшы бок і адносіны за мяжою да тых, хто сюды прыязджаў, знікала падазронасць, перамагалі давер і згода... Ды і нейкі авантурны дух у мяне прабудзіўся...

– Добра, – сказаў я і паклаў трубку.

Тыя восем-дзесяць хвілін, што заставаліся да сустрэчы з земляком, я правёў у роздуме, ва ўспамінах. Хто ён, гэты зямляк? «Калісьці я бываў у вашай хаце. Той, яшчэ дзедаўскай, што стаяла пад ліпамі... Добра ведаў вашых братоў Колю, Пятра і, вядома ж, цябе, Барыс...» Значыцца, калі мы і сустракаліся, дык у дзяцінстве. У вайну ці перад вайною... Бо каб тое было пазней, то, напэўна, была б успомнена школа ці нешта іншае. Але хто ў тыя далёкія ваенныя і даваенныя гады бываў у нас у хаце, з кім мы гулялі, таварышавалі?

Успомнілася, паўстала ў вачах вёска Вялікі Бор – доўгая шырокая вуліца, абсаджаная з абодвух бакоў хатамі, абгароджаная платамі – з штыкетніку, дошак, плятнёў. Наша хата стаяла бліжэй да грэблі, сапраўды, пад дзвюма высокімі галлістымі ліпамі. Насупраць нас, праз вуліцу, жыў дзядзька Кузьма з цёткаю Поляю. У іх не было дзяцей, і цётка Поля часта бавіла час у нас, гуляла з намі. А то і ласункі прыносіла – арэхі, гарбузікі, сухія грушы і яблыкі. З левага боку жыла Мархута, у яе былі дзве дарослыя дачкі – Каця і Маня. З правага боку нашымі суседзямі былі Рачанкі – вялікая сям'я, здаецца, пяцёра ці шасцёра дзяцей: два зусім дарослыя – Іван і Змітро, астатнія меншыя... З імі, меншымі, мы таварышавалі. Прынамсі, да прыходу ў вёску немцаў... Тады ж, пасля таго, як сам стары Яўхім Рачанка і яго два сыны Іван і Змітро сталі паліцаямі, пайшлі служыць да немцаў, дружба між нашымі сем'ямі разладзілася... Няўжо гэта хтосьці з Рачанкаў?.. Але ж яны быццам усе загінулі. І пра гэта мы даведаліся яшчэ ў вайну, калі немцы, спаліўшы нашу вёску, вывезлі нас у Германію. Быццам у той дом, дзе яны жылі, гэтак жа, як і мы, на чужыне, трапіла бомба...

Міжвольна закрадвалася хваляванне. Нават быццам страх.

«Я ж пісаў пра Рачанкаў у сваіх кнігах... Пісаў праўду – якія яны былі жорсткія, не мелі літасці да партызанаў і тых, хто быў з імі звязаны... І прагныя да чужога дабра, сквапныя: аднойчы нават залезлі да нас, суседзяў, на гарышча і забралі ўсё, што там было, – авечыя шкуры, сушаныя яблыкі, сала... А што, калі мае кнігі трапілі яму на вочы і ён іх прачытаў?» – падумаў я пра земляка.

І як бы адгадка прыходзіла ў галаву, чаму ён не назваў свайго імя і прозвішча, не прызнаўся, хто ён.

«Няйнакш, уявіў, што калі прызнаецца, хто ён, я магу не выйсці да яго, збаюся».

Ужо не проста хваляванне, а трывога ахапляла мяне.

«Што, калі ён пасадзіць мяне ў сваю машыну, вывезе з горада і паквітаецца?! Ніхто ведаць не будзе, куды я пайшоў, што са мною здарылася?»

Набраў на ўсякі выпадак тэлефон кіраўніка дэлегацыі, каб сказаць, куды і да каго я іду. Але тэлефон маўчаў, ніхто да яго не падыходзіў, – няйнакш, кіраўнік пайшоў на чарговы прыём у штаб-кватэру ЮНЕСКА ці ў нейкае замежнае прадстаўніцтва.

Што было рабіць? Не пайсці на гэтую сустрэчу?

Не, авантурны дух браў верх. Ды і цікавасць разбірала – хто ён, гэты зямляк, чаму апынуўся тут, у Парыжы?

На ўсякі выпадак (мала ці што магло са мною здарыцца?) напісаў запіску, куды і да каго іду, паклаў яе на тумбачку, і паглядзеўшы на гадзіннік, пакіраваўся да выхаду.

Так, зямляк мяне ўжо чакаў. Я адразу ж пазнаў яго – ён сапраўды быў у

скураной куртачцы, без шапкі, з ключом у руцэ. І стаяў каля «шакаладнай» «Вольва». Я падышоў да яго, падаў руку.

– Вы, мабыць, мой зямляк, – сказаў я.

– Ага, – усміхнуўся ён.

Быў ён вышэйшы за мяне ростам, ды і па гадах старэйшы. Але падцягнуты, стройны. Зусім француз. З моцным, з гарбінкай, носам, роўнымі белымі зубамі. Паглядзеўшы яшчэ раз больш уважліва на яго, я зрабіў вывад: не, яго я не бачыў, сустракаюся ўпершыню ў жыцці. Ці падобны ён быў на Рачанкаў, пароду якіх я ведаў, помніў? Здаецца, не. Тыя былі чорныя, цыганістыя, ну а гэты... Нейкі руды, сівы.

– Сядай у машыну, – як не загадаў мне зямляк. – Паедзем, а то тут стаянка забаронена. Таго і глядзі паліцэйскі наскочыць і аштрафуе... – і паслужліва адчыніў пярэднюю дзверку.

Я паслухмяна плюхнуўся на сядзенне. І, дачакаўшы, калі зямляк аббяжыць машыну, сядзе побач са мною за руль, сказаў:

– Куды мы паедзем? Можа, зайшлі б да мяне ў нумар і пагаманілі?.. Я жыву адзін, нам ніхто не будзе перашкаджаць...

– Не, – рашуча захітаў галавою зямляк. – Паедзем у рэстаран, я закажу вячэру, там і пагамонім...

«Ну што ж, рэстаран ёсць рэстаран. Добра, што не ў лес, за горад», – падумаў я і як бы нават трохі супакоіўся, павесялеў.

Па тым, як выварочваў зямляк машыну на дарогу, потым вёў яе па вячэрніх, асветленых агнямі, вуліцах Парыжа, я зразумеў: шафёр ён адмысловы, класны. Не стрымаўся, пахваліў:

– А машыну вы водзіце ўсё адно, што на піяніна іграеце...

– Дык жа я таксістам тут, у Парыжы, гадоў дзесяць працаваў... – усміхнуўся зямляк. – Ды і пасля ўвесь час, можна сказаць, за рулём. Без машыны тут як без рук... А ў нас там, у Беларусі, хіба не так?

– Не, у нас многія жывуць без машыны, – сказаў я. – Грамадскі транспарт выручае. Ды і машына лічыцца раскошай, не кожны можа яе купіць. Дарагія яны ў нас.

– Я трохі сачу за друкам, чытаю, што пішуць газеты пра жыццё там, у нас, – прызнаўся зямляк. – Але вось каб так непасрэдна пагаварыць са сваім чалавекам, ды яшчэ з адной вёскі... Не даводзілася. Можна сказаць, упершыню...

– Цікава, адкуль вы даведаліся, што я тут, у Парыжы? – спытаў я.

– З газет. Прачытаў, што ў ЮНЕСКА быў вечар, прысвечаны Максіму Багдановічу, і там выступаў пісьменнік Барыс Сачанка... А я ведаў, што Сачанкі з нашай вёскі... і што ў іхняй сям'і ёсць пісьменнік... Барыс, якога ж я, вядома, калісьці бачыў... Вось і захацелася сустрэцца...

І зямляк паглядзеў на мяне неяк надта ж даверліва. І ўсміхнуўся.

– Цябе, Барыс, напэўна ж, цікавіць, хто я... Не сумнявайся, я з Вялікага Бору... Калісьці сябраваў з тваім братам Колем... Дарэчы, як ён, як склалася яго жыццё?

Я апусціў галаву, выдыхнуў з сумам:

– Яго, на жаль, няма жывога.

– Праўда? – аж тармазнуў машыну зямляк. – І даўно?

– З мінулага года... Вы ж, мабыць, чулі пра аварыю ў Чарнобылі... Гэта за якіх пяцьдзясят кіламетраў ад Вялікага Бору. А старэйшы мой брат жыў там жа, дома, у вёсцы... Ну і не пазбег шкодных уплываў гэтай бяды... Здарыўся інфаркт... А потым лёгкія спаліла радыяцыя... Памёр у няпоўных шэсцьдзясят...

– А як жыў ён?

– Ну, да Нямеччыны вы ўсё ведаеце... Там жа, на чужыне, працаваў, як і ўсе, на ферме ў пана. Вызвалілі нас амерыканцы, мы вярнуліся на радзіму. Вучыцца

больш ён не змог. І дастатку не было вельмі, ды і не давалі такім, як ён, вучыцца. У Сібір нават нашу сям'ю хацелі выслаць. Хвала богу, неяк перабылося. Ён ажаніўся, нарадзілася ў яго трое дзяцей – два сыны і дачка. Дзеці выраслі, атрымалі вышэйшую адукацыю... А ён так і пражыў жыццё ў вёсцы. Трохі, вядома, выпіваў, як, дарэчы, і ўсе цяпер у нас...

– А Пятро?

– Пятро жыве. Там жа, у Вялікім Боры. Ён таксама не вучыўся. Служыў у арміі, працаваў у калгасе... Мае трое дзяцей, усе яны дарослыя...

– Ну а ты стаў пісьменнікам, – паглядзеў на мяне неяк быццам нават з гонарам зямляк.

– Ды нібыта так, – усміхнуўся я. – Мне пашанцавала – Сталін памёр. Тады многае змянілася ў нашай краіне. І да такіх, як я, як уся наша сям'я, пачалі інакш ставіцца... Было дазволена вучыцца, не толькі на полі ці на заводзе працаваць...

– Словам, не ўсё і ў вас добра было, – як бы заключыў, выслухаўшы мяне, зямляк. – Хапіла гора...

– Чаго-чаго, а ліха хапіла, – згадзіўся з аднавяскоўцам я. – Ды і цяпер у Вялікім Бары яго хапае. Быў нядаўна я там. Адбудаваліся людзі, балоты паасушалі... Жыць жа думалі. А тут гэтая аварыя. Не то высяляцца, не то жыць. Маладзейшыя, здаравейшыя паз'язджалі хто куды. Сёй-той аж у Казахстан, на Сахалін... Некаторыя пазаставаліся. І што? Цяпер амаль усе хварэюць, кожны дзень пахаванні..

– Я чуў пра Чарнобыль. Але не думаў, што гэта так страшна. У Францыі ж не любяць успамінаць гэтую чарнобыльскую бяду. У іх сваіх атамных электрастанцый шмат. Дабрабыт Францыі грунтуецца якраз на атамных электрастанцыях. Інакш давялося б купляць нафту, вугаль, мазуту... Колькі на гэта трэба грошай! Таму французы мала пішуць пра чарнобыльскую аварыю. Дый тут не думаюць пра тых, каму добра ці дрэнна. Кожны дбае перш за ўсё пра сябе...

Зямляк раптам збавіў хуткасць, павярнуў машыну на абочыну, затармазіў.

– Вось мы і прыехалі. Адсюль некалькі крокаў да рэстарана, дзе я хацеў бы з табой пасядзець.

Спярша я, потым ён выйшлі з машыны. Я не так добра ведаў Парыж, каб адразу зарыентавацца, дзе мы. Таму стаяў, аглядаў дамы, што былі насупраць, з бакоў і ззаду, сілячыся даўмецца, дзе, у якім мы раёне.

– Гэта Манпарнас, – падказаў зямляк. – Можа, чуў, тут ёсць некалькі знакамітых рэстаранаў і кавярняў, дзе бывалі вядомыя людзі, у тым ліку і пісьменнікі. Напрыклад, Хемінгуэй, Генры Мілер, яшчэ раней – Апалінэр... Мяркую, ты чуў гэтыя імёны... Вось у адзін з такіх рэстаранаў мы і зойдзем...

– Там, мусіць, дарагоўля, – памяўся я.

– Пра гэта не думай. У мяне ёсць грошы. Ды і не так часта я сустракаю тут, у Парыжы, людзей са сваёй вёскі. Першы, можна сказаць, раз. І калі яшчэ хто з вялікаборцаў тут будзе... Невядома. Можа, і ніколі.

– Вы б пра сябе хоць трохі расказалі, – падняў вочы я на земляка, паглядзеў яму проста ў твар. – А то нават зваць, звяртацца да вас не ведаю як.

Здалося на хвіліну – так, быццам я калісьці гэтага чалавека бачыў. І быў гэта, няйнакш, хтосьці з Рачанкаў.

«Але ж казалі, яны ўсе загінулі, – успомніў я. – Мог хтосьці і не загінуць, застацца жыць...»

– Я тут не пад сваім прозвішчам і не пад сваім імем, – звёў на пераноссі бровы, сціснуў неяк задумліва вусны зямляк. – Заві мяне, як усе тут завуць – Жак... А пра сябе, сваё жыццё я раскажу. Вось сядзем за столік, закажам сёе-тое... і я ўсё, усё раскажу...

Мы прайшлі па тратуары некуды ўбок, выйшлі на ярка асветленую вуліцу,

спыніліся перад шырокімі дзвярыма рэстарана, назва якога была мне знаёмая – «Ратонда». Знаёмая перш за ўсё па творах, якія я чытаў. У свой час тут, у Парыжы, нават раман пад такой назвай выйшаў. Яго напісаў папулярны ў свой час пісьменнік, якому даў дарогу ў сваіх «Знаниях» Максім Горкі – Ілья Сургучоў; потым, як і некаторыя іншыя пісьменнікі, ён пасля рэвалюцыі падаўся ў эміграцыю і жыў тут, у Парыжы.

Вядома, калі мы адчынілі дзверы, зайшлі ў рэстаран, я з цікавасцю пачаў аглядаць усё, што трапляла на вочы, – афіцыянтаў у чорных фраках і белых-белых, як снег, кашулях, столікі на дзвюх, на трох і больш асоб, люстры, што кожная, здаецца, свяціла, як сонца ў спякотны летні дзень, тых наведвальнікаў, што сядзелі тут і там, паціху размаўляючы, курачы і штосьці п’ючы з высокіх крышталёвых фужэраў і чарак...

Мой зямляк – Жак, мусіць, бываў у «Ратондзе», яго тут ведалі, бо ён час ад часу ківаў галавою, з кімсьці вітаўся. Ішоў ён па зале даволі хутка, я ледзь паспяваў за ім, аж пакуль не спыніўся ля століка, што стаяў як бы ў куце, ля акна. Мы селі адзін насупраць аднаго. Жак адразу ж паклікаў афіцыянта, зрабіў заказ. З усяго, што я зразумеў, былі словы «каньяк», нейкая марка віна, якую я не запомніў, вустрыцы... Жак яшчэ нешта сказаў напаследак афіцыянту і той не пайшоў, а проста памчаўся, пабег.

– Што вы яму сказалі? – пацікавіўся я ў Жака.

– Я папрасіў, каб ён як найхутчэй прынёс нам каньяк...

– Але ж вы не спыталі, ці п’ю я яго... Ды і ці буду есці тыя вустрыцы, – як бы пажурыў я земляка.

– Гэта сапраўды так, – нібыта павінаваціўся перада мною Жак. – Але, мяркую, адзін раз вып’еце. І закусіце вустрыцамі... А потым пададуць нам мяса. Заказаў я і пражаныя каштаны. Гэта добра таксама пасля каньяку...

– Ну што ж, дыктаваць я вам не магу. Вы тут гаспадар, вы частуеце. Я нявольнік... – склаў я як перад малітвай рукі.

– Ты ж хацеў, каб я расказаў пра сябе, – цяпер ужо як бы Жак папракнуў мяне. – А я не магу пра гэта гаварыць, пакуль не вып’ю. Бо жыццё маё... Таксама ж склалася не лепшым чынам... Як вывезлі немцы з вёскі, дык і... Сам ведаеш, кім былі мы для немцаў, – рабсіла, інакш проста рабы. Працуй, выконвай, што загадваюць, і маўчы. І гэтак два доўгіх, як вечнасць, гады! А бамбёжкі, што неўзабаве пачаліся! Іншы раз здавалася, зямля ўся гарыць, месца нідзе табе няма... А мы на заводзе працавалі... За калючым дротам... І як наляталі самалёты, дзе хочаш дзявайся... Бацьку, маці маіх забіла... і братоў старэйшых... Адзін я застаўся...

«Значыцца, хтосьці з Рачанкаў, – падумаў, заключыў я. – Вось толькі чаму жылі за калючым дротам? Быццам жа верныя немцам людзі – былыя паліцаі?»

Спытаць пра што б там ні было ў Жака я не паспеў – з’явіўся ля нашага століка афіцыянт, пачаў наліваць у чаркі каньяк. Потым падаў вустрыцы, ломцікі лімона, сярэбраныя нажы, лыжачкі.

– Ты еў калі-небудзь вустрыцы? – спытаў у мяне Жак.

– Не, не даводзілася...

– То я пакажу табе, як гэта робіцца... Зусім усё проста... Бярэш ракушку, расчапляеш яе ножыкам, вось так, – паказаў мне Жак, – выціскаеш некалькі кропель лімона, бачыш, як вустрыца сціскаецца. Цяпер бярэш лыжачку, зачэрпваеш яе і – у рот...

– Жывую? – аж не паверыў я.

– Ага! Гэта смачна! Давай!

Мы чокнуліся, выпілі да чарцы каньяку. Добрага – ці не «Напалеона», бо адразу ж быццам цяпло палілося ўсярэдзіну, пачало грэць, перабіраць усё ўнутры. Я ўзяў вустрыцу, расчапіў яе сярэбраным нажом і, як навучыў мяне Жак, выціснуў

на яе некалькі кропель лімоннага соку, падчапіў лыжачкай тое, што там было, і ўкінуў сабе ў рот. Жаваць не стаў – праглынуў, адчуваючы холад і смак лімона. Запіў тым сокам, што заставаўся ў ракушцы.

– Ну як? – спытаў у мяне Жак.

– Не разабраўся, – прызнаўся я.

– А ты яшчэ адну вазьмі... Ды пажуй, разбярыся...

Хоць і не хацелася мне, але я ўзяў яшчэ адну ракушку, расчапіў яе, укінуў вустрыцу ў рот, пажаваў. Так, Жак казаў праўду – гэта было незвычайна смачна.

– Ну? – спытаў зноў у мяне Жак. – Праўда ж смачна, добра?

Я не мог не згадзіцца з ім, кіўнуў галавою.

– Дык вось, – вярнуўся Жак да перапыненай размовы. – Адзін я застаўся... Куды мне было падавацца? Дадому, у вёску? Але ж што мяне там чакала? Са мною на заводзе працаваў галандзец Ёхім. Ён і ўпрасіў мяне паехаць з ім. Я згадзіўся. Калі нас вызвалілі англічане, я паехаў з Ёхімам. Два гады працаваў на ферме. Жыць можна было, але сумоцішча – не прывядзі Бог. Ферма – бардарай па-іхняму – далёка ад горада, навокал ні жывой душы. Гаспадар, гаспадыня ды іх дзеці... Пакінуў я ферму, у горад перабраўся... Адтуль – у Бельгію, а потым – у Амерыку. У Амерыцы жыць, вядома, весялей... Але, сам таго не хочучы, трапіў я ў адну з сумніцельных арганізацый... Грошы завяліся ў мяне... Але каб жыць па-людску... Не выпадала... Кожную ж хвіліну маглі арыштаваць... Ды што арыштаваць – забіць...

Жак зноў наліў па чарцы каньяку, мы, чокнуўшыся, выпілі, зноў закусілі вустрыцамі. Узялі ў рот, пажавалі і па каштану.

– З Амерыкі, з Нью-Ёрка, уцёк я ў Парыж... Таксістам уладкаваўся. Працаваў гадоў дзесяць...

– А цяпер дзе вы? – спытаў я.

– Цяпер...

Жак апусціў у стол вочы, нейкі час маўчаў.

– Ведаеш, Барыс. Ты не крыўдуй, але я нікому не кажу, дзе я цяпер жыву, кім працую. На тое прычына ў мяне ёсць.

– Якая? – спытаў я.

Жак уздыхнуў. Потым махнуў рукою, як бы асмеліўся.

– Няхай, раскажу табе. Калі жыў я ў Амерыцы, мне трэба было забіць аднаго чалавека. Маладога, прыгожага. Ён любоўнікам быў адной таксама маладой асобы, што выйшла замуж за старога, багатага чалавека. Вось той стары, багаты і наняў мяне. Я сустрэўся з тым маладым чалавекам, пагаварыў. І выявілася – ён кахае тую маладую асобу і шукае спосабу, як бы прыбраць з дарогі старога. Калі я сказаў, што магу дапамагчы, ён прапанаваў мне суму ў некалькі разоў большую за тую, што прапанаваў стары, багаты... Словам, у мяне быў выбар, каго з іх забіць... Доўга я думаў, што рабіць. Урэшце ўзяў задатак і ў аднаго, і ў другога і махнуў у Парыж... Здавалася б, і канцы ў ваду... Аж не. Тая арганізацыя, у якую я ўваходзіў, заступілася за свой гонар... Мяне пачалі шукаць, каб пакараць... і, уяўляеш, знайшлі тут, у Парыжы...

Нам прынеслі віно, падсмажанае ў соусе мяса з гарнірам – салатам, морквао, бурачкамі, бульбаю, рысам.

– І што было далей? – спытаў я, калі мы налілі па фужэры і выпілі халоднага, церпкага віна і пачалі закусваць.

– Паехаў я з Парыжа... Жыў нейкі час у Італіі, потым перабраўся ў Швейцарыю... Цяпер зноў вярнуўся ў Парыж...

– Сям'я ў вас ёсць, дзеці?

– Не, – адмоўна пахітаў галавою Жак. – Сям'і ў мяне няма. А дзеці... Дзеці маглі нарадзіцца, быць... Я ж не манах, сыходзіўся з жанчынамі... і цяпер ёсць... і

не адна... Але я захапіўся расказам пра сябе... Раскажы лепш, якая ў нас там дома жытка, які наш Вялікі Бор? Ты казаў, адбудаваўся ён, балоты там паасушалі. А як з лясамі? Павысякалі іх?

– Так, пасля вайны... Але яны зноў павырасталі...

– А Уюнаўка наша? Я ж любіў хадзіць на яе. І купацца, і рыбу лавіць. Такія шчупакі ў комлю траплялі! І карасі. А што ўюноў ужо было...

Я расказваў пра ўсё, пра што пытаў Жак. А пытанняў у яго было шмат. І чым далей мы сядзелі, іх не меншала. Ад пытанняў пра жыццё вёскі ён перайшоў да пытанняў пра жыццё ў Беларусі. Пытаў ён і пра лёс многіх аднавяскоўцаў, каго ведаў, помніў.

– У мяне там некалькі сваякоў ёсць, – прызнаўся ён, калі мы выйшлі з рэстарана, селі зноў у машыну. – Калі б ты ўзяў для іх падарункі, я прывёз бы...

– Але я не ведаю іх... Нават прозвішчаў... Ды і вашага... – сказаў, прызнаўся я шчыра.

– Я скажу... Пачакай... Мы ж, думаю, сустракаемся не апошні раз. Днямі я яшчэ пазваню табе, сустрэнемся...

Але мы больш не сустрэліся. Ужо назаўтра раніцаю стала вядома, што Міністэрства замежных спраў будзе скарачацца, яго перастае фінансаваць СССР, бо перастае быць і краіна з такою назваю. Мне разам з усёй нашай дэлегацыяй прапанавана было пераехаць жыць у савецкі дом, што мы, вядома ж, у той жа дзень і зрабілі... Ці званіў мне ў гасцініцу Жак, ці шукаў мяне – я не ведаю, як не ведаю дасюль, хто быў ён – сапраўды хтосьці з Рачанкаў ці нехта іншы. Але што Жак быў мой зямляк, з адной са мной вёскі – то гэта факт, у гэтым я не сумняваюся...

*1992*

## Вярхі і нізы

### *З запісаў розных гадоў*

* * *

Як вядома, улетку 1938 года ў Мінск прыехаў на пасаду Першага сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка. З першых дзён ён пачаў шукаць кантактаў з рэшткамі яшчэ нерэпрэсіраванай, непасаджанай у турмы, несасланай у лагеры, нерасстралянай беларускай творчай інтэлігенцыяй. Адна за адной склікаліся розная нарады, наладжваліся сустрэчы. Пра адну з такіх нарад ці сустрэч расказваў неяк у рэдакцыі часопіса «Полымя» Яўген Рамановіч:

«Выклікалі нас, пісьменнікаў і артыстаў, у ЦК. Сядзім, чакаем, што будзе. Аж выходзіць да нас тады яшчэ малавядомы нам Першы сакратар Панамарэнка. Прывітаўся, акінуў паглядам усіх, хто сабраўся, і пачаў гаварыць пра неабходнасць цесных сувязей кіраўніцтва рэспублікі з творчай інтэлігенцыяй, пра сумесную працу на карысць народа. Скончыў ён – і ў зале запанавала цішыня. Доўгая, гняткая...

– Няўжо ў вас няма чаго сказаць? – запытаў урэшце Панцеляймон Кандратавіч.

І тады падняўся Змітрок Бядуля. Ён на сустрэчы быў старэйшы (Коласа і Купалы чамусьці там не было) і, мусіць, адчуў неабходнасць сказаць, што думаў. І сказаў літаральна вось што:

– Таварыш Панамарэнка, пра што можна гаварыць, калі з кожным днём нас меншае. Засталася адна жменька. І тых бяруць... Днямі забралі Кузьму Чорнага, аднаго з лепшых нашых празаікаў. А ён жа цвёрда стаяў на савецкіх пазіцыях... Я таксама падрыхтаваўся, што мяне не сёння заўтра забяруць, сабраў чамаданчык з усім неабходным... І кожны з нас так...

Змітрок Бядуля сеў. Зноў запанавала цішыня.

– А Кузьма Чорны сапраўды добры пісьменнік і стаіць на савецкіх пазіцыях? – спытаў Панцеляймон Кандратавіч у залы.

Зала пацвердзіла гэта кіўкамі галоў, галасамі.

Сустрэча на тым і скончылася. Але карысць ад яе была – П. К. Панамарэнка, кажуць, сам прачытаў некаторыя творы К. Чорнага, дамогся, каб яго выпусцілі з турмы, І быццам нават сустрэўся з ім, сказаўшы пры гэтым:

– Працуй, пішы, Мікалай Карлавіч. І не займайся больш антысавецкай дзейнасцю. А то зноў пасадзім...»

* * *

Некалькі чалавек гаварылі мне, што быццам я ідэалізую П. К. Панамарэнку. Не, я далёкі ад думкі, што гэта выратавальнік беларускай літаратуры, культуры. Ён быў чалавек свайго часу і рабіў тое, што ад яго патрабавалі. Але ў адрозненне ад іншых ён быў культурны, адукаваны, любіў літаратуру, ведаў, што без апоры на нацыянальную інтэлігенцыю ён, сам рускі, не знойдзе падтрымкі ў беларускага народа. Да таго ж, П. К. Панамарэнка і Г. М. Малянкоў былі жанаты на сёстрах, таму ён меў падтрымку з боку Г. М. Малянкова, а, значыцца, і І. В. Сталіна... І мог дазволіць сабе тое, чаго іншыя не дазвалялі...

І ў памяці многіх дзеячаў беларускай літаратуры і культуры ён застаўся ледзь не як анёл-выратавальнік...

* * *

Не ўсе, хто павінен быў напісаць успаміны ці мемуары, іх напісалі. У кожнага на тое былі свае прычыны. Каб неяк заахвоціць людзей бывалых ды і славутых усё ж сесці за стол ды запісаць хоць што-кольвечы з бачанага, перажытага, у свой час рэдакцыя часопіса «Полымя» арганізавала сустрэчу выдатных людзей Беларусі. Помню, ці не першая на гэтай сустрэчы расказвала пра сябе народная артыстка СССР Л. П. Александроўская. Гаварыла яна з вялікім, непадробным хваляваннем, аж расчырванелася. Асабліва, калі дайшла да таго моманту, як ёй П. К. Панамарэнка даручыў выступіць у Маскве на ўрачыстым пасяджэнні, на якім прысутнічала кіраўніцтва партыі і краіны на чале са Сталіным:

– Выступаць павінен быў Янка Купала. Але ён выступаць не любіў, папрасіў, каб гэтую ганаровую місію даручылі каму-небудзь іншаму, найлепш – жанчыне. Выбар спыніўся на мне... Прамова была напісана, аддрукавана, вывучана мною на памяць. Выйшла я за трыбуну І пачала: «Дорогие товарищи»... І раптам чую: у прэзідыуме Сталін гаворыць, здаецца, Варашылаву: «Беларусы маглі б і на сваёй мове выступаць». Я адразу ж узялася перакладаць на беларускую мову тэкст прамовы. Скончыла – і сама не свая: «Што я нарабіла?» Не помню, як дайшла да крэсла, села. Не паспела супакоіцца, а мяне ўжо асцярожненька ляпаюць па плячы, кажуць: «Пройдёмте». Я і пайшла. Прывялі мяне ў нейкі пакой, загадалі: «Подождите». Чакаю пяць, чакаю дзесяць, чакаю дваццаць хвілін. Ніхто не заходзіць, ніхто нічога мне не кажа. Ну, думаю, пасадзяць... А час жа такі быў, што садзілі, нават не тлумачачы за што. Можа праз гадзіну толькі адпусцілі мяне – выявілася, стэнаграму выступлення трэба было вычытаць, перакласці на рускую мову... А што перажыла я за гэты час!..

* * *

На той сустрэчы ў «Полымі» аповед Л. П. Александроўскай дапоўніў тады народны артыст БССР, а потым – народны артыст СССР, любімец беларускай тэатральнай публікі Уладзімір Іосіфавіч Дзядзюшка.

– Гэта, здаецца, было на Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве.

Па заканчэнні яе быў наладжаны прыём, на яго і прыйшло ўсё кіраўніцтва партыі і краіны на чале са Сталіным. Не магу зразумець, як апынуўся я за сталом побач з К. Я. Варашылавым. Нахіліўся ён да мяне, пытае: «Як вы п'яце – з шапачкай ці без шапачкі?» Я не ведаў, што гэта такое – піць шапачкай ці без шапачкі. Кажу: «Мне ўсё роўна, абы было што піць». «Не, не кажыце», – усміхаецца Клімент Яфрэмавіч. І налівае так, як у нас кажуць, у коптур – поўненькую чарачку, як вока, нават з верхам, «Вось гэта і ёсць з шапачкай, – смяецца ён. – Так будзем і піць». І пачалі мы з Клімѐнтам Яфрэмавічам куляць чарачка за чарачкай ды з гэтай самай шапачкай...

...Прачнуўся я у казённым доме, Спалохаўся: «Дзе я?» Падхапіўся на ногі, да стала падышоў – на ім тэлефон стаяў. Бачу – над акном нейкая паперка ляжыць, на якой надрукавана: «Калі вам дрэнна – звяніце па тэлефоне, выклікайце ўрача. Калі вам хочацца апахмяліцца ці паесці – выклікайце афіцыянтку. Калі вам хочацца паехаць адсюль – выклікайце машыну». І тэлефоны патрэбныя таксама надрукаваны. Ну, я, вядомая справа, хацеў як найхутчэй пакінуць незнаёмае мне месца. Пазваніў па апошнім тэлефоне, мне сказалі, што машына ўнізе, чакае мяне. Апрануўся, і – уніз. Там сапраўды чакала машына, яна і адвезла мяне ў гасцініцу.

Так дасюль і не ведаю, дзе я начаваў, хто і як адвёз мяне туды... Але выпіўку з «шапачкай» запомніў...

* * *

Успаміны П. К. Панамарэнкі пакуль не надрукаваны. І сказаць з пэўнасцю, што ён напісаў там пра смерць Янкі Купалы цяжка. Ды і ці напісаў наогул ён пра гэта хоць што-небудзь? Янка ж Купала для яго быў не тым, кім ён з'яўляецца для кожнага з нас, беларусаў.

У вуснай жа размове ён неаднаразова паўтараў:

– Я выратаваў бы Купалу, каб ён прыехаў у Маскву праз тыдзень-два. Тады ж, у тыя дні, не мог...

І звычайна дадаваў:

– Берыя быў супраць падзелу разведкі. Ён хацеў, каб уся яна падпарадкоўвалася толькі яму... А я быў начальнікам штаба партызанскага руху. І працаваць без сваёй разведкі... А паколькі Сталін падтрымліваў мяне, Берыя помсціў...

* * *

Пра працалюбівых, рознабакова адораных талентамі братоў, а то і ўвесь род Гарэцкіх усё часцей і часцей можна прачытаць у нашым друку. Я ж помню той час, калі ў Беларусі пра Гарэцкіх нельга было сказаць добрага слова. Колькі давялося пазмагацца, каб вярнуць нашай літаратуры выдатнага прадстаўніка гэтага роду Максіма Гарэцкага! Калі ўсё было быццам зроблена дзеля поўнай яго рэабілітацыі, нехта падсунуў Першаму сакратару ЦК КПБ К. Т. Мазураву ліст М. Гарэцкага «начальніку Сярэдняй Літвы», генералу Л. Жалігоўскаму, у якім «беларускі літаратар» прасіў дазволіць яму выдаваць «кірылаўскімі літарамі» беларускую газету. Ліст М. Гарэцкага трапіў у асноўны даклад, і тое добрае, што было зроблена дзеля рэабілітацыі пісьменніка, было перакрэслена, зноў трэба было пачынаць усё нанова. Праўда, М. Танк, калі яго паклікалі на гутарку, сказаў К. Т. Мазураву:

– Нейкі ліст Гарэцкага вашы памочнікі дык знайшлі... Чаму яны не знайшлі раман пра віленскіх камунараў? Што, нявыгадна гэта некаторым?

Тады, неўзабаве, праводзіўся ў Саюзе пісьменнікаў вечар М. Гарэцкага. Першы ў пасляваенны час. На вечар меўся прыехаць брат Максіма Гарэцкага Гаўрыла Іванавіч з сваім сынам Радзімам. Мне было даручана іх сустрэць на вакзале. Я і

сустрэў. Помню, першае, з чым звярнуўся да мяне Радзім, калі мы пазнаёміліся, – гэта каб я папраўляў яго беларускую мову, калі ён скажа нешта не так.

– Я ж першы раз у Беларусі, – сказаў ён. – І роднай мове навучыўся ад бацькі і маці...

Было ў мяне некалькі сустрэч з дачкою М. Гарэцкага Галінай Максімаўнай. І, вядома ж, з Гаўрылам Іванавічам. І ў розных грамадскіх установах, і дома. Але найбольш уразіла мяне адна сустрэча і не з самім Гаўрылам Іванавічам, а з яго вучнямі. Я вяртаўся з Балгарыі і, калі зайшоў у вагон, павітаўся з двума незнаёмымі мне адносна маладымі людзьмі. Прывітаўся па-беларуску:

– Добры дзень!

Мне адказалі таксама па-беларуску, вельмі, дарэчы, ветліва.

– Вы з Беларусі? – спытаў я.

– Не, – адказалі мне. – Але беларускую мову трохі ведаем, чулі...

І незнаёмыя мне дзецюкі пачалі расказваць пра свяціла навукі Гаўрылу Гарэцкага, які ім калісьці чытаў лекцыі ў Ленінградзе.

– Мы яго так любілі, – прызналіся былыя яго вучні, – што каб зрабіць яму прыемнае, кожны з нас вывучаў беларускую мову. Гэта – сапраўдны вучоны, такіх у Савецкім Саюзе няма, ды і ў свеце... Вы яго ведаеце? Як яго здароўе?

І мы некалькі гадзін гаварылі пра Гаўрылу Гарэцкага і яго брата Максіма, гаварылі пра Беларусь.

– Хто ж вы самі будзеце? – урэшце спытаў я.

Вучні Гарэцкага аказаліся дактарамі навук, яны працавалі ў Балгарыі і вярталіся разам са мною ў Савецкі Саюз, ехалі ў свой родны горад Ленінград...

* * *

К. Т. Мазураў... Па-рознаму пра яго гавораць людзі. Маю сваю думку пра яго і я. Ва ўсякім разе ўспамінаю з удзячнасцю – ён у прамым і пераносным сэнсе выратаваў мяне ад турмы і ад «сумы».

Было гэта ў 1962 г. Я выдаў кнігу прозы «Барвы ранняй восені». Вакол гэтай кнігі пачаўся незразумелы мне галас – адны яе хвалілі, называлі ледзь не новым словам у беларускай літаратуры, другія ганілі. У газеце «Звязда» была надрукавана рэцэнзія Я. Сідорчыка (пад гэты псеўданім схаваўся загадчык аддзела гэтай жа газеты, – ён лез у літаратуру і яго творы я не прапускаў на старонкі «Полымя», дзе тады працаваў) пад назваю «Пацяруха». Якраз тады «Полымя» змясціла новыя мае апавяданні, якія былі вытлумачаны некаторымі як антысавецкія, варожыя... Успомнілі мне і некаторыя іншыя мае грахі, у прыватнасці артыкул «Шанаваць родную мову», які ўбачыў свет у газеце «Літаратура і мастацтва» 14 снежня 1957 г. І закруцілася, завярцелася... Пра мяне пачалі гаварыць ледзь не як пра ворага не толькі на нашых пісьменніцкіх сходах, закрытых і адкрытых, але і ў іншых месцах, нават на пленуме ЦК КПБ...

Аднойчы, калі я чытаў нейкі чарговы рукапіс, да мяне ў «Полымя» завітаў адзін пісьменнік і папрасіў выйсці з ім на вуліцу. Там ён прашаптаў мне на вуха, што толькі што прынята рашэнне, каб мяне арыштаваць. За гэтае рашэнне прагаласавала чатыры чалавекі, супраць – тры... Ён назваў усіх, хто прыняў удзел у галасаванні...

– Мая рада табе – не начуй дома, шукай, як трапіць да начальства, найлепш у ЦК – да Шауры ці Мазурава...

Пісьменнік пайшоў, я вярнуўся ў «Полымя». Там мяне чакаў яшчэ адзін пісьменнік, які таксама папрасіў выйсці з ім на вуліцу... І паўтарыў прыкладна тое самае, што і папярэдні...

Што было рабіць? Я кінуўся ў ЦК КПБ, пачаў званіць В. Ф. Шауру. Ён ведаў

мяне, некалькі разоў з ім мы нават прагульваліся па парку, даволі шчыра гаварылі пра многія рэчы. Падняў трубку памочнік В. Ф. Шауры, папрасіў сказаць, чаму я хачу трапіць на прыём да сакратара ЦК...

– Па асабістым пытанні, – адказаў я.

– Па асабістых пытаннях Васіль Філімонавіч прымае толькі членаў партыі. Па пятніцах...

Членам партыі я не быў. І чакаць да пятніцы таксама...

Падумаўшы хвілін колькі, я набраў нумар тэлефона Першага сакратара ЦК КПБ К. Т. Мазурава. Трубку падняў таксама памочнік.

– Я хацеў бы трапіць да Кірылы Трафімавіча Мазурава на прыём, – сказаў я, назваўшыся, хто звоніць.

– Чаму? – было пытанне.

– У мяне да яго ёсць просьба, – сказаў я і дадаў: – Скажыце яму, што ў час вайны ён хаваўся на гарышчы ў майго бацькі.

– Добра, – адказалі мне. – Пазваніце праз паўгадзіны...

Я не выходзіў з ЦК, цярпліва чакаў. Праз паўгадзіны пазваніў.

– Дзе вы? – спыталі ў мяне.

– Я тут жа, у ЦК.

– Падыміцеся на пяты паверх, да памочніка Паўлёнка...

– Мяне не пускае міліцыянер, – сказаў я.

– Перадайце яму трубачку...

...Праз некалькі хвілін я быў на пятым паверсе, сядзеў у памочніка К. Т. Мазурава Паўлёнка. Ён спытаў у мяне, што здарылася, чаму я рваўся на прыём да К. Т. Мазурава. Давялося хоць і не ўсё, а тое-сёе расказаць...

...К. Т. Мазураў прыняў мяне назаўтра. Гаворка доўжылася больш за дзве гадзіны. Выявілася, ён прачытаў маю кнігу. І нават паспрабаваў рабіць аналіз некаторым творам. Седзячы насупраць Першага сакратара ЦК КПБ, я убачыў нумары беларускіх часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», кнігі некаторых маладых літаратараў, што ляжалі на асобным століку. І гэта мяне ўзрадавала: значыцца, чытае. Размова ў нас была шчырая – пра жыццё, літаратуру. К. Т. Мазураў даволі добра арыентаваўся у тым, што робіцца ў пісьменніцкай арганізацыі, што пішуць пісьменнікі. Натхняў мяне пісаць пра сучаснасць, пра лепшых людзей нашай рэспублікі...

Так, ён помніў майго бацьку, маці, помніў усю нашу сям'ю. Помніў і тое, як мы, рызыкуючы жыццём, хавалі яго, Спытаў пра далейшы наш лёс, бо ведаў: тую вёску, дзе мы жылі, у чэрвені сорак трэцяга году спалілі немцы... Я расказаў яму пра ўсё. Не таіў і таго, што мне пагражае і чаму я да яго прыйшоў... Ён тут жа набраў нумар тэлефона, некуды пазваніў, сказаў, што на прыёме ў яго малады пісьменнік Барыс Сачанка і ці праўда тое, што ён кажа...

Некалькі хвілін ён уважліва слухаў, што яму дакладвалі. Потым паклаў трубку, сказаў:

– Я не думаў, што ўсё гэтым скончыцца. Вам, відаць, гаварылі, што я вас крытыкаваў на пленуме ЦК. Выступленне мае было справакавана Броўкам. Ён вас абараняў. І адразу ж пасля выступлення паехаў да сябе на дачу. А я паправіў яго, напомніў, што ён член ЦК і пакуль пленум не скончыўся, не мае права яго пакідаць... Але калі гэта набыло такі накірунак, мы ўсё паправім... І «Звязду» таксама. Дапаможам вам і з кватэрай... І не аднаму вам... Дайце яшчэ два-тры прозвішчы маладых пісьменнікаў, хто гэтак жа, як і вы, жыве на прыватных кватэрах з сем'ямі...

Я назваў Рыгора Барадуліна, Анатоля Клышку...

К. Т. Мазураў сваё слова стрымаў. Газета «Звязда» 5 верасня таго ж 1962 г. надрукавала ліст настаўніка Л. Бульёнава пад назваю «Дзе ж добразычлівасць?», у якім крытыкавала артыкул Я. Сідорчыка, не пагаджалася з аўтарам, абараняла мяне.

Атрымаў я разам з Р. Барадуліным, А. Клышкам і кватэру... Праўда, не адразу, бо яе паспрабавалі у мяне адабраць. Умяшаўся зноў К. Т. Мазураў, і мае непрыяцелі адступілі...

* * *

Пра П. М. Машэрава цяпер расказваюць ледзь не легенды, асабліва, як любіў ён пісьменнікаў, наогул, усю творчую інтэлігенцыю. Так, гэта праўда, цеплыня, сардэчныя, нават сяброўскія адносіны ў П. М. Машэрава былі з многімі, у тым ліку і з І. П. Мележам. І калі Іван Паўлавіч памёр, Пётр Міронавіч прыйшоў з ім развітацца. Доўга глядзеў у безжыццёвы твар Івана Паўлавіча, а ў канцы, схіліўшы галаву і ўбачыўшы тыя ўзнагароды, што Іван Паўлавіч атрымаў, усклікнуў:

– Такі чалавек і так мала ў яго ўзнагарод!.. Няма нават Дзяржаўнай прэміі БССР...

Назаўтра раніцаю мне, тады сакратару праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, пазваніў сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін:

– Тэрмінова збярыце сход і вылучце Івана Паўлавіча на Дзяржаўную прэмію БССР, – загадаў ён.

– Але ж Івана Паўлавіча на гэтую ўзнагароду ужо вылучалі, – паведаміў я. – Наколькі мне вядома, яго кандыдатуру чамусьці адхілілі...

– Праўда? – здзівіўся Аляксандр Трыфанавіч. – Тады аднавіце ранейшае афармленне.

Я пайшоў у Саюз пісьменнікаў, зрабіў, што было загадана. Паперы панеслі ў ЦК.

Праз якую гадзіну мне пазваніў Старшыня камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР П. У. Броўка.

– Вы няправільна афармілі паперы, – раздражнёна сказаў ён.

– Чаму? – спытаў я.

– Таму, што трэба І. П. Мележа па-новаму вылучыць на прэмію.

– Але ж тады Камітэт будзе мець права адвесці кандыдатуру як вылучаную пасля смерці, – не згадзіўся я з Пятром Усцінавічам. – Ды і Іван Паўлавіч быў ужо вылучаны. Пры жыцці... Вы ж гэта добра ведаеце...

П. У. Броўка не стаў больш са мной гаварыць, паклаў трубку. Ды і што ён мог сказаць? Кандыдатуру Івана Паўлавіча Мележа на Дзяржаўную прэмію БССР вылучалі на прэзідыуме праўлення Саюза пісьменнікаў, і, пакуль Іван Паўлавіч ездзіў у Крым, яе закасавалі. Чаму? Маўляў, кніга «Жыццёвыя клопаты» пісалася ўсё жыццё, а прэмія даецца за творы, напісаныя за апошнія два-чатыры гады... Сапраўднай жа прычынай было тое, што І. П. Мележ асмеліўся пакрытыкаваць «Беларускую Савецкую Энцыклапедыю», галоўным рэдактарам якой быў П. У. Броўка. Такіх рэчаў П. У. Броўка не дараваў нікому...

Валтузня вакол кандыдатуры І. П. Мележа на Дзяржаўную прэмію БССР ішла доўга, у яе былі падключаны іншыя пісьменнікі і непісьменнікі...

І ўсё ж, хоць і пасмяротна, але Дзяржаўная прэмія БССР І. П. Мележу была прысуджана...

* * *

Любіў беларускую літаратуру і яе творцаў і Ц. Я. Кісялёў. Аднойчы ён нават прызнаўся мне:

– Не хапае на ўсё часу... Але я чытаю тое, што вы пішаце. Увечары, перад сном... Кожны дзень... Вось і вашу кнігу прачытаў.

І выказаў слоў колькі пра яе, як хвалебных, так і крытычных.

Родам Ціхан Якаўлевіч быў з Гомельшчыны. І мяне, як земляка, трохі ведаў яшчэ да таго, як трапіў ён на працу ў Маскву. Тады ж, калі ён працаваў у Маскве намеснікам Старшыні Савета Міністраў СССР, яго вылучылі ў Мінску канды-

датам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР. Трэба было камусьці выступіць ад інтэлігенцыі горада Мінска на вечары-сустрэчы з кандыдатам у дэпутаты. «Можа, выратуеш?» – прапанавалі мне. І паколькі званіў добры мой знаёмы, я не мог адмовіцца, згадзіўся. І выступіў з падтрымкай кандыдатуры Ц. Я. Кісялёва ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР. Сказаў, як любіў Ціхан Якаўлевіч беларускую літаратуру, напомніў, што апошняя пастанова Савета Міністраў БССР, якую ён падпісаў перад сваім ад'ездам у Маскву, была пастанова аб будаўніцтве ў Мінску помніка Максіму Багдановічу...

Я, мусіць, расчуліў Ціхана Якаўлевіча, бо калі скончыў гаварыць, ён усхапіўся з месца, абняў мяне, адвёў убок, каб пагаварыць. Я сказаў яму, што нам, беларускім літаратарам, яго не хапае...

– А мне вас, – прызнаўся ён.

Вяртанне зноў у Беларусь Ц. Я. Кісялёва на пасаду Першага сакратара ЦК КПБ было ўспрынята ў колах інтэлігенцыі з радасцю. Ды і сам Ціхан Якаўлевіч радаваўся...

На жаль, хвароба не дала яму па-належнаму ва ўсю сілу праявіць сябе на новай пасадзе. Неяк, калі ён вярнуўся пасля доўгага лячэння з Масквы і прыняў нас, групу пісьменнікаў, – уручаўся якраз ордэн Леніна і Зорка Героя Сацыялістычнай Працы Максіму Танку, – ён, убачыўшы нас, каб спыніць розныя пытанні, пажартаваў:

– Аказваецца, можна жыць і не выпіваючы... месяцаў так я вось некалькі жыў...

Пісалі мы ўсім кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў яму ліст, калі Ціхан Якаўлевіч ляжаў зноў у Маскве ў бальніцы, лячыўся. Ён адказаў нам па-беларуску, ад рукі, без адзінай памылачкі, кожнага з нас назваўшы па імю і па бацьку...

З смерцю Ц. Я. Кісялёва абарвалася дружба кіраўніцтва рэспублікі з творчымі работнікамі, беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй...

* * *

Не-не ды і чуюцца, асабліва з боку маладых, папрокі нашай літаратуры, быццам яна была нясмелая ва ўсе пасляваенныя гады, быццам беларускія пісьменнікі не баранілі сваю родную мову. Нават вызначэнні знойдзены – «прыкарытная», «прыкарынікі»...

Не дзеля апраўдання, а дзеля справядлівасці мушу нагадаць некаторыя факты... Не ўсе, вядома, а толькі тыя, якія ведаю...

Першая «справа», якую сяму-таму хацелася правесці супраць беларускай літаратуры і нашай мовы – гэта «аршанская» і накіравана была яна супраць У. Караткевіча. Тады ў Оршу выехала некалькі пісьменнікаў, яны выступілі ў газеце «Звязда» з артыкулам у абарону У. Караткевіча і не далі звесці рахункі «ретивым» ахоўнікам савецкага ладу жыцця...

У 1957 г. газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала мой артыкул «Шанаваць родную мову». У падтрымку яго, з паведамленнямі, што робіцца па выкараненню роднай мовы з ужытку, даслалі лісты ў рэдакцыю сотні людзей. Частка з іх была надрукавана. Рэдактара газеты М. Ткачова вызвалілі ад пасады, былі вызвалены ад пасад і ўсе тыя, хто рыхтаваў мой артыкул. Супраць тых жа, хто пісаў лісты ў рэдакцыю, падтрымаў мой артыкул, таксама былі заведзены «справы». Многія ні ў чым не вінаватыя людзі, асабліва студэнты, апынуліся ў самых розных месцах за межамі Беларусі. Мая справа раскручвалася паволі і я не ведаю, чым бы ўсё скончылася, калі б не трапіў я на прыём да Першага сакратара ЦК КПБ т. Мазурава...

У 1958 г. у часопісе «Маладосць» была надрукавана аповесць А. Кулакоўскага «Дабрасельцы». І пачалася барацьба з «ачарніцельствам» у нашай літаратуры.

А. Кулакоўскі быў вызвалены ад пасады галоўнага рэдактара часопіса, некалькі месяцаў хадзіў без працы.

Выратаваў яго В. І. Казлоў, які працаваў Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і якому пісьменнік дапамагаў апрацоўваць яго ўспаміны...

У наступныя гады ўзнікла гэтак званая «студэнцкая справа», калі абвінавацілі ў нацыяналізме цэлую групу студэнтаў універсітэта, а, заадно, і некаторых пісьменнікаў, якія давалі грошы студэнтам, каб яны не галадалі. Апошняе вытлумачана было па-свойму – маўляў, пісьменнікі з дапамогай студэнтаў стваралі цэнтр па падрыхтоўцы нейкай акцыі супраць улад... У гэтую справу ўключаны былі маладыя паэты А. Разанаў, В. Ярац і некаторыя іншыя. Справа гэтая скончылася тым, што студэнтаў павыключалі з універсітэта ці папераводзілі вучыцца ў абласныя педінстытуты...

Мінула некалькі гадоў – і зноў узнікла новая «справа» – гэты раз акадэмічная. Абвінавачаны ў падрыўной дзейнасці былі некалькі кандыдатаў навук – М. Прашковіч, С. Місько, А. Каўрус, М. Чарняўскі і інш. У гэтую кампанію быў упісаны У. Караткевіч, ды некаторыя іншыя пісьменнікі, журналісты. Рыхтаваўся судовы працэс. Ён быў спынены, дзякуючы энергічным дзеянням некаторых вядомых пісьменнікаў – М. Танка, М. Лужаніна, Я. Брыля, І. Мележа...

Неаднаразова ўзнікала справа В. Быкава. І невядома чым бы яна скончылася, каб яго дружна не баранілі пісьменнікі, не пісалі ў яго абарону лістоў – і калектыўных, і індывідуальных...

Узнікала час ад часу «справа» А. Карпюка ды і некаторых іншых...

Так, у нас, у Беларусі, быццам нікога не асудзілі з пісьменнікаў у пасляваенны час, нікога не выслалі за межы рэспублікі... Але не таму, што пісьменнікі былі лагодныя, што літаратура наша была «прыкарытная»... Каб пасадзіць ці выслаць таго ці іншага, «кампрамат» пры жаданні можна было знайсці, цяжкасці гэта не ўяўляла... Вунь у 30-я гады не было зусім за што, а садзілі, высылалі... Чаму ж усё ж нікога ў Беларусі не пасадзілі, не выслалі? Мяркую, таму, што на чале кіраўніцтва рэспублікі стаялі такія людзі, як К. Т. Мазураў, П. М. Машэраў, Ц. Я. Кісялёў... Яны слухаліся нашых старэйшых пісьменнікаў, не дазвалялі праводзіць тых працэсаў, што рыхтаваліся ды і праводзіліся ў Маскве, у Кіеве ды і ў некаторых іншых рэспубліках...

* * *

З памочнікам Ц. Я. Кісялёва І. І. Клішыным мы пасябравалі ў Нью-Ёрку, калі былі там разам на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Сустракаліся і потым часта ў Мінску. Сам рускі, ён палюбіў Беларусь, рабіў усё, што было ў яго сілах, дзеля яе росквіту. Пра Ц. Я. Кісялёва ён заўсёды гаварыў з вялікай павагай:

– Калі б усе кіраўнікі так дбалі пра Беларусь, як ён, – гаварыў неаднойчы Іван Іванавіч, – зусім інакшае б жыццё было ў нас...

* * *

Па сваёй натуры П. М. Машэраў быў рамантык. Ён вельмі паважаў людзей творчых, дапамагаў многім, браў у паездкі па рэспубліцы.

Аднойчы, у час чарговай паездкі па калгасах і саўгасах, калі мы з І. Пташнікавым і яшчэ некім стаялі ўбаку ад усіх і пра нешта размаўлялі, Пётр Міронавіч падышоў да нас. Сказаў, як заўсёды, натхнёна:

– Вы ведаеце, як глядзяць на вас людзі, калі прыязджаеце да іх!..

– Як на Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, – сказаў я з усмешкаю.

Здаецца, І. Пташнікаў, паглядзеўшы на Пятра Міронавіча, быццам сам сабе прамовіў:

– А калі перад імі Аляксандр Сяргеевіч, толькі не Пушкін, а Ставер...

Пётр Міронавіч адразу ж змяніўся з твару, адмоўна пакруціў галавою.

– Не падабаюцца мне такія разважанні, – сказаў ён і перавёў размову на нешта іншае.

Цяпер, праз гады, калі няма П. М. Машэрава, няма Ц. Я. Кісялёва, ды і некаторых іншых кіраўнікоў, і мы, пісьменнікі, зведалі іншыя адносіны да сябе і беларускай літаратуры, словы П. М. Машэрава ўспрымаюцца зусім інакш...

* * *

К. Т. Мазураў быў першым беларусам пасля вайны, каму даверана было кіраваць рэспубліканскай партыйнай арганізацыяй, у тыя, ранейшыя, гады фактычна ўсёй рэспублікай. Да гэтага пасля расстрэлу ў 1938 г. В. Ф. Шаранговіча ёю кіравалі рускія. Кірыла Трафімавіч даволі нядрэнна валодаў беларускай мовай, час ад часу выступаў на ёй з дакладамі, пакуль аднойчы «вялікі інтэрнацыяналіст» М. С. Хрушчоў не аблаяў яго за гэта. Неяк у гутарцы Кірыла Трафімавіч папракнуў мяне, а ў маёй асобе і ўсіх пісьменнікаў:

– Што вы учапіліся за гэтую беларускую мову, быццам толькі адна яна вызначае Беларусь! А адноўлены Мінск? А дзясяткі заводаў, што пабудаваны?.. А дарогі, масты? Што, хіба гэта зроблена не дзеля беларускага народа, не дзеля росквіту Беларусі?

П. М. Машэраў, які замяніў на пасадзе Першага сакратара ЦК КПБ К. Т. Мазурава, беларускую мову ведаў горш, хоць, праўда, і спрабаваў на ёй рабіць даклады. Лепш за іншых кіраўнікоў партыі беларускую мову ведаў Ц. Я. Кісялёў, гаварыў на ёй свабодна, натуральна, без памылак. Зноў жа, зрабіць нешта дзеля шырэйшага яе ўжытку нічога ці не паспеў ці не змог. Была аднойчы ў мяне размова ў бытнасць Першым сакратаром ЦК КПБ Ц. Я. Кісялёва з міністрам асветы М. Г. Міцкевічам, у якой міністр быццам скардзіўся, што сярэднія школы самавольна папераводзілі ў гарадах з беларускай мовы навучання на рускую. А на такі перавод, маўляў, патрэбны рашэнні аблвыканкамаў.

– А вы звярніцеся да Ціхана Якаўлевіча Кісялёва... Скажыце ці напішыце яму пра гэта... – параіў я.

– Гаварыў і нават пісаў, – прызнаўся Міхаіл Гаўрылавіч.

– І што?

Міхаіл Гаўрылавіч нічога не адказаў, паціснуў толькі плячыма.

Пасля смерці Ц. Я. Кісялёва на пасаду Першага сакратара ЦК КПБ прыехаў М. М. Слюнькоў. Сустракацца з ім адзін на адзін мне не даводзілася, але мяркуючы па тым, як адносіўся ён да беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі і культуры, гэта быў надта абмежаваны чалавек. Я. Я. Сакалоў, які, мне здаецца, гэтак жа, як і М. М. Слюнькоў, воляю выпадку апынуўся на гэтай пасадзе, ужо ў першым сваім дакладзе заявіў, што 82% беларусаў прызнаюць рускую мову за родную і ніякага павароту ў бок беларускай мовы чакаць не трэба. Я на першай жа сустрэчы ў ЦК КПБ абвергнуў гэтыя некім выдуманыя і упісаныя ў даклад 82%, прывёў сапраўдныя лічбы валодання ў Беларусі рускай і беларускай мовамі. Прыведзеныя мной лічбы ўважліва правяраліся, але паколькі яны былі ўзяты са статыстычнага даведніка, што выйшаў у Маскве, абвяргаць іх ніхто не ўзяўся.

На наступнай сустрэчы, якая таксама адбылася ў ЦК КПБ, зноў, як і некаторыя іншыя, я выступіў за неабходнасць адраджэння беларускай мовы.

– Я не веру, што яе можна адрадзіць, – заявіў адзін народны пісьменнік, які, па ўсёй верагоднасці, надта ж хацеў спадабацца новаму Першаму сакратару ЦК КПБ, як падабаўся ён папярэдняму, М. М. Слюнькову.

Яго падтрымалі яшчэ некалькі пісьменнікаў. Далучыўся да іх і Я. Я. Сакалоў,

– Наогул, – прызнаўся ён у заключным слове, – ці ёсць такая мова... Я, працуючы на Брэстчыне, яе ва ўсякім выпадку не чуў...

Ведалі добра беларускую мову сакратары ЦК КПБ, якія ў свой час вялі ідэалогію і культуру, Ц. С. Гарбуноў, С. А. Пілатовіч, В. Ф. Шаура. Што ж да А. Т. Кузьміна, які на працягу амаль дваццаці гадоў быў галоўным ідэолагам рэспублікі, дык ён так і не навучыўся размаўляць па-беларуску, ды да гэтага і не імкнуўся.



*Браты: Іван, Пятро, Барыс, Алесь САЧАНКІ.*

– Мы допустили в этом вопросе ошибки, перегнули палку, – прызнаваўся ён ці не на апошнім годзе свайго кіравання, неяк выступаючы ў Саюзе пісьменнікаў.

Але адгінаць гэтую «палку» ні ён, ні яго паслядоўнікі не спяшаліся і не спяшаюцца. Адменены і адмяняюцца многія пастановы, якія прымаліся паспешліва, неабдумана, на шкоду эканоміцы, культуры, толькі не тыя, што адбіралі ў людзей мову, калечылі яе, рабілі з нацыянальна свядомых людзей Іванаў «не помнящих родства»...

* * *

Пры П. М. Машэраве і Ц. Я. Кісялёве былі адкрыты ў Мінску помнікі Янку Купалу і Якубу Коласу, Францыску Скарыну ў Полацку, прыняты пастановы аб выданні саракатомнага збору беларускага фальклору, першай у гісторыі нашага народа Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, утвораны выдавецтвы «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва»... Пералік добрых спраў, якія працавалі і працуюць на нацыянальнае адраджэнне і да якіх мелі самае непасрэднае дачыненне П. М. Машэраў і Ц. Я. Кісялёў, можна доўжыць...

Пажывём, пабачым, якую памяць аб сабе пакінуць новыя кіраўнікі рэспублікі, што прыйшлі і прыйдуць на змену.

*1991*

## Сачанкі. Вялікі Бор і белы свет...

*Іван Іванавіч Сачанка, доктар філалагічных навук, прафесар, які і цяпер разам са сваёй жонкаю Ларысай Аляксандраўнай выкладае ў Інстытуце журналістыкі БДУ – адзіны з бацькавых братоў, хто сёння можа згадаць страшнае ваеннае ліхалецце. І ягоная ўнучка, маладая журналістка Вольга Кіпніс, якая запісала ягоныя ўспаміны, паабяцала, што абавязкова разгаворыць дзеда і занатуе ўсё, што ён згадае пра тыя страшныя гады. Але гэтым разам, калі папрасілі яго расказаць пра брата Барыса, ён найперш згадаў не апаленае вайной маленства, а маладосць. Ведаю, што тыя, хто перажылі вайну ў дзяцінстве, вастрэй за тых, хто яе не перажыў, успрымаюць, цэняць мір, згоду, простае чалавечае шчасце. Усе гады і я, і ўсе мы адчувалі падтрымку Івана і Ларысы Сачанкаў*[1].

[1] Тэкст курсівам тут і далей – Галіны Багданавай (Сачанка).

## Іван САЧАНКА

### Брат мой, Барыс…


*Іван САЧАНКА.*

Калі Барыса першы раз надрукавалі – яго апавяданне перадалі па радыё. Мы дома ўсе яго слухалі. Я запомніў на ўсё жыццё, як пасля выступіў Ян Скрыган, вядомы пісьменнік, і каротка ахарактарызаваў: “У літаратуру ідзе талент”. На наступны дзень, калі я прыйшоў у школу, спачатку вучні, а пасля настаўнікі, пачалі казаць пра гэта. І да сябе мяне паклікаў дырэктар, які сказаў: “Вось старайся і ты так!”

Але найбольш уражлівы ўспамін пра тое, як недзе ў 1962 годзе ў Барыса выйшла кніжка апавяданняў. І на гэтую кніжку, па заданні ЦК КПБ, з’явілася ў газеце “Звязда” рэцэнзія пад назваю “Пацяруха”. Рэдактарам у той час быў Пыжкоў Васіль Андрэевіч – той яшчэ інтрыган. Рэцэнзія была надрукавана пад псеўданімам, аднак гэтая таямніца была раскрыта, яе напісаў Барыс Стральцоў па даручэнні Пыжкова. Вельмі злобная рэцэнзія. Рэцэнзія, якая нагадвала мінулыя 1937-38 гады. Пасля такіх рэцэнзій у тыя гады Барыс мог бы жыцця пазбыцца. У гэтай рэцэнзіі было тое, што для Барыса было асабліва балючым – што, маўляў, ягоныя творы прасякнутыя нямецкім духам. І гэты нямецкі дух адчуваецца ў кожным яго апавяданні, у яго жыцці, што ён не пазбавіўся ад таго, што ён быў у Германіі. Барыс вельмі і вельмі перажываў. Тады я быў студэнтам. Не было нейкага афіцыйнага пісьма, пастановы, аднак яго творы, наколькі памятаю, гады два не друкавалі. Але Барыс працягваў пісаць. І памятаю, як аднойчы ў размове ён сказаў: “Іван, нада мною ўвесь час вісіць гэты дамоклаў меч, кожны раз калі саджуся пісаць, баюся, што гэты меч рассячэ мяне напалам, увесь час перажываю, не сплю, усё думаю, што будзе далей”. Забыцца на гэтую рэцэнзію ён не мог. Успамінаю, які гэта быў змрочны час і як цяжка было Барысу. І я таксама перажываў.

Аднойчы мы з Барысам і Іванам Пташнікавым ішлі і ўспаміналі гэты змрочны час. Доўга размаўлялі, і Іван Пташнікаў сказаў: “Барыс, добра, што жывы застаўся. Не сумуй, што не друкуюць, я ўпэўнены, што хутка ўсё гэта забудзецца. А ты пішы, пішы, нягледзячы ні на што, і днём, і ноччу... пішы, таму што твае творы заўсёды будуць патрэбны, іх будуць чытаць. Справа ў тым, што ты чытача не згубіў, чытач застаўся той жа, ён чакае тваіх твораў. А тое, што не друкуюць – гэта з многімі было. Добра, што застаўся жывы, не саслалі нікуды – успомні 1937 год, колькі нашых пісьменнікаў загінула нізашто. І кожны табе спачувае, і кожны знае, што твой час яшче прыйдзе. Ты быў пісьменнікам – ты ім і застанешся”. Я памятаю, як Барыс быў рады, што яго праз нейкі час надрукавалі ў “Полымі”, рэдактар там быў Павел Кавалёў, які сказаў: “Барыс, баюся, але надрукую! Што будзе – тое будзе”. І надрукаваў. Пасля гэтага яго творы пачалі друкаваць і іншыя выданні.

У той час мы часта бывалі ў Барыса. І вось аднойчы пасля гасцей вяртаемся дадому позна ўвечары. Мы жылі на вуліцы Лодачнай, на якой былі адны драўляныя дамы. І высвятляецца, што мы забыліся ў Барыса соску нашай маленькай дачкі. А Алачка без гэтай соскі не засынае, плача і ўсё тут. На вуліцы ішоў моцны дождж. Тэлефона няма. Наш дом было цяжка знайсці: цёмна, усё шэрае, пад дажджом. І раптам нехта стукае ў дзверы. “Хто ж гэта ў такі час?” – падумалі мы з жонкай. Адчыняю дзверы, а там Барыс стаіць. “Вы соску забыліся”.

Барыс быў вельмі чулы чалавек, асабліва да чужога гора, да чужой бяды. Ён вельмі спагадліва ставіўся да людзей, ён вельмі любіў людзей, у яго было шмат сяброў і сярод пісьменнікаў у тым ліку. Мне здаецца, што ў яго гэта з дзяцінства. Памятаю, неяк зімой Барыс са старэйшым братам Міколам паехалі па дровы ў лес. Знайшлі тоўстае старое дрэва, ссеклі, паклалі на воз і паехалі дадому. Прыехалі, пачалі здымаць дрэва з возу, і з дупла пачалі сыпацца арэхі. Шукалі, адкуль пасыпаліся гэтыя арэхі і здагадаліся, што арэхі тыя – вавёрчыны прыпасы. І вось Барыс занудзіўся: "Як жа мы вавёрку пакінем без ежы, можа ў яе і дзеткі ёсць..."

Палессе нашая радзіма. Старажытны лес. У нас такія дубы былі, што ўдвух і ўтрох абхапіць не маглі. Паглядзіш на такі дуб, здаецца, неба ён падпірае... Але Барыс вырашыў, што трэба ісці ў лес на тое самае месца. За ім пайшоў мой старэйшы брат Мікола. Аднёс Барыс гэтыя арэхі на месца старога дрэва і сказаў, што спадзяецца, што ўратаваў вавёрку, так ён любіў жывёл. Дадому яны вярнуліся ўжо цёмначы.

Калі я быў малы, Барыс у 8-10 класах вучыўся ў Хойніках. У пятніцу ён прыходзіў дадому, а ў нядзелю маці збірала яму ежу на тыдзень, і ён зноў выпраўляўся ў Хойнікі. Вучыўся ён вельмі добра, атрымаў сярэбраны медаль. І паехаў у Мінск, здаў на выдатна экзамен і паступіў у БДУ.

Калі я скончыў 10 класаў, мне таксама параілі: трэба паступаць на філалагічны факультэт. Я паступіў, і пасля першага экзамена зразумеў, што гэта не маё. Паехаў дадому, і мяне прызвалі ў армію. У арміі Барыс дапамагаў мне вучыцца: дасылаў кніжкі, якія я насіў у сумцы з процівагазам, і ўвесь час мяне кансультаваў, дапамагаў як мог. Як прыеду, заўсёды скажа, што трэба вучыцца, адным словам, быў маім настаўнікам. Адразу пасля арміі я паступіў на факультэт журналістыкі.

Ён заўсёды дапамагаў мне, раіў як жыць, але папярэджваў: "Іван, нікому не кажы, што мы былі ў Германіі. Не кажы, таму што могуць адлічыць". Памятаю яшчэ адзін наш вялікаборац – Змітро Бяспалы – тады таксама вучыўся на факультэце журналістыкі. Але я ведаў, такіх, як мы ў вышэйшыя ўстановы не прымалі. Не ведаю, ці то праўда была, ці не, але мяне заўсёды папярэджвалі, не расказваць пра тое, што мы былі ў Германіі.

• • •

*Малодшы бацькаў брат Алесь быў арганізатарам і нязменным галоўным рэтактарам часопіса "Пралеска", складаў і выдаваў кнігі для дзяцей. І на сёння замяняе маім сынам дзеда. Ён са сваёю жонкаю Галяй былі на абароне дыпломных работ у Алеся і Янкі, на вяселлі. Мне вельмі хочацца, каб у яго хапіла сілаў і натхнення напісаць пра сваё жыццё, пра Вялікі Бор, пра тое, пра што ведае толькі ён...*

## Алесь САЧАНКА

## ПРАТАКОЛ

***Урывак з рамана***

### Уступ (цяпер мода на гэта)

Часы майго свядомага дзяцінства выпалі на пачатак шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Памяць стала гушкае некалькі падзей, што адбываліся на зломе дзесяцігоддзяў: нязвыкла лютыя, снежныя зімы, грашовая рэформа ў краіне, электрафікацыя і радыёфікацыя вёскі, тэлевізар "Рэкорд", а яшчэ выхад у свет першай кнігі роднага брата Барыса...

## Вялікага дуба без моцных каранёў не бывае...



*Алесь САЧАНКА. Студэнт БДУ. 1973 г.*

Халепа-халепай наўсцяж, здаецца, да самай зямлі аселі кудлы шэра-чорных аблокаў, вецер-віскуцень налятае такі, што, здаецца, вось-вось паваляцца долу карабельныя сосны. Гонкія, пругкія, яны адчайна гнуліся-гушкаліся з ядраным трэскам абапал вузкай сцяжынкі, па якой я, васьмігадовы хлапчук, і мая маці ішлікоўзаліся ў гумавых ботах па слізкай гразі ў не раз клятую Аўрамаўскую. Клятую не з-за яе жыхароў, а з-за таго, што там месцілася ўся тагачасная мясцовая ўлада – сельсавет і, вядома ж, пошта, бальніца, аптэка, школа-дзесяцігодка, некалькі крамаў, чыгуначная станцыя... Усе яны мелі назву велікаборскіх – іх перанеслі туды, за пяць кіламетраў у суседнюю Аўрамаўскую, бо нашую вёску спалілі немцы падчас вайны. Пазней, ужо ў 80-я гады, калі ўрэшце рэшт вярнулі ў Вялікі Бор усю, так бы мовіць, тутэйшую інфраструктуру, тая вёска пачала ціха-мірна канаць...

І трэба ж было нам выбрацца ў гэтакую слоту (я і далей буду выкарыстоўваць нашую, велікаборскую, лексіку, каб чытач мог зразумець яе паходжанне ў творах Барыса Сачанкі), калі толькі чэрці жэняцца, як сказалі б мае аднавяскоўцы, брысці ў тую Аўрамаўскую! І ўсяго толькі на пошту! Але дзеля чаго?!

Вось тут мушу сказаць: па неадкладнай, пільнай патрэбе. Вельмі пільнай! Нарэшце-такі прыйшла доўгачаканая бандэроль з далёкага Мінска. Барыс быў першым велікаборцам, які патрапіў туды. Ды не проста так, а вучыцца ва ўніверсітэце. Мары яго раўнагодкаў аб працаўладкаванні, ды, бадай, і ўсіх вяскоўцаў, як правіла, губляліся недзе ў суседняй Рэчыцы ці ў Гомелі, а вучоба – на трактарыста або шафёра (шохвера) у Рудакове – яшчэ адной вёсцы нашага ж Хойніцкага раёна. Барыс быў таленавіты, мусіць, больш дакладна – самы таленавіты ў нашым родзе. І бацькі вырашылі даць яму належную, лепшую па тым часе, адукацыю. Уявіць толькі варта, як ён мусіў кватараваць у райцэнтры пасля сямігодкі, каб толькі атрымаць сярэднюю адукацыю. За васямнаццаць кіламетраў ад бацькоў жыў, сам гатаваў, апранаўся, вучыўся... Дарога — яе не было, і пасажырка (аўтобус) не хадзіла. Не было і іншага транспарту, акрамя хіба што спадарожнага, коннага. Барыс атрымаў сярэбраны медаль у той жа школе, якую перад вайной скончыў і Іван Мележ з Глінішчаў. А калі прынёс яго ў хату, цягам дня – чутка абляцела ўсю вёску, кожны падворак. “Гэта ж трэба – такі вучоны!”, “Не, з гэтага хлопца чалавек выйдзе”, – чулася ўслед маім бацькам, калі тыя ішлі па вёсцы ў краму, на цагельню, у кузню або стальмашню.

Калі ж Барыс распавёў пра свае планы, пра Мінск, Белдзяржуніверсітэт, ніхто ў сям’і яму не пярэчыў. “Выцягнемся на нітку, а Барыска вывучым!” – вырашылі бацька і маці: – “Мы свету белага не бачылі, няхай ён паглядзіць”. Хаця “свет белы” – далёкі, нязведаны, горкі – яны ўжо бачылі: іх з пяццю малымі дзецьмі на руках вывезлі ў Нямеччыну гітлераўцы. Вёску спапялілі, а ў ёўні (калгасным льносховішчы) спалілі 265 старых і нямоглых. Астатніх, дужэйшых, пагналі за

40 кіламетраў у Васілевічы, загналі ў таварнякі і адправілі ў Германію, у рабства. З ранку да ночы там яны цяжка працавалі, прычым усе. Эксплуатацыя была так адмыслова адпрацавана, што баўэр знаходзіў занятак і дарослым, і малым...

"Выцягваліся на нітку" бацькі ў Нямеччыне, і пасля вайны – на голым папялішчы. Хоць "роднае папялішча" засялілі тыя, хто вярнуўся раней, давялося пачынаць з нуля ва ўсіх сэнсах. Пра гэта я даведаўся пасля, калі ў 1964 годзе, зноў па ініцыятыве братоў, Барыса і Івана, бацькі сталі будаваць новую хату "як стадолу". Пачуў, што на тым ранейшым, радавым месцы, якое аблюбаваў некалі наш дзед Мікалай, расце пасаджаная ім ліпа. Абгарэлую і здзічэлую яе новыя гаспадары спілавалі. Але дрэва было настолькі магутнае, таўшчэзнае, моцнае каранямі, што дае парасткі нават цяпер, ужо ў XXI стагоддзі! Такіх магутных, высокіх ліпаў у вёсцы было дзве: адна ля царквы, другая на нашым селішчы. Царкву зруйнавалі бальшавікі, а вось ліпа засталася. Ля яе заўсёды спыняліся, хрысціліся, абавякова прыводзілі памерлых на возе з чорнай паркай коней дзядзькі Алёшы, маліліся і рушылі далей на могілкі. Ліпа ўпала з цягам часу сама, яна так і ляжала, доўга дагнівала, але людзі прыходзілі, маліліся...

Барыс пайшоў у "белы свет", нязведаны, яму чужы, але такі жаданы і такі вабны. Ён з'яўляўся дома толькі на канікулах, прывозіў нам, малечы, Паўліку і мне, самае жаданае – новыя картовыя штаны, чаравікі, сарочкі ў клетку і цукеркі! Пах і смак тых цукерак – "Мішка на Поўначы", "Чырвоны Каптурок", "Ластаўка" – жывуць ува мне і зараз, праз дзесяцігодддзі і выпрабаванні многай іншай кандытарскай смакатою. Тады ж у нас за самую радасць і дзіцячае шчасце ў вёсцы былі смачныя-смачныя, густа пасыпаныя цукрам і яблычным павідлам унутры "падушачкі" па дзесяць капеек пасляваенных грошай, а яшчэ даўкі "Залаты ключык". Былі і пернікі, што патыхалі мышыным жытлом.

...Маці, старанна выцершы на драўляным ганку пошты ногі, што зрабіў і я ("што робіць воўк, тое і ваўчаня") нерашуча ступіла да дзвярэй, тузанула нясмела іх на сябе... зачынена!

– Вой прыйшлі дык прыйшлі мы з табой, Алёшка! Во нарабілася ды нарабілася! Што ж гэта, дзівача, будзе? – затурбавалася маці.

Але раптам дзверы адчыніліся ў другі бок, і нам насустрач выйшла сталая, захутаная па самыя вочы ў хустку-самавязку паштарка.

– Што вы хацелі? – запыталася яна.

– Я Вера Камарова, – нерашуча адказала маці. – Тут мой сын прыслаў бандзероль з кніжкай. Вось квіток...

– Бандэроль у нас, і кніжка там ёсць, – але ж на прозвішча Сачанка, а вы кажаце Камарова?

– Дык гэта па-вулічнаму Камаровы, а так мы – Сачанкі, – пачала апраўдвацца маці.

– Ну, тады іншая размова... Праходзьце...

Мы ступілі ў цьмянае, абшарпанае, зашмальванае наведвальнікамі памяшканне, якое густа пахла плаўленым сургучом. Паштарка няспешна дастала са стала бандэроль, паказала пазногцем, дзе распісацца пяром-жабкай, і нібы просячы прабачэння, усмешліва сказала:

– Мабыць, даўно чакаеце, затрымалася недзе адпраўленне. З Мінска. Дарога ж няблізкая...

– Нічога. Добра, што так прыбілася нарэшце. Дзякуй вам... – на развітанне прамовіла нейкім праселым голасам маці, і мы выйшлі на вуліцу.

Я здзівіўся: "Як жа так? Дома маці з бацькам так абураліся, што кніжка, першая кніжка (!) сына ніяк не дойдзе. Вунь пісьмо ад яго даўно прыйшло, дзе ён піша, што паслаў кніжку шчэ на тыдзжань раней, а яе ўсё няма. "Ідзі. Вера,

на тую пошту, ды скажы прама ў вочы: “Што вы тут робіце!” – казаў бацька. А ў выніку... маці толькі падзякавала за бандэроль”.

Але ж маім развважанням і здзіўленню быў не час. Я заўважыў, як маці схавала пад крысо жакеткі кніжку. Не-не, не схавала, а прытуліла-прыхінула да грудзей той пакет, нібы найвялікшую каштоўнасць і, не адрываючы правай рукі ад яго, пашыбавала хуценька дамоў. Не зважаючы на мяне, непагадзь, бездарожжа, яна, прыспешваючы крок, шыбавала подбегам. Зрэшты ёй пяць кіламетраў – не адлегласць, даводзілася да хворай маці ў Бабчын пераадольваць пехатою і за трыццаць. Толькі ў хаце маці дастала невялікі разарваны тонкі пакет. З яго на кавалку шпагату бездапаможна звісаў-матляўся сургучовы злепак, а з-пад яго выглядвала кніжка ў папяровай вокладцы. Кніжка, кніжка яе сына! Бачна было, як рукі маці дробна-дробненька дрыжэлі, вочы наліліся слязьмі, твар жа аж свяціўся. У хаце ўсталявалася цішыня, бацька маўчаў, звыкла склаўшы рукі на каленях, я прачытаў пра сябе: “Дарога ішла праз лес”. Нарэшце загаварылі, разняволіліся, распрануліся, пачалі збіраць на стол, зайшлі старэйшыя браты. Коля, Пеця, Грышка, суседзі. Неўпрыкмет хата нібы асвяцілася, ажывілася, загаманіла, пабольшала! Раз-пораз чулася дапытлівае: “І пра што ж ён тамака напісаў?”

Тут варта ўзгадаць, што большасць дарослых велікаборцаў былі непісьменнымі: перад вайной вучыцца старэйшым не выпадала, а ў вайну і пасля яе – тым больш. Хоць нашая маці была пісьменная – паспела скончыць тры класы, што лічылася па тым часе для жанчыны вельмі прыстойнай адукацыяй. Яна бегла чытала, адпраўляла ў Мінск пісьмы Барысу. У іх падрабязна апісвала важныя, на яе погляд, моманты: жыццё (навіны) вёскі, суседзяў, сем’яў братоў, гаспадарчыя клопаты. Што адметна, Барыс гэтак жа грунтоўна, паслядоўна, нетаропка ў сваіх допісах аналізаваў прачытанае ў лістах з дому. А пасля гэтак жа выкладаў свае навіны і турботы. Роўным, буйным, разборлівым почыркам, простай мовай.

Да чаго гэта я ўзгадаў? Ды для таго, што тую першую кніжку мне давялося перачытваць некалькі разоў, услых, нетаропка, добра прамаўляючы кожнае слова. Вяскоўцы і так часцяком любілі сабірацца па вечарах на нашай лаўцы на вуліцы ў цёплую пару, зімой – у хаце. Кніжка Барыса была свежай нагодай для калектыўнага чытання і абмеркавання самых розных тэмаў. Я звычайна залазіў на печ і праз шыйку, куды трапляў цьмяны водбліск карасінавай лямпы або мясцовага “дызельнага” святла, пачынаў чытаць. Літаральна пасля кожнага абзаца даводзілася спыняцца. Бо пачыналася абмеркаванне пачутага. Нехта казаў: “Вось тут Барыс праўду напісаў. Етае (гэтае) ў нас так і було (было). Не збрахаў, а було ж тады яшчэ і такое... Ды цівося (значыць, даўно) тое было, хіба ён пра ўсё ўпомніць...”

І пачыналіся бясконцыя аповяды-ўспаміны сталых велікаборцаў пра ранейшае жыццё-быццё, паданні, пра вайну. Напісанае і пачутае велікаборцы ўспрымалі як нешта дакументальнае, ім усім вядомае. Што такое мастацкі вымысел, ніхто не ведаў і, вядома, кожнае аўтарскае адступленне ўспрымалася як... хлусня. Словам “хлусня” ў нас ніхто не карыстаўся, яго замяняла іншае – “брахня”. Бывала, пад гэтыя перамовы я перакусваў тым часам арэхамі, семкамі, сушанымі ўюнамі, грушамі-дзічкамі, яблыкамі, якія ў вялікіх саматканых мяхах стаялі тут жа на печы або на прыпечку. Шмат што з гэтага “абмеркавання-рэцэнзіі” маці паведамляла Барысу ў пісьмах ды пры сустрэчы. Даступнай тэлефоннай сувязі ў тыя гады яшчэ не было, ліставанне займала шмат часу, але яно апраўдвала сябе і несла кожную вестку, благую ці добрую, адарваным ад роднай хаты людзям.

У 1962 годзе Барыс выдаў кніжку апавяданняў “Барвы ранняй восені” – больш ёмістую, у цвёрдай вокладцы, удалага фармату. Яе лёс цот у цот супаў з лёсам першай кніжкі, прынамсі ў дарозе дахаты. Яна падабаецца мне найбольш. Потым выходзілі наступныя кнігі Барыса. Вяскоўцы бралі іх чытаць. Бралі і творы іншых аўтараў

– у нас была лазовая этажэрка кніг. У хату-чытальню прыходзілі нават мае настаўнікі.


*З дачкой Святланай.*

Добра памятаю прыезд у вёску Янкі Сіпакова. Барыс пра гэта паведаміў загадзя пісьмом. Янка стаў пажыццёвым сябрам брата. З імі вучыліся Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Іван Чыгрынаў, іншыя будучыя выдатныя творцы, але Іван Данілавіч – стаў самым блізкім паплечнікам і сябрам. Ён сам з вёскі, круглы сірата, касіў, араў, самастойна здабываў хлеб свой надзённы і свае веды. Цярплівы, мужны, працавіты і сціплы. Я і пазней здзіўляўся яго стрыманасці і сціпласці. Памятаю, стаім у адной, ладнай па колькасці чарзе да касы (грошы – аванс, зарплату, ганарар) выдавалі ў 1980-я гады тры разы на месяц і ў розныя дні. Даводзілася губляць шмат часу на паездку ў выдавецтва, чаргу, але ён, знакаміты пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, стаяў разам з намі, журналістамі. Хоць яго прапускалі, клікалі наперад калегі па рэдакцыі. Гэткую ж сціпласць я заўважаў і ў Аркадзя Куляшова, і ў Івана Шамякіна.

Да нас у вёску Янка Сіпакоў прыехаў разам з Барысам позняй ноччу – так хадзілі тады цягнікі. Яго мы пабачылі ўжо толькі раніцай. Гаваркі, дапытлівы, але што кінулася адразу – размаўляе "па-нашаму", па-беларуску. У нас тым часам на ўсіх, хто гаварыў па-руску, казалі: "Ванё, глядзі, як язык ломіць!" А ўсё таму што ўся вёска гаварыла на адной, роднай мове. Руская проста не ўспрымалася. Ёй не было дзе зачапіцца ні ў побыце, ні ў працы. І як жа нам цяжка даводзілася пасля – у старэйшых класах ужо Аўрамаўскай (Партызанскай) школы, калі рускамоўныя настаўнікі выстаўлялі дрэнныя адзнакі за тое, што мы тлумачылі ўсё па-беларуску ў адрозненне ад мясцовых вучняў, бацькі якіх прыехалі адусюль працаваць на тутэйшы абозаколавы завод або на торфараспрацоўкі. Размаўлялі аўрамаўскія нібыта па-руску, а гучала насамрэч гэта накшталт "мокрай трапкай па бруху"... Называлі іх "збрадамі", "навалаччу" – нібы нейкіх чужых, іншапланецян...

Маіх бацькоў і суседзяў вельмі здзівіла, што Янка Сіпакоў ніколі не хадзіў у пасталах ды лапцях. На Палессі гэты абутак выкарыстоўвалі круглы год – лёгкі, зручны, даступны. Брат Пятро прынёс лыка, подплетку і разам з Янкам (па яго назе акурат) сплялі лапці, падплялі падэшву пад іх, падабралі аборы, анучы і пайшлі ўсе на Семенч лавіць комляй рыбу. Уюны, шчупакі, плоткі, краснапёркі, пячкуры толькі ляцелі нам, дзецям, на бераг – і ў вядро.

Спадабалася тады рыбалка маладому Янку, а Янка спадабаўся ўсім. Пасля на двары варылі на вогнішчы ў вялікім чыгуне бульбу, смажылі рыбу, старэйшыя бралі па чарцы... І гаманілі, гаманілі далёка за поўнач, калі мы малеча, ужо даўно спалі. Што яшчэ памятаю, Янку здзівіла, дык гэта тое, што бацькоў у нашай хаце (ды і вёсцы) звалі толькі на "вы" і крый Бог, каб хоць хто мацюкнуўся... Маці пасля ў пісьмах часцяком пыталася ў Барыса пра Янку. Янка Сіпакоў, Барысаў сябра, з якім ён прагульваўся разам амаль штодня, вёў, відаць, самыя патаемныя размовы, пра якія не расказаў ніводзін з іх нікому, забраўшы іх з сабой назаўжды.

Потым Барыс прывёз жонку Тамару – усмешлівую, вабную, памяркоўную. Не

ведаю чаму, але яна слухала і выконвала ўсё, як казалі. Прыязджалі яны летам ці пад раннюю восень, калі хапала ягад, грыбоў, у садзе і агародзе ўсё раскашавала. Абавязкова з фотаапаратам – “ФЭДам”. Пазней з імі побач бегалі харошыя, лагодныя і такія любыя дачушкі Галя і Святлана. І як жа добра і радасна было тады ўсім нам! Праўда, надвячоркам Барыс заходзіў да велікаборцаў больш сталага веку, асабліва да Васіля Цітава, дыхтоўнага гаспадара і бондара, які жыў на ўскрайку вёскі каля самага лесу, каб даведацца больш пра вайну, партызанаў, акупацыю... Вяртаўся позна, задумлёны, засяроджаны. Піў з гладыша-літровіка малако з духмяным хлебам, выпечаным маці, і ўзбіраўся на начлег на сцёбку да Тамары, на сухі, пахкі, як чай, і такі мяккі мурог.

Ён, як ні дзіўна, любіў хатнія справы. І калі ўжо браўся за што-небудзь, дык рабіў адмыслова. Ён і касіў, і араў, і збіраў ягады, асабліва грыбы, лепш за ўсіх нас. Конкурс – не конкурс, але бацька даваў у рукі нам, Колю, Пятру, Барысу, Грышку, Паўлу, мне адну касу і глядзеў, як хто ўмее касіць у нашай пелі траву. У Барыса атрымлівалася прыгожа і якасна, у нас таксама, але хоць крышачку ды горш. “Косіць, Барысок, як брые! – зазначаў задаволена бацька. – А жыве ж ён у сталіцы, а вы тут корпаецеся...” Можна ўявіць гонар бацькі, калі яго сыны клалі пракосы з медуніцы, канюшыны, лячы, падбелу...

У гонар Барыса старэйшыя браты Коля і Пятро назвалі сваіх сыноў, нібы наканавалі ім і гэтакі лёс. Як жа цікава было чуць некаторым, што жывуць на свеце тры Барысы Сачанкі... Ці не таму адзін з іх – сын Пятра – “схаваўся” за літаратурным псеўданімам Пятровіч...

Бацька, бачна, радаваўся сваім сынам. У гонар іх на сваім дзержыве, каля пелі (лугавіны) пасадзіў дубок. Ён рос і пацяшаў нас, мы любілі адпачываць пад ім. Сюды, да дубка, прыходзілі госці, пасядзець, пагаварыць, перакусіць. Усе пісьменнікі, што прыязджалі да нас, бывалі тут. Шкада, але дубка ўжо няма. Па распараджэнні старшыні мясцовага сельсавета яго спілавалі і... адчыталіся прыгожа, відаць, перад вышэйшым чынавенствам. Каму замінаў гэты дубок – жывая рэліквія і сведка сустрэч адметных людзей, зразумець няцяжка – пустадомкам-зайздроснікам...

Барыс быў неканфліктны, добрыя стасункі меў з многімі літаратарамі. У часопісе “Полымя”, выдавецтве “Мастацкая літаратура”, Саюзе пісьменнікаў, выдавецтве “Беларуская энцыклапецыя” ён кантактаваў з многімі вядомымі партыйнымі, савецкімі дзеячамі Беларусі, вучонымі, мастакамі, кампазітарамі. І што важна, знаходзіў з імі агульную тэму, вёў зацікаўленую размову. Былі і прыліпалы, графаманы, якія круціліся навокал, глядзелі лісліва ў вочы, напрошваліся ў сябры. Насамрэч іх цікавіла толькі ўласная асоба, улежнасць і ўежнасць, бо не сталі яны ні пісьменнікамі, ні вучонымі, а звычайнымі прыхваснямі, пустымі каласамі, што высока тырчаць над нівай.

Брат падарыў мне мноства памятных і прыемных знаёмстваў. Дзякуючы яму, я не толькі рукаваўся-вітаўся, а і вёў размовы з многімі вядомымі пісьменнікамі-землякамі Іванам Мележам, Іванам Шамякіным, Іванам Навуменкам, Андрэем Макаёнкам, Раманам Сабаленка, Змітром Бяспалым. Я меў магчымасць чуць ягоныя дзелавыя і чалавечыя стасункі з Максімам Танкам, Максімам Лужаніным, Іванам Чыгрынавым, Анатолем Вярцінскім, Уладзімірам Караткевічам, Іванам Пташнікавым, Генрыхам Далідовічам, Міколам Мятліцкім і іншымі пісьменнікамі. Мяне заўсёды краналі вельмі прачулыя, такія шчырыя адносіны да Барыса Івана Паўлавіча Мележа, а іх размова заўсёды пачыналася з таго, што чуваць з дому, то бок з Радзімы, з Хойнікаў, з родных мясцін. Барыс жа гэтак жа апекаваўся пра больш маладых землякоў – нашага траюраднага брата па матчынай лініі – Міколу Мятліцкага (у дзявоцтве яе прозвішча было Мятліцкая, яна родам з Бабчына) і аднавяскоўца Саню Шлега...

Пра ўзгаданых пісьменнікаў ёсць што ўспомніць, расказаць, нагадаць іх думкі, выказванні, размовы ў нефармальных абставінах... Многія ж былі, начавалі ў нашым доме, сустракаліся з вяскоўцамі... Напрыклад, Іван Пятровіч Шамякін, калі прыязджаў на Гомельшчыну, некалькі разоў заязджаў да нас, начаваў, вёў размовы з людзьмі і як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і СССР, і як просты чалавек пад тым самым ужо згаданым дубком на нашым дзержыве... Аднак гэта іншым разам...

А цяпер вось пра што хачу асабліва сказаць. Наш бацька памёр, калі я толькі-толькі пайшоў у восьмы клас, залатою парой, самай на Палессі багатай... Здаецца, скасавурылася ўсё наўкола, счарнела, зніякавела ўвачавідкі маё дзяцінства, якое ў адзін дзень ператварылася ў дарослацсь. Было цяжка на душы і адчайна горка, што так рана адыходзяць блізкія людзі. Да мяне пасля пахавання бацькі падыйшоў Барыс і ціха прамовіў: “Алёшка, мы засталіся без бацькі. Бацьку ніхто і ніколі не заменіць. Я табе буду бацькам, трымайся мяне, браце...” І я трымаўся за яго руку, за яго прыклад, за яго Асобу. За гэта яму заўжды кланяюся і кажу: Дзякуй, Барыс...

• • •

*Што іх яднала, пісьменніка і гісторыка, дзяржаўнага дзеяча і энцыклапедыста? І вось цяпер, праз шмат гадоў пасля бацькавай смерці, калі чытала адно з інтэрв’ю першага міністра замежных спраў незалежнай Рэспублікі Беларусь Пятра Кузьміча Краўчанкі, дзе ён расказвае, як у памяць пра маці называе свой сённяшні дом, сядзібу ў Раўбічах “Ліцвінкі”, я раптам зразумела: галоўнае, што іх яднала, гэта адносіны да Маці, кранальныя, пяшчотныя... А Маці – гэта душа. Памятаю, як Пётр Кузьміч, сакратар Мінскага гаркама, потым міністр замежных спраў РБ, у пераломныя 1990-ыя, ледзь не штовечар прыязджаў да нас на Пуліхава і падоўгу гаварыў з бацькам. Яны дзяліліся навінамі, абмяркоўвалі, спрачаліся. А калі збіраўся адыходзіць, малыя Алесь з Янкам часам прыбягалі і прасілі яго пакатацца. І Пётр Кузьміч усміхаўся і трохі падвозіў іх на сваёй машыне. Потым, пасля бацькавай смерці ён, ужо Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Японіі, пад Новы год сам прыехаў да нас у Сухарава і прывёз малым японскія падарункі. Самы чароўны – пазлы, з якіх складаецца зорнае неба. Прайшло больш за 20 гадоў. І раптам, я ехала ў метро – званок. Пётр Кузьміч. Кажа, быў на выстаўцы “Восенькі Салон з “Белгазпрамбанкам” і расчуліўся да слёз, калі ўбачыў карціну Алеся “Кола часу”. Адшукаў мой нумар, патэлефанаваў... Прызнаюся, звярнуцца да Пятра Кузьміча па ўспаміны пра бацьку я б не рашылася, пасаромелася. Каб не гэты званок... І я найперш загаварыла з ім пра іх з бацькам адносіны да сваіх маці...*

## Пётр КРАЎЧАНКА

### Ён адчуваў...

Калі мы загаварылі пра маці Барыса Іванавіча, то я яе добра памятаю... На Вашым з Пятром вяселлі... Невялічкую, старэнькую жанчыну, мяне вельмі ўразілі яе абсалютна чорныя-чорныя, як вугаль вочы... Яна была спакойная, ураўнаважаная, вельмі прыгожая... Але я ўбачыў у яе вочы Барыса. У іх былі абсалютна аднолькавыя вочы. І я падумаў, Божа, як гэта гены перадаюцца... І наколькі важна пабачыць маці свайго сябра... У мяне стаўленне да маці асаблівае, святое... Я ёй прысвячаў свае кнігі. Маці і бабулі, якім я абавязаны сваёй генетычнаю памяццю.

Першая нашая сустрэча з Барысам Іванавічам адбылася на праспекце, тады

яшчэ Ленінскім, каля знакамітай букіністычнай кнігарні, прыкладна ў 1970-71 годзе. Мы тады былі ў розных вагавых катэгорыях – я студэнт, ён вядомы пісьменнік. Ён прыходзіў нячаста. А мы, аматары кніг, практычна кожны дзень, як на вахту, збіраліся ў чатыры гадзіны каля гэтай кнігарні. Чаму? Таму што ў чатыры гадзіны, пасля перапынку, “выкідвалі” кнігі, якія здавалі напярэдадні, і можна было выхапіць нешта цікавае. Бо потым знайсці вартае ўвагі ўжо было безнадзейна. Гэта быў Клуб зацікаўленых асобаў. Стаялі людзі са спісамі кніг. У нас было такое паняцце, як кнігаабмен. Адзін мой знаёмы жартаваў, што гэта не кнігаабмен, а кнігаабман. Было вельмі цікава. Людзі абменьваліся інфармацыяй, паказвалі навінкі. Самымі папулярнымі былі такія серыі як “Жыццё ў мастацтве”, “Літаратурныя помнікі”, “ЖЗЛ”... Вельмі была папулярнаю паэтычная літаратура, паэзія Сярэбранага веку – Севяранін, Ахматава, Цвятаева, Гумілёў... Усе мроілі гэтымі паэтамі. Мець зборнік паэзіі Сярэбранага веку – было за шчасце.

Практычна штодня пасля заняткаў я забягаў у бібліятэку, браў неабходную літаратуру, абедаў і ехаў да кнігарні. Потым – у Ленінку. Займаўся. І Барыс Іванавіч таксама падыходзіў да кнігарні прыблізна ў гэты ж час, каля чатырох. Ён трымаўся крыху збоку, рэдка ўступаў у размовы... Толькі потым мы даведаліся, што практычна ўсё, што яго цікавіла, яму прыносілі так званыя кнiганошы, кніжныя жучкі, якіх ён прымаў дома. Такія, як Жэня Елісеенка... Так што першае нашае знаёмства было, можна лічыць, выпадковым. Для яго я быў проста студэнтам, але для нас Барыс Іванавіч быў постаццю, калі не легендарнаю, то вельмі значнаю. Мы ўсе ведалі, што ў яго была цудоўная бібліятэка, можа лепшая на той час у Беларусі, што ён валодае дастатковымі сродкамі і можа дазволіць сабе купіць кнігу нават не за 25, а і за 100 рублёў. Для студэнтаў гэта была недасягальная сума.

Прайшоў час, я закончыў аспірантуру, і дзякуючы знаёмству з Анатолем Самускевічам, дацэнтам БДУ, нашае сяброўства з Барысам Іванавічам мела працяг. Мы сустрэліся ў гасцях у Самускевіча, які збіраў рускую літаратуру, паэзію Сярэбранага веку. У яго таксама была цудоўная бібліятэка. Але яна саступала бібліятэцы Барыса Іванавіча па шырыні. Бо ў Барыса Іванавіча бібліятэка была разнастайная, і, я б сказаў, унікальная, таму што было не толькі “прыгожае пісьменства”, але і псіхалогія, філасофія, гісторыя...

Знаёмства больш шчыльнае пачалося ў нас з Барысам Іванавічам летам 1981 года, калі я атрымаў кватэру на вуліцы Пуліхава, дом нумар 9, першы дом перад майстэрняй Азгура. Працаваў я загадчыкам аддзела навукі і навучальных устаноў Мінскага гаркама КПБ... Я працаваў загадчыкам аддзела навукі і навучальных устаноў Мінскага гаркама КПБ, мы сустракаліся падчас розных мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў горадзе, да таго ж тут недалёка быў і Саюз пісьменнікаў. Мы маглі ў парку сустракацца, гуляць. Недалёка была і кватэра Максіма Лужаніна, які нас таксама здружыў. І вось Барыс Іванавіч прапанаваў мне прымаць удзел у агульных шпацырах. У гэтых прагулках, якія ён рабіў практычна штовечар, недзе з дзевяці гадзінаў, прымалі ўдзел Раман Мікалаевіч Катужанец, Зіновій Кірылавіч Прыгодзіч, я. Гэтыя шпацыры вельмі нас зблізілі. Мы гулялі, бывала, тры-чатыры гадзіны, а часам і да дванаццаці ночы. Гэта былі сустрэчы людзей, зацікаўленых не толькі літаратурай, але і лёсам Бацькаўшчыны, лёсам культуры, мовы. І безумоўна, былі гарачыя спрэчкі, разважанні, быў абмен інфармацыяй. Я хачу сказаць, што Барыс Іванавіч часта саліраваў. Ён добра разбіраўся ў міжнародных адносінах, разумеў сутнасць і знешняй, і ўнутранай палітыкі, ён дастаткова крытычна і нават радыкальна ставіўся да розных праяў жыцця. І я з цікавасцю гэта ўсё слухаў. Канечне, былі і спрэчкі. Мяне вельмі цікавіла сутнасць літаратурнага працэсу, ацэнкі Барысам Іванавічам тых ці іншых знакамітых пісьменнікаў. Яны былі аб’ектыўныя, але дастаткова крытычныя. Для Барыса Іванавіча, канечне, існаваў пэўны іканастас. І гэты іканастас складаўся з пяці асобаў – Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі,

Гарун. Па-сутнасці, ён, ведаючы выдатна беларускую, рускую, савецкую, сусветную літаратуру, мог вельмі кваліфікавана ўсё ацэньваць. І гэты іканастас не выклікаў пярэчанняў. Адзінае, што Алесь Гарун тады не гучаў так моцна, як сёння. Ён быў паэтам асэнсавана забытым Савецкаю ўладай. І Барыс Іванавіч па сутнасці вярнуў яго ў беларускую літаратуру. Дзякуючы яму ўбачыла свет такая цудоўная кніга, як “Матчын дар”, кніга этапная ў беларускай паэзіі. У Барыса Іванавіча быў арыгінал гэтай кнігі. Дзякуючы яму я прачытаў Алеся Гаруна. І зразумеў, што гэта сапраўды ўнікальны, вялікі паэт, барацьбіт, пасіянарная асоба. Барыс Іванавіч шмат расказваў пра перыпетыі жыцця Прушынскага (Алеся Гаруна), пра Вайсковую камісію...



*З жонкай Тамарай Андрэеўнай.*

Успамінаю, як Барыс Іванавіч паказваў мне сваю бібліятэку, а Тамара Андрэеўна частавала нас, і заўсёды ў Барыса Іванавіча быў нядрэнны каньяк. Я не вельмі любіў алкаголь. Але неяк адмовіцца ад такой гасціннасці было цяжка, ды і агульнае застолле таксама збліжае. Я вельмі паважаў Тамару Андрэеўну, дачушак Барыса Іванавіча. Было вельмі цікава, што кожная з дачок мае свой пакой і сваю бібліятэку. І Святлана, і Галя. Потым я стаў і Барыса Іванавіча запрашаць да сябе, і мы пачалі сябраваць сем’ямі.

Безумоўна, важным этапам у нашым жыцці былі сустрэчы з Аляксандрам Амвросьевічам Лужаніным, незвычайным, унікальным чалавекам. Мне вельмі было цікава бачыць не тое што спаборніцтва, а ўзаемадапаўненне, калі ў час такіх працяглых вечарын у Аляксандра Амвросьевіча кожны з іх пачынаў чытаць вершы. Аляксандр Амвросьевіч выдатна ведаў Ясеніна, мог дэкламаваць гадзінамі. Барыс Іванавіч добра ведаў беларускую паэзію. Гэта былі своеасаблівыя паэтычныя вечарыны, якія пашыралі мае далягляды. Памятаю вельмі цікавыя аповеды пра літаратурны працэс 1920-1930-х гадоў, успаміны пра дзеячаў, якія з’яўляюцца для нас легендарнымі – і пра Якуба Коласа, і пра Янку Купалу, пра Уладзіславу Францаўну, жонку Купалы, Валерыя Маракова, пра ўсіх тых, хто ствараў “Маладняк”: Пушчу, Дубоўку і многіх іншых. Для мяне гэта было вельмі важна. Таму што я так натуральна цягнуўся да беларускай мовы, і для мяне гэта была выдатная моўная практыка. Бо тое, што ў мяне было ад бабулі і маці, трэба было ажыўляць. Трэба было проста размаўляць, каб ажывіць тое, што было назапашана генетычнай памяццю. Я ў свой час скончыў першыя чатыры класы Крывіцкай беларускай школы, што цяпер у Мядзельскім раёне. Успамінаю свайго настаўніка малявання і беларускай літаратуры Івана Іванавіча Рагулю. Як ён дэкламаваў “Курган” Купалы! Да гэтага часу, як жывы, стаіць перад маімі вачыма. Высокі, хударлявы, у акулярах, і з такой апантанасцю чытае гэтую паэму, што забыць гэта немагчыма.

Безумоўна, варта сказаць добрыя словы пра Яўгенію Эргардаўну Пфляўмбаўм, жонку Максіма Лужаніна, якая нас моўчкі слухала, не ўмешвалася, але ж якая яна была тонкая, вытанчаная, шляхетная, вельмі-вельмі цёплая, душэўная

жанчына, якая добра ставілася да ўсіх нас. Яна рэдка ўключалася ў размову. Але вельмі трапна. Калі Аляксандр Амвросьевіч успамінаў нешта пра 20-я – 30-я гады, яна слушна дапаўняла яго. І безумоўна, усе разумелі, што гэта не проста жонка Лужаніна, а гэта выдатная, таленавітая паэтэса. Дзякуючы Аляксандру Амвросьевічу і Анатолю Ільічу Вярцінскаму, неўзабаве выйшаў яе зборнік паэзіі. У літаратуру вярнулася цудоўная паэтэса Яўгенія Пфляўмбаўм. Яна, як і Аляксандр Амвросьевіч, прысвяціла некалькі вершаў мне, з аўтографамі... І я захоўваю іх. У мяне ёсць яшчэ вершы, прысвечаныя мне і Піменам Панчанкам, і Алегам Лойкам, Сяргеем Новікам-Пеюном, іншымі паэтамі. Але гэта асобная гаворка...

Кім для мяне быў Барыс Іванавіч Сачанка? У маім ўяўленні гэта не проста таленавіты беларускі пісьменнік, але і гісторык. Але мне асабліва цікава было слухаць пра яго дзяцінства, Нямеччыну. Гэта былі ўнікальныя па дакладнасці і псіхалагічнай напружанасці карціны, што як жывыя, стаялі перад вачыма. І яшчэ, з гэтых аповедаў вынікала, што людзі бываюць рознымі. І нацыя, у тым ліку і нямецкая, не складаецца з адных толькі мярзотнікаў. Гэта была аб’ектыўная ацэнка тых падзей, што адбываліся. Барыс Іванавіч быў сапраўдным гісторыкам, сапраўдным энцыклапедыстам, акадэмікам. Ён не меў ні кандыдацкай, ні доктарскай ступені, але па ўзроўні ведаў быў сапраўдным навукоўцам, прычым, не толькі ў галіне літаратуры, але і ў галіне беларускай гісторыі, сусветнай гісторыі, філасофіі, сацыялогіі... Мяне ўражвала, калі ён пачынаў цытаваць артыкулы Артэга-дэ-Гасэта, Сартра, Камю... Ён купляў кнігі не дзеля таго, каб проста паставіць іх на паліцу. Мяне ўражвала, калі ён падчас нашай гаворкі мог зняць з паліцы зборнік прозы якога-небудзь невядомага мне пісьменніка і пачаць чытаць. Прыкладна так: “С Майдана потянуло душистым дымком”... Я пытаюся: “Хто гэта? Шолахаў?” “Ды не, – кажа Барыс Іванавіч, – гэта Крукаў”. А на той час хадзілі легенды, што “Ціхі Дон” напісаў не Шолахаў, а Крукаў. Гэта цяпер, калі вядома, што частка рукапісаў “Ціхага Дону” згарэла, а частка захавалася, аўтарства Шолахава не аспрэчваецца. Але ў той час былі розныя легенды. Барыс Іванавіч вось так спакойна ўводзіў нас у творчую лабараторыю пісьменніка, паказваючы, што Крукаў, можа не пісаў “Ціхага Дону”, але аказаў вялікі ўплыў на маладога Шолахава. Шолахаў, безумоўна, чытаў, ведаў белагвардзейца Крукава... Гэта сведчыла пра шырыню поглядаў, пра глыбіню, пра тое, што Барыс Іванавіч увесь час аналізаваў. Ён не проста чытаў творы выдатных калег, ён не проста чытаў творы французскіх, нямецкіх, англійскіх празаікаў і паэтаў, а ён увесь час аналізаваў, думаў, параўноўваў... Мяне вельмі ўражвалі яго дакладныя гістарычныя ацэнкі. Гэта на той час было сапраўды незвычайна. Ён мог некалькімі штрыхамі давесці, што той жа Януш Радзівіл – барацьбіт за незалежнасць, што гэта чалавек, які працаваў на нашую будучую незалежнасць. Гаворачы пра гісторыю, Барыс Іванавіч мог паказваць класавыя супярэчнасці паміж “нашаніўцамі”, народавольцамі... Ён неяк паказаў мне кнігу, дзе Вацлаў Ластоўскі ўспамінаў, што браты Луцкевічы, Уласаў ледзь не грэбавалі сесці з ім за адзін стол абедаць, яму падавалі ежу праз акенца... Гаварылі мы з Барысам Іванавічам і пра тое, што Вацлаў Ластоўскі – першы ў нашай гісторыі сфармуляваў ідэю незалежнасці. Гэта быў гістарычны прарыў. Гэта была яго гістарычная місія. Такім чынам, калі гаварыць пра асобы тых, хто далучыўся да сцвярджэння нашай незалежнасці, гэта Януш Радзівіл, у нейкім сэнсе Агінскі, Кастусь Каліноўскі. А потым Вацлаў Ластоўскі...

Па ўзроўні ведаў па літаратуразнаўстве, філасофіі, метадалогіі Барыс Іванавіч быў сапраўдны акадэмік. І калі б была такая магчымасць, ён мог стаць акадэмікам. Такія прэцэдэнты былі... Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Іван Шамякін былі акадэмікамі, але не абаранялі дысертацый.

Я вельмі ўдзячны Барысу Іванавічу, што, дзякуючы яму, я ўпершыню пазнаёміў-

ся з кнігаю Ларысы Геніюш “Споведзь”. Ён мне даў рукапіс і я па начах прачытаў яго.

Іншыя прывозілі з-за мяжы магнітафоны, дыктафоны, адзенне, а Барыс Іванавіч – кнігі. Ён прывёз некалькі дзясяткаў унікальных кніг. Ён паводзіў сябе як прафесіянал, як бяссрэбраннік. Кожную сэканомленую капейку ўкладаў у інтэлектуальнае багацце Беларусі. Ён, па сутнасці, быў першым, хто вяртаў у нашу беларускую літаратуру творы тых, хто жыў за мяжою. Асноўная літаратура, як ён лічыў, стваралася тут, на Беларусі. Але творы замежжа дапаўнялі яе. Ён гаварыў, што гэта злачынства – не ведаць творы тых, хто жыў за мяжою – у Аўстраліі, ЗША, Вялікабрытаніі... Эмігранты павінны быць удзячныя Барысу Іванавічу за тое, што іх творы вярнуліся на Радзіму. Ён не проста вярнуў, ён глыбока прааналізаваў і асэнсаваў іх.



*З унукамі Алесем і Янкам.*

Безумоўна, вялікае значэнне мелі так званыя “Слуцкія чытанні”. Гэта абагульняючая назва нашых вандровак, якія на працягу 15-20 гадоў мы рабілі ледзь не кожную суботу, калі выязджалі ў Слуцк – Лужанін, Барыс Іванавіч, Анатоль Вярцінскі і я. Мы наведвалі родныя мясціны Лужаніна, заязджалі на кірмаш, куплялі вяндліну, мясцовыя прысмакі... Мы заязджалі да мясцовых пісьменнікаў, прымалі ўдзел у вечарынах, імпрэзах, прэзентацыях кніг. Але калі такіх сустрэч не было, мы, вяртаючыся, літаральна праз кіламетраў пятнаццаць-дваццаць, у адным і тым жа месцы зварочвалі ў лес і там раскладалі вогнішча, рабілі імправізаваны абед і вялі размовы, літаратурныя дыскусіі...

І гэта было цудоўна. Свежае паветра. Была і чарка, была і шкварка... Гэта былі сустрэчы і дыскусіі аднадумцаў. Ездзілі на маёй сакратарскай ці міністэрскай “Волзе”. Калі хто-небудзь з названага чатырохкутніка выпадаў, то запрашалі часцей за ўсё Леаніда Яўменава. Памятаю, якія гэта былі спрэчкі, якія былі дыскусіі. Ну і канечне мы абмяркоўвалі палітычныя праблемы. Я хачу сказаць, што гэтыя “Слуцкія чытанні” вельмі збліжалі нас. Мы выязджалі рэгулярна. Вядома, калі ў мяне не было камандзіровак. Але нягледзячы на тое, што я ў адным толькі 1992 годзе 65 разоў вылятаў за мяжу, а гэта практычна кожны тыдзень, тым не менш пэўную сістэму гэтых “Слуцкіх чытанняў” мы захавалі.

Барыс Іванавіч быў мне не толькі сябра, але і дарадца. Яшчэ калі я быў загадчыкам аддзела навукі і навучальных устаноў гаркама, мы абмяркоўвалі вельмі розныя рэчы. Я раіўся з ім, як з мудрым чалавекам. І заўсёды атрымліваў ад яго вельмі дакладныя, эфектыўныя парады, якія выкарыстоўваў у кіраўнічай і штодзённай дзейнасці. Мы абмяркоўвалі вельмі вострыя палітычныя падзеі. Як сакратар гаркама я прыходзіў на ўсе паседжанні і пленумы Саюза пісьменнікаў. І мне даводзілася калі-нікалі выступаць. Трэба было ўключацца ў вельмі вострыя дыскусіі. І Барыс Іванавіч мяне заўжды падтрымліваў. Бывала, што я нават паказваў яму тэзісы свайго выступлення. І ў нейкім сэнсе ён быў і палітычным дарадцам, калі я ўжо быў міністрам замежных спраў. Мяне вельмі ўразіў такі факт, пра які ніхто не ведае. Недзе на пачатку 1990-х у Мінск прыехала адна

амерыканская даследчыца – Катрын Мікалошка, якая мела славацкія карані. Яна была палітолагам, і па заданні спецслужбаў вывучала палітычную сітуацыю ў нашай краіне. Вярнуўшыся ў Амерыку, надрукавала сваю справаздачу, у якой назвала мяне самым падрыхтаваным, самым інтэлектуальным сябрам беларускага ўраду і дадала: “У яго такі палітычны дарадца, як вельмі разумны і падрыхтаваны пісьменнік Барыс Сачанка”. Мне пра гэта потым даводзілася чытаць у амерыканскай прэсе.

Я магу бясконца расказваць пра гэтага чалавека, але безумоўна Барыс Іванавіч, як яркая асоба, выклікаў зайздрасць, таму што ён прыгожа, змястоўна выступаў... Ён увесь час трымаўся на ўзроўні. Нават калі пакінуў Саюз пісьменнікаў, пайшоў працаваць у выдавецтва, быў вельмі спакойны. А потым узначаліў выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя”. Барыс Іванавіч быў яркаю, неардынарнаю асобай. Вельмі паважаў Брыля, высока ацэньваў Панчанку, лічыў яго геніяльным паэтам. Ён быў чалавекам вялікай палітычнай культуры. Барыс Іванавіч умеў гуляць у добрыя палітычныя шахматы. Унікальны, таленавіты ва ўсім чалавек. Але ён не шкадаваў сябе. Не любіў медыкаў, лекараў... У гэта цяжка паверыць, але ён ні разу не ляжаў у бальніцы, не адпачываў у санаторыі. Плюс вялікая работа ў выдавецтве, у энцыклапедыі. Ён быццам адчуваў, што жыць будзе нядоўга, таму і спяшаўся працаваць.

Безумоўна, гэта трагедыя, што ён так рана пайшоў ад нас. Для мяне, як і для многіх, гэта быў удар. Але Барыс Іванавіч адчуваў, што засталося яму няшмат... Аднойчы, калі мы былі ў яго хатнім кабінеце, ён паказаў карціну мастака Алега Ісаева, дзе ўся ягоная сям’я, і кінуў сакраментальную фразу: “Бывае так, што чалавек, калі дае дазвол на нейкую фотакартку ці свой партрэт, адчувае, што яму няшмат засталося”. Гэтыя словы аказаліся прарочымі...

• • •

*У 1980-я нашая сям’я, бацька, мама, і мы са Святланай вельмі любілі бываць у гасцінным, напраўду еўрапейскім доме Шчасных. Уладзімір Рыгоравіч тады вярнуўся з-за мяжы і стала працаваў у Міністэрстве замежных спраў . Папраўдзе, мы разам так часта хадзілі ў госці толькі да Уладзіміра і чароўнай Люсі Шчасных. Мы глядзелі найлепшыя замежныя фільмы, гарталі адмысловыя альбомы па мастацтву, слухалі пра заходняе жыццё. І творы Макалерс я прачытала ўпершыню па-беларуску, ў перакладзе Уладзіміра Рыгоравіча... Уладзімір Шчасны быў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Велікабрытаніі. Потым, ужо пасля бацькавай смерці разам з сынамі мы гасцявалі ў новым загарадным доме дыпламата, перакладчыка, пісьменніка, культурнага дзеяча Уладзіміра Шчаснага, і я прыйшла ў захапленне ад таго, як у яго па-сучаснаму захоўваюцца кнігі, экспануюцца ўключаныя ў арыгінальна арганізаваны інтэр’ер карціны. Дарэчы, гэта менавіта Уладзімір Рыгоравіч ўгаварыў бацьку заказаць калісьці мастаку Алегу Ісаеву наш сямейны партрэт, той самы, пра які згадвае Пётр Кузьміч Краўчанка. Цяпер Уладзімір Шчасны шмат робіць для папулярызацыі беларускага мастацтва, твораў тых нашых мастакоў, што жылі за мяжою. І вось той самы ланцужок часу... Той самы “Восеньскі Салон з “Белгазпрамбанкам”, дзе экспанавалася карціна нашага сына Алеся, на якой ён увасобіў дзеда. І я дазналася, што адзін з галоўных арганізатараў выставы... Уладзімір Шчасны. Так, напярэдадні бацькавага юбілею, праз твор сына Алеся я змагла аднавіць кантакты з бацькавымі сябрамі, дыпламатамі, якія на пачатку 1990-х стаялі ля вытокаў нашай незалежнасці.*

## Уладзімір ШЧАСНЫ

### Самы трывалы напамін

У кожнага чалавека на працягу жыцця назапашваюцца рэчы, якія мы прызвычаіліся называць сувенірамі. Я не вельмі люблю гэта запазычанае з французскай мовы слова, якое мае турыстычна-шопінгавае адценне. Сувеніры з цягам часу раздаюцца, збіраюцца ў скрыні і выносяцца ў камору. Бліжэй мне славянская памёнтка, але гэта па-польску. Памятная рэч – доўга і крыху пафасна. Маці называла рэчы, што нагадваюць пра мінулае, напамінамі. Асабіста для мяне найбольш трывалыя напаміны – кнігі.

Звычка корпання ў значэннях слоў, іх адценнях – ад маёй першай прафесіі – лінгвіста. На працягу чатырох год, з канца 1970-х, я працаваў у рускай секцыі пісьмовых перакладаў Сакратарыята ААН у Нью-Ёрку. Статус міжнароднага служачага не прадугледжваў стасункі з Пастаянным прадстаўніцтвам Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, але кантакты з нашымі дыпламатамі былі сталымі, а часам і сяброўскімі. Беларускіх супрацоўнікаў галоўнай міжнароднай арганізацыі запрашалі на розныя мерапрыемствы, што ладзіліся прадстаўніцтвам, і калі-нікалі прасілі аказаць дапамогу суайчыннікам, якія прыязджалі па службовых альбо навуковых справах у ЗША. Паколькі мы з жонкай жылі на Манхэтэне, у самым цэнтры горада, госці з Мінску ў нашую студыю на 44-й вуліцы прыходзілі даволі часта, асабліва ў верасні, калі пачынала работу сесія Генеральнай асамблеі ААН.

Дэлегацыі з Беларусі прыязджалі ў канцы верасня і заставаліся на ўвесь тэрмін сесіі – на тры месяцы. Працы ў супрацоўнікаў Сакратарыяту ААН у той перыяд было вельмі шмат, але мы знаходзілі час, каб дапамагчы членам дэлегацыі зарыентавацца ў найбуйнейшым амерыканскім мегаполісе. Апекаваліся ў асноўным членамі дэлегацыі, якія не былі супрацоўнікамі Міністэрства замежных спраў, а прадстаўлялі іншыя міністэрствы і арганізацыі. Амаль ніхто з іх не ведаў англійскую мову і таму ўсе яны мелі патрэбу ў дапамозе.

Праз некаторы час, калі асноўныя цікавосткі былі агледжаныя (дарэчы, у Нью-Ёрку іх не так ужо і шмат) новыя знаёмыя, часцей за ўсё гэта былі мужчыны, сарамліва даставалі з кішэняў спісы заказаў ад жонак і дачок з выкладзенымі ў лічбах памерамі ўсіх частак тулава. Часам нават да іх прыкладаўся стужкавы сантыметр. Сыны заказвалі "тэхніку", бо якраз тады з'явіліся відэамагнітафоны. Нельга сказаць, што ў той час на радзіме быў татальны дэфіцыт. Ён пачаўся напрыканцы 1980-х, але і тады джынсы і іншую "фімовую" вопратку даводзілася купляць у "фарцы" (перакупшчыкаў). Пачынаўся этап паходаў па гандлёвых "славутасцях" Нью-Ёрку.

Восенню 1980 года адбылося знаёмства з членам беларускай дэлегацыі на 35-й сесіі Генеральнай Асамблеі Барысам Іванавічам Сачанкам. З першай размовы з ім стала заўважным нейкае сваё, уласцівае толькі яму стаўленне да рэчаіснасці, да сітуацыі ў нашай краіне. Гэта быў цвярозы, часам крытычны падыход, які грунтаваўся не на панегерычнай замілаванасці родным краем, а на адказнасці грамадзяніна за лёс Бацькаўшчыны. І не толькі на словах. Як прафесійны літаратар, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, ён лічыў сваім абавязкам не толькі адлюстроўваць мастацкімі словамі сучаснасць, але і пашыраць веды пра наша мінулае, далёкае і блізкае, каб на чарговым вітку спіралі гістарычнага развіцця памятаць пра дасягненні і памылкі нашых папярэднікаў у адпаведных сітуацыях. Ужо ў Мінску, бываючы ў гасцінным доме Сачанкаў, я кожны раз быў уражаны зборам айчынных і замежных выданняў, звязаных з Беларуссю. Як яны траплялі да ўласніка – і цяпер застаецца таямніцай. Галоўнае, што гэты збор і застаецца у беражлівых руках нашчадкаў, бадай, самым – самым каштоўным зборам белару-

сікі. У Сачанкаў была самая вялікая ў Беларусі хатняя бібліятэка, якая збіралася не таму, што набыццё кніг было модна і прэстыжна. Барыс Іванавіч любіў кнігі і быў цалкам аддадзены абранай прафесіі літаратара. Неяк гледзячы на паліцы кніг, якія былі ў кожным пакоі кватэры, ён з жалем у голасе вымавіў: “Шкада, што я ўжо не паспею іх усе прачытаць”. Як бы прадчуваў сваю заўчасную смерць.

Тады ж, у 1980 годзе, у Барыса Іванавіча было шмат задумак і планаў. Калі надышоў час шопінгу ён, як і ўсе яго калегі, дастаў з кішэні спіс ...кніг. Вядома, былі і спісы з просьбамі ад жонкі і дачок, але пачалі мы з кніг. На Пятай авеню быў і, здаецца, існуе да гэтага часу магазін рускай кнігі. Там прадаваліся і кнігі, выдадзеныя у СССР. Многія з іх, як, напрыклад, творы Булгакава, Ахматавай, Мандэльштама, Цвятаевай былі страшэнным дэфіцытам на радзіме аўтараў і таму ахвотна, хоць і за валюту, набываліся суайчыннікамі. Там жа на паліцах стаялі і кнігі не менш вядомых, але забароненых у Савецкім Саюзе і выдадзеных за мяжой аўтараў – Салжаніцына, Даўлатава, Аксёнава. Таму для захавання вобліку добранадзейнага члена афіцыйнай дэлегацыі Барысу Сачанку давялося пайсці на хітрыкі. У прысутнасці супрацоўнікаў Прадстаўніцтва Барыс Іванавіч купіў кнігу-мініяцюру, прысвечаную У.І. Леніну, уголас выказаўшы радасць з нагоды набыцця папаўнення для сваёй калекцыі кніг такога фармату. Прысутныя ўхвалілі пакупку, а ў душы, хутчэй, пасмяяліся з учынку дзівака. “Дзівак” жа пасля гэтага мог самастойна хадзіць у тую кнігарню і набываць не толькі кніжныя мініяцюры.

Дасведчанасць Барыса Іванавіча ў літаратуры была надзвычайная. Ён з любоўю браў з паліцы кнігі напаўзабытых у СССР паэтаў Сярэбранага веку – Георгія Іванова, Уладзіслава Хадасевіча, Міхаіла Кузміна і з асалодай чытаў радкі іх вершаў. Менавіта ён раіў мне, што перакласці з англамоўнай прозы, хоць я праслухаў курс па англійскай і амерыканскай літаратуры і атрымаў на экзамене адзнаку “выдатна”.

Усе свае веды і кніжныя зборы Барыс Іванавіч пачаў напоўніцу выкарыстоўваць, як толькі з’явілася першая магчымасць. Выдавецтва “Мастацкая літаратура”, у якім ён быў загадчыкам рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры, адным з першых у СССР надрукавала выбраную прозу Ф. Салагуба, Б. Пільняка, У. Набокова. Многія з твораў гэтых аўтараў былі передрукаваныя не з маскоўскіх, а з замежных выданняў, што рознымі шляхамі трапілі ў асабістую бібліятэку Сачанкі. Менавіта Барыс Іванавіч, карыстаючыся асабіста адшуканымі крыніцамі, апублікаваў забытыя ці малавядомыя і зусім невядомыя творы Купалы, Коласа, Ластоўскага, Сваяка, Геніюш, Жылкі. Ён адкрыў для чытача творчасць Алеся Салаўя, Масея Сяднёва і іншых літаратараў з асяродку беларускай эміграцыі. Неяк я пачуў ад Барыса Іванавіча словы шмат перажыўшага на сваім вяку чалавека: “Невядома як скончыцца гэта перабудова. Трэба спяшацца выдаць усё, што толькі магчыма”.

Выязджаючы за межы Беларусі, у той час не трэба было ламаць галаву над падарункамі. Кнігі знакамітых рускіх і замежных аўтараў, выдадзеныя “Мастацкай літаратурай”, карысталіся неверагодным попытам на ўсім абшары Савецкага Саюза. Кніга заставалася адным з заўважных складнікаў экспарту з Беларусі і калі Барыс Іванавіч Сачанка стаў галоўным рэдактарам выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя”. Энцыклапедыі і даведнікі па самых розных галінах культуры і навукі выдаваліся шматтысячнымі тыражамі і знаходзілі чытача далёка за межамі Беларусі.

Барыс Сачанка быў адным з прадстаўнікоў той апошняй генерацыі літаратараў, якіх без усялякай іроніі можна было называць інжынерамі чалавечых душаў. Калі ў мяне ўзнікалі праблемы ў жыцці, у тым ліку і ў асабістым, я ішоў па параду да Барыса Іванавіча. Слухаючы яго меркаванні наконт непрадказальнай сітуацыі ў Беларусі і ў свеце напрыканцы 1980-х і на пачатку 1990-х, я звяраў свае думкі з поглядам дзяржаўніка. Так на пачатку 1990-х пачалі называць сапраўдных патрыётаў Беларусі, якія не словамі, а канструктыўнай працай умацоўвалі суверэнітэт Беларусі і, галоўнае, веру ў яе будучыню як самастойнай годнай дзяржавы.

Калі я падыходжу да паліцы, дзе стаяць творы самога Сачанкі, Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, якая пачала выдавацца пры жыцці Барыса Іванавіча, і 18-томная Беларуская энцыклапедыя, у стварэнне якой ён уклаў шмат высілкаў, на жаль, не патрымаўшы ў руках нават першы том, часта думаю, што лепшы напамін пра чалавека нават цяжка прыдумаць. Усё зыходзіць у нябыт. Напісанае, тым больш надрукаванае, застаецца.



*Барыс Іванавіч з дочкамі Святланай і Галінай у гасцях у маці.*

• • •

*Даруйце, абяцаю, як толькі я спраўлюся з непераадольным унутраным болем, які не сціхае з дня заўчаснай смерці маёй адзінай сястры Святланы, абавязкова напішу пра яе, падрыхтую да выдання зборнік яе вершаў, прозы, навуковых артыкулаў. Абавязкова... У яе ёсць верш, які яна чытае ў фільме пра бацьку, верш пра тое, як яны з бацькам збіралі светлячкоў... Пасля бацькавай смерці яна паставіла ля ягонага партрэта гліняную міску і драўляную лыжку, якой ён звычайна еў... Маму яна перажыла менш чым на год...*

## Святлана ЯВАР

### Я любіла яго...

Сёння, калі трыумф ідэй фемінізму захапіў, здаецца, увесь свет, некаторыя эмансіпіраваныя дамы (у тым ліку і я) часамі пачынаюць думаць: «А можа, гэтыя мужчыны і зусім не патрэбныя?» Дык вось, з мужчынам у хаце жыць неяк лепей. Як сірата, я заяўляю аб гэтым з поўнай адказнасцю. І хай сабе на дадзены момант я цалкам самастойная і зусім-зусім адзінокая, усё ж бацьку свайго я ўспамінаю з пачуццямі любасці, заўсёднай пяшчоты і шкадавання аб тым, што ён цяпер не са мною.

Можа, таму я і адзінокая, што ўсіх сваіх патэнцыяльных кандыдатаў на шлюб я параўноўвала і параўноўваю са сваім бацькам. А ён быў надзейным і адказным чалавекам, на якога ў цяжкую хвіліну можна было разлічваць. Ён браў на сябе, як сапраўдны мужчына, клопат пра матэрыяльнае становішча і духоўнае жыццё сваіх сямейнікаў. Не дазваляў нам ленавацца, распускацца... А галоўнае, бацька выдатна разумеў: самае страшнае – страціць пачуццё ўласнай годнасці...

Ён вырас у вялікай працавітай сялянскай сям’і, дзе добра ведалі цану хлебу. Таму даражыў кожнай хвілінай свайго жыцця. Уставаў у 6 гадзін, не шкадаваў сябе цэлы дзень – пісаў, друкаваў, рэдагаваў, арганізоўваў і наладжваў, кантактаваў – і вельмі позна клаўся адпачываць. Гэты няспынны кругаварот людзей і падзей у рэшце рэшт і звёў яго раней часу ў магілу.

Ён нас смяшыў, падбадзёрваў, пацяшаў. Прымушаў быць больш уважлівымі да з’яў прыроды, да раслін, жывёл і птушак, любіць усё жывое на зямлі...

Яму ўласцівая была жыццёвая практычнасць, вынаходлівасць. Ён ведаў, як адстойваць свае інтарэсы, не прайграваць, дасягаць неабходных мэтаў. Таму ніколі не трапляў у незайздроснае становішча, быў здольны «выкруціцца» з любой складанай сітуацыі.

Бацька не быў абыякавым да мастацтва. Вельмі цікавіўся фальклорам, нават некалі праслухоўваў з Янкам Сіпаковым запісы, прывезеныя мною са студэнцкай фальклорнай практыкі (там былі гарадскія рамансы, балады і г.д.). Ніколі не адмаўляўся паглядзець добры фільм. Часам мог пагартаць мастацкі альбом, любіў творчасць Марка Шагала, Міхаіла Савіцкага, Ілы Глазунова, Аляксандра Шылава...

Любіў вёску, рамантызаваў яе, часта наведваў родныя палескія мясціны. Нават тады, калі выбухнуў Чарнобыль і «засыпала» радыяцыяй Хойнікі і бацькаву вёску Вялікі Бор. Найбольшай жа страсцю бацькі былі кніжкі.

У госці да бацькі часта прыходзілі яго сябры, сярод іх былі і пісьменнікі, дзеячы культуры, і навукоўцы. Памятаю сярод гасцей нашай сям'і народных пісьменнікаў Івана Шамякіна і Андрэя Макаёнка, лаўрэатаў Дзяржпрэміі Анатоля Вярцінскага, Янку Сіпакова, а таксама Анатоля Бутэвіча, Максіма Лужаніна, Масея Сяднёва і іншых. Бывалі мастакі – Рыгор Сітніца, Фелікс Янушкевіч... Быў у нас калісь кампазітар Ігар Лучанок, пераступалі парог нашай кватэры маці спевака Данчыка – спадарыня Юля Андрусішына, дзеячы беларускай эміграцыі Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель, айцец Аляксандр Надсан. Гаманілі, спрачаліся – пра духоўныя каштоўнасці.

Яшчэ вельмі важным момантам у жыцці нашай сям'і былі пісьмы, якія прыходзілі ад бабулі – бабы Веры з Вялікага Бора. Яны ўяўлялі сабой, па сутнасці, таленавітыя творы, трапныя абразкі-замалёўкі аб жыцці велікаборцаў. Часам прыходзілі з вёскі і пасылкі – тады, як калолі кабана. Баба Вера дзяліла між сынамі, якія жылі ў Мінску, усё па справядлівасці: «Гэта Алесю, гэта Івану, а гэта Барысу».

Прыгадваецца напружаная праца бацькі за пісьмовым сталом. Ліст за лістом ён спісваў, ствараючы апавяданні, аповесці, раманы... У яго быў неразборлівы почырк, і мама потым перапісвала, а то і друкавала, рукапісы. Мы часам вычытвалі, выпраўлялі недакладнасці (бацька сам прасіў аб гэтым). Увогуле былі мы дружнаю сям'ёй. Улетку выязджалі на дачу, апрацоўвалі ўчастак, рабілі нарыхтоўкі... Абмяркоўвалі літаратурныя творы, падзеі культурнага жыцця. Наведвалі вечарыны, удзельнічалі ў розных імпрэзах. Слухалі радыёперадачы, расповеды аб жыцці бацькі – непаўналетняга вязня – у Германіі, аб ягоных падарожжах у ЗША, Францыю, Галандыю, Чэхію, Польшчу. І ўсё гэта адбывалася нязмушана, весела, лёгка, з натхненнем.

Бацька любіў як сваіх, так і чужых дзяцей, ставіўся да іх з сімпатыяй, частаваў цукеркамі. Цешыў байкамі, чытаў вершыкі. Песціў, мілаваў, клапаціўся пра іх, як самая чулая маці. Пытаўся, што дзіця сніла, цікавіўся, ці з той нагі яно ўстала... Але, паколькі ён быў сапраўдным мужчынам, яго лёгка было пакрыўдзіць сказаным не ў час, неабдуманым словам. Тады бацька мог даць суровы адпор...

Ён быў маім ідэалам. Аднак баюся, як пісаў Мікалай Гогаль, «впасть в умиление». На заканчэнне заўважу толькі, што калі мне бывае горка і цяжка, я вяртаюся душою да свайго бацькі і, нібыта ў дзіцячыя гады, даверліва бягу насустрач яму па вясновым квітнеючым лузе...

Я любіла яго. А больш, магчыма, нікога. Закаханая ў свайго бацьку, я пакуль што не стварыла сям'і, не нарадзіла дзяцей. Так ужо атрымалася... Ніхто ў гэтым не вінаваты.

*17.05.2006, "Звязда"*

***P.S.*** *Што такое род? Каменьчык кінулі ў ваду, і хвалямі ў прасторы, у часе разышліся рысы характару, словы, вобразы... І праўнук раптам да болю падобны да прадзеда... Не. Лепш так: зернетка ўпала ў зямлю і прарасло... Дрэва Роду ўпісанае ў Кола часу і ўсе мы, як у Багдановіча, ляцім да зор...*

Алесь Разанаў



...вытлумачаны верш – прачытаны верш:
у ім гук набывае водгук, а словы – змест...

# Зацемкі з зімовага саду

Чытаем верш.

Сваёй назвы ён не мае і сам увесь з'яўляецца назвай да таго, што кранае, што выяўляе, што вымаўляе, і называецца па першым радку “Мой сад у снезе па калена...”, аўтар Алесь Пісьмянкоў. Жыццёпіс Алеся Пісьмянкова чапаць не будзем, зазначым толькі, што распачаўся ён у 1957-м, завершыўся – абарваўся – у 2004-м, верш сам старонка з яго жыццёпісу і напісаўся ў 1986-м годзе, задоўга да таго, як яго не стала. Чытаем верш.

Мой сад у снезе па калена,
Азяб у золь і снегапад...
Табе не холадна, Алена?
Табе не холадна, Алена?
Табе не хочацца назад?

Мой сад зусім не салаўіны –
У ім ахрыплыя вятры,
У ім рабіна ды каліна,
У ім рабіна ды каліна –
Вось і усе яго дары.

Мой сад пусцее без дагляду.
Яго сячэ калючы град.
Ён замаркоціўся без свята...
Ён замаркоціўся без свята...
Табе не хочацца назад?

Мой сад у снезе па калена.
Над ім і золь, і снегапад...
Табе не холадна, Алена?
Табе не боязна, Алена?
Табе не хочацца назад?

Мы прачыталі верш (прачыталі?!.), ён просты і нават празрысты, усё ў ім для слыху і разумення вядомае, аднак у яго простасці і празрыстасці ёсць нешта тое, што затрымлівае ўвагу, што надае вершу глыбіню і ў ёй тоіцца і для самога верша застаецца невядомым. Невядомае не адстароньваецца ад верша і тым больш яму не супрацьпастаўляецца, яно ў ім выяўляецца, выяўляецца не становячыся вядомым.

Сваёй рытмікай, сваёй інтанацыяй верш блізкі песнаспеву, ён аголены, "зімовы", у ім амаль няма чаго бачыць, слоў няшмат, яны паўтараюцца і суадгукаюцца. Так, слова "сад", нідзе не выносячыся ў канцавую рыфму, не наўпрост рыфмуецца і наўпрост суадгукаецца са словамі "снегапад", "назад", "над", "град", "свята", "дагляду" і нават "холадна", у якім хаваецца не выяўленае і не вымаўленае ўголас слова "лад"; слова "каліна" далікатна суадгукаецца з моцна зрыфмаванымі між сабою словамі "калена" і "Алена" і выклікае нявымаўленую сінтагму "калі на", ну і само па сабе красамоўнае імя Алена ў сваёй назоўнасці і суадноснасці дапасоўвае да сябе семантыку спадарожных слоў "але", "на", "не", апошняе з якіх глыбока ўнетрана ў слове "снезе", і, выходзячы за межы верша ў жыццёпіс таго, хто гэты верш напісаў, яднаецца з імем Алесь. Яно названае па-за вершам, а ў самім вершы ёсць яшчэ словы прысутныя і неназваныя, мы будзем мець з імі справу і таму назавем іх: гэта найперш слова "сляды" (той, хто ўваходзіць у сад, пакідае ў снезе сляды) і слова "ягады" (яны выспелі, і "рабіна ды каліна" іх дораць вершу).

Рыфмы і алітэрацыі ў вершы істотныя не самі па сабе, а тым, што яны намацваюць і абуджаюць уласцівыя вершу зместы.

Верш і сам увесь змест, які дарэшты не выяўлены і не абвешчаны, чым больш ён (змест) выяўляецца, тым больш заступае за межы самога верша.

Словазлучэнне "мой сад" пераходзіць са страфы ў страфу, нібы ўсякі раз верш распачынаецца нанова, у кожнай страфе верша чацвёрты радок паўтарае трэці, пераймаючы тое, што ён перадае і зберагаючы такім чынам вымаўленае, а чацвёртая страфа амаль цалкам паўтарае першую. "Табе не холадна, Алена?.." – чытаем у трэцім радку апошняй страфы знаёмыя словы і, гатовыя іх паўтарыць, у чацвёртым радку спатыкаем раптам адрозненне: "Табе не боязна, Алена?.." Яно істотнае, яно ўзнікла з глыбіні самога верша, яно ім намацвалася і прадбачылася, арфаэпія слова "азяб" яго ўжо распазнавала. І тое, што ў апошняй страфе дзеяслоўнае "азяб" саступае месца прысутнасці прыназоўніка "над", робіць "боязна" яшчэ больш з'яўным. Яно збіралася адпачатку і, застаючыся ва ўтоеным і з ім супадаючы, з яго паступова вылучалася. Утоенае – да часу невядомае і наймення не мае. Найменне набывае тое, што пачынае сябе распазнаваць і распазнавацца тым, што, дагэтуль разасобленае, збіраецца ў сваю, адно яму належную, суадносіну.

Боязь як з'ява ўзнікае не раптам, яе выклікае і яе знаходзяць ёй тоесны змест акалічнасцяў, а ў самім слове "боязь", што аб'яўляецца ў заключнай страфе верша, вымаўляюцца лексемы, што невядома адкуль узяліся, лексемы мовы, што яшчэ

не сталася мовай ці перастала быць мовай, лексемы згадкі, што ўжо ні з чым не суадносіцца ці, калі суадносіцца, то з невядомай велічынёю: “бо”, “я”, “зна”.

Выяўляцца – вымаўляцца: у садзе выяўляецца тое, чаго верш яшчэ не вымавіў.

І яшчэ апынаюцца прысутнымі і застаюцца неназванымі колеры: белы (снегу) і чырвоны (ягадаў). Яны прысутныя той прысутнасцю, што ўмалёўваецца ў краявід і не мае патрэбы ў атэстацыі. Атэстоўваць – вылучаць; вылучаецца тое, што яшчэ толькі абʼяўляецца і, абʼяўляючыся, пераходзіць з утоенага ў відавочнае. Тое, што ёсць, ужо мае сваю атэстацыю з сабою і ўтоенае захоўвае ў сабе.

Рабіна і каліна ў ягадах – завяршальная стадыя таго, што ў суадпаведныя поры абʼяўлялася квеценню, завяззю, выспяваннем, а цяпер абʼяўляецца ягадамі, таксама ў суадпаведную – апошнюю – пару.

Зіма ў белым колеры, рабіна і каліна – у чырвоным, яны кантрастуюць адно з адным і адно да аднаго дапасоўваюцца, дапасоўваюцца глыбока, так, што белае становіцца чыстым белым, вольным ад прыналежнасці, а чырвонае чыстым чырвоным. Гэтыя колеры ведаюць нешта адно пра адно адпачатку і сустракаюцца наапошне і, сустракаючыся наапошне, робяць сустрэчу відушчай.

У абодвух гэтых колераў ёсць яшчэ адзін кантраст – чорны, але ён супрацьлеглы і абодвум ім іншародны:

у іхняй пары яму няма чаго рабіць. Ён узнікае, калі яны знікаюць, і – наўзаем – калі ўзнікае ён, знікаюць яны.

У вершы дагэтуль разасобленыя словы складаюцца між сабою так, што набываюць моц закону: адно так яны маюць скласціся, і тое, што яны кажуць, адно так насампраўдзе ёсць. У вершы словы складаюцца ў закон, выяўляючы рэчаіснасць, для якой ён свой, і набываюць моц закону, наколькі гэтую рэчаіснасць выяўляюць.

Увага яшчэ не можа яе разгледзець, але ўжо не можа і абысці.

“Над”, аднойдзенае ў апошняй страфе верша, знаходзіць сябе над садам, яго месцазнаходжанне ў абсягу, што вынесены за межы самога саду, і калі “ў”, прысутнае ў папярэдніх строфах верша, уласціва таму, што знаходзіцца як унутры саду, так і знадворку, то “над” у дадзеным выпадку аднаяўна вынесена ў знадворнае.

У знадворным валадарыць надворʼе, сваё для кожнай пары, яно паводзіцца так, нібы ўсё залежыць ад яго, а яно ні ад кога і ні ад чога.

Знадворнае відовішчнае: яно бачыцца, чуецца, адчуваецца і сцягвае на сябе ўсемагчымую ўвагу, аднак самае істотнае ўсякі раз адбываецца па-за ім і па-за ўвагай, так непрыкметна і незаўважна, што пра яго мы даведваемся, калі даведваемся, потым. Знадворнае шчыміцца і точыцца ва ўнутранае і, падслухоўваючы ва ўсемагчымыя слыхі ды падглядаючы ва ўсемагчымыя гляды, здагадваецца пра тое, што там адбываецца, і тады выносіць свае здагадкі на людзі і абʼяўляе ўголас.

“Ахрыплыя вятры” абʼяўляюць здагадкі.

“У ім рабіна ды каліна...” – дрэвы, што атэстуюць зімовы сад, самыя не садовыя; садовыя пакінулі свае дары лету і восені, а рабіна і каліна вынеслі іх у зіму і ў зіме, у голым бязмежжы, ззяюць і сведчаць, што гэта іхняя пара.

Зняволеніцы, але і абраніцы, яны ўсім паказваюць свой набытак, свой скарб, свае рубіны, што яны ніколі не паказалі б, калі б былі адно зняволеніцамі, паказваюць выснову, якую мае засвойваць разгорнутая ў знадворным рэчаіснасць.

Тое, чаму надаецца ўвага, набывае суадпаведную ёй вагу, а яна надаецца таму, што ўжо загадзя вагу мае, што вылучаецца са звычайнай, знойдзенай у раўна-

вазе, суадносіны. Вылучаецца, бо вылучана – той велічынёй, якой і захоўваецца раўнавага.

У вершы, калі ён праўдзівы, прысутнічае невядомая велічыня і адтаго, наколькі яна прысутнічае, ён праўдзівы.

Яна больш, чым змест, яна першазмест, і першазмест усіх вершаў невядомая велічыня. Ёю яны распазнаюцца і ёю слушныя, да яе звернуты і ёю абумоўлены.

У што мы ўслухоўваемся, калі верш чытаем ці згадваем верш на памяць? Так, у яе, у невядомую велічыню.

Застаючыся ў вершы, яна па-за вершам, яна відушчая, але самой яе не відаць, дзякуючы ёй кшталты набываюць азначэнні, а словы найменні, аднак сама яна ўхіляецца ад найменняў і азначэнняў, і самае большае, што верш здольны зрабіць – выявіць яе прысутнасць. Пра што б ён ні быў, яго змест суадносіцца з ёю, астатняе ўмовы і акалічнасці, дзякуючы альбо насуперак якім гэта адбываецца.

Верш вынікае з суадносіны вядомага і невядомага: у ім невядомае ўводзіцца ў вядомае так, што застаецца не ўведзеным, і вядомае выводзіцца з вядомага так, што застаецца нявыведзеным.

Пра што б ён ні быў, ён заўсёды застаецца дарэшты недатлумачаным, у ім прысутнічае тое, што, разгортваючы прастору для вытлумачэння, само ім не схопліваецца, што схопліваецца, дык гэта вестка: тое, што перастала ўжо быць невядомым і яшчэ вядомым не сталася.

Верш ведае вестку.

Яны ўваходзяць у сад, як у веду, якая ведае іх глыбей, чым яны самі.

Ведай не валодаюць, у веду ўваходзяць і, адкрываючыся ёй, адкрываюць яе. Яна не ўкладаецца ў меру мовы і асягаецца не мовай, а суадпаведнасцю. Быць – ведаць: мы ведаем суадпаведнае таму, чым ёсць.

У вершы вымаўляюцца суадпаведныя словы і самі вымаўляюць у ім суадпаведнае.

Вось малюнак, што вынікае з верша: зімовы сад, глыбокі, “па калена”, снег, і яны – ён і яна – удваіх ідуць па цаліку ўглыб. Пытанне: як ідуць? Як ідзе ён і як ідзе Алена – побач з ім? перад ім? за ім? Якая суадносіна месца і зместу ёй найбольш адпавядае? Пра гэта ў вершы нічога не гаворыцца, але самі з’явы і постаці, беручы ўдзел у суадносіне выяўленага і вымаўленага з нявыяўленым і нявымаўленым, знаходзяць узаемапаразуменне і ўзаемараўнавагу.

Як ідзе ён і як ідзе Алена? Яна ідзе ўслед, уступаючы ў яго сляды, яны супадаюць слядамі, ён кожным следам уступае ў невядомае, яна ў вядомае, здабытае ім: узаемапаразуменне і ўзаемараўнавага здабываецца ў хадзе. Не яна вядоўца ў гэтым падарожжы і нават не ён, яно вынікае з той суадносіны, з якой ён сам вынікае сабе невядомым, а яна вядомай сабе застаецца. І калі ён, заглыбляючыся ў невядомае, можа з ім усё больш супадаць, яна названая і невядомаю стацца не можа.

Ён ідзе *дакульмагчыма*, яна – дакуль ён, і *дакульмагчыма* яе сляды супадаюць з яго слядамі.

За выяўленым і вымаўленым у вершы прысутнічае нявыяўленае і нявымаўленае.

За нявыяўленым і нявымаўленым невыяўнае і невымоўнае, і тых, хто ідзе бездарожжам, арыентуючыся па захаваных унутры іх саміх картах, ведае адпачатку.

Сляды сведчаць: падаючыся ўслед за тым, хто ідзе, яны захоўваюць у сабе вектар звароту і дарогу назад ведаюць на памяць, і пакуль той, хто іх пакідае, ідзе, не могуць дарэшты апынуцца пакінутымі.

Сляды ўпісваюцца ў краявід зімовага саду, сад “мой”, і яны гэтаксама “мае”, і калі некалі той, хто іх пакідае і не можа дарэшты пакінуць, зверне на іх увагу і возьме, падаючыся ў адваротным кірунку за арыенціры, яны застануцца ў садзе як дадатак да яго “дароў”, як сведчанне, што ён не пакінуты, як знак прысутнасці ў ім таго, для каго ён “мой”.

Сваё (“маё”) тое, што я маю і ведаю. І ведаю і маю настолькі, наколькі яно мае і ведае мяне. Тут, у вершы, яно не роўнаістотнае і з “я” суадносіцца не аднолькава, і таму, што з “я” суадносіцца неаднолькава, сведчыць, што “я” гэтаксама мае свае ўзроўні і сваю суадносіну з велічынёю, для якой само з’яўляецца “маім”.

Той, хто ідзе, уводзіць у сад сваю прысутнасць, і сляды, выдрукоўваючыся ў снезе, яе ўвідавочніваюць. Снег тая субстанцыя, дзякуючы якой сляды ўваходзяць у сад і, уваходзячы, увідавочніваюць зварот, яго магчымасць скіроўвацца назад, да зыходу, у пачатак. Снег – субстанцыя свята, аднак свята, асіметрычнага таму, у якім некалі яны былі, і сцежак туды няма.

Той, хто ідзе ў зімовы сад, вядзе з сабой нейкае, яму невядомае, парушэнне і вядзе датуль, пакуль хада доўжыцца, пакуль яе не пярэйме зварот.

Сад – адлюстраванне суадносіны, у якой яны маюць сябе, аднак у ёй самой, у суадносіне, цяпер адбываецца нешта, з-за чаго Алене і халадна, і боязна, і з-за чаго ў ёй, у суадносіне, яны перастаюць мець сябе, самім сабе вядомых і самімі сабой вядомымі.

“Ахрыплыя вятры” вынікаюць з гэтага нешта, яны вынікаюць з прагалу і з голасам маюць нятоесную суадпаведнасць, і сад у л ю д с к і м смутку.

Застаючыся на *тымсамым* месцы, сад змяняецца так, што ён і яна апынаюцца скранутымі з месца; цяпер сад у той змене, у якую ён і яна ўваходзяць.

Зімовая змена вылучаецца з чарады іншых зменаў і з імі найменш суадносіцца. Яна ў той канчатковасці, пасля якой можа настаць адно новы пачатак. Канчатковасць па-свойму дасканалая: яна займае абсягі і вымалёўваецца ў краявіды, а тое, што мае настаць, схавана і месца не мае.

“Ахрыплыя вятры” выгаворваюць тое, чаго не вымавілі ні спеў, ні голас. Спеў і голас вымаўляюць свае, суадпаведныя ім, кшталты, яны іх вымавілі і забралі з сабой, тое, што выгаворваюць “ахрыплыя вятры”, – прагал, правал, страта.

Яны памятаюць сваё – яно іх не,
шукаюць – і не знаходзяць,
клічуць – яно не адгукаецца,
і самі апынаюцца страчанымі.

Яны выгаворваюць тое, што ўжо і не хоча выгаворвацца, – апошняе, і выгаворваюць праз сілу: у ім ёсць тое неабходнае, што мусіць выгаворвацца *дакульмагчыма*.

Пакуль сляды доўжацца, пройдзенае не становіцца мінулым; мінулае тое, што адымаецца, а яно тут дадаецца і ідзе след у след за імі.

Можна сказаць, што яны (сляды) ўводзяць мінулае туды, куды ўваходзяць самі, але датуль, пакуль яны ўводзяць яго туды, куды ўваходзяць самі, самі туды ўвайсці не могуць.

Калі паэт, суадпавядаючы той сваёй іпастасі, што ўведзена ў верш, кажа: “Ён замаркоціўся без свята”, то тут ён саступае ў іпастась сваёй спадарожніцы. “Мой” сваё і “табе” сваё – займеннікавыя азначэнні, і паміж імі свае суадносіны.

Тое, да чаго дапасоўваецца займеннік “мой”, не пакідае слядоў, наадварот, само становіцца месцам, куды сляды сцягваюцца і дзе пакідаюцца, у дадзеным выпадку – сад.

Той, да каго дапасоўваецца займеннік “табе” (у дадзеным выпадку да Алены), сляды аддаюцца, а ёй было б лепш іх не мець. У яе свой след – і ён цяпер супадае з яго следам, у яго свой лёс, і ён цяпер супадае з яго лёсам так, што ягоны лёс становіцца ейным.

Не было б яе, наваколле ўраўнялася б і падарожжа т у д ы не змагло б адбыцца.

Яны ўводзяць у сад супярэчанне, і яно выяўляецца ў ім. Яно шматмернае, і займае кожнага ў суадносіне да ўсіх і ўсіх у суадносіне да кожнага, і наўпроставага вырашэння не мае.

Магчыма, гэтым разам яны павернуць назад і выйдуць з саду, аб’яўленая і не вырашаная супярэчаннем суадносіна выпадзе з саду ўвагі, аднак, і выпаўшы, усё адно застанецца і будзе чакаць сваёй пары, каб аб’явіцца і вырашыцца.

Кшталт, які перадае слова “замаркоціўся”, афарбаваны ў колер змроку, у колер, што, гусцеючы, становіцца цемнатой, чарнатой, колерам, супротным белі і чырвані; ён (змрок) яшчэ не стаўся гэтакім, але гатовы стацца і, магчыма, ужо стаецца, і таму, што гэта гэтакі колер, Алене ў ім боязна.

У параўнанні са сваімі ранейшымі кшталтамі зімовы сад *іншы*, і постаці, што ўваходзяць у яго, становяцца *іншымі*. Яны маюць стацца *іншымі*: не становячыся, яны не змогуць увайсці, і не ўваходзяць яны настолькі, наколькі не сталіся *іншымі*. У ім (у садзе) ёсць тое, чаго не было ў іншых садах, у якія яны наведваліся дагэтуль, у ім ёсць н я м а.

У ім яны бачаць тое, чаго дагэтуль не бачылі, і тое, чаго не чулі дагэтуль, чуюць, у ім яны маюць сябе (ці пачынаюць мець) гэтакімі, якімі не мелі.

Н я м а вынікае з таго, што было.

Яны ўваходзяць у вынік.

У ім (а калі ў іх, то ў кожным па-свойму) высноўваецца нешта, што ўжо не ўмяшчаецца ў фармаце ранейшай узаемаадносіны і вядзе за межы яго самога і іх саміх. Што?

Яно неад’емнае ад яго і ад іх, аднак яно іншай спеласці, іншага выспявання і наймення яшчэ не мае. Яны і кіруюцца ў зімовы сад таму, што ён, пусты і ніякі, найбольш суадпавядае таму, чым самі яны яшчэ не сталіся.

Розныя, яны тоесныя і разам скіраваны туды, дзе няма розніцы і няма тоеснасці.

Тое, куды яны ідуць, неабходнае: яго нельга абысці.

Яно настае само, гэта тое н я м а, што паўстае з ё с ц ь, ё с ц ь, вывернутае на левы бок, у зіму з лета, з містэрыі Купалля ў містэрыю Калядаў.

Двое, яны кіруюцца ў адлюддзе, туды, дзе нікога няма. Навошта ім гэта?

Іх вядзе туды ім уласцівая неабходнасць, яна адна ведае, як туды дайсці, і вядзе выяўляючыся, даводзячы і адкрываючы вандроўцам, што канчатковая мэта вандроўкі ў іх саміх.

Яны ідуць, слухаючыся яе і спазнаючы, навошта яны ідуць.

У вершы дзеецца, утоеная ад вачэй, містэрыя, дзеецца, не пытаючыся ў іх на

гэта дазволу: недзе там, у глыбіні іхніх існасцяў, яна ўжо займела на гэта дазвол і згоду.

Верш у яе прысвечаны і ў яе прысвячае.

Нікому не выпадае нікуды спяшацца: далёкае ўвайшло ў сад і ў ім спынілася;

нікому не выпадае ў што б ні было ўмешвацца і перапарадкоўваць, што б ні было, на свой лад: усё ўслалася чысцінёю і ёй асвяцілася;

нікому не выпадае рабіць ніякіх высноў: верш займеў сваю мэту, і тое, што мае стацца, разгортваецца і выяўляецца само.

Верш істотны тым, што вымаўляецца само, і менавіта з таго, што само хоча вымавіцца, вынікае верш.

Сад увайшоў у зіму, а яны ў сад уваходзяць, каб яно вымавілася.

Зіма не мае таго, што мелі іншыя – папярэднія – поры, і, у параўнанні з імі, нямая.

У вершы аднаходзіцца тое, што для гаварэння, паселенага ў абсягах дадзенасці, апынаецца нямым.

Перш чым пачне вымаўляцца верш, паэт мае стацца нямым.

Застаючыся сваёй прысутнасцю ў абсягах прасторы і часу, яны кіруюцца за межы прасторы і часу, і арыенцір, які не дае ім згубіцца і зблытацца ў навакольных выявах, унутры іх. Яны настаюць знутры сябе, і тое, што ўчора было імі, сёння апынаецца знадворку пры ўмове, што самі яны застаюцца з тым, што ўнутры.

Аднак яны ў дарозе – адымаюцца і дадаюцца і маюць сябе адразу ва ўнутраным і знадворным. Тое, што ўнутры, ведае дарогу ў наступнасць, тое, што знадворку, – назад, у зварот.

Нібы наштурхоўваецца на перашкоду, верш знаходзіць сабе прыпынак, радкі паўтараюцца, і пытанні, звернутыя да Алены, застаючыся *тымісамымі*, глыбеюць: яны ўжо ўгадваюць адказ і, трымаючыся ад яго на магчымай адлегласці, агучваюць яго. Верш знаходзіць сябе ў прыпынку і здабывае ў ім сабе неабходную раўнавагу. Яшчэ не ўсё вымавілася, а вымавіцца – раўнавага парушыцца, і ён (верш) страціць сябе. Яму гэтаксама боязна, і калі Алене боязна таго, чаго яна яшчэ нейкім чынам не ведае, то яму таго, што ён ужо нейкім чынам ведае: боязна – бо *я* знае нешта, што не адважваецца вымавіць.

Верш – жывая з'ява, і мае што паведаміць.

Што тычыцца вытлумачэння, яно адбываецца, калі ўчытваецца ў верш, услухоўваецца ў верш, уваходзіць з ім у размову ці, больш дакладна, у суразмову: яно адпачатку прысутнічае ў вершы як яго дадзенасць і ўласцівасць.

Зварот магчымы адно ад, якім бы яно ні было, дасягання, і ці не ёсць дарога ў сад для тых, хто ідзе, увядзеннем у яе звароту, настойлівай і пастаяннай дарогай назад? Яны двое: з ім, усё болей падаючыся ў невядомае, з ёю ўсё больш назад? Яны *ўзаемаёсць*, узаеманалежаць, узаемазалежаць, дарога ў сад вынікае з іхняй узаемаадносіны, знутры іх, яны ёю пакліканыя, і з самага пачатку спалучана з тым супрацьдзеяннем, якое мусіць пераадольваць, каб дзейсніцца. Яе інтэнцыя кіруецца *да*, інтэнцыя супрацьдзеяння – *ад*, яно ўласцівасць самой дарогі, без яго, супрацьдзеяння, як бы ні спяшалася, яна застаецца на месцы і пакуль яна застаецца на месцы, свята апынаецца па-за тымі, хто зараз ёю ідзе, яны па-за ім.

Хіба зварот магчымы адно ў пройдзенае?

Той, хто вяртаецца ў пройдзенае, супадае са сваімі слядамі: яны для яго павадыры;

для таго, для каго павадыры зместы, разгортваюцца невядомыя абсягі, на якіх той, хто ідзе, не пакідае слядоў, а згадцы – вядомыя.

Сад зімовы, і, як у сад, у верш усяляецца самота. Словы нечага не знаходзяць і, каб знайсці тое, без чаго адчуваюць сябе пакінутымі, паўтараюцца: паўтарацца – вяртацца назад, у вядомае назад. Аднак яго там не аказваецца, ці, калі аказваецца, то яго адсутнасць. “Мой сад зусім не салаўіны”, – самасведчыцца верш, згадваючы іншую пару і твор іншага творцы: словы, паўтараючыся, выпытваюць у гуку водгук і, не знаходзячы ці знаходзячы не той альбо адно часткова той, што ім суадпавядаў бы, пачынаюць спяваць і жаліцца.

*Ужо* і *яшчэ* прыцягваюцца адно да аднаго, не могучы ні адасобіцца, ні супасці;

далёкае і блізкае захопліваюцца адно адным, не могучы ні атаясаміцца, ні разысціся;

і словы, што вымавіліся, збіраюцца ў паўторы, каб, выяўляючы *тоесамае* зноў, выявіць тое, што вымавіцца не можа.

Рабіна і каліна – асіметрычныя постаці ў садзе.

Але сад цяпер і сам у асіметрыі – у зіме, і ў ёй выяўляе тое, што дагэтуль утойвалася і паспявала, – ягады рабіны і каліны. Гэта дзівосныя дарункі, апошнія, яны не маюць кошту, і ўсё наваколле аддае ім сваю ўвагу і дзівуецца ім, і, пэўна, ён і яна ў сваёй зімовай, а таму таксама асіметрычнай, вандроўцы кіруюцца якраз на іх.

Яны, гэтыя ягады, адрасуюцца ўсім і некаму, і, давяраючы суадносіне зместаў, закладзеных у вершы, мы немінуча прыходзім да здагадкі, важчэйшай за выснову, што ў вершы ўжо вымаўлена імя таго, каму яны адрасаваны ў прыватнасці. Яны адрасаваны “табе” – Алене.

Сад “мой”, а дарункі, у якія ўклаўся сад, – ёй.

У рабіны і каліны з ёю глыбокія і помныя суадносіны, і ў зіму, у якую яна ўваходзіць, яны пара за парою ўвайшлі са свята, на якім былі разам з ёю, а можа, нават адно.

Свята застаецца ў глыбіні, і з глыбіні дарункі.

Той, хто кажа “Мой сад у снезе па калена”, суадносіцца з садам і атаясамляецца з дрэвам, перажываючы стан і становішча, у якім яны (сад і дрэва) знаходзяцца.

Суперажыванне – сама ўласцівасць паэзіі, і здольнасць да суперажывання – сама ўласцівасць паэтычнай творчасці.

Ягады рабіны і каліны – індыкатары надвор’я, у якім апынаецца і ўжо апынуўся сад. У суадносіне з імі Алена гэтаксама індыкатар таго, што адбываецца ў садзе, а ў ім адбываецца нешта, што пакідае яе сам-насам з невядомасцю. Сад “мой”, і Алена больш, чым “мая”, аднак ёй у гэтым *маім* і холадна, і боязна.

Той, хто атаясамляўся з ёю, і з кім яна атаясамлялася так, што двое былі адно, перастае быць такім і ўжо не абараняе яе ад таго, ад чаго ёй холадна і боязна: ён ад яе адымаецца, і сам пра гэта яшчэ не ведае. (Холадна і боязна адно ёй, ці гэта яна, як індыкатар, улоўлівае змены ў надвор’і, агульным для яго і яе?!.)

Тут, дзе яны апынаюцца, яны апынаюцца ўпершыню, і такімі, якімі ёсць тут, таксама аказваюцца ўпершыню. Ёй холадна ад невядомага холаду і боязна не проста невядомага невядомага, а невядомага, што настае з вядомага і што, настаючы, перастае суадносіца з ёю.

Сад памятае свята, людзі – таксама. Памятаць свята не азначае яго мець і ў ім быць, хутчэй, наадварот, –

не мець і не быць. Той, каму яно памятаецца, ад яго адняты, і – наўзаем – яно аднята ад яго, але аднята так, што застаецца.

Свята святое, яно памятаецца само, і, з-за таго, што яно становіцца адсутным, усё астатняе, да чаго яно мела дачыненне, а яно мела дачыненне да ўсяго, да свету, становіцца самотным – недастатковым і лішнім: у недастатковасці лішак, у лішку недастатковасць, і тое, што мае сябе, апынаецца само і мае сябе ў самоце. Выйсці з яе – выйсці з сябе: сад утойвае выйсце.

У свята свае вымярэнні: адымаючыся – дадаецца, застаючыся ў мінулым – апынаецца ў наступным, стаўшыся *ўжо*, стаецца *яшчэ* і, памятаючыся, аб’яўляецца як магчымасць, якую належыць асягнуць.

У святе пераўзыходзіцца мяжа між унутраным і знадворным, мінулым і наступным, вядомым і невядомым, і двое адно аднаму не двое і не адно, а – сустрэча.

Свята – вядома-невядомая велічыня, усе рухі скіраваны да яго, і ўсе поры часу вядуць да яго, але хіба ў тым, што скіравана да яго і вядзе да яго, яно адсутнічае? Калі б адсутнічала, рухі не ведалі б, куды кіравацца, а поры часу, куды весці, калі б прысутнічала, не мелі б у гэтым патрэбы. Яно адсутнічае *сваёй* адсутнасцю і прысутнічае *сваёй* прысутнасцю, і ў завяршальнай пары, дзе яно мусіць знайсціся дарэшты, яго не аказваецца зусім.

Тое – яно не тое, не ёсць, а ё с ц і ц ц а, і, прыналежачы ўсім прыналежнасцю, у якой яны маюць спраўдзіцца, выяўляецца не як дадзенасць, а як вестка, што мае дацца і ўзяцца.

Сваёю, адно ім уласцівай хадою, са свята яны ўваходзяць (уводзяцца) ў неабходнасць. У ёй свой лад – “холадна”, свая *ёсціна*, якую, каб распазнаць, трэба перажыць.

Усё больш узмацняючыся, набіраючы па ўнутранай шкале дакульмагчымыя адзнакі, нешта ў іх, незалежна ад іх, пярэчыць гэтаму распазнанню і нешта, таксама ад іх незалежна, змушае ісці ва ўсё большую глыб.

У параўнані з іншыі садамі, ці кшталтамі, зімовы сад страчаны, усё тое, чым вызначаліся іншыя кшталты, у яго аднята. Чым вызначаліся іншыя кшталты? Тым, што мелі, і тое, што яны мелі, было “маё”. “Маё” ў зімовага саду аднята, аднята не абы-калі, а ў сваю пару, не раптам, а паступова, не прымусова, а ў згодзе з самою ягонай існасцю: адымалася яно – адымаўся ён, становячыся для “маё” ўсё больш страчаным.

Страчаны, пакінуты ўсімі кшталтамі сад становіцца месцам сустрэчы зместаў.

Распазнаючы і асвойваючы па дарозе ўмовы, што не фармулююцца, а выяўляюцца, ён і яна ідуць у сустрэчу – у страту, што мае ўсё.

Як увайшлі рабіна і каліна, зімовы сад – свята, у якое належыць увайсці.

Каб увайсці ў свята, належыць стацца суадпаведнымі яму, гэта азначае, нешта набыць і ад нечага пазбыцца альбо з нечага выбавіцца. Што набыць і ад чаго пазбыцца? Для таго, хто ўваходзіць у сад, яшчэ не выснаваўся адказ, але пытанне, што мае свой кшталт у вершы, кранае ноту, што азываецца жалем. Магчыма, усё і ўсяго. Адказ мае настаць з самой існасці верша і, магчыма, для іх – для постацяў, што ўселены ў верш – ужо настае.

Пакуль хада доўжыцца, пройдзенае не стаецца пройдзеным дарэшты, яно адсоўваецца, і ўсякі раз апошні след апынаецца перад мяжой.

Той, хто ідзе, вядзе з сабою мяжу, якая не пераступаецца слядамі. Сляды дадаюцца адымаючыся, і мяжа з тым, хто яе вядзе, гуляе ў гульню, правілы якой ён забыў і якія мае згадаць ці нанова вынайсці.

Град "калючы", ён нарываецца знадворку, стукаецца і "сячэ", і ключоў ад саду не мае. Схаваныя і захаваныя, яны ў ім самім, пад наглядам (і *даглядам*) той суадносіны, якой ураўнаважваецца знадворнае і ўнутранае.

*Я* і *маё* суадносяцца між сабою, як ягады рабіны і каліны са сваёй квеценню. Адпадаючы (ападаючы), квецень супадае з ягадамі так, што перастае быць: гэта адно і тое ж, уведзенае ў розныя поры.

"Мае" для саду, ягады аднятыя ад яго настолькі, што самі ўжо маюць у сабе ягонае "я", некалі, магчыма, яно пачне з іх выяўляцца.

Тое, што мае супасці з "я", мае супасці, сябе не маючы.

Вядомае – "маё": у ім яно мае і кшталт, і меру, аднак яно мае сябе і ў невядомым і ў ім не мае ні кшталту, ні меры, і таму, што яно (вядомае) ў ім (у невядомым) ёсць, ён і яна ў дарозе.

Той, хто сябе знаходзіць, знаходзіць сябе ў суадпаведных акалічнасцях, і ў тым, што верш выяўляе, паэт знаходзіць сябе, а "я" мае самазнаходжанне. Куды б яно ні змяшчалася, самазнаходжанне ўсякі раз тут і ў вершы распазнаецца і атэстуецца.

Верш распачынаецца адразу, без усялякага ўступу, як адразу правальваюцца ў снег сляды, і завяршаецца – нібы яшчэ намерваецца распачацца. Так, у ім ёсць пачатак і канец, аднак у той *ёсціне*, з якое ён вынікае, няма ні канца, ні пачатку, а ёсць судакрананне з іншым вымярэннем. Судакрананне з іншым вымярэннем –

карэнне для верша: наколькі ён суадносіцца з ім, настолькі змястоўны – змястоўны сабой.

Што не згадваецца ў вершы і што не аб'яўляе ў ім сваю прысутнасць, дык гэта сонца, яго ў ім няма, яно засталося ў іншых порах. Было б – сам верш загаварыў бы па-другому і сад не маркоціўся б – не афарбоўваўся б у колер змроку. Адно рабіна і каліна ўтрымліваюць яго ў тым, што выспела, захавалася і апынулася тут, – у ягадах, ды яшчэ сніць снег: абудзіцца – растане. Сонца па-за межамі верша і па-за межамі саду, але з садам і з вершам: усе ўтоеныя інтэнцыі скіроўваюцца да яго. Аднойдзецца – адамкнуцца сховы і вернецца свята: ключы ад яго ў яго.

Верш ведае таго, кім вымаўляецца, знутры: у вершы паэт самаатэстуецца. "Зімовая" самаатэстацыя адметная тым, што ў ёй ён адасабляецца ад усіх сваіх усемагчымых набыткаў – кшталтаў, у ёй ён апынаецца не тым, ч ы м ёсць, а тым, ш т о ёсць, і ў ёй, усё яшчэ не адасобіўшыся, а адасабляючыся і ўсё яшчэ застаючыся тым, ч ы м ёсць, падстаўляе сябе небяспецы. Так падставіла б сябе небяспецы дрэва, калі б яно ўвайшло ў "золь і снегапад", яшчэ не адняўшыся ад свята.

"Табе не хочацца назад?.." Назад – гэта дадому. Зварот памятае дарогу туды, сляды паказваюць, і калі б насампраўдзе яны падаліся назад, Алена была б вядоўцаю – першай.

Дом не проста месца, у якое ўселена пэўная пабудова, а месца, у якое ўселена суадносіна, дзе яны сябе маюць і аднаходзяць. Яны вядуць яе з сабою, і на ранейшым месцы дома ўжо можа не аказацца. Так, ідучы туды, дзе яны яшчэ не былі, яны гэтаксама скіроўваюцца не куды-небудзь, а дадому.

Дом не ў вядомым і не ў невядомым, а ў тым вядомым, што захоўваецца ў невядомым і з яго вынікае. Захоўваецца – ахоўваецца. Зімовы сад – пакінуты дом: пакінутасць усялілася ў яго краявіды, і пакінутасцю ён ахоўваецца. Нішто знадворку не можа ў яго ўвайсці і нішто знутры выйсці. Гэта ахоўная пакінутасць, *дагляд*, што мае да ўсяго дачыненне.

У з'яве звароту пройдзенае праходзіцца так, што апынаецца вернутым і нанова набытым, і яно апынаецца гэтакім не таму, што хада скіроўваецца назад, а таму, што само пройдзенае не застаецца ззаду. Зварот – хада ў хадзе, і ўсчынаецца адразу: калі асягаецца *да*, асягаецца і *ад*, і наколькі асягаецца *да*, настолькі – *ад*.

Знадворку зварот вяртае тых, хто ідзе, туды, дзе яны былі, знутры – тым, хто ідзе, вяртае тое, што яны даносяць з сабой і чым выяўляюцца: з'яўляе ім тое, што яны прад'яўляюць. Яны даносяць яшчэ не ўсё і выяўляюцца не зусім, і зварот, адступаючы, вядзе іх далей, а свята застаяцца ў прад'яве.

Невядомая велічыня, якою істотны верш, з'яўляецца невядомай для той вядомасці, якою істотная думка, і думкай не асягаецца.

Думкай чытаюцца сляды, упісаныя ў неруш снегу, сама неруш слядамі не асягаецца, яна наогул не асягаецца якім бы ні было асяганнем, калі асягаецца – перастае быць такой.

Сляды ў дарозе, і думка ў дарозе, яна (яшчэ і ўжо) не самадастатковая, каб стацца самадастатковай, мае выйсці са сваёй вядомасці – стацца вернутай *ёсціне*.

Вымаўляючыся, верш адпачатку нешта вытлумачвае – вытлумачвае тое, што, не вытлумачанае думкай, не сталася набыткам вядомасці і свядомасці, і вытлумачвае ў меру, у якой спраўджваецца і сам. Парушаная мера выхіляецца ў недахоп і ў лішак – у дадзенасці, што, навідавоку пярэчачы адно аднаму, усякі раз насампраўдзе пярэчаць ёй.

Што да вытлумачэння, якое набывае вагу з увагі да верша, – гэта пост-верш. Яно выводзіць верш з абсягу вымаўленасці і ўводзіць у абсяг, дзе зместы, прысутныя ў ім, распазнаюцца – становяцца набыткам вядомасці і свядомасці.

У вытлумачэнні верш угадвае, чым ён ёсць і становіцца вершам нанова, альбо: само вытлумачэнне, спраўджваючыся, становіцца вершам нанова.

Вытлумачаны верш – прачытаны верш: у ім гук набывае водгук, а словы – змест.

Верш творыцца, суадносячыся з невядомай велічынёю, І, суадносячыся з невядомай велічынёю і вершам, творыцца вытлумачэнне.

Вядомае ніколі не ёсць вядомым дарэшты, і невядомае ніколі дарэшты не ёсць невядомым: у іхняй, адзінай для іх, *ёсціне* збіраюцца і выспяваюць узаемасупротныя – узаемасуразумныя – чыннікі: у невядомым – вядомае, і невядомае ў вядомым.

У і м ёсць я н а, у ё й – ё н, і таму, суадносячыся адно з адным і з усім, яны здольныя пераўзыходзіць і – пераўзыходзяць – сябе.

У суадносіне прысутнічае зварот.

Тое, што распазнаецца думкай і асвойваецца свядомасцю, становіцца вядомым – вядомым так і настолькі, наколькі і як асвойваецца і распазнаецца.

Вядомае мае кшталты: у ім тое, што ёсць, апынаецца вернутым.

Каб стацца вернутымі, ён і яна падаюцца з вядомага ў невядомае. У ім (невядомым) захоўваецца тое, што іх і сам свет ведае адпачатку, – *сваё*: яны падаюцца ў пачатак, каб стацца *сваімі* сабе і свету.

*Сваё* – першаведа: перш, чым свядомасць пачала распазнаваць і асвойваць свет, *сваё* ўжо свет мела.

У вершы думка не адасабляецца ад згадкі і гэтай сваёй неадасобленасцю істотная.

Словы ў ім услухоўваюцца ў цішу і ад таго, наколькі ёй паслухмяныя, наколькі суадпаведныя, настолькі ўведваюць вестку. Яны вынікаюць з услухоўвання, з увагі прысутнага да сутнага, і ціша не ёсць адсутнасцю якога б ні было маўлення, а маўленне, у якое належыць услухоўвацца.

Увага – бязмоўная малітва.

У вершы нехта вымаўляе малітву.

Суадносячыся з садам, кшталты адымаюцца і дадаюцца: усе кшталты адразу сад не можа мець і мае ўсякі раз суадпаведны.

Ягады тое апошняе і выніковае, што асягае і мае сад: у іх ён мае свой скарб, сваю сутву, сваё аднойдзенае “я”.

“Вось і усе яго дары”, – гаворыцца ў вершы. Ён сам увесь у гэтых дарах.



Алесь Бяляцкі



...здаецца, што нябачная сувязь
паміж мной і тымі, хто піша мне,
не спадзеючыся на адказ, існуе...

# Лісты салідарнасці

*02 красавіка, 2014*
*Бабруйск, калонія №2*

Жыццё маё павярнулася такім чынам, што ў век, калі такі сродак кантактавання, як ліст, напісаны ад рукі на паперы, і паштоўка – адыходзяць у нябыт, саступаюць месца бяздушнай электроннай пошце ці тэлеграмападобным смс, я наадварот апынуўся ў лістоўнай плыні. Складана апісаць адчуванні чалавека, які за два з паловай гады сам напісаў больш за тысячу лістоў і паштовак і атрымаў разоў у дваццаць болей! У асноўным гэта былі лісты падтрымкі. Пад некаторымі з іх, і на лістах, і на паштоўках, некалькі, а то і дзясяткі подпісаў. Нязвыкла апынуцца ў фокусе гэтакага лістападу. Я мяркую, што не заслужыў такой увагі. Але падобныя рэчы, мабыць, адбываюцца без уліку твайго жадання-нежадання.

Я добрасумленна праглядаю ўсю сваю карэспандэнцыю, гэтыя лісты, паштоўкі, тэлеграмы. Часам яны коратка падпісаныя: толькі подпіс, адно-два словы ці адзін-два стандартныя, выпрабаваныя на іншых вязнях, адпрацаваныя за дзесяцігоддзі,

сказы. Часам яны больш разгорнутыя, больш дэталізаваныя і экспрэсіўныя, напісаныя дзецьмі, падлеткамі, моладдзю, людзьмі сярэдняга веку і сталымі людзьмі. Яны прыходзяць з розных краінаў і кантынентаў, і кожны з іх мае сваю асобную неперадавальную энергетыку.

Мяне ўражвае, што кожны з гэтых пераважна незнаёмых людзей у розных абставінах знаходзіў хвіліну часу, і ці спыняўся, ідучы каля пікету, і ставіў подпіс, падпісваў стандартны сказ, ці дома пісаў ад рукі або набіраў на кампутары грунтоўны ліст, ці ў кампаніі, у класе ці ў групе маляваў нешта ці выразаў і клеіў аплікацыю альбо выцінанку, ці падпісваў бясплатную паштоўку, выцягнутую з кішэнькі для посткросінгу ў бары.

Яны, усе гэтыя лісты і паштоўкі, вельмі дарагія мне. І ад вядомых людзей – пісьменнікаў, палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, і ад сяброў і знаёмых, і ад зусім невядомых школьнікаў і пенсіянераў, шматдзетных маці, вернікаў і студэнтаў. Гэтыя часцінкі людскіх душаў складаюцца ў адну вялікую, яркую і стракатую мазаіку.

Калі-небудзь я зраблю выставу з гэтых лістоў і паштовак. Як прыклад салідарнасці. Будуць там вясёлыя дзіцячыя малюнкі са снегам і канадскімі хвоямі, з італьянскім сонцам і морам, змагарныя малюнкі з Польшчы з мурамі, якія разлятаюцца ад выбуху ўшчэнт. Будуць рупна выштукаваныя аплікацыі з каляровай паперы, з наклеенымі шматкамі скуры, бліскучымі стразамі і пасыпаныя шкляной пудрай. Будуць адмыслова надрукаваныя ў Галандыі і Бельгіі, Аўстрыі і Нямеччыне паштоўкі. Будуць самаробныя пісулькі, зробленыя з фотаздымкаў, і шыкоўныя крамныя паштоўкі, выдрукаваныя на крэйдавым рэльефным кардоне.

Я заўсёды ўважліва разглядаю выявы на паштоўках. Яны надзвычай разнастайныя. Найбольш выяваў з жывёламі і птушкамі, кветкамі і краявідамі, жывапісам і гарадскімі відарысамі.

Паштоўкі ідуць з усяго свету, з Амерыкі і Канады, з Аўстраліі і розных куткоў Еўропы. Мне шчыра хацелася б адказаць на кожную з іх, з удзячнасцю вярнуць хоць крыху той станоўчай энергіі, якая ахутвае мяне з ног да галавы. Але гэта немагчыма: розныя мовы, неверагодная колькасць лістоў, абмежаваны час. У нас няма ўзаемнага кантакту. І хоць абсалютная большасць з тых, хто піша, не чакае адказу, але немагчымасць адказаць пакрыёма турбуе мяне. Я, як той акумулятар, чорная скрыня з уваходнымі клемамі, накопліваю станоўчыя флюіды. Ці хопіць ёмістасці, памяці і глыбіні, каб захаваць усю гэтую пазітыўную энергію людзей?

Я задумваюся, наколькі варты такой масавай падтрымкі. Звычайны чалавек, у якога хапае сваіх слабасцяў і недахопаў, які наўрад ці хоча быць для каго-небудзь прыкладам у жыцці. Ці, можа, я сапраўды чагосьці не разумею і недаацэньваю ўсёй шматзначнасці і глыбіні абставінаў, у якіх апынуўся?

У свеце існуе безліч іншых розных праблемаў: вайна, уціск, гвалт, жорсткасць і нянавісць. Ёсць цэлыя краіны і рэгіёны, дзе чалавечае жыццё роўнае кошту патрона ад аўтамата Калашнікава. Штосьці ўсё ж з'яўляецца прычынай і нагодай, каб маральна падтрымаць, няхай сабе такім бяскрыўдным спосабам, паштоўкай ці лістом, і мяне. Можа, такім чынам выяўляе сябе сусветная салідарнасць? Можа, праз гэтыя лісты падтрымкі высвечваецца пратэст супраць агульнай несправядлівасці? Можа, з іх выпраменьваецца ірацыянальная спагада, разлітая ва ўсім свеце, да ўсіх пакрыўджаных і зняволеных?

Не так даўно я чытаў успаміны адной інтэлігентнай жанчыны, масквічкі, якая бачыла і запомніла, як пасля разгрому арміі Паўлюса пад Сталінградам палонных немцаў гналі доўгай калонай па цэнтральных вуліцах Масквы. Спагадлівыя жанчыны кідалі ў гэтую калону палоненых ворагаў хлеб.

Іншы пісьменнік згадваў, як іх, “ворагаў народу”, на сібірскіх станцыях падкормлівалі вакзальныя гандляркі. Яны падыходзілі да цягнікоў, каб павыгодней прадаць малако, сыр, булкі, каб карміць сваіх дзяцей, і аддавалі ўсё задарма вязням.

Пэўна, што я стаў аб’ектам, які дае магчымасць іншым людзям выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю, праявіць чалавечую спагаду і чалавекалюбства.

Аб’ектыўна кажучы, мабыць, нічога дзіўнага ў гэтым няма. Калі людзі гадуюць, берагуць і заступаюцца, больш за тое, часам рызыкуюць і ахвяруюць сабой дзеля жывёлаў, прыроды, навакольнага свету, дык чаму ж не рабіць тое самае, яшчэ і з большым імпэтам, у стасунках да сябе падобных? Крыху незвычайнасці дадае хіба тое, што ахвяраю стаўся праваабаронца, той, хто сам імкнуўся дапамагаць іншым людзям.

У пэўным сэнсе, часткова, праваабаронца можна параўнаць з доктарам. Толькі лякуе ён не фізічныя раны і хваробы, а дапамагае ў тых праблемах, якія часта грамадства стварае само сабе.

Урэшце і з хваробамі часта атрымліваецца такая самая гісторыя. Спачатку будуецца хімічны завод, бо патрэбныя месцы працы і прымальны ўзровень жыцця, а потым лякуецца рак, які накідваецца на чалавека з-за хіміі ў паветры, глебе...

Жыццё людзей пабудаванае з супярэчнасцяў, якія даводзіцца пераадольваць увесь час. Няма ў гэтым свеце спакою. Праваабаронцы змагаюцца, рупяцца, ваююць за лепшае жыццё для грамадства, часта для нейкага канкрэтнага чалавека, што трапляе ў бяду. Бывае, што яны, як у вулічнай бойцы, кідаюцца разняць і прымірыць варагуючыя бакі, і атрымліваюць каменем у галаву. Часта праваабаронцы імкнуцца заступіцца за слабейшага, абараніць ад моцных гэтага свету, і зноў ім дастаецца, бо яны ўлазяць “туды, куды не трэба”. Людзі зазвычай падтрымліваюць праваабаронцаў, спадзяюцца на іх, і мы мусім быць не горшымі, чым пра нас думаюць.

І ўсё ж мне здаецца, што нябачная сувязь паміж мной і тымі, хто піша мне, не спадзеючыся на адказ, існуе.

У гэтых лістах і паштоўках ахвяра, якой я сябе не адчуваю, часта пераўтвараецца ў героя, якім я не з’яўляюся, але якога хацелі б бачыць ува мне. Ахвяра і герой у адной асобе насамрэч не з’яўляюцца ні ахвярай, ні героем.

Мне здаецца, што напісаўшы некалькі слоў у падтрымку, разам з апусканнем ліста ў паштовую скрыню, тыя, хто мяне падтрымлівае, у гэтае ж імгненне атрымліваюць і нябачны адказ. Гэта лёгка ўявіць: як у электроннай пошце – паслаў паведамленне і адразу ж атрымаў сімвал: дайшло. І ты адразу супакойваешся.

Незнаёмыя і нябачныя сябры і прыяцелі падтрымліваюць мяне і самі напэўна атрымліваюць наўзамен пачуццё задавальнення. Вось жа, чалавек, нягледзячы на мітуслівасць жыцця, безліч уласных праблемаў, знайшоў час і напісаў сваёй рукой ліст, ці, сама меней, надпісаў адрас і паставіў подпіс у падтрымку “ахвяры” ці “героя”. Напісаў некаму, хто церпіць, уяўнаму ідэалу, герою, які здаецца ў нечым лепшым, дасканалейшым і больш незвычайным за астатніх. Які, бы ў тых мульціках ці амерыканскіх коміксах, дзе герой трапляе часам у складаную, а то і безнадзейную сітуацыю, заўсёды знаходзіць з яе выйсце. Яму не страшныя змрочныя муры цямніцы, ён разрывае жалезныя путы, вырываецца на волю, і ўрэшце дабро перамагае зло. І не так істотна, ці з’ўляецца гэты ўяўны герой-ахвяра сапраўдным героем.

*05 красавіка 2014*
*Бабруйск, калонія №2*

Назаўжды я запомніў цяжкае хрыплае дыханне былога вязня і дысідэнта, прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гаўла. Пісьменнік і драматург, тусовачнік-нефармал у гады маладосці, чалавек, які розумам і словам намагаўся зламаць бетон камуністычнай дыктатуры, які ўпарта трымаўся сваіх перакананняў, за што і адсядзеў амаль пяць гадоў, і якога лёс з смярдзючай турэмнай "хаты" перасадзіў у крэсла прэзідэнта. Чалавек-легенда, у маіх вачах, несумненна, чалавек-герой, сядзеў насупраць мяне за маленькім столікам, з разуменнем слухаў мой сумны аповед пра Беларусь, а ягоная заўсёды запаленая трахея, з шумам, з сіпам, як кавальскія мяхі ў вясковай кузні, з цяжкасцю ганяла туды-сюды паветра.

"Святых заўсёды трэба лічыць вінаватымі, пакуль недаказаная іхняя невінаватасць" – пісаў Джордж Оруэл пра Гандзі. Ён крыху недалюбліваў Гандзі і як брытанец, і як марксіст. Ён пярэчыў абагаўленню Гандзі, кажучы, што масавы мірны супраціў, гэтак званая "цвёрдасць у праўдзе", якую прапаведваў Гандзі ў змаганні з англійскім каланіялізмам, была выніковай толькі ў той сістэме законнасці і правапарадку, свабоды прэсы, якой прытрымліваліся ангельцы ў Індыі. І што гэтая філасофія нягвалту бессэнсоўная і пагібельная пры такіх таталітарных рэжымах, як фашызм і сталінізм. Таксама неразуменне ў аўтара знакамітага раману "1984" выклікалі і такія "дзівацтвы" Гандзі, як вегетарыянства, адмова ад сэксуальнага жыцця і ад блізкага сяброўства дзеля агульнай любові да людзей.

Але, калі Гандзі не стала, Джордж Оруэл усклікнуў: "які чысты пах пакінуў ён пасля сябе!"

Гэтая гісторыя падаецца мне важнай і павучальнай: няма людзей без хібаў, а нашыя пачуцці і ўяўленні часта падманваюць нас. Гэта як поўня, што ў небе выглядае большай за сонца. Мы памыляемся, мы расчароўваемся, мы губляем веру і надзею і ўсё роўна шукаем, ствараем і знаходзім новых герояў, новых "рыцараў без заганы", якім хочацца давяраць і верыць. Для кожнага чалавека важна мець жыццёвыя, духоўныя, маральныя прыклады і ўзоры. Тады ён адчувае сябе больш упэўнена, трывалей стаіць на зямлі, дакладней уяўляе, куды яму далей ісці.

Бацька маёй жонкі, мой цесць Сяргей Міхайлавіч Пінчук, пражыў 94 гады. Ёсць здымак, дзе ён, забраны ў войска яшчэ да вайны, сядзіць у будзёнаўцы, гэтым дзіўным вастраверхім шаломе чырвонаармейцаў. Усю вайну ён праваяваў на фронце, не аднойчы быў паранены і ўзнагароджаны. Ён распавядаў, як аднаго разу ў Польшчы, пасля пераправы праз Віслу яму з атрадам байцоў загадалі абысці вёску, дзе заселі немцы, і падчас агульнай атакі ўдарыць у фланг абароны. Яны пайшлі і заблукалі, згубілі патрэбны накірунак. Яны не маглі выканаць загаду, бо ісці ўначы наўздагад азначала натыкнуцца на верную смерць. Яны затаіліся там, дзе заспела іх разгубленасць.

"Я вельмі баяўся", – распавядаў ён, бо невыкананне загаду ў вайну лічылася злачынствам і каралася пазбаўленнем звання і штрафным батальёнам ці расстрэлам. "Гэта была адна з самых безнадзейных і самотных начэй у маім жыцці", – казаў ён.

"Але нам пашанцавала, – працягваў, – зранку, калі пачалася атака і завязаўся бой, аказалася, што мы знаходзімся амаль там, дзе і мусілі быць. Мы ўдала ўступілі ў бой, і немцы адступілі, пакінулі вёску. Я нікому не распавёў пра нашае блуканне і пра мае начныя страхі".

На падбароддзі ў цесця быў заўважны, невялікі, тонкі, крыж-накрыж, шнар. У рукапашным баі пад Берлінам куля на злёце рассекла ніжнюю губу, патрапіла яму ў рот і выбіла некалькі зубоў. Цесць выплюнуў яе разам з зубамі на

зямлю. І за бой на Вісле, і за бой каля Берліну ён быў узнагароджаны ордэнамі за мужнасць і гераізм.

Ён перажыў пасляваенную сталіншчыну, але цяга да справядлівасці не спрыяла ягонай кар'еры і прывяла ўрэшце ў шэрагі апазіцыйнай партыі. А вось іншы франтавік капітан-артылерыст Аляксандр Салжаніцын за сумненні ў геніі стратэга Сталіна, выказаныя ў лістах да сябра, проста з фронту паехаў у ГУЛаг.

У рамане “У коле першым”, асэнсоўваючы свой турэмны досвед, Аляксандр Салжаніцын напіша: “У апісанні турмы заўсёды імкнуліся згушчаць жахі. А ці не жахлівей, калі жаху няма? Калі жах – у шэранькай метадычнасці тыдняў? У тым, што забываешся: адзінае жыццё, дадзенае табе на зямлі, зламанае”.

Чалавеку лягчэй аднойчы, у адну хвіліну, пайсці на адважны ўчынак, гледзячы смерці ў вочы, чым вытрымліваць год за годам маральны, псіхалагічны ціск, гэтую “шэранькую метадычнасць тыдняў”.

У агульнай, працяглай дэпрэсіўнай сітуацыі, у якой дзесяцігоддзямі боўтаецца наш свет, напэўна важна мець такія прыклады чалавечай годнасці, як Махатма Гандзі, як Аляксандр Салжаніцын і Вацлаў Гавэл. Іхні магутны імпульс ды заклік да справядлівасці, да “цвёрдасці ў праўдзе”, да імкнення “жыць не па ілжы” захапляе і вядзе за сабой.

Турэмная ізаляванасць абвастрае пачуцці. Здзіраецца скарынка раўнадушша і абыякавасці, якая міжволі ўтвараецца ад штодзённай мітусні на волі. Я перачытваю раман Льва Талстога “Вайна і мір”. Калі ў рамане апісваецца маладзенькая Наташа Растова, яе рухі, думкі, пачуцці, у мяне міжволі пачынаюць ліцца слёзы. Я плачу над раманам, як бабруйскі бабёр, не ведаючы, што ў гэты момант думаюць мае зэкі-суседзі па секцыі.

Гэтаксама больш выразна і эмацыйна я ўспрымаю лісты і паштоўкі, якія прыходзяць да мяне. Сярод масы пажаданняў, добрых словаў, станоўчых пачуццяў ёсць такія, якія запомняцца назаўжды. Такім быў ліст ад Вацлава Гавэла, які ён напісаў за некалькі дзён да таго, як адышоў у іншы свет. Моцна хворы, ён усё ж знайшоў у сабе сілы і жаданне падтрымаць беларусаў у бядзе.

Такім быў і ліст ад беларускага дысідэнта савецкіх часоў Міхася Кукабакі, які прасядзеў у турме і псіхушцы, цяжка сабе ўявіць, 17 гадоў. Я не ведаю, хоць і чытаў ягоныя тэксты з успамінамі, дзе ён браў сілы і натхненне цвёрда стаяць на сваім, не паддавацца, не апусціць рукі. Дзядзька Міхась выйшаў з турмы апошнім з палітзняволеных у СССР, так і не склаўшы просьбы аб памілаванні.

Яшчэ адзін памятны ліст быў ад Набіла, праваабаронцы з Бахрэйну, які перапісала ў сваім лісце да мяне мая каляжанка. Мы неаднойчы спатыкаліся з Набілам у бюро Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека ў Парыжы, размаўлялі, дыскутавалі, слухалі адзін аднаго. Ён добра размаўляў па-англійску, заўсёды быў акуратна і з густам апрануты, здаваўся вельмі сур'ёзным і стрыманым. Затым першым асудзілі мяне, а неўзабаве і яго. Ніякі Парыж, ніякія круглыя сталы і французскія багеты не маглі так зблізіць нас, як беларуская і бахрэйнская турма. Набіл напісаў, што рвецца са зняволення дапамагаць іншым вязням, у тым ліку і мне. Я разумею, што гэта немагчыма, але мне ўсё роўна цёпла на душы.

Побыт у турме аднаўляе бачанне таго, чым займаўся на волі. Часткай душы называў працэс самааналізу Леў Талстой. А яшчэ з'яўляецца вопыт і разуменне таго, што немагчыма ўсвядоміць стан зняволенага, не пабыўшы ім.

Адзін з беларускіх грамадзянскіх лідараў, пасля таго, як у 2011-м годзе вый-

шаў з "Амерыканкі", дзе яго пратрымалі чатыры месяцы ды так і не прад'явілі абвінавачвання, неяк сказаў, што добра было б, каб турэмнай баланды паспыталі і беларускія праваабаронцы. Маўляў, тады яны будуць лепей разумець – чым і як насамрэч трэба ім займацца. Я было пакрыўдзіўся на яго, бо мы дужа багата рабілі тады, каб арганізаваць як мага больш шырокую і выніковую кампанію дапамогі палітычным зняволеным. А цяпер я ў нечым згодны з ім. Прынамсі, мая ўнутраная матывацыя займацца абаронаю правоў атрымала новы штуршок.

Турма вучыць больш уважліва ставіцца да самога сябе, да сваіх родных, знаёмых і сяброў. Я шкадую, што ў сваім ранейшым жыцці мала часу аддаваў звычайным і простым чалавечым стасункам, размовам з блізкімі людзьмі. Адзін з былых нашых палітычных вязняў, пасля ўсіх сваіх прыгодаў, як ён гаворыць, пачаў хадзіць з жонкай у тэатр. Вось і я так хачу. Адзінае, што мяне бянтэжыць у маіх марах, дык гэта – дзе ўзяць той "вольны час".

Добра было б так збудаваць сваё жыццё, думаю я, каб на ўсё ставала часу. Але як гэтага дасягнуць? Мы захапляемся, хапаемся за адное і непазбежна забываемся на іншае. Адна мая сяброўка, нарвежка, юрыстка, адданая праваабароне, а да ўсяго маці трох дзяцей, распавядала, што яна, бывае, разрываецца паміж сям'ёй, дзецьмі і неадкладнай працай. Важнымі справамі, якія нельга кінуць-пакінуць нязробленымі, бо ад іх часта залежаць лёсы людзей у іншых краінах, дзе не ўсё так з правамі чалавека, як у яе Нарвегіі. І вось, распавядала яна, даходзіла да таго, што яна сядзела апоўначы за кампутарам у роспачы і плакала, бо нічога не паспявала. Калі ўжо педантычныя нарвежцы не паспяваюць усяго зрабіць, супакойваю я сябе, дык чаго ўжо мне, беларусу, перажываць.

І яшчэ адзін кароткі допіс ад азербайджанскага праваабаронцы не выходзіць у мяне з галавы. Летась ён напісаў: "Трымайся, Алесь! Я прасядзеў у турме чатыры гады, і ты прасядзіш!" Мне было адначасова і смешна, і сумна. Сумна, бо чатыры ягоныя гады ў турме – гэта не чатыры дні. А смешна, бо я не верыў, што мне прыйдзецца адсядзець усе свае чатыры з паловай гады. Унутрана я не пагаджаўся з гэтым. Але цяпер, праз два з паловай гады зняволення, я ў думках адказваю яму: сапраўды, калі ты прасядзеў адмераныя табе гады, дык і я нікуды не падзенуся, прасяджу.

*07 красавіка 2014*
*Бабруйск*

З чым я ніколі не пагаджуся дык гэта са зняволеннем жанчын. Некалі Антон Чэхаў марыў, што прыйдзе такі час на зямлі, калі знікнуць турмы. Мінула ўжо больш за стагоддзе, а я працягваю за ім следам марыць, што наступіць гадзіна, калі хаця б не будуць знявольваць жанчын. Асабліва несправядлівым гэта бачыцца, калі жанчын пераследуюць за грамадскую дзейнасць, за ўдзел у мірных акцыях нязгоды, за праваабарончую працу.

Згадваю, як на Кубе, куды ездзілі, каб падтрымаць грамадскіх актывістаў, мы сустракаліся з маладой дзяўчынай з упартым бляскам у вачах. Яна распавяла, як яе бацьку пасадзілі ў турму за іншадумства, а яна з маці наладзілі акцыю пратэсту. Яны жылі ў правінцыі, у некалькіх сотнях кіламетраў ад Гаваны. Начапіўшы на шыі самаробныя плакаты, яны ўдзвюх пайшлі "маршам пратэсту" са свайго гарадка ў Гавану. Іх не арыштавалі адразу, дазволілі ісці. Усю дарогу іх "цёпла" сустракалі падрыхтаваныя праўладныя актывісты. Маці і дачку зневажалі, жанчыны штурхалі іх, абплёўвалі, закідвалі гнілой садавінай, драпалі. Некалькі

разоў на іх нападалі апранутыя ў цывільнае хлопцы і збівалі іх. Маці разбілі галаву. Іхні марш адчаю ў падтрымку роднага чалавека змяніўся на сапраўднае пекла, на крыжовую праваабарончую дарогу. Але яны не здаваліся і ўпарта ішлі ў Гавану, пакуль ва ўладаў не здалі нервы. Урэшце іх затрымалі, парвалі плакаты, завезлі дадому і пасадзілі пад хатні арышт.

Амаль у той самы час, як я апынуўся ў турме, ва Украіне была зняволеная і неўтаймоўная Юля. Я па-чалавечы спачуваў ёй. Бо тое, што церпяць зняволеныя мужчыны, часта звязана з вызначаным жыццёвым выбарам. І ў гэтым ёсць нейкая суровая логіка. Але саджаць кабету ў турму, якая б у іх там ні была ўзаемная нянавісць, не, трэба быць вялікім нягоднікам.

Чытаю, як у Егіпце паліцыянты разганяюць жаночую дэманстрацыю ў падтрымку скінутага прэзідэнта Мурсі. "Абаронцы народу" збіваюць жанчын прыкладамі аўтаматаў. Прыклады ў "калашнікавых", аблямаваныя жалезам, памятаю са службы ў войску. Паліцыянты не шкадуючы лупяць жанчын, з размаху, толькі трашчаць зламаныя косткі. Затым дэманстрантак судзяць і даюць неверагодна вялікія тэрміны зняволення.

Я часта згадваю яшчэ адную жанчыну, адвакатку з Ірану Насрын Сатудэх. Яна бараніла правы непаўнагадовых зняволеных, асуджаных на смяротнае пакаранне. Таксама Насрын абараняла ў судзе некалькі іранскіх вязняў, арыштаваных за ўдзел у мірных дэманстрацыях. Так у вачах іранскіх уладаў яна пераўтварылася ў непакорлівую і небяспечную праваабаронку.

Напачатку яе папярэдзілі: правялі вобшукі ў доме і на працы, арыштавалі рахунак. Яна не супынілася, надрукавала артыкул і абвінаваціла ўлады ў падтасоўцы абвінавачанняў іранскіх праваабаронцаў у падаткавых парушэннях. Насрын адкрыта пагражалі арыштам. Яна працягвала публічна пратэставаць супраць пакаранняў непаўнагадовых. Урэшце яе арыштавалі і абвінавацілі ў "прапагандзе супраць дзяржавы" і ў "змове і сходах з мэтай здзяйснення дзеянняў супраць нацыянальнай бяспекі". Рэвалюцыйны суд асудзіў Насрын Сатудэх на шэсць гадоў зняволення, якія яна адбывае ў турэмнай адзіночцы.

Галандскае аддзяленне "Эмнесці" арганізавала ў канцы 2012-га году лістоўную кампанію ў падтрымку некалькіх вязняў сумлення і ўключыла ў гэты шэраг Насрын Сатудэх і мяне. Шараговыя актывісты дасылалі лісты ва ўправу "Эмнесці" ў Амстэрдам. Там іх збіралі, раздрукоўвалі, калі гэта былі электронныя лісты, разбіралі каму які і адсылалі адрасатам. Я атрымаў тысячы "сваіх" лістоў і паштовак з Галандыі. Сярод іх мне трапляліся адасланыя па недаглядзе і лісты да Насрын. Мне падавалася, што нябачная сувязь праз Амстэрдам звязвала мяне з Насрын. Яна не ведала пра гэта, а ў маіх ведах была бязмерная спагада. Маленькая адважная жанчына.

Для мяне заўсёды было загадкай, чаму людзі так лёгка ломяць лёсы і жыцці іншых. Адкуль гэтая жорсткая ўпэўненасць у сваёй рацыі. З гісторыі ўсяго людства? З ягоных горшых цёмных старонак і бакоў? З прагі да помсты? Ці магчыма змяніць людскую натуру да лепшага? Я веру, што – так, магчыма.

Багата з тых, хто хацеў змяніць жыццё людзей да лепшага, чамусьці самі апынаper ў турме. І таксама часта траплялі ў няволю тыя, хто больш за ўсё на свеце цаніў свабоду. Гэта здаралася праз духоўныя пошукі, сумненні і дзеі. Бясконцыя шэрагі гэтых людзей. Часам здаецца, што турма найперш і стваралася для іншадумцаў. Рознае стаўленне гэтых людзей да турмы. Так, пісьменнік-вязень Аляксандр Салжаніцын лічыў турму выпрабаваннем, якое можа загартаваць і адшліфаваць

характар і душу чалавека. “Турма, гэта не толькі праклянцце, а і дабраславенне” – гэтак казаў адзін з герояў ягонага рамана “У коле першым”.

Другі пісьменнік-вязень Варлам Шаламаў быў перакананы, што турма – гэта гіблае месца, дзе міжволі запэцкваецца і апаганьваецца чалавечая душа, робіцца горшым любы чалавек.

Нэльсан Мандэла, які адсядзеў у турме 27 гадоў, казаў, што ён удзячны лёсу за гэты час, калі мог пабыць сам-насам з сабой і спакойна падумаць.

Я не бачу супярэчнасці ў гэтых выказваннях і жыццёвых пазіцыях вядомых вязняў. Проста яны сядзелі ў розны час і ў розных умовах. Магаданскія лагеры, у якіх з голаду паміраў Варлам Шаламаў і дзе блатныя маглі лёгка зарэзаць “контрыка” ці “мужыка” за пройгрыш у карты ці за шалік, не былі і блізка падобныя да падмаскоўнай пасляваеннай “шарашкі”, у якой трымалі тэхнічную інтэлігенцыю і дзе адбываў першую палову свайго тэрміну Аляксандр Салжаніцын. Там на стале падчас абеду ненармавана ляжаў хлеб! Еш – колькі з’ясі.

І турма Нэльсана Мандэлы была зусім іншай. У ёй не паміралі ад пелагры і дыстрафіі і дажывалі да старасці.

А вось у сталінскіх лагерах, як успамінае вязень і пісьменніца, аўтарка рамана “Круты маршрут”, Яўгенія Гінзбург, старых не было. Яны не вытрымлівалі і паміралі.

Урэшце за 27 гадоў зняволення Нэльсан Мандэла з лідэра ўзброенай барацьбы супраць каланіялізму ператварыўся ў прапаведніка негвалтоўнага супраціву за раўнапраўе. Стаўшы прэзідэнтам, ён не паддаўся празе помсты і цвёрда трымаўся сваіх поглядаў.

Да ўсіх адрозненняў у турмах трэба дадаць яшчэ і асаблівасці характараў зняволеных. Няма чалавека, падобнага да іншага, і гэтак жа ж па-рознаму людзі ўспрымаюць і ацэньваюць турму. Лёсы вязняў, іхнія ўражанні не падобныя адзін да аднаго. Колькі людзей – столькі і гісторыяў, столькі і ацэнак турмы. Вось для паэта Уладзіміра Някляева ягоная турма – навязлівая каханка, ад якой няма куды падзецца. Асэнсаванне прыходзіць толькі пасля пройдзенага шляху.

*[Магчыма 05 сакавіка, 2014]*
*Бабруйск*

Вяртаючыся да лістоў. Моц лістоў да зняволеных – у іхняй ідавочнасці і адчувальнасці. Гэтыя знакі ўвагі з волі можна ўзяць, патрымаць, памацаць, разглядзець і пачытаць не адзін раз. Лісты да вязня – магутная псіхалагічная падтрымка.

Усе лісты і паштоўкі, якія прыходзяць да мяне, я чытаю, затым дзялю на тыя, на якія трэба адказаць і на якія адпісаць я не даю рады. Калі іх назбірваецца дастаткова, я пакую іх у вялікія пластыкавыя канверты і адсылаю дадому. Жонка піша, што імі закладзена паўпакоя. Няхай, супакоена думаю я, гэта найдаражэйшая частка майго архіву.

Разнастайнасць лістоў і паштовак, якія прыходзяць да мяне, не перастае здзіўляць. Яны напісаныя кірыліцай і лацінкай, іерогліфамі ды яўрэйскімі літарамі-крэскамі. Прыходзяць лісты з пяшчотным і дзіўнаватым тут, у турме, пахам духоў. Ад знаёмай прыйшоў ліст з бруднымі плямкамі ад лапак цікаўнага ката, які паспеў пахадзіць па ім. Другая ж знаёмая даслала ліст, упрыгожаны малякамі яе ўвішнай дачкі. Пакуль маці адыходзіла на хвілінку ад стала, двухгадовая дзяўчынка хуценька замалявала ліст. Іншая мая знаёмая даслала з Лісабону гнуткую паштоўку, зробленую з коркавага дрэва.

Часта лісты і паштоўкі ўпрыгожваюць рознымі каляровымі налепкамі і смайлікамі. Наборы такіх рэльефных гумовых, цэлулоідных і пластыкавых налепак даслалі мне. Я з задавальненнем клею іх на свае лісты. Ёсць у гэтым нешта бесклапотна-дзіцячае, нечаканае, што прымушае ўсміхацца.

У перадкалядных лістах прыходзяць каляндарыкі на наступны год. Я звычайна раздаю іх, пакідаючы сабе адзін ці два. На тумбачцы ў казарме ў мяне стаіць перакідны трохкутны, хаткаю, каляндар. Летась, у 2013-м годзе, гэта быў каляндар “Вясны” з узорамі выцінанак і рознымі варыянтамі “далонькі”, новага сусветнага сімвалу праваабаронцаў. Сёлета стаіць “залаты” каляндар Дзяніса Раманюка. Асноўнае тло яго ў залатой фарбе, справа чорна-чырвоныя даты, а злева – руды кот сядзіць на драўлянай сіняй прызбе вясковай хаты, сакавіцкі здымак Дзяніса. Сакавік на двары, сакавік на календары, сакавік і ў мяне ў душы.

На Каляды прыходзяць лісты ад знаёмых каталікоў з аплаткамі. У каталіцкай традыцыі дзяліцца на Божае нараджэнне аплаткай – прасфіркай, тоненькай лустачкай прэснага спечанага цеста, звычайна з выціснутым на ёй рэлігійным сюжэтам. Я ламаю хрусткую аплатку і ў думках дзялюся ёй з роднымі і знаёмымі. Гэтае містычнае ламанне і ўяўнае дзяленне мацнейшае, чым калі б гэта адбывалася б у рэчаіснасці. Нішто не затлумляе ўнутраны спакой, і ўдаецца аддаць і атрымаць наўзаем залатую аблачынку духоўнай энергіі, срэбную крошку душы.

Часам тыя, хто мяне падтрымлівае, просяць адказаць на іхнія лісты. Я абмяжоўваюся і адказваю толькі родным, каб канчаткова не патануць у перапісцы. Родных я люблю і шкадую і адпісваю хоць бы таму, што іхняе становішча не набагата лепшае за маё.

Часта мне пішуць людзі з “групы рызыкі”, якія самі цярпелі за грамадскую дзейнасць. Мы ў думках падтрымліваем адзін аднаго і паціху рухаемся наперад па жыцці. У гэтых лістах не чутно матываў жалю, спачування і спагады. Там ёсць разуменне. Мы, як вопытныя байцы, дзе паўзком, дзе перабежкамі, перасоўваемся на паклычанай перадавой лініі жыцця. Мы адступаем, упарта чапляючыся за апошні лапік нашай духоўнасці, паглыбей закопваемся ў абароне, часам контратакуем, часам нас бяруць у палон, але мы не здаемся. Ноты ціхага рашучага супраціву, беларускай някідкай упартасці гучаць у нашых душах.

Са здымкаў, якія даслалі мне, згадаю толькі два. Першы здымак – гэта фота Рыгора Барадуліна з ягоным подпісам. Кароткі аўтограф-пажаданне, подпіс – і ўсё. Гэты здымак гады паўтары таму даслаў мне Глеб Лабадзенка. Некалькі дзён таму вялікі беларускі паэт Рыгор Барадулін памёр, учора было развітанне з ім. Перакладаць паэзію на іншыя мовы амаль немагчыма, таму паэты застаюцца зазвычай дыямантамі ў сваіх нацыянальных культурах. Пераклады вершаў, як чучалы звяроў – падобныя, але не жывыя. Таму каштоўнасць таленту дзядзькі Рыгора – чыста беларуская, і яна – для беларусаў. У гэтым і ягоная драма, якая разам са знікненнем беларускай мовы паволі перацякае ў трагедыю.

А другі здымак – з кошкай Касяй, якая жыла ў нас у хаце ў Ракаве. Яна асірацела пасля майго арышту, і яе пагадзіліся ўзяць суседзі. На здымку Кася сядзіць на руках у суседскай дзяўчынкі і паглядае сваімі вузкімі бурштынавымі азіяцкімі вачыма проста мне ў душу. Я ведаю, як яна не любіць, калі яе трымаюць, лапы ў яе тырчаць у розныя бакі, яна напружаная, але трывае. Гаспадар у турме, і выбіраць не даводзіцца.

Прыходзілі мне ў канвертах замест лістоў кнігі з аўтографамі аўтараў і подпісамі. Прыгадаю з іх толькі дзве. Гэта кніжка вершаў і паэма выдатнага беларускага паэта Уладзіміра Някляева. Яна была напісаная ў зняволенні і моцна ўразіла мяне высокім узроўнем паэтычнага майстэрства і тым, што яна пахне, а дакладней, смярдзіць невытраўляльным духам турмы. Яна ўся, як адзіны вершаваны ліст.

Другая кніга прыйшла з далёкага Квэбэку, франкамоўнай правінцыі Канады. Даслаў яе паэт Норман дэ Бэльфлёй. Дзе тая Канада, а дзе Беларусь! Норман падпісаў яе: "Алесю, сябру невядомаму, далёкаму і ўсё ж такому блізкаму", ад "сябра невядомага і ўсё ж зусім блізкага". Ён дакладна ўлавіў і перадаў нябачную сувязь салідарнасці, якая ўзнікае ў мяне пры чытанні кожнай паштоўкі і ліста.

Ёсць яшчэ адная паштоўка, якую я не магу не згадаць. Яна ад украінскага пісьменніка Аляксандра Ірванца. Ён даслаў яе з кіеўскага Майдану. Ужо загінуў на Майдане беларус Міхась Жызнеўскі, але яшчэ там не пралілася вялікая кроў. Аляксандр Ірванец напісаў выдатны раман-прадбачанне "Рівне/Ровно", дзе апісаў падзел Украіны ды існаванне дзвюх украінскіх дзяржаваў. Адной – постсавецкай, таталітарнай, зрусіфікаванай, другой жа – дэмакратычнай, еўрапейскай і ўкраінамоўнай. Гэты раман на беларускую мову пераклаў наш выдатны пісьменнік Уладзімір Арлоў, і я чытаў яго яшчэ на волі. Утопія Аляксандра Ірванца зараз амаль адбылася. Украіна балансуе на краі падзелу.

Я трымаў гэтую паштоўку з Майдану і літаральна адчуваў, як яна праменіць хваляй высакароднай салідарнасці. Як гэта няпроста, у крытычную хвіліну, калі вызначаецца лёс тваёй дзяржавы і твайго народу, не забывацца на іншых, памятаць, што дзесьці ў свеце, бліжэй ці далей, ёсць людзі, якім не зашкодзіць твая ўвага і падтрымка.

Прыгожыя, стракатыя і разнастайныя познамкі – маркі на канвертах і паштоўках, якія прыходзяць да мяне з усяго свету. Некаторыя зняволеныя ў зоне збіраюць познамкі. Да мяне ўжо не раз падыходзілі і цікавіліся. Я ветліва адмаўляю, тлумачу, што адсылаю канверты і паштоўкі дадому і не хачу іх псаваць.

З незлічонага рою матылькоў-познамак найболей мне падабаецца шведская серыя з вязаным адзеннем, упрыгожаным геаметрычным арнаментам. Арнамент падобны да нашага, беларускага: вастраканцовыя квадратныя зоркі, крыжы, ромбы і павукі на швэдрах, шапачках і шкарпэтках. Цёплыя вязаныя шкарпэткі з калляднымі вастракутнымі крыжамі-зоркамі на шведскіх познамках – мой любімы малюнак.

Лісты да зняволенага – гэта як масток і ніткі сувязі з светам. Праўда, часам яна працуе як у той гісторыі пра Юрася Зарэцкага, якую я нядаўна пачуў. Жыў некалі адзін такі недарэка ў вёсцы пад Чачэрскам. Працаваў Юрка месяц, забіраў заробак у калгаснай касе і ішоў басанож у Чачэрск, боты купляць. Доўга выбіраў, новыя, спраўныя, каб усё было на месцы, і набойкі, і роўнае шво. Купляў Юрка боты, а потым закідаў іх высока на тэлефонныя драты і клыпаў назад дадому босымі нагамі. "Юрась! – пытаюцца цікаўныя хлопцы, – а дзе твае новыя боты?" "Па дратах перададуць", – адказвае бесклапотны і задаволены Юрка.

Ці дакладна я разумею і адчуваю тое, што мне дасылаюць знаёмыя і незнаёмыя сябры? Я сумняваюся. Тым не менш усе гэтыя "боты па дратах" выклікаюць у мяне моцныя станоўчыя эмоцыі. Яны, як тыя падпоркі для дрэва, якое стаіць на вятры, як каўток вады для засмяглага. Яны ўмацоўваюць дух, яны адпрэчваюць роспач і паняверку, яны паляпшаюць настрой. Лісты – гэта духоўная ежа для зняволенага, гэта віртуальныя вітаміны, якія падсілкоўваюць думку і сэнс жыцця.

Вялікай ластаўчынай чарадой ляцяць да мяне лісты з усяго свету. Сонечнымі зайчыкамі блішчаць і зіхацяць яны. Паштоўкі з наклееным птушыным пер'ем, запэцканыя дзявочай памадай, стэрэаскапічныя і такія, што раскладаюцца ў аб'ёмны сюжэт. Часам я ўяўляю вялізнае дрэва, мусібыць гэта клён, спрэс абвешанае лістамі і паштоўкамі, дасланымі мне, якія трапечуць на вятры. Радаснае дрэва спадзеву і аптымізму.

Яшчэ мне паведамляюць, што частка лістоў і амаль сто тысячаў подпісаў людзей паляцелі ў іншы дом. Цікава, а як там ставяцца да іх: абыякава, з прыхаваным разуменнем ці варожасцю? Ці праглядае хто іх, дзе яны ўвогуле дзяюцца? Чорныя дзіркі космасу некаторых дамоў умеюць хаваць свае таямніцы. Яны багата чаго ўсмоктваюць, зацягваюць у сябе і нічога не аддаюць назад. У таямнічым маўчанні адчуваецца пагрозлівая небяспека ці разгубленасць.

Адкрытасць, шчырасць, дабрыня і спагада адных, і зашпіленасць, зласлівасць і недавер іншых. Паміж гэтымі двума полюсамі прабягаюць дугі разрадаў чалавечай энергіі, сыплюцца яркія іскры пачуццяў. Дзесьці там, у нейкай кропцы гэтай дугі, знаходжуся цяпер і я.



Іван Штэйнер



...маральнасці не можа быць у грамадстве, дзе кіруе голад...

# Цар бязлітасны

## *Канцэпт голаду ў беларускай і сусветнай літаратуры*

“Голад – гаспадар над усім”. Ёмкай афарыстычнай сентэнцыяй народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў адвяргае ці, у крайнім выпадку, удакладняе сусветны вопыт чалавецтва, увасоблены ў крылатым выслоўі Ф. Шылера “Каханне і голад валадараць светам”. Ва ўсялякім разе хоць ягоную (вопыту) складовую частку – беларускую. Праўда, задоўга да вялікага беларуса Даніэль Дэфо натхнёна сцвярджаў, што “*голад утаймоўвае нават каханне*”. Пра гэта згадваў і Аляксандр Дзюма-сын. Гераіня ягонай славутай драмы “Дама з камеліямі”, зведаўшы голад у дзяцінстве і юнацтве, нават у панскіх палацах не змагла назаўсёды пазбавіцца ягонага жаху і таму пераступіла праз вялікае каханне, бо так моцна баялася вярнуцца ў абдымкі страшэннага ворага. Гэта падазравалі ўжо старажытныя рымляне, якія дасціпна заўважалі: “*Без хлеба і віна стыне і Венера*”. Ды і самі плоцевыя жарсці для многіх уяўляюцца спецыфічным голадам, што дасканала ўвасоблена ў навеле Мапасана “Бадзяга”: “*Но он не слышал ее слов, он был*

*пьян, он обезумел, отдавшись во власть другого исступления, более гложущего, чем голод* (вылучана намі. – *І. Ш.*)*, воспламенившись алкоголем и непреодолимым неистовством мужчины, который месяц был лишен всего, который хмелен, молод, пылок и сжигаем всеми желаниями, заложенными природой в могучую плоть самцов"* (1, 48). Сам Хрыстос не змог пераадолець асноўных адамавых дамінантаў, закладзеных у першачалавека дзясніцаю Бога.

"Есть еще любовный голод", – усклікала М. Цвятаева. "И отсталых подгоняют вновь // Плетью боли Голод и Любовь", – падкрэслівае М. Гумілёў. Нават М. Горкі ў рамане пра рэвалюцыю і яе ролю ў развіцці грамадства "Жыццё Кліма Самгіна" сцвярджаў: "*Любовь и голод правят миром, и мы все вместе выполняем повеления этих двух основных сил"*. Таму яскравай ілюстрацыяй да выслоўя Ф. Шылера мог бы стаць фільм (ангельскі, праўда, але з французскім рэжысёрам) "Кухар, злодзей, ягоная жонка і ейны каханак", у якім грэхападзенне гераіні адбываецца галоўным чынам на кухні рэстарана яе мужа, і сексуальны акт смакуецца на фоне раблезіанскага ўвасаблення працэсу прыгатавання самай незвычайнай ежы. Мілосныя рухі і гукі надзвычай адпаведныя рухам і гукам кухараў і іх памагатых, што з амаль ідэнтычным натхненнем вядуць свой рэй да лагічнага завяршэння. Невыпадкова і заканамерна, па-мастацку апраўдана супастаўленне адпаведных фазаў кахання і распаду ежы: выкрытыя мілоснікі ўцякаюць голымі ў рэфрыжэратары з гнілымі прадуктамі, а ў фінале цела забітага каханка падаюць, нібы фаршыраванага быка ці барана на велізарным падносе абражанаму мужу, і прымушаюць апошняга пад пагрозай смерці пакаштаваць (у прамым сэнсе) плоць суперніка, з якім некалькі дзён таму натхнёна дзяліў цела жонкі. Згадаем рымскае права, дзе развод азначае адлучыць ад *"ложа і стала – a mensa et toro"*.

Прыклады з французскай традыцыі невыпадковыя, бо якраз культуры гэтай нацыі прыпісваюць выключна эратычны пачатак. Праўда, пра гэта гаворыцца і ў рускай літаратуры, згадаем гераіню твора Л. Андрэева, якая пасля мілосных гульняў глядзіць на свайго каханка як на пачвару-пітона: "*Утолил свой голод по самке и теперь холодно-равнодушный ко всему, что не сам"*.

Беларуская мастацкая літаратура не можа пахваліцца падобнымі ўзорамі-экзерсісамі. Той жа згаданы Васіль Быкаў сцвердзіць свой анталагічны пастулат ва ўласнай творчасці (загалоўны афарызм узяты з аповесці "Аблава"). Згадаем, што герой ягонай "Альпійскай балады" да сустрэчы з Джуліяй не зведаў нават звычайнага падлеткавага кахання: жыццё было значна складаней, чым забаўкі, ды і не было часу на несур'ёзныя справы. Бо калі ад голаду (падкрэслена намі – *І. Ш.*) памёр бацька Івана, яму прыйшлося карміць сям'ю. Хаця, аб'ектыўнасці дзеля, адзначым, што праз некалькі старонак пасля згадкі пра цяжкае дзяцінства і юнацтва Івана народны пісьменнік паказвае сапраўдны акт мілосці герояў, прычым зусім не ў цнатлівай для тагачаснай беларускай літаратуры манеры. Праўда, з'яўленне падобнай сцэны было абумоўлена развіццём падзеяў пасля трагічнага фіналу, якога і не было б без кахання і, галоўнае, ягоных вынікаў – нараджэнне сына. Але пра гэта ніжэй.

У метафарычным сэнсе паняцце "голад" надзвычай аб'ёмнае, аб'яднальнае, саборнае, шматстайнае, састаўное. Яно ўключае і ўзнёсла-духоўнае, і матэрыяльна-фізічны пачатак, дзе сутнасць голаду дамінуе.

Згадаем Біблію: "*Вот наступают дни, говорит Господь Бог, когда Я пошлю на землю голод – не голод хлеба и не жажду воды, но жажду слышания слов Господних. И будет ходить от моря до моря, и скитаться от севера к востоку, ища слово Господня, и не найдут его"* (Ам, 8:11-12). Пра гэта будзе гаварыць і самы дасканалы інтэрпрэтатар Святога Слова Эразм з Ратэрдама: "*Хлеб для тела не столь важная пища, сколь важно для души – слово Божье"* (2, 22). Аднак найперш трэба адрадзіць разуменне сутнасці голаду ў ягоным першасным значэнні, бо далейшая

эманацыя такога надзвычай універсальнага паняцця можа прывесці да бясконцага пашырэння сэнсавага зместу, блытаніны і страты асноўнага стрыжня: сучасныя вучоныя вылучаюць голад камунікатыўны, структурны, эмацыйны, сэнсарны, інфармацыйны, сэксуальны. Л. Талстой нават параўноваў салодкую эстэтычную ежу – паэмы, раманы, санаты, оперы, рамансы, карціны, статуі – з соўсам, мясам, цукрам, цукеркамі. Людзі імі, і першым, і другім, аб'ядаюцца, што прыводзіць да, адпаведна, катару страўніка і катару мозгу, бо страчваецца здольнасць пераварваць і нават прымаць здаровую ежу, што цягне за сабой смерць, як фізічную, так і духоўную. Жан-Поль Сартр у аўтабіяграфічнай аповесці "Словы" гаворыць пра дам, "*скользящих от полки до полки в тщетных поисках автора, способного утолить их голод*". Падобныя асацыяцыі выклікае ежа ў адукаванага, відаць, героя рамана Зм. Бядулі "Язэп Крушынскі": "*Ведаеце, пані гаспадыня... Гэтая бела-ружовая стопка нарэзанага сала нагадвае мне прыгожанькі томік паэзіі, лірычнай старасвецкай паэзіі. Ну, напрыклад, томік санетаў Петраркі. Гэта так прывабна, так хараша, так смачна, што проста аблізваешся*" (3, 63). Яшчэ значна раней да падобных высноў прыйшоў Сімяон Полацкі, які два зборнікі сваіх пропаведзяў назваў адпаведна "Обед душевный" і "Вечеря душевная".

Васіль Быкаў з уласцівай яму бескампраміснасцю імкнецца вярнуцца да вытокаў, *ab ovo*, падкрэсліць фізічны пачатак бытавання чалавека. Як ніхто ў нацыянальнай традыцыі, Васіль Уладзіміравіч звяртаўся да праблемы голаду ў жыцці беларуса, што і дазволіла яму прыйсці да высноваў: над "*прыроднымі інстынктамі пануе адно самы элементарны голад, які заглушае усякую боязь перадусім*". Тым самым народны пісьменнік Беларусі набліжаецца да высноў нямецкага філосафа Людвіга Фейербаха: "*Если у тебя от голода или по бедности нет питательных веществ в теле, то и в человеке нет пищи для морали*".

Вось чаму мастацкую літаратуру можна разглядаць праз прызму гэтага неадольнага тырана, што дазваляе па-новаму ўбачыць і ацаніць яе маральныя ідэалы. Пра гэта, спасылаючыся на словы аўтара, сцвярджае А. Жыд у прадмове да самага слыннага твора К. Гамсуна, падкрэсліваючы, што "Голад" – "*не аповесць, а серыя аналізаў*". Аналізаў сутнасці цела і душы чалавечай у іх непарыўным спалучэнні падчас выключна неспрыяльных умоў, што знойдзе сваё ўвасабленне ў гісторыях нацыянальных літаратур, у тым ліку і беларускай. Здарылася так, што якраз неўраджай і голад на пачатку XII стагоддзя і прывялі ў значнай ступені да стварэння першага тэксту ў нацыянальнай літаратуры – надпісаў на Барысавых камянях. А падобнае ўзаемадзеянне дае магчымасць гаварыць пра многія праявы быцця: як у цэлым пра яго сутнасць, так і пра асноўныя складовыя часткі.

Голад, ягонае ўспрыманне і ўвасабленне мастацкім словам мае даўнюю традыцыю, якая да нашых дзён зусім не скончана, бо ў XX стагоддзі дадаліся такія з'явы, што прымушалі згадаць пачварныя старонкі з эвалюцыі чалавецтва. Так, Д. Гранін падчас выступлення ў Рэйхстагу (канец 2013 года) прымусіў плакаць дэпутатаў парламента Германіі аповедам пра маці, якая ў блакадным Ленінградзе корміць галодную дачку целам мёртвага сына, хаваючы парэшткі на холадзе за вакном. Аднак пачатак гэтых сусветных трагедый быў пакладзены значна раней, пра што было сказана ў Бібліі: "*Будете есть плоть сынов ваших, и плоть дочерей ваших будете есть*" (Лев: 26.29). А можа гэта не самае страшнае ў эвалюцыі чалавецтва. Невыпадкова Мантэнь заяўляў: "*Меня возмущают не те дикари, которые жарят и потом едят покойников, а те, которые мучают и преследуют живых людей*" (4, 107). Пра гэта яшчэ раней паведаміў Дыяген: "*Мы можам з такім жа поспехам паядаць чалавечую плоць, як мы тое робім з мясам жывёлаў*". А Плутарх згадвае салдатаў Мігрыдата, якіх пакуты даводзілі да людаедства (5, 118). Ці не адсюль і пайшлі шматлікія казкі ўсіх народаў пра канібалаў і людаедаў, з якімі пастаянна сустракаюцца героі.

Але лепш дадзім слова бясстраснаму летапісу:

*“Як пачалася вясна года 1602, дык найшоў мор на людзей: ад пяці да трыццаці ў адну яму хавалі. Хворых, галодных, спухлых было незлічона – жах браў бачыць такі гнеў Божы. У вялікіх жа местах кожнага паасобку хавалі ды яшчэ святары праводзілі. А тыя, што на Ніз пайшлі, амаль усе памерлі, мала хто застаўся. Паміралі ў местах, на вуліцах, на дарогах, у лясах, у пустэльнях, на раздарожжах, у пустых хатах, у гумнах. Бацька сына, сын бацьку, маці дзетак, дзеткі маці, мужык жонку, жонка мужыка пакідала, нічога не ведаючы адзін пра аднаго, і амаль усе паўміралі”.*

Ніхто не паспагадае ў велічна-абсурднай трагедыі: адзін чалавек прыходзіць у гэты свет, адзін і сыходзіць. Але каб даўжэй у ім заставацца, ён гатовы на ўсё. Перад страхам галоднай смерці забываецца ўсялякая мараль:

*«Калі ж хто стаяў ля варотаў, ці нават у доме чыім стоячы хлеба прасілі, ці то бацька з сынам, сын з бацькам, маці з дачкою, дочка з маці, брат з братам, сястра з сястрою, мужык з жонкаю, дык такія словы моцна, слёзна, горка казалі: “Матухна, зязюлюхна, утухна, панюшка, спадарыня, сонца, месяц, зёздухна, дай крошку хлеба!” Тут, каля варотаў, будзе стаяць з раніцы да абеду і да полудня, так просячы. Там жа пад плотам некаторыя і паміралі.*

*А хто прасіў варыва, дык такія словы мовіў: “Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернетка, сонейка, дай дзіцятку лыжачку варыўца сырога!”»* (6, 247).

Пра гэта ж згадвае Уладзіслаў Сыракомля ў паэтычнай гісторыі Мінска. Наш славуты зямляк нібы баіцца сказаць усю праўду, каб не расчаравацца ў чалавеку. Гэта ж будзе стрымліваць пяро і А. Адамовіча ў ягонай дакументалістыцы, як і некаторых іншых пісьменнікаў non-fiction. Вось чаму стыль ранніх мастацкіх дакументалістаў набывае метафарычнасць і іншасказальнасць:

*“Жахлівы голад, які ў Інфляндыі і Белай Русі працягваўся аж да жніва 1657, адчувальны і тут; папярэднічала яму страшэннае мноства мышэй, якія завяліся на палях, пры платах, у стагах і хатах. Люд, сціснуты голадам, вымушаны быў есці ўсё, што траплялася: нават і гэтых, непрыгодных для ежы звяркоў. Пачаліся разбоі з-за кавалка хлеба. Голад, злы дарадчык, як яго назваў Вергілій, не даў нават трупам спакойна ляжаць у трунах”* (7, 389).

Для славутага раманіста нашага часу Стывена Кінга падобныя эківокі зусім непатрэбныя: вязень з ягонага рамана “Супрацьстаянне”, пакутуючы ад голаду, спачатку з’еў, гідуючыся, пацука, а затым пачаў жэрці труп калегі з суседняй камеры. А кіраўнік Цэнтральнай Афрыканскай рэспублікі, славуты Бакаса I праславіўся тым, што з’ядаў сэрца і пячонку сваіх зрынутых апанентаў. Ва ўсялякім разе, менавіта так ён тлумачыў факт знаходжання гэтых “варожых” органаў у сваёй лядоўні. І гэта нікога ўжо не шакуе. Мы настолькі гатовы ўспрымаць падобнае, што не маем сіл уключыць духоўны імунітэт. Невыпадкова герою Адама Глобуса пачынае здавацца, што яго накармілі чалавечынай. Напалоханаму дзіўнаватым, салодкім смакам шашлыка ў камароўскай карчомцы хлопцу мроіцца неверагодна-рэальнае.

З самых далёкіх часоў і пачынаецца ўвасабленне голаду як нейкай пачвары, наднатуральнай істоты, што валадарыць сусветам. Асабліва гэта праявіцца ў фальклоры і новых мастацкіх літаратурах, дзе застанецца вызначальны біблейскі пачатак. Менавіта таму гэты вобраз набывае самыя адметныя рысы і ўвасабленні. Ці не таму ўсе добра памятаюць вобраз рэальнага ўладальніка свету ў інтэрпрэтацыі М. Някрасава:

В мире есть царь: этот царь беспощаден,
Голод названье ему.

Водит он армии; в море судами
Правит; в артели сгоняет людей,

Ходит за плугом, стоит за плечами
Каменотесцев, ткачей.

Он-то согнал сюда массы народные.
Многие – в страшной борьбе,
К жизни воззвав эти дебри бесплодные,
Гроб обрели здесь себе.

Што значыць рэальная зямная ўлада ў параўнанні з віртуальнай, увасобленай у пачварнай істоце? – разважае рускі паэт у вершы “Железная дорога”. Цягнік імчыцца па зямлі, дзе ляжаць косці загінулых будаўнікоў чыгункі, душы якіх у вар’яцкай пагоні даганяюць жывых, каб паведаць пра ўласную трагедыю. І падобнае дзеянне ўспрымаецца не столькі як помста, колькі як нястрыманае памкненне абудзіць нешта чалавечае ў душах нашчадкаў, бо перад намі яскравая матэрыялізацыя сумлення чалавецтва, якое павінна пастаянна нагадваць пра трагедыю эвалюцыі людства. Агульную і канкрэтную. Індывідуальную і нацыянальную.

Бо менавіта “*высокорослый больной белорус*” становіцца ілюстрацыяй невымернай жорсткасці валадара сусвету, яго спрадвечнага цынізму і падману. Што зробіш, нашы продкі вельмі падыходзілі для гэтай ролі, пра што сведчыць і Герцэн, і дзясяткі іншых рускіх і польскіх тагачасных публіцыстаў. М. Някрасаў заклікаў тых, хто “не жеманная барышня”, “не закрываться перчаткою”, а ўбачыць адкрыта “*губы бескровные, веки упавшие / Язвы на тощих руках...; колтун в волосах; опухшие ноги*” толькі дзеля таго, каб сцвердзіць адвечнае: “*Трудно свой хлеб добывал человек*!” Шкада, што якраз падобнае ўспрыняцце беларуса стала вызначальным у мастацкай традыцыі. І нават узаконеным. Калі ў пасляваенны час у Гомель пераводзілі расійскую ВНУ, што сталася Інстытутам чыгуначнага транспарту, то хацелі разам з бібліятэкай і выкладчыкамі ў дар удзячнаму народу падараваць і помнік вялікаму рускаму паэту, які першым увасобіў беларуса своеасаблівым паэтычным словам. Добра, што ў некага з “*власть придержащих*” хапіла пачуцця гумару, і не давялі сітуацыю да абсурду.

Перад намі, па сутнасці, узор манументальнай прапаганды ў духу Сікейраса. І гэты вобраз вечны, бо нічога не мяняецца ў сусвеце. Так і не здабыў хлеба беларус на расійскай зямлі, да гэтага часу ён не “*разогнул свою спину горбатую; и теперь еще тупо молчит и долбит ржавою лопатою мерзлую землю*”. Што зробіш – класіка актуальная ва ўсе вякі.

Вяртаючыся да выступу Д. Граніна, які цытуе зробленае разам з А. Адамовічам (пра што ён актыўна імкнецца “забыць”), трэба згадаць, што немцаў мог значна мацней напалохаць раман А. Марыенгофа “Циники”, выдадзены менавіта ў Берліне ў 1928 годзе, дзе апісанні канібалізму ўражваюць значна больш, чым у амаль цнатлівых на гэтым фоне запісах беларускага і рускага пісьменнікаў. Так, А. Марыенгоф цытуе гісторыкаў: “*В Смутное время на базарах в Москве продавали человеческое м’ясо*” (пра гэта згадваў і У.Г. Караленка); французскага падарожніка Дэ Ту: “*родные продавали родных, отцы и матери сыновей и дщерей, мужья своих жен*”. Аднак не менш жахліва гучалі загалоўкі з тагачаснай “Правды”: “*Людоедство и трупоедство принимает массовые размеры*”. Можна згадаць і кнігу М. Лапаціна “В тисках голода: блокада Ленинграда в документах германских спецслужб и НКВД” (СПБ.: Европейский дом, 2000. – с. 300), або іншыя мастацкія і навуковыя даследаванні па праблеме голаду перыяду войнаў, рэвалюцый і грамадзянскай вайны або галадамору ва Украіне. Аднак мы іх свядома апускаем.

Народныя ўяўленні нашых братоў увасабляе у сербскай баладзе XIII ст. “Адчай” Янка Сіпакоў, у якой голад паўстае “*страшна жудасным жываглотам, вурдалакам ліхім, ненажэрным цмокам*”. У поўнай адпаведнасці з народнай паэтыкай, ён

успрымаецца ўсясільнай пачварнай істотай, здольнай лётаць без крылаў, без кап'я працінаць усіх, секчы без мяча і без паліцы, без ног гнацца, хапаць без рук, і нельга ад яго нікуды збегчы – дагоніць, знойдзе, забярэ з сабою. Такім жа паўстае цар Голад ў аднайменнай драме Л. Андрэева*: "(весь озаренный красным отсветом горна, говорит с холодной и безнадежной свирепостью) Вы боитесь, дети? Пусть так. Но послушайте же меня, трусы. Не с пальмовой ветвью мира пришел я к вам, – я к вам прислан для убийства. И я пойду отсюда за вами – я ворвусь в ваши жилища, я передушу ваших младенцев, я выжму последнее молоко из грудей ваших жен и матерей – и убью их. И над их трупами вы заплачете горькими слезами. Смерть! Сюда!"* (8, 149). Л. Андрэеў імкнуўся здзівіць і напалохаць свет, і з гэтым ён справіўся.

У нацыянальным стылі інтэрпрэтуе адвечны вобраз Вацлаў Ластоўскі ў абразку "Голад" (1911), хаця сэнсаўтваральная сутнасць славянскіх паралеляў шмат у чым супадае:

*"Гэй, Голадзе-бацька, гэй! Дужы ты, – як гром, як воды ў шпаркім бегу, строг ты, і жаласці не знае сэрца тваё! Цяжка рука твая лажыцца на наш род людскі!..*

*Ты – свету ўладар, ты з смерцю-маткай势 пануеш над усякім творам жывым, ад пачаткаў дзён нашых мы стаім паміж вашай можнай апекай: тваёй, Голадзе, і смерцінай. Завідны ты аб уласць сваю, а шчодры пладамі багацця твайго. О, ты шчодра надзяляеш усіх-усіх!.. І праца твая красуе, і ўласць, і царства тваё пашыраюцца..."*

Гэтая пачварная істота ўсемагутная, усюдыісная, ад яе не схавацца нідзе: "*Глянь! Глянь вось туды – у курную хацінку, дзе галодная маці туліць да ўпаўшых грудзей галоднае дзіця: не знайшоўшы корму, зьмірае яно ў тваім абняцці... Ха, ха! Змірае, Голадзе, у тваіх бацькоўскіх руках!.."* Таму фальклорная паэтыка ў спалучэнні з выразным публіцыстычным пачаткам цалкам адпавядае праблеме: "*З смерцю-маткай, усяможныя вы, пажынаеце законны свой плён, багаты плён, шырокі плён, – як багата і шырока зямліца наша...*

*Пустой вуліцай горада нясмела каля сцен крадзецца людскі шкілет – так, шкілет, бо голад яго няньчыў, забаўляючыся ім, крадзецца, каб напасці, здушыць сабе падобнага... А там, сярод багацця і збыткаў, ці ж там таксама не тваё, Голадзе, панаванне?"* Гэтая пачвара прадвызначае не толькі фізічнае бытаванне канкрэтнай асобы, але і яе духоўны складнік.

*"Сыты і сільны юнак божышч шукае... Голадзе, горды юнак проці ўсясільнай рукі тваёй чало паднімае, сіліцца глянуць на сонца – на сімвал праўды! Ты ведаеш, Голадзе-бацька, і ты, смерці-маці, што могуць быць божышчы без сімвалаў, а сімвалы без божышч. Як жа смешна вам юнацкая паманка! Як жа вясёла вам забава змагання душы з брухам! Цікавы канца, паклаў Голад руку сваю на гордую існасць людскую, знаць, цяжка была рука тая, бо зламаўся дух юнацкі, а сам ён брыў далей шляхам балотным-тучным, толькі час ад часу сілячыся падняць вочы на сімвал-сонца".*

Па сутнасці, знойдзены новы Бог (пра гэта гавораць і куранёўцы ў эпапеі Івана Мележа, праўда, на сваім, сялянскім узроўні), ва ўсялякім разе людзі гатовы служыць яму нібы вышэйшай сіле і нават будаваць новыя месцы пакланення.

*"Слаўен будзь, Голад! Збудаваў бы я алтары табе, але ведаю, што не любіш ты новых, бо алтары ад веку ў імя тваё стаўляны. Слава твая ад зямлі асноваў!*

*Слаўся, Голадзе, слаўся!.."* (9, 98-99)

Новыя алтары, вежы і храмы будуюцца перманентна, бо існуючыя ахвярныя спаруды разбураюцца вельмі лёгка. Згадаем Ф. Дастаеўскага: "*«Накорми, тогда и спрашивай с них добродетели!» – вот что напишут на знамени, которое воздвигнут против тебя и которым разрушится храм твой. На месте храма твоего воздвигнется новое здание, воздвигнется вновь страшная Вавилонская башня, и*

*хотя и эта не достроится, как и прежняя, но всё же ты мог бы избежать этой новой башни и на тысячу лет сократить страдания людей, ибо к нам же ведь придут они, промучившись тысячу лет со своей башней! Они отыщут нас тогда опять под землей, в катакомбах, скрывающихся (ибо мы будем вновь гонимы и мучимы), найдут нас и возопиют к нам: «Накормите нас, ибо те, которые обещали нам огонь с небеси, его не дали.» И тогда уже мы и достроим их башню, ибо достроит тот, кто накормит, а накормим лишь мы, во имя твое, и солжем, что во имя твое. О, никогда, никогда без нас они не накормят себя*!" (10, 230).

Амаль усе філосафы і паэты садзілі на трон гэтую ўсемагутную пачвару, апафеозам увасаблення якой у беларускай дакастрычніцкай паэзіі з'яўляецца верш Я. Купалы "Голад", па сваёй паэтыцы надзвычай блізкі да біблейскай вобразнасці:

Праз поле, праз хаты і сёлы
Ў кароне з касцей чалавечых
Іду, разбуялы, вясёлы,
З хатомкай мярцвячай на плечах.
Паклоны б'е стар мне і молад
І дзетак рой босых і голых, –
Бо Голад я, Голад!

У Бібліі шмат старонак, прысвечаных гэтай з'яве, якая ўяўляецца амаль старажытнейшай на свеце (усяго голад узгадваецца ў вечнай кнізе 69 разоў). Тым самым падкрэсліваецца трагізм чалавецтва, якое зведала голад, сцвярджаецца, што больш жахлівай можа быць толькі тая сітуацыя, калі ад цябе адвернецца Бог: "*Пр. Амосъ угрожаетъ Израилю голодомъ, болѣе ужаснымъ, чемъ голодъ, происходящій отъ недостатка обычной человѣческой пищи – гладомъ и жаждою слышанія словъ Господнихъ." (Ам., VII, 11)* Аднак адсутнасць фізічнай мажлівасці выжыць у не меншай ступені сведчыць аб страце Бога, які адвярнуўся ад сваіх вернікаў і тым самым запусціў працэс іх знішчэння.

У вершах Купалы можна знайсці яскравыя паралелі з вялікай Кнігай. Некаторыя ягоныя выслоўі амаль пераклікаюцца з велічнымі радкамі "Плачу Іерэміі":

Истощились отъ слезъ глаза мои, волнуется во мне внутренность моя, изливается на землю печень,
отъ гибели дщери народа моего, когда дети и грудные младенцы умираютъ отъ голода среди улице (2, 11);

Насъ погоняют въ шею, мы работаемъ – и не имеемъ отдыха;
Съ опасностью жизни въ пустыне достаемъ хлеб себе;

Кожа наша почернела, какъ печь, отъ жгучего голода;

Плачуць цяжанька людзі бяссільныя,
Плача змучаны ўвесь мой народ.
Дый над гэтай крывёю магільныя
Расплываюцца енкі сірот,
Хоць у хаце дзецям
Хлеба, солі няма
А мучыцеляў смех над скаванымі
Разлягаецца страшным выццём...
Завываюць ваўкі над курганамі...

Маці мая, маці,
Што ж ты нарабіла?

Блудзіла сіротка на полі,
Блудзіла, шукала долі.
Працую, як той вол рабочы;
Хлеба шукаю...

Практычна ва ўсе часы літаратура, як і наогул усё мастацтва, знаходзіцца пад уплывам голаду, які ў значнай ступені фармуе нацыю, яе светапогляд і іх увасабленне ў прыгожым слове. "*Доля народа залежыць ад яго яды і дыеты*", сцвярджаў А. Бальзак. І, зразумела, ад стану здароўя ўсіх яго складовых частак, у тым ліку і творцаў, фізічны складнік якіх уплывае на многае.

Вось чаму Усясільны Голад *"безупынны, сейбіт бязмежнай заразы"* шмат у чым прадвызначыў долю многіх людзей, у тым ліку і пісьменнікаў. Вучоныя сцвярджаюць, што *"под влиянием голодания подвергаются резкому изменению все отдельные элементы душевной жизни, т.е. те элементарные процессы, из которых слагается наша психическая жизнь. Изменяются наши чувства и эмоции, меняется общее наше самочувствие, жизне- и мироощущение, деформируются наши ощущения, восприятие и внимание, представления, идеи, их количество, качество и порядок течения, запоминание и воспроизведение, желания, стремления и волевые переживания. Словом – все отдельные элементы душевной жизни. Если меняются элементы, то неизбежно меняется и та сумма – вся наша душевная жизнь, все содержание нашего сознания, – которая слагается из этих элементов"*. Адсутнасць яды ва ўсе часы кардынальна мяняе іерархію ўзаемадзеяння, голад не выносіць прысутнасці супернікаў, ён заўсёды і ў любых сітуацыях дамінуе, падпарадкоўваючы сабе ўсіх і кожнага. Лёгка і фатальна. Успомнім героя апавядання Д. Лондана "Любоў да жыцця": *"Им владело только одно желание: есть! Он помешался от голода. Ему было все равно куда идти, лишь бы идти по ровному месту" (11, 466).*

Усе мы ведаем выслоўе *plenus venter non studet libenter* – набіты жывот не схільны да навукі. Або згадаем гэты афарызм у інтэрпрэтацыі Ф. Ранеўскай: *"На голодный желудок русский человек думать и делать не хочет, а на сытый – не может"*. Аднак вельмі рэдка мы гаворым пра адваротнае: *"Голодание (соответственно – сытость) резко деформирует всю нашу духовную личность, весь духовный багаж нашего «я», как со стороны содержания этого багажа: идей, убеждений, верований, вкусов, желаний, стремлений, оценок, чувств и эмоций и всего мировоззрения, – так и со стороны механизма смены и течения элементов этого багажа – душевных процессов. Голодание вытесняет из сферы сознания одни из этих элементов и заполняет его другими; подавляет и ослабляет одни идеи, убеждения, верования, вкусы, желания, эмоции и т.д. и усиливает и укрепляет другие" (12).* Менавіта таму галаданне (доўгае ці нават кароткатэрміновае) у выключнай ступені ўплывае на творчы працэс.

У сусветнай літаратуры вельмі лёгка знайсці прыклады, што маляўніча ілюструюць высновы навукоўцаў. Беларускае прыгожае пісьменства ў гэтым плане зусім не выключэнне. Згадаем лёс пачынальнікаў новай нацыянальнай літаратуры, найперш звернемся да долі В. Дуніна-Марцінкевіча:

*"Жыццё ў Панюшкавічах сапраўды было галаднаватае. І не толькі ў сям'і бядотнай шляхцянкі Мар'яны Марцінкевічавай. Нядаўняя напалеонаўская разруха яшчэ адчувалася на зямлі Беларусі неаднойленымі фальваркамі, засценкамі. Цэлыя вёскі, разрабаваныя ненажэрнымі жаўнерамі, без розніцы, адкуль налятала гэтая саранча – з берагоў Сены ці Масквы, – ляжалі спустошаныя. Голад раўняў шляхту з мужыком, чалавечую істоту з жывёлінай, а вялікая Прырода паўтарала адвечны кругазварот. Неўзараныя адну-другую вясну ўрадлівыя гоні зарасталі спачатку пустазеллем – асотам, лебядой, сабачай мятай, конскім шчаўем, а потым лазовымі кустамі ды пірамідамі пахкага ядлоўцу. А тут яшчэ, пачынаючы амаль з вайны, даймала неўродзіца (асабліва яна паласне ў 1821 – 1822 гадах). Прывід галодных дзён стаўся ці не апошняй кропляй, якая напоўніла матчына сэрца рашучасцю адарваць сынка ад свайго андарака ды паслаць на ганаровае дзядзькаванне ў сталіцу"* (13, 11).

Такім жа было вясковае дзяцінства амаль усіх класікаў літаратуры, нягледзячы на тое, дзе і калі яны з'явіліся на свет: *"Мой брат, Максім Гарэцкі, нарадзіўся 18 лютага (6 лютага паводле старога стылю) 1893 года ў глухім кутку Беларусі – у маленькай, на 20 двароў, вёсцы Малая Багацькаўка (па-ранейшаму – Меншая Багацькаўка) Мсціслаўскага павета, закінутай паміж дрымоткіх панскіх лясоў Цемналесся, за 90 кіламетраў ад бліжэйшае чыгуначнае станцыі Орша.*

*Вялікая сялянская сям'я бацькі і дзядзькі Якава складалася з 12 душ, жыла ў*

*адной цеснай хаце з замшэлай саламянай страхою, з земляной падлогаю і маленькімі акенцамі на адну шыбу. Асвятлялася хата лучынаю.*

*Жылі бедна, кожная луста хлеба, кожная лыжка былі на ўліку. Працавалі многа і цяжка. Часта хварэлі"* (14, 209).

М. Танк піша ў дзённіку за першага сакавіка 1939 года: "*Становішча ў мяне катастрафічнае... У Вільні няма за што жыць... Цэлымі днямі і начамі думаю аб хлебе і паэзіі, аб паэзіі і хлебе"* (15, 246). Праз паўтара месяца ён яшчэ раз напіша, што галодным дням канца не відаць.

Надзвычай ўражваюць успаміны Н. Арсенневай. Так, на пытанне: "Чаму ў Вашых творах так многа смутку? З чым гэта звязана?", яна адказала: "*На гэта мела ўплыў само жыццё ў Вільні. Жылі мы ў вельмі цяжкіх умовах, што і адбілася на маіх вершах. Сястра памерла ў дарозе, пакуль мы ехалі, бацька захварэў, маці таксама была хворая, працы не было. Калі я вучылася ў беларускай гімназіі, дык вельмі часта мы кляліся спаць не еўшы, і таксама не еўшы, ішлі ў гімназію. Усё гэта мела падсвядомы ўплыў на творчасць"* (16, 203). Падобны прывід будзе спадарожнічаць Н. Арсенневай на працягу ўсяго жыцця. Так, у лісце да М. Сяднёва ад 11 жніўня 1966 года яна падкрэслівае: "*Каб што-небудзь стварыць добрае, трэба, як некалі рабіў Пушкін, замкнуцца недзе ў глушы, каб нішто не рупіла й не займала. А ў нашых варунках гэта абсалютна немагчыма. Трэба зарабляць на кавалак хлеба. І аб паэзіі думаць няма калі. Не, раней паэтам усё-ж куды лепш жылося. А мо гэта толькі беларускім паэтам не спрыяе лёс"* (17, 311).

Безумоўна, маладзенькая паэтэса падсвядома-інтуітыўна прыходзіць да тых жа высноў, што і аўтарытэтныя вучоныя-фізіёлагі, прычым прыкладна ў адзін і той жа час. В. Манькоўскі ў канцы XIX стагоддзя пісаў: "*Мозг при голодании теряет важнейшие из своих составляющих частей и так же идет к разрушению, как и другие части голодного человеческого организма. Ни одна часть организма не остается незатронутой при резком колебании питания"* (18, 48). Пра гэта ж сведчыць Джулія Дональдсан, аўтар бестселера "The Graffalo": "*Нельзя недооценивать разрушительное влияние недоедания. Это останавливает развитие ребенка, ослабляет его умственные и физические способности, лишает его шанса быть способным прочитать и понимать простые предложения"*.

Уолт Уітмен пісаў, што ад паэзіі нельга нічога схаваць. Нават тое, што ты раніцай рабіў, чым <u>снедаў</u> (падкрэслена намі – *І. Ш.*) – гэта таксама адаб'ецца на тваім вершы. Паэзія адчуе і выдасць. Развагі амерыканскага паэта – гэта споведзь больш-менш сытага чалавека. А што рабіць чалавеку-творцу, які пакутваў ад недаядання ў дзяцінстве і ў творчы перыяд падвяргаецца тым самым выпрабаванням? Вось што піша М. Гарэцкі ў запісной кніжцы за 1930 год: "*Абед з дзвюх страў 55 к. Вазьму адну першую. Эканомія. Усё-такі гарачага з'еў"* (19, 396). Дылема? Дылема! Што выбраць?! Куды там легендарнаму аслу Бурыдана. М. Ліфшыц сцвярджае, што ўсе вершы М. Цвятаевай пасля рэвалюцыі – гэта вершы галоднага чалавека: "*Голод стал для Цветаевой своего рода камертоном, музой и даже хронической болезнью, болезнью ментальности, болезнью самосознания, мироощущения, образа жизни"* (20).

У адзіночцы, дзе можна звар'яцець ад самых разнастайных фактараў, не звязаных з харчам, шматгадовы вязень Піліп Пястрак марыць пра адно: выйсці на волю і купіць у мясной лаўцы *rozmaitości* – г. зн. абрэзкі розных гатункаў каўбас, якія застаюцца пасля таго, як зважылі лепшыя кавалкі заможным кліентам, і танна прадаюцца бедным. Хаця гэта зусім не дэлікатэс, пра што гаворыць амаль у той самы час, толькі ў іншай краіне гераіня твора "Сабачае сэрца" М. Булгакава, якая катэгарычна супроць таго, што Шарыку набылі дарагой каўбасы: "*Господи, да ему обрезков нужно было купить на двугривенный в мясной. Краковскую колбасу я сама лучше съем"* (21, 261).

Голад – лепшы сябар і натхняльнік на творчыя эксперыменты. М. Танк піша, што Рэмбо ў свай “Алхіміі слова” адкрыў колеры галосных літар, а ён – колеры сваіх галодных дзён: панядзелак – белы, аўторак – сіні, серада – блакітная, чацвер – зялёны, пятніца – чырвоная, субота – чорная (15, 254). Згадаем, што славуты Шарык “*начал учиться по цветам*” – так ён вызначаў крамы, дзе ёсць мяса. Ды і ў наш час усё вяртаецца на кругі свая. Як сцвярджае В. Казько, пасля смерці народнага пісьменніка Пімена Панчанкі грошай у яго засталося роўна на пачак запалак. А з харчовых прыпасаў – пачатая булка хлеба ды адзіная цыбулінка (22, 170).

Пра якое спасціжэнне законаў мастацтва маладым талентам можа ісці гаворка, калі будучы творца вымушаны дбаць пра самае неабходнае? Васіль Быкаў згадвае, што падчас вучобы ў Віцебску бохан хлеба каштаваў рубель, таму гэта быў асноўны наедак. Але каб купіць свой бохан, трэба было ўставаць вельмі рана, каб паспець да дзевяці гадзін. Якая творчасць, якія музы, якая веліч?! Пра што гаворка? Шуберт галадаваў і памёр у 31 год. Ізольда Ізвіцкая памерла ў 38 гадоў ад доўгага голаду, як і фантаст А. Бляеў у Гатчыне падчас вайны.

Пра гэта пісаў яшчэ у V стагоддзі Фабій Фульгенцый: “*В эти злополучные, скудные времена мы не алчем поэтической славы, ибо алчем хлеба насущного*” (23, 9) (Паэт супастаўляе словы *fama – слава* (г.зн. вечнасць) і *fomes* (*голад*, г.зн. надзённае, набалелае). І зразумела, што перамагае і што дамінуе ў гэтым адвечным супрацьстаянні.

Ніяк не змянілася сітуацыя і на пачатку XX стагоддзя. Становішча нацыі заставалася крытычным. Вось пра што пісала газета “Наша Ніва”, якая, здавалася б, павінна была друкаваць у першую чаргу літаратурна-эстэтычныя матэрыялы: “У Климовичским павеци Магилеўск. г. хлеба у мужыкоў нехват, ядуць мякину”; “У Смоленск. губ. чыстаго хлеба близко саўсим не видаць. Па многих вуездах ад недаяданьня пачали хварэць на тыфус (№6, 1908); г. Радашковичы Вил.губ. Пачалася вясна, и канчаецца ў мужыкоў хлеб (№9, 1908); з Слонимскаго пав. Гроденскай губ. Хлеб у мужыкоў увесь выйшаў. Будзе голад. З усих канцоў вуезду идуць весьци, што появиўся тыфус дзеля таго, што людзи галадаюць...» Ад голаду з’яўляюцца ў заслабленым арганізме самыя разнастайныя хваробы, што перашкаджаюць звычайнаму інстынкту выжывання. М. Гарэцкі ў “Камароўскай хроніцы” расказаў пра настаўніка Міхалку Ваяводу, што з дрэннага харчавання захварэў на скарацечныя сухоты і памёр зусім маладым. Засталіся толькі кніжкі па гісторыі краю.

У адным з апошніх інтэрв’ю “Не наракаю на долю” Васіль Быкаў успамінае: «*Усё тое лета дома было галаднавата, хлеба не было з зімы, бульбачка паявілася толькі ў канцы жніўня. Тая галаднаватасць была маёй спадарожніцай і ў горадзе, заўжды хацелася есці*». Будучы пісьменнік не мог вучыцца мастацтву ў Віцебску, бо не было чаго есці; дзеля хлеба аддаў апошнюю сарочку. *“Порцыя пярловай кашы з лыжачкаю масла каштавала 60 кап., але была дужа маленькай тая порцыя. А купіць другую... Цэлыя дні хадзілі галодныя. Абыходзіліся кіпятнем” (24)* У гэтым плане цікавасць уяўляе супастаўленне з вопытам В. Распуціна, які ўвасобіў свае падлеткавыя пакуты ў славутым апавяданні “Урокі французскага”. Рускі пісьменнік спазнаў голад і ў сяле, і ў горадзе, аднак лічыў апошні больш пакутным. Пра гэта сведчыць і вядомы гісторык В. Грыцкевіч: “*Питание сельских жителей было разнообразнее, чем у горожан. Подспорьем была близость рыболовных угодий и лесов с ягодами, грибами, дичью*” (25, 34). Памяць пра жахлівае дзяцінства засталася назаўсёды з В. Распуціным, як і з В. Быкавым. А голад народны пісьменнік зведаў з дзяцінства: “*Кожнай вясной да Вялікадня канчаліся хлеб і бульба, пачыналася пара траўнікаў – жахлівых коржыкаў з лебяды і крапівы. І так аж да жніўню, калі даспявала бульба ў агародзе і пачыналі жаць ячмень – на крупы. Жахлівая пара на*

*7 гадоў – да самай вайны"*. Толькі ў вайну, паводле слоў народнага пісьменніка, змаглі людзі паесці. У апошнім сваім творы ён згадвае тое, што не мог сказаць за ўсё пакутлівае жыццё: *"Настала вясна 1940 году. І з ёй, як заўжды, галадуха, не было хлеба, скончылася бульба. Калі маці прынесла кілаграмаў шэсць мукі і невялічкі кумпячок ад брата, які жыў у Заходняй Беларусі, то гэта быў цуд"*. (Пра вядро бульбы пад вясну, як пра цэлае багацце, узгадвае і В. Распуцін.) А раней, калі пачалася калектывізацыя... Забралі ўсе зерне з хаты. Маці галасіла так, як ён ніколі не чуў. Усё падчысцілі, не пакінулі ні каліва. Чым было карміцца, што расло ў агародзе? А на двары стаяў яшчэ сакавік 1933 года, з якога пачынаўся вялікі голад аж з самай вайны. Толькі ніхто не ведаў таго, што чакае людзей наперадзе. Па сутнасці, народ свядома знішчалі:

*"Неяк надумалі пабіць жорны, каб не малолі, здавалі збожжа дзяржаве. Пайшлі па вёсцы і ва ўсіх пабілі верхнія камяні. Пабілі і ў нас, кінулі кавалкі ў крапіву пад плот. Але бацька змайстраваў абручы і ноччу, як пасне вёска, неяк змацуе тыя кавалкі і паціху зьмеле на хлеб. А ранкам кіне тыя ж кавалкі на ранейшае месца ў крапіву, бы хадзілі, правяралі, ці ляжыць там, куды яны кінулі"*.

Заканамерна, што гэты пачварны прывід не адпускаў пісьменніка да канца жыцця. Толькі тады ён змог ад яго пазбавіцца, калі апісаў усё ў аповесці "Сцюжа". Як казаў аўтар, гэта ўжо ня выдумка, гэта балючая праўда. Вось чаму ўспаміны пісьменніка амаль тэкстуальна супадаюць з фрагментамі аповесці:

"*– А, тады! – здагадалася цётка, што ён мае на ўвазе. – Білі. На тры кускі камень пабілі. Ляжалі ў крапіве. Ды яшчэ кожны дзень рабілі абход, правяралі, ці ляжаць, дзе кінулі.*

*– Хто разбіў? – сказаў ён і сцішыўся, чакаючы адказу, які быў для яго дужа важны.*

*– Ды камсамольцы гэтыя. І акцівісты. Але мой Іван усё роўна малоў. Зрабіў такія абручы, саставіць камяні і змеле ўначы. А пасля разбярэ і зноў кускі ў крапіву. Там і ляжаць. Тыя прыйдуць, паглядзяць, у сшытачку нешта памецяць. Так і абыходзіліся, – ціхенька засмяялася цётка, задаволеная ўласнай з Іванам хітрасцю"* (26, 165).

Сімвал згубленага пакалення – чалавек, які толькі перад смерцю задаволіў асноўную жыццёвую патрэбу. Васіль Быкаў гаворыць пра шчасце бацькі, які толькі на старасці гадоў наеўся хлеба даволі... Аднак вяртаецца ўсё на кругі свае. І пасля страшэннай вайны пачварная кастлявая здань пачынае сваё блуканне: "*Хлеба не было, бульбы таксама. Успамінаючы, аднак, вайну, казалі: затое тады ад'еліся. І хлеба было, і да хлеба. Калгасы распусцілі, абраблялі свае надзелы. Было і немцам, і партызанам, і сабе заставалася. Не тое, што ў калгасах. Ды мінулася тое, цяпер зноў калгас"*.

Нешта падобнае згадваў гомельскі пісьменнік Іван Сяркоў: "*У маёй маці Дар'і Цімафееўны я быў не першым дзіцём, а другім ці трэцім, яны памiралі немаўлятамі – дактароў не было і дзіцячага харчавання таксама. З успамінаў дзяцінства помніцца мне голад 1933 года. Ідучы на поле жаць жыта, маці мяне пакідала ў былым панскім садзе, дзе была дзіцячая пляцоўка. Праз шчыліны паркана, які агароджваў сад, я пільна сачыў, калі маці пойдзе на калгасны абед, дзе атрымае заціркі і кавалачак хлеба. Маці ела там нішчымніцу і, вяртаючыся на поле, падавала мне праз паркан лустачку хлеба. Той матчын хлеб я памятаю да гэтага часу"* (27, 15).

Вось што згадвае Васіль Быкаў, калі вярнуўся дадому: *"Нічога не змянілася і пасля вайны. Жыццё тут было да жаху беднае, каровы не было. Бацька хадзіў прасіць паўлітра малака ў брыгадзіра – для афіцэра Чырвонай Арміі. Гадавалася малое парася, якога вырашылі прырэзаць з нагоды госця. Каб хоць заскварыць бульён..."*

Пра што можна было марыць у падобных варунках? Пра Манмартр і Парыж, Лазенкі і Варшаву, Калізей і Рым, чароўныя хвалі акіяна і экзатычныя краіны? Ад голаду выразна мяняецца псіхіка чалавека. В. Быкаў пакідае запіс пра земляка Іванова, у якога «была адна неспатольная мара – дзе чаго пад'есці» (25). Каб крыху знізіць пафаснасць, дадзім слова гумарыстам. Спачатку беларускім: "*Жохмана баяліся ўсе ў інтэрнаце, бо Жохман за паўкіламетра ад інтэрната ўжо чуў носам, хто дзе й што гатуе на вячэру. Ад яго хаваліся, зачыняліся на засаўку, але Жохман прыходзіў, непазбежны, як Страшны суд, грукаў у дзверы, скавытаў і енчыў за імі, пакуль не адчынялі*" (28, 33). Недарэчны герой Я. Гашэка прыцягвае ўвагу сваім жаданнем з'есці хоць што-небудзь, з-за якога пастаянна трапляе ў неверагодна-недарэчныя сітуацыі. "*Балоўн нагадвае сабаку, які, пакутуючы ад воўчага голаду, сядзіць ля дзвярэй каўбаснай крамы і пакутліва нюхае сцягно, праглынае абед свайго афіцэра, мяняе цыгарэты на хлеб, вылізвае кацёл, у якім зварыўся абед*" (29, 393-395). Аб чым думае маладзенькая Л. Арабей: "*У час вайны, у першыя пасляваенныя гады ў нашага пакалення не было нічога больш святога, больш жаданага, чым кавалак хлеба. Я, студэнтка ўніверсітэта, сядзела ў пакоі, вучыла нейкі прадмет і не магла засяродзіцца – у тумбачцы ляжаў кавалак хлеба і ён вабіў, цягнуў да сябе. Уставала і з'ядала той хлеб. Ну вось, няма яго, ну і няма, можна вучыць далей*" (30).

Падабенства паміж жывёлінай і галодным чалавекам у падобнай сітуацыі амаль ідэнтычнае, сцвярджаюць вучоныя.

*"При голодании внимание человека – намеренно или нет, все равно – фиксируется и направляется ко всему, имеющему отношение к питанию, и проходит мимо всего побочного, постороннего делу питания. Особенно ярко это проявляется у собак. Возьмите кусок хлеба или мяса и покажите его голодной собаке. Этим вы сразу прикуете ее к руке с хлебом. Взгляд и вся поза собаки сделаются подобием куска железа, притягиваемого магнитом. Протяните руку направо – и голова собаки повернется туда же, протяните налево – и ее голова идет налево, подбросьте хлеб вверх – и собака начнет подпрыгивать вверх. Все ее внимание оказывается прикованным к пищевому объекту"* (12, 113).

Нешта падобнае згадвае Ніл Гілевіч у аповесці "Перажыўшы вайну", дзе бацькі няшчасных дзяцей звяртаюцца, нібы ў старажытным летапісе, з ласкавымі словамі да суседзяў ("*Міхалінка, або Марылька, Ганначка, выручай, калі можаш...*"), бо просяць ратунку не для сябе. Іншыя не вытрымлівалі галоднага позірку акашчанелых дзяцей і рабілі ўкопкі дачасна – даставалі з баразны дробныя, як арэхі, бульбінкі. Падлеткі і дзеці шукалі і знаходзілі свае спосабы наталення голаду. Каб не так востра смактала пад лыжачкай – зрывалі ў садах зялёныя яблычкі – "чаркачыкі" – і грызлі, пакуль аскоміна не зводзіла пашчэнкі. Не менш арыгінальнымі ўяўляюцца і пошукі іх расійскіх равеснікаў з далёкай Сібіры: "*Голод в тот год еще не отпустил, а нас у матери было трое, я самый старший. Весной, когда пришлось особенно туго, я глотал сам и заставлял глотать сестрёнку глазки проросшей картошки и зерна овса и ржи, чтобы развести посадки в животе, - тогда не придется все время думать о еде. Все лето мы старательно поливали свои семена чистой ангарской водичкой, но урожая почему-то не дождались или он был настолько мал, что мы его не почувствовали. Впрочем, я думаю, что затея эта не совсем бесполезная и человеку когда-нибудь еще пригодится, а мы по неопытности что-то там делали неверно*" (31, 626). Падобныя эксперыменты праводзіць і адзін з герояў твораў Зм. Бядулі. Стары Лявон пасля смерці сына на вайне становіцца жабраком, бо выгараваўся за ўвесь свой век і зусім заслабеў. Ён не можа зарабляць, аднак не хапае яму сілы і адвагі прасіць кавалак хлеба пад чужымі вокнамі: "*Жадаў ён знайсці спосаб, каб зусім не трэба было есці... "Эт! – думаў ён. – Жыў бы я тады адзін-адным, без ніякай людской помачы,*

*вады бы толькі сабе не шкадаваў, што ж, гэтай стравы лёгка дастаць!" – І яшчэ болей заблішчалі яго вочы"* (32, 71). Праўда, эксперымент закончыўся трагічна. Начальства, што прыехала ў вёску, каб разабрацца з новым святым, знайшла толькі сцюдзёны, як лёд, труп Лявона: *"Шчаслівая ўсмешка асталася на твары яго, відаць, у часе ціхага канання радаваўся ён, што пасля свайго апошняга адкрыцця яму ўжо болей не трэба будзе людской помачы чакаць"* (32, 71). Адразу згадваецца показка пра цыгана, які абяцаў каню накарміць яго заўтра. І амаль прывучыў таго, але раптам эксперымент скончыўся: конь здох. І цяпер ёсць адэпты кармлення арганізму энергіяй сонца, месяца, паветра.

Герой згаданай аповесці Н. Гілевіча, у якім адразу пазнаецца аўтар, не зводзіць вачэй з невялічкага, грамаў на 100, кавалка хлеба, давеска, што выпаў з рук добра апранутага мужчыны. Ён не можа адарваць пагляд ад "куплёнага" хлеба і чакае, калі гаспадар адыдзе, каб ухапіць нечаканы скарб. Але разам з падлеткам за ім (хлебам) цікуе і былы франтавік, якому, па ягоных словах, "медалі хлеба не далі". І хлопец саступае, хаця ў хаце яго чакае зусім іншая ежа, пра якую пісалі практычна ўсе беларускія пісьменнікі, што нарадзіліся падчас вайны ці перажылі яе наступствы: *"Дома гэтыя шайморы мама ачышчае ад шалупіння і, абмыўшы ў вадзе, каб не засталося пяску, ссыпае ў вялізную ступу. Таўчы іх таўкачом ахвотна бярэмся мы з братам – на змену. Ахвотна, бо чым хутчэй стаўчом, тым скарэй паласуемся шайморавымі аладкамі. У цеста, чорна-шэрае, як тая ралля, на якой мы іх збіралі, мама дадае два-тры яйцы – "каб аладкі былі трохі разумнейшыя". Есці іх трэба гарачымі, адразу ж са скаварады – тады яны, па-першае, мякчэйшыя, а па-другое – не так чуцен цяжкі трупна-земляны дух. Зрэшты, не з меншым апетытам елі мы іх пасля і халодныя* (33, 327-328).

І яшчэ адзін раз д'ябал спакушае маладога хлопца, калі той прыездзе ў Мінск на нараду маладых пісьменнікаў: *"Толькі цяпер я ўбачыў на падаконніку амаль не цэлую фармавую буханку хлеба. А я ўжо і ўспомніць не магу, калі я ў апошні раз еў гэтакі гарадскі магазінны хлеб! Я павярнуўся да акна, пацягнуў носам – і божа мілы! – як жа мне захацелася зноў пакаштаваць гэтага хлеба!"* Супрацоўнік інтэрната, які засяляў будучага паэта, убачыўшы галодныя вочы юнака, сказаў, што той можа з'есці хлеб, бо масціты пісьменнік, які яго пакінуў, тут жыць не будзе. Ва ўзбуджанай свядомасці творцы адбываецца цэлы дыспут: *"Добра кажа: "Рэж, калі галодны!.." Як гэта – рэж? Калі б гэта сам гаспадар буханкі адрэзаў ды прапанаваў мне хоць лустачку, хоць маленькую лустачку!.. Не толькі не адмовіўся б, а ўзяў з вялікай удзячнасцю. З гэтымі думкамі я сядзеў на ложку і раз-пораз зіркаў на буханку"* (33, 282). Падобныя супярэчнасці характарызуюць паводзіны героя рамана С. Пясецкага "Жыццё раззброенага чалавека" (напісаны ў 1939 годзе ў турме, выдадзены ў Польшчы ўпершыню ў 1957 годзе, пераклад у ARCHE, №5, 2014). Седзячы ў парку, ён не можа глядзець, як тоўстая маці прымушае дзетак з'есці другі сняданак: булачкі з маслам і шынкай. З якім замілаваннем сочыць ён за булкай, якую дзяўчынка свядома кінула, і маці забараніла яе падымаць: *"Булка засталася на зямлі. Я бачыў выдушанае з яе масла і кавалак тоўстай лусты шынкі. Голад падштурхоўваў мяне ўсхапіцца і як мага хутчэй падняць булку, у якой была з'едзена заледзве чацвёртая частка..."* Аднак навокал былі людзі, і ён вырашыў перачакаць, бо заміналі двое мужчын: *"Я чакаў, пакуль яны пройдуць, каб потым падняць булку. Я намагаўся надаць абыякавы выраз свайму твару, каб яны не здагадаліся аб маім намеры. Яны былі блізка. Зараз прамінуць мяне. Раптам (што за паскудства) мужчына ў карычневым гарнітуры зрабіў крок управа і раздушыў падэшваю булку, расціраючы яе на жвіры. Я адчуў моцны боль у грудзях. Моцна сціснуў пашчэнкі. О, калі б мог яго выцяць!"*

М. Чарняўскі, які нарадзіўся ў 1943 годзе, успамінае: *"Жылі бедна, як і большасць вяскоўцаў. Былі рады асцюкаватай скарынцы хлеба, кожнай бульбіне. Прычакаўшы*

*вясны, збіралі яе, гнілую, таўклі ў ступе, пяклі "пышкі", як у нас казалі. Сваёй хапала ў гэты час толькі на пасадку. Выручала шчаўе, поліўка з яго: падбеленая малаком, нярэдка была ў хаце і сняданкам, і абедам, і вячэрай"* (34, 411-412).

Нічога не змянілася і праз гады, калі будучы пісьменнік пайшоў вучыцца ў суседнюю вёску за 13 км. ад роднай хаты. Вяртаўся адтуль *"пад марш галоднага жывата, бо мала ў каго вяліся грошы, каб можна было нечага перакусіць у школьным буфеце ці ў пасялковай рабочай сталоўцы"* (34, 412).

Умовы жыцця ў значнай ступені фармуюць і спецыфіку светаўспрымання, асабістыя густы чалавека, у тым ліку і кулінарныя. Празаік Анатоль Казлоў, які нарадзіўся праз дваццаць гадоў (1962) на Магілёўшчыне, згадкі пра сваё дзяцінства і сталасць назваў даволі рэзка – "Не люблю грыбоў і ягад", бо ўсё лета вымушаны быў шчыраваць у лесе:

*"Магчыма, з-за гэтай дзіцячай раскошы на ягады ды грыбы я цяпер, у сталым узросце, не люблю аніводную лясную ягадзіну, асабліва чарніцы, не цешаць мяне і паходы ў грыбы. Як гаварылі ў нас ў вёсцы, даліся яны мне ў пячонку ў тыя маладыя, дзіцяча-юнацкія гады"* (35, 146-147). Лес, які заўсёды ў паэзіі лічыцца гаючым, на гэты раз прадстае ў іншай іпастасі. У аповесці У.Г. Караленкі сыры падвальны камень высмоктвае сокі, сілы і здароўе з "дзяцей падзямелля", тое ж робіць і лес з беларускімі дзецьмі, якія з самага пачатку школьных гадоў, ад першага класа і да апошняга, трапляюць амаль у прыгонную залежнасць ад яго, становяцца ледзь не рабамі.

Пра гэта ж згадвае Андрэй Федарэнка, апісваючы, што вясковыя дзеці, гадаваныя на прыродзе і сваіх каларытных, натуральных смачных харчах, прыходзілі пасля канікулаў у школу дохлымі, бледнымі, амаль не падрослымі (36).

Яны і глядзець на гэтыя дары лесу не могуць, тым болей іх есці: "Чаму воўк грыбы не есць, калі яны такія смачныя? Дык воўк мяса шукае. Які з грыба наедак?" – пытае сам сябе пісьменнік у адметным эсэ і шматлікіх творах пра маленькую радзіму, дзе дзіцё стаіць перад адзінай праблемай – выжыць.

Гэта ж зусім не труфелі, кошт якіх амаль прыроўнены да кошту дарагіх металаў. Таму і ў грыбах не шукалі экзатычнага смаку, гэта была не аздоба да галоўнага чынніка, як у цяперашняй рэцэптуры, а дамінуючая страва, да якой штурхаў голад:

*"Грыбы елі. І ўсякія грыбы, нават валуі, калі добрых грыбоў яшчэ не расло. Валуі гэтыя вараць-вараць, ваду сальюць, ізноў вараць. Тады горстачку мукі аўсянае ўсыплюць, ізноў вараць. І смарчкі елі, толькі баяліся, каб не атруціцца... Елі і бялянкі, і рыжыкі"* (37, 19-20).

Зусім іншыя адносіны да грыбоў у той час, калі яны не становяцца асновай харчавання з прычыны адсутнасці іншай яды, а проста забаўкай, дадаткам да іншых страў: *"Цяпер прызнаны і ўхваляваны, марынаваны ці салёны, як след прыпраўлены грыбец!"* – вось узнёслы тост багатага застолля, якое ўзнаўляе згаданы вышэй Ніл Гілевіч:

Баравічок марынаваны
Не ўступіць закусі любой!
А рыжык! Пане мой каханы!
Адно падхоплівай губой! (33, 107)

Аўтар у рамане "Родныя дзеці" палемізуе з тымі, хто сцвярджае, што народ любому грыбу рады і бярэ нават порхаўкі. Праўда, бачачы, як некаторыя аматары збіраюць "чэмпіёны" (г.зн. шампіньёны, якія здаўна раслі на нашых лугах, аднак пачалі іх есці толькі зусім нядаўна), ён дапускае, што хутка з'явіцца новы дэлікатэс – запяканка з мухамора або мухамор на скавародзе. Аднак падобныя ўсхваленні лясных дароў даволі рэдкія ў айчыннай літаратуры. Дамінуе зусім іншы пачатак. Згадаем дзясяткі апісанняў, калі героі, галодныя і спакутаваныя,

вымушаныя есці, нібы тыя вавёркі, сырыя грыбы, часта зусім непрыдатныя для ежы (В. Быкаў, І. Пташнікаў). Герой апавядання Зянона, вяртаючыся прыцемкам дахаты, убачыў у саснячку, як паблісквають грыбы сыраежкі. Яму вельмі хацелася есці, бо цэлы дзень нічога не меў у роце, таму рызыкуе: "*Назьбіраўшы ў шапку навобмацак тых сыраежак, Андрэй ішоў у хату і жаваў тыя грыбы, крыху салодкія і пякучыя за язык. І толькі дома ён зразумеў, што наеўся не сыраежак, а мухамораў*" (38, 69).

У такіх умовах мяняецца ўсё ў духоўным жыцці чалавека, бо адсутнасць жыццядайных асноў кардынальна мяняе манеру паводзін, усё падвяргаецца адаптацыі ў адзіным накірунку.

*"Наряду с деформацией такого рода в этой области замечается еще и другая. Голод не только обостряет восприимчивость органов чувств в одном направлении и уменьшает ее в другом, но он тем самым вполне определенно направляет наше внимание в сторону пищевых объектов и явлений"* (12).

Знойдзем вербальную ілюстрацыю да заяўленага тэзіса, бо тут схавана глыбокая навуковая выснова. Вось пра што трызніць падлетак з аўтабіяграфічнай аповесці М. Стральцова:

*"Цяпер яму пахла ўжо чутней за ўсё паранай бульбай, той, што засталася ад раніцы і стаяла ў печы за засланкай у чыгунку, – падсохлая бульба, з падсмяглай аж да чырвані скуркай, такая духмяная, калі расцісню яе, і цёплая. Пахла яму і каржом, таксама падсохлым, у жаўтлявых іскрынках прасяных шароек зверху і з прыліплым спадыспаду попелам, – ах, які гэта смак, калі адламаць сабе адно з тых "акенцаў", на якія дзеляць корж перад тым, як саджаюць яго на лапаце ў печ!"* (39, 228).

Усё ў арганізме асобы, яе свядомасці і памяці працуе толькі дзеля аднаго – знайсці харч. І дзеля гэтага яна пойдзе на ўсё. Згадаем Дж. Лондана: "*Крепко ухватившись за стебель камыша, он выдернул что-то вроде луковицы, не крупнее обойного гвоздя. Луковица оказалась мягкая и аппетитно хрустела на зубах. Но волокна были жёсткие, водянистые и не насыщали*" (11, 465). Так сталася, што перад аблiччам пачварнага ворага аднолькава безабаронныя і *джэнтльмен* з вялікай дарогі, і беларускі юнак, невыпадкова іх спробы выратавання амаль ідэнтычныя.

*"Ён запусціў руку ў падраную кішэню світы і шчопцем грэбаў там за падкладкай, спадзеючыся хоць штокольвек знайсці на падман голаду: хоць крошку каржа ці хлеба, хоць пшанічнае ці жытняе зернейка. І хлебную крошку ён знайшоў, сухую і гаркаватую, як паспытаў на зуб, і аж дзве пшанічыны на астачу: рассмакаваўся і захацелася больш. Сама была пара прыдумаць нешта яшчэ, і на памяць паслухмяна ўсплыло гарышча з гронкамі мерзлай рабіны, падвешанай да шастка, у падсуседдзе да венікаў, з матчынымі журавінамі, насыпанымі на стары задубелы жакецік, і як успомніў пра гэта, не схацелася ўжо сядзець у пограбе".*

Трэба толькі заглушыць голад, прычым любым спосабам, інакш зладжаная сістэма разбурыцца:

*"Ён спахапіўся на думцы, што яму пацяплела. Бач ты, адагрэўся, мусіць-такі, у пограбе, ды і тут зацішна, а ля коміна дык і цёпла зусім: добра цяпер, зімою, паляць у печы. Ён набраў сабе ў жменю журавін, адшчыкнуў рабінавую гронку: сядзеў, прыхінуўшыся плячамі да коміна, і паволі, жмурачыся, спрабаваў на зуб, качаў у роце гаркава-кіслыя, сцюдзёныя ягады. Скора яму надакучыла гэта, ды і ў горле перасела і нешта ўжо балюча казытала там"* (39, 229). Фізіялогія стрававання аналагічнай будовы. У безыменнага героя Лондана ад балотных ягадаў "*язык распух, стал сухим, словно шершатистым, и во рту был горький вкус*" (11).

У падобным стане знаходзіўся герой Гамсуна, якога голад мучыў без перапынку і, каб пазбавіцца яго, ён то лізаў трэску або адарваную ад курткі кішэню, смактаў камень ці падбіраў счарнелую апельсінавую скурку.

Дзеці вайны, героі апавядання Івана Чыгрынава "За сто кіламетраў на абед", жывуць з пастаянным адчуваннем голаду:

*"А мы па-ранейшаму хацелі есці. Як заходзіў год за год, так і голад за голадам ішоў... Каб хоць трохі пад'есці, мы, здаецца, гатовы былі ісці на край свету"* (40, 47).

Яны зайздросцяць Васілю, якога забралі ў дзіцячы дом, дзе ён не будзе галадаць, бо там даюць фасолю і амерыканскія кансервы; згадваюць салдацкія кухні, з якіх даўным-даўно іх пакармілі; ад безвыходнасці ловяць у гнёздах хілаватых птушанят драздоў, якіх пасля смажылі. Няма нічога новага ў свеце. Галодны герой Дж. Лондана, зачапіўшыся, падае на кубло курапатак: "*Там было четыре только вылупившихся птенца, не старше одного дня; каждого хватило бы только на глоток; и он съел их с жадностью, запихивая в рот живыми; они хрустели у него на зубах, как яичная скорлупа"* (11). А. Федарэнка апавядае пра чалавека, які вожыкаў еў, кідаючы іх жывых у печ і прыкрываючы засланку цэглай (41, 173). Дзеці з твора І. Чыгрынава рабуюць палоннага немца, з торбы якога вытраслі на траву дзесяць сырых бульбін, два акрайцы пушнога хлеба, які ад дотыку рассыпаўся ў руках, ды яшчэ палавіну яешні, можа, з чыйго святочнага стала. І нарэшце збылася іх мара: загадчык дзетдома, куды яны з прыгодамі дабраліся, загадаў: "Ідзіце абедаць". Сучаснае дзіця гэтага не можа зразумець. Псіхолагі гавораць, што каб цяперашняму жыхару горада запомнілася вячэра, трэба, каб на ёй прысутнічала тайванская прынцэса. А вось звычайны абед у дзетдоме стаўся ці не самай яскравай падзеяй у жыцці гурта маленькіх дзяцей, што дзеля яго здзейснілі незвычайнае, як для іх узросту, падарожжа.

Ды і будзённая страва становіцца насалодай для таго, хто пастаянна галодны, як у аповесці І. Сяркова: "*Бульба ўжо зусім халодная, але на дзіва смачная. Не запальваючы агню, я макаю яе ў соль і не магу наесціся"* (42, 155). Тое ж самае характэрна для героя Якуба Коласа*: "Крапіва з шчаўем, першая новая веснавая страва, была вельмі смачная, і Юрка аплятаў яе з ахвотаю, моцна сёрбаючы і шморгаючы носам"* (43, 187).

Герой твора Ул. Някляева з дзяцінства памятае толькі, што "*біўся і мяне білі, і быў заўсёды галодны"* (44, 370). Чалавек, *вянец прыроды*, не можа разгарнуцца цалкам, развіць свае здольнасці, яму не да высокіх матэрый, да таго, што робіць яго чалавекам.

Сувязь паміж разумовай дзейнасцю і фізічным станам чалавека падкрэсліваў П. Сарокін, які аналізаваў уласную мажлівасць займацца навукай у надзвычай неспрыяльных умовах.

*"Лично я в марте-апреле 1919 г. при недостаточном общем питании и почти полном отсутствии жиров животного и растительного происхождения заметил за собой относительный спад умственной работоспособности. В 1918–1921 гг. мне довелось беседовать на эту тему со многими профессорами и работниками умственного труда Петрограда, и почти все они жаловались на упадок умственной энергии и работоспособности. И объективно за эти годы большинство из них сделали гораздо меньше, чем в предыдущие – сытые – годы. Число не только напечатанных, но и написанных работ за эти годы меньше. Если возьмем статистику вышедших в центрах книг (наименований) и периодических изданий, то даже по сравнению с 1917 г. оно меньше, не говоря уже о том, что серьезных трудов за эти годы почти не выходило, а выпускалась всякая макулатура"* (12, 129-130).

У жартаўлівай форме гэтая ж праблема ўвасоблена ў славутым сатырычным творы Ільфа і Пятрова:

"*Лев Толстой, – сказал Коля дрожащим голосом, – тоже не ел мяса.*

*– А когда он писал «Войну и мир», он ел мясо! Ел, ел, ел! И когда «Анну Каренину» писал – лопал, лопал, лопал! Попробовал бы он «Войну и мир» написать, сидя на вегетарианских сосисках".*

Карусь Лапаць, *alter ego* Якуба Коласа, скардзіцца на неспрыяльныя ўмовы для творчасці, калі чалавеку зусім не да пісаніны: "*Прыйдзеш часам з поля дадому, есці хочацца. Жывот раве, як Кандратавы жорны*" (43, 187).

Тое самае сцвярджае і Л. Савёнак, герой якога спачатку ўспрымае заключэнне ўрача як дасціпны жарт:

*"– А што ў чалавека калупаць? Мазгі, – кажа, – гэта дрэнь, густы кісель і больш нічога. І галава,– кажа, – патрэбна чалавеку хіба як пакрыўка для тулава, каб у жывот лішняя вада не зацякала. Бо сам бачыш, што кожны чалавек жыватом наперад ходзіць, а не наадварот, а значыцца, і ўсё чалавецтва жыватом наперад рушыць..."* (45, 231).

Класічны філасофскі дыспут пра спрэчкі канкрэтных частак цела чалавека вырашаецца ў агульнапрынятай шкале вартасцяў:

*"– Я тады пасмяяўся з ягоных словаў. Але неяк пазней давялося мне тры дні не есці. Дык што вы думаеце? У чалавека нейкія думкі, апрача тое, што кажа жывот. Вось тады і паверыў таму дзіваку-доктару. Знацца, калі чалавек не прападае, у яго спраўны жывот, а галава тут зусім лішняя?"* (45, 231).

Эразм Ратэрдамскі пісаў, што на розум вельмі лёгка накідваюць цуглі іншыя жарсці чалавечыя і вядуць яго куды захочуць, асабліва калі жывот з сумленнем змагаецца. Развіваючы гэты тэзіс, славуты афарыст Е. Лец сцвярджаў: "*У барацьбе паміж сэрцам і галавою заўсёды перамагае страўнік*". Ф. Ніцшэ не разумеў, адкуль можа ўзяцца "воля да жыцця" пры дрэнных харчах. Дарэчы, ён не любіў цяжкую для страўніка, паводле ягонага ўспрымання, нямецкую кухню, тлумачачы паходжанне нямецкага духу з сапсаванага жывата. Ды і да ангельскай ён адносіўся не лепш, бо яна дае духу "*цяжкія ногі – ногі англічанак*".

А многія дзеячы беларускай культуры знаходзіліся гадамі ў падобнай сітуацыі. Па сутнасці, і станаўленне, і эвалюцыя новай беларускай літаратуры былі жорсткай данінаю голаду. Хаця і не заўсёды.

*"Перед каждым Новым годом Иван Шамякин и Янка Брыль ездили на "Победах" в Раков покупать молочных поросят. В 1960-е годы, уже на "Волгах-21", часто отправлялись по субботам на базар в Столбцы. Где-то по дороге заходили в придорожный ресторан: он славился отменным супом и самодельными пельменями и черной икрой... Довольно часто в «писательском доме» покупали буженину, ветчину, шинку, грудинку"* (46, 165) – згадвае дачка аднаго класіка.

Аднак гэта хутчэй выключэнні, якія падцвярджаюць агульнае правіла, бо інтэлігент, герой твора М. Стральцова 1964 года, жывіцца інакш: "*Вячэраў ён сырадоем і недаедзеным у абед зачарсцвелым акрайчыкам хлеба*" (39, 125); *"узяў кошык, акраец хлеба і жаўтлявы мяккаваты шмат сала"* (39, 10).

Як сведчаць фізіёлагі, мацней за ўсё ад недахопу пажыўных рэчываў пакутуюць менавіта вышэйшыя і складанейшыя формы разумовай дзейнасці. Стан чалавека, які пакутуе ад голаду, апісвае Дж. Лондан: "*Странные мысли и нелепые представления точили его мозг, как черви*" (11).

*"Голад вымаразіў ім учуцці ў грудзі і слёзы ў вачах высушыў"* (47, 511), – так апісвае сваіх герояў Эліза Ажэшка. Вучоныя даказваюць, што нават у сабак падчас галадання немажліва выпрацаваць новыя рэфлексы, а тыя, што з'явіліся, існуюць зусім нядоўга. Найперш знікаюць штучныя ўмоўныя, затым – натуральныя, і менш за ўсё падвергнуты зменам безумоўныя рэфлексы. "*Последовательность исчезновения рефлексов перед смертью находится в обратном отношении к порядку их появления в ранний период жизни*", – лічыць М. Фралоў. Не раўнуючы звычайных жывёл з *homo sapiens*, вучоныя бачаць адзінства ў эвалюцыі ўсяго жывога на зямлі: "*Нечто похожее, по-видимому, имеет место и у людей...*"

Згаданы раней верш М. Някрасава ўздымае складанейшую праблему, якая закранае не толькі сацыяльныя і бытавыя аспекты. Што такое народ? Хто

рухае цывілізацыю? Дзеля чаго твораць людзі? Чые задумы ажыццяўляе самая безабаронная і самая актыўная ў гэтым працэсе каста? Што прымушае чалавека да працы? Няўжо толькі голад, толькі прага выжыць? Няўжо ён прымусіў малпу злезці з дрэва і заняцца працай? Няўжо прага хлеба прымусіла прыдумаць кола, зрабіць плуг і навучыцца гадаваць жывёлу? Якраз пра гэта гаворыць Янка Маўр у аповесці "Чалавек ідзе", дзе ён у мастацкай форме ілюструе асноўныя палажэнні энгельсаўскай "Дыялектыкі прыроды".

Пытанне толькі на першы погляд рытарычнае. Павук дае павуціну, карова – малако, авечкі – воўну, але хто ж стварае Калізеі, Луўры, чыгункі, паравозы, гарады? Народ? Няўжо "*варвары, дикое скопище пьяниц*" – як вызначае паняцце *народ* генерал у "Железной дороге" – вырашаюць сутнасць цывілізацыі? Дыскусіяй паэт прадказвае тое, што праз пэўны час скажуць навукоўцы, у прыватнасці, выдатны сацыёлаг Піцірым Сарокін у сваёй славутай працы "Голод как фактор":

*"Мы представляем собой чудесный трансформирующий аппарат, перерабатывающий энергию куска мяса или хлеба в «Героическую симфонию» Бетховена, трагедию Шекспира, «Principia» Ньютона, «Моисея» Микеланджело, в засеянное поле крестьянина, кусок сукна рабочего – словом, во все то, что зовется предметами и явлениями «культуры» во всех ее бесчисленных проявлениях, начиная с первобытного каменного топора и кончая современными городами с их библиотеками, музеями и зданиями, с их фабриками, заводами и бесконечно сложной жизнедеятельностью. Все эти явления культуры – особые формы мировой энергии или мирового бытия, появившиеся благодаря переработке низших форм энергии чудесной машиной, называемой человеком"* (12, 8-9). Магчыма, эстэтам ад чыстага мастацтва можа падацца, што тут дамінуе фізіялагічны пачатак: могуць узнікнуць асацыяцыі з каровай, штоператварае зялёную траву ці сухое сена ў самы дасканалы прадукт прыроды – малако. Аднак гэта так, бо эвалюцыя чалавека і грамадства ў выключнай ступені залежаць ад першаасновы.

*"Раз жизнедеятельность человека сводится к очерчиваемому процессу обмена веществ (получению энергии, ее переработке и расходованию), то, очевидно, поведение людей находится в сильнейшей зависимости от первого члена этого ряда, т.е. от того, какая энергия и в каком количестве поступает в человеческий организм. Подобно тому, как работа любой машины зависит от качества и количества поступающего в нее топлива, так и работа (поведение) человека-машины прямо или косвенно обусловлена количеством и качеством энергии, получаемой им извне. Вполне логично поэтому предположить, что поведение человека представляет собой в известной мере «функцию» количества и качества получаемой им энергии как «независимой переменной». Поскольку же всякий социальный процесс, в конечном счете, состоит из совокупности человеческих актов и поступков, то очевидно, что и социальные процессы обусловлены этой независимой переменной"* (12, 42). Слушнасць падобных думак падкрэсліваецца і тым, што здаровы чалавек заўсёды хоча есці. У мастацкай літаратуры шмат сцэнаў, калі толькі хворыя і нядужыя адварочваюцца ад яды. Згадаем "Евангелле", дзе гаворыцца пра ўваскрасенне мёртвай дзяўчынкі: "*І вярнуўся дух яе, і яна зараз жа ўстала, і Ён распарадзіўся, каб далі ёй есці*" (Лк, 8:55). Толькі хворыя жывёлы цалкам адмаўляюцца ад ежы. Так, жывёлы з "Фермы" Джорджа Оруэла адчулі недарэчнасці ў паводзінах кабылкі Молі, якая скардзілася на нейкі загадкавы боль, хоць апетыт у яе заставаўся цудоўны. Без паліва спыняюцца ўсялякія машыны, без харчу заміраe дзейнасць чалавека. Успомнім старонкі "Палескіх рабінзонаў", дзе апісваецца голад маленькіх герояў:

*"З кожным днём хлопцы слабелі ўсё болей і болей. Разам з тым псаваўся і ўвесь іх настрой. Часта ў іх наогул ніякага настрою не было – ні добрага, ні кепскага, – а так, нейкая абыякавасць.*

*Ім здавалася, што яны гэтак усё сваё жыццё бадзяюцца і будуць век бадзяцца; яны забываліся на свой дом, на тое, што павінны прыйсці бандыты і надыходзіць рашучы момант.*

*Нарэшце аднаго разу Віктар заўважыў, што ўвечары ён чамусьці пачаў дрэнна бачыць. Дзівіўся, цёр вочы – нічога не памагала.*

*– Што гэта такое можа быць? – ламаў ён галаву.*

*– Гэта, мусіць, курыная слепата, – сказаў Мірон. – Яна бывае тады, калі чалавек марнее ад дрэннага харчавання.*

*Яны ўжо і хадзіць не мелі ахвоты. Часам па некалькі гадзін ляжалі нерухома.*

*Аднаго разу яны гэтак ляжалі пад кустом на палянцы і мутнымі вачыма пазіралі навакол. А дзень быў ясны, прыгожы. Уверсе шчабяталі птушкі, унізе гулі розныя мухі, жукі, мільгалі матылі”* (48, 165).

Абыякавы да сваіх нашчадкаў сусвет забывае пра іх, дбаючы пра болей шчаслівых насельнікаў. “*Муки голода уже притупились, но он чувствовал, что ослаб. Ему часто приходилось останавливаться и отдыхать... А больше всего его донимало сердце. После нескольких минут пути оно начинало безжалостно стучать, а потом словно подскакивало и мучительно трепетало, доводя его до удушья и головокружения, чуть не до обморока”* (11, 467). Надзвычай уражваюць сцэны канваіравання зусім саслабелага вязня В. Шаламава, які практычна не мог рухацца.

Гумарыстычна ўзнаўляе падобную сітуацыю вядомы фельетаніст Л. Савёнак у фрагментах “З запісной кніжкі супрацоўніка «СБ»”: “*1921 год, студзень. Учора хацелася есці, сёння хочацца і заўтра будзе хацецца”* (45, 88). Менавіта таму на заўвагу рэдактара, што слова *глава* трэба перакладаць як *старшыня*, а не галава, журналіст адказвае: “*Ды гэта не мае значэння – і глава, і галава – усё гэта дрэнь. Галоўнае ў чалавека – жывот. Калі ён пусты, дык і ў галаве не дужа поўна будзе”*. Галодныя супрацоўнікі думаюць не пра юбілей газеты, сто нумароў якой уяўляюцца дробяззю перад сотняй фунтаў мукі! “*У цябе ўсё мука ў галаве, – упікнуў яго рэдактар, – а аб справе дык ты не думаеш”*. Галоўны па газеце, пад’еўшы бульёну з воблай у асобным кабінеце, рэкамендуе супрацоўнікам уласныя жываты, што, як сабакі вурчаць, тужэй падпаразаць. Але цяпер колькасць радкоў, надрукаваных у газеце, усе пераводзяць на вагу воблы, якую можна купіць на ганарар. Па сутнасці, А. Мрый увасобіў сэнс жыцця ў выслоўі – “Жыў чалавек, жыве яго вантроба”. І дае апісанне Яўтуха Абжэры, жыхара вёскі Галадранкі, які “*мае рост 2,3 м, а вагу сем пудоў, не мае пуза, а есць як у прадонніцу. Нядаўна яго жонка пайшла некуды і не паспела даць яму аніякіх дырэктыў. Дык што б вы думалі? Ён сам палез у печ, з’еў чыгун бульбы, падрыхтаваны для кормнага парсюка, буханку хлеба 10 хунтаў і ражку з цялячым пойлам выпіў”* (49, 107). Але далёка яму да гашэкаўскага Балоўна.

Чалавек, пазбаўлены яды, не можа выконваць свае сацыяльныя функцыі. Невыпадкова яшчэ Гіпакрат падкрэсліваў, што падчас голаду людзі не павінны працаваць. Герой Гамсуна не можа напісаць артыкул, хоць ужо заявіў пра сябе як журналіста; чалавек у чырвоармейскай зношанай адзежы гатовы дапамагчы зняможанаму бацьку выкапаць магілу і пахаваць маленькую нябожчыцу: “*Я памагу, толькі раней каб мяса прычакаць, і хоць колькі разоў укусіць. Я не вытрымаю з голаду...”* Яго падтрымлівае таўстаматы персанаж: “*Зварым мяса, паямо, бо ўміраем з голаду, і паможам”* (50, 183). Мяса заўсёды асацыіруецца з сілай. Мяса – гэта сімвал улады, бо ад яго ідзе цялесная сіла, мужнасць, баявы дух. Доступ да яго выразней за ўсё падкрэслівае сацыяльны статус асобы. Архіўныя запісы сведчаць, што пасля пераезду ўраду ў Маскву Ленін атрымліваў на сям’ю на месяц 20 кг мяса, а Сталін – толькі 2. Можа і гэты факт падштурхнуў да змагання. Кавалачак мяса вызначае долю чалавека, нават ягонае жыццё. Згадаем баксёра са славутага аднайменнага апавядання Джэка Лондана: “*Выйдя из клинча, Сэнди пошатнулся,*

*– судьба его висела на волоске... И снова Том Кинг с горечью подумал о куске мяса и пожалел, что не пришлось ему подкрепиться для последнего решающего натиска"* (11, 451).

Якраз чужой плоці не хапае ветэрану рынга для перамогі (нестае сілаў, каб нанесці рашаючы ўдар), а таму ён пераможаны як зараз, так і ў будучым жорсткім жыцці, дзе яго чакае смерць. Аслабелая на шчаўі (бацька загадаў эканоміць грошы) гераіня рамана Г. Марчука "Крык на хутары" менавіта з-за таго, што не ела мяса, не мае сілы ўцячы ад гвалтаўніка і гіне разам з ім у хвалях Гарыні. Для гераіні рамана Алеся Адамовіча, якая трапляе ў безвыходнае становішча, галоўнай каштоўнасцю на свеце становіцца разлітае напярэдадні малако. Як і для маладзенькага ўрача з апавядання М. Булгакава, які у часы разрухі згадвае кавалак масла, ад якога ён некалі адмовіўся, але і цяпер бачыць яскрава прамасленую паперу, дзе быў схаваны гэты скарб *"с впадинами от пальцев, с проступающей на ней росой"*. Як паэтычна апісваецца, здавалася б, такая будзённая рэч.

А. Бальзак у "Трактате о современных возбуждающих средствах" (1839) пісаў: "*Судьба народа зависит от его пищи и диеты. Те, кто едят рыбу, рождают девочек, те, кто едят мясо, рождают мальчиков, те, кто едят хлеб, рождают мыслителей"*. У наш час гэты зыходны тэзіс знаходзіць сваё пацверджанне.

Доктар Лант, даследчык творчасці Толкіена, лічыць, што паражэнне оркаў у баях з людзьмі, эльфамі і гномамі адбылося праз тое, што яны пакутавалі ад авітамінозу. Калі б яны маглі хоць зрэдку есці пірог з заварным крэмам, або салату, вэнджанага ласося, гісторыя для іх была б лепшаю. Якраз апошняе дае падставы правесці аналогіі паміж віртуальнай краінай і нашым краем, бо клімат Беларусі найбольш дакладна адпавядае клімату Міжзем'я.

Нельга ў такіх варунках ацэньваць паводзіны чалавека, зыходзячы з агульнапрынятых умоў сацыяльнага жыцця, "бо *моральные ценности как мнимые ценности во сравнении с физиологическими" (51)*.

Пра гэта рашуча заявіў Ф. М. Дастаеўскі*: "Ты возразил, что человек жив не единым хлебом, но, знаешь ли, что во имя этого самого хлеба земного и восстанет на тебя дух земли, и сразится с тобою, и победит тебя, и все пойдут за ним, восклицая. Знаешь ли ты, что пройдут века и человечество провозгласит устами своей премудрости и науки, что преступления нет, а стало быть, нет и греха, а есть лишь голодные"* (10, 230).

Падобную выснову не менш афарыстычна сфармуляваў і Кузьма Чорны. Беларускі пісьменнік апавядае, як маленькая Аміля нясе бацьку *"нішчымны хлеб, сухі, вымучаны з апошняй мукі"* і бачыць сцэну прыніжэння роднага чалавека, які пераносіць абразу як належнае. "*Калі чалавек кожны дзень у голадзе і холадзе, дык тут ужо ўсякія межы і ўстанаўленні руйнуюцца"*,– сцвярджае пісьменнік у аповесці "Лявон Бушмар". Доўгі пакутлівы голад становіцца прычынай неадэкватных паводзін героя Гамсуна, які здзяйсняе ўчынкі, што супярэчаць звыклым жыццёвым нормам. Так, ён прадаў ліхвяру камізэльку, а грошы аддае жабраку і ў пакутах блукае сярод натоўпу сытых людзей, рэальна адчуваючы зняважлівую пагарду. Чалавек у падобным стане можа быць неадэкватным. Герой Джэка Лондана першую частку золата, якую ўжо не мог несці, хавае пад камень, каб потым знайсці, а другую праз некаторы час высыпае проста на зямлю; ён спрабуе злавіць голымі рукамі аленя або курапатку, хаця добра ведае недасягальнасць сваіх намераў; імкнецца выкапаць чарвяка ў вечнай мерзлаце, хаця добра ведае, што яны там не жывуць.

Пазбаўленыя харчу людзі паводзяць сябе неадэкватна: "*Какой голод, – удивился Мо Хун и показывает на мух, летающих по камере"*. Ле Гофф пісаў, што "*даже на уровне повседневной жизни полуголодные, дурно питающиеся люди были предрасположены ко всем блужданиям разума: снам, галлюцинациям,*

*видениям"*. Дж. Лондан згадвае, што ягонаму герою ноччу сніліся шыкоўныя сталы, застаўленыя ежаю. Пра гэта піша і М. Салтыкоў-Шчадрын. Біёлагі сцвярджаюць, што ў шэрагу выпадкаў "*начинают появляться бредовые состояния, ясность сознания мутнеет, наступает «голодный психоз» – душевная жизнь резко расстраивается"*.

Нешта падобнае згадвае Я. Баршчэўскі ў "Шляхціцы Завальні", калі ў раздзеле "Думкі самотніка" апавядае пра Лебядзіны год. Падчас шведскай вайны валадарылі па ўсёй Беларусі голад і чума. Зямля тады была без снегу, нагадваючы бясплодныя стэпы, паўночны вецер забіваў сваім дыханнем кволую рунь, ад моцных маразоў трэскалася зямля, рыба гінула ў скаваных лёдам азёрах. І тады адбывалася нечаканае: у вёсках апоўначы пад вокнамі некаторых хацін здарыліся незвычайныя і страшэнныя цуды: сонных абуджаў моцны крык дзіцяці, але калі хто выходзіў, каб забраць дзіця ў хату, дык нікога не бачыў на панадворку і плачу не чуў, а толькі вылі каля суседніх дамоў сабакі. Такія выпадкі, "часта паўтараючыся, даводзілі ўсіх да найвялікшай роспачы" (52, 491). На гэтым засяроджвае ўвагу і М. Ляскоў, апісваючы голад саракавых гадоў XIX ст. у раздзеле "Юдоль": "*В народе стало усиливаться мрачное озлобление. Мужики ни за что, просто били своих жен, старики обижали ребят и невесток, и все друг друга укоряли хлебом и один на другого все призывали пропасть: «О нет на вас пропасти»*. Некалі старажытныя грэкі распавядалі пра пакуты Тантала, які стаяў па шыю ў вадзе, але не мог напіцца; над ім віселі галінкі з раскошнымі пладамі, якія адразу ўзляталі ўгору, калі той працягваў да іх руку. Тут ужо не да высокай эстэтыкі, як у апавяданні Ф. Кафкі "Мастацтва галадання", дзе расказваецца аб працэсе ўзвядзення гэтай справы ў ранг своеасаблівага эстраднага мастацтва з далейшым ператварэннем у масавае папулярнае шоў: *кожнае галадаванне мае сваю мяжу з усімі вынікаючымі з гэтага наступствамі*. Пра нешта падобнае гаворыцца ў драме "Галадар" С. Кавалёва, створанай на аснове славутай навэлы. У наш час ужо не вышэйшыя сілы, а, наадварот, зусім рэальныя, ствараюць не горш пачварныя ўмовы для пакутаў чалавека.

Гавораць, што свойская свіння, пазбаўленая догляду, ужо праз пакаленне вяртае знешні выгляд і нораў сваіх далёкіх здзічэлых продкаў. Чалавек зусім недалёка адыходзіць ад яе, бо пераўтвараецца ў складаных варунках у нейкую звыродную істоту, і ўсё выпрацаванае культурай людства імгненна знікае. Вось як апісвае амерыканскі пісьменнік збыдлячэнне героя: "*Стал подкрадываться к куропаткам ползком, как кошка подкрадывается к воробьям*; *Он сбросил свою поклажу и на четвереньках пополз в камыши, хрустя и чавкая, словно жвачное животное"* (11, 464). Культурны слой у чалавеку настолькі мізэрны, што знікае вельмі, вельмі хутка, падчас без астатку. Згадаем ужо цытаванага французскага класіка:

*"Рандель чувствовал голод, зверский голод, тот голод, что заставляет волков кидаться на людей.*

*И голод нестерпимый, дикий, ненасытный, сводящий с ума голод, сразу охватил Ранделя с такой силой, что он готов был, как хищный зверь, накинуться на стены"* (1, 415).

Падобны вобраз з'яўляецца і ў паэзіі Л. Дранько-Майсюка: "*А ў парозе плешча мора, голад кінецца на дзверы"*. Разбойнікам прадстае голад у "Так сказаў Заратустра" Ф. Ніцшэ, бо мае звыродлівую натуру*: "У лясах і балотах нападае на мяне голад і глыбокай ноччу"*.

Свой славуты "Архіпелаг Гулаг" А. Салжаніцын пачынае з зацемкі з часопіса "Природа", дзе паведамлялася, што ў падземнай лінзе лёду знойдзены замерзлыя прадстаўнікі фаўны, якія, нягледзячы на тысячагоддзі, аказаліся настолькі прыгоднымі для ежы, што ўдзельнікі гэтай акцыі, разбіўшы лёд, з'елі іх. Пісьменнік згадвае, што з гэтага *неасцярожнага* запісу нешматлікія чытачы навуковага часопіса

могуць зразумець, што ў вечнай мерзлаце мяса доўгі час не псуецца, але пасапраўднаму зразумець інфармацыю змогуць толькі людзі, якія могуць "*охотно съесть тритона*: *Мы – сразу поняли. Мы – увидели всю сцену ярко до мелочей: как присутствующие с ожесточенной поспешностью кололи лед; как, попирая высокие интересы ихтиологии и отталкивая друг друга локтями, они отбивали куски тысячелетнего мяса, волокли его к костру, оттаивали и насыщались"* (53, 7-8).

Безыменны шукальнік золата ў Дж. Лондана гатовы грызці не толькі косткі аленя, але і нават косці былога сябрука Біла, якога разадралі шэрыя драпежнікі. У Кузьмы Чорнага чытаем, што зубы галоднага гатовыя раструшчыць камень.

Амаль фантастычную сцэну стварае ён ў рамане "Млечны шлях". Апісанне ў зачыне месца дзеяння практычна пазбаўлена часава-прасторавых прывязак да канкрэтных рэаліяў. Складваецца ўражанне, што мы не ведаем, у які час і дзе адбываецца дзеянне. Ды гэта і не істотна для філасофскай задумы твора. Па сутнасці, перад намі часы дапатопныя, дагістарычныя. Месца дзеяння – уся зямля. І не так істотна, на каго палююць людзі: на бугая ці на маманта. Нас не цікавіць, у што яны апрануты, якую маюць зброю, бо перад імі стаіць адзіная задача, што трывожыла чалавецтва на працягу ўсёй так званай цывілізацыі. Ды і знешне яны больш падобны на далёкіх дзікуноў, чым на людзей XX стагоддзя. Неахайныя, у лахманах, з бегаючымі вачыма, яны знаходзіліся ў стане апатыі, абсалютнай абыякавасці і толькі рык быка абуджае іх. Рыканне жывёліны набывае роўназначнасць радаснай вестцы, якая нясе надзею на доўгачаканы ратунак, вочы ажылі, а затым засвяціліся надзеяй і чаканнем, рысы твару набылі рухавасць.

У кампаніі некалькіх чалавек, якія па волі лёсу становяцца паляўнічымі, як іх дагістарычныя продкі, аб'яднальным фактарам становіцца голад. Кожны з іх кідае па фразе, дзе падкрэслівае, што паміраe з голаду, бо ўжо некалькі дзён зусім не еў. Яны дзівяцца таму, што яшчэ жывыя, хаця холад абыякавасці пачынае дамінаваць над імі. Аднак нечаканая надзея дае спадзяванне на лепшы зыход. Усе пускаюцца ў пагоню за зверам, у якога ператварылася мірная свойская жывёліна. У змрочнай свядомасці абуджаюцца спрадвечныя інстынкты: праследаванне няспыннае, каб ахвяра стамілася і змаглася, захоп з флангаў, загон у агароджанае месца і само забойства, калі ўдар фінкі трапляе проста ў горла магутнай істоце, ад якога яна амаль адразу канае.

Уся пагоня адбываецца пад знакам голаду, які не дае ні хвіліны адпачынку сваім ахвярам: адзін з іх падчас пагоні падымае з-пад ног нейкі высахлы корань і пачынае яго жаваць, другі рвануў з прымерзлай зямлі кусцік счарнелай травы і сціснуў яе зубамі. Гэтая пагоня – сімвал адвечных марных спадзяванняў, што рухаюць чалавецтва, якое яшчэ ой як блізка да жывёльнага свету.

Наша зямлячка Альфрэда Старша-Манішэўская ў кнізе "Where the devil says goodnight" ("Дзе д'ябал кажа «Добрай ночы»"), напісанай пасля ссылкі на Поўнач, згадвае, што "*голад прымусіў яе есці суп з рыбных вачэй, сабачае мяса і жэле са скураных рамянёў"*. Саслабелы герой твора Янкі Маўра валачэ пінгвіна, адрэзвае яму галаву і дае ўсім напіцца крыві (54).

Як гэта ўсё далёка ад славутай тырады Сабакевіча: *"Мне лягушку хоць сахаром облепи, не возьму ее в рот, и устрицу тоже не возьму: я знаю, на что устрица похожа"*. Хаця М. Гарэцкі апавядае гісторыю, як паны з'елі ката, якога з безвыходнасці кухар стушкаваў замест зайца. І былі вельмі і вельмі задаволеныя.

Псіхалогію галоднага чалавека падкрэслівае і Гарэцкі:

*"Калі маюць што з'есці, дык з'ядуць у вёсцы з брудам і пылам. Абальюць стол, выпацкаюць грудзі і вымасляць пальцы, быццам... аб калёсную памазку. З'ядуць дар натуры так, як застанецца ён проста з уроды: з зямлёю, з шалупою"* (55, 83). Тут не да прыгажосці хоць з этычнага, хоць з эстэтычнага боку. Калі ў рамане К. Чорнага "Млечны шлях" закладалі свежапарэзанае мяса ў чыгуны і заліваюць

яго вадою, то ніхто нават і не падумаў мыць ці хоць спаласнуць ад крыві ці бруду, бо яно валялася на падлозе. Тут няма той млоснасці, што ўзнікае ў арыстакратаў, якія пакуль яшчэ знаходзяцца ў больш-менш спрыяльных умовах. Згадаем аднайменныя творы французскіх класікаў. Гэта толькі герой Глобуса бачыць, што "*ў гандлярکі шашлыкамі тоўстыя лыткі ў рагах гразі*" (56, 66). "*Аппетит*, – сцвярджаюць Cannon і Washbarn – *может существовать отдельно от голода. Например, когда мы едим только вкусные деликатесы с целью удовлетворения нашего вкуса*". Голад можа існаваць асобна ад апетыту, таму чалавек вымушаны есці не толькі нясмачную ежу, але і нават ванітную.

Згадаем багабойную місіс Саўербэры, шчодрасць якой у адносінах да Олівера Твіста "*выражалась в том, что она, не скупясь, наделяла его отвратительными объедками, которые никто другой не стал бы есть*" (57, 54). Гучыць амаль як рэпліка з кінафільма "Аднойчы ў Амерыцы": "*Эту гадость не может есть даже еврей. И горчица не поможет*". Суседзі па сталу героя аповесці пра *гідкасці* "Млосці" А. Глобуса пралетарыі. Іх не навучылі хваліць тое, што ясі. Вось чаму яны ўсклікаюць: "*– Смак дзіўны! – А ў мяне адны жылы*".

Героі апавядання П. Васючэнкі "Гульня ў спортлато" харчаваліся надзвычай далікатнымі рэчамі, пераважна каровінымі цыцкамі, капытамі й косткамі: "*Аднойчы з'елі кактус са смятанай і нічога, не ўмерлі. Таму і ныркі яны зварылі не памыўшы, не вымачыўшы, не зліўшы першую ваду, не сабраўшы шумавіння. А калі засмярдзела, то дадалі перцу, солі і з'елі*" (28, 34).

Падарожныя з рамана "Млечны шлях" гатовы есці ля дамавіны з маленькай дзяўчынай. І толькі выкрык аднаго з іх прымушае галодных адумацца і вынесці ў сені чыгуны з вараным мясам. З якой удзячнасцю паглядзеў на яго той, што ўвесь гэты час стаяў над нябожчыцай. Але толькі самы старэйшы з прыхадняў зразумеў гэты позірк.

А наогул нікога не бянтэжаць учынкі герояў, змучаных умовамі бытавання: "*Увайшоўшы ў хату, Павел запаліў лямку і дастаў з гарачай яшчэ печы гаршчок са стравай, якую зварыў сабе раніцай на цэлы дзень. З яго мокрай світкі струменьчыкам сцякала вада. Не скідаючы світкі, ён сеў на лаве і пачаў чэрпаць драўлянай лыжкай з гаршка*" (58, 327). Бо мы ўжо маем у менталітэце класічна-спрадвечнае "*разам жывець і есць са свінкай, з канём разам п'ець ваду*" (59, 39). Згадваецца аднекуль – вароны ірвалі дохлага сабаку нібы людзі.

Сакрат Яновіч у ХХ стагоддзі пісаў: "*У бясхлебнай айчыне няма патрыятызму. Бедныя знікаюць без следу. У галодніка не бывае гонару, хоць Бог чалавекападобны. З'ядаюць басоту не ідэі, а голад і холад*".

Голад можа штурхнуць на самыя несамавітыя ўчынкі. "*Смачна ядуць, чэрці!*" – *думаў часам Міколка, збіраючы сваю калекцыю. У апошнюю ўваходзілі паперкі ад цукерак, малюнкі на розных бутэльках. Самі цукеркі жаруць, салодкую гарэлку п'юць, а мне толькі паперкі і пустыя бутэлькі. Вось бы ўзяў бацька ды звярнуў цягнік пад адхон*" (60, 11). За расчаўленую булачку герой згаданага твора С. Пясецкага гатовы забіць чалавека: "*Колькі разоў на фронце страляў па людзях, якія не зрабілі мне ніякай крыўды. А гэты, гэты...*" Успомнім селяніна з балады Янкі Купалы "Рунь", які забіў бацьку, каб на рот паменшала ў хаце. Або трагедыю на плыце "Мядузы", увасобленую ў мастацтва. Злосць на ўсё апаноўвае галоднага: герой Дж. Лондана глядзіць з нянавісцю на курапатку, якую ён не можа схапіць

Калі чалавека ахоплівае падобны голад, то ён мала чым адрозніваецца ад жывёлы. "*Крестьяне, если не считать свадебных гуляний, едят как свиньи*". *(Джарололло Чирелли)*. А вось наш прыклад: "*Траянцы ўзяліс за ядзенне, як з поля панскага харты*". Так апісвалася баляванне ў кнізе XIX стагоддзя. Нават багі не вылучаюцца на гэтым фоне, бо паселі ў круг стала, нібы тыя тараканы. І ніхто не мае права іх асуджаць.

Вось як вяртаецца з працы гераіня “Вёскі”: “*Не скідаючы паліто, хусткі, прайшла да стала, бухнула на падлогу сумку з хлебам, адкрыла тумбачку, убачыла бутэрброды, узяла сасіску, з’ела стоячы*”. Адзін з антычных герояў еў седзячы, так ён стаў весці суровы лад жыцця (бо ўсе сябры піравалі лежачы). На Палессі з’едліва гавораць: свіння есць стоячы, а чалавек – седзячы.

Затым, праўда, героі А. Федарэнкі балююць: “*Маці выставіла слоік гуркоў, слоік памідораў, слоік белых марынаваных грыбоў, міску квашанай капусты, падсмажыла мяса з яечняю*” (61, 10). Падобнага ніколі не зразумеюць неафіты ці эстэты ад кулінарыі.

*“Как рассказать им, что они никогда еще в жизни не знали настоящего голода, голода многолетнего, ломающего волю, и что нельзя бороться со страстным, охватывающим тебя желанием продлить возможно дольше процесс еды: в бараке с кружкой горячей, безвкусной снеговой «топленой» воды доесть, дососать свою пайку хлеба в величайшем блаженстве.*

*Но не все новички презрительно качали головой и отходили в сторону”* (62, 116).

Асуджаць падобнае могуць толькі тыя, хто зведаў сам, хто пабываў у падобных варунках. Бо чым кіруюцца людзі з твора К. Чорнага? “*Ён хапіў чыгун і паімчаў у сенцы. Шпарка ўсе пайшлі за ім. Той з размаху паставіў чыгун на зямлю, выхапіў кавалак мяса і, абдзьмухваючы яго, пачаў ірваць зубамі. Здавалася, што калі ён будзе чакаць, пакуль мяса астыне, то гэта будзе каштаваць яму скanання. Але і не толькі ён. Ужо ўсе падкідалі на руках гарачыя кавалкі, кусалі як толькі маглі і елі, елі. Пасля тоўсты прынёс другі чыгун. Два чыгуны мяса яны з’елі не больш як за дзесяць хвілін і адчулі, што не пад’елі як мае быць*” (50, 183).

Ад пакут цела знікае ўсялякая культура (зноў згадаем Ніцшэ з ягоным прыярытэтам фізіялогіі над маральнасцю) і чалавек становіцца падобным да скаціны, хаця недзе ў глыбіні душы чалавечае застаецца, як у рамане К. Чорнага: “*Але нейкая сіла, можа нават мацнейшая за голад, стрымала іх ад якіх бы там ні было пошукаў спосабу задушыць да канца прагу да яды. Усе, як згаварыўшыся, выйшлі на ганак і сталі самі не свае. Вельмі можа быць, што цяпер ім усім лепш бы было разысціся хто куды і век больш не сыходзіцца разам*” (50, 185).

Ніякай маральнасці не можа быць у грамадстве, дзе кіруе голад, які схіляе на дробныя махлярствы: “*Потым Хаменка прыдумаў яшчэ адну... штуку, заўсміхаўся ад радасці й пасунуўся ў студэнцкую харчэўню. Там ён узяў поліўку, нішчымную бульбу (эканомію), паўшклянкі смятаны, і ў той смятане патапіў два кавалкі мяса. Ён не раз ужо краў у харчэўні масла; гэты раз атрымалася так, што з харчэўні Хаменка выйшаў заспакоены і нават шчаслівы*”. Гэтая ж пачвара штурхае і на куды большыя злачынствы: “*Дзіця-дзяўчатко, пекная, як краска свежая, як воблік зямліцы ў час веснавога сонцаўсходу, – таргуе целам сваім, бо голад рассеўся ў хаце бацькоў старых, няўздольных, брат і сястрыца плачуць, просячы хлеба... Глянь, як неспакойна шукае купца, –можа, бацькі такіх самых дачок-нялетак... Повен славы і чэсці старац купляе ў цябе, Голадзе, чэсць дзявочу... Нялеткаў плач у вушах ёй звініць: “Хлеба! Ха, ха! Хлеба!” Чуеш, Голадзе, хлеба просяць, хлеба! Так, ім будзе хлеб, але з слёз горкіх, з стыду і ганьбы... Няхай маці красці пойдзе, бацька запʼецца і знамя людское сатрэ з аблічча свайго, а дзіця-дзяўчатко згіне ад благой хваробы, валяючыся ў заразнай бальніцы...*” (9, 98). Голад становіцца лёсам Ганулькі, чарговай Соні Мармеладавай з апавядання Ядзвігіна Ш. “Зарабляюць”. Яе жыццё паказана вачыма маленькага брацiка Адама. Наогул, калі пісьменнікі жадаюць узмацніць трагедыю і абсурд жыцця, то паказваюць яго праз прызму ўспрымання дзіцяці, якое адыгрывае ролю павелічальнага шкла. Невыпадкова Дж. Свіфт у памфлеце “Сціплая прапанова” вырашыў, што галодных дзяцей трэба прадаваць на мяса, а са скуры рабіць пальчаткі.

Самазабойства маці, якая не магла пракарміць няшчасных дзетак, вымушаных,

нібы тыя божыя птушачкі, галоднымі класціся спаць у халодны кут, пастаяннае недаяданне ў юнацтве, калі толькі дзякуючы старэнькай пані ім тое-сёе перападзе з яды, штурхае дзяўчыну да гандлю сваім целам. Яна пайшла б следам за маці і павесілася б, але шкадуе брацікa і ідзе з ім на службу, дзе дадуць усё, а самае галоўнае, есці колькі захочаш. Беларускі варыянт класічнага *"гробик ребёнку и ужин отцу"*, што трагічна абыграў М. Някрасаў. Таму не дзіўна, што ў рамане Дж. Стэйнбека "Гронкі гневу" маладая Роза, што нарадзіла мёртвае дзіця, прапануе свае грудзі, напоўненыя малаком, незнаёмаму чалавеку, які памірае з голаду. І ўсе бласлаўляюць гэты ўчынак.

Калі дзіця збіраюцца падмануць, то лепш за ўсё зрабіць гэта ядою:

*"Калі маці падала на стол аладкі і нават – дзіва! – скаваpодку з салам, Валодзька амаль не аддаў гэтаму ўвагі, па-ранейшаму чакаў.*

*– Я табе кулеш у чыгунку ў печцы паставіла. Смачны, з малаком... А ў прыпечку яечко вазьмі!.. Можаш узяць".* Хітры дзед Астап падманвае жэўжыка-ўнука абяцанкамі пра абаранкі з макам і хапае таго за пейсы.

Сусвет галоднага абмежаваны, таму ён ніколі не будзе любавацца прыгажосцю лесу, рэчкі, луга, якія ўспрымаюцца толькі як крыніцы ежы;

*"Але над усім былі клопаты. Спелі ягады. За суніцамі – чарніцы, ад якіх аж чорна было між рослага папаратніку. Нядоўга было чакаць і малін, што густа спелі ў гадзючых зарасніках. Малеча і старыя, каго не бралі рабіць на сенажаць ці ў поле, з дня ў дзень снавалі па лесе з лазовымі каробкамі і кошыкамі. Кожны зручны момант хапаліся з лугу, з поля ў лес і жанкі і мужчыны, працаўнікі – у лесе цяпер была важная праца. Ягады былі не якія там прысмакі, як у другіх, – у Куранях ягадамі карміліся, ягады збіралі, сушылі на продаж, на грошы, на чорны зімовы ці веснавы дзень. Лес быў памочнік полю, скупой, ненадзейнай зямлі".*

Згадаем, што нешта падобнае было характэрна для старажытных германскіх народаў, дзе лес (terra et silva) мералі свіннямі, г.зн. колькі гэтых істот магло на канкрэтнай плошчы пракарміцца, іменна гэтым згаданыя "варвары" адрозніваліся ад рымлян, якія сеялі збожжа і вінаград. Хаця, праўда, у гурманстве сваім яны не спускаліся да травы, але зусім не па такіх прычынах, як прадстаўнікі цывілізацыйных народаў: *"такая еда как салат, любима итальянскими лакомками, которые отбирают пищу у скотины, поедая сырую зелень".*

Магчліва такая схільнасць парадзіла анекдот пра студэнта з нашых краёў, які не захацеў вучыцца ў Падуі, а на патрабаванні бацькі растлумачыць прычыну ўцёкаў, адказаў: *"усё лета мяне кармілі нейкай травою, дык я зрабіў выснову, што ўзімку пачнуць карміць сенам, чаго мне не вынесці, і вырашыў уцячы"* (63, 37).

Падобныя запісы можна сустрэць у М. Гарэцкага. Пра якую культуру можна гаварыць, калі адна задача – насыціць цела, выжыць. Згадаем абед у І. Мележа, дзе проста выкідаюць прусака з поліўкі, не бачачы ў тым аніякай праблемы.

У пагоні за харчам знікае неабходнасць у духоўным жыцці. Бард В. Шалкевіч сцвярджае: *"Была нейкая паэтычна-песенная фантазія, якая малявала чытачам чорна-белыя ідэалізаваныя малюначкі..., а і гэтага тут рэальна ніколі не было – у асноўным было зусім іншае жыццё, жорсткае і несправядлівае ва ўсёй сваёй штодзённасці, была аднастайная, ніколі не сканчальная пара, цяжкая неверагодна, без механізмаў і трактатаў, з канём і возам, і, як выратаванне ад яе, была ў канцы тыдня субота, а потым нарэшце і нядзеля, калі можна было ляжаць, колькі вылежыш, і не браць да галавы нічога, таму што святы дзень маем абавязак шанаваць, імша а трынаццатай гадзіне ў касцёле ці царкве, потым абед і пасляабедзенны сон на засланым ложку за шафаю, не распранаючыся, а заўтра – ізноў ПАНЯДЗЕЛАК!!!"*

Л. Талстой, разважаючы над спецыфікай культуры ў класавым грамадстве, сцвярджае: *"Для искусства нужно довольство, нужен достаток. Культура*

*питается соками хозяйства, и нужен материальный избыток, чтобы культура росла, усложнялась и утончалась".*

Па сутнасці, ступень развіцця культуры прапарцыянальна залежыць ад наяўнасці харчу і доступу да яго: "*Роль варьирования количества и качества пищи, усвояемой организмом, похожа на роль смены министров в ведомствах: каждая смена влечет за собой перемену состава чиновников, увольнение одних должностных лиц и назначение новых; повышение одних и понижение других, в результате чего менялся состав чиновников и служащих ведомства. Смена сытости и голодания (в результате варьирования количества и качества пищи) производит такую же трансформацию в «составе» элементов (идей, убеждений, желаний, etc.) нашего «министерства сознания». Кроме того, смена министров обычно влечет за собой не только перемену состава и перегруппировку служащих ведомства, но и изменение политики и механизма работы всего министерства улучшение или ухудшение его организации, ускорение или замедление процесса производства дел, выдвижение на первый план одних дел и положение под сукно других и т.д.*" (12, 123-124).

У гэтым прычына змены настрояў у людзей, падвержаных пастаянным выпрабаванням. У аповесці "Вяртанне Веры" У. Някляева сабаку кормяць як ваўка – раз ці два на тыдзень. Каб люцеў з голаду.

*"То же самое происходит и со всем механизмом душевной жизни при варьировании сытости и голодания. Машина душевной жизни в том и другом случае работает по-разному. Изменения, происходящие в содержимом нашего духовного багажа, мы рассмотрим ниже"* (12, 124). Па сутнасці, адбываецца грунтоўная дэфармацыя механізму ўсяго нашага душэўнага жыцця пры галаданні. Людзі становяцца зусім іншымі, непадобнымі нават на саміх сябе і таго абстрактнага чалавека, якога дала нам сусветная культура ў якасці ўзору і ідэала.

У эпоху навуковых рэвалюцый высновы вучоных творча выкарыстоўваюцца пісьменнікамі. Ч. Дарвін даказаў залежнасць колеру канарэйкі ад корму. Гэта ўласціва і вышэйшым стварэнням, даказана, напрыклад, што ад харчу можа мяняцца колер вачэй. "*Это дает второе основание допустить, что указанная связь существует. Есть, наконец, кое-какие факты, и прямо говорящие об этом. Было замечено, что народы, особенно первобытные, питающиеся главным образом мясом, в большинстве случаев обладают хищным, энергичным и агрессивным характером Piv-on ставит в связь с мясным питанием большую часть убийств в Англии. И наоборот, народы и группы вегетарианские чаще всего являлись и являются мирными, не хищными группами".*

Многія сцвярджаюць, што мясная дыета робіць людзей драпежнымі. Шукаючы прычыну неадэкватных, з пункту гледжання царкоўнага прыходу, учынкаў Олівера Твіста, Чарльз Дыкенс піша: "*– Это не сумасшествие, миссис, – ответил мистер Бамбл после недолгого глубокого раздумья. – Это мясо. – Что такое? – воскликнула миссис Сауерберри. – Мясо, миссис, мясо! – повторил Бамбл сурово и выразительно. – Вы его закормили, миссис. Вы пробудили в нем противоестественную душу и противоестественный дух, которые не подобает иметь человеку в его положении. Это скажут вам, миссис Сауерберри, и члены приходского совета, а они – практические философы. Что делать беднякам с душой или духом? Хватит с них того, что мы оставляем им тело. Если бы вы, миссис, держали мальчика на каше, этого никогда бы не случилось"* (64, 53-54). "*Нужно сознаться, что во всех этих излияниях звучит не одна праздная сентиментальность".* Лічыцца, што з дапамогай падобных высноў можна растлумачыць многія адметнасці менталітэту народаў. Так, частковым пацвярджэннем падобнай тэорыі *"служит и факт покорности русского народа вообще, и за эти годы в частности. По сравнению с большинством европейских народов, особенно с англосаксами, и принимая во внимание наш климат, русский крестьянин мяса ел и ест меньше. И он же более*

*покорен, чем другие народы. Не связано ли исключительное безволие населения России, его пассивность и покорность с тем, что в последние годы его питание состояло почти исключительно из продуктов растительного происхождения? Если да, то те, кому желательно иметь такой народ, должны держать его на вегетарианской диете, а сами питаться мясом"* (12, 124).

Пра гэта шмат пісаў Л. Талстой, калі развражаў, ёсць у краіне голад ці няма, чаму так часта паўтараецца галеча народная і што трэба зрабіць, каб такое ніколі не вярталася. Выкарыстоўваючы дадзеныя статыстыкі, ён падкрэсліваў, што рускія людзі недаядаюць на 30% таго, што неабходна чалавеку для нармальнага харчавання, вось чаму маладыя хлопцы чарназёмнай паласы апошнія дваццаць гадоў усё менш і менш адпавядаюць патрабаванням добрай выпраўкі для воінскай службы. Гэта нават відаць знешне. Вялікі пісьменнік параўновае селяніна-земляроба *"исхудалый до костей, с нездоровым цветом лица",* і таго ж селяніна, які трапляе ў дворнікі або кучары, дзе добрыя харчы. І прычына таму не голад татальны, як у Індыі ў 1891 годзе, а пастаяннае недаяданне (П. Сарокін называе яго "*количественно-качественное относительно-дефицитное голодание*", пры якім людзі жывуць, але жывуць вельмі пагана: рана паміраюць, выроджваюцца, не размнажаюцца. Чалавек не верыць у свае сілы, ён дзейнічае толькі пад уздзеяннем інстынкту самазахавання: "*Как только в народе нет духа бодрости, уверенности, надежды на все большее и большее улучшение своего состояния, а есть, напротив, осознание тщеты своих усилий, уныние – народ не победит природу, а будет побежден ею"* (65, 183).

Прыкмет зніжэння духоўнай моцы вельмі многа. Самы галоўны – амаль абсалютная абыякавасць да духоўнага жыцця, у тым ліку і рэлігіі. Апісваючы свайго героя ў рамане "Млечны шлях", Кузьма Чорны падкрэслівае толькі адну рысу, што панавала над усім – абыякавасць. Пра якую пасіянарнасць можа ісці гаворка ("*Но физические средства ничтожны без нравственной силы"* – Ф. Булгарын), калі на аблiччы выразна праступае *Facies Hippocratica* – аблічча смерці. Нежаданне мяняць свае звычкі і становішча, што праяўляецца ў коснасці, адсутнасці памкнення зрабіць нешта кардынальнае, лянота, аднастайная, без натхнення, праца, жаданне забыцца з дапамогай алкаголю і табаку, – вось да чаго вядзе звыродны цар.

*"И на каждом детском и взрослом лице, на каждой старческой — давней или едва намечающейся — морщине лежит печать Голода. Голод накладывает руку на все, Голод лезет из этих невообразимых домов, из убогого тряпья, развешенного на заборах и веревках; Голод прячется в подвалах, затыкая щели и окна соломой, опилками, стружками, клочками бумаги; Голод заявляет о себе каждой щепкой, отлетевшей от распиленного полена; Голод глазеет из печных труб, из которых давно уже не поднимается дым, смердит из слежавшегося мусора, в котором тщетно было бы пытаться найти какие-нибудь отбросы. «Голод» — написано на полках булочника, на каждом жалком ломте его скудных запасов мякинного хлеба, и на прилавках колбасных, торгующих изделиями из стервятины, из мяса дохлых собак. Голод щелкает своими иссохшими костями в жаровнях, где жарят каштаны; Голод скрипит на дне каждой оловянной посудины с крошевом из картофельных очистков, сдобренных несколькими каплями прогорклого оливкового масла. Голод здесь у себя дома, и все здесь подчинено ему: узкая кривая улица, грязная и смрадная, и разбегающиеся от нее такие же грязные и смрадные переулки, где ютится голытьба в зловонных отрепьях и колпаках, и все словно глядит исподлобья мрачным, насупленным взглядом, не предвещающим ничего доброго",* – сцвярджаў Ч. Дыкенс.

Голад аказаў вялікі ўплыў на аблічча літаратуры ўвогуле і беларускай літаратуры ў прыватнасці.

[1] Ги де Мопассан. Полное собрание сочинений в 10 т. Т. 6. М., 1958. – 447 с.
[2] Роттердамский Эразм. Похвала глупости: Сочинения. М., 2000. – 622 с.
[3] Бядуля З. Збор твораў. У 5 т. т. 4, кн. 1. – Мн., 1987. – 375 с.
[4] Мишель Монтень. Опыты. Избранные произведения в 3-х томах, т. 2, М. 1992. – 560 с.
[5] Плутарх. Избранные жизнеописания, в двух томах. Т. II. – М. 1987. – 608 с.
[6] Беларускія летапісы і хронікі. Баркулабаўская хроніка. – Мн., 1997. – 432 с.
[7] Сыракомля У. Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка/Уклад. і камент. У. Мархеля, К. Цвіркі; Прадм. К. Цвіркі. – Мн.: Маст. літ., 1993. – 526 с.
[8] Андреев Л. Пьесы. М., 1991. С. 149.
[9] Ластоўскі В. Выбраныя творы. – Мн., 1997. – 512 с.
[10] Достоевский Ф. М. Полное собрание сочинений, т. 14. – Ленинград, 1976. – 511 с.
[11] Лондон Дж. Повести и рассказы, Мн., 1988. – 686 с.
[12] Сорокин, П. Голод как фактор. - 113
13 Янушкевіч Я. За архіўным парогам: Бел. літ. XIX – XX стст. у святле арх. пошукаў. – Мн.: Маст. літ., 2002. – С. 11
[14] Гарэцкі Г. Выбранае. – Мн., 2002. - С. 209.
[15] Танк М. Збор твораў у 6-ці т., т. 6: Дзённікі; Літаратурна-крытычныя артыкул. – Мн., 1981. – 637 с.
[16] "Не наракаю на долю..." – гутарка Пятра Краўчанкі з Натальляй Арсеньневай. Дзеяслоў, №10.
[17] Сяднёў М. Масеева кніга: Успаміны, старонкі дзённіка, эсэ. – Мн., 1994, стар. 311.
[18] Маньковский В. К вопросу о голодании. – Спб, 1882. – С. 48.
[19] Гарэцкі М. Збор твораў у 4-х т. Т. 1. Апавяданні. – Мн., 1984. – 446 с.
[20] Лифшиц Юрий. Марина Цветаева и голод // Международный интернет-журнал «Русский глобус», июль 2014, №7.
[21] Булгаков М. Избранные произведения. В 2-х т., т. 2. – Мн., 1990. – т. 2, с. 261.
[22] Казько В. Дзікае паляванне ліхалецця, Мн. 2009. – 360 с.
[23] Монтанари, М. Голод и изобилие: История питания в Европе (Становление Европы). – Спб., 2009.
[24] Быкаў, В. Пункціры жыцця: Далітаратурная біяграфія // Дзеяслоў № 2 (15), 2005.
[25] Грицкевич В. П. С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины. – Мн., 1987. – 271 с.
[26] Быкаў В. У. Сцюжа: Аповесць. – Мн., 1993. – 176 с.
[27] Іван Сяркоў. Аўтабіяграфія // Магістраль 92: літаратурна-мастацкі альманах. Гомель, 1992. С. 15.
[28] Васючэнка П., Вырвіч А. Прыгоды аднаго Губашлёпа. Аповеды пра Валентага. – Мн., 1999. – 64 с.
[29] Гашек, Я. Похождения бравого солдата Швейка. – М., 1990. – 736 с.
[30] Арабей, Л. Пошукі ісьціны : Абразкі // Дзеяслоў №25, 2006.
[31] Распутин, В. Повести и рассказы. – М: Современник, 1984. – 736 с.
[32] Бядуля, З. Збор твораў. У 5 т., т. 2. Вершы ў прозе. Лірычныя імпрэсіі. Апавяданні. Мн., 1986. – 351 с.
[33] Гілевіч Н. Выбраныя творы: У 2 т. Т. 2. Родныя дзеці: Раман у вершах. Перажыўшы вайну: аповесць. Эсэ. – Мн.: Маст. літ., 1991 – С. 227 – 228.
[34] Чарняўскі М. Пад знакам Васілька, альбо Пра тое, што не забываецца. // З росных сцяжын: аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. – Мн., 2009. – 464 с.
[35] Казлоў А. Не люблю грыбоў і ягад // З росных сцяжын: аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. – Мн., 2009. – 464 с.
[36] Федарэнка А. З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці // Дзеяслоў №1 (14), 2005.
[37] М. Гарэцкі. Збор твораў у 4-х. т. Т. 4. Камароўская хроніка. Аповесць. – Мн., 1986. – 384с.
[38] Зянон. Андрэй // Беларус: літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа, 2015. – С. 69.
[39] Стральцоў М. Выбранае: Проза, паэзія, эсэ, Мн., 1987. – 607 с.
[40] Чыгрынаў І. Выбраныя творы. У трох тамах. Т.1. Мн., 1984.-366 с.
[41] Федарэнка А. Смута: Аповесці, апавяданні. – Мн., 1994. – 224 с.
[42] Сяркоў І. Мы – хлопцы жывучыя. Аповесці. Мн., 1971. – 200 с.
[43] Колас Я. Збор твораў у чатырнаццi тамах. Т. 4. Апавяданні 1906-1917. Мн., 1973. – С. 187
[44] Някляеў У. Цэнтр Еўропы. Мн, 2009. – С. 370.
[45] Савёнак Лявон. Творы. – Мн., 2012. – 352 с.
[46] Шамякина Татьяна. Как жила элита при социализме // Нёман №9, 2013.

[47] Ажэшка Э. Выбраныя творы. – Мн., 2000. – 512 с.
[48] Маўр Я. Палескія рабінзоны. Мінск, 1967. – С. 165.
[49] Мрый А. Творы: Раман, апавяданні нататкі. – Мн., 1993. – 317 с.
[50] Чорны, К. Збор твораў у васьмі тамах. Том 6. – Мн., 1974. – 320 с.
[51] Ницше, Ф. Воля к власти; Посмертные афоризмы: Сборник. – Мн., 1997. – 464 с.
[52] Баршчэўскі Ян. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. – Варшава, 2012. – 600 с.
[53] Солженицын Александр. Архипелаг ГУЛАГ: опыт художественного исследования. Главы из книги // Новый мир № 8, 1989.
[54] Маўр Я. У краіне райскай птушкі: Аповесці, Мн., 1983. – 208 с.
[55] Гарэцкі М. Творы. Дзве душы: Аповесць. Апавяданні. Жартаўлівы Пісарэвіч: П'еса. Літаратурная крытыка і публіцыстыка. Лісты. – Мн., 1990. – 629 с.
[56] Глёбус А. Толькі не гавары маёй маме. Зборнік інтымнае прозы. – Менск, 1995. – 308 с.
[57] Диккенс Чарльз. Приключения Оливера Твиста: Роман. – Мн., 1980. – 366 с.
[58] Ажэшка Э. Выбраныя творы. – Мн., 2000. С. 327.
[59] Багушэвіч Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты. – Мн., 1991. – С. 39.
[60] Лынькоў М.У. Міколка-паравоз. Аповесць і апавяданні. Мн., 1990. – 334 с.
[61] Федарэнка А. Нічые : аповесці, апавяданні. – Мінск, 2009. – 420 с.
[62] Варлам Шаламов: проза, стихи. Последний бой майора Пугачева // Новый мир №6 (1988). – С. 116.
[63] Казлоў Л. Р. З дазволу караля і вялікага князя. Мн., 1992. – 112 с.
[64] Диккенс Чарльз. Приключения Оливера Твиста: Роман. – Мн., 1980. – 366 с.
[65] Толстой Л.Н. Собрание сочинений в 22 т. М., 1984. Т. 17. – С. 183.

Анжэла Мельнікава



...пэўна, я нарадзілася
не ў сваім часе...

# Хутар

Кажуць, мы ўсе вызначаны дзяцінствам. Мяне вызначыў бабулін хутар (бабуля вымаўляла "футар"). Тое, што ў дзяцінстве здавалася натуральным, сёння ўспрымаецца як страчаны Эдэм. Заходняя Беларусь. Нясвіжчына. Пашчасціла ж мне быць звязанаю з гэтымі мясцінамі. Штогод прыязджаю на могілкі ў Вялікую Лысіцу, Квачы, Гародзею, Вялікую Ліпу. Думаю, колькі ж пакаленняў маіх продкаў там жыло, ці помніць іх зямля.

Хутар бабулі стаяў у лесе, перад хутарам – поле, якое некалі належала маёй сям'і. Да дзесяці гадоў я бавіла ў бабулі лета. Ні электрычнасці, ні тэлевізара, ні радыё, толькі прыёмнік на батарэйках. Я і бабуля, яе ўспаміны. І сумна не было. У лесе былі дзікі, ваўкі, зайцы, але я не баялася хадзіць у лес. Бывала, збіраеш грыбы, а недалёка ходзіць алень. І страшна не было. Ці ляжыш у ложку, глядзіш у вакно, а там – алень, з такой гордай паставай. Сёння аж не верыцца. Прыгажосць. Я жыла ў нейкім сваім свеце, рабіла з саломы карэту пасля ўборкі збожжа, зімою са снегу – шмат снегавікоў, якія былі маім каралеўствам.

У бабулі былі качаняты, кураняты, кацяняты. Яны хадзілі за мной і нешта мне спрабавалі расказаць, асабліва гусяняты. Я рассцілала вялікі дзедаў кажух пад вялікай елкай, што расла на падворку, брала нейкія кнігі, прыёмнік і загарала. Вакол мяне збіраліся мае кураняты-качаняты. Уздоўж лесу праходзілі грыбнікі-ягаднікі, часам гэта былі юнакі-падлеткі. Бабуля не заўсёды была дома (пасвіла карову, ездзіла ў краму). І ні ў кога нават думкі не з'яўлялася, што нехта можа мяне пакрыўдзіць ці абразіць, ніколі я ад тых падлеткаў ніводнага крыўднага слова не пачула! Праходзілі на адлегласці. Як мае быць.

Я любіла хадзіць у грыбы, ягады, ведала "ўраджайныя" мясціны. Асабліва любіла нават не баравікі, а чырвонагаловікі (бо прыгожыя ж!). Любіла адзіноту, да гукаў звонку (галасоў, машыны, трактара) ставілася насцярожана, бо хацелася неяк абараніць свой свет, не хацелася ніякіх знакаў чужога.

Быццам пра мяне пісала Марыя Вайцяшонак у апавяданні "Мы з аднаго поля" пра пачуцці пры набліжэнні да родных мясцінаў. Колькі гадоў няма ўжо ні бабулі, ні хутара, і нарадзілася ў Гомелі, але радзіма – там, паміж вёскамі Вялікая Ліпа і Студзёнкі Нясвіжскага раёна.

Хутар! Адно гэтае слова колькі ўмяшчае! Я яшчэ пажыла там, памятаю ўсё. Хоць прайшло ўжо 35 год, калі апошні раз была летам на хутары. Бабуля паказвала, дзе быў наш лес, наш надзел зямлі і ўпарта, пакуль не здарыўся інсульт, адмаўлялася пераязджаць у вёску, калі ўсіх хутаранцаў перасялялі ў сувязі з пракладваннем газаправода "Дружба", ці да нас, у Гомель, да сваёй дачкі.

Я помню, колькі вакол, да 1980-х гадоў, там было хутароў. А колькі ўжо не было. Толькі здзічэлыя дрэвы. Сёння на многіх і дрэваў няма. Ніякіх знакаў. Проста лес ці поле. Але нават я памятаю, колькі там было жыцця. Памятаю на хутарах прыгожую мэблю, абажуры, этажэркі з кнігамі.

А аповеды маці, бабулі, былых хутаранцаў, што наведваліся да бабулі, прыязджалі на свае разбураныя котлішчы. Столькі жыцця, жарсцяў, радасці і гора. Успаміны пра жыццё пры паляках, пра прыход Саветаў, вайну, акупацыю, канфіскацыю зямлі.

А цяпер – нічога. У Марыі Вайцяшонак: "...я паказваю ў чыстае поле, анідзе ні дамоў, ні агнёў. Ён зусім малады, ён не ведае, што вунь там, на пагорку, дом стаяў. Цяпер нават камяні з падмурку сцягнулі ў лагчыну. Ужо сама я не намацаю зараслага ганку, дзвярэй, прайду скрозь сцены, як у даўнім сваім сне..."

Было жыццё, цэлы свет, і ўсё разбурана, знішчана. У Марыі Вайцяшонак: "Мне ў горадзе сніцца нашае неўзаранае поле... І нараніцу пачуццё невытлумачальнага разладу, няўпраўкі". І мне хутар сніцца штодня, пакутліва і балюча. Стараюся штогод пабыць на былым хутары. Разумею, што значыць "дакрануцца да роднай зямлі", "набрацца моцы ад роднай зямлі". Разумею, што гэта не метафара. А яшчэ ж так нядаўна было. Была тая Беларусь, тая культура. Як лёгка ўсё знішчаецца і разбураецца.

Памятаю, калі збіраліся госці, мужчыны цалавалі жанчынам рукі, не спешчаныя рукі, а напрацаваныя рукі сялянак. Было адчуванне нейкай своеасаблівай еднасці паміж тымі людзьмі. Памяці пра іншае жыццё, якая яднала: "А помніш на фэсце, як я да цябе заляцаўся?", "А помніш, як мы кракавяк з табой танчылі?", "Я з Зюнікам за цябе біўся". Такая годнасць адчувалася ў гэтых людзях. Перада мной паўставаў зусім іншы свет. Мяне тое жыццё вабіла нейкай шляхетнасцю. Варта паглядзець на старыя здымкі: строі, гальштукі-мятлушкі, гадзіннікі, пантофлікі, прыгожыя сумачкі, якіх, да прыкладу, мая бабуля мела не адну. Аповеды пра фэсты (бабуля выкарыстоўвала гэтае слова), заляцанні. А якая мова! Слухаў бы і слухаў. У мяне ніколі не было праблемаў з мовай, бо мая бабуля гаварыла на чыстай літаратурнай мове. І сёння абавязкова пачуеш: Валодзем, Юркам, Петрусём.

А якія імёны!!! У нашай сям'і: Юзік, Пятрусь, Гэля, Крыся, Стась, Жоржык, Геня (яна), Імполь, Агата, Вікенцій.

Я днямі магу разглядаць старыя фотаздымкі, спрабую ва ўяўленні ўзнавіць тое жыццё, уявіць, што было за хвіліну да таго, як фатограф зрабіў здымак, што – пасля. Пэўна, я нарадзілася не ў сваім часе.

Колькі толькі наша сям'я захоўвае ўспамінаў. І светлых і горкіх.

Мой прапрадзед Вікенцій меў шмат зямлі, лесу (і я ведаю, дзе гэтыя зямля і лес!), якія ён купіў у пана. Між іншым, маёнтак і зямля вакол Студзёнак, дзе былі нашыя хутары, належалі бацьку вядомага рускага паэта Георгія Іванава. Ён распрадаў зямлю, і мой прапрадзед Вікенцій набыў вельмі ладны кавалак. Пасля пан ці то захацеў адабраць тую зямлю, ці нешта іншае, але добра вядома, што мой прапрадзед біўся з панам. Мясцовы краязнаўца расказваў, што ў архіве ў Баранавічах ёсць судовыя дакументы па гэтай справе (трапіць бы ў той архіў!). Хата маёй цёткі сёння стаіць на месцы былога панскага падворка, які згарэў яшчэ да рэвалюцыі. Але захавалася бэзавая алея, і мая цётка вельмі даражыць ёю, не дазваляе высякаць.

Прапрадзед Вікенцій быў, як казалі, "заядлым каталіком": пешшу хадзіў у Вільню да Маці Божай Вострабрамскай. Вікенцій пабраўся з праваслаўнай і мы сталі праваслаўнымі. У Расійскай імперыі, аказваецца, быў закон, паводле якога пры шлюбе паміж праваслаўнымі і каталікамі дзеці станавіліся праваслаўнымі. Між іншым, мая хросная – каталічка, хаця хрысцілі мяне ў праваслаўным храме. Гэта Беларусь! (Знаёмая распавядала, што ў іхняй вёсцы не было храма, таму ў адну нядзелю прыязджаў ксёндз і праводзіў неабходныя абрады, а ў іншую – бацюшка. Так яе бацька стаў каталіком, а яго родны брат – праваслаўным. Як тут не ўзгадаць Алеся Загорскага і яго брата з "Каласоў пад сярпом тваім" Ул. Караткевіча).

Падчас Першай сусветнай вайны мой прапрадзед Вікенцій з сям'ёй вымушаны быў падацца ў бежанцы. Апынуліся ажно пад Пензай. У бежанцах ім было вельмі цяжка, хварэлі, і мая прапрабабка Вольга там памерла. У час той вайны была застрэлена дачка майго прапрадзеда, Ганна. Застрэлена на сваім хутары невядома кім, калі пайшла жаць жыта.

Калі прыйшлі Саветы, пасля Другой сусветнай вайны, майго прадзеда Кастуся (меў 30 гектараў зямлі, 2 гектары сенажаці і 2 гектары лесу) неаднаразова абкладалі так званым "цвёрдым падаткам". На трэці раз ён так пераняўся, што ў яго здарыўся інсульт, падкурчыліся ногі, ён памёр. Яго так і пахавалі з падкурчанымі нагамі. Прапрадзед не верыў, што магчыма вось так адабраць тое, што табе належыць, і, як успаміналі, усё чакаў, што прыедуць амерыканцы на белым цеплаходзе. Пазней у нас гэта стала крылатым выразам: "Чакай, як дзед амерыканцаў на белым цеплаходзе".

Гумно майго прапрадзеда перанеслі пасля раскулачвання ў калгас, там і сёння калгаснае зернесховішча. Амаль 70 гадоў прайшло, а яго ўсё выкарыстоўваюць!

Мой прадзед Кастусь і мая прабабка Марыя вельмі кахалі адно аднаго. Прадзед яе доўга дамагаўся, яны жылі, па тых часах, вельмі далёка (ён – з-пад Гародзеі, яна – з Лазавіч). Але ён усё ж такі выхадзіў сабе жонку! Прадзед пабудаваў на хутары вялікі і прыгожы дом для сваёй жонкі. Там былі нейкія адмысловыя ручкі для дзвярэй, каваныя, фігурныя. А яшчэ прабабка мела прыгожы сервіз з парцаляны. Пасля раздала яго па частках сваім дочкам і нявесткам. І ў мяне ў Гомелі бочачка з таго сервізу захоўваецца. У іх нарадзілася 7 дзяцей.

Мой дзед Імполь быў вельмі прыгожым, але зямлі меў значна менш, чым бацька маёй бабулі Агрыпіны, да якой пасватаўся. Так і не ведаю, ці кахала яго бабуля, ніколі пра гэта не гаварыла, але шлюбу пасля смерці дзеда (засталася

ўдавою ў 36 гадоў) больш не брала, хаця жанчына была прыгожая і нават пры мне (!) да маёй бабулі сваталіся. Яна толькі смяялася.

А дзед бабулю кахаў моцна. Пра гэта літаральна легенды хадзілі. Расказвалі, так раўнаваў, што на танцах аднаму хлапцу, які хацеў патанчыць з бабуляй, бутэлькай разбіў галаву. Прычым тады дзед нават кавалерам бабуліным не лічыўся. Бабуля казала, што пабойвалася яго: глядзеў на яе цяжкім позіркам, а не падыходзіў. Пасля той разбітай галавы кавалераў у бабулі паменшала.

Калі яны пабраліся шлюбам, бабуля некалькі дзён пасля вяселля "яму не давалася", той яшчэ характар мела. Але ўспамінала, што на трэці дзень дзед так на яе глядзеў, што "я зразумела, што сёння мне не выкруціцца". (Мая стрыечная цётка ў першую шлюбную ноч прасілася да сваёй маці: "Мамачка, можна я з табой лягу спаць?").

Падчас вайны дзед разбіў патэфон, штурхануў немца ў каршэнь, калі немец хацеў запрасіць на танец бабулю, якая была ўжо цяжарная маёй маці (1943 год).

Калі вярнуліся Саветы, дзеда рэпрэсавалі за сабатаж. Яго прымусілі працаваць на чыгунцы, а ён дзень ці два не выйшаў на работу, бо захварэў. Па-мойму, дзед адбываў пакаранне ў Карагандзе. Вярнуўся вельмі хворым. Ва ўзросце 37 год, у 1952 годзе, памёр ад хваробы страўніка. Дзед ведаў, што памірае, мама ўспамінала, што ўсё садзіў яе сабе на калені, гладзіў па галоўцы. Бабуля гаварыла, што калі б ён дажыў да смерці Сталіна, то жыў бы доўга.

Бабуля Агрыпіна, Груша... Менавіта яна сфармавала маю беларускасць. Калі я прыязджала да яе, апыналася ў зусім іншым свеце, не такім, як у Гомелі. І мая бабуля з Усходняй Беларусі (любіла яе, вельмі добрая была) была зусім іншай. У бабулі з Заходняй было вельмі моцнае пачуццё ўласнай годнасці, адчувалася нейкая шляхетнасць, якая мне вельмі падабалася. Яна расказвала пра ранейшае жыццё, колькі ў нас было зямлі, пра фэсты, як мой дзед да яе заляцаўся.

І мяне вельмі вабіў той свет, было шкада таго страчанага свету. У бабулі было абсалютна дакладнае ўсведамленне пра сваю беларускасць, адрознасць ад Іншага.

Мая бабуля вучылася ў "польскай школе", расказвала, што бацькі яе вельмі добра апраналі, побач – 4 братоў. Таму адчувала сябе вельмі ўпэўненай і з хлопцамі-аднакласнікамі часам білася.

На ўрок закона Божага адначасова прыходзілі тры святары: ксёндз, бацюшка і равін. І вучні "кожны ішоў да свайго".

Бабуля выхавала ва мне талерантнасць. Распавядала, што, каб не крыўдзіць каталікоў ці юдэяў, калі ў іх былі святы, на сваім падворку стараліся нічога не рабіць, віншавалі і частавалі адзін аднаго на святы.

Мае дзяды-бабулі-прадзеды былі адукаванымі, у хатах былі кнігі, брат бабулі вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. У кнізе "Памяць. Нясвіжскі раён" пазначана, што пісьменнасць на Нясвіжчыне складала ў канцы 19 ст. 45,5 % (у Слуцку і Навагрудку – 20%).

Успамінаючы маладосць, бабуля спявала песню "Толькі з табою мне хочацца быць, толькі з табою".

Бабуля вянчалася ў Свята-Пакроўскай царкве ў вёсцы Вялікая Ліпа Нясвіжскага раёна. Царква была пабудавана ў сярэдзіне 18 ст. як уніяцкая. Магчыма, святары той царвы дапамагалі паўстанцам Каліноўскага. Бабуля ўзгадвала, што калі яны ехалі на вянчанне, сам пан кланяўся ім. А на вяселлі быў аркестр з некалькіх ці то труб, ці то скрыпак, і калі ён граў, то гэта было вельмі прыгожа і музыку слухала ўсё наваколле. Старыя людзі да гэтага часу ўспамінаюць бабуліна вяселле.

Бабуля была смелая, валявая, я вельмі ганарылася ёю. Жыла адна на хутары, без электрычнасці, трымала гаспадарку. Да бліжэйшай крамы ў Вялікай Ліпе – кіламетраў пяць. Зімой ездзіла па хлеб на лыжах, улетку – на ровары. Хата

была ў лесе, які да Саветаў належаў нашай сям'і. У хаце стаялі дзве вінтоўкі, з патронамі. Адкрыта. Нам строга забаранялася браць іх у рукі.

Бабулю ўсе вакол паважалі, яна была вельмі гасцінная. Грыбнікі-ягаднікі, калі прыязджалі ў лес, на нашым падворку пакідалі свой транспарт. Бабуля ўсіх (!) запрашала ў хату, частавала. Было смачна: хатнія кілбасы, паляндвіцы, сальцісоны, самагонка. Бабуля сама гнала самагонку, бо трэба было расплочвацца з тымі, хто араў соткі, а іх у бабулі было 60, дапамагаў вазіць сена, даваў каня. І хаця жанчына з 36 гадоў жыла адна, без мужа, ніхто пра яе кепскага слова не сказаў. “Кавалераў” бабуля магла паслаць куды трэба вельмі канкрэтна, мужчыны яе паважалі і пабойваліся. Бабуля сама касіла, кляпала касу. Калі зачыняла хату, ключы пакідала за вушаком (а раптам хто знаёмы прыйдзе), і ўсе пра гэта ведалі.

Выратавала сваю швагерку, родную сястру майго дзеда Імполя, Ніну, ад вывазу ў Германію. Бабуля, цяжарная маёй маці, пайшла на зборны пункт замест яе: цяжарную не возьмуць. Баялася, канечне, бо ўсе ведалі, што яна не Ніна, але, дзякуй Богу, усё абышлося.

Валявая. Пасля смерці дзеда яе хацелі раскулачыць, дык яна гэтых раскулаччыкаў віламі выгнала. Больш не прыходзілі.

Калі памёр Сталін, у школе, дзе вучылася маці, быў жалобны мітынг. Дзецям загадалі плакаць. Мая мама сказала, што плакаць не будзе, бо памёр Ірад. Бабуліна выхаванне.

І ўвогуле пачуццё ўласнай і нацыянальнай годнасці ў бабулі было вельмі моцным, як і ў яе братоў і сясцёр. Гэта пасля ўжо ў кнізе “Памяць. Нясвіжскі раён” я прачытала, што ў Гародзеі, Вялікай Ліпе былі значныя беларускія арганізацыі.

На Нясвіжчыне амаль побач тры вёскі з назвай Ліпа: Вялікая, Высокая і Саска Ліпа. У Высокай Ліпе ў свой час працаваў бацька хроснага нашага старэйшага сына, Зміцера Кіселя. У Гродна яго добра памятаюць. Самаадданы і самаахвярны рыцар Адраджэння. Свет цесны. Між іншым, вядомы Анатоль Майсеня таксама нарадзіўся ў Вялікай Ліпе. А з Гародзеі быў Аляксандр Надсан. Недзе ў 1990 годзе а. Надсан прывозіў у Гомель гуманітарную дамапогу дзецям Чарнобыля. Калі я сказала, што маці нарадзілася непадалёк ад Гародзеі, ён вельмі расчуліўся, сказаў з ім звязацца. Калі я наважылася, ён ужо цяжка хварэў. А мне было пра што ў яго запытацца.

Бабуля падчас вайны выратавала палоннага савецкага салдата Генадзя Маслава. Менавіта бабуля, бо сам гэты салдат пазней расказваў нам, што мой дзед не вельмі хацеў пакідаць яго ў сябе, баяўся за сям'ю, а бабуля ўспамінала: “Ён такімі вачыма глянуў на мяне, што я сказала: “Заставайся”. Дзед бабулі не пярэчыў.

Генадзь Маслаў быў узяты ў палон пад Брэстам. Немцы везлі іх у бок Стоўбцаў-Менску. Ён саскочыў з цягніка. Немец страляў у яго, але не пацэліў. Маслава падабраў наш сусед Чурак (пра яго крыху ніжэй), прывёў да сваёй прыёмнай маці, жонкі брата майго прадзеда. Маслава накармілі і сказалі сыходзіць, бо баяліся немцаў. І тут прыйшлі мае бабуля з дзедам.

Усе вакол ведалі, што ў іх жыве савецкі салдат, але ніхто не выдаў ні яго, ні нашую радзіну. Маслава прымалі як свайго, называлі “наш Генадзь”.

Маслаў успамінаў, што яму ў нас было вельмі добра: маладосць, заляцанні, танцы. Ён пасябраваў з братамі маёй бабулі, таксама на той час кавалерамі. Моладзі на хутарах было шмат, бо немцы так шпарка наступалі, што мабілізацыю Саветы не паспелі правесці.

Разам з маімі дзедам і бабуляй жылі маці дзеда, Ганна, і яго родная сястра, Ніна. І Ніна пакахала Генадзя. Мой дзед прапанаваў яму пабрацца з сястрой, даваў пасаг: каня, цялушку, авечак. Але Генадзь сказаў, што, калі вернуцца Саветы, яго расстраляюць як дэзерціра і яму трэба прабівацца да сваіх. Дзе

былі тыя свае, дзе быў той фронт! Пазней, у 1980-х гадах Маслаў прызнаўся, што Ніну не кахаў, а кахаў маю бабулю. Не дарэмна мой дзед не хацеў яго пакідаць на хутары!

Генадзь Маслаў пайшоў прабівацца да сваіх. Яго недзе арыштавалі ізноў, кінулі ў лагер у Нясвіжы. Бабуля даведалася пра гэта і прымусіла дзеда выкупіць яго. Так Генадзь Маслаў ізноў апынуўся ў іх, знясілены, з вошамі. Бабуля адкарміла яго. І зноў ніхто не выдаў, што ў іх хаваецца былы палонны, савецкі салдат!

Маслаў зрабіў другую спробу прабіцца да сваіх. І дайшоў. І ваяваў, а пасля вайны адразу трапіў у Савецкі лагер як дэзерцір.

Пазней ён прыязджаў да бабулі на хутар са сваёй маці і жонкай, да нас у Гомель са сваёй дачкой, зяцем, унучкай. Мы з яго сям'ёй сябруем. Яго дзеці гаварылі бабулі: “Каб не Вы, нас бы не было”. І мы ездзім да іх у Лугу.

Стрыечных братоў маёй бабулі з Вялікай Ліпы Івана і Паўліка расстралялі немцы. Расказвалі, што нейкая Маня намовіла немцам, што яны звязаныя з партызанамі. Намовіла, бо адзін з братоў не прыняў яе заляцанні. Пакуль іх маці Агата дабегла да Нясвіжа, іх расстралялі.

Чурак – такое прозвішча было ў нашага суседа па хутары. Ён быў прыёмным сынам роднага брата майго прадзеда Кастуся, Міхаіла. Я думала, што Чурак – гэта мянушка, бо з аповедаў бабулі ён быў чалавекам не вельмі добрым, а пасля ў кнізе “Памяць. Нясвіжскі раён” пабачыла шмат людзей з такім прозвішчам. Адкуль ён узяўся – невядома. Але з гэтым Чураком звязана вельмі трагічная гісторыя. Жонка Чурака была маладзейшая за яго на 21 год, быццам бы, калі яны пабраліся, ёй было ўсяго шаснаццаць. Ян Чурак узяў яе, як гаварыла мая бабуля, без усялякага пасагу, “у адной кофце”.

Ян Чурак быў выключны гаспадар. Яго дом быў вельмі вялікі і багаты: некалькі пакояў, вялікая кухня, на кухні – вялікі каменны склеп. Яшчэ пры мне ў яго склепе знайшлі слоік з грашыма. Гэты склеп, між іншым, і па сёння захаваўся, з каменнымі прыступкамі і рознымі разгалінаваннямі. Я баялася туды заглядаць, бо аднойчы адтуль выпаўзла яшчарка. Ці мала што там можа быць!

Вялікі сад, у якім усё было засаджана, а дзе нельга было пад'ехаць канём,раслі трускалкі. І сёння, праз 60 гадоў, захаваліся дошкі, якія ён прыбіваў да дрэваў, каб абгарадзіць сад. Сад застаўся, але здзічэў. Нават у 1970-я гады іх дом глядзеўся вельмі багата, абрысы сядзібы вельмі выразныя і сёння (па перыметры дрэвы, бэз і язмін). Асабліва ў дзяцінстве мне падабаўся той язмін.

Сваю жонку, Ганну Мітрафанаўну, Чурак з-за рэўнасці забіў у 1958 годзе. Ёй было 36 год, яму – 57. Быццам бы жонка завяла палюбоўніка, хацела яго выгнаць з хаты, якую ён пабудаваў. Чурак гнаўся за ёй з сякерай, жонка пабегла ратавацца да яго прыёмнай маці, Еўкі. Чурак засек і жонку, і Еўку, а сам павесіўся. Хата Еўкі стаяла і пры маёй бабулі, там пасялілася іншая жанчына, і мне здавалася, што на дзвярах хаты заставалася кроў, бо хата была не фарбаваная. Дарэчы, сцены той хаты стаяць і цяпер.

Іх пахавалі на “польскіх” могілках у вёсцы Вялікая Ліпа з розных бакоў могілак. На яе помніку – праваслаўны крыж. Чурак не сябраваў з сям'ёй маёй бабулі, аднаго разу пераказаў немцам, што мой дзед Імполь – партызан.

Вёска Вялікая Ліпа, куды хадзіла ў школу мая мама, належала славутаму роду Абуховічаў. Школа месцілася ў афіцыне (сам маёнтак не захаваўся). Дарэчы, у Вялікай Ліпе захаваліся панскія стайні з выявамі рыцара, адзіныя такога роду ў Беларусі. На старых “польскіх” могілках (між іншым, там шмат магілаў з праваслаўнымі крыжамі) захаваліся рэшткі капліцы Абуховічаў, дзе, па словах бабулі, быў пахаваны малады пан. Калі прыйшлі Саветы, капліцу разрабавалі.

Бабуля апавядала, што нейкі “мясцовы вар’ят” насіў чэрап Абуховіча па вёсцы са словамі: “Паглядзі, пан, як мы жыць сталі”.

У Гародзеі на вакзале, калі стаць да чыгункі спінаю, па левы бок стаіць хата, якая некалі належала роднай сястры маёй прабабкі Марыі. Яна працавала пакаёўкай у Радзівіла, муж таксама служыў пры двары. Хата вялікая, пакояў на восем. Сваіх дзяцей у іх не было, і калі мой дзядзька хадзіў у школу ў Гародзею за восем кіламетраў, то часам зімой жыў там. Пасля прыходу Саветаў у гэтай хаце быў і сельсавет, і радыёрубка, і нешта яшчэ. А два пакойчыкі пакінулі гаспадарам. Цяпер там жывуць чужыя людзі. Мая стрыечная сястра ўпэўнена: “Хату трэба вярнуць сям’і. Выкупім”.

Мне вельмі баліць, што мы не здолелі захаваць хутар. Я кожны год правяраю, што з падворкам. Усё пазарастала, толькі соткі засталіся. Калгас іх не чапае, бо яны належаць лясніцтву. Жыву ў страху, што там пасадзяць лес, што нехта там раптам пабудуецца. Часам сніцца, што падворак занялі чужыя людзі. З дзяцінства марыла, што, стаўшы дарослай, буду мець грошы, каб выкупіць той падворак у лясгаса і адбудаваць там хату. Я кожны год прыязджаю на хутар, хажу па суседніх вёсках. І хаця хутара з 1980 года няма, так шчыміць сэрца, калі ў вёсцы скажаш: “Я Валінай Грушы дачка”. І мяне прызнаюць, помняць і маю бабулю, і маю маці. Каму я так у Гомелі магу сказаць?! Менавіта там я “свая”, там “уватканая” ў палатно жыцця.

Ізноў да Марыі Вайцяшонак: “За мной сціпла цягнецца цугам мой сялянскі род, жывыя і мёртвыя, яны пільнуюць, каб надта далёка не адскочылася, не забылася на іхнія бядоты...”



Леанід Галубовіч



...як і паэтка,

мы – асуджаныя...

# Наводшыбе

## *Рэцэнзія на кнігу Валянціны Аксак*

***Валянціна Аксак. Дзікая сліва. Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 18). – 104 с.***

*Усе вершы свае*
*я складала*
*аднаму табе,*
*ды ніводнага з іх*
*ты дагэтуль*
*не змог прачытаць,*
*бо не ведаеш*
*мовы маёй...*

Валянціна Аксак

Сучасная жаночая паэзія Беларусі мае свае пакаленчыя разгалінаванні і тыповыя адрозненні. Да таго ж ёсць таленавітыя і выбітныя паэткі, якія – з той ці іншай прычыны альбо характару натуральнасці і прыроды свайго таленту – выпалі з чытацкага і крытычнага поля зроку, творча абжыўшыся на палях літаратурнага кантэксту, не зважаючы на асноўны праграмны запыт і пасыл прагматычнага часу. Валянціна Аксак,




Людміла Паўлікава і Галіна Булыка – вось найперш пра каго можа весціся размова ў гэтым аспекце. Паэткі вартыя заглыбленай увагі і роздумнага прачытання.

Я паспрабую паразважаць пра творчасць адной з іх – Валянціны Аксак. У тым ліку і з нагоды выхаду ў свет яе чарговага зборніка вершаў **"Дзікая сліва"** (назва, між іншым, дарэшты выспелая, як да асабістай біяграфіі паэткі, так і да нашай гіблай нацыянальнай сітуацыі: семя, аднесенае ветрам лёсу наводшыб ад роднай сядзібы, альбо дрэва ў запушчаным і пакінутым на здзічэнне родавым садзе). В. Аксак, паэтка, мажліва (як некаторыя сцвярджаюць), зацененая шырокай вядомасцю свайго мужа, пісьменніка Уладзімера Арлова, а хутчэй бытам і жаночымі сямейнымі абавязкамі, якія не даюць праявіцца ёй як публічнай творчай асобе. Але я ўсё ж схіляюся да прыроды таленту. Бо што ні кажы, а ён вось такі ёсць, Богам дадзены.

Да таго ж мастацкі свет В. Аксак не намакіяжаны, не напаказ убраны, не напарфумлены – гэта значыць, не для выхаду ў свет з усім тым жаночым какецтвам і фліртам да прахалоднай публічнай зеўры... Насамрэч яе мастацкі свет жывы і гожы, сутонна адкрыты, бы кветка для пчалы... Аднак у ім пульсуе аголены нерв і насціцца натруджаная душа, якая ўспрымае шчырасць і спагаду і не пераносіць здрады і абразлівасці. А так як гэты яе свет не пазбаўлены ні таго, ні другога, то змаганне за ўласную годнасць і пакутнае трыванне выраку ўласнага лёсу змушаюць паэтку ўздымацца духам над усім гіблым і быць вышэй нізкага – не забываць даглядаць мамін кветнік, пры цёплай тыльнай сцяне бацькоўскай хаты...

Спадарыня Валянціна ўжо даўно працуе на беларускім радыё "Свабода", аднак у зборніку, па вялікім рахунку, вы не знойдзеце ні аднаго дзёрзка-змагарнага палітычна акрэсленага верша (ну, не залічваць жа да такіх твор пра адпяванне бацькі мясцовым святаром на няроднай бацьку мове). А ўсё таму, што прырода яе творчасці іншая, як бы высакапарна гэта ні прагучала, але скажу, што яна скіраваная да спрадвечных пытанняў жыцця, хоць свой мастацкі кветнік і сад ёй даводзіцца расціць у штодзённых клопатах. Ну што ж, значыць, яе паэтычная метафара вечніцца на густым айчынным чарназёме жыцця...

Але напачатку давайце – экскурсам – паспрабуем прайсціся па ўсёй сцяжыне творчасці В. Аксак. Яе першы дэбютны зборнік "Цвінтар" пабачыў свет толькі ў 1992 годзе, калі ёй было амаль сорак гадоў. Прашу прабачэння за такія падрабязнасці ў размове пра жаночую асобу, але ўсё ж... У "маладой" паэткі ўжо меўся даволі значны і багаты вопыт жыцця. І хоць пачатак быў наскрозь традыцыйны для беларускай паэзіі, аднак у В. Аксак ужо тады праяўляўся свой адметны голас і пазначаліся пэўныя закіды ў наступнасць. Бо, як яна пісала, *"я занадта позна пачынала,/ каб вось так па дробязях драбніцца..."* А таму звярталася да чытача ў надзеі на шчырасць ва ўзаемаадносінах:

І ты, які не ўмее гаварыць,
І я, якая прамаўчаць баюся, –
Дух нашых словаў прымушаем жыць
У нашым неахрышчаным хаўрусе.

Між іншым і тады ўжо адчуваючы, што *"дзённай споведзі слова даўгое/ мне аб святасці ночы ілжэ"*.

І хоць наступны зборнік вершаў "Капліца" быў заўважна больш разняволены і напісаны больш адкрытым тэкстам, ён, па сутнасці, заставаўся ў тых жа фармальных

і эстэтычных каардынатах. Мастацкае выяўленне і паэтычная манера сваімі каранямі заставаліся ў той жа айчыннай глебе беларускага краснага пісьменства. Хоць пэўныя выбітныя ноткі, асобныя пасылы і спробы вылузацца з уласнай "шчыгрынавай скуры" былі відавочныя. Да прыкладу, у "Одзе кухні" феміністскі пратэст хоць і быў завуаляваны, а ўсё ж напрыканцы верша малельны вокліч і адчайнасць у голасе паэткі выдавалі яе сутнасны намер: *"не стань жа ты маёй магілай!"* Больш за тое, песцілася ўжо ў душы надзея, што, у рэшце рэшт, *"...я памалюся ў светлым храме, які ствару сабе сама"*. Было паступовае выпростванне звілістых сцежак лёсу ў топкі намацаны шлях годнай літаратурнай хады, прынамсі быў пожад і прыкладзеныя магчымыя высілкі, *"каб у хістанні шаляў пэўнасці прыдбаць"*.

Канчатковым знакавым "кляймом" паэтычная творчасць паэткі была пазначана яе трэцяй кніжкай "Антычны дождж". Гэта быў адыход ад некаторых слёзна-тужлівых традыцый беларускай паэзіі. Прыход да ўласнай пэўнасці і мастацкай самарэалізацыі – вымалёўвання псіхалагічнага вобраза сучаснай жанчыны са сваёй уласнай натуры. Выхад за межы "пракрустава ложа" ажно да паразумення з Сапфо і аддаленай даніны дыянісійству (вакханству)...

Мне падарылі вінаград –
лазы галінку,
кволы дубчык,
а з ім –
хоць вілянэлу грай,
in vino veritas
гадуючы...

Свабодны верш, часцей за ўсё верлібр, канчаткова перамог у ёй класічную для беларускага вершаскладання сілаба-танічную традыцыю. Думка праяснела і акрэслілася на фоне агаленых пачуццяў... Боль стаў не толькі абвостраным пачуццём, але і разумовым усведамленнем яго прычыны. У такім фармаце і напісаліся наступныя два зборнікі – "Віно з Каліфорніі" (2005) і "Ружоўніца" (2008).

Прабіваюся па калдобінах
разнабойнае рытмікі нечае,
ніяк на сваю не патраплю.
Няўжо так уборыста
ўзараныя гоні
тутэйшага красамоўства,
што дзеля маёй разоры
папару й не ацалела?

Так, унутраных пытанняў да сябе было яшчэ шмат, але адказ ужо трымцеў навідавоку:

Шчасця не будзе,
будзе толькі паэзія
ў захадзе сонца
і –
моўкнасць.

Трэба прызнаць, што тры апошнія з выдадзеных зборнікаў В. Аксак напісаны ў адным паэтычным ключы, хіба што толькі апошні з іх выяўляецца найбольш хатнім, ці, скажам, сямейна-родавым, вызначальным па крыві і духу. Ён як бы, прынамсі мне, ўяўляецца своеасаблівым рэзюме да сутнасці ўсёй яе паэтычнай творчасці. Маю на ўвазе ўсё тое прарочa-провіднае, што атрымала вобразнае развіццё ў новай кніжцы "Дзікая сліва". З узростам і нажытым вопытам прыйшло, скажам

так, крытычнае асэнсаванне (духоўная рэвізія) упарадкаванасці і правільнасці абранага шляху, як жыццёвага, так і творчага. Дачка, жонка, маці, паэтка – менавіта ў такім парадку доўгі час вілася нітка лёсу, выяўляючы на людзі чалавечае прадвызначэнне і светаадчуванне В. Аксак. Вядома, не ўсё так проста давалася, як мроілася і жадалася (і нават пісалася). І вось цяпер той, яшчэ нядаўна блізкі і родны свет, нечакана павярнуўся да яе сваім амаль непазнавальным тварам:

Камяні перад ганкам
змянілі аблiччы.
Рвалася да іх –
родных,
а сустрэлі –
чужыя.

І гэта як бы рэчы неадушаўлёныя, то што ўжо казаць пра ўсё сваё кроўнае-жывое... Нездарма так часта менавіта экзістэнцыя праяўляецца ў светаадчуванні паэткі (вершы “Роспач”, “Сёмы грэх”, “Тры спосабы”, “Змена жанру”, “Без гумару”). Працытую і такія радкі з верша “Маміна сукенка”:

Апрані мяне
ў гэтую сукенку
на развітанне,
каб мама хутчэй
там
мяне пазнала.

Трапяткая і шчымліва-выразная памяць пра бацькоў гаворыць пра высока-духоўнасць і свядомую цэльнасць жыцця аўтара. Іх жыццё і смерць змушаюць паэтку (і дачку) глянуць на сваю лакальную бацькаўшчыну вачмі прадаўжальніцы рода і наступніцы іх беларускага лёсу. З’яўляецца небяспека спраўджанасці бацькавых слоў пра тое, што двор і сад зарасце “каўказскім баршчавікомˮ, які штогод усё бліжэй падступае да роднай сялібы... Адсюль – змаганне за родавую духоўную чысціню, вырошчванне кветніка душы.

Паэтка больш піша пра бацьку. Ці не азначае гэта не толькі страту мужчынскай надзейнай і вернай сілы і цяпла (верш “Тыл”), але і нястачы яе цягам усяго жыцця. Бацька – як пачатак жыцця, маці – як працяг яго, а дзеці і ўнукі – як суцяшэнне пражытым і перажытым... Гэтая кніжка ёсць аўтабіяграфічным распаведам аўтара, дзе кантрапункты жыцця выяўляюцца праз адпаведныя мастацкія вобразы. Прычым гэта класічна-традыцыйная для нашай паэзіі духоўная аўтабіяграфія беларускай жанчыны з усёй яе адкрытасцю, аголенасцю і спавядальнымі матывамі, якія даюцца неймавернымі намаганнямі; тое, што цяжэй за ўсё было выказаць – унутрана знямелае, па сутнасці, бязмоўнае:

Цяжка
стала гаварыць –
словы, як камяні,
ледзь варочаюцца ў роце.
Балюча
стала гаварыць –
словы, як мёртвае немаўля,
з кроўю змушана выдзіраць
з вантробаў.
Страшна
стала гаварыць –
словы, як першыя хрысціяне,
хаваюцца ў катакомбах
здзічэлае душы.

Далей – болей. Перад чытачом паўстае цэльны вобраз распнутай на струнах адчайных пачуццяў жанчыны на халодным фоне *"сыходзячай мужчынскай натуры"*... Гэты цыкл вершаў агулам, як для мяне, не мае ў нашай літаратуры параўнальных прыкладаў. Штосьці было ў Я. Янішчыц, нешта ёсць у Я. Дашынай, але не да такой ступені шчырасці і ярасна-адкрытай выстаўленасці:

Калісьці не спала –
без цябе,
цяпер не сплю –
з табою.

І ў працяг:

Я засуджаная табой
да пажыццёвага тэрміну,
і амністыі
мой артыкул
не падлягае.
Забудзься.

Усё-ткі ніхто ў нас яшчэ не пісаў што-небудзь блізкае да такой пранізлівай празрыстасці душы. А такія вершы, як "Адгадка", "Прышэсце ўсмешкі" і "Раўнавага", шчыра кажучы, нават не адважваюся працытаваць на публіку, у адрозненне ад самой паэткі. Тут можна палемізаваць, вагацца, ці варта такое агалошваць, але, калі ты паэт, і калі пачуцці-перажыванні вымыкаюць з цябе вулканам метафарычнай энергіі наўзамен дарэшты спаленых нервовых клетак, то іншае, апроч канчатковага знямення, немагчыма. Адназначна, з жаночай беларускай лірыкі гэта, бадай, найлепшыя ўзоры паэзіі, без перабольшання можна сказаць, вяршынныя.

За сцены,
за дзяцей,
за кветкі,
за сціло –
за што толькі
не хавалася
ад цябе.
Цяпер мой схоў
надзейны.
Я – у сабе.

А наўслед – неверагодна праўдзіва выхапленая унутраным зрокам карціна:

Гляджуся ў люстэрка
і заўважаю,
як жывапіс
ператвараецца
ў графіку.

З усяго гэтага жыццёвага драматызму высноўваецца своеасаблівая антытэза да тварэння дабра: *"Жыць –/ гэта тварыць балюча іншым,/ а праз іх/ і самому сабе"*, (словы, якія нібыта сказаў Камю), бо, як піша Аксак: *"Прылюдна мы не жывём./ Прылюдняемся"* Такія высновы схіляюць да адстароненасці і адасаблення. Да стану, у якім найлепшы занятак – гэта ўжо не раз згаданы мной кветнік на спусцелым і сіратлівым бацькоўскім падворку (які можна разумець і як айчынны, агульнанацыянальны). Агулам кветкі прарастаюць праз усе кнігі Валянціны Аксак – яна сее іх цёмнае семя і вырошчвае шматколерную прыгажосць... Забыцца (і

быць забытай) сярод кветак альбо, як яна піша, *"заснуць у Сінайскім кветніку"*, дзе, што праўда, здараюцца пераборы ў метафорыцы ды адчувальна бракуе чыстай думкі і трымтлівай эмоцыі (як і ў вершах "Адгадка", "Невясёлая", "Дысгармонія"). Далёка не адыходзячы, скажу, што, на мой погляд, кніжка не страціла б сваёй цэльнасці і без некаторых іншых вершаў, прынамсі "Мужчыны ўсе", "Напамін", "Дзень анёла Рамана", "Соль у мёдзе" ды некаторых падобных да альбомных альбо блізкіх да будзённых дзённікавых запісаў...

Сыходзячы са свайго жаночага жыццёвага вопыту В.Аксак не надта давярае людскому свету і нават свайму блізкаму атачэнню. Адсюль заўважны зварот да хрысціянскай веры. У адным з вершаў гэтай тэматыкі паэтка прызнаецца: *"Пабітым сабачкам/ стаю/ ля Твайго/ парога./ Літасць/ Твая/ бязмежная./ Неабсяжны/ мой грэх"*. Яна насцярожана ўспрымае – як свае, так і чужыя – дзеі і ўчынкі, задумваецца над магчымай трагедыйнасцю зямнога жыцця. Але не перастае шукаць унутры сябе свайго віртуальнага духоўнага спадарожніка, аднадумца і адзінаверца. Усведамляе і абсалютна не хавае свайго жаночага веку – ні ўзроставага, ні духоўнага (верш "60 – як 16"). Адзінокая ружоўніца ў здзічэлым садзе... а ўсё ж з непахіснай воляй і з нерастрачаным пожадам разгадкі ўласнай таямнічасці і творчай незавершанасці:

Стаю ў аголеным полі –
выпрабоўваю вецер.

Як ні дзіўна, усе яе вершы напісаны вельмі проста (без інтэлектуальнай напышлівасці і філалагічных штучных высілак), яснай, чыстай і роднай смаліцкай (вёска на Нясвіжчыне, дзе яна нарадзілася) мовай – ці не таму яны, у сваёй пераважнай большасці, такія шчымліва даходлівыя і востра ўспрымальныя, ці не таму выклікаюць спагаду і спробу паразумення ў шараговага чытача? Дробныя бытавыя дэталі не засланяюць галоўнага – ідэю твораў, а толькі дадаюць ёй характэрную для яе вобразнасці афарбоўку і танальнасць. Голас паэткі спавядальны, але ў ім няма безнадзейнага пакаяння грэшніцы. У кароткіх, вынашаных пад трапяткім жаночым сэрцам, творах заўжды, выбіваючыся з апошніх сіл, б'ецца-трымціць, нібы жывая ахвярная мушка ў восеньскай павуціне, візуальна няўвідная вібрацыя душы і духу: "Прачынаюся/ сярод ночы - / муляе/ няўдалае/ слова/ вечара"...

Чытаючы кнігу, мы натуральна жывём разам з паэткай і надрыўна суперажываем тое аўтарскае жыццё, што паступова робіцца нам блізкім і такім жа не да канца ўразумелым – як і нашае... Як і паэтка, мы – асуджаныя... Нездарма з'яўляецца ў яе такі верш як "Запозненая": *"Заўчасна/ нараджаецца ўнучка,/ заўчасна/ памірае бацька,/ заўчасна/ старэе муж./ Толькі я/ тут,/ у незнаёмым скверы/ з мроямі маладымі/ і пляшкай старога віна"*...

І ў той лёсавай асуджанасці, у той усвядомленай роспачы і спаконвечнай чалавечай пакуце ніхто нічым не можа дапамагчы канкрэтнаму чалавеку, апроч як уласным унутраным спачуваннем і паразуменнем. Уласнай творчай і духоўнай адпаведнасцю. Зрэшты – чаму так безапеляцыйна? Ну я ж вось пішу гэтую ўдзячную рэцэнзію. Але, па шчырасці, ці ўважаў бы мяне хто як літаратурнага крытыка, калі б я пакідаў па-за ўвагай выхад у свет такіх выбітных паэтычных кніг як гэтая?! Хоць ведама ж:

Новыя правіны.
Старая споведзь.
Асалода наўвеце.



# І боль, і прыгажосць…

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Уладзімір Даніленка. Клетка для івалгі. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 72). – 360 с.**

Уладзімір Даніленка, старшыня Кіеўскага аддзялення Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, – адзін з самых яркіх сучасных украінскіх празаікаў. Яго творы адзначаныя нацыянальнымі літаратурнымі прэміямі, уваходзяць у рэйтынгі лепшых украінскіх выданняў і перакладзеныя на шэраг замежных моваў.

Творчасць пісьменніка прасякнутая духам свабоды, непакоры і напоўніцу перадае ўкраінскі характар. У беларускае выданне празаічнага выбранага Уладзіміра Даніленкі ўвайшлі раман “Клетка для івалгі” пра геніяльную спявачку, якой савецкі рэжым не дазволіў рэалізаваць свой талент з-за яе сувязі з украінскімі дысідэнтамі, а таксама аповесць “Цені ў маёнтку Тарноўскіх” пра крызіс сучаснай кіеўскай сям’і, якая спрабавала вырашыць свае праблемы нетрадыцыйнымі метадамі псіхатэрапіі. Акрамя твораў буйнога жанру, у выбранае Уладзіміра Даніленкі таксама ўвайшлі пяць апавяданняў.

Творы Уладзіміра Даніленкі выдаюцца па-беларуску ўпершыню ў перакладзе Валера Стралко і Барыса Пятровіча. Дзякуючы кнізе «Кветка для івалгі», беларускі чытач можа скласці поўнае ўяўленне пра творчасць мала вядомага беларускаму чытачу, але цікавага ўкраінскага аўтара.




**І боль, і прыгажосць…: выбраныя творы паэтаў Еўропы і Амерыкі ў перакладах Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 73). – 454 с.**

Аўтарскія анталогіі беларускіх перакладчыкаў выдаюцца з савецкіх часоў. Першай з іх была кніга Юркі Гаўрука “Кветкі з чужых палёў” (1928), пасля якой, праўда, адбыўся вельмі вялікі перапынак, бо беларуская культура – у тым ліку перакладчыкі – зазнала маштабныя рэпрэсіі.Пасля вайны былі выдадзеныя персанальныя анталогіі перакладчыкаў Язэпа Семяжона, Юркі Гаўрука, Рыгора Барадуліна, Васіля Сёмухі, Уладзіміра Караткевіча, Хведара Жычкі, Эдуарда Валасевіча, а таксама рускамоўных перакладчыкаў Валянціна Тараса, Навума Кісліка, Аляксандра Дракахруста. Яны складалі асобную серыю “Кніга перакладчыка”, заснаваную ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”.

У XXI стагоддзі практыку персанальных перакладчыцкіх анталогій пераняла Бібліятэка СБП “Кнігарня пісьменніка”. У 2013 годзе пабачыла свет калекцыя перакладаў Андрэя Хадановіча “Разам з пылам”,

куды ўвайшлі творы 41 аўтара з лацінскай, французскай, англійскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай моваў, здзейсненыя цягам пятнаццаці гадоў.

Новая анталогія прадстаўляе даробак аднаго з найвядомейшых беларускіх перакладчыкаў-паліглотаў Лявона Баршчэўскага. Кніга "І боль, і прыгажосць..." улучае ў сябе больш за 250 твораў, напісаных сотняй аўтараў і аўтарак на трыццаці мовах свету. Зборнік можа выкарыстоўвацца ў якасці хрэстаматыі на занятках і семінарах па замежнай літаратуры ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах – бо імёны аўтараў пачынаюцца з Сапфо, Анакрэона, Катула праз аўтараў-трубадураў і мінезінгераў да паэтаў Рэнесансу, Барока, Класіцызму і аж да класікаў сусветнай паэзіі XX стагоддзя. Тым больш зручнай яна будзе для студэнтаў і выкладчыкаў, што побач з перакладамі падаюцца і ўсе арыгіналы.




**Марыя Роўда. Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 71). – 312 с.**

У кнігу ўвайшлі тры аповесці і амаль два дзясяткі апавяданняў. Героі твораў пісьменніцы — гэта моладзь дзевяностых, якая шукае сябе, сапраўднае каханне і свае карані на разломе часу, калі здаецца, што паўстае цалкам новая краіна. З самаіроніяй, сумам і любоўю аўтарка распавядае пра сваё пакаленне і пра будучыню, якую маладзёны чакалі, але не атрымалі, і якую асэнсоўвалі ўжо ў новую эпоху.

"Марыя Роўда апісвае непадробныя пакуты душы, якая жадае немагчымага; прычым недасяжнай мару – быць шчаслівым з каханым чалавекам — робіць сам герой. Пісьменніца не паведамляе чытачу пра пакуты героя, але сапраўды стварае іх – вы ўсё адчуеце на ўласнай скуры", — піша крытык Наста Грышчук.

Гэтая дэбютная кніга Марыі Роўды сталася доўгачаканай – і для аўтаркі, і для беларускага чытача. Марыя — лінгвіст, скончыла факультэт ангельскай мовы МДЛУ, працуе дацэнтам на кафедры гісторыі і граматыкі ангельскай мовы таго ж універсітэта. Перакладала на беларускую мову англамоўную прозу, драматургію і дзіцячыя мультфільмы. Публікуецца з 1993 года.




**Алесь Усеня. Тры дні на тым свеце. – Мінск: Медысонт, 2015. – 250 с.**

У новую кнігу Алеся Усені ўвайшлі тры аповесці, сярод якіх вядомая чытачам "Дзеяслова" "Дырэктар могілкаў, або Тры дні на тым свеце", а таксама – "Дажынкі" і "Чалавек з будучыні". Акрамя таго, што жанрава яны пазіцыянуюцца як трагікамеды, у якіх "драматычныя падзеі спалучаюцца з камічнымі сітуацыямі". Творы аб'ядноўвае дынамічны стыль апавядання, майстэрства сюжэтабудовы, што трымаюць увагу чытача, і, вядома ж, – добры гумар. Аповесці Алеся Усені так і просяцца да экранізацыі: яны маюць выразную архітэктоніку і добра прапісаныя дыялогі. Для аматараў нясумнага чытва.

# Нашыя аўтары

**Багданава (Сачанка) Галіна** – празаік, мастацтвазнаўца. Аўтар кніг прозы «Папяровыя замкі», «Чалавек без адраса», «Дом іхняе мары», «Сакрамэнта». Нарадзілася ў 1961 годзе ў Крычаве на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Балахонаў Сяргей** – паэт, празаік. Аўтар зборнікаў вершаў «Сонцавароты», «Брама сталасці», «Мой беларускі...», «Дваццатае вока вясны, «Паляванне на тэкст», кніг прозы «Імя грушы», «Зямля пад крыламі Фенікса». Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бізяева Аліса** – празаік, журналіст, крытык. Вучылася на журфаку БДУ, стварыўшы ў якасці дыпломнай працы сайт Litara.net. Друкавалася ў часопісах ARCHE, Паміж, pARTisan, Макулатура. Лаўрэатка конкурсу маладых літаратараў імя Ул. Караткевіча (2005). У выдавецтве «Эксмо» была надрукавана казка-даведнік «Крым для дзяцей» (2015). Нарадзілася ў 1980 годзе ў Адэсе. Жыве ў вёсцы Новаульянаўка (Крым).

**Бяляцкі Алесь** — празаік, літаратуразнаўца, праваабаронца. Аўтар кніг «Літаратура і нацыя», «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», «Асьвечаныя беларушчынай», «Іртутнае срэбра жыцця», «Халоднае крыло радзімы». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Карэліі. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапееў Валерый** – журналіст, празаік. Аўтар кніг «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання», «Ведзьміна тоня», «Я размалюю для цябе неба», «Праклён» і інш. Нарадзіўся ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне ў 1963 годзе. Жыве ў Івацэвічах.

**Гаспадыніч Павел** – паэт, празаік. Аўтар кнігі імпрэсіяў і апавяданняў «Вырай пачуццяў» і рамана «Цэзар будзе жыць». Лаўрэат 2-й Міжнароднай прэміі ў галіне веб-журналістыкі Yousmi Media Awards 2010. Нарадзіўся ў Кіеве ў 1980 годзе. Жыве ў Менску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Емяльянаў-Шыловіч Алесь** — паэт, перакладчык. Фіналіст конкурсаў беларускага ПЭН-цэнтра, пераможца конкурса «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна. Пераможца міжнароднага конкурса на найлепшы пераклад паэзіі Віславы Шымборскай на беларускую мову. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Нарадзіўся ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

**Зянон (Зянон Пазьняк)** — палітык, гісторык, паэт, фотамастак. Аўтар кніг «Браслаўшчына», «Рэха даўняга часу», «Сапраўднае аблічча», «Курапаты», «Глёрыя Патрыя», «Беларуска-расейская вайна» і інш. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў мястэчку Суботнікі на Іўеўшчыне. Ад 1996 года ў палітычнай эміграцыі. Жыве ў Варшаве.

**Кеда Альжбета (Ала Петрушкевіч)** – паэтка, празаік, літаратуразнаўца. Апублікавала звыш за 250 навуковых працаў, сярод якіх «Іду па слядах: літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ», «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы», «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX ст.», «Наталля Арсеннева: шлях да Беларусі» і інш. Аўтарка паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Краўчанка Пётр** – беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, дыпламат, гісторык, публіцыст. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар шматлікіх публіцыстычных і навуковых артыкулаў і кніг па гісторыі дыпламатыі і культуралогіі, у тым ліку, «Абраннікі вечнасці» (на беларускай, рускай, англійскай, італьянкай мовах), «Беларусь на пераломе ці Дыпламатычны прарыў у свет», «Беларусь на ростанях ці Праўда пра Белавежскае пагадненне». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў Смалявічах на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Лі Хэ** (790 – 816) – кітайскі паэт. Захавалася каля 250 твораў. У творчасці Лі Хэ адбілася незадаволенасць паэта, адрынутага афіцыйным грамадствам (алегарычны цыкл «Коні»), змушанага шукаць суцяшэнне альбо ў коле сяброў, альбо на ўлонні прыроды («Родная Чангу» і інш.).

**Маляўка Марыя** – празаік. Сфера зацікаўлення – семіётыка і культуралогія. Працавала PR-спецыялістам, журналістам. Супрацоўнічала з сайтам UDF.by. Навучэнка Школы

маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Нарадзілася ў 1990 годзе ў Кіеве. Жыве ў Мінску.

**Мельнікава Анжэла** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар манаграфій «Паэтыка твораў Кузьмы Чорнага», «Літаратура і час: постаці, тэндэнцыі, плыні». Нарадзілася ў 1969 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Пасвятоўская Галіна** – паэтка. З прычыны хваробы сэрца большую частку жыцця правяла ў лякарнях і санаторыях. У 1958 г. прайшла складаную аперацыю на сэрцы ў Злучаных Штатах. Тры гады навучалася ў Smith College у Нортэмптоне. Па вяртанні ў Польшчу праводзіла філасофскія даследванні ва ўніверсітэце Ягелонскім. Аўтарка кніг «Гімн ідалапаклонніцтву», «Сённяшні дзень», «Ода рукам», «Яшчэ адзін успамін», «Расповед для сябра» (аповесць, надрукавана пасмяротна). Нарадзілася ў 1935 годзе ў Чэнстахове (Польшча). Памерла ў 1967 годзе ў Варшаве пасля няўдалай аперацыі на сэрцы.

**Разанаў Алесь** — паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990). Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «З апокрыфа ў канон», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сачанка Алесь** – журналіст, публіцыст, перакладчык. Працаваў у часопісе «Родная прырода», «Настаўніцкай газеце», заснавальнік і галоўны рэдактар часопіса «Пралеска». Аўтар кнігі «Школа сёння», Хрэстаматыі для дзіцячага сада (7 выпускаў), сцэнарыяў, дакументальных, відэа- і дыяфільмаў. Пераклаў на беларускую мову творы для дзяцей на Э.Т.А. Гофмана, Л. Талстога, М. Носава, К. Ушынскага і інш. Нарадзіўся 1953 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве у Мінску.

**Сачанка Барыс** – празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1982), літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І. Мележа (1991). Аўтар кніг прозы «Дарога ішла праз лес», «Барвы ранняй восені», «Зямля маіх продкаў», «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя», «Дарогі», «Памяць», «Ваўчыца з Чортавай Ямы», «Горкая радасць вяртання», «Вечны кругазварот», «Родны вугал» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Памёр у 1995 годзе.

**Сачанка Іван** – журналіст, публіцыст, доктар гістарычных навук, прафесар. Быў рэдактарам газеты «Беларускі ўніверсітэт», пасля заканчэння аспірантуры і абароны кандыдацкай дысертацыі працаваў выкладчыкам кафедры гісторыі журналістыкі, намеснікам дэкана факультэта журналістыкі БДУ. Па яго ініцыятыве была створана кафедра замежнай журналістыкі і літаратуры, якую ён узначальваў да 2003 г. і адкрыта спецыяльнасць «журналіст-міжнароднік». У 1996 г. у Інстытуце сучасных ведаў арганізаваў кафедру журналістыкі і на працягу пяці гадоў кіраваў ёю (па сумяшчальніцтву). Аўтар звыш 200 навуковых работ, у тым ліку 12 манаграфій і 21 брашуры. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Сачанка Святлана (Святлана Явар)** – паэтка, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Белы месяц» і «Раніца ў туманах». Даследавала творчасць Масея Сяднёва і іншых прадстаўнікоў Беларускага Замежжа. Нарадзілася ў 1968 годзе ў Мінску. Памерла ў 2011 годзе.

**Снітко Таццяна** – паэтка, журналістка. Працавала ў газетах «Звязда», «Наша Ніва», «Наша Свабода», «Україна молода» і інш. З канца 2006-га працуе ў сферы нерухомасці. Нарадзілася ў 1971 годзе ў Салігорску. Жыве ў Мінску.

**Сцепанюк Андрэй** – паэт, творы друкаваліся ў газеце «Ніва», часопісе «Дзеяслоў», альманахах «Белавежа» і «Тэрмапілы». Дырэктар ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску Падляшскім, дзе і жыве.

**Шчасны Уладзімір** – беларускі дыпламат, пісьменнік, перакладчык і публіцыст. Мае ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла. Перакладае з англійскай і урду. Аўтар зборнікаў перакладаў, драматычных твораў, якія былі пастаўлены і з поспехам ішлі на сцэне Акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа і інш., шматлікіх мастацкіх і культуралагічных праектаў, мастацтвазнаўчых артыкулаў, кніг, складальнік каталогаў. Апошнія – «Восеньскі салон з «Белгазпрамбанкам» (2015), выстаўка твораў Л. Бакста (2016). Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Смаргоні. Жыве ў Мінску.

**Эспіноса Руіз Анхела (ісп. Ángela Espinosa Ruiz)** – паэтка. Скончыла Гранадскі ўніверсітэт па спецыяльнасці Славянская філалогія. Цяпер магістрантка на кафедры Беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Лаўрэатка журналісцкай прэміі «Беларусь у фокусе» (2011), фіналістка паэтычнага конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна (2015). Аўтарка кніг вершаў «Раяль ля мора» і «Памяць пра будучыню» (электроннае выданне). Нарадзілася ў Малазе (Іспанія) у 1993 годзе. Жыве ў Варшаве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.